## НА ПРАСВЕТЛЫМ АЛТАРЫ РАДЗІМЫ

Амаль за шэсцьдзесят гадоў жыцця ў літаратуры Нілу Гілевічу, здаецца, не здрадзіла муза паэзіі. Можа, калі-небудзь і пакідала яго, але па малітве паэта зноў вярталася. На еўрапейскім паэтычным кантыненце ёсць беларускі феномен: паэзія песеннага складу захавалася ў творчасці Н. Гілевіча і яго сучаснікаў, не страціла перспектывы на будучыню. Нават асвоіла іншыя жанры — палемічную публіцыстыку, красамоўства, дыдактычнае асветніцтва, эпічныя жанры, у тым ліку раман, аповесць, апавяданне. Як быццам адбылася сустрэча літаратурнай сучаснасці з антычнасцю, рэнесансам, класіцызмам, калі паэты былі таксама аратарамі, палітыкамі, асветнікамі, публіцыстамі, пісалі філасофскія, навуковыя, эстэтычныя трактаты гекзаметрам або сілабічным вершам.

Нілу Гілевічу пашчасціла быць нашчадкам моцнага сялянскага роду. Надзіва жывучага народа, які за чатыры стагоддзі перажыў шмат апакаліптычных катастрофаў, некалькі разоў губляў адну трэцюю частку, аднойчы нават палову, сваіх суайчыннікаў. Перацярпеў у мінулым стагоддзі дзве сусветныя вайны, бальшавіцкі і фашысцкі генацыд, галапуючую індустрыялізацыю і гвалтоўную калектывізацыю. Выжыў, да апошняга часу заставаўся гарантам гістарычнага быцця нацыі і нацыянальнай культуры. Ніл Гілевіч сваім творчым абліччам і сялянскай рупнасцю на ніве роднай культуры сёння ўсё яшчэ сведчыць аб праўдзівасці вядомага афарызма: духоўнае і нацыянальнае Адраджэнне заўсёды нараджае пісьменнікаў, мастакоў, грамадскіх дзеячаў універсальнага таленту і моцнага характару. Паэта, як кожнага беларуса, ратавала не так фізічная, як духоўная моц — вера, надзея і любоў. Пра гэта Ніл Гілевіч хораша сказаў напаўдарозе свайго творчага шляху ў вершы «Мой белы дзень»:

І я стаяў над прорвай роспачы,
І ноч мне цемрыла душу.
І думаў, ліст слязою росячы:
Нічога больш не напішу.
Але вяртаўся промень страчаны,
У сэрцы плавіўся лядзень,
І зноўку вера ў слова матчына
Свяціла мне, як белы дзень…

Паэт прыйшоў у літаратуру з пакалення дзяцей вайны: фармаванне яго чалавечай асобы і мастакоўскага таленту адбывалася ў трагічныя гады Другой сусветнай вайны. Пра дзяцей вайны і сваё ранняе юнацтва пісьменнік шчыра апавядае ў аўтабіяграфічнай аповесці «Перажыўшы вайну» (1988). Наперадзе была вучоба ў педвучылішчы і дваццаць пяць

гадоў выкладчыцкай працы дацэнтам і прафесарам на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Больш як дзевяць гадоў на пасадзе першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, дзяржаўная дзейнасць дэпутата і старшыні пастаяннай камісіі па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Беларусі. А яшчэ грамадская дзейнасць старшыні Таварыства беларускай мовы і, урэшце, вольная прафесійная творчасць літаратара шырокага дыяпазону — паэта, публіцыста, празаіка, крытыка.

Нарадзіўся паэт 30 верасня 1931 года на Лагойшчыне. Традыцыйную беларушчыну ў роднай сям'і будучага паэта ўвасабляла таленавітая, духоўна багатая сялянка — маці Кацярына Мікалаеўна. У інтэрв'ю газеце «Звязда» пад загалоўкам «Я вельмі любіў глядзець, як мама купае малых…» (1999) паэт успамінаў: «Бацька Сымон Пятровіч ужо ў маладыя гады сфармаваўся як чалавек партыйны, спачатку быў камсамольцам, а затым усё жыццё — камуністам. <…> Ужо ў 22–23 гады старшыня сельсавета, начальнік, на казённым «жалаванні». Таму ў сям'і цалкам панавала атмасфера бязбожніцтва. <…> Горш было тое, што разам з Богам і святымі ў хатнім побыце ў нас былі пад забаронай усе старыя народныя святы, абрады, звычаі, у якіх мясцілася столькі духоўнасці, столькі высокай і мудрай паэзіі. Так што ў гэтых адносінах мне было недададзена ў дзяцінстве шмат, і бальшавіцкай каросты ўелася ў душу таксама шмат. Успамінаю ўсё жыццё аб гэтым з вялікім шкадаваннем» (Звязда. 1999. 9 лют.).

Боская воля ўсё ж не пазбавіла шматдзетную, добрую да людзей, працавітую сям'ю свайго апякунства. Ад самага пачатку нямецкай акупацыі бацька пайшоў у партызанскае падполле. Паводле «правілаў» акупацыйнай палітыкі, такія сем'і падлягалі ліквідацыі. Да таго ж Слабада, родная вёска Гілевічаў, недалёка ад трагічнай Хатыні. Боскім цудам і сялянскай жывучасцю толькі і можна растлумачыць, што сям'я (восем малых дзяцей) перажыла ўсе гады акупацыі і пасляваенны голад. Выручыла спрадвечная сялянская працавітасць. Сам Ніл у чатырнаццаць гадоў меў сталую «пасаду» калгаснага паштальёна.

Яшчэ ў сямігодцы на ўзроўні юначых захапленняў часткова вызначыліся кірункі творчых памкненняў будучага пісьменніка і даследчыка. Зачытваўся лірыкай Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Паўлюка Труса, рана далучыўся да паэзіі Аляксандра Пушкіна, Сяргея Ясеніна, Аляксандра Твардоўскага. Запісваў у Слабадзе і навакольных вёсках народныя песні і папулярныя тады савецкія шлягеры.

Адлік друкаваных твораў будучага народнага паэта пачаўся ў дзіцячым часопісе «Бярозка», дзе ў 1946 годзе з'явіўся яго верш «Яблынька». Затым на працягу года былі апублікаваны вершы «Выйду», «Зімовы вечар», «Снег», «Паўднёвыя вятры». Напярэдадні паступлення ў педвучылішча (1947) Н. Гілевіча запрасілі ў Мінск на першую пасляваенную нараду маладых літаратараў, амаль усе ўдзельнікі якой былі нядаўнія франтавікі і партызаны: Мікола Аўрамчык, Андрэй Макаёнак, Аляксей Русецкі, Іван Шамякін і інш. Вялікай радасцю для

маладога паэта было пабачыць і паслухаць Якуба Коласа, Янку Маўра, Пятра Глебку, Петруся Броўку, Пімена Панчанку, Алеся Якімовіча.

Прафесіяналізм да Ніла Гілевіча прыйшоў пазней: падчас вучобы ў педвучылішчы і на філалагічным факультэце ўніверсітэта. Спачатку былі эцюды аб прыгажосці Бацькаўшчыны, пейзажная лірыка, вершы, пазначаныя прыкметамі вучобы ў добрых настаўнікаў.

Ёсць сярод вучнёўскіх твораў, аднак, матывы, якія пазней, набыўшы паўнату ўласнага паэтычнага голасу і дакладнасць эстэтычнага густу, сталі дамінантамі мастацкага светапогляду паэта і публіцыста. Гэта сыноўняя адданасць Бацькаўшчыне, яднанне з Маці-зямлёю («Адпачывае матуля-зямля»). Рыцарская павага і любоў да роднае мовы — духоўнай субстанцыі народа — у вершы «Першая клятва»: «Як ты дарага мне, мая родная мова, // Мілагучнае, звонкае, роднае слова!» Верш канчаецца клятваю, якую паэт і пацвердзіў усім жыццём і творчасцю: «А задумае вораг з чужога далёкага краю // Адабраць у мяне, знішчыць родную мову маю — // Не дазволю. Не дам. Не прадам. Не змяняю. // І да смерці за волю тваю пастаю»*.

Ад гадоў вучнёўства ў педвучылішчы захаваліся, так бы мовіць, эзатэрычныя вершы ды парадыйныя паэмы Н. Гілевіча, якія адрасаваліся сваёй аўдыторыі і толькі нядаўна надрукаваныя асобнай брашурай. Яны — пра смешныя бакі студэнцкага побыту ў агульнай казарме: «Пабоішча: Парадыйна-гераічная паэма», «Фрагменты: З летапісу жыцця ў інтэрнаце педвучылішча», «У дзіўным горадзе — Маскве: Урывак з паэмы». Яны не ўвайшлі ў гісторыю нашай літаратуры, але паслужылі штудыяй для другой, не лірычнай і элегічнай, а гратэскава-камічнай грані мастацкага таленту паэта**.

Навучэнцам Мінскага педагагічнага вучылішча, студэнтам і аспірантам філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Ніл Гілевіч быў аж дванаццаць шчаслівых студэнцкіх гадоў! А добрыя студэнты таго драматычнага галаднаватага часу былі рамантыкамі, паэтамі калі не ў літаратуры, то ў жыцці. Агульны ўзнёслы настрой спрыяў паэтычнаму росту. У першых зборніках паэта («Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Неспакой») няма непрафесіянальных вершаў.

І ўсё ж феномен Ніла Гілевіча — не ў «цэхавай» прыхільнасці да адной толькі сферы паэтычнага. Шмат сіл давялося аддаць прозе — у жыцці і творчасці пацясніла перакладчыцкая творчасць (16 кніжак паэтычных пераасэнсаванняў і празаічных перакладаў), проза і драматургія, навуковая і публіцыстычная дзейнасць (13 кніг па літаратуразнаўстве і фалькларыстыцы, 7 кніг эсэістыкі і публіцыстыкі).

Зайздросны літаратурны лёс! Але, каб ён здзейсніўся, было мала толькі таленту і адукацыі. Спатрэбілася яшчэ сялянская цягавітасць,

---

* Збор твораў. У 6 т. Т. 1. Вершы і паэмы. 1946–1976 / прадм. У. Конана. Мн., 1996. С. 28.

** Гілевіч Ніл. Маладое, бестурботнае, ад рэдактараў свабоднае: Вершаваныя гратэскі 1950–1951 гг. Мн., 1997.

звычка да штодзённай працы, урэшце, шматграннасць інтэлекту, адданасць сваёй Бацькаўшчыне — найперш.

Спецыфічны для еўрапейскай эпохі Рэнесансу творча-мастацкі парыў і шырыня духоўных інтарэсаў выявіліся ў перыяд нацыянальнага Адраджэння, калі адбылося станаўленне беларускай класічнай літаратуры. Так званая «хрушчоўская вясна» 1955–1961 гадоў, народжаная асцярожным адмежаваннем ад бальшавізму і сталінізму, садзейнічала ўзнікненню ў духоўным жыцці Беларусі кароткай рэнесанснай рэпрызы. Яна выявілася ў паскораным развіцці нацыянальнай літаратуры, усіх відаў мастацкай культуры і гуманітарнай навукі.

Першы паэтычны зборнік Н. Гілевіча «Песня ў дарогу», у які ўвайшлі вершы студэнцкіх гадоў, быў літаратурнай падзеяй года ў асяроддзі маладых літаратараў. Тут былі прыкметы адраджэнскай вясны, прадчуванне перспектывы творчасці, грамадскага жыцця нацыі.

Як вядома, у жыцці і песні ёсць не толькі радасці, але і сум, і смутак. Радасць у жыцці часовая, маладая, а клопат і журба — сталыя, канчатковы вынік усяго быцця. Усякая плоць на зямлі пакутуе і з сумам звяртаецца да Неба, адзначаў філосаф-экзістэнцыяліст Мікалай Бярдзяеў. Усяму свой час, казаў Эклезіяст. Ёсць час плачу і час смеху. Ёсць час бяды і час радасці (Эк. 2:4–5). Філосаф беларускага нацыянальнага адраджэння Суліма (Уладзімір Самойла) у эсэ «Гэтым пераможаш!..» сцвярджаў: «Жыццё ёсць нічым не абгрунтаваны, натуральны аптымізм жывога народа».

Дарэчы, пачынаючы з 1960 года, матыў суму і смутку стане ў паэзіі Н. Гілевіча скразным і чым далей, тым больш выяўным.

«Песня ў дарогу» — першая і найбольш аптымістычная кніга ў паэзіі Ніла Гілевіча, у якой пункцірна пазначыліся асноўныя матывы і жанры паэта: грамадзянская лірыка, лірыка кахання, творы ў шырокім дыяпазоне камічнага. Яны сфармаваліся ў сярэдзіне XX стагоддзя на сустрэчы дзвюх эпохаў: традыцыйнай сялянскай культуры і новай тэхналогіі. Сёння занядбаны, выцеснены электроннымі сродкамі інфармацыі кінематограф успрымаўся тады як цуд, выклікаў энтузіязм. Як у вершы Н. Гілевіча «З гадоў маленства»:

Кіно прыехала! Кіно прывезлі! —
Мы першыя пачулі з дружбаком
І беглі вуліцай, і колькі ўлезе
Крычалі з радасцю каля акон…

У вершах «Воблачка», «На схіле лета», «Наша восень», «Першы снег», «Садоўнік», «Снег ідзе» паэт славіць усе поры года з іх працоўнымі клопатамі і радасцямі. А поруч — тэма цаліннага энтузіязму, сібірскай і алтайскай рамантыкі («Маленькія рукі», «Не хавала маці слёз»). Тады паэт і яго героі яшчэ не здагадваліся, што былая савецкая імперыя расцярушвала некалі моцнае этнічнае ядро беларускай нацыі: спачатку жорсткімі рэпрэсіямі, а пасля спекулюючы на энтузіязме маладых рамантыкаў.

Аднойчы на экзамене па Гілевічавай паэзіі праваліўся адзін з самых эстэтычна адукаваных крытыкаў Рыгор Бярозкін. Даволі ўмела, як заўсёды, праананалізаваўшы вершы і аўтабіяграфічную паэму «Сто вузлоў памяці» ў зборніку «Бальшак» (1965), адзначыўшы станоўчыя і некаторыя адмоўныя бакі (не без суб'ектыўнасці ў ацэнках), крытык прыйшоў да высновы, што нібыта кніга «разбеглася» на тры няроўныя часткі: «Адну напісаў удумлівы, з вострым грамадзянскім чуццём паэт-сучаснік, другую — недастаткова індывідуалізаваны ў сваіх чалавечых якасцях «будучыні творца», трэцюю — цяжка здарожаны, стомлены лірык, схільны пагуляць у гэткія млява-салодкія «пацягушанькі». У якасці ілюстрацыі трэцяй часткі Р. Бярозкін працытаваў песню «Вы шуміце, бярозы» (Полымя. 1965. № 6. С. 180–183). Вось ужо дваццаць гадоў гэтая песня застаецца любімай для простых людзей і беларускай інтэлігенцыі — рэдкае, адзначу, аднадушша ў беларусаў.

Крытык спатыкнуўся на ўяўнай «прастаце» Гілевічавай песні, падмяніў паэтычную містэрыю жанравай карцінкай, а містычнае адзінства лірычнага героя з Маці-зямлёю — бытавой інтэрпрэтацыяй гараджаніна, які страціў сялянскія, зямныя карэнні. Эстэтыка аказалася бяссільнай без герменеўтыкі. Балазе, сам паэт лепш разумеў сваю песню і нязменна ўключаў яе ў свае зборнікі твораў.

Урэшце, унікальны ў беларускай літаратуры раман у вершах «Родныя дзеці» выклікаў толькі адзін і той журналісцкі водгук.

Верагодна, крытыка без герменеўтыкі, без выяўлення паэтычнага сэнсу, мастацкіх вобразаў і кампазіцыі не здолела за традыцыйнай раманнай фабулай разгледзець экзістэнцыяльныя архетыпы.

Нельга сказаць, каб бягучая і акадэмічная крытыка абыходзіла ўсе новыя і рознажанравыя кніжкі пісьменніка і даследчыка Н. Гілевіча. Калегі па пісьменніцкай арганізацыі і чытачы віталі яго паэтычныя кнігі для дзяцей «Сцяжок на мачце», «Сіні домік, сіні дом…», «Зялёны востраў», «Загадкі», кніжкі паэтычнага гумару і сатыры («Да новых венікаў», «Ці грэх, ці два», «Як я вучыўся жыць»); зборнікі публіцыстычных нарысаў і літаратурна-крытычных артыкулаў («У гэта веру», «Удзячнасць і абавязак»). Нават выйшла ў свет манаграфія Г. Д. Сіненкі «Ніл Гілевіч: Нарыс творчасці» (1981), дзе добрасумленна зафіксаваны шырокі тэматычны дыяпазон першага этапу творчасці пісьменніка.

І ўсё ж гэтыя аператыўныя водгукі фіксавалі толькі паверхневыя пласты творчасці, а часам былі данінаю ветлівасці ў адносінах да папулярнага паэта, перакладчыка і настаўніка студэнтаў. Глыбінны сэнс яго лепшых кніжак (зборнік паэзіі «Святлынь», раман «Родныя дзеці») заставаўся не разгаданым. Ад гэтай крыху павярхоўнай увагі да творчасці першага пасляваеннага «філалагічнага пакалення» нашых пісьменнікаў 1950–1960-х гадоў, паступова паслабляліся духоўныя сувязі паміж нашай літаратурай, публікай і афіцыйным грамадствам.

Загаловак трэцяга лірычнага зборніка «Неспакой» (1961) дакладна засведчыў духоўнае сталенне аўтара — чалавека і паэта. Спакваля ўсведамлялася праўда біблейскай кнігі Эклезіяста: «Бо ў вялікай

мудрасці шмат журбы, і хто памнажае пазнанне, той памнажае і смутак» (Эк. 1:18). Неспакой — ад страчанага дзяцінства і юнацтва, што не раскрыла свае скарбы жудаснаю вайною і пасляваеннай нястачай.

Неспакой ад таго, што абыякавыя да красы роднага краю людзі высеклі Сінюю пушчу на Лагойшчыне: «Толькі воддаль на ветры // Дзве яліны крывыя, // Быццам могільнік гэты // Сцерагуць вартавыя» («Сіняя пушча», 1960). Неспакойна на душы паэта і ад таго, што былыя вяскоўцы, пабыўшы год-другі ў горадзе, ужо тады, у яго студэнцкую маладосць, саромеліся ў вёсцы спрадвечнага бацькоўскага Слова. Быў гэты неспакой хутчэй творча актыўны, грамадзянскі, хрысціянскі — нават незалежна ад рэлігійнасці. На ўзлёце маладосці паэт спавядаўся бацькоўскай зямлі — вялікай і малой, сваёй, лагойскай. У паэтычнай міфалогіі яна прыпадабнялася маці або сястры-дзяўчыне, што ідзе лесам-лугам ды спявае родную песню («Лесам песня ішла…», 1960). У цыкле вершаў «Свята зямлі» лірычны герой прызнаецца:

Я прагна сэрцам п’ю настой
Тваіх чаромух і баюся,
Што развітаюся з табой,
А ўдосталь так і не нап’юся.

Актыўнае падключэнне Ніла Гілевіча да навуковых даследаванняў нацыянальнай і суседняй (балгарскай) літаратуры, беларускага фальклору садзейнічала інтэлектуальнаму заглыбленню творчасці і павышэнню паэтычнага майстэрства. Ягоны паэтычны «Бальшак» (1965) — адна з самых інтымных, шмат у чым біяграфічных кніжак, складаецца з лірычных гімнаў, малітваў у гонар роднай Лагойшчыны («Мой сіні бор, мой родны бор зялёны!..», «Я хаджу, закаханы ў твае краявіды…», «Люблю цябе, жыццё, любоўю кроўнай…», «Бальшак»), вершаў-накцюрнаў («Ноч. Цішыня…», «Як хачу я вярнуцца ў той вечар ліпнёвы на Віцебшчыне…»), літаратурна-музыкальных рэмінісцэнцыяў («Сустрэчы ў снах», «Спадчына») і лірычных эцюдаў біяграфічнага зместу («Пра дзядоў і зямлю», паэма-хроніка «Сто вузлоў памяці»). Урэшце, лірычным «магістралам» да ўсяго цыклу стала песня «Вы шуміце, бярозы…».

Пасля эстэтычнага правалу вядомага крытыка ніхто не аналізаваў яго класічную прастату. Бо здавалася: хіба трэба даследаваць твор, які стаў з’явай у літаратуры, пайшоў у народ? Кожны з нас, беларусаў, з рознаю глыбінёю перажыў гэты экстаз яднання з роднай зямлёю. А некаторыя людзі іншага менталітэту, магчыма, не ўбачылі ў ім нічога, акрамя жанравай карцінкі ці бытавога эпізоду. Між тым у «просценькай» песні зашыфравана тайна творчасці мастацкага таленту. Для таго, каб стацца паэтам, жывапісцам, наогул мастацкім творцам, неабходна захаваць у сабе душу дзіцяці, здольную зліцца-злучыцца з навакольным светам, і адначасна набыць мудрасць адукаванага паэта, выявіць гэтую таямніцу мастацкімі сродкамі. Пра такіх паэтаў-асветнікаў казаў нябесны Настаўнік: «Будзьце мудрыя, як змеі, і простыя, як галубы».

Вось такі экстатычны стан прыпадання да ўлоння Маці-зямлі. Яна ўспрымаецца аднолькава як сястра і каханая (воблік Мадонны), рэдкі і шчаслівы міг у жыцці сталага чалавека. Бо тут здымаецца цяжар матэрыяльнасці, душа вольна вітае па-за часам і прасторай; як бы ахоплівае зямную кулю, становіцца Космасам: калыханка для духоўна «здарожанага» сына:

А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога,
Галавой на пагорак,
На высокі курган,
А стамлёныя рукі
Вольна ўшыркі раскіну,
А нагамі ў даліну —
Хай накрые туман…

Псіхалагічна — гэта развітанне з першай маладосцю, «узнясенне» з роднага кута ў шырокі свет, апошні паклон роднаму гнязду. Але не без паэтычнай міфалагемы — спадзявання на «вечнае вяртанне» да родных каранёў і крыніц, без якой чалавек зачарсцвее, завяне, згубіцца для творчай справы. Адсюль парадаксальны элегічны экстаз, самотная радасць у інтанацыі і мелодыі гэтай песні-малітвы роднаму краю.

Першы цыкл кнігі «Бальшак» пачынаецца лаканічным трактатам па паэтыцы ў вершах. Сродкамі паэзіі аўтар выказаўся па глабальнай праблеме літаратурнай эстэтыкі XX стагоддзя, сцвярджаў права на вечнае жыццё класічнай паэзіі, верша-песні, пафасна аспрэчваў прыхільнікаў толькі так званай сучаснай паэзіі, заснаванай на медытацыі, стылістычнай дасціпнасці. Сваё паэтычнае крэда Н. Гілевіч абазначыў у першай страфе: «Не адбірайце музыкі ў паэта, // Заканадаўцы паэтычных мод, // Яна з ім дружыць ад стварэння свету…»

Зразумела, ён не адмаўляе права пісьменніка на свабодны, альбо белы верш, на паэтычную дасціпнасць. Музыка паэзіі не абмяжоўваецца жанрам песні, яна ахоплівае шматлікія паэтычныя формы. У зборніку «Бальшак» аўтар увёў новы для свайго паэтычнага рэпертуару цыкл васьмірадкоўнікаў, заснаваны на спецыфічна паэтычнай музыкальнасці, на парадаксальным і ўсё ж арганічным для музыкі спалучэнні радасці і журбы:

Не гаманіце, вербы, не будзіце,
Не грайце, ветры, у зялёным вецці:
Яна ўсю ноч праседзела над дзіцем
І задрамала толькі на дасвецці.

Няхай прысніцца ёй лясная казка:
Палянка ў пушчы, ціхі гуд чмяліны,
Бяжыць хлапчук, а ў кулачках — маліны…
Не гаманіце ж, вербы, калі ласка.

У іншым васьмірадкоўі без назвы паэт уводзіць элегічна-радасны матыў светлага суму. Тыпова хрысціянскі верш-малітва:

Не пакідай мяне, мой светлы сум,
З табой мне хораша на адвячорку
Хадзіць і слухаць лесу ціхі шум,
Пакуль суцемак не запаліць зорку.

У небе хмаркі, як абрыўкі дум,
Плывуць туды, дзе сонца сядзе хутка.
Гусцеюць цені у лясных закутках…
Не пакідай мяне, мой светлы сум.

У гады грамадска-палітычнага застою, калі магчымасці прамога ўздзеяння нацыянальнай эліты на дзяржаўныя справы сталі вельмі абмежаванымі, паэт моцна заглыбіўся ў мастацкую і навуковую творчасць, на аснове тэарэтычнага і мастацкага засваення фальклору наблíжаў паэзію да народных вытокаў — намагаўся, гаворачы словамі М. Багдановіча, «зрабіць нашую паэзію не толькі мовай, але і духам, і складам шчыра беларускай», не забываючы пра набыткі сусветнай класічнай паэзіі. Вынікам былі паэтычныя кніжкі «Перазовы» (1967), «А дзе ж тая крынічанька?» (1971) і «Актавы» (1976). У першай паэт упершыню ў беларускай літаратуры стварыў вянок санетаў («Нарач», прысвечаны аднаму з выдатных паэтаў XX стагоддзя Максіму Танку). У другой кніжцы медытатыўныя васьмірадковікі суседнічаюць з «вершамі беларускага складу» (М. Багдановіч), лірыка-эпічнымі паэмамі-ўспамінамі. Яны — пра вытокі нашай паэзіі і песні, пра яе стваральнікаў і захавальнікаў.

У «Актавах» Н. Гілевіч здзейсніў другую мару М. Багдановіча, далучыўшы наш верш да класічнай традыцыі шляхам набліжэння да музыкі — ужо не паводле ўласцівых беларускай паэзіі напеваў-песняў, а на шляху ладава-інтанацыйнай кампазіцыі. Кніжку віталі знаўцы паэтыкі. «Гэта — лірычная споведзь, спроба найлепшым чынам выказаць сваё запаветнае, філасофія чалавека цвёрдых перакананняў і сталых прынцыпаў», — пісаў Ю. Гаўрук (Ю. Гаўрук. Думы аб чалавечай годнасці // Літаратура і мастацтва. 1976. 9 ліп.). У. Калеснік у свой час адзначыў майстэрства паэта, які дазволіў сабе свабоду рытмічна-інтанацыйных рашэнняў у кананічным жанры актавы (Маладосць. 1976. № 11). Назва пераклікаецца з тэорыяй музыкі, дзе адно са значэнняў актавы — інтэрвал, які ахоплівае восем ступеняў дыятанічнага гукарада. Актавы пісалі паэты ўсіх часоў — ад Рэнесансу (А. Арыёста, Т. Таса) да Дж. Байрана, А. Пушкіна і сучасных паэтаў. Пазней вобразныя вершы ў памеры актавы-васьміірадковіка склалі зборнік «Святлынь» (1984) — шэдэўр беларускай мініяцюрнай кніжкі. Шмат тут і шэдэўраў паэтычных, змест іх можна перадаць хіба што музычнымі санатамі, накцюрнамі і фугамі («У тым сяле, дзе я не быў ніколі…», «Не пакідай мяне, мой светлы сум…», «Я хаджу, закаханы ў твае краявіды…», «Не гаманіце, вербы, не гудзіце…», «Тут, між гэтых

пагоркаў, у гэтых барах і дубровах…», «Як чараўніца на нябачных кроснах…», «Цераз зараснік інею ў ранішнім лесе…», «Атулі нас цішынёю, ахіні спагадай, вечар…», «Балгарская песня»). Ёсць тут і барокавая вытанчаная дасціпнасць, яна ідзе ў нашай літаратуры ад М. Багдановіча («У звечарэлым садзе, што цямнеючы…», «Пакуль я доўга ехаў на кірмаш…», «Я столькі памылак зрабіў у жыцці…», «Ах, валошка, валошка, сястрыца рамонка…»). Актавы ўдала перакладзены на рускую мову.

У інтанацыі і мелодыцы актаваў ёсць агульны аксюмаран, дакладна абазначаны Н. Гілевічам вершам «Не пакідай мяне, мой светлы сум…». У ім — пошук страчанага Раю, сімвалічна выяўленага вобразамі, гукамі, колерамі роднага краю. Няспынная хада да Райскай Брамы:

У тым сяле, дзе я не быў ніколі
І нават дзе яго шукаць — не знаю,
Ёсць хата ў яблынях, парог якое
Я толькі ў сне парой пераступаю.

І зноў і зноў там, ледзь сцямнее ў полі,
Хаджу, як прывід, з вечара да ранку —
Ўсё запаветную шукаю брамку
У тым сяле, дзе я не быў ніколі.

Так напісаў трыццацігадовы паэт-рамантык. У тым жа зборніку «Святлынь» ёсць актава саракагадовага прафесара Гілевіча. У ёй — гумарыстычнае развітанне з маладосцю:

Пакуль я доўга ехаў на кірмаш,
З усходам сонца выбраўшыся з хаты, —
Было ў мяне надзей сваточных шмат,
Чаканнем радасці я быў багаты.

Цяпер я еду з кірмашу назад,
І ўсіх надзей — што па дарозе ў вёсцы
Мяне пярэйме швагер або сват
І, добрая душа, зацягне ў госці.

Раман, а дакладней, раман-паэма «Родныя дзеці» — адзін з самых інтымных, глыбока прадуманых твораў, якому паэт аддаў дванаццаць гадоў натхнення і рупнай працы. Ён мог быць напісаны толькі ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі, гараджанаў першага пакалення, якія «галавою» і функцыянальна жылі ў вялікім горадзе, а сэрцам і душою — у «родным куце» сваіх бацькоў, братоў, дзядоў. Твор рыхтаваўся спакваля, яго вобразы, матывы і фрагменты ёсць у папярэдніх кніжках Н. Гілевіча (вершы «Вясна», «Маці», паэмы «Сто вузлоў памяці», «А дзе ж тая крынічанька?»). Да традыцыйных у беларускай літаратуры тэмаў бацькоў і дзяцей, сустрэчы з роднымі ў матчыным доме далучылася цэнтральная ў гэтым творы тэма кахання як духоўнай

сустрэчы мужчыны і жанчыны. Спрадвечная ў сусветным мастацтве трагедыя кахання ў Гілевічавым творы набыла новы, вельмі сучасны, экзістэнцыяльны сэнс. Абсалютнае па сваёй ідэальнай сутнасці каханне не можа рэалізавацца ў эмпірычнай рэальнасці, дэтэрмінаванай біялагічнымі і сацыяльнымі фактарамі. Творча-рыцарская душа мужчыны шукае сваю ідэальную адпаведнасць у жаночай іпастасі, ствараючы міфалагемы вечнага вяртання да аднойчы страчанай шчаслівай сустрэчы. У духоўнай сустрэчы героя рамана кампазітара Сцяпана Вячоркі (ягоны прататып — літаратурнае Я пісьменніка) ёсць арыстакратычная вышыня — яна ў чысціні той любові, што ўзнімаецца ад зближэння закаханых да любові паміж братам і сястрою, настаўнікам і вучаніцай, паэтам і яго ідэальнай чытачкай. Герой рамана душэўна і духоўна справіўся з трагічнай калізіяй: выхадам да творчасці, усведамленнем сваёй повязі з Радзімай і Сусветам. Да гэтага твора публіка і крытыка яшчэ будуць звяртацца. Ён стварауся з улікам іх духоўнага росту і ўсведамлення неабходнасці вярнуць страчаныя сацыяльныя і духоўныя каштоўнасці.

Ужо на першым этапе творчасці Ніл Гілевіч паспяхова развіваў традыцыйную для беларускай літаратуры палярызацыю маральна-эстэтычных ацэнак грамадскага жыцця і асабістых людскіх учынкаў: з аднаго боку, лірычнае, амаль малітоўнае ўслаўленне малой радзімы і вялікай Бацькаўшчыны, беларускае Маці і роднае мовы, чалавечай дабрыні і красы ў народным жыцці, экспрэсіўнае выяўленне крыжовага шляху беларусаў (дыяпазон катэгорый узнёслага, прыгожага і трагічнага, выяўлены ў жанрах песні, гімна, трэну-плачу); з другога боку, бескампраміснае адмаўленне рэнегацтва, бездухоўнасці, сквапнасці, здрады, урэшце, ляноты, няздольнасці захаваць святасць жыцця і цэласнасць асобы (дыяпазон катэгорый нізкага, агіднага і камічнага, выяўлены ў жанрах сатыры, гратэску і гумару).

Гэтыя шырыню і «палярнасць» мастацкага таленту заўважылі рэцэнзенты кніжак паэта, іх дакладна раскрыў у прадмове да кніжкі «Святлынь» (1984) Васіль Быкаў: «Наогул трэба сказаць, што ў паэзіі Ніла Гілевіча ў вельмі выразнай форме знайшлі выяўленне грамадзянскасць, скандэнсаваная сацыяльнасць, аб чым сведчаць яго шматлікія лірычныя і лірыка-эпічныя творы і асабліва ягоныя сатыра і гумар, у якіх паэт мае свой непаўторны голас <…>. Гэтыя два розныя бакі яго творчасці знітоўваюцца адной моцнай, я сказаў бы, высакароднай якасцю, якую можна вызначыць як фальклорную, вельмі народную, што ідзе з самых вытокаў беларускага жыцця, з яго нацыянальнага характару і ягонай гісторыі». Да гэтай дакладнай ацэнкі можна толькі дадаць: у шырокім дыяпазоне камічнага Ніл Гілевіч арыгінальна развівае беларускую літаратурную традыцыю, што пачыналася з ананімных «Прамовы Мялешкі» і «Ліста да Абуховіча» (XVII ст.), яскрава выявілася ў парадыйных паэмах «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» (першая палова XIX ст.), у гратэскава-гумарыстычных творах В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Тапчэўскага, Ф. Багушэвіча, А. Паўловіча, у саркастычных выкрывальніцкіх вершах, камедыях і фарсах Янкі Купалы, сатырычнай паэзіі Якуба Коласа.

Адразу ж пасля першых трох лірычных зборнікаў Н. Гілевіча выйшлі ў свет яго кніжкі сатыры і гумару «Званковы валет» (1961), «Да новых венікаў» (1963). Пазней паралельна з лірычнымі — «Бальшак», «Перазовы», «А дзе ж тая крынічанька», «Святлынь», былі гратэскава-камічныя «Ці грэх, ці два», «Як я вучыўся жыць», «Русалка на Нарачы», камедыі ў кнізе п’есаў «Начлег на буслянцы». Урэшце, за раманам у вершах «Родныя дзеці», элегічнай «Повяззю» быў зборнік «Кантора» (1989) — свайго роду сатырыка-гумарыстычная анталогія паэзіі Ніла Гілевіча.

Упэўнены: да Гілевічавых твораў у дыяпазоне камічнага яшчэ звернуцца даследчыкі і крытыкі. Здаецца, што нас чакаюць сюрпрызы ў гэтым кірунку яго творчасці. Зарукай таму — эпічны твор «Родныя дзеці». Апрача моцна знітаваных эпічнай і лірычнай тэмаў там ёсць свае гумарыстычныя і сатырычныя адступленні — цэлыя інтэрмедыі. Імі пранізана ўся прадмова — «Запеўка».

Пісаць бы мне пра час далёкі!
Не зябла б муза сіратой:
Штодзень бы піў нагбом з даёнкі
Хвалебстваў пенны сырадой!

Гэта гумар. Але далей ёсць сатыра, іронія, гратэскавы смех: «Каб з тымі докамі зраўняцца // І заслужыць іх пахвалу — // Хоць раз мне трэба пастарацца // Надзець штаны праз галаву!» Тыповы народна-карнавальны гратэскавы вобраз: штаны праз галаву. Сатыра ёсць у дасціпна прыдуманым «Тэстаменце Тодара Вячоркі», дзеда героя твора, кампазітара Сцяпана.

Дарэчы, у паэтыцы, стылістыцы, лексіцы і кампазіцыі «Родных дзяцей» — ключ да разгадкі тых твораў Ніла Гілевіча, якія да пачатку новага стагоддзя заставаліся не разгаданымі.

Шматжанравая творчасць Ніла Гілевіча 80–90-х гадоў развівалася ў кірунку набліжэння да новых праблемаў беларускай рэчаіснасці, радыкальнага адказу ад рэліктаў савецкіх ідэалаў, да мастацкага спасціжэння драматызму постчарнобыльскага жыцця народа. Высокі эстэтычны густ не дазволіў яму друкаваць вершаваную публіцыстыку на апакаліптычную тэму чарнобыльскай бяды. (Гэтай спакусы, на жаль, не пазбеглі яго маладзейшыя калегі.) Затое ў зборніку «Повязь: Вершы і песні» (1987) ёсць антытэза да ранейшай, «райскай» па сваім ладзе песні «Вы шуміце, бярозы». Трагічна-суровая, прарочая для Беларусі песня «Палыновая ростань». Апакаліптычная зорка *Палын* набыла значэнне прароцтва пра Чарнобыльскую катастрофу.

Знаю: мне не вяртацца
Гэтым шляхам ніколі —
На апошнюю ростань,
На спатканне з былым.
Белай стужкай дарога
Раскацілася ў полі,

А па ўзбоччы дарогі —
Толькі шызы палын…

Як і раней, новая кніжка Н. Гілевіча — паэтычны дзённік, дзе поруч з літаратурнымі партрэтамі сваіх выдатных сучаснікаў (акадэміка Гаўрылы Гарэцкага, балгарскіх, украінскіх, мангольскіх пісьменнікаў) ёсць цыклы класічных актаваў. Паэт умее востра бачыць не толькі рай, але і пекла. І ўсё ж ён не хоча пакінуць свайго чытача ля пякельнага бяздоння. Ён прапануе пераадоленне трагічнага ў жыцці на шляху творчасці — праз каханне, якое ўздымае нас да вялікай любові. Кніжка завяршаецца папулярнай у Беларусі песняй-заклінаннем «Мой лёс — каханне»:

Прыйдзі — як снег на квецень маю,
Прыйдзі — як бура на зямлю, —
Не страшна мне, бо я — кахаю,
Не скрушна мне, бо я — люблю…

У студзені 1990 года хваля дэмакратызацыі былога СССР дакацілася да Беларусі. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Ніл Гілевіч быў сярод тых лідэраў адраджэнскага руху, якія здзейснілі беларускі цуд дваццатага стагоддзя — пераканалі кансерватыўны, у сваёй большасці камуністычны і прарасійскі Вярхоўны Савет БССР прыняць закон аб мовах, паводле якога родная мова карэннага насельніцтва краіны абвяшчалася дзяржаўнаю. Не была пакрыўджана пануючая ў краіне руская мова: ёй быў нададзены статус «мовы міжнацыянальных зносін». Пяць гадоў доўжылася найбольшая грамадская актыўнасць Н. Гілевіча — дэпутата, старшыні камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Давялося самаахвяравацца, абмежаваць пісьменніцкую працу (для яе патрэбны вольны час і незанятая штодзённымі справамі душа — для роздуму і сузірання). Але ж і гэта была праца для роднай культуры, літаратуры, мовы. Без масавай уключанасці грамадства ў нацыянальны моўна-культурны кантэкст пісьменнікам нічога не застаецца, як «ісці ў адстаўку».

Якраз тады ў канцы 1980-х — першай палове 1990-х гадоў Ніл Гілевіч яшчэ раз звярнуўся да традыцыі Ф. Багушэвіча і Янкі Купалы — да пафаснай, нацыянальна ангажаванай паэзіі і палітычнай публіцыстыкі. Па гарачых слядах беларускай дзяржаватворчасці, змагання за мову, культуру, гісторыю Бацькаўшчыны ствараліся зборнікі «Незалежнасць» (1991), «Жыта, сосны і валуны» (1992), «На высокім алтары» (1994), «Талісман» (1994), «Ёсць зямля…» (1997). І ва ўсіх гэтых паэтычных кніжках ёсць тры вобразы-матывы, якія прыдаюць змястоўнае і кампазіцыйнае адзінства: народ на сваёй спрадвечнай зямлі, родная мова, родная песня. Сярод пейзажнай лірыкі дакладнасцю вобразнай думкі вылучаецца верш, якім названы паэтычны зборнік «Жыта, сосны і валуны». Пластычна-колерны партрэт роднай зямлі. Прывітанне ёй і запавет — у першай і апошняй страфе:

Дзе па роднай зямлі ні крочыў —
Скрозь — ад Прыпяці да Дзвіны —
Перш за ўсё мне ласкалі вочы
Жыта, сосны і валуны.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
О, сябры! Калі нешта значыць
Мой усім вам паклон зямны —
Хай і цень мой з пагорка бачыць
Жыта, сосны і валуны.

Вобраз роднай Беларусі дапаўняюць вершы, апублікаваныя ў кніжцы «Талісман» (1994). Яна пачынаецца вершам, у якім удала выкарыстана паэтыка народных заклінанняў:

Талісман, ты мяне беражы,
Беражы і яшчэ паслужы!
На развілку дарог у глушы,
Дзе бялее ручнік на крыжы, —
Пераймі ад кашчавай ганца —
Каб я песню дапеў да канца.

Кніга «Талісман» — невялікая анталогія паэзіі, публіцыстыкі і навуковых дакладаў Н. Гілевіча дзевяностых гадоў, калі Беларусь сапраўды аказалася на раздарожжы, у сітуацыі глабальнага выбару паміж незалежнасцю, з аднаго боку, палітычнай ангажаванасцю іншай краіны, з другога.

У тыя ж багатыя на палітычныя падзеі дзевяностыя пісаліся вершы чыстай лірыкі, што ўвайшлі ў кнігу «На высокім алтары». Нават яе загалоўкам аўтар зрабіў заяўку на сімволіку, універсальныя архетыпы сусветнай культуры. Алтар — біблейска-хрысціянскі сімвал нябеснай вышыні, боскай дасканаласці і зямнога Раю. А вышыня, узвышша, гара — сімвалічныя тапонімы Неба. У антычнай міфалогіі, таксама ў паэзіі — гара Алімп — зямная сядзіба багоў, Парнас — сядзіба музаў, апекуноў паэзіі, музыкі, іншых відаў мастацтва. Парнаска-апалонаўская прэлюдыя чуецца ў загалоўным вершы:

На высокім алтары,
У лясной старонцы…
Ты гары, гары, гары,
Залатое сонца!

Не паводка цераз край —
Дар крыніц глыбінных…
Ты пылай, пылай, пылай,
Дзень мой галубіны!

Не раптоўны бунт крыві
Боль душы няснёны…

Дык жыві, жыві, жыві,
Міг багаславёны!

Такую ж райскую і творча-экстатычную сімволіку нясуць міфалагемы агню на алтары (зніч на язычніцкіх свяцілішчах, свечка ў храме, алімпійскі агонь), крыніца (сімвал уваскрэсення, жывая вада), залатое сонца (нябесны агонь). Лясная старонка — міфалагемы райскай некранутай прыроды, агульная сімволіка рамантычнага мастацтва. Голуб — сімвал бязгрэшнай прастаты. Урэшце, заключныя радкі засведчылі арыентацыю паэта на ўзвышэнскі аквітызм (лацін. aqua vita — жывая вада) у паэзіі і грамадскім жыцці.

Паэзія Н. Гілевіча — гэта не толькі лірычныя маналогі і эпічныя сюжэты. На сваім узлёце яна дыялагічная, паэт спрачаецца не толькі са светам, з антаганістамі, антыгероямі нашай пакутлівай гісторыі і сучаснасці. Ён спрачаецца з боскім наканаваннем (багаборчыя матывы ёсць у сусветнай літаратуры, пачынаючы ад Бібліі), урэшце, з самім сабою, са сваёй радасцю і сваім болем. Прыпомнім песню «Мой лёс — каханне»: «Не страшна мне, бо я — кахаю, // Не скрушна мне, бо я — люблю». І параўнаем з элегічным вершам, надрукаваным поруч з парнаскім «На высокім алтары»:

Я не той, што ў Бога ў ласцы…
Я жыву мальбою:
Хай табе не перадасца
Гэта скрушнасць болю…

Альбо прарочы для нашай сучаснасці верш «Гэта — доля, якое я варты?»:

І даруй, што журуся ў маўчанні,
Што не ў змозе вясёла спяваць,
Што цяжэй і цяжэй мне начамі
Рукі, склаўшы на сэрцы, трымаць.

Кніга «На высокім алтары» — паэтычная сімфонія Ніла Гілевіча ў трох частках, яе кампазіцыя, матывы, тэмы інтанацыі, якія фіксуюць зменлівасць душэўных перажыванняў, грунтуюцца на кантрастах, пераходах райскага экстазу ў пякельную пакуту, радасці — у самоту, жыццёвага экстазу — у рамантычную меланхолію. Нябесны рай і зямны аквітызм — у вершах «На высокім алтары», «На краю дажджу», «Жаўраначка…», «Гэта — доля, якое я варты?», «Як нечакана сцюжаю дыхнула», «Як доўга ў сэрцы горкі боль…», «Старадаўні сюжэт», «Не рві сабе сэрца, паэце!..», «Я не знаю, што ў нас будзе…». Кантраснае супастаўленне і дыялог райскіх і пякельных матываў: «Заложнік вечнай мары ілюзорнай…», «Калі лёс неспагадны бязлітасна крыўдзіў…», «Вар’ят». Урэшце, не частыя раней вершы-малітвы, хрысціянскія матывы: «Малітва», «І наш малебен», «Радкі з усяночнай», «Сон», «Уваскрэсне!», «Як чужыя, рассталіся ўранку…» (заключная страфа:

«Ну, нічога, нічога, нічога… // Там, дзе вечная ноч апаўе, // Нашы душы асвецяцца ў Бога // І сустрэнуцца зноў, як свае»).

У 1980-м Ніл Гілевіч выдаў зборнік «Начлег на буслянцы», у які ўключыў камедыі «Не кажы “гоп”…», «Першая ноч на курорце», драму з гадоў Айчыннай вайны «Мы скора завітаем зноў» і п’есы па матывах бытавых канфліктаў «сярэдніх» інтэлігентаў і службоўца 1970-х гадоў («Патрыярхальны Дзядовіч», «Начлег на буслянцы», «Камень з магілы продкаў»). Пазней, у 2001 годзе, публікуе востра-сацыяльную і маральна-філасофскую драму «Ведзьма». Драматургія Н. Гілевіча, асабліва камедыі і драма «Ведзьма», не страціла сваёй актуальнасці нават сёння, калі беларускае грамадства моцна палярызавалася па ідэалагічных арыентацыях.

На працягу 1970–1990-х гадоў Ніл Гілевіч друкуе шмат крытычных артыкулаў, эсэ, літаратурных партрэтаў. Яны змешчаны ў кнігах «У гэта веру» (1976), «Удзячнасць і абавязак» (1982), «Мужнасць, сумленнасць, годнасць» (1989), «Вяртанне і працяг» (1992). Тут яскрава выявіўся талент Н. Гілевіча як празаіка і прамоўцы, глыбокае разуменне творчасці сваіх старэйшых і маладзейшых калегаў па літаратуры, майстэрства лаканічна і неназойліва раскрыць іхні душэўны воблік, чалавечую непаўторнасць. Кожная з гэтых кніг, напісаных шчыра і дасціпна, эстэтычна вывераным стылем, паслужыць навучальным дапаможнікам для філолагаў, аматараў прыгожага пісьменства. Чытач знойдзе тут літаратурныя партрэты заснавальнікаў нашай класічнай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цёткі (А. Пашкевіч), старэйшых сучаснікаў, чые творы ўвайшлі ў хрэстаматыі (Кандрата Крапівы, Аркадзя Куляшова, Міхася Лынькова, Івана Мележа, Пімена Панчанкі, Максіма Танка).

Нілам Гілевічам апублікаваны артыкулы, нарысы, эсэ пра выдатных пісьменнікаў нашых славянскіх братоў — Аляксандра Пушкіна, Адама Міцкевіча, Сяргея Ясеніна, Тараса Шаўчэнку, Івана Франко, Уладзіміра Маякоўскага, Аляксандра Твардоўскага, балгарскіх паэтаў Ніколы Вапцарава, Хрыста Радзеўскага, Георгія Джагарава, Любаміра Леўчава, Івана Давыдкава, Андрэя Германава. Праблемам літаратурнага мастацтва і яго творцам прысвечаны шматлікія публіцыстычныя артыкулы і аналітычныя даклады Н. Гілевіча. У славянскім свеце наш паэт вядомы як майстар літаратурнага перакладу на родную мову балгарскіх, славенскіх, сербалужыцкіх, рускіх, украінскіх, польскіх і іншых славянскіх паэтаў. Нашыя паўднёваславянскія браты аддзячылі паэту: узнагародзілі ордэнам Кірылы і Мяфодзія І ступені, ордэнам Югаслаўскай зоркі.

У 1996 годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура» пачало выпускаць у свет літаратурны набытак Ніла Гілевіча — Збор твораў у шасці тамах. Пачынаючы з 2-га тома, збяднелае выдавецтва скараціла выданне да 4 тамоў. Агледзеўшы свае набыткі ў прыгожым пісьменстве, патрабавальны літаратар, паэт і вучоны-аналітык Н. Гілевіч сабраў толькі «чыстую пшаніцу», адсеяўшы ўсё тое, што не поўнасцю адпавядала высокім эстэтычным крытэрыям. У новых выданнях упершыню сабра-

ны эпічныя творы паэта — паэмы «Песня аб вячыстым дубе» (1954), «Сто вузлоў памяці», «Гарыць, гарыць мая Лагойшчына», «Недзяленя», «А дзе ж тая крынічанька?», «А раніцы ўжо не было», «Заручыны», «Пачатак», «Не хварэй», «Лодачкі», «Паланез Агінскага». Паміж першай і апошняй паэмамі — сорак пяць гадоў!

Самую элітную анталогію паэзіі ўпрыгожыць лірычна-фальклорная паэма «А дзе ж тая крынічанька?» пра сустрэчу героя з роднай песняю падчас яго фальклорных вандровак «за ціхаплыннай, добрай рэчкай Шчарай», дзе сялянка са сваёю дачкою-студэнткай выконваюць шчымліва-самотную песню пра маладую ўдованьку з яе запытаннем: «Парадзь, парадзь, родны татка, // Як мне гора гараваці, // Як мне гора гараваці — // Дробных дзетак гадаваці?»

Эпічная паэзія Ніла Гілевіча, як правіла, апавядальная, грунтуецца на мастацкім бачанні рэальных падзей і фрагментаў штодзённых клопатаў, нячастых святаў, з якімі быў павязаны аўтар на сваім жыццёвым шляху («Заручыны», «Гарыць, гарыць мая Лагойшчына», «Недзяленя»). Эталонам такіх паэмаў-быліцаў, вядомых з часоў В. Дуніна-Марцінкевіча, з'яўляецца спавядальны твор «Лодачкі». У аснове сюжэта рэальны, біяграфічны факт, падсвечаны агульнай драмай пасляваеннай беларускай вёскі.

Навуковыя і навукова-асветніцкія кніжкі і шматлікія артыкулы Н. Гілевіча тэматычна выходзяць за рамкі літаратурнай праблематыкі. Але ж амаль усе яны датычацца філалогіі — гісторыі літаратуры і паэтыкі фалькларыстыкі. Апрача манаграфіі «Акрыленая рэвалюцыяй» Н. Гілевіч апублікаваў навукова-папулярны нарыс «Наша родная песня» (1968). Асноўная ўвага даследчыка скіравана на выяўленне жыццёвых рэаліяў у фальклоры і тлумачэнне самабытнай яго паэтыкі, мастацкіх выяўленчых сродкаў. Далейшае развіццё гэтай тэмы ёсць у кніжцы «З клопатам пра песні народа» (1970). Тэарэтычныя напрацоўкі па эстэтыцы фальклору Н. Гілевіч выкарыстаў у манаграфіях «Паэтыка беларускай лірыкі: Слова і вобраз. Паэтычны сінтаксіс. Гукапіс і рыфма» (1975) і «Паэтыка беларускіх загадак» (1976). Абедзве кнігі з'яўляюцца першым і, на жаль, апошнім грунтоўным даследаваннем паэтычных і жанравых заканамернасцяў народнай лірыкі і вобразна-паэтычных ды міфалагічных па сэнсу і структуры загадак. Яны добра паслужылі ў якасці навучальных дапаможнікаў.

У драматычным для лёсу нацыянальнай мовы, літаратуры, культуры 1996 годзе беларуская грамадскасць розных пакаленняў і палітычных арыентацый наладзіла Н. Гілевічу сапраўдны трыумф на яго паэтычным вечары 26 лютага ў Доме літаратара. На тым вечары паэт прапанаваў невялікую вусную анталогію сваёй шматжанравай паэтычнай творчасці ў сваім жа дасціпным і артыстычным выкананні. Узнятыя па-над гістарычным часам (а гэта звыш пяцідзесяці гадоў нашага дынамічнага дваццатага стагоддзя!), яго вершы ў жанрах лірычнай споведзі, медытацыі, песні, паэтычнай сатыры, гумару і лірычнай публіцыстыкі, вясёлай лірычнай дыдактыкі для дзяцей, перастварэння з паэтычнага саду братніх нам народаў гучалі надзвычай

актуальна, молада, як не ўчарашняе, а мастацкае рэха сучаснага быцця. Бо наш паэт — не летапісец жыцця (хоць у літаратурным летапісанні няма нічога дрэннага), а яго таленавіты супрацоўнік.

«Любоў прасветлая» — так назваў Ніл Гілевіч сваю кнігу роздумаў ў вершах і прозе аб роднай мове, нацыянальнай свядомасці і культуры (1996). Своеасаблівы магістрал усёй творчасці. Кніга гэтая — сімвал веры паэта, яго палітычнае, маральнае і эстэтычнае credo. Творы розных жанраў за 1947–1996 гады — вершы, выступленні, інтэрв'ю, нататкі, аналітычныя артыкулы аб'ядналіся тут беларускай нацыянальнай ідэяй, пафасным сцвярджэннем нашых духоўных каштоўнасцяў — роднае мовы, літаратуры, фальклору, мастацкай культуры, традыцыйных абрадаў. Аўтар максімальна выкарыстаў выяўленчыя сродкі паэзіі, красамоўства, каб паўплываць на грамадскую думку, адрадзіць у сэрцах слухачоў і чытачоў пачуццё доўгу перад Бацькаўшчынай, неабходнасці пакаяцца перад ёю, прабудзіць сумленне, што заснула пад наркозам хлусні і беззаконнасці. Выдаў дзве кнігі пра Ніну Іванаўну Гілевіч: «Разумная дзевачка» (2005) і «Добры анёл беларускасці» (2007).

У пачатку XXI стагоддзя Ніл Гілевіч выдаў новыя кнігі паэзіі «Паланез Агінскага» (2002), «На флейце самоты» (2004), «Сказ пра залатое пёрка» (2005), «У ноч на Пакровы» (2008), а таксама аб'ёмісты том публіцыстыкі «Толькі мы самі» (2006).

Апошнія гады на мяжы новага стагоддзя сталіся для паэта і рыцара нацыянальнай культуры шчодраю восенню. Заціхлі ранейшыя шквалы маладосці. Затое прыбавілася мудрасці, чалавечай і пісьменніцкай відушчасці. У паэзіі ўсё часцей трапляюць хрысціянскія матывы, пакаяльныя вершы-малітвы. Не забыта баявая публіцыстыка — у прозе і вершах: яна сёння дамінуе ў штодзённай працы пісьменніка. З сялянскай апантанасцю пісьменнік апрацоўвае і даглядае беларускую духоўную ніву, будзіць грамадзянскае сумленне беларусаў. Пра змест і пафас публікацый сведчаць загалоўкі артыкулаў, інтэрв'ю, нататкаў з дзённіка: «У імя нацыянальнай ідэі», «Ад музейнай экзотыкі — да рэальнага паўнакроўнага жыцця», «Жыццё нельга бэсціць, а ў паэзіі тым больш», «Будзе і на нашай беларускай вуліцы свята!».

У апошняе дзесяцігоддзе мінулага стагоддзя Н. Гілевіч узбагаціў сваю песенную паэзію традыцыйнымі, але даўно забытымі жанрамі, сярод якіх сямірадкоўі. Варыянтнасць рыфмоўкі гэтай паэтычнай формы дазволіла аўтару арыгінальна выкарыстаць размоўныя інтанацыі, барокавую дасціпнасць стылю, энергічна і арыгінальна сцвердзіць свае думкі і этычныя ацэнкі. Адначасова прапанаваў не менш дасціпныя кампазіцыі эпічнай паэзіі, ахрысціўшы іх сюжэтамі. Гэтыя паэтычныя навацыі ўвайшлі ў трэці том Збору твораў (2001).

У пачатку XXI стагоддзя Н. Гілевіч раскрыў загадку пра «ананімную» паэму «Сказ пра Лысую гару», падпісаную псеўданімам *Францішак Вядзьмак-Лысагорскі.* Упершыню апублікаваў гэты унікальны твор у шырокім дыяпазоне камічнага пад сваім прозвішчам («Народная воля». 2003. 30 жн.). Публікацыю папярэдзіў аналітычным артыкулам,

фактычна навуковым трактатам пра шляхі стварэння ўнікальнага твора ў нашай і еўрапейскай паэзіі. У тым жа 2003 годзе Н. Гілевіч «Сказ пра Лысую гару» ў апошняй аўтарскай рэдакцыі выдаў асобнай кнігай з маім уступным артыкулам «Дасціпная паэтыка смеху», ілюстрацыямі рукапісных праўленых тэкстаў гэтага твора.

Вельмі многа добрага можна было б яшчэ сказаць пра перакладчыцкую дзейнасць Н. Гілевіча. Маштабы яе ўражваюць. Ён пераклаў-перастварыў на родную мову многія тысячы радкоў паэзіі многіх народаў свету. Асабліва многа зрабіў ён для азнаямлення беларусаў з творчасцю славянскіх народаў. Дзякуючы Н. Гілевічу па-беларуску загаварылі лепшыя паэты Балгарыі, Славеніі, Сербіі, Харватыі, Босніі, Расіі, Украіны, Польшчы і іншых славянскіх краін. Больш за ўсё зрабіў ён для папулярызацыі ў Беларусі балгарскай літаратуры, выдаўшы ў сваім перакладзе ў Мінску ажно шэсць анталогій паэзіі: «Балгарскія народныя песні» (1961), «Ад стром балканскіх» (1965), «Чарадзейны ліхтарык» (1968), «Хай зорыць дзень» (1974), «Сто гадоў, сто паэтаў, сто песень» (1976), «Перазараджаным набоем» (1981). Выйшла таксама кніга яго літаратурна-крытычных эцюдаў «Верная вялікім запаветам: Сучасная балгарская паэзія» (1976).

У сваю чаргу паэтычныя творы Н. Гілевіча перакладаліся на мовы многіх народаў свету — азербайджанскую, англійскую, балгарскую, венгерскую, грузінскую, іспанскую, малдаўскую, казахскую, летувіскую, рускую, сербска-харвацкую, славенскую, таджыкскую, украінскую, французскую, мову хіндзі, чувашскую, эстонскую і інш.

У год сваёй літаратурнай восені паэт перажыў вялікую бяду-гора: памерла яго верная спадарожніца на дарогах лёсу, самаахвярная сяброўка і нязменны памочнік, таленавітая даследчыца і асветніца-філолаг Ніна Гілевіч. Шмат часу паэт аддаў падрыхтоўцы да друку 6 зборнікаў яе артыкулаў, лекцый, дыялекталагічных матэрыялаў, іншых лінгвістычных даследаванняў, захаваных у рукапісах. Яны выйшлі ў свет у 2004–2008 гадах.

Паспяхова рэалізуе Ніл Гілевіч свой маштабны творчы і выдавецкі праект — Збор твораў у 23 тамах (выйшлі тамы 1, 3, 5, 23). У 5-ты том увайшлі раней скрытыя пад псеўданімамі творы ў шырокім дыяпазоне камічнага. Гэта — унікальная анталогія або нават падручнік па эстэтычнай катэгорыі смеху. У т. 23 — мемуарная кніга «Між роспаччу і надзеяй. Абрыс пройдзенага шляху ў святле адной мары».

Н. Гілевіч — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1980) і прэстыжнай Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (Балгарыя, 1986; прысуджаецца за рэвалюцыйную паэзію і публіцыстыку). Украіна ўзнагародзіла яго сваім вышэйшым ордэнам князя Яраслава Мудрага (2006) і прысудзіла прэмію імя Івана Франка (2007). Ніл Гілевіч — заслужаны дзеяч навукі РБ (1980), ганаровы прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў (1993). У 1991 годзе яму нададзена званне народнага паэта Беларусі.

*Уладзімір Конан*

# ВЕРШЫ

## ПЕРШАЯ КЛЯТВА
*(Родная мова)*

Як ты дорага мне, мая родная мова!
Мілагучнае, звонкае, роднае слова!

Ты калісьці з калыскі мяне падымала
І вучыла ў бацькоў на руках гаварыць
У жыцці маім слова найпершае «мама»
І цяпер для мяне сама міла гучыць.

Я па літарах родных вучыўся чытаць,
І буквар для мяне быў жыцця палавінай.
Быў шчаслівы я роднаю мовай сказаць
Першы раз: «Беларусь, мая Маці-краіна!»

І цяпер для мяне ты з усіх прыгажэй,
Хоць, я ведаю, моваў на свеце нямала,
І з усіх песняроў мне мілей і бліжэй
Роднай мовы пясняр — неўміручы Купала.

А задумае вораг з чужога далёкага краю
Адабраць у мяне, знішчыць родную мову маю —
Не дазволю.
Не дам.
Не прадам.
Не змяняю.
І да смерці за волю тваю пастаю!

*1947*

* * *

Як толькі ноч ліпнёвая
Махне крыламі сінімі
Ды цішыня вішнёвая
Па ўсіх садах затоіцца, —
Тады хоць сэрца вынімі,
Каб толькі супакоіцца!

Каб і без хмелю ярага,
Без зелля прываротнага,
Не ўкленчыць перад яварам,
Не звар'яцець ад нечага —
Незразумела роднага,
Неразгадана вечнага!..

Я ў гэту ноч ліпнёвую
Іду сцяжынкай вузкаю,
Сцяжынкаю жытнёваю,
Зямлёю беларускаю.

Іду, а над крыніцаю
Туман бялёсы сцелецца,
І дыхае аселіца
Пахучай медуніцаю.

Іду, а песня новая
Сама ў душы складаецца,
І перапёлка ўдовая
Не спіць да самай раніцы.

Іду, а неба — нізкае,
А ночка — сінякрылая,
І ўсё да болю блізкае,
І ўсё — старонка мілая!

*1951*

* * *

Высока ў небе воблачка плыве.
Плыве, бялюткае, адно ў блакіце.
Яму ці сонцу ў чыстай сіняве
Жняярка крыллямі махае ў жыце?

Яму ці сонцу з берага ракі
Смяюцца дзеці — рэха тоне ў далях?
Яго ці сонца ловяць хлапчукі
Рукамі загарэлымі на хвалях?

Яму ці сонцу весела пяюць
Жанкі ў палях, забыўшыся на стому?
Яно ці сонца? — хочацца зірнуць
У вочы любай хлопцу маладому.

Жыццё і радасць, праца і любоў, —
На ўсё тут сэрца песняй адгукнецца!
.............................................................
А ў вышыні — чародка галубоў
Над разамлелаю зямлёй віецца.

*1951*

## ВЯЧЭРНІ ЛІВЕНЬ

Расправіўшы шэрыя крылы,
Хмурынка на захадзе ўстала,
Цямнела, плыла, вырастала,
Як бы набіралася сілы.

Павісла над соннаю вёскай,
Пасля зашумела ў прысадах,
І — залапатала па градах,
Пайшла па дварах з пераплёскам.

З крапідла дала па хацінах,
Абмыла жбанкі на парканах,
Загнала ў гумно закаханых
І ўдалеч шум-гул пакаціла…

На вуліцы — свежа і цёпла.
А зоры заззялі так ярка,
Як быццам бухматая хмарка
Сабой іх да бляску нацёрла.

*1953*

## У БАЦЬКОЎСКІМ КУТКУ

У бацькоўскім кутку —
Краі слынных бароў —
Помню ўсмешку тваю,
Позірк, ясны без слоў.

Выйду ўранку зару
Сустракаць за сяло —
Тваіх рук, мілых рук
Прыгадаю цяпло.

Салаўі запяюць
На аселіцы дзесь, —
Чую песню тваю,
Заварожаны ўвесь.

Зажурчыць ручаёк —
Аж у сэрца кальне,
Быццам гэта тваё
Слова ласкі ка мне.

У бацькоўскім кутку
Водар зёлак лясных
Я ўдыхаю, я п’ю,
Нібы з вуснаў тваіх.

Ціхі ветрыка лёт,
Што галубіць зямлю,
Як дыханне тваё,
Пераймаю, лаўлю.

Прыйдзе зорная ноч,
Цішай дол ахіне —
Сваіх воч, карых воч
Не адводзь ад мяне.

І праз далечаў даль,
І скрозь морак начны —
Я змагу разгадаць,
Што мне скажуць яны.

*1956*

## МАЁВАЕ

Адзвінеўшы ледзянымі крыгамі,
Уляглiся рэчкі ў берагі.
Прывітаны радаснымі крыкамі,
Бусел робіць першыя кругі.

Даль, абмытая дажджамі шпаркімі,
Ясным вырысам чаруе зрок.
Поплаў краскамі прыбраўся яркімі,
Кліча ў госці да сябе здалёк.

Ты ідзеш абсохлаю абочынай
Пакланіцца руням маладым.
Над палямі — жаўранкі нязмоўчныя,
Над дубровамі — зялёны дым.

А ў душы — прасторна, лёгка, весела:
Май ідзе праз нівы і бары!
І на ўсіх прасцягах краю весняга
Чуюць крок яго твае сябры.

І таксама радуюцца зелені,
Сонцу яснаму над галавой,
Небу сіняму, палям засеяным,
Шэпту ліўняў з лісцем і травой!

І з усіх грымот — у мірным клопаце —
Толькі той жадаюць слухаць гром,
Што пупышцы памагае лопацца,
Каб хутчэй раскрылася лістком!

*1958*

## ДОЖДЖ ПРАЙШОЎ

1

Дождж прайшоў,
І на траве, на лісці
Зіхацяць, гарацьь
Брыльянты-росы…

Як любіў я ў гэты час
Калісьці
Па вясёлых лужах
Бегаць босым!..

Дождж прайшоў —
І водарам п’янлівым
Пацягнула з маладога бору,
І сцяблінка кожная на ніве
Пераможна пазірае ўгору.

Дождж прайшоў —
І з сэрцам зладзіць цяжка:
Птушкай рвецца ў чыстае раздолле!
І на грудзі поўныя, ўзацяжку,
Не надыхацца ніяк уволю.

Дождж жыцця,
Зялёных долаў свята,
Радасць сейбітаў
У дзень вясновы!
Слаўлю спеў твой,
Ціхі і заўзяты,
І адвечны і заўсёды новы!

2

…Недзе дождж прайшоў —
Па схілах горных,
Па садах, дзе белыя налівы,
Ды не той —
Гаючы, жыватворны,
А — атрутны, смертаносны лівень!

Дождж прайшоў —
І ў пенным сырадоі,
У вадзе з чысцейшае крыніцы,
У даспелым яблыку мядовым —
Смерць бязлітасная ўжо таіцца…

Дождж пакут…
З чыёй маўклівай згоды
Ён стаіць у небе чорнай хмарай —

Над буянай радасцю усходаў,
Над вялікаснай людскою марай?!

Я крычу да ўсіх маўклівых:
— Людзі!
Страшны дождж прайшоў!
Сягоння — дзесьці.
Ну, а заўтра —
Дзе ён заўтра будзе?
…Ці ж у вас не падрастаюць дзеці?

*1958*

## А Ў ПОЛІ ВЯРБА

*Рыгору Раманавічу Шырму*

Пякло нясцерпна. Млела ўсё навокал,
Нібы зямлю хто варам абварыў.
Як з рупараў, з паадчыняных вокан
Плыў голас: дыктар штосьці гаварыў.

Пасля раздольна песня загучала.
Здалося, лівень хлынуў з вышыні!
Яе мне маці некалі спявала,
Спрадаючы кужэльнай ніткай дні.

Ах, песня маці! Я забыў на стому,
Забыў на млявасць, што ўсяго звяла.
Мяне сцяжынка ўжо вяла дадому,
У бацькаў двор аселіцай вяла,

Дзе на траве бялеюць ранкам росы,
Дзе кладкі выгнутыя над вадой,
Дзе й я калісьці — загарэлы, босы —
Каня паіў з дзяўчынай маладой…

Дыхнула свежасцю — і лёгка стала,
Пачуўся лесу пошум, плёскат рэк…
Мой родны край, мая зямля спявала,
Мая любоў, адзіная навек!

А я… здалося, піў, прыпаўшы ніцма
Да ручая з крынічнаю вадой…

Мы часта ў спёку ходзім паўз крыніцу,
Але ці часта п’ём з крыніцы той?

*1959*

* * *

Цуд тварыўся — я праспаў:
Снег дасвеццем перапаў
Рана-рана.

І ляжыць ён на дварах,
На парканах, на дрывах —
Чысты-чысты.

Для гасцей абрус у нас
Сцелюць гэтакі якраз
Белы-белы.

Счараваў вяскоўцаў снег:
Хоць бы слова, крык ці смех, —
Ціха-ціха.

Моўчкі й я стаю ў цішы,
І так лёгка на душы,
Светла-светла…

*1960*

* * *

Мне з кожным годам даражэй
Твае, вясна, дары-гасцінцы,
Здаровы хмель тваіх дражджэй
У кожнай тоненькай сцяблінцы.

Мне ўсё мацней карціць пачуць
Званочак срэбны ў паднябессі,
Прыпільнаваць, калі чуць-чуць
Падснежнік выгляне на ўзлессі.

Я прагным сэрцам п’ю настой
Тваіх чаромух і баюся,

Што развітаюся з табой,
А ўдосталь так і не нап’юся.

*1960*

## СВЯТА ЗЯМЛІ

Першы гром быў сёння ўночы.
Дождж да дня шумеў вясёла.
Ранак вытарашчыў вочы,
Як дзіця, глядзіць наўкола.

Што за ноч магло зрабіцца!
Перайначана ўсё чыста:
Поле дыхае, дыміцца
Парай лёгкаю празрыстай.

Набрынялыя пупышкі,
Раскалоўшыся ад грому,
Прыбіраюць цветам пышным
Кожнай яблыні карону.

Траўка вылезла ў канаўцы,
А ў гаі — чуваць за мілі —
Музыканты-выканаўцы
Конкурс майскі аб’явілі.

О зямля!
Ты уся ў абновах!
Ты ў мільён званочкаў звоніш,
Ты на ста пявучых мовах
Весняй радасцю гамоніш.

Ты смяешся так шчасліва,
Што адразу ясна стала,
Як ты доўга, як цярпліва
Свята гэтага чакала!

*1960*

## ЛЕСАМ ПЕСНЯ ІШЛА…

Сосен зябкія плечы
Цішыня спавіла.
Мне насустрач здалечы
Лесам песня ішла.

Вечаровай часінай
Зазвінела ў глушы
Нерастрачанай сілай
Чыстай юнай душы.

І было зразумела:
Тут не сорамна ёй
Нечаканай, нясмелай
Першай тайны сваёй.

Тут баяцца не трэба,
Што пачуюць цябе.
Тут ёй кожнае дрэва
Спагадае цяпер.

Я стаю за ядлоўцам —
Хай спакойна міне…
І вянок на галоўцы,
І каса на спіне.

А ў руках — басаножкі:
Назнарок іх зняла,
Каб адчуць, як патрошкі
Сцежка стыць пачала.

Крочыць просекай-сценкай,
Як тунелем, адна.
Маладой-маладзенькай
Мне здалася яна.

І — на подступах ночы —
Добра бачна было,
Што спяшацца не хоча
Гэта песня ў сяло.

*1960*

* * *

Як ты грымела, як бабахала,
Мая рабінавая ноч!
Стокрылы вецер дол аблахаваў
І вобзем кідаўся наўзбоч.

Як быццам тоўшч нябёс валілася —
Трашчала так над галавой.
І толькі сэрца весялілася,
Здранцвення скінуўшы павой.

Маланкі бліскалі, мігцеліся,
Як стрэлы, жыхалі здалёк.
І не згадаць, куды ён цэліўся,
Сляпы, разгневаны стралок.

То залатымі дратаванкамі
Крамсалі неба ўшыр і ўдоўж,
І, як прышпораны маланкамі,
Ляцеў лавінай гулкай дождж.

Нібы дзяцюк, якога здалечы
Да мілай сцежкі прывялі,
Ён упіваўся, прыпадаючы,
У вусны смаглыя зямлі.

Калі б ты знала, ноч грымотная,
Як дыхаць стала мне вальней,
Якой задухі вяззе моцнае
Пашкуматала ты ўва мне!

Прыйдзі ж расстайнаю гадзінаю,
Як дазіхцяць маланкі воч,
І грымні песняй лебядзінаю,
Мая рабінавая ноч!

*1961*

* * *

Не пакідай мяне, мой светлы сум,
З табой мне хораша на адвячорку
Хадзіць і слухаць лесу ціхі шум,
Пакуль суцемак не запаліць зорку.

У небе хмаркі, як абрыўкі дум,
Плывуць туды, дзе сонца сядзе хутка.
Гусцеюць цені у лясных закутках…
Не пакідай мяне, мой светлы сум.

*1961*

* * *

У тым сяле, дзе я не быў ніколі
І нават дзе яго шукаць — не знаю,
Ёсць хата ў яблынях, парог якое
Я толькі ў сне парой пераступаю.

І зноў і зноў там, ледзь сцямнее ў полі,
Хаджу, як прывід, з вечара да ранку —
Ўсё запаветную шукаю брамку
У тым сяле, дзе я не быў ніколі.

*1961*

* * *

Мой сіні бор, мой родны бор зялёны!..
Ён ёсць у кожнага — свой бор, што вабіць,
Свой мілы кут, свае бярозы й клёны,
І ёсць свая лясная тайна, мабыць…

Дык будзь жа ты навек благаславёны!
Адзін ты знаеш, дружа мой маўклівы,
Які быў я ў цябе ў гасцях шчаслівы,
Мой сіні бор, мой родны бор зялёны!..

*1961*

* * *

Я хаджу, закаханы
У твае краявіды,
І шапчу як прызнанне:
О, мой край дарагі!

Зноў нясу табе ў споведзь:
І трывогі, і крыўды,
І надзеі, і ўцехі,
І любоў, і грахі…

Колькі доля ні судзіць
Мне далёкіх вандровак —
Я вярнуся навечна
Ў засень клёнаў тваіх.
Толькі з роднага долу,
Толькі ў роднай дуброве —
Як не дрэвам, хоць зёлкай
Прарасту для жывых.

***1962***

* * *

Люблю цябе, жыццё, любоўю кроўнай.
Я не нахлебнік твой. Я на зямлю
Не для таго прыйшоў, каб жменяй поўнай
Уцехі браць. Я — аддаваць люблю.

Тым, што зрабіў, любоў я вымяраю.
І калі мой апошні час праб'е,
Павінен ведаць я, што паміраю,
Аддаўшы ўсё да кропелькі — табе.

***1962***

* * *

Не адбірайце музыкі ў паэта,
Заканадаўцы паэтычных мод!
Яна з ім дружыць ад стварэння свету,
Ва ўсякім разе — многа тысяч год.

Не адбірайце! Мала толку ў спробах
Пазбавіць музыкі душы паэта.
Глядзіце лепей, каб разумны робат
Замест паэта не загаварыў.

***1962***

* * *

Ноч.
Цішыня.
На вулцы — ні душы.
Стаю і слухаю, як у цішы
Зрываецца з галінкі спелы яблык.
Ударыўшыся аб здранцвелы сук,
Ён глуха, мякка жвякне ў баразну.
На сенавал пайду, крыху азяблы,
І доўга-доўга, аж пакуль засну,
Наліваў белых буду слухаць стук.

А раніцой
Смяшлівая дзяўчынка,
У шэрачках-вяснушках,
Са шчарбінкай,
Іх у лубянку пазбірае ўсе
І возьме самы ўдалы, залацісты,
Крамянабокі, вымыты ў расе,
Патрэ ў далонях (яблык, як навошчаны,
Аж заскрыпіць) і, з марамі дзявочымі,
На сонца гляне праз яго: свіціцца!
І ў хату водар жніўня панясе.
Маё бяссонне ў хату панясе.

*1962*

* * *

Манатонна, жаласна і сумна
Птушка свішча ў гушчары альховым.
З гарадскога вырваўшыся тлуму,
Я ляжу ў траве пад ціхім сховам.

Ад таго, што сумна й мне чамусьці,
Так прыпаў да сэрца неадчэпна
Гэты свіст самотнай птушкі ў кусце,
Што ляжаў бы тут і слухаў вечна!..

Раптам бачу: між кустоў дзяўчынка.
З ярка-сінім факелам шалфею,
Крочыць ціха вохкаю сцяжынкай,
Як маленькая лясная фея.

Я знячэўку прыпадняўся нават:
Можа, гэта проста мне здалося?
— Ты не фея? — запытаў ласкава.
— Не, не Феня, я завуся — Зося!

І пайшла… А песню перабіла.
Сціхла птушка. Зноў ляжу ў траве я.
Ах ты, фея! Што ж ты нарабіла!
Ты спалохала мне казку, фея!

Я гляджу на сцішанае неба.
Дзесьці побач — конікавы строкат.
Як жа часам чалавеку трэба
Апынуцца ў казцы ненарокам!

***1962***

## МАРА СКАРЫНЫ

Марыў калісьці славуты Скарына,
«Ціснучы» кнігі на мове бацькоў:
Простаму люду ў роднай краіне
Зробіць даступнай ён мудрасць вякоў.

Толькі радзіму сваю ў ліхалецці
Мара яго абляцець не магла:
Білася роспачна птушкай у клетцы,
Вочы ж бядоты сляпіла імгла.

Думалі, згіне, як статак, нямое
Племя пакорнае ў вечным ярме.
Колькі іх мужных, што матчынай мове
Шлях пракладалі і змёрлі ў турме!..

Ды разгулялася плынь веснавая —
Змыла пакутнай няволі сляды,
І ўстрапянулася мара жывая,
І абляцела ўвесь край малады!

Сталі даступнымі простаму люду
Мудрасці скарбы са свету ўсяго —
Каб ні ярма, ні імглы, ні аблуды
Болей не зведала доля яго!

***1962***

* * *

Вы шуміце, шуміце
Нада мною, бярозы,
Калышыце, люляйце
Свой напеў векавы.
А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога
На духмяным пракосе
Недаспелай травы.

А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога,
Галавой на пагорак,
На высокі курган,
А стамлёныя рукі
Вольна ўшыркі раскіну,
А нагамі ў даліну —
Хай накрые туман…

Вы шуміце, шуміце
Нада мною, бярозы,
Асыпайце, мілуйце
Ціхай ласкай зямлю.
А я лягу-прылягу
Край гасцінца старога:
Я здарожыўся трохі.
Я хвілінку пасплю.

*1963*

* * *

Як хачу я вярнуцца ў той вечар ліпнёвы на Віцебшчыне,
У той водсвет маланак, пад гулкі захлёбісты лівень,
У той водар садоў, да лісцінкі абмытых і вычышчаных,
У абдымкі тых рук, і даверлівых і палахлівых!
Не, не сціхлі ў душы навальніцы далёкай грымоты,
І не звянула ўсё, што з такімі пакутамі выпешчана…
О, каб ведала ты, як хвілінаю горкай самоты
Зноў хачу я вярнуцца ў той вечар ліпнёвы на Віцебшчыне!

*1963*

* * *

Не гаманіце, вербы, не будзіце,
Не грайце, ветры, у зялёным веցці:
Яна ўсю ноч праседзела над дзіцем
І задрамала толькі на дасвецці.

Няхай прысніцца ёй лясная казка:
Палянка ў пушчы, ціхі гуд чмяліны,
Бяжыць хлапчук, а ў кулачках — маліны…
Не гаманіце ж, вербы, калі ласка.

*1963*

## БАЛЬШАК

Праз долы-нізоўі, дзе ўвечар туманы ўстаюць,
Праз водар мядункавы спелых лугоў у пракосах,
Праз рэкі і рэчкі, што петлі блакітныя ўюць,
Праз ранішні гоман стозыкі пасёлкаў і вёсак,
Праз пушчу, дзе сосны струменяць жывіцу-пяршак,
Праз ліўні густыя, што раптам заслоняць паўсвета, —
Спяшаецца ўдалеч стары беларускі бальшак,
Спяшаюцца людзі, спяшаецца век-непаседа.

Мільгаюць бярозы — астаткі даўнейшых прысад,
Гіганцкімі скрыпкамі воддаль — слупы з правадамі…
Імчуся і думаю: колькі стагоддзяў назад
Тут прашчуры босыя сцежку сабе пракладалі?
І колькі стагоддзяў тут гора хадзіла пасля?
Мужычую помсту хавала пад цёмныя шаты…
І колькі разоў тут пляліся чужынцы здаля,
Губляючы гонар і славу, штандары і шапкі?..

Нібы ўпершыню, углядаюся зноў у прастор —
У мілыя, родныя вобразы любага краю.
Без гэтых бароў задуменных, без гэтых азёр,
Без гэтых палеткаў я шчасця на свеце не знаю.
Вядзі ж мяне ўдалеч — за ўсе гарызонты, бальшак!
Праз будні імчы і праз святы, праз дні і праз ночы —
Каб вецер Радзімы гудзеў несціхана ў вушах,
Каб дых захліпаўся, каб слёзы ўзбягалі на вочы!

*1964*

## ПЕРЛЫ

Рашыў я вершы панізаць,
Як пацеркі на нітку.
«Ага-а! А перлаў не відаць!» —
Раўнуў знаёмы крытык.

«Каб хоць бурштынінка адна,
Што знае мора тайны!
А то — каменьчыкі… са дна
Якойсьці, мабыць, Гайны!

Каму патрэбна дрэнь твая?
Цяпер на перлы попыт!..»
І зноў скрабу загрывак я:
Вось даў, халера, клопат!

Ну, дзе мне перлаў тых узяць?
Я ж раз хадзіў па перлы,
Хацеў вязанку нанізаць —
Дык старажы паперлі!

*1964*

## АСВЕНЦІМ

«Нас тут было чатыры міліёны!» —
Крычыць жахлівы надпіс са сцяны.
«Усім, усім падпальшчыкам вайны
На ўсе вякі мы шлём свае праклёны!

Нас з'еў агонь — чатыры міліёны
Мужчын, жанчын, дарослых і дзяцей.
Скажыце: дымам з вогнішча касцей
Сягоння свет ужо не заімглёны?

Скажыце — мёртвыя, мы хочам знаць:
З жаночых кос як таннай сыравіны
Ужо не ткуць сягоння мешкавіны
І дываноў, каб ногі выціраць?

А каб мільёнамі не паміраць —
Вы знаеце, што вы рабіць павінны?»

*1964–1965*

## СТАРЫЯ ДРУКАРНІ

У розных кутках беларускай зямлі
(Там помнікі б з мармуру высечы!)
Славутыя колісь друкарні былі —
Гадоў таму ледзь не паўтысячы.

Даўно супачылі ў зямлі друкары,
А плён іх сыноўняга подзвігу
Сцірала гісторыя з гэнай пары —
Дзе кроўю, дзе гучна, дзе поціху.

І месцы ўжо тыя нялёгка знайсці,
Парослыя крыўдамі-бедамі,
Дзе ўсходзілі першыя кветкі цвісці
Красы, між народаў няведамай.

О, як бы разросся той кветнік, той сад,
Хоць вёсны былі неспагаднымі,
Калі б не стаптаў заваёўнік-магнат,
Калі б чужакі не спаганілі!

Але, як зярняты з угрэтай раллі,
Слязамі і кроўю палітыя,
Ізноў прарасталі, буялі, цвілі
Бяссмертныя родныя літары!

І чулася, чулася ў стуку станкоў,
Што ім не замоўкнуць заклятымі,
Што будуць яны за хрыбтамі вякоў
Грымець паліграфкамбінатамі.

*1965*

## ТЫ КАЖАШ, Я НЕ ВЕДАЮ ВАЙНЫ

Ты кажаш, я не ведаю вайны?
Што мне было тады гадоў замала?
Чаму ж яна мае забрала сны?
На ўсё жыццё наперад сны забрала?

Чаму ж амаль не кожнае начы
Я прачынаюся, скаваны жахам?

Хачу ад смерці лютай уцячы —
І стрымгалоў бягу аўсом няжатым,

Паўзу бульбянішчам па баразне,
Да хмызнякоў куляюся па пожні,
Але ратунку мне няма і ў сне —
У вочы стрэл грыміць у міг апошні…

Я ведаю: пазбыцца гэтых сноў
Не дапаможа мне ніхто на свеце.
Я буду трызніць імі зноў і зноў,
Яны — мае навек, да самай смерці.

Застаўшыся з маленства на вайне,
Я аднаго хачу, мая краіна:
Каб гэта скончылася ўсё на мне.
Каб гэта ўсё не стала доляй сына.

***1965***

## АПОШНЯЕ СПАТКАННЕ З ВЕРАНІКАЙ

Нават сціплая надзея памерці ў роднай зямлі і тая была адабрана…

*З успамінаў бацькі паэта — Адама Ягоравіча Багдановіча*

Далёка ад роднага краю,
Чый вобраз па кроплі збіраў,
У трызненні белага маю
Самотны паэт паміраў.

Ён ведаў, што болей не ўстане,
Апошнія злічаны дні.
Чаму ж аніхто не загляне
З вялікай і мілай радні?

Няшчасная доля — памерці
У смутку-тузе аднаму.
Дзвярыма на першым паверсе
Хтось грукнуў, здалося яму.

Во — крочыць па ўсходках рыпучых,
Во — клямкаю бразгае ўжо.

І стала ад шчасця балюча:
Няўжо гэта праўда? Няўжо?

О божа! Сама Вераніка!
Яго Вераніка стаіць!
Галоўкаю русай панікла,
Журботна, тужліва глядзіць.

Букет васількоў і рамонкаў
Сціскае ля сэрца рукой…
Праклятая богам старонка
Зайшла да паэта ў пакой!

— Ну, што ж ты стаіш, Вераніка?
Не бойся! Бліжэй падыдзі!
Я столькі гадоў цябе клікаў —
І ўсё заставаўся адзін.

Я зведаў хвіліну адчаю
У гэтай чужой старане.
Цяпер адзінота, я знаю,
Навечна пакіне мяне…

За вокнамі пеніўся буйна
Захмелены ялцінскі май.
За вокнамі ўсплёснула бухта:
— Не плач, Вераніка! Бывай!

Яшчэ ты паспееш самотна
Наплакацца ў горкай журбе.
Яшчэ ты адчуеш, як моцна
Яго не хапацьме табе.

*1965*

* * *

Бярозы ў яркай стыні.
Мароз і цішыня.
Як гэты срэбны іней —
Я чую — дні звіняць.

І сыпяцца патроху
З маіх галін-гадоў

На белую дарогу,
На ўсланы снегам дол.

Ах, сонечныя гурбы!
Калі вас намяло?
Пасівералі губы,
Пасеклася чало.

А ўсё яшчэ здаецца,
Я там, далёка там…
На пыльнай вулцы ўвечар
Стаіць вясёлы гам.

Матуля каля дому
Малечу кліча спаць.
Запознена, знаёма
Калёсы тарахцяць.

У доўгай бурцы конюх
Пляцецца на начлег.
Ля ціхіх падаконняў —
Пярэшапты ды смех.

Драч дзесьці без упынку
Крычыць: «Па-ра! Па-ра!»
Як ластаўка, дзяўчынка
Выпырхвае з двара.

У чорненькай спаднічцы,
У блузцы з міткалю
Бяжыць, каб не спазніцца
На першае «люблю»…

О мілыя трывогі!
Дарма тужу, дарма!
Назад да вас дарогі
Ад гэтых гурб — няма.

Дзяўчыначку, што бегла,
Мне боязна сустрэць:
Пакуль жыву — ёй нельга,
Няможна ёй старэць!

Пакуль той вечар дзіўны
Я ў памяці нашу,

І веру ёй адзінай,
І сам сабе хлушу,

Што будзе зноў змярканне,
І будуць клёны ў сне,
І першае спатканне
Прадоўжыцца ў мяне.

*1965*

* * *

Спявайце, юныя паэты!
Спяліце ў бурах пачуцця
Неўтаймаваны боль планеты,
Непераможны крык жыцця!

Магчыма, вам якраз і здзейсніць
Дзядоў вялікіх запавет:
Узняцца так на крыллях песні,
Каб чуў і бачыў цэлы свет!

Назло прарокам самазваным,
Што глуха каркаць пачалі,
Спявайце спевам нечуваным
На мове любай вам зямлі!

Спявайце, помнячы нязменна:
Пакуль паэты будуць пець —
Не быць Радзіме безыменнай,
Зямлі бацькоў — не анямець!

*1965*

* * *

Краю мой!
Я не знаю,
Як трэба пісаць пра цябе.
Але ведаю-знаю,
Як трэба табой даражыць.
Знаю: мне
Без тваіх даляглядаў

У вечнай журбе —
Ні спяваць,
Ні кахаць,
Ні аб будучым марыць,
Ні жыць!

*1965*

## СНЕЖАНЬСКАЯ ІМПРЭСІЯ

Белыя
сыпяцца долу крышталікі,
Белыя
крышацца хмаркі ўгары,
Сосны
захутаны ў белыя шалікі,
Белая
мітусь у белым бары.
Белая,
мяккая ціша няхрусткая,
Белай
дрымотай спавіты кусты.
Белая
казка… Зіма беларуская…
Што ж
мне не дорыш снягурачку ты?

*1965*

* * *

Жнівень. Арэхі. І жоўтыя восы,
Што заміналі цябе цалаваць.
Першы маток павуціны бялёсы.
Пах пераспелай травы ў галавах.

Недзе на пожні рыпелі калёсы…
Недзе натужна маторы гулі…
Грэшнае шчасце на грэшнай зямлі.
Жнівень. Арэхі. І жоўтыя восы.

*1965*

* * *

На змярканні, калі ў небе зоры
Праступалі, прывідна-няўстойлівыя,
Мы купаліся ў Японскім моры,
Пераездам і спякотай стомленыя.

Цішыня стаяла над затокай —
Пэўна, ветры спалі супакоенымі
Недзе там, у далечы далёкай,
За Курыламі і за Японіямі.

Толькі чуўся хвалі плёскат мерны —
Перашэпты ціхія з каменьчыкамі…
І адходзілі лагодна нервы,
Што здаваліся ушчэнт скамечанымі.

І дзівілася палёгцы цела,
Што нядаўна чулася старлыбінаю.
І ныраў у хвалях месяц белы
Неспайманай серабрыстай рыбінаю.

*1962–1966*

## СЛЁЗЫ ШЧАСЛІВАГА ЧАЛАВЕКА

Даўно калісьці, на пачатку веку,
Марыя Косіч, паэтэса наша,
Пісала ў вершы «На перасяленне»,
Як цяжка людзям пакідаць свой край.

«Мы ж тут свет пабачылі,
Тут мы і ўзраслі,
Маладыя лецечкі
Нашы тут цвілі…»

Я прыгадаў забытыя радкі,
Калі на прыстані ўладзівастоцкай,
Дзе мы чыталі вершы роднай мовай,
Стары мужчына падышоў да нас.

Ён быў расчулены і ўсхваляваны,
Бо хліпаў носам, як дзіця малое,

Мыляў губамі, каб прамовіць нешта,
А словы не даваліся яму.

Калі ж стрымаў сябе ад слёз нарэшце,
Назваўся ціха і сказаў: — Даруйце,
Не спадзяваўся сам, што так раскісну,
Вы ўсю душу разварадзілі мне…

На нашы позіркі ён усміхнуўся
І адказаў: — Я магілёўскі родам.
Перасяленец. Сёлета вясною
Было паўвека роўна, як адтуль…

— І як жывецца вам?
— Жывецца добра.
Настаўнік я, са званнем ганаровым.
І ўзнагароды ёсць. І домік з садам.
Наогул, грэшна скардзіцца на лёс.

Быў малады — расціў сыноў і дочак,
Цяпер унукі ўжо — не хопіць пальцаў,
Каб палічыць… Такім прырос карэннем,
Што не сарвацца з гэтай мне зямлі.

Але вось кожны раз, абы пачую,
Як заспяваюць песню беларусы
Ці загавораць моваю сваёю, —
Так і застране ў горле камячок…

І зноў стары заплюскаў нечакана
І пацягнуўся да вачэй хусцінкай.
А мы стаім, працятыя пытаннем:
Чаго ж ты плачаш, добры чалавек?

Ты сам прызнаўся, што кругом шчаслівы.
Пагадаваў дзяцей. Прыждаў унукаў.
Сумленны хлеб ясі. Да хлеба маеш.
Чаго ж яшчэ табе хацець, скажы?

І праца добрая ў цябе — па сэрцу,
І ад людзей табе хвала-пашана,
І любіш край, дзе так прыжыўся моцна…
Адкуль жа слёзы гэтыя, зямляк?

Няўжо яны ад той лясной крынічкі,
Дзе піў калісьці пастушок вясковы,

Ад той крынічкі, што не перасохла
За пяцьдзесят гадоў? Няўжо адтуль?..

Калі адтуль — тады няхай жа вечна
У сэрцах б'юць і сочацца крыніцы —
Крыніцы тога шчасця, што і ў самых
Найшчаслівейшых
дапытае слёз!

*1962–1966*

## БЫЛАЯ ТУРМА Ў БЕГУНІ*

*Янезу Зору*

У гэтай турме катавалі заложнікаў,
Пасля адпраўлялі далёка ў Дахау
Або недалёка — ў сырую зямлю.

Чытаю на сценах лісты іх апошнія,
Астрожніцкі дух непазбыўны ўдыхаю,
У літарах сэнс незвычайны лаўлю.

Амаль што не кожная споведзь смяротная —
Найшчырая споведзь без Бога і храма —
З адных жа і тых пачынаецца слоў:

«Бывай, мая мамачка!», «Матанька родная!»,
«Даруй мне, матулька!»,
«Не плач па мне, мама»,
«Матуленька, дзе ты? Ці ўбачымся зноў?..».

Да маці, да мамы і з карцараў Бегуні
Ірваліся думкай дарослыя дзеці,
Каб сэрцам іх голас учула здаля.

Да маці, да мамы ў маленстве мы бегалі,
Калі нас, здаралася, крыўдзілі дзесьці…
О маці-заступніца!
Маці мая!..

*1966*

---

* Гарадок у Славеніі.

## ФРАНЯ*

*Барысу Патэрну*

Цішыню над гарамі
Вечар глушыць паволі імглой.
Мы вяртаемся з Франі —
Партызанскай бальніцы былой.

Там, над прорвай цясніны,
На высокім скалістым плячы,
Засталіся хаціны,
Што далі мне на памяць ключы.

Я паклаў іх у сэрца,
Каб аднойчы вярнуцца туды.
Бо і я — спадкаемца
Братняй славы і братняй бяды.

Бо і мне немагчыма
На спакойны настроіцца лад,
Дзе сляпымі вачыма
Пазіраюць легенды з палат.

Дзе цыбатыя нары
Ды пустыя рады тапчаноў,
Дзе крывавілі раны
Самых верных дачок і сыноў.

Іх насілі калісьці
Не па сцежках туды — па вадзе,
Што ў цясніне-калысцы
Не кідала ні следу нідзе.

Толькі сонца, ды вецер,
Ды маўклівы, як сторож, арол
Зналі-ведалі ў свеце
Лёсу іх неразгадны пароль…

Мы спускаемся долу.
Ехаць, Франя, пара. Выбачай.
У дарогу дадому
Нас праводзіць грымучы ручай.

* Знакаміты партызанскі шпіталь у Славеніі.

Там, над прорвай цясніны,
На высокім скалістым плячы,
Засталіся хаціны,
Што далі мне на памяць ключы.

Я паклаў іх у сэрца,
Каб аднойчы вярнуцца туды.
Бо і я — спадкаемца
Братняй славы і братняй бяды.

Бо і мне немагчыма
На спакойны настроіцца лад,
Дзе сляпымі вачыма
Пазіраюць легенды з палат,

Дзе ў сутонні абрыва,
Пад масткамі, што суха рыпяць,
Белапенныя грывы
Над ілбамі каменняў ляцяць.

*1966*

* * *

Замірае,
Сціхае
Мая залатая дуброва,
Асыпае,
Скідае на дол
Свой задумлівы ўбор.
Не звініць і не льецца
Раздольна-вячыстая мова,
Толькі шорхат сухі пад нагамі,
Як скарга-дакор.

А нядаўна ж яшчэ —
На пачатку нядоўгага лета —
Што рабілася тут,
Што за дзіўнае свята было!
Як усё бушавала,
Буяла лістотай і цветам!
Як усё гаманіла,
Спявала,

Гукала,
Гуло!

Колькі радасці чулася
У кожным разбуджаным гуку!
Колькі сілы ўкладалася
У сокат,
І строкат,
І свіст!
Кожны парастак прагнуў
Узвысіцца дрэвам магутным,
Кожны лісцік хацеў
Разрасціся ў агромністы ліст.

Дзе ж падзелася ўсё,
Што заместа вячыстага слова —
Толькі шорхат сухі пад нагамі,
Як скарга-дакор?..
Замірае,
Сціхае
Мая залатая дуброва,
Асыпае,
Скідае на дол
Свой задумлівы ўбор.

*1966*

* * *

Далёка ў полі, на пагорках варненскіх,
Дзе не чутно курортнай гаманы,
Сімфонію часоў яшчэ даварварскіх
У трыста скрыпак граюць цвыркуны.

За кожным стоеным кустом і кусцікам,
На ўвесь прасцяг без межаў і граніц —
Азвончаная незямной акустыкай
Язычаская музыка грыміць!

Здаецца, свет увесь ёй зараз поўніцца.
Яна праходзіць праз мяне ўсяго:
Ты не забудзешся?
Табе запомніцца
На лісцях яблынь срэбнае сяйво?

Яна, здаецца, на зямлі не месціцца —
То адляціць увысь і прападзе,
То раптам зноў вяртаецца з-пад месяца —
І ўглыб начы мяне далей вядзе.

Далей, далей, нязведанай сцяжынкаю,
Дзе водар жніўня соладка п'яніць,
Дзе векавечнай песняй старажытнаю
Сама зямля балгарская звініць.

Забуду многіх музыкантаў хваленых,
Але й прад смерцю прыгадаю зноў —
Далёка ў полі, на пагорках варненскіх,
Язычаскія скрыпкі цвыркуноў.

*1966*

* * *

Не баюся, што мой век нявечны,
Што падамся за дзядамі следам.
Калі міф пра пекла недарэчны —
Дык чаго баяцца стрэчы з дзедам?

Пашкадую толькі, што замала
Даражыў нявечнымі дарамі:
І язміннымі начамі мая,
І дажынкавымі вечарамі.

Пашкадую, што пайду ад гэтых
Дарагіх і мілых сэрцу гоняў,
Што на сцежках-пуцявінах свету
Не пацісну ўжо сябрам далоняў.

А мацней за ўсё я пашкадую,
Перад тым як свет пакінуць весні,
Што ўжо больш ніколі не пачую
Нашай роднай беларускай песні.

*1967*

## ЛІСЦЕ ТРЫПУТНІКУ

А ён расце, трыпутнік,
А ён цвіце, пакутнік!

*В. Вітка. «Трыпутнік»*

Патаптанае,
Здратаванае
Каблукамі і капытамі,
Пакалечанае,
Знявечанае
І машынамі й калясьмі,
Шэрым пылам удзень спавітае,
Невядома чым ноччу ўмытае —
Ці то росамі,
Ці слязьмі.
Дзе такому раўняцца
З іншымі —
Буйнацветнымі,
Ярка-пышнымі,
Што адвеку красою славяцца
І на рынках каштуюць дорага,
Што ў крыштальныя вазы ставяцца
І на ўсіх юбілеях дорацца,
Што кідаюцца ў вочы кожнаму
І прываблiваюць здалёк…
Пагарджанаму,
Прыдарожнаму
І не сніцца падобны лёс!..
Ды хоць вечна яно ўшчуванае,
Як сіроты ў чужой сям'і —
Моц у ім жыве нечуваная —
Моц і сіла самой зямлі.
Гэта ведалі добра продкі
І цанілі трыпутнік некалі:
Скрозь па вёсках
Дзядзькі і цёткі
Карысталіся ім як лекамі.
З апантанай
Паганскай вераю
Мякаць свежых яго лісткоў
Прыкладалі да ран і вераду,
Да нарываў і сінякоў.

А было яшчэ так:
Дзяўчаты,
Перад сном,
Нібы птушкі пудкія,
Вылятал нячутна з хаты
Да нагледжаных днём
Трыпутнікаў,
І зусім не дзеля забавы
(Дыктаваў рытуал абраднасці)
Адрывалі лісток зубамі
І дамоў яго неслі
Ў радасці,
Пад падушку сабе лажылі
І на сон малады загадвалі —
Нібы ў будучыню заглядвалі —
Пра свой лёс яны
Варажылі.
О, як многа тады ім
Снілася
Тога шчасця,
Што ўсё пазнілася!..

*1967*

## РАЎНЯЮЦЬ ХЛОПЦЫ РЭЧКУ

Раўняюць хлопцы рэчку,
Майго маленства рэчку.

Уласна, рэчкі ўжо няма —
Мінулае сканала:
Нібы напятая струна,
Прасцерлася канава.

Віроў, дзе кружыць лісце,
Дзе нас малых каліськці
Русалкамі палохалі, —
Не стала тых віроў,
Дзе шчупакі пялёхалі —
Будзь здароў!
І тых парэчак чорных,
Што над вадой кусціліся,
І птушак незлічоных,

Што ў гушчары гняздзіліся, —
Няма, няма нічога.

Раўнюсенькія берагі.
Раўнюсенькае дно.
Як быццам кут зусім другі —
Не той, што знаў даўно.

І кажуць хлопцы з годнасцю:
«Вы зразумейце ўсё ж,
Што быў тут неабходнасцю
Аперацыйны нож,
Каб выпусціць смярдзючую,
Гнілую з цела кроў,
Каб сховішча гадзючае,
Раздолле камароў,
Што век гібела пусткаю,
Здзівіла свет капустаю,
Буракамі, рэдзькай…
Чаго ж тужыць над рэчкай?»
І я кажу: «Бясспрэчна!
Ліць слёзы недарэчна
Па багне векавечнай,
Па д'яблаў салатопцы…
Я — не пра багну, хлопцы.
Я — пра другое, хлопцы…

Што гэткі век шыбуе —
Тэхнічны, смелы, дужы, —
Прагрэс. Але й бяда:
Ён заадно спрабуе
Раўняць людскія душы.
Мне душ — шкада!
Хай будуць душы розныя,
Як нашы рэчкі родныя:
І з хвалямі бруістымі,
І з плёсамі празрыстымі,
З нябачнымі крыніцамі,
З вірамі-таямніцамі,
З вадзяніком, з русалкамі…
Стандартам іх не руш!
Хай будуць душы ўсякія,
Апроч нялюдскіх душ!»

*1967*

## ХРЫСТА БОЦЕЎ

Як выводзіў Хрыста Боцеў
На дунайскі бераг чэту —
Першай песняй аб свабодзе
Ён назваў хвіліну гэту.

Як адчуў у цемры ночы
Пад нагамі камень родны —
На калені стаў і моўчкі
Цалаваў вапняк халодны.

І падумаў Ваявода:
Выбар лёсу будзе строгі —
Ці магіла, ці свабода,
А назад — няма дарогі.

І хоць кажуць на радзіме:
Між паэтаў ён найпершы,
Хто за волю меч не ўздыме —
Не паэт! Хай спаліць вершы!

У зняволенай краіне
Іх чытаць ніхто не будзе.
Не ў такія дні павінны
Берагчы паэтаў людзі.

Хай на бой вядуць паэты!
Хай мячом пакажуць прыклад,
Як ісці да светлай мэты,
Як пазбыцца ночы прыкрай!

*1968*

## ВЯРТАННЕ

Пагорачкі родныя ў шызай смузе.
За насыпам — жоўты бярозавы пояс.
Бліскучыя рэйкі і радасны поезд:
Дадому,
дадому,
дадому вязе!
Праносяцца будкі, мільгаюць слупкі,
Вітаючы, дзеці рукамі махаюць.

А колы — мелодыі іншай не знаюць:
Дадому,
дадому,
дадому, браткі!
Знаёмая далеч бяжыць да вачэй —
Як любая, насцеж адкрыцца мне хоча.
І сэрца стукоча, і сэрца грукоча:
Дадому,
дадому,
дадому хутчэй!

*1968*

* * *

Мне цёмнай ноччу
Дзіўны сон прысніўся:
Над лесам зорка першая ўзышла
І так прыгожа вейкі развяла,
Што я, знямеўшы, перад ёй спыніўся —
Уражлівы да незямных дзівос —
І ўсё глядзеў і не адводзіў воч.
Яна свяцілася нязвыкла блізка —
Над цішынёю восені бязлістай,
Над моракам таемных дум маіх.
І менавіта ў той шчаслівы міг,
Калі я моўчкі на красу маліўся —
Ад зоркі промень адляцеў і ўпіўся
Глыбока ў грудзі мне,
Няйначай дзіда,
І аж да сэрца вастрыём дастаў.
Я закрычаў спярша ад болю дзіка,
А потым, зубы сцяўшы, тузаць стаў,
Цягнуць, ірваць што сілы ў дзве рукі,
Але было яго нялёгка вырваць,
І я варочаў промень у бакі,
Каб расхістаць яго ў грудзях, як кол,
Забіты моцна абухом у дол.
Калі ж усё-такі рыўком імклівым
Нарэшце выцягнуў — шпурнуў наўзбоч
І… прабудзіўся.

За акном маўклівым
Яшчэ цямнейшай мне здалася ноч.

*1969*

* * *

«Падыміся над бядой і болем,
Калі ты не кволы чалавек…»
Я — не волат. Я бываю кволым.
Часам слёзы бліснуць з-пад павек.

Над сваёй бядой, сваёй загубай
Я ўздымуся… Ды не дай ты бог,
Каб над болем Бацькаўшчыны любай
Я падняцца калі-небудзь мог!

*1969*

* * *

Углядайся, мой сыне, пільней углядайся
У святыя абрысы бацькоўскай зямлі.
На чужыя спакусы душой не паддайся,
Каб нашчадкі мяне за свой лёс не клялі.

Каб не ўспомніла горкім дакорам краіна:
«І чаго ён быў варт, і нашто было жыць:
Нават сына свайго, нават роднага сына
Не ўразуміў, чым трэба ў жыцці даражыць!..»

*1970*

* * *

Тут, між гэтых пагоркаў, у гэтых барах і дубровах,
Каля гэтых азёраў і рэк, каля гэтых крыніц,
Узышла і ўзрасла на вякі наша родная мова —
І ніякай інакшай яе немагчыма ўявіць.

Кожным гукам і словам — па каліўцу — тут прарастала
Разам з кожнай травінкай і зёлкай — найменнямі іх.

Што ж за дзіва, што нашай душой неўміручаю стала?
Мы ж і самі ўзышлі і ўзраслі тут з глыбінь векавых!

*1970*

* * *

Ісціна, адвечная, як свет:
Шчасце ходзіць толькі ў пары з горам.
За надзеяй — боль зняверу ўслед.
За пашанай — прыніжэння сорам.
За святлом знаходкі — горыч страты,
За агнём любві — разлукі снег.
За абдымкамі — падножка здрады…
Ісціна, адвечная як свет.

*1970*

* * *

Пашкадуем, і моцна яшчэ пашкадуем,
Як да розуму прыйдзем (а прыйдзем, відаць!),
Што, пра будучнасць дбаючы, гэтак бяздумна
Завіхаліся памяць сваю абкрадаць.

Ш таўсцейшым куском, ні капейкаю большай
Апраўдаць гэту «чыннасць» не зможам павек,
Бо як правільна ў кнізе напісана Божай:
Не адным толькі хлебам жыве чалавек.

*1970*

* * *

Гукі сяла, што паволі ўкладаецца спаць:
Гоман, і воклічы, і вуркатня матацыкла,
Бразганне вёдзер, і нейкага румзалы плач,
Галас сабачы, — усё так знаёма і звыкла.

Тут, дзе стаю на пагорку, так добра чуваць,
Як уздымаюцца, падаюць, зноў узлятаюць,

І не ў даліне, а ў сэрцы маім заміраюць —
Гукі сяла, што паволі ўкладаецца спаць.

*1970*

* * *

Тут не хочацца ні гаварыць, ні пець —
Нібы к вечнасці прыйшоў у госці.
Можа, гэта той курган-капец,
Дзе ляжаць паэтаў даўніх косці.

Каб жыццё ўпустую не пралахаць,
Кожны мусіць нейкі храм свой мець,
Дзе не хочацца ні гаварыць, ні пець —
Толькі моўчкі, безгалоса плакаць.

*1970*

* * *

Даруйце, родныя бары і пушчы,
Зямлі бацькоўскай неацэнны скарб,
Што — не глухі і не сляпы — відушчы, —
Не чуў, не бачыў вашых слёзных скарг.

Ламаў вам рукі варвар, рэбры трушчыў,
Смаліў агнём, жалезамі крамсаў…
Даруйце, родныя бары і пушчы:
Не ведаў я, што з вамі гіну сам.

*1970*

* * *

*Івану Мележу*

Як чараўніца на нябачных кроснах,
Ноч тчэ над лесам цёмны полаг свой.
Во — чуцен шоргат панажоў марозных,
Во — зарыпеў прастуджана навой.

У край маленства памяць адбягае.
І тчэ і тчэ старую казку ноч,
І ў мутных хмарках месячык мільгае,
Як паміж ніцяў срэбраны чаўнок.

*1970*

* * *

Цераз зараснік інею ў ранішнім лесе
Прабіраецца сонца — ціхусенька так,
Затаіўшы дыханне: хаця б не атрэсці
Гэты цуд, што стварыў найвялікшы мастак.

І ўсё ж нейкую нітачку дзесь зачапіла:
Скалыхнулася голка — пыл срэбны курыць…
Ну і ну! Нават дотыку промня хапіла,
Каб, парушыўшы чары, красу разбурыць!

*1970*

## У ЧАКАННІ КРЫГАЛОМУ

Гэта здарыцца, напэўна,
На світанні… На світанні
Трэсне радасна і гнеўна
Гром у пойме, за сялом.
Я павінен гэты момант
Не праспаць ні ў якім разе
І пачуць на слых уласны,
Што пачаўся крыгалом.

І пабачыць, і пабачыць,
Як вада напорна хлыне,
Разняволеная ўрэшце
Ад аковаў ледзяных.
Прыгажэйшага на свеце
Я відовішча не знаю,
Чым пачатак крыгалому,
Чым свабоды першы міг.

*1970*

## БЫЛАЯ СЯДЗІБА АСАДНІКА

На ўзлеску, дзе трава буяе дзіка,
Дзе захмызеў удзірванелы дол,
Калісь асадніка была сядзіба —
Чужынца-пана ўтульнае гняздо.

Ён думаў тут навек укараніцца
І ўсё загрэбці, ўсё прыбраць да рук:
І лес, і луг, і поле, і крыніцу,
І нават песню, што пяе жаўрук!..

Ён азіраў куток — амаль не райскі —
І верыў: «Я тут гаспадар адзін!
А ўсе Сымоны, Пётры ды Параскі
У служках будуць у мяне хадзіць.

«Я выб'ю, выб'ю, — паўтараў ён хмура, —
Бунтоўны дух з тутэйшага хам'я:
Мая тут будзе панаваць культура,
І мова будзе тут гучаць мая!..»

Гугнелі модлы пад жалезным дахам,
Грымелі клямкі, бразгалі замкі.
А двор мычаў, і рохкаў, і кудахкаў,
І гагаў, і брахаў, — на ўсе бакі!..

І вось — нічога: ні двара, ні дома,
І цішыня — як быццам дзень аглух.
Адзін падмурак выступае з долу,
Ды яблыні здзічэлыя наўкруг…

Гляджу і думаю: які нялюдскі
І марны лёс асадніцкіх сядзіб!..
На ацалелым камені-прыступцы,
Як дух пустэчы, яшчарка сядзіць.

*1970*

* * *

Ах, якая над Гайнай купальская ноч!
Самы раз бы шукаць кветку-папарацъ,

Самы раз уплятаць летуценні ў вянок,
Самы раз белы корань выкапываць!

Ды ні гуку над Гайнай — пад цёмным шатром.
Толькі зоркі — як вочкі Купаліны.
Дзе ж вы, хлопцы, дзяўчаты? Чаму за сялом,
Над ракою, агні не запалены?

Раскладайце, паліце Купалля агні!
Не затым, каб ускрэсла мінуўшчына,
А каб лепей убачыць наступныя дні,
Да вытокаў душой дакрануўшыся…

Раскладайце агні — хай плывуць па рацэ,
Можа, ў зыркім святле іх вы ўгледзіце
Постаць Янкі Купалы з кійком у руцэ —
Запрасіце яго прысуседзіцца!

Ён вас, пэўна, папросіць «Каліну» спяваць
І, напэўна, ад слёз не стрымаецца,
Скажа: «Ах жа, якое купалейка ў вас!
Ах, якую вы спадчыну маеце!..»

*1970*

## ЗОНА КУПАННЯ

За ўзмахам узмах — толькі пырскі ўбакі,
Як сонца жывыя асколкі.
Наперад, васпане! Смялей за буйкі!
Ні страху, ні стомы — нісколькі.

Якісь незнаёмы вар’яцкі азарт,
Якаясь нязнаная радасць.
І думкі няма азірнуцца назад —
На тлумнага пляжа стракатасць.

Як хораша хвалі сячы-разграбаць,
Што весела мкнуць без атхлання!
І раптам — сярдзіты агучаны бас:
— Вярніцеся ў зону купання!

Адразу не цямлю: няўжо гэта мне?
Плыўцом жа быў добрым калісь я!

— Гэй, там, за буйкамі! Ты чуеш ці не?
У зону купання вярніся!..

«Чаго ён дзярэцца? Малы я, ці што?
А йдзі ты, таварыш, да д’ябла!
Не шныраць акулы. Не блізіцца шторм…»
І зноў я махаю заядла.

Тады загрымела маторка, як гром,
І побач крутнулася гнеўна.
— Ну, што ты — аглух тут?
Вось з’еджу вяслом —
Дык зробішся чуйным, напэўна!..

Дзяцюк на дзяжурстве: парадак яму
Даражэй майго парывання.
Я ўсё разумею і моўчкі таму
Вяртаюся ў зону купання.

Там дзеці з кругамі таўкуцца гурмой,
Бабулі пыхцяць на матрасах…
Хоць мелка, хоць брудна — затое спакой:
Не страшна ніякая трасца!

*1970*

* * *

Бомы жаўранкаў у звечарэлым полі,
Там, дзе студзіць цёплы дол раса,
Дзе з жытнёвых каласоў паволі
Выплывае божая краса.

Для няпрагных — гэтага даволі:
У вар’ята-века вырваць міг
І паслухаць моўчкі, удваіх,
Бомы жаўранкаў у звечарэлым полі.

*1970*

* * *

Самотны зяблік у тузе-журбе
На дождж і холад зноў варожыць звечара:
І я не рад ягонай варажбе
У шыгаллі старой сасны знявечанай.

Мне дождж і холад збрыдзелі даўно:
Нідзе не выйсці — скрозь цячэ і цэдзіцца.
Гляджу на шлях, а мутнае акно —
Ці ты, ці не? — мне не дае прыгледзецца.

*1970*

* * *

Як сумна-тужліва зязюля кукуе ў бары,
На познім змярканні, насупраць мядункавай ночы!
Адкуль гэта жальба — у розгар маёвай пары?
Адкуль гэты смутак — такі непрытворна сірочы?

Вячэрайце ў хаце, а я пастаю на двары.
Па мне не турбуйцеся — піце, гуляйце шчасліва.
Павінен жа нехта паслухаць, як сумна-тужліва
Зязюля кукуе на познім змярканні ў бары.

*1970*

## ЗАНАДТА СЯРДЗІТАМУ КРЫТЫКУ

Не хавай мяне, браток, жывога,
Пачакай, паспееш пахаваць.
Мне зрабіць яшчэ патрэбна многа,
Шмат яшчэ дзе трэба пабываць.

Я не ўсіх яшчэ са шчырай песняй
Абышоў, і павітаў сяброў,
І не ўсім яшчэ паклон адвесіў
За дабро, за хлеб і за любоў.

Я не ўсё яшчэ раздаў, што маю:
Я збіраў свой скарб дзесяткі год

І ў труну з ім легчы не жадаю —
Марнатраўцам назаве народ.

Дый чаго табе ўжо так спяшацца?
Я ж адсюль нікуды не збягу.
Ці баішся: як бы не застацца
Перад чалавецтвам у даўгу?..

У паэтаў — нават несмяротных —
На планеце не салодкі лёс.
Дык нашто ж ты, мой каханы-родны,
Адчапіў аглоблю ад калёс?

*1971*

* * *

Як цяжка,
Як душна
Ад фальшу і бруду!
Душа — як на катарзе,
Хоць і не ў ссылцы.
І бачу —
Па злобнай чыноўнай
Ухмылцы, —
Што катаргі гэтай
Я век не адбуду.

*1971*

* * *

Зноў у спадчыну прадзеда лезу,
Каб яшчэ раз душою дапасці,
Як пад вечныя пошумы лесу
Гнеў спяліў ён у думах аб шчасці.

Як ён прагнуў з нядоляй расстацца,
Як ён марыў аб братняй суполцы,
Каб не чуцца абкрадзеным старцам
І не плакаць слязамі прапойцы!

*1972*

* * *

І ў лугах беларускіх, напэўна, цяпер ужо вечар:
Дрэмлюць соладка травы, паснулі кусты над крыніцаю.
Спі і ты, як травінка, а я за цябе па-язычніцку
Памалюся на неба, на зорак маўклівае веча.

Пра цябе ды радзіму — адна ў мяне дума і думачка,
Хоць малітвы маёй ты за даллю далёкай не чуеш
І не знаеш, як горача, як апантана шапчу я:
«Спі, мая лугавая, мая залатая мядуначка!»

*1972*

* * *

У гэты век, што адвучыў маўчаць,
У кожным абудзіўшы сверб размовы,
Я веру у нясказаныя словы,
Якім, магчыма, і не прагучаць.

Дзівак, наіўны, смешны, як дзіця,
Я веру ў іх, як веруючы — ў догмы.
І гэтай веры хопіць мне надоўга.
Ва ўсякім разе — да канца жыцця.

*1972*

* * *

Жанчыны вёсак беларускіх, вам
Я кланяюся ўклонам самым нізкім —
За кожную іскрынку хараства,
Што ззяе ў слове, ад калыскі блізкім.

Пачуеш вас, не зманеных маной, —
І весялей глядзіш у твар эпохі.
Дык пасядзіце ж, любыя, са мной,
Пагаманіце, пагукайце трохі…

*1973*

* * *

Я — за прагрэс. І сэрцам і душою.
Ды і чаму мне не вітаць прагрэс?
Куды ні глянь — мой край, як сад вясною,
Непазнавальна абнавіўся спрэс.

Адну надзею толькі ў сэрцы маю
(Пра гэта скажа нехта, як пра грэх),
Што родны край і праз вякі пазнаю
Па песні матчынай… Я — за прагрэс.

*1973*

## ПЕРШЫ ВЯСНОВЫ ЛІВЕНЬ

Яго чакалі мы на кожным дні,
І ўсё ж уразіў ён, як нечаканасць:
Густы і цёплы, хлынуў з вышыні —
Змываць пазім’е, разганяць заспанасць.

І ты, пад музыку мільёнаў струн,
Шчаслівы, шэпчаш: «Верце, людзі, верце —
У дружны рост усходаў і задум,
У добры плён на ніве і на сэрцы!»

*1973*

* * *

Лес ачнуўся, лес вялікадне святкуе —
Вунь як весела ў зялёнай грамадзе!
Толькі дуб адзін вясны як бы й не чуе —
Нават леташнім лістом не павядзе.

Не да твару дубу ў гурце мітусіцца
І вітаць агульным шумам навізну.
Ён пазней за ўсіх павінен заявіцца
На ўрачыстасць — і сказаць: «Пачнём вясну».

*1973*

* * *

«Нашто трымацца так за памяць продкаў?!» —
Скрывіўся крытык, прачытаўшы вершы.
О, тонкі майстар каверзных папрокаў,
Схавай капусны храпак, што жуеш ты!

Паразумецца нам не ўдасца, мусіць:
Мяне — радзіла ў цяжкіх муках маці,
Цябе — гатовага знайшлі ў капусце:
Табе — даволі за качан трымацца!

*1973*

* * *

І жэніцца і родзіць вёска слаба.
Гісторык з часам знойдзе веку штрых:
У кожнай хаце — толькі дзед ды баба,
У кожным класе — толькі сем малых.

А помніцца: на школьны пляц-падворак
З адной сям'і нас бегла семярых…
Ці зразумее будучы гісторык,
Як мне ўпіваўся ў сэрца «веку штрых»?

*1973*

* * *

Ах, як вітаў ён песняй родны кут —
Салоўка шэры на світанні веснім!
Слязамі шчасця плакаў росны куст,
Зямля і неба слухалі знямеўшы.

І чалавек прачнуўся ў гэты час.
З вялізнымі вушамі быў, а птушку
Пачуць не змог: злавіў у скрынцы джаз
І громкасць уключыў на ўсю катушку.

*1973*

* * *

Тут, дзе вучыўся і араць і сеяць,
Адкуль панёс і песню ў свет сваю,
Я з пасівелай галавой стаю
І слухаю асін журботны шэлест.

І неадчэпна ў ціхай мове лісця
Адно пытанне ловіць прагны слых:
«Скажы, ты шчаслівейшы стаў за тых,
Што тут араць і сеяць засталіся?»

*1973*

* * *

*Пімену Панчанку*

Вясковы ранак на пачатку чэрвеня,
З пары маленства выклікаsuccessfullyаны памяццю:
Каровы пасвяцца па роснай шэрані,
З сяліб дымкамі цягне — печы паляцца,
А росы колкія — аж бегчы хочацца,
А неба сіняе — аж перасінена…
Вясковы ранак — як маленства, сонечны,
І беларускі — як усмешка Пімена.

*1973*

* * *

Балюча — быць ахвярай нечай,
Падсудным злыднем быць — ганебна,
Нялёгка — мерай чалавечай
Караць віну, хоць і патрэбна.

Які ж цяжар, якая кара,
Калі, спасцігшы лёс свой трудны,
Ты сам — суддзя, і сам — падсудны,
І сам — падсуднага ахвяра!

*1973*

* * *

*Н.*

У звечарэлым садзе, што, цямнеючы,
Туліўся ў першай восеньскай журбе,
Я прыгарнуў твой ценькі стан, няўмеючы,
І ўпершыню пацалаваў цябе.

Пасля… пакуль з вачэй не знікла ў засені —
Стаяў адзін на гулкай паласе…
Ах, як жа тахкалі твае абцасікі!
Ад стуку — грудзі, думаў, разнясе!

*1973*

* * *

Не будзем, любая мая, не будзем
Наўзахап шчасце коўзкае лавіць.
З таго, што суджана на свеце людзям,
Хай неба нас адным благаславіць:

Душэўнай згодай аж да дзён апошніх,
Каб на крутых заломах зім і лет —
Ні ўдар злабы, ні лёсу горкі посмех
Не раздваіў наш непадзельны свет.

*1973*

* * *

Сцюдзёнага квасу мне гляк падала,
Сказала: «Прабуйце, пітво неблагое…»
А доле — блізняты: адно і другое
Ляпечуць і тузаюць край падала.

На рукі схапіла абодвух зараз —
Цалуе і кружыцца з імі па хаце…
Шчаслівыя дзеці. Шчаслівая маці.
І смачны на дзіва бярозавы квас!

*1973*

* * *

Гады прад сабою раскіну наўсцяж —
І бачу: не раз і не двойчы
Мне радасць мільгнула, як грыб-звадыяш, —
Паганка, іначай, ці «воўчы».

Угледзіш — і шчасцем асвеціцца бор!
Але праз секунду-другую —
З усмешкаю горкай саб'еш мухамор
Ці порхаўку стопчаш рудую.

*1973*

* * *

«*М*не не вельмі даспадобы рай прынадлівага поўдня,
*І* скажу табе — хоць, можа, нехта фыркне з абурэння:
*Л*юд на пляжы — агрэсіўны, мора — цёплае, як пойла,
*А* мядуз — аж гідка лезці: што ў балотцы жабурыння!
*Я*к на здзек — на кожным кроку прапануюць за рублёўку
*М*не зазняцца — у абдымку з нейкай стромай вастраверхай…
*А*дным словам — прыязджай ты! А то, кінуўшы пуцёўку,
*Я* прыеду сам — прыпруся ўслед за гэтым акравершам!»

*1973*

* * *

Вясна — і свежы пень заплыў слязьмі:
Як страшна плача родны дол па дрэве!
Мурашкі чорныя, ажыўшы на прыгрэве,
Ужо спраўляць памінкі напаўзлі.

Быў густалістым клёнам гэты пень —
І мы з ёй лівень тут перачакалі…
Не, вы не дрэва, людзі, спілавалі —
Вы спілавалі мой шчаслівы дзень!

*1973*

* * *

Знаю: мне не вяртацца гэтым шляхам ніколі —
На апошнюю ростань, на спатканне з былым.
Белай стужкай дарога раскацілася ў полі,
А па ўзбоччы дарогі — толькі шызы палын.

Ад запозненай мары, ад шчаслівай трывогі
Мне навек застанецца сумна-горкі ўспамін.
Сонцам плавіцца далеч, дзень самлеў ад знямогі,
А па ўзбоччы дарогі — толькі шызы палын.

*1973*

* * *

Паклон табе, мой беларускі краю!
Ты — мой, я — твой; адроду і навек.
Я зноў і зноў да сэрца прыкладаю
Твой ліст дубовы — як чароўны лек.

За хлеб, што ем, за песні, што спяваю,
За шчасце звацца іменем тваім —
Паклон, паклон табе, мой родны краю!
Ты — мой, я — твой: усюды і ва ўсім!

*1973*

* * *

Усё ў чалавеку, што робіць яго чалавекам:
І памяць, і клопат надзённы, і мараў разбег.
Таму і не проста яго зразумець, што ў сабе
Сучаснасць ён лучыць з мінулым і будучым векам.

Як дрэва карэннем у доле, у сховах нябачных,
Лістотай у сонцы, насеннем — у заўтрашнім дні, —
Таксама і ён: да жыцця паўстае з глыбіні,
Каб сцвердзіць сябе і застацца ў нашчадках
удзячных.

*1973*

* * *

Пакуль я доўга ехаў на кірмаш,
З усходам сонца выбраўшыся з хаты, —
Было ў мяне надзей святочных шмат,
Чаканнем радасці я быў багаты.

Цяпер я еду з кірмашу назад,
І ўсіх надзей — што па дарозе ў вёсцы
Мяне пярэйме швагер або сват
І, добрая душа, зацягне ў госці.

*1973*

* * *

Я столькі памылак зрабіў у жыцці
(А гэта ж — грахі перад Богам!),
Што, мусібыць, як ні круці, ні вярці —
У пекла мне ляжа дарога.

Але каб Бог ведаў, што я пераджыў
Сам-насам за тыя памылкі —
Напэўна, сказаў бы: «Ты рай заслужыў:
Анёл цябе прыме ў абдымкі».

*1974*

* * *

Вясновы вечар. На нагах маіх
За доўгі дзень, як зоры, цыпкі выспелі.
Апанаваная якімісь мыслямі,
На ўсходках ганка мама гоіць іх.
Вяршынкай мажа моўчкі, не ўшчуваючы,
Прыемны, мяккі халадок кладзе.
І раптам кажа: «Чуеш, у гняздзе —
Шчабечуць ластавачкі засынаючы…»

*1974*

* * *

Нам разам трыццаць. Мы стаім на кладцы.
Яна свавольна туфелькі зняла,
Падаўшы мне далонь, каб не сарвацца,
Сцюдзёнай хваляй ногі абдала.
Пасля… Пасля: «Шчаслівა заставацца!»
І без мяне да берага пайшла.
На белай кладцы мокрыя слядкі —
Як першай песні мілыя радкі.

*1974*

* * *

Над белым светам сумавала танга.
І зноў і зноў у песеньцы старой
Мне чуўся сум апошняга расстання —
Ды не чыйгосьці, а майго з табой.

Майго з табой!.. І зноў і зноў ад болю
Сцінала сэрца, кроіла, пякло, —
Хаця на белым свеце ў нас з табою
Яшчэ і першай стрэчы не было.

*1974*

* * *

Святочны, старажытны дух калядны,
Магічны дух язычніцкіх акрас,
Смалення дух, дух кмену і каляндры,
Дух на шасце падвешаных каўбас,
Калісьці ўсемагутны, усеўладны,
Што ж на «куццю» ты не збіраеш нас?
Як неўпрыкмет ты выветрыўся, дух,
І з нашых хат, і з нашых песень-дум.

*1974*

* * *

*Памяцi Максіма Гарэцкага*

Дзе вы, дбайныя руплiўцы гоняў родных?
Мы сягоння ў працы побач быць маглі б.
Маладых яшчэ скасілі вас нягоды,
Адарваўшы ад бацькоўскіх гнёзд-сялiб.
Але вера, што калiсьцi вас натхняла
У вялiкаснай сяўбе i на жнiве, —
Тая вера не памерла, не сканала:
Тая вера, тая вера ў нас жыве!

*1974*

* * *

Толькi б ведаць, а шчаслiвы быў бы,
Што мой сцiплы плён не прападзе
I на роднай матчынай сялiбе
Хоць камусьцi ў сэрца западзе.

Хоць адзiным парасткам узыдзе,
Прарасце, праб'ецца да святла…
Толькi б ведаць, а не быў бы ў крыўдзе,
Што нямнога доля мне дала.

*1974*

* * *

Кажуць: недзе ласкай абышлi
I тым самым скрыўдзiлi паэта.
Штосьцi языкi тут наплялi:
Не магло яго пакрыўдзiць гэта.

Калi ён не блазен, а паэт —
То ў чарзе за ласкай млець не будзе.
Ласка праўдзе засланяе свет.
Ад яго ж чакаюць праўды людзi.

*1974*

* * *

О так, паэт — вялікі выдумляка,
Але не хлус, не цёмны звадыяш.
У выдумках яго — бяды ніякай:
За праўду ён не выдае міраж.

Аб шчасці летуценячы замнога,
Грымасам фальшу верачы парой, —
Калі й ашуквае — дык сябе самога,
Калі й смяецца — дык з бяды сваёй.

*1974*

* * *

Не дачакаўшыся сыноў *адтуль* —
З вайны вялікай, з прорвы апраметнай,
Сышлі ў магілу тысячы матуль —
Марыль, Парасак, Кацярын, Настуль —
Сышлі звычайна, ціха, непрыкметна,
Як і жылі пад зоркай пракаветнай…
Што ў міг апошні думалі яны?
Што іх дзяцей не будзе ля труны.

*1974*

* * *

Хачу ўявіць — і не магу ўявіць
Усмешку ў вуснах цёткі Міхаліны,
Што аддала вайне дачку і сына
І ўжо даўно сама на ўзгорку спіць.
Няўжо не заўсміхалася ніколі?
Не можа быць: хоць зрэдку, хоць няўзнак
Яе душа адходзіла ад болю…
Але прыпомніць — не магу ніяк.

*1974*

* * *

Гаварыце з чалавекам, покуль ён між вас, жывы.
Не лічыце марнай справай — пацікавіцца, спытацца,
Што ён думае, напрыклад, пра свабоду, роўнасць, брацтва?
Або — як ён разумее абавязкі і правы?

Вось ён з вамі развітаўся, а не ведаеце вы,
Што душа зіхцела россыпамі дум, як луг расою:
Мог бы шчодра падзяліцца — а забраў усё з сабою…
Гаварыце з чалавекам, покуль ён між вас, жывы.

*1974*

* * *

Гыля, гыля, вершаняты, вершаняты-птушаняты!
Годзе песціцца, туліцца у душы, як у гняздзе!
Хоць і страшна — бласлаўляю вольны вырай ваш крылаты:
Хай вам добра будзе ў небе, на зямлі і на вадзе!

Толькі вы хутчэй дужэйце — кволым выжыць будзе цяжка:
Ці каршун у кіпці схопіць, ці падстрэліць браканьер.
Я ж пачую і заплачу: «Вершанё маё, дзіцятка,
І нашто цябе радзіў я, каб пакутаваць цяпер?..»

*1974*

* * *

Вечна спяшаемся, вечна няма нам калі:
Пешшу даўно ўжо не ходзім па грэшнай зямлі.
Як на пажар усё роўна, нас колы нясуць
Міма бяроз на прыгорку — цнатлівых красунь,
Міма крынічкі, што ціха з-пад каменя б’е,
Міма салоўкі, што ў кусце альховым пяе…
Так і імчымся, ляцім міма шчасця свайго.
Што нас прымусіць задумацца: а для чаго?

*1974*

* * *

Страціў слова, страціў спадчыннае слова —
Штосьці страціў у душы абавязкова!
Можа — годнасці хоць кропельку малую?
Можа — мудрасці хоць дробачку якую?
Можа — памяці хоць зернетка-іскрынку?
Можа — праўды хоць пылінку-парушынку?
Я не ведаю дакладна, што ты страціў.
Запытайся — ці не скажа табе маці…

***1974***

* * *

Паэт і фізік-атамнік у нечым
Усё-такі падобны між сабою.
Душа паэта — то ж рэактар вечны,
Што выпраменьвае часціцы болю
І сотні тысяч сэрцаў чалавечых
Бамбардзіруе імі без адбою,
Каб шляхам ядзернага расшчаплення
Прывесці ў рух энергію сумлення.

***1975***

* * *

Куды ні глянь — над дахам строй антэн,
Ва ўсіх кватэрах — свецяцца экраны.
Сядзі сабе ў цяпле, між родных сцен,
Як вязень, сам сабою пакараны, —
Гадай пра сэнс пачутых перамен,
Перажывай краін далёкіх драмы…
Табе зрабіўся блізкім цэлы свет!
А ці бліжэйшым стаў табе сусед?

***1975***

## МОЙ БЕЛЫ ДЗЕНЬ

І я стаяў над прорвай роспачы,
І ноч мне цемрыла душу,
І думаў, ліст слязою росячы:
Нічога больш не напішу.
Але вяртаўся промень страчаны,
У сэрцы плавіўся лядзень,
І зноўку вера ў слова матчына
Свяціла мне, як белы дзень!

***1975***

## КАЛІ Я ЖЫЎ?

*Падказка для нашчадкаў*

Калі я жыў?
Адказ на гэта
Зусім не цяжка будзе даць,
Бо ёсць дакладная прыкмета,
З усіх найверная, відаць.
О, невясёлыя гады
Майго жыцця!
Я жыў тады,
Калі вучылі ў мове рускай
У нас і горад і сяло,
І на ангельскай, на французскай,
І на іспанскай — аж гуло,
На выкапнёвай стара-прускай,
На мове інкаў і этрускаў
Таксама хораша ішло,
І толькі роднай беларускай
У школах месца не было.
Ну, а калі не вучыць школа
І гоніць мову за парог —
То як жа ёй гучаць наўкола,
Ды так, каб свет прывеціць мог?
Калі пануюць запраданцы,
Што прадаюць свой родны край
За чужаземныя акрайцы, —
Ад іх спагады не чакай.
Даруе ўсё іх суд суровы —

Забойства, кражу, гвалт і здзек,
Адно любоў да роднай мовы
Вам не даруецца павек.
Такі — мой час!
Такім і ўвойдзе
Ён у гісторыю зямлі,
Дзе нашай мовай у стагоддзях
Калісь пісалі каралі.

*1976*

## УРОК СУЧАСНАГА ТАНЦА

Танец не вельмі складанай навукі:
Станьце й таўчыце нагамі памост,
Скурчыўшы — соўгайце перадам рукі,
Быццам бы фігі партнёру пад нос.

Твар пажадана зрабіць абалдзелы —
Цэніцца зараз уменне «балдзець».
Помніце: трэнінг выключна для цела!
Дух ні пры чым тут — хай стоіцца дзесь!

Танец асвоіла ўсё заграніччa:
Лондан і Вена, Н'ю-Йорк і Бамбей…
Чэравам, чэравам больш энергічна!
Сцёгнамі, сцёгнамі больш весялей!

Хай сабе круціць там польку ці вальса
З бабкай Грыпінаю дзед Панцялей.
Таліяй, таліяй болей віхляста!
Бёдрамі, бёдрамі больш весялей!

Што за няёмкасць? Куды гэта варта?
Кіньце прыстойнасць на сметнік скарэй!
Пупікам, пупікам болей азартна!
Копчыкам, копчыкам больш весялей!

Прэч сарамлівасць! І цноту — да д'ябла!
Секс распаляйце ў партнёра смялей!
Персямі, персямі болей заядла!
Чрэсламі, чрэсламі больш весялей!..

Так і таўчыце, віхляйце, «балдзейце» —
Вельмі не блага засвоілі ўрок!..
Заўтра на танец хай прыйдуць і дзеці —
Трэба ж скіроўваць і ў будучынь зрок.

*1978*

## ПАРАДА МАЛАДЫМ ЧЫТАЧАМ

Вам, маладым будаўнікам і творцам,
Каб меншыя цярпець няўдачы-страты,
У наш вучоны век я раю моцна:
Чытайце казкі, хлопцы і дзяўчаты!

Так, так, старыя казачкі чытайце.
Не думайце, што вы, маўляў, даўно ўжо
З іх выраслі, як з вопраткі дзіцячай,
Асвоіўшыся з кніжнасцю найноўшай.

З іх кожнай фабулы, зусім нядоўгай,
Вы зразумееце шмат мудрых ісцін:
Чаму лісе не трэба верыць дохлай,
Як гэта дзед адзін зрабіў калісьці;

Чаму палонікам, з размаху, дзятла
Не трэба біць на галаве ў дзіцяці,
Чаму сабаку «воўчыцца» не варта
Перад старым канём на сенажаці;

Чаму ваўку не трэба камізэлька
З двума радамі гузікаў на бруху;
Чаму царэвіч там, дзе ўпала стрэлка,
Узяў за жонку брыдкую рапуху;

Чаму быў вымушаны памірыцца
Музыка з яшчаркай, як гора ўспала;
Чаму, пабыўшы ўжо царом з царыцай,
Дзед зноў стаў дзедам, баба — бабай стала.

Чаму не трэба быць такім бязглуздым
І легкаверным, як мядзведзь у яме,
Што зачарэпіў сам свае гізунды
І выцягнуў іх лапай з пазурамі…

Навукі мудрай — край там непачаты!
Таму й кажу вам: у жыцця на старце —
Чытайце казкі, хлопцы і дзяўчаты!
Старыя казачкі часцей чытайце!

*1978*

* * *

Мае равеснікі, з якімі, помніцца,
Прызыўнікамі разам мерзлі-моклі,
Даўно стаяць на капітанскіх мосціках —
У белых кіцелях і пры біноклях.

Абводзяць даль паглядам трыумфатара,
Раз-пораз гладзяць на грудзях калодкі.
І мроіцца за лініяй экватара
Ім адміральскай славы хлеб салодкі.

А мне па сэрцу чын матроса простага
(Хоць пэўна ў мічманы я змог бы выйсці).
Упэўніўся — пасля вясёлых роздумаў:
З такіх, як я, — у труме больш карысці.

Я ля машын хаджу, ля гулкіх дызеляў,
Прапахлы ўвесь мазутам і саляркай,
Бянтэжуся я капітанскіх кіцеляў
І не зайздрошчу белізне іх яркай.

Адно я ў гэтым рэйдзе цвёрда ведаю:
Каб карабель праз штормы-ураганы
Прыбыў шчасліва ў прыстань запаветную —
Я мушу службу несці без заганы.

Бывала горка мне. Ды не зняверыўся
Я ў лёсе ўласным. І ў сябрах таксама.
Бо сэрцам я заўжды на родным беразе —
З яго лугамі, нівамі, лясамі.

І калі ўрэшце выйду я на палубу,
Як у старой той песні, ледзь прытомны,
І вочы памутнеюцца запалыя,
І ў іх апошні раз успыхнуць промні, —

Падхоплены сяброўскімі, рабочымі
Рукамі моцнымі, я гляну ўперад
І прашапчу: «На родны бераг, хлопчыкі,
Хоць жменяй попелу — на родны бераг!..»

*1978*

## ЛІРЫЧНЫ КАМЕНТАР ДА НАШАГА РАДАСЛОЎЯ

Мы ўзышлі не з насення, што ветрам занесена, —
Мы не дзікай травы самарослыя парасткі
У глыбінях зямлі, гераічнай і песеннай,
Нашых душ карані — з вузлякамі упартасці.

Сокам вотчынных гоняў адроду мы ўспоены,
Сонцам родных нябёс мы з маленства аблашчаны,
Як асілкі-дубы над дняпроўскімі поймамі —
Паяднаныя часам нашчадкі і прашчуры.

Мы на золку далёкім ардзе не скарыліся,
Славай Грунвальда выйшлі ў вялікія ратнікі.
Нас будзіў да святла стук друкарань скарынінскіх.
Да братоў мы гарнуліся сэрцамі братнімі.

Каліноўскі дарэшты пазбавіў нас кволасці —
Веру-мужнасць сваю завяшчаў нам з-пад вісельні.
З гнеўнай лірай Купалы і з эпасам Коласа
Мы спазналі сябе і свой голас узвысілі.

Гэтай повязі кроўнай, якой мы прывязаны
Да бацькоўскай зямлі, не парвуць, не растурзаюць
Аніякія буры-вятры непрыязныя —
Нашы сэрцы ад іх толькі больш загартуюцца!

І як вечна вясне святкаваць тут агледзіны,
Мовай радасці з долам і небам гамонячы, —
Так і нам у вяках тут, з братамі-суседзямі,
Жыць і верыць у лёс незахмарана-сонечны.

*1980*

* * *

Два-тры дразды на цэлы лес —
Пераклікаюцца, нібыта
На анямелым полі бітвы
З байцом паранены баец.
— Жывы, браток?
— Пакуль — жывы!
Ды цішыня гняце пакутна:
Ні падсалоўкі больш не чутна,
Ні берасцянкі, ні жаўны…

Вось толькі мы на цэлы лес.
Прагрэс, мой братачка, прагрэс.

*1980*

## КАЛЯ ПОМНІКА МАРЫІ ЗАНЬКАВЕЦКАЙ У КІЕВЕ

*Дз. Паўлычку*

Над кручамі высокімі дняпроўскімі,
У садзе, ледзь абуджаным вясной,
Апанаваны думамі няпростымі,
Стаю прад ёю ў цішыні начной.

Калісь, праслаўленая, знакамітая,
Яна прыехала ў губернскі Мінск,
І Беларусь, слязьмі нядолі ўмытая,
Пачула: «Наш, сястра, паклон прымі…»

І ўбачыла: у зрэнках воч засмучаных —
Адзін нясцерпны, невымерны боль.
І зразумела: гэта — лёс замучаных,
Яна жыве ім — не ўдае сабой.

Не ўцешыла яе старонка братняя —
З журбой вярнулася ў журбу сваю…
Вялікае, святое, нерастратнае
Мяне трымае тут, дзе я стаю.

І нават уначы, у мяккім мораку,
Мне добра бачна — лепей не ўявіць —

Маленне рук, ля сэрца гэтак згорнутых,
Як бы яно ёй і цяпер баліць.

*1980*

* * *

Няма агідных песень у прыродзе.
Нашто ўжо не пяюн крумкач стары,
А ў першую адлігу ў новым годзе
Як ён пяшчотна крумкае ў бары!

Які прывабны кліч яго птушыны
У прадчуванні веснавых уцех!..
Агідны спеў заўсёды — спеў фальшывы.
Прыродзе ж невядомы гэткі грэх.

*1982*

* * *

Зноў на ўзлеску цвітуць-дацвітаюць арэшыны —
У жаўтлявых падвесках каткоў-завушніц.
Дуб над імі, усёй гэтай пушчы старэйшына,
Дрэмле ў думках аб блізкай пары навальніц.

Тут, у гушчы кустоў, у кудлатым ляшчэўніку,
За даўжэзны свой век, кожным летам, як жнуць, —
Колькі чуў ён дзіцячага гоману-шчэбету!..
І яшчэ, і яшчэ раз хацеў бы пачуць!..

*1982*

* * *

Вясна пяе, і свішча, і шчабеча, —
На паплавах, на нівах, у лясах, —
І ўсюды просьба чутна: «Чалавеча!
Пачуй сябе ў шчаслівых галасах!»

Вясна гудзе, і зумкае, і крэхча —
На доле, у паветры, на вадзе, —

І ўсюды тая ж просьба: «Чалавеча!
Пачуй сябе ў нас! А то — быць бядзе!..»

*1982*

* * *

Падлесак цярэбяць у лесе густым —
Бязладна парослыя сосны і елкі.
Ад вогнішча долкамі сцелецца едкі,
Прапахлы ўспамінамі даўнімі, дым.

Па плану — у парк ператворыцца лес,
Ён будзе дагледжаны, чысты і рэдкі, —
Наскрозь ён прагледзісты будзе, — і гэткі
Камусьці, відаць, спадабаецца лепш.

*1982*

## ТЫМ, ШТО ВАЯВАЛІ

Сорак трэці. Віхура смяротная.
Ёй — ні краю яшчэ, ні канца.
Як ты бачна, бяда ўсенародная,
У паглядзе падлетка байца!..

Мне хапіла б свайго незабытага.
Толькі як я пра тых прамаўчу? —
Шынялёк і пілотачка Быкава
Неадступна стаяць уваччу.

*1983*

## НА ЎЗГОРКУ ПЯСЧАНЫМ

На ўзгорку пясчаным цвіце жаўтазель —
На брацкай магіле дзяцей партызанскіх.
Стаю і гляджу, як па кветках зіркастых
Блукае маленства далёкага чмель.

Мы разам раслі тут — пад небам адным:
Смяяліся, плакалі, песні спявалі…

Той смех спапялілі, той спеў расстралялі,
А плач — уцалеў: ён у сэрцы маім.

*1983*

## ВЫ ДУМАЛІ…

Вы думалі, што я сабраўся ў скачках
Прымаць удзел? Каб верны мне мой конь,
Апанаваны скакавой гарачкай,
Ляцеў за некім шустрым наўздагон?

Ну, што вы, што вы! Хіба я — наезнік?
І хіба конь для скачак у мяне?
Яго прызванне — плуг цягнуць жалезны,
Маё — ступаць услед па баразне.

*1983*

## ЗАМЕСТ МАЛІТВЫ

Калі ёсць ты, лёс мой, нада мною,
Аб адным прашу я: не дазволь
У міры з няпраўдай і хлуснёю
Дажываць мне век на свеце свой.

Не аддай душу ў няволю гномам —
Узбунтуй, растурзай, распалі, —
Каб у ёй агні-маланкі з громам
Жыхалі ад неба да зямлі!

*1983*

## АЎТОГРАФЫ СЯБРОЎ

Аўтографы-надпісы вашы, сябры,
Чытаю на кніжках падораных —
З выказам даверу, павагі, любві,
З зычэннямі самымі добрымі.

Як многа іх, цёплых і ласкавых слоў,
Ад шчырага сэрца напісаных!

І колькі за імі пражытых гадоў
Жывымі ўзыходзяць абрысамі…

Вось гэты згадаў мне аб даўняй вясне
З яе маладымі павевамі.
Дакорам не стаў ён сівой сівізне —
Навек мы, брат брату, паверылі.

Вось гэты… о, як акрыліў ён душу,
Прыйшоўшы ад майстра ад слыннага —
Якраз, калі мне аж калола ўвушшу
Ад крыку дурнога aслінага!..

Вось гэтыя — з братняга краю прывёз
Як словы прызнання ў прыязнасці.
Мне светла ад іх, як ад белых бяроз
На ўзлеску асеннім пры яснасці.

А гэта — апошні… Гляджу на радкі,
Што помню на памяць да каліўца, —
І зноў адчуваю той поціск рукі,
І сэрца ад болю сціскаецца…

Якія магутныя творцы-мужы,
Якія нязломныя волаты
Пайшлі па той бок векавечнай мяжы —
Заўчасна, зарана, замолада!..

Жывіце ж да поўнага веку, сябры,
Не трацячы моцы і шчырасці!
І знайце: нішто нам віхуры-вятры,
Пакуль нашы шэрагі ў шчыльнасці!..

Я дзякуй кажу вам ад сэрца ўсяго,
Мне вашы дарункі-аўтографы —
Як вехі жыццёвага шляху майго.
А ён жа не будзе паўтораны…

*1983*

## ЛЁС І ПЕСНЯ

Я аглядаў чужыя гарады,
Не нашы помнікі не нашай славы —

І быў ад крыўды зрок слязой засланы,
І біў у скроні думкі ток круты:

Нелітасцівы быў наш лёс, браты:
Красу, што продкі з любасцю стваралі,
Чужынцы з лютасцю агнём сціралі,
Каб не ўцалелі нават і сляды.

Але сціхаў няўчуты крык бяды —
І паўставала з небыцця нанова
Краса ў абліччы каменя і слова,
Каб зноў зрабіцца прахам праз гады.

І зноў клаліся прадзеды-дзяды:
«Сто раз памром, а не пакінем верыць
У нашу заўтрашнюю славу-веліч,
У нашы заўтрашнія гарады!..»

І зноў нам свеціць ранак малады,
Свой новы лёс народ упарта творыць.
Адкуль жа ў песні праступае горыч?
З глыбінь вякоў… Там — бездань гаркаты.

*1983*

## ВЫПАДКОВЫ ГОСЦЬ

Салон у стылі найнавейшым,
Прытворны смех і гамана.
Ці не пара паслухаць вершы
Пад гэту пеністасць віна?

Ах, вось чаго сюды я званы!
Каб вершам слых паказытаць.
Каб праз саломку пунш духмяны
Яшчэ смачней было смактаць.

О не, мадам! Для насалоды
Ён не прыдасца, верш мой, вам.
Ён — не салонны, ён — салёны.
Вы памыліліся, мадам.

Прагорклы ён! Прагорк дашчэнту,
Як яблык з дзічкі на мяжы, —

Звядзе аскома вам пашчэнкі.
Чужы мой верш для вас, чужы.

Не можа вас ён бестурботна
Ні забаўляць, ні весяліць:
Яму ад цяжкіх дум журботна,
Яму ад горкіх страт баліць.

Ён лёсам стаў маім у полі,
Дзе ў горле пыл, дзе пот — цурком,
Ён хлебу чорнаму ніколі
Не зможа здрадзіць ні радком.

Прыроднай соллю-гаркатою
Зямлі бацькоў павінен ён,
Што ёсць і будзе мне святою —
Да скону дзён. Да скону дзён…

*1983*

* * *

Каменні ляцяць на дарогу.
Аднойчы якісь не міне.
Каму я паплачуся? Богу?
Дык ён… ці пачуе мяне?

Паклёпы з начынкаю яду
Кладуць і кладуць на чало.
Каму я паскарджуся? Д’яблу?
Яшчэ не хапала чаго!

Ёсць добрыя людзі — я ім бы
Паплакаўся трохі, але ж —
У іх над галовамі німбы
Уласных пакут. Ім не лепш!

Не волен я горкай гадзінай
Цяжар свой на іх ускладаць.
Дык што ж застаецца, Радзіма?
Ты можаш параду мне даць?

І чую я голас, падобны
На голас матулі маёй:

«Будзь дужы, будзь мужны і добры,
Не бойся натхнёных хлуснёй.

Адрынь іх суды-перасуды.
І чорнай не вер варажбе.
Хай свеціць заўсёды і ўсюды
Маё блаславенне табе!»

*1985*

## РАЗ’ЯТРАНЫ ВЯРБЛЮД

Як ён імчыцца морам стэпу шэрага!
Як цупка след кладзе яго капыцце!
Як страшна пена валіцца з ашчэранай
Пачварнай морды! Гэй, набок сыдзіце!

Жывыя ўсе — хутчэй набок схініцеся
Ад гэтай дзікай лютасці звярынай!
Насмерць здратуе, стопча вас без літасці,
Яшчэ й абдасць зялёна-жоўтай слінай!

Ён ашалеў, раз’ятрыўся ад прыступу
Прыроднай корці, ад успышкі юру —
Ляціць насустрач далечы расхрыстанай,
З пяску і ветру дыблячы віхуру…

Калі ж нарэшце зможацца, расслабіцца,
Ашляхне кроў — ён прыме выгляд звычны
І будзе зноў даверлівы, пакладзісты
І, я сказаў бы, нават сімпатычны.

*1985*

## ДЗІКУН

Дзікун, не навучаны змалку
Маліцца дабру і красе,
Лютуе:
«На звалку!
На звалку —
Хто славіць бусла на страсе!

Я сам тут —
вялікіх наследнік —
Насычу культурай народ.
А гэтых —
на сметнік!
На сметнік!
На вілы бяры — і за плот!..»

Такое не прымеш за жарты.
Такое было ўжо, было!..
Крычалі. І бралі за жабры.
Ды так, каб аж дух заняло!

У скрусе па смачным кавалку
Каб чуцца самім весялей, —
Шпурлялі за плот, і на звалку,
І нават намнога далей.

Гісторыя мудрая знае
І дзейнасці гэткай працяг.
Дзікун! Твой унук адкапае
Табой затаптанае ў прах!

Да сэрца прыцісне рукамі,
Са звалкі дамоў прынясе
І будзе, адмыўшы слязамі,
Маліцца дабру і красе.

*1986*

* * *

О, Беларусь!
Мой лёс,
Мой вечны боль,
Мая невыспеваная давеку
Песня!
Зноў чую;
Сэрца поўніцца табой
Разломна —
Як рака парой прадвесня.

*1986*

## ЖЫТА, СОСНЫ І ВАЛУНЫ

Дзе па роднай зямлі ні крочыў —
Скрозь — ад Прыпяці да Дзвіны —
Перш за ўсё мне ласкалі вочы
Жыта, сосны і валуны.

Дзе ў далёкіх маіх вандроўках
Я ні сніў аб Радзіме сны —
Паўставалі ў іх зноў і зноўку:
Жыта, сосны і валуны.

І па самай высокай мерцы
Мне ўжо ясна, што да труны
Данясу я няшмат у сэрцы:
Жыта, сосны і валуны.

О, сябры! Калі нешта значыць
Мой усім вам паклон зямны —
Хай і цень мой з пагорка бачыць
Жыта, сосны і валуны.

*1986*

## У ЛЕТА 1986-е

І занатуе летапісец рупны,
І ў нейкай кнізе ў нейкі век наступны
Нашчадак прачытае дападны:
Праз сорак з гакам год пасля вайны
З яе крывёй, пажарамі, разрухай,
З яе бяздомнай бежанскаю скрухай, —
У піянерскіх лагерах пад Мінскам,
Пад Гродняй, Віцебскам і Верхнядзвінскам,
І на Літве, і аж за Волгай дзесьці
Жылі з Палесся прыпяцкага дзеці —
І паўставаў у мове незнарок
Пявучы іх палескі гаварок.
У маляўнічых месцах адпачынак
Ім забяспечылі найлепшым чынам:
Паходы з песнямі, забавы, гульні…
Ды быў на ўсіх чагосьці знак агульны —
І ў па-дзіцячы шчырай весялосці

Як бы знутры іх стрымлівала штосьці,
Дарослыя ж, якія рэй вялі,
Да іх наўздзіў ласкавымі былі,
І за свавольствы моцна не журылі,
І аб усім бадзёра гаварылі,
А асабліва пафасна, бадай, —
Пра дом іх родны — іх палескі край, —
Бо цешылі сябе: маўляў, малыя
Не разумеюць трохі… Ну, а тыя
Былі малымі ядзернай эпохі —
І разумелі ўсё зусім не трохі…
О, дзеці, дзеці! Дзе мне вочы дзець.
Каб вам у вашы вочы не глядзець?..

*1986*

## ПРА СІНІЦ І ЭКЗОТЫКУ

Сыдзе імпэт, і былое
Моцы не стане ў радку —
Буду лавіць у сіло я
Сумных сініц у садку.

Кажуць, зашмат развялося
Іх на сядзібе ў мяне,
Ды — не чутно весялосці,
Радасці ў іх гамане.

Буду садзіць іх у клеткі,
Буду насіць на базар.
Гэй, беларускія дзеткі,
Ці не для вас мой тавар?

Не канарэйкі, вядома,
Не папугаі, а ўсё ж —
Будзе вам песенька дома,
І — задарма, ні за грош.

Ну, а як знойдзецца скептык —
Скажа, нібыта няўзнак:
«Можа, тавар і не з кепскіх —
Не экзатычны, аднак!»

Так адкажу я: «Васпане!
Як не зыначыцца час —
Гэтая птушачка стане
Найэкзатычнай у нас…»

*1986*

## НА СХОДЗЕ

І ты, брат, хараша сказаў,
І ты, брат, хараша!
Так кожны з вас за сэрца ўзяў —
Аж стала горача.

І ты шануеш, вызнаеш
Мараль вячыстую,
І ты руку ёй падаеш
Заўсёды чыстую.

І ты ні ў чым не вінават
Перад Радзімаю,
І ты клянешся ёю, брат,
Адной-адзінаю.

Вы пра сябе сказалі тут
Так шмат прыўкраснага,
Што я… канаю ад пакут
Сумлення ўласнага.

І мне няўсцерп сядзець між вас,
У рай прызначаных.
Мне б захлынуцца ў самы раз
Слязьмі гарачымі.

*1987*

## У ЛАД СА СТАРОЮ ПРЫКАЗКАЙ

Пры нагодзе ў нас аб лёсе
Гэтак гаварылася:
«А маё — як не ўпяклося,
Дык і не ўварылася!..»

Вось і ты ўжо гэту з болем
Паўтараеш прыказку,
Хоць у сэрцы ёсць даволі
І агню, і прысаку.

Днём і ноччу, рана — позна,
Думкі цяжка рояцца:
Як ад немасці пагрознай
Песня абароніцца?

Як сабою ёй застацца,
Калі скрозь урвіцелі,
Ёй на здзек, у ранг мастацтва
Хрып завозны ўзвысілі?

Ім пад імпартныя рытмы
Добра, лёгка скачацца,
Ну, а ты? Сядзіш паніклы?
Смейся — раз не плачацца!

Ахрышчоны ліхалеццем,
Выраслы з нішчымніцы,
Можа стацца, што не мецьмеш
І такой магчымасці.

Ах, цябе не толькі слёзы —
Смех таксама выракся?
Сапраўды: як не ўпяклося,
Дык і не ўварылася!..

*1987*

## У ДАЛЬВЕ

Апошні крывавы пажар на Радзіме.
Апошнія мы тут згарэлі жывымі —
Мужчыны, жанчыны і дзеці…
І дзеці…

Любуйцеся ж гэтай дзівоснай зямлёю,
Як некалі мы любаваліся ёю —
Мужчыны, жанчыны і дзеці…
І дзеці…

І хай вам раскажуць тут нашыя цені,
Як жудасна мы паміраць не хацелі —
Мужчыны, жанчыны і дзеці…
І дзеці…

*1987*

## МУСІМ ПОМНІЦЬ

Мы, што столькі
Няўцямна маўчалі,
Бы язык адняло,
А цяпер
Загулі, закрычалі, —
Мусім помніць адно:

Прыйдзе час,
Абапрэцца, суровы,
Як касец, на кассё,
Не паверыць
У гучныя словы
І спытае за ўсё.

І спытае:
«А дзе вашы дзеі?
Вашых высілкаў плён?..»
І ніхто
Хай не песціць надзеі,
Што злітуецца ён.

*1987*

## АДКАЖЫ!

Брат мой!
Братка мой!
Братачка родны!
Адкажы — сам сабе адкажы:
Чым зрабіўся табе непрыгодны
Скарб бясцэнны тваёй жа душы?

Адчаго так бяздумна, бязмоўна
Ты яго выракаешся сам?

І чаму табе так усё роўна,
Што аборай становіцца храм?

Ці таму, што калісьці падступна
Растапталі твой шчыры давер?
Што на ніве, дзе сеяў ты рупна,
Вытраўляліся ўсходы твае?

Што ў стагоддзях варожыя збродні
Распіналі твой лёс на крыжы?
Брат мой,
Братка мой,
Братачка родны,
Адкажы — сам сабе адкажы!

Жыў ты ў горы, змагаўся ў няволі,
І канаў, і сыходзіў крывёй,
І жывым ты гарэў, а ніколі
Не саромеўся мовы сваёй.

Схамяніся ж, ачніся, агледзься!
Ды разваж, ды раздумай як след:
Што пакінеш ты з поля ў налецце?
З чым нашчадкі пакажуцца ў свет?

Ці паверыў, што род твой бясплодны?
Ці свой лёс прамяняў на чужы?..
Брат мой!
Братка мой!
Братачка родны!

Адкажы! Сам сабе адкажы!

*1988*

## ОЙ, ІВАН, ТЫ, ІВАН!..

Іх няма ўжо саміх —
Адышлі спакваля:
Хто не лёг ля Крамля —
Дзесь прыбрала зямля.

Іх няма ўжо саміх…
Ды мільёнчыкі іх,

І брыльянцікі іх —
У наследнічкаў іх.

Іх унукі штодзень
П’юць адборны каньяк,
П’юць адборны каньяк —
І не тужаць ніяк.

А я, дурань Іван,
Шрубкі-гайкі раблю,
Шрубкі-гайкі раблю —
Кільку ў смак цераблю.

Мне каньяк не наўме,
Я па іншым тужу,
Я па праўдзе тужу
І папраўдзе кажу:

Ой, Іван, ты, Іван,
А які ж ты дурны!
А які ж ты дурны —
Гэта знаюць яны.

*1988*

## МЭТА ДАЛАКОПАЎ БЕЛАРУСКАГА СЛОВА

Ачэрнім, спаскудзім, сплюгавім, сплюём,
падточым, падрыем, падрэжам,
расколем, разбурым, зруйнуем, сатром,
растопчам, здратуем, здрапежым, —
каб згінула, знікла, звялося, сышло,
зачахла, адмерла, прапала,
і не адрадзілася, не ажыло,
і не паднялося, не ўстала!

*1988*

## ПЫТАННЕ

Хаджу па чужыне, гляджу на людцоў,
На іхняе з Богам вітанне, —

І зноў працінаюся болем, і зноў
Душу мне свідруе пытанне:

Як доўга яшчэ будзе ў нас у вачах
І ў кожным штрыху чалавечым —
Наш, пройдзены намі, пакутлівы шлях,
Наш сум па няспраўджаным нечым?

*1989*

* * *

Божа ты мой, і ў вясковым застоллі —
Балбатуны, дэмагогі, фальшыўцы…
Дзе ж тыя словы, што родзяцца ў полі,
Што вырастаюць і спеюць на ніўцы?

Дзе тыя словы, што пахнуць, як колас,
І даланю табе грэюць, як зерне?
Дзе ты, сумлення народнага голас?
Хто цябе вытравіў? Хто цябе верне?..

*1989*

## ТРЫВАЙМА, БРАТЫ!

Нас могуць
Зневажаць і абражаць,
Нас могуць
Не любіць і ненавідзець,
Але мы мусім
Цвёрда помніць-знаць:
У нас ёсць Нёман,
І Дзвіна,
І Прыпяць.

Нас могуць
Чорным брудам паліваць.
Культываваць бяспамяцтва,
Бяспраўе,
Але мы мусім
Цвёрда помніць-знаць:

У нас ёсць Полацк,
Тураў
І Заслаўе.

Нас могуць
Ачмураць і падкупляць,
Штодзень даваць
Цацанкі-абяцанкі,
Але мы мусім
Цвёрда помніць-знаць
Наказ Францішка,
Кастуся
І Янкі.

Нас могуць біць —
Аж да крывавых слёз,
Каб лёкаяў зрабіць
З ахвяраў здзеку,
Але мы мусім
Адстаяць свой лёс,
Каб ён для нас
Шчаслівы быў давеку.

Таму —
Трывайма, любыя браты!
Трывайма й верыма:
Нішто не спляміць
І не асіліць нашай праваты,
І нам яшчэ паслужыць
Наша памяць!

*1989*

## СОН У БЯССОННІЦУ

Ну й сон мне прысніўся ў бяссонную ноч!
Стаю на пагосце нібыта,
Бярозы і сосны, капліца наўзбоч,
Крыжы і каменныя пліты.

Нікога не бачу, ды чую кагось —
Хтось кліча-гукае штосілы:
«Гэй, дзе вы там? Свінні прыйшлі на пагост
І рыюць святыя магілы!..»

Гляджу, сапраўды: між сасон і бяроз —
Арудуюць морды свіныя!
Дратуюць, драпежаць, паскудзяць пагост
І рыюць магілы святыя!

Абураны я, ды няма чым прагнаць —
Ні пугі ніякай, ні кія.
А свінні свінячаць, сапуць і вішчаць —
І рыюць магілы святыя!..

Услед за няведама кім я тады
Гукаю таксама штосілы:
«Гэй, дзе вы там? Свінні прыйшлі на клады
І рыюць святыя магілы!..»

Але старажы на мой крык не бягуць —
Напэўна, не чуюць, глухія…
І рохкаюць свінні, і гнюсна сапуць,
І рыюць магілы святыя…

Я ў прыступе крыўды апёрся на крыж,
А прыступ — няйначай смяротны…
«Ну, што з табой робіцца? Зноў ты не спіш!..»
Ды гэта ўжо голас — мне родны…

*1989*

## ВОДПАВЕДЗЬ «ГНІЛОМУ ІНТЭЛІГЕНТУ»

Гэй, дзе ты там, хлюпік і ныцік?
Ты, інтэлігентны гнілюк?
Яшчэ з цябе клёк твой не выцек?
Яшчэ табе ўсё не каюк?

Ты нават павёў наступленне,
Каб звыклы мой статус зламаць?
І што мне пакажаш? Сумленне?
А я табе — кузькіну маць!

Я так распішу табе скуру,
Што жонка не зможа пазнаць.
Ты што мне — закон і культуру?
А я табе — кузькіну маць!

Не гэткіх спраўляўся, бывала,
І сплюшчыць, і струшчыць, і змяць.
Ты што мне — Скарыну з Купалам?
А я табе — кузькіну маць!

Пара, баламутнік, уцяміць,
Што мёртвым з магілы не ўстаць.
Ты што мне — аб прашчурах памяць?
А я табе — кузькіну маць!

Запомні: нічога не ўдасца
Табе ні адкрыць, ні стварыць,
Пакуль у мяне ты не ў ласцы
І марыш мой быт разбурыць.

Пакуль ты за хлеб і за кашу
Не станеш цаніць-шанаваць
Любімую, родную нашу,
Бяссмертную кузькіну маць.

*Ліпень 1989 г.*

## ПРА НАШУ ГОДНАСЦЬ

Што праўда,
То праўда—
Даўно гэта стала:
Віхляння — багата,
А годнасці — мала.

Багата юродства,
Блюзнерства,
Крыўляння,
А мова народа —
На грані сканання.

Таму і цямнеем,
Чарнеем ад злосці.
Аж хочацца нават
Ударыць кагосьці.

Каго — зразумела,
Ды чорт яго знае,

Чым кончыцца можа
Адвага такая!

І што ж тады робім
У злосці і скрусе
Мы — існыя родам
Сыны Беларусі?

Што — робім?
А б’ем-дабіваем заўзята
Свайго
Недабітага злыднямі
Брата.

У гэтым — і мужнасць,
І мудрасць,
І годнасць,
І нашага гора-гібення
Нязводнасць.

*1989*

## НАД БЯЗДОННЕМ

Над бяздоннем іду —
Па вузенечкай кромцы ля стромы…
Што, прайшоўшы, знайду?
Чым паклікана ў шлях незнаёмы?

Над бяздоннем іду…
Там, унізе, раскацісты рогат —
Д’яблы мелюць ваду
На страшэнных каменных парогах.

Над бяздоннем іду.
Там патокі. Там пара клубіцца.
Хоць гукні грамаду —
Галава пачынае кружыцца.

Над бяздоннем іду.
Здрадны страх зацінае дыханне.
Крок яшчэ — і ўпаду…
Іншы хтосьці уславіць каханне.

*1990*

* * *

Я не знаю, што ў нас будзе
Ні праз месяц, ні праз год.
Абясхрэсціліся людзі.
Абязбожыўся народ.

Распадаецца грамадства.
Скрэпы трэскаюцца скрозь.
Згода-еднасць — толькі маска,
Пад якой — нянавісць-злосць.

Праўда ходзіць белай зданню
Па руінах дзён былых.
Ці падымецца, ці ўстане
Наша доля з грудаў тых?

Ці ў хлусні, зладзействе, блудзе
Будуць весці ўсё на звод —
Абясхрэшчаныя людзі,
Абязбожаны народ?

*1990*

## У РОДНЫМ ГОРАДЗЕ

Хаджу па вуліцы Грамілы,
Што цягам доўгіх страшных год
Граміў і плюндрыў, колькі сілы,
Усё, чым славен наш народ.

А ты, мой прашчур, творца мудры,
Чыя магіла дзесьці ў тундры, —
Твайго забытага імя
У родным горадзе няма.

Хаджу па вуліцы Няздары,
Што меў і здольнасці, аднак:
Пакуль народ аб шчасці марыў —
Ён краў з казны і жыў усмак.

А ты, мой продак ясначолы,
Чый дар народу — незлічоны, —
Твайго забытага імя
У родным горадзе няма.

Хаджу па плошчы Баязліўца,
Што меў за Бога вечны страх —
Каб толькі з крэсла не зваліцца
І не разбіць кар'еру ў прах.

А ты, мой продак, вой бясстрашны,
У Курапацкім доле спрахлы, —
Твайго забытага імя
У родным горадзе няма.

*1990*

* * *

Не падбівай. Не падбухторвай.
Дарма шчыруеш. Я не з тых,
Што краю роднаму над прорвай
Самазабойча б'юць пад дых.

Табе — павек не будзе веры.
Не спадзявайся. Не чакай.
Ты ўпотай молішся хімеры,
А мне мой Бог — Бацькоўскі край.

Я не забыў: калі ад болю
За лёс ягоны я крычаў —
Ты шанаваў чужую волю
І, падуладны ёй, маўчаў.

Калі дыханне мне і мову
Перацінаў дзікун-сатрап —
Ты не ішоў мне на падмогу,
Ты на душу не браў затрат.

Таму — не снуй перад вачыма.
Не корчы міну. Не прасі.
Прадаўшы ўсё, што ёсць Айчына,
Мяне сто раз ты прадасі.

*Лістапад 1990 г.*

## ПЕРАСЦЯРОГА

Беларусы!
Ды не верце ж вы
Новаяўленым ілжэпрарокам:
Умярцвяць яны наш дух жывы —
І давер наш вылезе нам бокам!

Залатое пасвячы цяля
На лугах цяністага падполля,
Точаць зуб, каб нашая зямля
Стала іхняй, — і зямля, і воля.

І зямля, і воля, і душа! —
Лёсу трыадзіная апора.
Завалодаўшы душой спярша,
Волю і зямлю прысвояць скора.

І тады ўжо — на вятрах чужых —
Нам павек гібець у беспрасвецці.
Не шукайце ж праўды-рады ў тых,
Што махлююць і ў царкве пры свечцы!

Ні на кроплю ім не верце вы —
Гэтым пафасным ілжэпрарокам:
Умярцвяць яны наш дух жывы —
І давер наш вылезе нам бокам!

*1990–1991*

## ПРАЛОГ

У век рэнегацтва
І гібельнай здрады, калі
Зрываюцца душы,
Не справіўшыся з ачмурэннем,
Адзіны ёсць выбар —
Трымацца бацькоўскай зямлі,
Як дрэва карэннем.
Як дрэва карэннем!

*Студзень 1991 г.*

## МАЛІТВА

Божа, прамілы, прасветлы,
Шчыра і слёзна малю:
Спраўдзі, як сон запаветны,
Гэтую просьбу маю.

Я не прашу даўгалецця,
Скарбаў тым больш не прашу.
Хай мне адно дастанецца —
Перш чым свой круг завяршу.

Хай у тым полі, дзе ўсё мне —
Блізкая кроўна радня, —
Летняю ноччу бяссоннай
Я прахаджу давідна.

Не, не адзін… Ну, канешна,
З ёю там буду я, з ёй —
З песняй маёю бязгрэшнай,
З марай юнацкай маёй!

Хай мы паслухаем разам
Даляў начных галасы,
Хай там, як россып алмазаў,
Бліскаюць кроплі расы;

Хай нам ля вербаў паніклых
Ноч прасцірадла прадзе,
Хай да святое крынічкі
Нас светлячок завядзе.

Хай прычашчэннем да тайны
Стане нам глытка вады,
Каб пацалунак расстайны
Быў, як агонь, малады!..

*1991*

## ЯКІ ГАНЕБНЫ ПЕРАХОД

Які ганебны пераход
Ад велічы і чыннасці —

Да чорнай роспачы згрызот,
Да нэндзы і нішчымнасці.

Хлусілі з пэўнасцю такой —
Што ў рот глядзелі многія.
Цяпер — з працягнутай рукой
Стаім, як старцы ўбогія.

Жывём-жуём — куды ўжо горш!
Любому рады донару,
Як бы няма ў нас ні на грош
Ні годнасці, ні гонару.

Куды ні глянь — разбой і гвалт,
Разгул драпежнай хцівасці,
Апораў людскасці абвал,
Агонія цярплівасці.

Дык што ж мы, братцы, за народ?
Што з намі ў свеце сталася?
Калі пазбудземся нягод?
Паўстанем з заняпаласці?

*Сакавік 1991 г.*

## ЦІ АЧНЁМСЯ?

Чужое, разбойнае, хамскае
Гвалтуе, дратуе, таўчэ,
А роднае, свойскае, наскае
Бязмоўна ярмо валачэ.

Пачварнае, дзікае, жорсткае
Крычыць, верашчыць і трашчыць,
А добрае, людскае, боскае
Замоўкла і цяжка маўчыць.

Бяздарнае, брыдкае, бруднае
Сквярэцца, дзярэцца, хрыпіць,
А чыстае, светлае, мудрае
Няйначай заснула і спіць.

Дык, можа, ачнёмся, таварышы?
Апомнімся, братцы-сябры?

Ці будзем, аб вольнасці марачы,
Канаць на бацькоўскім двары?

*Сакавік 1991 г.*

## БАЛАДА

На світанні, ледзь заднела,
Нібы мне пабудка,
Загугукала на дрэве
Дзікая галубка.

Ды чамусьці так трывожна,
Так журботна-скрушна —
Што было ніяк няможна
Слухаць раўнадушна.

Хоць спытай у шызакрылай:
Дзе ўзялося зрання
Столькі жалю, столькі крыўды,
Столькі наракання?

Хто пачуць яе павінен
І чаму не чуе?
І чаму ён галубіне
Песень не буркуе?

Можа, ён душой бяздольнай
З іншым краем зросся?..
Не, ён роднага гняздоўя
Не забыў, не зрокся.

На драпежнай дзюбе ў полі
Кроў яго скіпела.
Бо ён надта верыў волі,
Надта лётаў смела.

*1991*

## ДЫК ЯК ЖА БУДЗЕМ ЖЫЦЬ?

Дык як жа будзем жыць,
Мой мілы пане-браце?

Ці так, як набяжыць,
Ці — спадарамі ў хаце?

На імпартных мазгах
І завазной маралі,
Ці — з верай, што ў вяках
Для нас дзяды стваралі?

*Жнівень 1991 г.*

## ЦЯПЕР
*З нізкі «Кольцы»*

Цяпер! Цяпер! Цяпер — і толькі!
Або — або, народзе мой!
Або — цяпер, нязломна-стойкі,
У рукі лёс ты возьмеш свой
Або — і ў прышласці далёкай,
З ярмом, уздзетым на каўнер,
Ты будзеш жыць, як раб і лёкай…
Таму — цяпер! Цяпер! Цяпер!

*Верасень 1991 г.*

## СПЯРША

Спярша прывучаць вуха, вока
Да чужамоўя, а тады…
Тады ўжо будзе недалёка
Да непапраўнае бяды —

Калі па кроплі, як атрутай,
Чужым напоўніцца душа
І ўжо не ўспомніць у пакутах,
Якой была яна спярша.

*1991*

## У ЗОЛЬ І СТЫНЬ

У золь і стынь гібелі людзі —
На будаўніцтве, на сяўбе,
А зоркі з золата на грудзі
Чаплялі выхапні сабе,

А плён іх кралі дармаеды
З нутром цынічным і пустым…
Адсюль — усе няшчасці-беды
І ў шчырых душах — золь і стынь.

*Верасень 1991 г.*

## І ДАБ'Е…

І даб'е цябе наіўнасць.
І даб'е цябе насмерць.
Дзе падступнасць, дзе нявіннасць —
Ты няздольны зразумець.

Непрыкметна абязвечыць,
Крылы-мары абарве,
Абяскровіць, абязверыць.
Абяссіліць і… даб'е!

*Верасень 1991 г.*

* * *

У беспрасветны час
Знявер'я і шаленства,
Калі цяжар абраз
Гняце душу з маленства, —

Паверыць лёгка ў зло.
А вы ў дабро паверце!
Разліку — не было.
Вы хлусіце, блюзнерцы!

Душы сваёй крыло
Даю на адсячэнне:

Разліку не было!
Ішоў на зор свячэнне!

Разліку — не было.
Адкуль жа столькі гневу?
Пакуль не адняло —
Цягну далоні к небу.

Пасведчы, Бацька Бог:
Хоць і прызнаў хімеру —
Зняважыць я не мог
Сваю любоў і веру.

Разліку — не было.
Калі няпраўда гэта —
Хай стлее ў прах і тло
Зямны пасад паэта!

*1991–1992*

## СТРЭМКА

Калі пералескам, між сосен,
Блукаў на змярканні паэт
І слухаў вясны сугалоссе,
І слухаў бясконцы сусвет, —

Знянацку, гняўліва, сурова,
Наўперак суладдзю ўсяму,
З нябёсаў данеслася слова
І ўдарыла ў сэрца яму.

Кальнула, як вострая стрэмка.
Каб хто тады глянуў у твар —
Напэўна, пазнаў бы па зрэнках,
Балючы які быў удар!..

Дадому ён сунуўся ценем,
А ноччу — не сплюшчыў павек.
Страшное было прасвятленне.
Бязлітасны лёсу быў здзек.

З той даты, каб справіцца з болем,
Ён варыць штовечар шалфей.

А горычы — болей і болей.
А стрэмка — глыбей і глыбей.

Час вылечыць быў бы павінен.
А вось жа бяссільны і ён.
Не выме той стрэмкі, не выме.
Не здыме той Божы праклён.

*1992*

## ІМПРЭСІЯ З ДАЛЁКАГА ПАДАРОЖЖА

Нічога, нічога!
Хоць спазмы дыханне сцінаюць,
Ды сэрца не змоўкла.

Нічога, нічога!
Хоць слёзы ў вачах набухаюць —
Як росы на смолках.

Нічога, нічога!..
І я дажыву, калі ў горле
Не будзе шчымець мне.

Нічога, нічога!..
І нас яшчэ радасць агорне,
І мы яшчэ мецьмем!

І мы яшчэ зробім,
Ну, можа, й не гэтак прывабна,
А ўсё-такі зробім!

Усё, што злачынцы
Зглумілі, стапталі нахабна, —
Мы ўзновім! Мы ўзродзім!

Галоўнае — гэта
Не ўпасці б у роспач, у зарасць
Знявер'я глухога.

Галоўнае, гэта —
Каб губы шапталі, як зараз:
Нічога, нічога!..

Нічога, нічога!
І мы сваю долю інакшай,
Прывабнейшай зробім!

Усё, што злачынцы
Стапталі на ніве на нашай, —
Мы ўзродзім! Мы ўзродзім!

*Красавік 1992 г.*

## КЛЯНОВЫ ЛІСТОК

Вястун неспадзеўны — кляновы лісток
Ляжыць на далоні:
Ці позва на суд ці на шчасце квіток,
Мне Богам дароны?

Пра шчасце, як грэшніку ў пекле пра цуд,
Мне марыць запозна.
Напэўна, на страшны і праведны суд
Ад Бога мне позва.

Чаму ж бо, паведай, лісток-варажбіт,
Мне сэрца так цісне?
Чаму мае думы на ўвесь краявід,
Як хмары, навіслі?

Што тонкія жылкі-пражылкі твае
Вяшчаюць-варожаць?
Ці ласку, якая душу мне спаўе,
Ці стынь і варожасць?

Скажы ж, не таіся, калі сапраўды
Ты Божы пасланнік.
Чыесьці дарогі… Чыесьці сляды…
Чыесьці расстанні…

Гляджу-углядаюся ў рыскі-штрыхі,
Бы ў лёсу пісьмёны:
Чыесьці надзеі… Чыесьці грахі…
Чыесьці імёны…

Чыесьці тут лёсы, чыесьці… А дзе ж
Майго накановы?

Ці мне, на астатку, не ведаць іх лепш,
  Лісточак кляновы?

***1992***

## СКОРА, СКОРА

Каму вас, песні?..

*Янка Купала*

Скора, скора я, выкляўшы касту,
Што загнала народ у бяду,
Набяру сваіх песень у кайстру
І з кавенькай па краі пайду.

Я іх пеў і бадзёра і сумна,
На людзях і ў самотнай глушы.
Можа, часам не вельмі і ўдумна,
Ды заўсёды — ад шчырай душы.

Дзесь на плошчы, наўпроць рэстарана,
Выму з торбы іх, раб хараства,
Дый звярнуся да тлустага пана:
«Можа, купіце — з ласкі Хрыста?»

І пазнаю яго, і з агіды
Скалануся і сплюну да ног:
Гэта ж той графаман прагавіты,
Што нядаўна ад зайздрасці дох…

Пераксціўшыся, сцісну кавеньку
Дый падамся паціху далей.
І ні стогну, ні плачу, ні енку
Крыўда-роспач не вырве з грудзей.

Пра адно буду думаць са страхам,
Каб не ўбачыла тая, крый Бог,
Што сказала мне колісь: «Ты графам
Будзеш жыць без бяды і турбот».

***1992***

## САНЕТ

Паэт — крыху вар'ят. Абавязкова!
Без гэтага паэзіі няма.
І не бярыся за пяро дарма,
Калі не здольны ашалець ад слова —
Ад раптам знойдзенага ў нетрах-сховах
Або ад вызваленага з ярма
Руцінных штампаў, без таўра-кляйма, —
Бы толькі што радзілася нанова.
Калі не чуеш ты яго такім —
Як полымя на ветры — трапяткім,
Бунтоўным, як віно, што дно ўзрывае,
Або гаючым, як вада жывая, —
Тады пакінь паэзію, пакінь.
Бог ад цябе твой дар яшчэ хавае.

*1992*

## ЗБІТЫЯ РЫФМЫ

Цяжка, ды мушу: падамся ў дарогу!
Збітыя рыфмы паклічу ў падмогу.

Збітыя рыфмы? Ну гэтак жа: «Збітыя!» —
Моршчацца крытыкі — людзі сярдзітыя.

Збітыя — нібы набойкі жалезныя
Ці ў пілігрыма кавенька з алешыны.

Збітыя рыфмы? І хто гэта выдумаў?
Пэўна, хто слову не рад самавітаму.

Рыфмы збываюцца ці не збываюцца,
Ззяюць ці гаснуць, але — не збіваюцца.

Так, як і «рыфма» зязюлі адвечная,
Так, як і сэрца ў грудзях чалавечае:

Б'ецца і б'ецца, але не збіваецца,
А — ці спыняецца, ці — разрываецца.

*1992*

## НОНСЕНС

Што не захочаш ты, каб да цябе
Мая душа ляцела з падарожжа, —
Я не паверу.
Быць таго не можа!

І што сярод натоўпу не мяне
Шукацьмеш ты гарачымі вачыма, —
Я не паверу.
Гэта — немагчыма!

І што адмовішся ад усяго,
Чым мы шчасліваліся з Божай ласкі, —
Я не паверу.
Гэта — д'ябла казкі!

Што свет дзівосны, створаны для нас,
Для нас жа стане пеклам невыносным, —
Я не паверу.
Гэта — поўны нонсенс!

*1992*

## ПАПРОК

Нашто ты, цёзка мой*, па ім хадзіў —
Па гэтым месяцы, такім блішчастым?
Свет закаханых стаўся больш няшчасным
Пасля таго, як ты там наслядзіў.

Хай велічаюць, славяць подзвіг твой —
Тут не набытак для цябе, а страта,
Бо гэта горш за славу Герастрата —
Недасягальнае пінуць нагой.

Ён вечна быў патрэбен для дваіх —
Як поўная спрыяння таямніца,
Як знак таго, што Божая дзясніца
Багаслаўляе на шчаслівы міг.

А што ж цяпер?
Ты сплюндрыў вешчы знак.

* Ніл Армстранг.

І ўжо яму чагосьці не хапае —
Таго, што дзве душы ў адну злучае…
Куды ж далей вядзе пазнання смак?

*1992*

## ТОЛЬКІ ТАЯ АДНА

Дробны дожджычак-дожджык,
Вераснёвы, начны,
Насялае і доўжыць
Супакойныя сны.
Ад змяркання шапоча
Па маім будане.
Мабыць, шэптамі хоча
Супакоіць мяне.

Знаю, дожджычак дробны:
Ціхай ласкай такой
Многім вернеш ты добры
І настрой і спакой.
А мяне супакоіць
Толькі тая адна,
Што душу маю колісь
Азарыла да дна.

Толькі тая, што потым,
Прашаптаўшы «люблю»
У адвечных турботах
Мне адкрыла Зямлю.
Толькі тая, што ўрэшуе,
Расквітнеўшы, як квет,
У шчаслівай усмешцы
Мне адкрыла сусвет.

*1992*

## САНЕТ АДАМУ МІЦКЕВІЧУ

Ты нарадзіўся ў сэрцы Беларусі.
Тваёю першай нянькаю былі

Яе паданні, што наўкол жылі,
Яе напеў, якім звінелі гуслі.

Суровы краю лёс цябе прымусіў
Пець не на мове роднае зямлі,
Бо нашых прадзедаў у зман звялі,
Бо душы іх нячысцік збаламуціў.

І ўсё-ткі лёс аддзячыў нам, няйначай:
Так, волатам ты ўзрос на ніве нашай,
Каб славе Польшчы паслужыць пяром,
Але, вялікі і ў любві і ў скрусе,
Ты стаў і вечнай славай Беларусі —
Яе красы чароўнай песняром.

*1992*

## НА ЗАЗІМКУ

Дзень імгліцца снежаньскі.
Без душы мяцежнай
Плошча Незалежнасці
Чуецца залежнай.

Дзень празяб да дрыжыкаў.
Сцюжна. Сівер зімны.
У чаканні «пыжыкаў»
Дрэмлюць лімузіны.

З правымі і з левымі
Не знайшоўшы ладу,
Інвалід разгневаны
Выйшаў з Дома ўраду.

У кішэнях порацца —
Пуста! Ні цыгаркі!
Нават дыму з горычы
Не глыне паўчаркі.

Лоб у шрамах хмурачы,
Сціснуў кій у пальцах:
Можа, дзе акурачак
Знойдзем на асфальце?..

*1992*

* * *

…І я не ўчуў, як плача сэрца
Тваё… Цяпер кажу: ну што ж —
Карай! Карай!.. Хоць, можа, ўсё ж
І не прапашчы я зняверца.

А ты… і ў чорным-чорнай скрусе
Адным трымціш, адным жывеш:
Каб толькі ўчуў-пачуў мой верш,
Як плача сэрца Беларусі.

*1992*

* * *

Мілая! Што ты ў мяне адабрала!
Ці разумееш ты гэта сама?
Штосьці такое, што сэнсу не стала.
Што ні задумаю — сэнсу няма!

Мілая, мілая! Гэта — бязбожна.
Тое, чаго мне цяпер не стае,
Траціць ні ў якім выпадку няможна:
Шчасця у вочы глядзець у твае.

*1992*

* * *

Заложнік вечны мары ілюзорнай,
Я асаджаўся на зямлю не раз —
Каб вызваліцца мог ад звабы зорнай
І за ратунак не прымаў міраж,
Каб сам сказаў: «Бывай, дзівачка-мара!
Людзей і Бога больш я не смяшу!..»
А я… малюся ёй, каб уздымала
Яшчэ вышэй, вышэй маю душу.

*1992*

## МЕСЯЧНАЙ НОЧЧУ

Ну, вядома ж, я не мог праспаць
Гэту поўню над прасторам сонным,
Што даспелай збажыной прапах,
Гэты цвыркуновы найгрыш сольны,
Гэты першы ветрык, што гуляць
Выбег з логу, чуючы дасвецце…
І вачэй тваіх чароўных бляск.
І твой голас, найпяшчотны ў свеце.

*1992*

## СЁЕ-ТОЕ ПРА ВЕРШЫ

А вершы свае спалі…

*З прыватнай размовы*

Так, так, шаноўны, вершы — гэта дробязь,
І хоць для іх патрэбен божы дар —
Сярод тавараў гэта не тавар,
Багатыром цябе яны не зробяць.
Таму — за непатрэбай — ты іх знішчы:
Збяры ўсе разам і спалі ў агні…
— Ды я ўжо так рабіў, але ж яны
Яшчэ мацней растуць на папялішчы!..

*1992*

## КРЭДА

Над формай трэба мець уладу.
Таму й гляджу, каб быў мой верш,
Як хата, зрубленая «ў лапу»,
Дзе — ні вянца не разарвеш!

*1992*

## ЭКСПРОМТ

З бубкі-бубачкі не вырастае песня,
Што ўздымае дух да паднябесся,
Вырастае — толькі і няйначай —
З кроплі-кропелькі крыві гарачай.

*1992*

## ЯК ДОЎГА?

Як доўга ў сэрцы горкі боль
Ператвараецца ў атруту?
За дзень? За месяц? Ці за больш?
А можа — толькі за мінуту?

Залежыць — як усчаўся ён:
З якой бяды, з якіх страхоццяў…
Мой боль-пратэст, мой боль-праклён
Атрутай стаў за пяць стагоддзяў.

*1992*

* * *

Хоць лёс неспагадны бязлітасна крыўдзіў,
І скрушна бывала, і горка, —
Я верыў: прагляне, паўстане, узыдзе
Мая запаветная зорка!

І вось яна ўспыхнула сымбалем краю —
Найяркая ў гронцы суквецця!..
Чаго ж я ад страху цяпер паміраю?
А што — калі знічкай сарвецца?!.

*1992*

## І ЎСЁ-ТАКІ ДОЙДЗЕМ!..

За векам век плыве-цячэ,
А мы ідзем, ідзем… І што ж?
О, як далёка нам яшчэ
Да Беларусі!

Ужо няўсцерп нам крыж пакут,
І мы крычым, крычым, але —
Не дакрычаліся пакуль
Да Беларусі.

А можа быць, яна — міраж,
І ўсе мы трызнім? Бо чаму ж
Не далятае голас наш
Да Беларусі?

Відаць, пракляцця знак ляжыць
На нас ад роду, і таму
Так цяжка шлях нам церабіць
Да Беларусі.

Равуць вятры, грымяць грамы,
Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,
І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы
Да Беларусі!..

*1992*

## НАША ДОЛЯ

«Ніщто вас ужо не стрымае.
Вы зробіце гібельны крок.
Гісторыі мудрай урок
Улады над вамі не мае.
Ніщто вас ужо не ўратуе.
Не будзе спагады нябёс
Таму, хто адрынуў свой лёс
І сам сваё шчасце руйнуе…»

Так Ён нам прамовіў, ды ў гуле
Як рэха пустых галасоў —
Закладнікі іншых часоў —
Мы слова Яго не пачулі.

І рушылі ўдаль па абшары.
А ўперадзе ў клешчах ярма —
О, так, наша доля сама!
З усмешкай дурнічкі на твары.

*1993*

## УВАСКРЭСНЕ!

«З Богам!» —
Крыкнуў я ў роспачы мары сваёй.
«З Богам!
Больш у цябе я не веру!»
І пачуў: «Не спяшайся!
І дух супакой.
Гарачыцца не трэба праз меру.

Пацярпі!
Сёння Пятніца.
Сёння якраз
Божы Сын быў распяты балесна.
А Вялікдзень святы —
Ён наперадзе ў нас…
І распяты наш лёс — уваскрэсне!»

«Уваскрэсне!» —
Шаптаў мне ціхусенька хтось:
Можа, лес?
Можа, луг?
Можа, поле?
«Уваскрэсне
І ўзыдзе на ўзвыш, як Хрыстос —
У такім жа, як ён, арэоле!..»

*1993*

## СЦЕНЬ

На дасветнай вярсце,
У ваколіцы золку,
Дзіўны волатны сцень
Нам адкрыўся на ўзгорку.

Чый ён — нам не відно —
Гэты сцень нерухомы.
Хоць паставай — даўно
І да болю знаёмы.

Мы ідзем і глядзім,
Пілігрымы Айчыны.
Морак нікне, як дым,
І сплывае ў лагчыны.

Шлях не ўходаў круты.
Не адолела стома.
Скора, скора, браты,
Мы пачуемся дома.

Скора, скора ўжо дзень,
Блісне сонечны промнік.
Каліноўскага сцень
Ператворыцца ў помнік.

*1993*

## ПАКУЛЬ

Пакуль з пагардаю ад нас
Не адвярнуўся дух Купалы —
Пільнуйма зніч, каб не пагас,
Каб быў запас агню трывалы,
Каб, душы вывеўшы з турмы,
Як пад прысягаю, сурова
На свет на ўвесь сказалі мы
Сваё не сказанае слова!

*1993*

## ЗАГАДКА ПРЫРОДЫ

О тая ўночы бліскавіца
Над жоўтым зарывам святла!..
Чаму, чаму яна спавіта
Істужкай чорнаю была?..

*1993*

## ПАМЯЦЬ

А памяць бунтуе.
Напэўна, нішто мне
Яе не ўлагодзіць:
Як мора — бушуе,
І дыбіцца ў шторме,
І ходырам ходзіць.

Бясконцыя хвалі
Нястрымана гоніць
У накіпах белых.
І ў тым парыванні
Са дна і з прадонніц
Выносіць на бераг

Не скарб для скарбонкі —
Бурштыны ці перлы —
У знак суцяшэння,
А толькі абломкі
Калісь пацярпелых
Караблекрушэнняў.

*1993*

## СТАРАДАЎНІ СЮЖЭТ

Чэсны рыцар, не збэшчаны вольніцай,
Пакахаў — і паверыў у лёс.
І на Панну Прыгожую моліцца,
І на дол не спускае з нябёс.

Ён не знае, што Панна Прыгожая
Любіць балі адно баляваць,
Бестурботна, як птушачка Божая,
Пырхаць, пець ды зярняткі кляваць.

Ён не знае, што ў хвілю нязвыклую,
Як пасыпаць не будзе чаго,
Гэта Божая птушачка выклюе
Закаханыя вочы яго.

*1993*

## ВЫ НЕ ЯЕ — ВЫ СЯБЕ ПРЫНІЖАЕЦЕ

Вы, спадары, і паны, і таварышы
(Як вас… дакладна — даруйце, не знаю),
Недзе там вострыя варывы варачы
Не на спажыву бацькоўскаму краю,

Помніце ўсе: калі вы зневажаеце
І абражаеце мову народа, —
Вы не ЯЕ — вы сябе прыніжаеце,
Нізкая ваша з вас лезе парода.

Як немагчыма прынізіць абразаю
Маці-зямелюхну, неба і сонца —
Гэтак і мовы, што служыць украсаю
Роду людскога, не ўнізіць — ні слоўца!

Ну, а калі ад кухоннага посуду
Дух ваш папросіцца ў высь Перунову —
Лепшага век вы не знойдзеце спосабу,
Як акунуць сябе ў родную мову.

*1993*

## УРАЖАННЕ

Уражанне: бытта ў глыбокай пячоры мы ўсе,
Ступаем і мацаем сцежку нагой з непрывычкі,
А хтосьці наперадзе полымца свечкі нясе,
Рукой затуліўшы яго язычок невялічкі;
Мы ўсе за ім сочым, і кожны кішэні трасе —
І жах абымае: ні ў кога ніводнай сярнічкі!..

*1993*

## КІРМАШ

Пракляўшы рынак безгаловы,
Я ўспамінаю з болем наш —
Былы, мясцовы, местачковы,
Багаславёны фэст-кірмаш.

О, колькі ён збіраў народу!
І пачуваўся кожны там —
Нібы прыйшоў па ўзнагароду
Ці ўзнагародзіць хоча сам.

Усё там сведчыла пра свята,
Усё высокі брала строй.
Там кожны меў Хрыста за брата,
А Багародзіцу — сястрой.

Там кожны быў другому рады,
Як свату сват, як кум куме.
А прыніжэння ці няпраўды
Там не магло быць і на ўме.

Сам Бог там чаркаю налітай
Вітаў усіх і меціў знак.
«Ну не прадам — бяды вялікай!
Ну не куплю — пабуду так!..»

Усякі торг любоў вянчала.
Жыццё свяцілася ўваччу.
А што за мова там гучала!
Якую там я мову чуў!..

Не, гэта быў зусім не гандаль,
Не продаж-купля душ праз торг.
Была свабоды прапаганда.
Быў выхад сэрца на прастор.

*1993*

## НАД ЛЕСКАВІЦКІМ ВОЗЕРАМ

Над Лескавіцкім возерам
Спакой і цішыня.
На веццi вербалозавым
Павісла стома дня.

Вячэрняя сутонніца
Нячутна мроі тчэ.
А вусны не натомяцца —
Яшчэ, яшчэ, яшчэ!

Вялікая Мядзведзіца
Заснула на вадзе.
А вочы не нагледзяцца —
Іх стома не звядзе.

Пад іх шчаслівым позіркам
Устане, як дымок,
Над Лескавіцкім возерам
Світальны туманок.

Пасля і промень выблісне —
Азорыць зырка плёс.
І плёс, і мой не выснены,
Мой неспадманны лёс…

Той першы промень сонечны
Душу навек працяў.
Мой снежны ранак сённяшні —
Не памяць, а працяг.

Адкуль жа боль запознены,
Што не стрымаў зару?..
На Лескавіцкім возеры
Аднойчы я памру.

*1993*

## ШТО Я ДУМАЎ…

Што я думаў, стоячы ў чарзе,
Пасярод галоўнай самай залы,
Покуль гаварылі тыя ўсе,
Для каго мы — толькі самазвалы?

Для каго дзяржавы Беларусь —
Не было, няма і быць не можа…
Што я думаў? Я згадаў чамусь
Лесвіцу адну, даруй мне Божа.

Лёс наш колісь праз яе пралёг…
І да жудасці мне ясна стала,
Ад чаго ў той лесвічны пралёт
Паляцеў стоць галавой Купала.

*1993*

## ПРОСЬБА

Вы, сябры, што, дасць Бог, не спазнаеце
Тых пакутаў, якія нам выпалі,
Вы памінкі па нас спраўляеце —
Па жывых… І многа ўжо выпілі.
Нашы косці цягаеце рэзьгінамі —
З трагічнымі ў кожнай памылкамі…
Сябры! Пачынайце хрэсьбінамі!
Не пачынайце памінкамі!..

*1993*

* * *

Ты кпіш з маіх пакут?
З маёй бяды вялікай —
Маёй і многіх? Што ж!
Пасмейся! Пахіхікай!
Цябе не мог праняць
Разрыўны боль пякучы.
Ты маску зняў — і ўсё:
І ўсе твае пакуты!..

*1993*

## ПЕРАД КАРТАЙ РАДЗІМЫ

На абрыс Радзімы глянуў зноў —
І ўцямрэла неба грамавое!
Людзі! Колькі ёсць праклённых слоў
У святой і вечнай нашай мове —
Я прашу вас: па апошні ўздых,
Аж пакуль не прыме дол смяротны —
Праклінайце! Праклінайце тых,
Хто абрэзаў калісь край наш родны !

*1993*

* * *

Вялікая найшла на нас хлусня —
І ёй не бачна ні канца, ні краю.
Нявечыць душы, сэрцы раздзірае,
Руйнуе лёсы нашыя штодня.

Калі, хлусня, ты расшышэла так?
За што ты стала нам усім пракляццем?
Убоства духу лічым мы багаццем,
А боскі дар пускаем за пятак.

*1992–1993*

## ЛОЗУНГ

Народ! Калі ты ёсць —
Ты мусіш усвядоміць:
Ты — не чужак, не госць,
Ты — гаспадар у доме.

Пражэрнай саранчы
Не дайся на з’ядзенне:
Змяці яе! Стапчы!
І рэй вядзі — надзейна!

*1993*

## МОЙ КАРОТКІ АДКАЗ

Вы кажаце: я выракся кагосьці?
Каго? Фальшывых ідалаў-святош,
Якім паверыў некалі?.. Ну што ж,
Хай Бог даруе хібы маладосці…

Ад той зямлі, дзе маці нарадзіла,
Ад тых магіл, дзе прашчуры ляжаць,
Ад нівы той, дзе сеяў я, каб жаць,
Ад мовы той, што ў цемры мне свяціла, —

Не адракаўся і не адракуся!
Запомніце: пярэваратнем я

Павек не скінуся. Душа мая
І ў небе будзе трызніць Беларуссю.

*1993*

## ДЗЁННІК

Першага студзеня.
    Сэрца натруджана
    Так, што здаецца:
    Сціхла, не б'ецца.

Трэцяга лютага.
    Некалі любага,
    Мілага ў Бога —
    Гоняць з парога.

Пятага траўня.
    Значыць — бяспраўна?
    Значыць — бяздомна?
    Значыць — бяздольна?

Шостага чэрвеня.
    Боскае счэрнена.
    Хіба што ў песні
    Светла ўваскрэсне?

Сёмага ліпеня.
    Слёзнымі ўсхліпамі
    Памяць скуголіць,
    Просіць і моліць.

Восьмага жніўня.
    Больш чым наіўна…
    Горш чым бяздумна…
    Горка і сумна!

Восьмага верасня.
    Той, хто зняверыўся —
    Іншым не прыклад…
    Горка і прыкра!

Першага снежня.
    Горка і смешна —

Марыць аб нечым
Светлым і вечным.

1993

## ПРА ПЕСНЮ І СУДДЗЯЎ

І тады, калі яна кульгала
І ўздымалася на паўкрыла, —
Песня мне не жыць дапамагала,
А самім маім жыццём была.

З ёй не кідаўся я на спакусу
І ў заклад яе не аддаваў.
Сам сабой, без гвалту і прымусу,
Выбіраў матыў і ноту браў.

Не з дыктоўкі нечай, выбачайце.
Толькі сам! Як знаў і як умеў.
А таму — судзіце і карайце
Не за спеў: ён шчыры быў, мой спеў.

А за што?.. Калі беспакарана,
Без суда не можа жыць паэт —
Дык, відаць, за тое, што зарана
Я прыйшоў на гэты белы свет.

Затрымаўся б так гадкоў на сорак —
Быў бы сёння мудры, як і ўсе,
І як той бязгрэшны пракурорык,
Што мяне за лацканы трасе.

*1993*

## ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ

Добрыя людзі,
Ну будзьце ж вы добрымі!
Хіба не бачыце:
Я — па-за вамі.
Марна вы, марна
Турботамі дробнымі

Сцежкі да сэрца майго
Пазаймалі.

Я — па-за вамі.
Не злуйцеся, любыя.
Гэта мінецца.
Я дзесьці — часова.
Потым вярнуся.
Жывы. Незагублены.
Потым… Як вернецца
Роднае слова.

*1993*

## ТАЛІСМАН

Талісман, ты мяне беражы,
Беражы, талісман, беражы,
І на самым крутым віражы
Затрымай на апошняй мяжы.
Я так веру ў цябе, талісман!
Я цалую цябе, талісман!..

Талісман, ты мяне беражы
І мацней да жыцця прывяжы.
На зямлі, дзе радзіўся і рос,
Дзе паверыў аднойчы ў свой лёс,
Не аддай у бязвер'е і зман, —
Ты адзіны мой бог, талісман!..

Талісман, ты мяне беражы,
Беражы і яшчэ паслужы:
На развілку дарог у глушы,
Дзе бялее рушнік на крыжы, —
Перайму ад кашчавай ганца —
Каб я песню дапеў да канца.

*25 лістапада 1993 г.*

## ЗДАРЭННЕ

У надзеі, што дагодзіць Цэнтру
І яго ў Сталіцу забяруць,
Ён рашыў пазбавіцца акцэнту,
Што дала адроду Беларусь.

Ён стаяў падоўгу перад люстрам
І падкорчваў, падгінаў язык —
Каб ніводным гукам беларускім
Не праскочыў колішні мужык.

І ад злосці стрымліваўся ледзьве:
«Хіба я належу да няўмек?
Так і выпірае, так і лезе
Гэты грубы наскі дыялект!

Проста ганьба! Не магу народу
Даць узор культуры ў гамане!
І чаму, за што па радаводу
Гэткі нізкі род дастаўся мне?

У кагось дык продак — аргенцінец!
Ці англелец той жа! Ці француз!
А ў мяне — бадай цябе дзяцінец! —
Ахламон тутэйшы, беларус!

Надзяліў гаворкай — злосць і прыкрасць.
Хоць не адкрывай на людзях рот!
Ды такой учэпістай — не выдраць!
Як на полі пырнік ці асот!

Так уелася ў нутро бязбожна,
Так пусціла ў фібры карані, —
Нават кроў змяняй — не дапаможа:
Выдасць — хто ты і з якой радні!..»

Так аднойчы кляў ён лёс няшчасны
І не ўбачыў, як мільгнуўся цень
І ў шыкоўны кабінет блішчасты
Херувім праз фортку заляцеў.

Штосьці мокрае на пераноссе
Плюхнула… Ён выцер даланёй

І не ўцяміў, што яму з нябёсаў
Ад бацькоў «паклон» прынёс анёл.

*1993*

## ЗА ДРАБНІЦУ

Зноў нас хваляць.
І зноў за халуйства.
І мы ўдзячна прымаем хвалу.
Кажуць: «Будзе вам хлебная луста,
Каву будзеце мець і халву.

І для кожнае пані — куніцу,
І для кожнага пана — аўто.
Праўда, возьмем і ў вас мы драбніцу —
Возьмем… мову.
Дык гэта ж — нішто!..»

Брава! Колькі набытку без страты!
Мова нам ні к чаму сапраўды,
Калі рот будзе справай заняты —
Цэлы дзень будзе повен яды.

*1993*

## ДЗЕЦІ

«Сыпце радасць ім поўнаю жменяй!» —
Гэты кліч я ўспрымаю праз боль,
Бо дзіцячага смеху ўсё меней,
А дзіцячага суму ўсё больш.

Суму тых, што падобны на Бога,
Калі ўсмешкай адорваюць свет…
Для каго ты патрэбна, свабода,
Калі мы не ўратуем іх смех?

*2 студзеня 1994 г.*

## У НАС, У БЕЛАРУСІ…

*Н. Г.*

Ёсць усё ў нас —
І нават на здраду прычыны.
Ёсць за ўсё апраўданне —
За ганьбу, за здзек…
А яшчэ —
Ёсць, на шчасце,
Такія жанчыны,
Без якіх Беларусь
Не ўваскрэсла б вавек.

*2 студзеня 1994 г.*

* * *

Свет — шырокі?
Так!
Але ж і вузкі!
Задыхаюся ад цеснаты,
Калі свет наўкол небеларускі
І калі са мной не поруч Ты.

*1994*

## АДКАЗ З ПЯРСТОМ БОЖЫМ

На чым ад роду ў род —
Праз доўгі-доўгі час —
Трымаўся наш народ?
Вы — маеце адказ?

Не, не на трох кітах.
Не на слупах сямі.
Народ наш у вяках
Трымаўся на сям'і.

На святасці яе
Няпісаных зарук.
На тым, што не дае
Парушыць вечны круг.

Што не дае сынам
Па-над сумленнем стаць —
Старых бацькоў, як хлам,
У дом убогіх здаць.

Што ад дзіцячых сэрц
Адводзіць блуд і гвалт,
Пагрозу страціць сэнс
І абярнуцца ў малп.

Сям'і распад, сям'і —
Прычына нашых бед.
А ён настаў, калі
Перакуліўся свет.

Калі на дол, да ног,
Лягло святло нябёс —
І наш над намі Бог
Пакрыўдзіўся да слёз.

«Душу, — узняў Ён перст, —
Зваліўшы на зямлю,
Вы зрынулі найперш
І ўгробілі сям'ю.

Вось і кажу вам я:
За годам сыдзе год —
І гэтак, як сям'я,
Разваліцца народ.

Спадуць у пыл і прах,
Пад нейчы феерверк,
І ваш дзяржаўны сцяг,
І ваш дзяржаўны герб».

*20 лютага 1994 г.*

## МОЙ ГНЕЎ ПРАРОС
## СА СЛЁЗ МАЙГО ДЗІЦЯЦІ

Панок, што ў нашы дні (хвала харобрым!)
Як дысідэнт падаўся на чужыну,
Прылюдна збэсціў крык душы збалелай,
Што даляцеў здаля, з шасцідзесятых.

Шасцідзесятыя… Я помню, помню,
Як прыбягаў дадому з горкім плачам
Малы мой сын: «Там хлопчыкі ў двары
Б’юць кулакамі ў твар мяне за тое,
Што я па-беларуску гавару!..»

Ён мне крычаў з такою крыўдай гэта
І так глядзеў праз слёзы на мяне,
Як быццам я ва ўсім быў вінаваты.

Я суцяшаў, як мог, малога сына,
Як мог, дзікунства хлапчукоў тлумачыў,
А на душы ў самога закіпала
Святая лютасць: «Ну, чакайце, злыдні,
Правадыры шчаслівай Беларусі,
Манкуртаў хросныя бацькі! Яшчэ вам
Гісторыя належнае аддасць!..»

Мой гнеў прарос са слёз майго дзіцяці.
І страшна мне было за лёс ягоны.
Але да ганьбы, ведаў я, не дойдзе:
Бацькоўскай мовы не зрачэцца сын!
Табе, панок, не зразумець тых слёз,
Хоць і равеснік ты майму нашчадку:
Яшчэ з калыскі вызвалены быў ты
«От грубого, простого языка».

Панок!.. А ты часом не быў, прабач,
У тым двары і разам з хлапчукамі
Маё дзіця за мову не грумячыў?
Чаго ж бо так узяў цябе за рэбры
Мой успамін пра той дзіцячы плач?

*12 сакавіка 1994 г.*

* * *

Родная, мілая, любая!
Свет заімгліўся журбой.
Непагадзь страшная, лютая
Нас не мінула з табой.
З яснае пэўнасці выбіла.
Згасла вясёлка-дуга.

Вочы праменныя выпіла
Чорная скруха-туга.

Мілая, любая, родная!
Як ты далёка была!
Як, непрытульна-халодная,
Вечнасць марудна плыла!
Днямі пустынна-вятрыстымі
Стыла ў самоце душа,
Покуль, як лодка да прыстані,
Радасць да сэрца ішла.

Любая, родная, мілая!
Зноў я адчуў, што жыву.
Ясніцца далеч імглівая.
Свет разганяе журбу.
Холад далоняў не выстудзіў.
Сівер не выдзьмуў цяпла.
Д'ябал у Бога не высудзіў
Тое, што ты мне дала.

***22 мая 1994 г.***

## НА РАДЗІМЕ ПАЭТА

Пагорак. Лагчына.
Кусты. Кураслеп.
Рачулка і мосцік. Дарога.
Усё, што калісьці,
Прыйшоўшы на свет,
У спадчыну ўзяў ён ад Бога.

Ад бацькі і маці.
Ад добрых людзей.
Усё, з чым адроду радніўся,
У чым раствараўся душою
Штодзень
І ўрэшце зусім растварыўся.

Хаджу па наўколлі,
Дзе ён сіратой
Хадзіў, заварожаны спевам —
То моладзі ў лузе,

Вяснянай парой,
То жнеяк — у жыце даспелым.

Гляджу, узіраюся…
Толькі — дарма!
Пагорак застаўся, не знеслі.
А духу паэта — не чую.
Няма!
Ні ў полі.
Ні ў долі.
Ні ў песні.

Усё, чым калісьці
Ён сэрца гаіў
Ад скрухі, ад лёсу разгадак —
Усё абяздушыў,
Усё амярцвіў
І вытравіў мудры нашчадак.

*1994*

## ЛЕБЕДЗЬ

На Нарачы, летам,
Ішлі мы з табою
То хмызам, то лесам
Над самай вадой.
І там, дзе паўкругам
Трыснёг расступіўся,
Убачылі птаха,
Занятага вельмі сабой.

На камені чорным,
Што выткнуўся ледзьве
Над бела-блакітнай
Раўнечай вады,
Як на пастаменце —
Фігурысты лебедзь:
Прыгожы, паважны
І немалады.

Ён моцную дзюбу
Засоўвае ў пер’е
І шчыпле, і шчыпле

Сябе па пярынцы
Ды так апантана,
Няўцямна-зацята,
Бы ў муках знявер'я,
З адчаю, наважыў
Без пер'я застацца…

І я не заўважыў,
Калі без мяне ты
Пайшла па сцяжынцы
І ў момант у гэты
Застаўся адзін я…
На камені чорным.
Стаю і зацята
Шчыплю па пярынцы —
Над люстрам азёрным.

Ужо і к абеду,
І сонца ў зеніце,
А я ўсё стаю
І скубу-выскубаю
Даўжэзнае пер'е.
Скубу і кідаю,
Шчыплю і кідаю,
Ды так апантана —
Няйначай з адчаю,
У муках знявер'я.

Кідаю астаткі
Крылатай аснасткі,
З падмогі якой
Калісьці ўзляцела
І доўга лятала
Душа над зямлёй.

*1994–1995*

## БЕЛАРУС

Калі б варта божая аслепла
І няўзнак мяне пусціла ў рай —
Я адтуль бы сам уцёк у пекла
І сказаў бы: «Божа, пакарай!

Страшна мне, адрынутаму светам,
Апынуцца ў раі залатым.
Пекаваўся ўсё жыццё на Гэтым —
Дай мне пекавацца і на Тым».

*1994–1995*

## У ВЯНОК МІКАЛАЮ МІКАЛАЕВІЧУ УЛАШЧЫКУ

Калі б з нас кожны гэтак жыў, як ён,
І роднай мовай даражыў, як ён,
І гэтак жа, як ён, знаў свой народ
І шанаваў свой беларускі род,
І годнасць гэтак жа высока нёс,
І гэтак мужна ўсе змагаў нягоды, —
О як бы сёння наш свяціўся лёс!
Які б прыгожы ў нас быў плён Свабоды!

*1995*

* * *

Ніякі рахунак, ніякі разлік
Ужо мне не страшны: я збыўся, Айчына.
Я марна не згінуў, бясследна не знік.
Мяне для цябе ўратавала Жанчына.

Ты кажаш, быў варты я лёсу свайго?
Не знаю… Магчыма… Магчыма… Магчыма…
А ўспомню — і жах працінае ўсяго:
Даўно ўжо прапаў бы, калі б не Жанчына.

*21 мая 1995 г.*

* * *

Зманіў суседу — кепска, што й казаць.
Схлусіў каханай — і любоў азябла.
Зняверыў брата — цяжка даравацц.
Не меншы грэх — калі зняверыў сябра.
І ўсё ж душу не позна ратаваць —

Ты не зусім яшчэ адроддзе д’ябла.
Калі ж ты Маці ашукаў — тады:
Тады ўжо ўсё. Далей — няма куды.

*1975–1995*

## КЛАПЫ

Клапы, клапы са шчылін-трэшчын
Павыпаўзалі на святло.
Ды колькі іх! Такіх нашэсцяў
З часоў «патопу» не было.

І ўсе клапінае натуры,
І масць клапіная ў брыды:
То кармазынавы, то буры,
То рыжаваты, то руды.

І кожны ўжо крывёй наліўся —
Напіўся так, што чуць паўзе.
І кожны ў шчыліну ўсяліўся,
Ні дня не стаячы ў чарзе.

І ладзяць зборышчы-нарады
Свае, клапіныя, штодня.
І самі моцна ўгрызці рады,
І іх набеглая радня.

Грызуць яны і смокчуць люта!
Ды людзі церпяць іх чамусь.
І толькі плачуцца ў пакутах,
І праклінаюць гэту гнюсь.

А дзед мой, помню, на сцяне іх
Апарваў кіпенем крутым.
Яны імгненна пруцянелі —
І ўсё канчалася на тым.

*22 мая 1995 г.*

* * *

Калі ліхое насланнё
Душу мне мучыла
І за апірышча сваё
Прымаў я чучала,

Калі хацеў мяне хаўрус
Купіць падманкаю,
Каб быў я «тоже белорус»
З душой-балванкаю, —

Я голас маці ўчуў здалёк —
З-за вечнай цемрадзі:
«А ты любоў маю, сынок,
Пусці паперадзе.

Яна не дасць табе пайсці
Гнілою кладчынай…»
Так і ратуюся ў жыцці
Любоўю матчынай.

*1994–1995*

## МОЙ ЧАС

Мой час прайшоў.
Сышоў ніякавата —
І згас… І вось душу бярэ ўціскі
Эпоха выхапняў і тарбахватаў,
Майстроў у старца адбіраць кускі.

Мой час прайшоў.
Сышоў безвынікова.
Так кожны раз кажу я сам сабе,
Калі гляджу, што робіцца наўкола:
Як звер звярue, а скубач скубе.

Мой час…
Чаму ж яго я не шкадую?
Таму што знаю: і мінулы, той,
Што абяцаў мне долю маладую,
Таксама быў не мой, зусім не мой.

Не мне па спадчыне ад бацькі-маткі
Дастаўся ён, а прыхадняў гурме,
Што насаджала тут свае парадкі
І сваю волю дыктавала мне.

Час янычарства быў.
Таму і страшны,
Што ў вырадкаў ператвараў сыноў.
І ён не скончыўся, час учарашні.
Хлусня і здрада яго жывяць зноў.

Ну што ж!
Я шляху не згублю і ўпрыцем.
Каб час змяніўся — непатрэбны ўказ.
Мой час наперадзе.
Яшчэ ён прыйдзе —
Мой запаветны беларускі час!

***26 кастрычніка 1995 г.***

## НАКОНТ СВАБОДЫ

Свабода прагна перажоўваць
Адрыжку наедзі чужой.
Свабода ўесці ядам жоўці
Душу, не ўзятую іржой.

Што ж, перажоўвай!
Справа густу.
І жоўцю пырскай. І даводзь,
Што гэта так па-беларуску
Ідзе свабода ў кроў і плоць.

Даводзь, крычы і ўсіх нязгодных
Гані-цягні на самасуд.
Ты маеш права: ты свабодны
І ад віны, і ад пакут.

А я — нявольнік іх давечны.
Я — іх закладнік да труны.
Бо мой Радзіме ліст даверчы
Быў без цынізму і маны.

Мой боль і ёсць мая свабода,
Якой найбольш я даражу.

Яна — як ціхая пагода,
Што супакой нясе ў душу.

***26 лістапада 1995 г.***

## НЕ ПАДАЙЦЕ ДУХАМ, ХЛОПЦЫ!

Не падайце духам, хлопцы!
Адкіньце суздром сумнеў!
І гнеў не тапіце ў стопцы —
У сталь загартуйце гнеў!

Не трацьце надзей і веры,
Пакутнай зямлі сыны!
На вежах званіц збуцвелых
Мы ўдарым яшчэ ў званы!

Яшчэ мы абудзім сілы,
Што спяць да пары ў касцях.
Яшчэ мы на Шлях Гусіны
Уздымем наш Герб і Сцяг!

Каб бачыла ўся планета,
Каб ведала людства ўсё,
Якая вядзе нас мэта,
Што ў сэрцах сваіх нясём.

Не падайце ж духам, хлопцы!
Адкіньце суздром сумнеў!
І гнеў не тапіце ў стопцы —
У сталь загартуйце гнеў!

***1995***

## АДЗЁР

Адзёр — дзіцячая хвароба,
Ім трэба ў час перахварэць,
А не тады, як стаў старэць.
Адзёр — дзіцячая хвароба.

Паэце мілы! Кінь дурэць!
Мы ў тым жа ўзросце, што й Еўропа.

Адзёр — дзіцячая хвароба,
Ім трэба ў час перахварэць.

*26 лістапада 1995 г.*

## СТАРЫ ПАЭТ

Гавораць:
Паэт не бывае старым.
Сумнеўная мудрасць,
Хоць, можа, і з даўніх.
Паэт не бывае нядобрым і злым,
Калі ён паэт,
А не вершаскладальнік.

Старым жа бывае!
Калі — дажыве.
Старым, і схварэлым,
І вельмі самотным.
Прыдумае вершык —
І тут жа парве.
Ат! Дзе яму ўгнацца
За новым і модным!..

Сяброў ён растраціў.
А новых набыць
Не можа. Не здольны.
Ён траціць умее.
Аб чым ён шкадуе?
Аб тым, што пабыць
У гэных мястэчках
Ужо не паспее.

У гэных,
Дзе дух беларускі яшчэ
Крыху захаваўся —
Над Россю, над Шчарай…
Нашто яму гэта?
Каб трохі лягчэй
Было развітацца
З няздзейсненай марай.

*27 лістапада 1995 г.*

## НАРОД!

Народ! Калі ты ёсць народ,
А не бязвольны раб дармовы, —
Не дай пусціць сябе на звод:
Не выракайся роднай мовы!

Яна не горшая нічуць
За мовы іншых слынных нацый.
Таму — адрынь, адпрэч, адгудзь
Майстроў хлусні і махінацый!

Каб не загналі без пары
Цябе ў магілу злыдні-юды, —
Загавары, загавары
На роднай мове скрозь і ўсюды!

Загавары — каб свет наўсцяж
Пачуў твой голас валадарны!
Тады на дзедаўскіх касцях
Узыдзе лёс — як дзень бясхмарны.

*30 лістапада 1995 г.*

## ПРЫЗНАННЕ

Сябры мае — любога ўзросту,
Любых заслуг, любых рэклам!
Я вам нікому не зайздрошчу.
Я толькі радуюся вам!

Калі ж было — зайздросціў трохі,
Дык толькі тым, хто больш, чым я,
У майскіх зараслях чаромхі
Начамі слухаў салаўя.

*1995*

## КРЫХУ СПОВЕДЗІ

Вось і яшчэ на год бліжэй да краю.
І хоць зычліва келіхі звіняць —

Я вам, сябры, зашмат не абяцаю.
Як той казаў: пара і гонар знаць.

Абнедужэла на сяўбе нялёгкай
Не толькі цела, а душа найперш.
Вазьму пяро — а сэрца так і ёкне:
Ці не апошні выплеснецца верш?

І агартае сум… Як позна-позна!
Тады, калі б у самы раз пачаць!..
А ў чортаў млын і сёння ў нас завозна:
«Дай! Дай!» — таўкуцца, б'юцца і крычаць.

Хоць і мяне нязводныя турботы,
Як сабачня, хапалі за крыссё —
Нутром я прагнуў і шукаў самоты,
І мне яна была мілей за ўсё.

З любога свята, вэрхалу і тлуму
Хутчэй вяртаўся ў дом сваёй душы,
Каб зноў і зноў пакутна думаць думу
У цішыні — як у лясной глушы.

І дзень і ноч, і дзень і ноч — сам-насам.
З адным і тым пытаннем да нябёс:
Дык хто ж мы ёсць? Чаму жыццём уласным
Мы не жывём? І хто зламаў нам лёс?

А па-за гэтым роздумам абложным —
Плыла, гула, грымела мітусня.
І я таксама ў гул пустапарожны
Зрываўся, горка плачучы пасля.

Хадзіў на выпіўкі, хоць і не часта.
У трапатні застольнай не маўчаў.
Здаралася, бываў сярод начальства,
Але іх ласкі штось не прыкмячаў.

Ні крымскіх, ні каўказскіх, ні балтыйскіх,
Ні іншых дзесь курортаў для вяльмож —
Не бачыў нават. У даверчых спісках
Не быў. Душу не прадаваў за грош.

Ну, што ж, у век Гіены і Шакала,
Дзе і Радзіму аддаюць за штоф,

Не стацца юдам — гэта ўжо нямала,
І небу дзякаваць мне ёсць за што.

*1 студзеня 1996 г.*

* * *

Сябры мае, я ведаю і сам,
Што быў бы сорам — у палоне страху
Гадаць, чаго: якіх уцех ці драм
Чакаць мне трэба на астатку шляху.

Я шчодрасць лёсу ацаніў даўно,
Як мог — аддзякаваў. Цяпер, няхцівы,
Хачу, каб толькі і ўсяго адно
У міг апошні даў мне Літасцівы:

Каб даў пачуць, як пад акном маім,
Забавы ладзячы, дзятва-малеча
Прыгожа і нязмушана зусім
На мове роднае зямлі шчабеча.

Каб перш чым свет імглою паплыве,
Я мог сказаць: «Ну вось, і мне не страшна:
Як ні душылі, а Яна — жыве!
Жыве, жыве святая Мова наша!»

*14 студзеня 1996 г.*

## ЛІШНІ

Сумна мне, Божа!..

*Ю. Славацкі*

Я ведаў, што лішні тут буду,
Зазваны адно для прыліку, —
Між гэтага жвачнага люду,
Між гэтых аматараў шыку.

Шыкуюць!.. І таннага лоску
Прыдбалі на выездах трохі.
Хоць цяжка ім родную вёску
Хаваць у манерах эпохі.

Так цяжка ў чужой упакоўцы
Душу берагчы ім ад «грэху»,
Што часам і роднае слоўца
Увернуць — для большага смеху.

Ім весела, файна і ўцешна!
Ім добра, дзе хмельна і тлумна…
Я — гэткі ж абсурдны і грэшны.
Чаму ж мне, о Божа, так сумна?

*10 чэрвеня 1996 г.*

## ЯНІШЧЫЦ ЖЭНІ ТОМІК…

Янішчыц Жэні томік разгарну
З аўтографам удзячнасці сардэчнай —
І зноў і зноў ад болю застагну,
Бы ад пакутнай раны невылечнай.

Як токам памяць б'е — даткнуся ледзь.
Нібы за іншых больш быў я ў адказе.
Яе адчай так слепа праглядзець
Не мелі права мы ні ў якім разе.

Яна любоў дарыла нам штодня
У родным слове, роўным самацвету,
І ўсё ж была адна — кругом адна:
На ўсю паэзію! На ўсю планету!

Ах, мітусня, праклятая стакроць!
І ў тысячны ты будзеш раз праклята!
Ды што з таго? Ці многіх нас, Гасподзь,
Бліжэй к Табе прыўзнесла гэта страта?

*1996*

## ПАПЯРЭДЖАННЕ

Запраданцы і зноскі!
Прадавайце, ды знайце, сычы:
Прыйдзе час — Каліноўскі
Вас аднойчы падыме ўначы.

Не, ён вас не павесіць,
Нават пальцам ён вас не кране.
Толькі ў вочы пасвеціць:
На каго вы падобны — зірне.

*29 мая 1996 г.*

* * *

Ізноў палю апалае лісцё
І, падварушваючы качарэжкай,
То з сумнаю, то з блазенскай усмешкай
Перабіраю ў памяці жыццё.

І чую смех, і чую плач-выццё —
То прамаўляе з вогнішча былое.
Якое ж ты, жыццё, было дурное!
Якім цудоўным ты было, жыццё!

*1996*

## НЯЗГОДА

Колькі чую:
Хай цела слабее, трухлее
І хай дагарае!
Гэта ж толькі душы абалонка!
Душа ж не ўмірае!
Ах, айцы-мудрацы,
Навучыцелі простых смяротных!
Дзякуй вам за наказ —
Смела ехаць у шлях незваротны.
Я паверыў бы вам
І ні слова б не мовіў наўперак —
Толькі што мне рабіць,
Што рабіць,
Калі вочы не вераць
І не хочуць цьмянець,
Выгараць, заімгляцца, слязіцца,
А ўсё хочуць глядзець,
Любавацца, здзіўляцца, свяціцца…
Я б прыняў суцяшэнне

Як лек чарадзейны на верад —
Толькі што мне рабіць,
Што рабіць,
Калі губы не вераць
І не хочуць драхлець, астываць,
Быць пакорна-бяспраўнымі,
А ўсё хочуць гарачымі быць,
Маладымі і прагнымі.
Я змірыўся б, бадай,
Я сумеў бы сумненні развеяць,
Толькі што мне рабіць,
Што рабіць,
Калі рукі не вераць
І не хочуць ляжаць
Супакойна — без працы, без справы,
А ўсё хочуць трымаць
Ці пяро, ці кайло, ці цымбалы
Ці туліць-абдымаць
Наймілейшую ў свеце жанчыну…
Божа моцны!
Адсунь, аддалі
Майго цела канчыну!..

***7 чэрвеня 1996 г.***

## МЫ З ТАБОЮ — ДЭМАКРАТЫ

Ну, трымай, брат, хвост трубою:
Дэмакраты мы з табою!
І не важна, хто што значыць:
Хто — жабрак, а хто — багаты.
Важна, брат, што Захад бачыць:
Мы з табою — дэмакраты!

У нацбанку цуд адбыўся:
Твой уклад маім зрабіўся!
Шчасце, брат, яно сляпое.
Ты панёс цяжкія страты.
Ну і што? Але ж затое
Мы абодва — дэмакраты!

Я — купіў фальварак мілцы,
Ты — капаешся ў памыйцы.

Кажаш: чэрава пустое —
І аб’едкам нават рады?
Ну і што? Але ж затое
Мы з табою — дэмакраты!

Калі ж ты «падымеш паршы»
І ў бунтарскім пойдзеш маршы —
Суд спрацуе без застоя:
Я — ў міністры, ты — за краты.
Ну і што? Але ж затое
Мы з табою — дэмакраты!..

Прыйдзе час — і мы абодва
Пададзімся ў рай свабодна:
Я ў скляпенне залатое,
Ты ў гнілы каўчэг дашчаты.
Ну і што? Але ж затое
Мы з табою — дэмакраты!

*Ліпень 1996 г.*

## АХ, СОННЫ КОТ!..

Ах, сонны кот на ўгрэтым падваконніку!
Ты мірна спіш, каб быць у пана ў ласцы?
Каб не злаваць яго і жыць спакойненька?
Не ўдасца, коця. Пан не той. Не ўдасца!

Твае надзеі палічыць рэзоннымі
Не можа ён: табе не будзе спуску.
Чаму? Таму, што й сонны, за вазонамі,
Ты ж, гад, мурлыкаеш па-беларуску!

*Ліпень 1996 г.*

## СЭРЦА ІГНАТА БУЙНІЦКАГА

Другую гадзіну віхурацца скокі:
Ні стомы, ні зморы, ні спыну, ні стрыму!
«Гэй, жару дабавім! Ці ж мы абібокі?» —
Натхняе Буйніцкі артыстых сябрыну.

І жару ўсё болей, і болей імпэту,
І вочы танцораў палаюць пламеннем,
Бы кажуць — не зале, а цэламу свету:
А во як мы можам! А во як мы ўмеем!

Ты, свет ганарлівы, яшчэ нас не знаеш,
Яшчэ ты адкрыеш наш плён самародны,
Яшчэ ты нас прымеш і нас прывітаеш,
Як роўнага роўны, як годнага годны.

Яшчэ ты паверыш, што маем мы права
На вольную волю! Што будзе тут, будзе —
І наша краіна, і наша дзяржава,
І дух наш, не згаслы ў ярме і аблудзе!

Гэй, гэй, маладыя! Гэй, дыхту памножце!
І раптам… спынілася полька. Буйніцкі
Схапіўся за сэрца і ўпаў на памосце…
«Ад ператамлення», — сказалі ў бальніцы.

Сказалі: «Не вынесла сэрца нагрузкі.
Замнога ўвабрала; хацела — замнога…»
Цяпер ужо ў горы, народ беларускі,
Табе не прыпасці да сэрца такога.

Так, пэўна, замнога было ў ім і жару,
І дыхту-імпэту, і мараў пра волю,
І радасці буйнай, і ласкі, і жалю…
Але разарвалася сэрца… ад болю.

*1996*

## МУСІЦЬ, МЫ БЫЛІ…

Мусіць, мы былі паэтамі-мядзведзямі
І глядзелі на жыццё вачмі нядбалымі,
Што дагэтуль як належыць не разгледзелі
Беларускую дзяўчынку за цымбаламі.

Дык угледзьце ж, назіраючы за рухамі
Лёгкіх ручак, як трымціць струна прарочая,
Як ляціць, ляціць, ляціць услед за гукамі
У нязведаную высь душа дзявочая.

Людзі! Вы яе ў бяздонні неба яснага
Стрэлам пошласці не збіце неабачліва,
Не пусціце наўздагон забойцу-ястраба, —
Памаліцеся вы ёй услед удзячліва.

*1996*

## ОДА БЕЛАРУСКАМУ «НАЦЫЯНАЛІЗМУ»

О ты, якому дзякуючы, мы,
Тваe даследчыкі-спецыялісты —
Гісторыкі, філосафы, лінгвісты —
Вучоныя ступені маем, званні,
Узнагароды, прэміі, прызнанне
І хлеб надзённы — для сябе й дзяцей!

Кім мы былі б цяпер, эпохі блазны,
Калі б не ты, звыродны, буржуазны,
Калі б не наша барацьба-змаганне
Супроць цябе, супроць тваіх ідэй?
У барацьбе з табой, з табой, пракляты,
Мы здабылі, займелі ўсё, што маем, —
Пасады, і кватэры, і зарплаты,
Аўтамабілі, гаражы і дачы,
І хлеб надзённы — для сябе й дзяцей!

О, што б мы значылі, калі б не ты!
Хто знаў бы нас, бязглуздых і бяздарных,
Апроч як бэсціць — ні на што не здатных?
Таму і надалей, да дзён астатніх,
Цябе даіць — не трацім мы надзей.
Пакуль ты ёсць — мы будзем мець і працу,
І неблагі заробак, і прыплату,
І хлеб надзённы — для сябе й дзяцей!

Якое шчасце, хоць наш бой крывавы,
Што ты — такі жывучы і трывалы!
Бо як уявіш нават на імгненне,
Што больш няма цябе, о рэакцыйны!
О ненавісны! Контррэвалюцыйны! —
Жах працінае мошчы зверху ўніз!
Таму — пакуль мы маем зубы ў пашчы —
Ты не павінен назусім адпасці:

Жыві і вечна трохі целяпайся,
Ты, працадаўца наш і хлебадаўца,
Ты, беларускі «нацыяналізм»!

*Кастрычнік 1996 г.*

* * *

Мілая мая! Той верш, якога
Ты чакаеш цягам доўгіх дзён:
Ну калі ж, калі ўжо блісне ён? —
Не складу я: страціў ласку ў Бога.

Перш, нібы і ў згодзе з творчым крэда,
Радасць хлынула — каб прагучаць.
Атрымалася ж — не прачытаць:
Як па белай кафлі белай крэйдай.

Потым, волю зацугляўшы цуглямі,
Выйсце смутку даў, якім прасяк…
Зноўку выйшла невыразна так,
Як па чорнай дошцы чорным вугалем.

*Снежань 1996 г.*

## НАШ ВЯЛІКІ ЛЁС

«Браткі! Тут зямля такая!» —
Быў нам сказ. І нездарма:
Лезе мова, прэ, жывая,
І сканчэння ёй — няма!

Глушыць, глушыць — не заглушыць
Ні дзядоўнік, ні асот.
Душыць, душыць — не задушыць
Ашалелы, хіжы зброд.

І ніяк не можа ўцяміць,
Што пад вечнасцю нябёс
Наша мова, наша памяць —
Гэта наш вялікі лёс.

*1996–1997*

## А МЫ?..

Усё па Бібліі збылося:
Брат брату крэўнаму не рад.
Хапуг жа — безліч развялося,
Над казнакрадам — казнакрад.

І чым ямчэй хапуга хапнуў,
Чым больш урваў, накраў, нагроб —
Тым галасней, гучней, нахабней
Крычыць: «Да здрастуе народ!..»

І зычыць шчасця нам, зычлівец!..
А мы? А мы, каб хоць падчас
Сябе хоць нечым ашчасլівіць, —
Б'ём тых, хто праўдзе вучыць нас.

*Студзень 1997 г.*

## ЁСЦЬ ЗЯМЛЯ…

Ёсць зямля — прыгажэйшая ў свеце, магчыма.
Я, прынамсі, не ведаю гэткай другой —
Каб і з чыстымі, як у дзіцяці, вачыма
І з даверлівай, як у дзіцяці, душой.

Але й горш невядома за што пакаранай,
Горш бяздольнай, нялюбай і гнанай з сям'і,
Болей крыўджанай лёсам, людзьмі пагарджанай, —
Я таксама не знаю на свеце зямлі.

*Люты 1997 г.*

* * *

Вось-вось і трэцяе з Хрыстовай веры
Тысячагоддзе ступіць на парог.
І пойдуць прахам д'яблавы хімеры.
І блаславіць нас на змаганне Бог.

І запануе воля ў нашым стане,
Жыццё памкне свабодна, як рака.

І першым святам Бацькаўшчыны стане
Дзень Дваццаць Пятага Сакавіка.

***Чэрвень 1997 г.***

* * *

Усё гэта будзе абернута ў міф
Судом, што не хібіць ніколі.
І стлеюць паперы, паводле якіх
Народу гібець у няволі.

Усё ператворыцца ў тлен спакваля,
Што мела трываласці знакі.
І здраднікаў косці адрыне зямля,
І іх парасцягнуць сабакі.

***Чэрвень 1997 г.***

* * *

А мама мяне нарадзіла на сене ў калёсах,
Край бітай дарогі, у восеньскі вечар дажджлівы.
(А раз у дарозе, то, згодна з павер'ем аб лёсах,
Ты долі не мецьмеш і век твой не будзе шчаслівы.)

«Усё! Не даедзем, Ляксандр! — гукнула да брата
Знямоглая мама. — Бяды табе будзе са мною…»
Той збочыў якраз ля забытай магілы салдата
І да абгародкі каня прывязаў лейчыною.

Пакуль па гразішчы мой дзядзька, хадзяін падводы,
Бабульку прынёс на плячах з недалёкае вёскі,
Дык мама, без енку, сама прыняла ў сябе роды,
Сама загарнула ў пялёнкі даруначак боскі.

Гаротніца-мама! Святая пакутніца ў Бога!
Даўно ўжо на могліцах нашых знайшла ты прытулак.
А я на паклон табе езджу — той самай дарогай,
Паўз тую ж магілу, дзе першы мой плач ты пачула.

Адлегласць ад гэнай магілы да могліц вясковых
Усё карацее, дарога ўсё болей крыжуе…

І, можа быць, мама, ты ў сына спытаешся скора:
«Ці шчасна ж дажыў ты?..» І што там табе адкажу я?

І што адкажу я, калі і ў расстання хвіліну
Убачу ўсё тое ж пад купалам родных нябёсаў:
Няшчасную ў ганьбе, знябытую ў крыўдах краіну,
Няшчасны народ, раўнадушны да ўласнага лёсу.

*Люты 1997 г.*

## ЗЁЛКІ, ПТУШКІ І Я

Краскі-зёлкі раніцай у лузе
Прачынаюцца раней, чым людзі.
А пяюшкі-птушкі ў лесе волкім
Прачынаюцца раней, чым зёлкі.
Шмат гадоў ужо я прачынаюся
Разам з птушкамі ў кустах, у гнёздах,
І раней, чым зёлкі ў долах росных.
Значыць, скора з імі і зраўняюся,
Перайду ў іх род, у неўміручасць:
Далучу да вечных зёлак цела,
А душа далучыцца да птушак.
Будзе пець, як і дагэтуль пела —
Беларуская душа лясная…
Толькі голас мой ці хто пазнае?

*Ліпень 1997 г.*

## ЭЛЕГІЯ

Гэтай скрухі мне ўжо не пазбыцца.
І не трэба, міласна прашу,
На зыходзе дня, пад заранiцай,
Усыпляць мне чарамі душу.

Я да дна свой келіх выпіць мушу.
Мне не страшны ўжо ні яд, ні нож.
І калі, нібы кіта на сушу,
Лёс на волю выкіне, — ну што ж!

Адмаўчуся хоць… Бо ў паняверцы
Я не ўмеў разумна памаўчаць.

Разрываючы на часткі сэрца,
Одум горкі ходзіць па начах.

Для чаго, дзеля якой хімеры
Нёс я крыж усцяж фальшывых вех?
Ашуканы, здраджаны, схварэлы,
Як закладнік дажываю век.

Гэтай скрухі мне ўжо не пазбыцца.
І не трэба, міласна прашу,
На зыходзе дня, пад заранiцай,
Усыпляць мне чарамі душу.

*Верасень 1997 г.*

## НАВАТ З АМБОНУ

Божа праведны! Нават з амбону
Бласлаўляецца ўладным крыжом —
Не Свабода, не святасць Закону,
А душы беларускай пагром.

Пра якое яднанне ён кажа —
Гэты знаны вялебны святар?
Злыдзень рукі вяроўкаю вяжа,
Што паклалі вянок на алтар.

Пра якую духоўнасць вяшчае?
Пра якую маральнасць гудзе?
Злыдзень мову народа знішчае
І на вусны мне плямбу кладзе.

Пад якою харугвай святою
Ён пяе — каб і я падхапіў?
Злыдзень бруднай, паскуднай пятою
На святыні мае наступіў!

Для чаго ж, нібы дыму з кадзіла,
Напускае імглы ягамосць?
Каб забыў я, што наша Радзіма —
Гэта наша Радзіма і ёсць?

Марна, марна шчыруе вялебны!
Беларусь на планеце — адна.

Нашы продкі ў змаганнях палеглі
Не затым, каб згібела яна.

А затым, каб насуперак гвалту
Нейчай волі нялюдскай, сляпой,
Узрасла і набралася гарту
Пад уласнай харугвай святой.

*Чэрвень 1997 г.*

## КАЛІ Б НЕ ТЫ…

Даруй мне ўсё, што можаш дараваць,
А што не можаш — памалюся Богу,
Мо ён даруе, перш чым скіраваць
Маю душу ў апошнюю дарогу.
Мая душа… Якая толькі дрэнь
Не сілілася завалодаць ёю!
Каб у бязмоўны, безаблічны цень
Ператварыць. Каб не была маёю.
І, можа, так бы й сталася даўно,
Калі б не ты, мой ангел-выратоўца.
Калі б не голас твой і не яно —
Табе адненькай ведамае слоўца.

*Верасень 1997 г.*

## О, ЯК ЯНЫ НАТХНЯЛІ…

О, як яны натхнялі,
Папоўзаўшы па вершах,
Паэтаў беларускіх
На вылет у прастор:
З акна або з балкона
Апошняга паверха —
На тратуар каменны
Ці на каменны двор!..

*Жнівень 1997 г.*

* * *

Мілая! Сведкам падзеі
Зрабіўся я днямі,
Зусім на падзеі не беднымі:

Як цябе любяць, упэўніўся,
Кветкі чароўныя — ружы,
Чырвоныя з белымі;

Як яны радасна раптам
Табе заўсміхаліся,
Як да цябе пахінуліся,

Як падаліся насустрач
Пялёсткамі ўсімі —
Няйначай душою памкнуліся.

Мілая! Колькі жыву —
Я ніколі не бачыў,
Каб ружы, чырвоныя з белымі,

Гэтак любілі жанчыну
І ў шчырым прызнанні
Такімі рабіліся смелымі,

Гэтак ёй рады былі
І ўсміхаліся гэтак —
Шчаслівa, як сонца вясною,

Гэтак насустрач імкнуліся —
Чырваннню ўсёю
І ўсёй незямной белізною!

*1997*

## УМЯШАННЕ Ў ЧУЖУЮ РАЗМОВУ

Ну так, на Парнасе не дзіўнае штось —
І графаманы, і фальсіфікатары.
І блазны з пароды юродзівых ёсць.
І нават, шануючы вас, правакатары.

Усякіх хапае. Ды што — графаман
Ці блазен? Пашліце іх к чортавай матары —

І будуць грымець вам на ўсю глухамань
Бясспрэчныя таленты і… правакатары.

Па чым іх адрозніць — ці гэны, ці не?
Па рэху, што коціцца ўдаль з перакатамі.
Так ёсць і так будзе, дзе вечна ў цане
Даносчыкі, сышчыкі і правакатары.

*Жнівень 1997 г.*

* * *

Родная мова! Ты воч не расі!
Лёс твой — свабода.
Іменна ты незалежнасць дасі
Духу народа.
Ты — чыя веліч, і моц, і краса
Толькі ўзыходзяць.
Ты — чыя слава наперадзе ўся,
Ў тысячагоддзях.

*1997*

* * *

Свабоду я, кажаце, мушу здабыць?
А што гэта значыць на справе?
І што я ў свабодзе той буду рабіць?
Служыць, як і зараз, дзяржаве?

А мо за свабоду я тым заплачу,
Што думаць пачну за начальства?
Дык думаць, шаноўныя, я не хачу
І сам за сябе, выбачайце.

*Май 1997 г.*

* * *

Браты! Ачніцеся! Няўжо вам
Не чутна, хоць бы і скрозь сон,

Як прамаўляе божым словам
Да вашых сэрцаў вешчы звон?
Як кліча ён знайсці свой Кіцеж,
Паўстаць з прадоннай нематы…
Дык не праспіце ж, не ўпусціце ж
Час, Богам дадзены, браты!

*Май 1997 г.*

## ШТО, СЯБРЫ?

Што, сябры, ужо пра волю песні
Пець нялюба вам? Што — не чуваць?
Ах, да шкодных недзе іх аднеслі?
Ах, ужо няможна іх спяваць?

О, тады, канешна!.. Не спявайце.
Правільна! Тут ясна й прастаку.
Ну, а дзеля хлеба — падвывайце!
Падвывайце чорнаму ваўку!

*Верасень 1997 г.*

## ЯК ЛІСЦЕ ЖОЎТАЕ…

Як лісце жоўтае, без подыху
Вятрынкі, капае дадолу,
Так дні мае злятаюць поціху —
З гасцей вяртаюцца дадому.

Ах, да чаго ж, зямелька волглая,
Былі кароткія гасціны!
Як бы й зусім, як бы і ўвогуле
Не быў, не жыў, не меў Айчыны.

*Верасень 1997 г.*

## ЗУСІМ, ЯК ТОЙ…

Усё!.. Журба і тая адабрана.
Пустэча — думкі нават не імкнуць.

А за сцяною, чуйнай, як мембрана,
«Сабачы вальс» на піяніне б’юць.

І чуцен смех, гарэзлівы, дзявочы, —
Зусім, як той, як паўжыцця назад,
Калі ты шчыра верыў у дзівосы
І сэрца білася з жыццём у лад.

*Лістапад 1997 г.*

## Я ГЛЯДЗЕЎ…

Я глядзеў на краскі ў лузе майскім:
Як зырчаць яны ў густой траве!
І ў той вязі, што сплялі краскі,
Прачытаў я: Беларусь жыве!
І гукнуў ад радасці: браты!
Вось ён — сімвал нашай праваты!
І калі хто духам паў у скрусе —
Учытайся ў красак вязь на лузе!

Я глядзеў на белае каменне,
Што з раллі тырчала па зіме.
І з тых белых знакаў на імгненне
Словы ўзніклі: Беларусь жыве!
І гукнуў я з радасці: браты!
Вось ён — сімвал нашай праваты!
І калі каго ўзяло сумненне —
Глянь пільней на белае каменне!

Я глядзеў на неба зорны купал,
На зіхоткі пыл у сіняве,
І па зорках у бліскучых купах
Прачытаў я: Беларусь жыве!
І гукнуў ад радасці: браты!
Вось ён — сімвал нашай праваты!
Божы знак! І калі з вас каторы
Траціць веру стаў — чытайце зоры!

*1997*

## І КАЛІ Я…

І калі я на суд Гасподні
Пайду-сыду за небакрай, —
Той белы дзень ты ўсё ж успомні,
Ці ўспомні ўсё ж той светлы май.

Як блаславёная багамі
Ты мне ўсміхалася здаля,
Якой нячутнай пад нагамі
Табе здавалася зямля.

***Лістапад 1997 г.***

## ДАГАРАЙ

Дагарай, дагарай, дагарай,
Адзінокае ў поле цяпельца!
Дакарай, дакарай, дакарай! —
Я — з трывалых, змагу прыцярпецца.

Стану-гляну, а ў полі пустым —
Ні дымка ўжо няма, ні свячэння.
Толькі золь. Толькі шэрая стынь.
Ды варон у прысадах вячэрня.

***Лістапад 1997 г.***

## НАВОШТА РАДЗІМА ПАЭТУ?

Навошта Радзіма паэту,
Адбітая ў кроплі расы?
Ён — вольны вандроўнік сусвету.
Ён — вечны шукальнік красы.

Яго неспатольная мара
Не знае ні меж, ні пуцця.
Ён — вольных парываў ахвяра.
Ён — вечных блуканняў дзіця.

Ён ласкай не толькі планету,
А й космас увесь апаўе.

Навошта ж Радзіма паэту?
Каб косці ў ёй скласці свае.

*Лістапад 1997 г.*

## ЧЫННІК ПРАГРЭСУ

Ты б хацеў падвышэнне здабыць?
То ўлічы: каб не выйшла памылка —
Лепш за ўсё гэта ў лазні рабіць.
Лепшы чыннік прагрэсу — парылка.

Той прыладай, якой мы ў вяках
Шчыравалі, каб кроў не мярцвела,
Навучыся як след на цапках
Апрацоўваць вяльможнае цела.

Трэба знаць, як да жылак дастаць:
Дзе прыціснуць, дзе злёгку правесці,
Дзе прысцёбнуць, дзе ўсмак пахвастаць,
Дзе, без дотыку, толькі патрэсці.

Рытуал да драбніц завучы,
Каб магло цудадзейства адбыцца.
А то можаш усё прапячы,
А на пяткі, напрыклад, забыцца.

Вельмі ўгодзіш зычліўцу свайму,
Калі, свенцячы скуру і косці,
Ты паможаш і войкаць яму,
Якатаць і крактаць ад любосці.

А пасля, у прылазніку ўжо,
Самавіта, не корчачы блазна,
Тое з торбы дастань, без чаго
І найлепшая лазня — не лазня.

*1997*

## БУДЗЬМА!

Лёс атаварыўшы,
Будзьма, таварышы!

Будзьма дыхтоўнымі!
(Хоць і бязмоўнымі.)

Будзьма лагоднымі!
(Хоць і галоднымі.)

Будзьма слухмянымі!
(Хоць і здыхлянымі.)

Мы — не бунтоўныя.
Мы — памяркоўныя.

Мы — не амбітныя.
Мы — абабітыя.

Нам — не да годнасці.
Нам бы — па роднасці,

Нам бы — па міласці,
Хоць і ў паныласці.

Нам бы што-колечы
Выпрасіць, молячы.

К тым, што красуюцца,
Нам не прасунуцца.

Лепей — бядуючы,
Чымся — будуючы.

Лепей, як некалі, —
Зноў недапекамі.

Свету за ўзмежышчам —
Будзьма пасмешышчам!

*Кастрычнік 1997 г.*

## АБЫ

*З гісторыі плямён і народаў*

У эпоху Барацьбы,
На этапе Хамства,
Людзі племені Абы
Утварылі ханства.

Што за племя і чаму
Мела назву гэту?
А таму, што Бог яму
Не дадаў імпэту.

Не для бойкі ці гульбы,
А для годнай дзеі.
З гіблай звычкаю «абы»
Людзі там мадзелі.

Абы-што любілі піць,
Абы-чым карміцца,
Абы-як дзяцей вучыць,
Абы-дзе маліцца.

І начальнікаў яны
Хоць якіх любілі —
Абы, сукіны сыны,
Добра ў морду білі;

Абы тут жа цалаваць
Той кулак давалі;
Абы ў душы напляваць
Ім не забывалі.

Незвычайны быў народ!
Дзіўнае жыхарства!
І аднак жа Бог бярог:
Утварылі ханства!

Годзе скаргаў і журбы!
Кінем лёсу выклік!..
Толькі што ж, калі Абы
да «абы» превыклі:

Абы ціха, абы з рук,
Абы дзень да ночы…
І аднойчы ханства — фук!
Фукнула аднойчы.

Знікла — як і не было! —
Пад крылом сумежным.
І ў гісторыю ўвайшло
Анекдотам смешным.

***Кастрычнік 1997 г.***

## НЕ БЯДУЙЦЕ!..

Не бядуйце, настаўнікі мілыя,
Што з праграм і падручнікаў школьных
Песні-думы паэта праўдзівыя
Выдзяўбаюць, як шкоднікаў шкодных.

Выдзяўбаюць з той самай нянавісцю,
Як калісь, на крывавым прадвесні,
Каршуны, што віселі тут навіссю,
Выдзяўбалі Купалавы песні.

Выдзяўбаюць!.. А хто ж бо заступіцца?
Хто падымецца? Хто абароніць?
Белы зайчык пад кусцікам туліцца.
Звон на вежы знямелай не звоніць.

Звон не звоніць… Ды хоць і панылыя
Па калдобінах цягнуцца будні,
Не бядуйце, настаўнікі мілыя:
Шчырым песням не згінуць ад блудні.

З тых праграм, што ваююць, як ратнікі,
За свабоду, — ніякім дэкрэтам
Іх не зняць! Калі нават сцярвятнікі
Заўтра выдзеўбуць сэрца паэта.

*Кастрычнік 1997 г.*

## У НОЧ ПАКУТ

Гасподзь! Чаму й завошта
Ты мне даеш «адстаўку»
І так募 караеш жорстка —
На дзён маіх астатку?

Чаму мне не даеш ты
Патрэбнай сілы-моцы,
Каб выбавіць дарэшты
Душу з грызот бясконцых?

Чаму дазволіў д’яблу,
Замест дабра з любоўю,

Нянавісць і няпраўду
Прыставіць к узгалоўю?

Чаму ў такім рэжыме
Ты гоніш дні і ночы?
Як жыць, як жыць, скажы мне,
Пад грузам гэткай ношы?

Як жыць, калі наўкола,
Куды ні кінь вачыма, —
Як наркаман на ўколах,
Трымаецца Айчына.

*Снежань 1997 г.*

## ЖЫЦЦЁ

Не стала маці, да якое нёс
Душу збалелую — паспавядацца.
Не стала бацькі, што прымаў да слёз
Прапашчы лёс зямлі і гаспадарства.

Не стала брата, што дарадцам быў,
Калі ўзнікала клопатнае штосьці.
Не стала і сястры, з якой любіў
Успомніць песні нашай маладосці.

Не стала ўжо і большыні сяброў, —
Каб пасядзець за чаркай і яшчэ раз
Адчуць, што хіжы век нас не развёў
І што нам шлях не засланіла шэрасць.

Не стала ўжо, прашу мне даваць,
І закаханага ў жыццё паэта,
Што так любіў над вершам шчыраваць,
Як Усявышні над стварэннем свету!

Таго паэта ўжо няма. Няма!
А сноўдае сярод руін былога
Яго двайнік. Не сільцеся дарма
Пазнаць у ім свайго братка старога.

*Снежань 1997 г.*

## КРЫК ВЫГНАННІКА НА РАДЗІМЕ

Ці ранак, ці поўдзень, ці вечар,
Куды ні пайду, ні ступлю —
Ні следу ад той векавечнай,
Што кроўнай любоўю люблю!

Ні слова на мове народа!
Ні гуку на мове зямлі!
Прыблуды, манкурты, звыроды
Амаль даастатку звялі.

Ад дум у душы халадзее.
Трыванне на частачкі рву.
Панове начальнічкі! Дзе я
Праз вашую ласку жыву?

Куды, у якую дзяржаву,
Наяве, а быццам у сне,
На гібель, на здзек і няславу
Вы выгналі з дому мяне?

Куды, паяднаўшы ў хаўрусе
Усякую погань і гнюсь,
З дзяржавы маёй — з Беларусі
Вы выгналі прэч Беларусь?

***Сакавік 1998 г.***

## ПІШЫЦЕ ДЗЁННІКІ, ПАЭТЫ!

Пішыце дзённікі, паэты!
З бясстрашнай фігай у кішэні
Кляймíце ганьбай прайдзісветаў,
Што так нахабна расшышэлі!

Пішыце, мілыя! І ў скрынку,
У стол хавайце іх, каб потым
Чытач-нашчадак горда ўскрыкнуў:
«Вось быў герой! Вось быў апостал!

Як не цярпеў ён служкаў здрады,
Што край прадаць былі гатовы!

Якія гнеўныя тырады
Абрынуў ён на іх галовы!..»

Пішыце! І, каб не спазніцца
І не ўпусціць бяздарна шанцу,
Хутчэй бяжыце пакланіцца
І ў ручку цмокнуць запраданцу.

Пасля кульніце дома чарку
І нават дзве — як пад закуску.
І гэта будзе — ад пачатку
І да канца — па-беларуску.

*1998*

## ЯК ХТО ЗДЗЕКУЕЦЦА З БЯСПРАЎНЫХ ЛЮДЗЕЙ

Пан — пыхліва і порстка, — па-панску.
Хан — глумліва і жорстка, — па-ханску.
Хам — паскудна і гідка, — па-хамску.
Сам — падступна і хітра, — па-самску.
Ды найгнюсны з усіх і найгоршы —
Здзек, што скрозь — ад Бярэсця да Воршы,
Ад Гародні да Гомля і Глуску —
Чыніць лёкай-халуй — па-халуйску.

*1998*

## Я ХАЦЕЎ БЫ АДНО…

*Памяці Яўгеніі Янішчыц*

Успаміны пра Жэню?
Даруйце, але…
Я не здолею іх напісаць.

Сэрца вугаль-графіт
даастатку скрышыўся,
ад жалю размяклы.

Я хацеў бы адно —
калі дойдзе мой голас —
ёй ціха сказаць:

«Кепска, Жэнечка…
долю здабыць Беларусі
не можам ніяк мы…»

*Лістапад 1996 г.*

## СВІЦЯЗЬ

### I

О Свіцязь, сон неразгаданы
Нябёс, апаўшых на зямлю.
У хвалях, сціху разгайданых,
Святыя воблікі лаўлю.

Мне старажыл сказаў: бывае,
Што ў ясна-сонечныя дні
Адбітак душ іх усплывае
З крыштальна чыстай глыбіні.

Яна і ён. Нібы на здымку,
Схіліўшы да чала чало,
Яны то ўзнікнуць на хвілінку,
То знікнуць — як і не было.

Штогод тут розны люд дарожны
Стаіць над люстрам хваль тваіх.
Але не кожны, не, не кожны
Меў шчасце-шанц убачыць іх.

А толькі той, хто моцна-моцна
Сам закаханы калісь быў
І, век зжываючы самотна,
Не разлюбіў і не забыў.

II

Цябе, з Адамам і Марыляй,
Найпекны цуд з усіх азёр,
Сваёй зямлі перыферыяй
Назваў замежны гастралёр.

Ужо прысвоіў! Прыхаўрусіў!
І не падумаў, чорт крывы,
Што ты ёсць сэрца Беларусі,
Душы сяродачак жывы.

Ужо гатовы і ў арэнду
Цябе выгодна здаць. Цябе —
Найпаэтычную легенду
У вечным смутку і журбе.

*1998–1999*

## СНЕГ У ІСТАНБУЛЕ

Не ў ладах мой бог з ісламскім небам —
І ад крыўды ледзь я не стагну:
Цэлы дзень заносіць мокрым снегам
Экзатычны горад Істанбул.

Над Басфорам, над Ая-Сафіяй,
Над Султан-капе, куды ні глянь —
Бы нагнаная чужой стыхіяй,
Непаўднёвая вісіць імгла.

Тым не менш, хаджу па вулках вузкіх —
З думаю: а ці не ўгледжу след,
Дзе краса рабыняў беларускіх
Завядала, як ад сцюжы цвет.

І злятала — ціха, як пялёсткі
З белых яблыняў, — на чорны брук,
На Басфора стомленыя ўсплёскі,
У базарны тлум, у гразь і бруд.

Божа! Для чаго за свет няблізкі
Гналі іх у гэты край чужы —
Ад сяліб, дзе родныя калыскі,
Ад магіл, дзе родныя крыжы?

І за што так, Госпадзе прамілы,
Жорстка пакараны я табой,
Што ў любым кутку любой краіны
Мне сціскае сэрца памяць-боль?

Памяць аб бясконцых нашых муках —
З самых даўніх дат і праз вякі…
Снег… Залётны снег на вузкіх вулках —
Халепны, раскваклы, хлюпаткі.

*1999*

## УЖО САМ БОГ СКАЗАЎ

На стыку двух вякоў
І двух тысячагоддзяў
Гісторыяй самой
Наканавана нам —
Згадаць наказ дзядоў
І, з воляй іх у згодзе,
Адбудаваць свой дом
І асвяціць свой храм.

За тысячу гадоў
Мы столькі крыўдаў знеслі,
Спазналі столькі бед,
Паклалі столькі страт, —
Што ўжо сам Бог сказаў:
«Народзе! Уваскрэсні!
І перайнач жыццё
На свой уласны лад!»

Калі ж і гэты шанц
Упусцім мы бяздарна
І ў новы ступім век
Бязмоўнымі, як скот, —
«Няўжо, — спытае Бог, —
І я браў слова марна?
Дык што ж за людзі вы?
І што вы за народ?»

*1999*

## УСЁ ЖЫЦЦЁ

Усё жыццё к братэрству зваў —
З мальбой удзень, з плачам уночы, —
І толькі сэрца надарваў,
І толькі сплакаліся вочы.

А хоць бы хто, а хоць бы дзе
Азваўся словам забалелым —
У незлічонай грамадзе,
У неаглядным свеце белым.

Куды ж яшчэ з маёй журбой,
З маёй бядой пайсці на споведзь,
Каб расказаць, як крыўда-боль
Ізноў душу мне есць упоедзь?

У цёмны лес пайду і там
Апошні раз нагаваруся.
Скажу ўсё дрэвам і кустам,
Хто ёсць я ў роднай Беларусі.

Скажу: «О, дрэвы і кусты,
Яшчэ з гадоў маленства мне вы
Былі як сёстры і браты, —
Маёй зямлі кусты і дрэвы.

Пачуйце ж голас-кліч бяды —
Пакуль хаджу, пакуль жывы я.
Пачуйце! Нават і тады
Калі душа ваўком завые».

***Красавік 1999 г.***

## ВОЛЯ ВАША, ПАНОВЕ!

Пакуль з экрана тлуста-густа
Плыве хлусня, паклёп і глупства —
Ганіце рытмы, рытмагоны!
Звaніце ў рыфмы, рыфмазвоны!

Пакуль плятуцца здрады-змовы
І кляпы клепяцца для мовы —
Пляціце плёткі, рыфмаплёты!
Кляпіце клёпкі, вершаклёпы!

Пакуль слязьмі сыходзіць Маці
Па вязню-сыну ў каземаце —
Пампуйце строфы, рыфмадуі!
Штампуйце тропы, славасуі!

Пакуль народу робяць пойла,
Каб ён хлябтаў і спаў спакойна —
Рабіце песні, вершаробы!
Хлябчыце пепсі, рыфмахлёбы!

Так і жывіце, не тужыце,
Здароўе, нервы беражыце,
Як і дагэтуль, будзьце ў ласцы —
І вам аддасца! Вам аддасца!!!

***1999***

## ТАКОГА ВЕРАСНЯ…

Такога верасня —
За ўсё імгненнае
Жыццё пражытае —
Яшчэ не знаў я.

З такой празрыстаю,
Ледзь-ледзь прыкметнаю
Смужынкай марыва
На даляглядзе.

З такой лагоднаю,
Багаславёнаю
Зямной суцішнасцю
У родным небе.

З такімі плыўкімі,
Шчымліва-сумнымі
Дымкамі шызымі
У родным полі.

З такімі яркімі,
Самаахвярнымі
Агнямі-барвамі
У родным лесе.

З такой святлістаю,
Як бы й не крыўджанай,
Пяшчотай-ласкаю
У родным сэрцы.

*1999*

## БРАТУ БЕЛАРУСУ

Не драмі, беларус, не драмі, —
Схамяніся, агледзься відушча.
Што табе ўгатавана, зірні,
Каб зайшоўся хутчэй ад удушша.

Мала цынкавых трун-дамавін
Атрымаў ты з чужацкіх фарпостаў?
Зноў гатовы хадзіць да магіл,
Што пачнуць курганець на пагостах?

Знецярпеўшы глядзець у журбе
На знябытасць тваю і гібенне,
Бог наважыў даць волю табе,
Даць адхланне, ад гнёту збавенне.

Не праспі ж, беларус, не праспі
Гэты лёс, гэты дар легендарны.
Разламі, разварочай, разбі
Векавую шкарлупіну ганьбы!

Глянь, як вольны шыкуецца свет,
Як жывуць пабрацімцы-славяне,
Супакойныя тым, што павек
Квет свабоды ў іх сэрцах не звяне.

Не дазволь жа і ты, не дазволь
Над свабодай занесці сякеру!
Акрывавіць адвечны твой боль.
Апаганіць твой гонар і веру.

*Кастрычнік 1999 г.*

## ЗУСІМ ПРЫВАТНАЕ

О, друг мой,
Як гэта нямала —
На захадзе дня
Сядзець каля грубкі
І слухаць,
Як трэскаюць дроўцы,
Як льецца мелодыя жарсці
З-пад пальцаў агня,
І ў тон ёй
Шукаць у душ
Запаветныя слоўцы.

*2000*

## МОЖА СТАЦЦА…

Можа стацца — і я адыду
У сутонь курапацкую
І на сыпісты жвір упаду
Не ўасобку, а ў брацкую.

Дык калі вы мой прах там знайсці —
Прыйдзе час — зажадаеце, —
Па шырокай крывіцкай касці
Вы мяне распазнаеце.

*2000*

## ВЫ, ПЭЎНА, ЛІЧЫЦЕ…

Вы, пэўна, лічыце, што ў гэты свет
Я і прыйшоў для баявога чыну.
О не, сябры! Мне Божы запавет
Быў іншы — славіць сонца і жанчыну.

Але Радзімы ўкрыжаванай лёс,
І для самога Бога неўспадзеўку,
Маю душу на барыкады ўзнёс,
Дзе і трапечацца яна на дрэўку.

*2000*

## ВОСЬ І ЯШЧЭ АДНО ІМЯ

*Міхасю Казлоўскаму*

Вось і яшчэ адно імя…
Апошняе? О, не!
Вяртанню іх канца няма
У нашай старане.

За час няволі чужакі
Іх сцерлі сотні сот,
Каб безыменным праз вякі
Стаў наш увесь народ.

Калі папраўдзе мы сыны
Скарынавай зямлі —
Мы ўсё адробім, каб яны
Павек між нас былі.

Мы вернем, мужна і без слёз,
Іх душы з небыцця.
Якой цаной? Як судзіць лёс —
Дык і цаной жыцця!

*2000*

* * *

Паэзію аспрэчыць немагчыма.
Тым больш — адпрэчыць ад душы сваёй.
І нават адвярнуўшыся, плячыма
Адчуеш: дастае! І праўда ў ёй!

І як бы ні хлусіў сабе, і як бы
Ні суцішаў сябе: «Ат, што той верш!» —
Паэзія бярэ цябе за жабры
Пытаннем страшным: для чаго жывеш?

*Лістапад 2001 г.*

## КЛІЧ ДА БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Новы век
Азарыў небасхіл.
«Чый ён будзе?» —
Прарокі гамоняць.
Будзе наш —
Калі выстарчыць сіл
У цябе,
Беларуская моладзь!

Значыць,
Трэба па долю ісці
З цвёрдай верай,
Што вёрсты не зморадь.
Дык не страць,
Не ўступі,
Не ўпусці,
Гэты шанц,
Беларуская моладзь!

Хай за зданню
Пачварыцца здань —
Сілу волата
Цені не зломяць.
Час прабіў:
Уздыміся
І стань
У шыхты,
Беларуская моладзь!

Веру:
Выпаўзні з чорнай начы
Дух твой вольны
На здраду не змовяць.
Раздрузгоч,
Раскрышы
І змяці
Іх кубло,
Беларуская моладзь!

Помні:
Волю ў змаганні бяруць,
А не просяць,

Не кленчаць,
Не моляць.
Толькі ты
Зберажэш Беларусь!
Толькі ты,
Беларуская моладзь!

*2001*

## З ЦЫКЛА «СЯМІРАДКОЎІ»

* * *

Сваю паэму, першую ў жыцці,
Чытаю першай у жыцці слухачцы.
І раптам — збіўся на радку, запнуўся
І паўтарыў яго, і на наступным
Таксама збіўся, і на трэцім зноў…
Не дачытаў бы, каб не збеглі прэч
Гарэзы-пальчыкі з маёй чупрыны.

*Сакавік 1998 г.*

* * *

Пабіты ржой, сук быў адпілаваны
Ад яблыні старой, быў ацярэблены
І кінуты на дол як непатрэбны.
А ён, вясновым сокам набрынялы,
І на зямлі пусціў ружовы квет!..
Так безнадзейна, што ажно заплакаў,
Пазнаўшы ў ім сябе, стары паэт.

*1998*

* * *

Ізноў стаю над попелам Хатыні.
Ізноў ад жаху кроў у жылах стыне.

Стрывай! Стрымайся і не звар’яцей! —
Ад роспачы, ад непасільных дум:
«Але за што дзяцей? За што дзяцей??
За што дзяцей??? Як у нямой пустыні —
Пытаць дарма: адказу не знайду».

*1998*

* * *

О, сябры таленавіта-розныя!
Песнятворцы міжчасоўя шэрага!
Летапісцы мітынгаў з адозвамі
І рапсоды прыцемку таршэрнага!
Пацярпіце і даруйце мне,
Што ля вас, пакуль хаджу-ківаюся,
Я яшчэ крыху пааціраюся.

*Сакавік 1998 г.*

* * *

Ты адыходзіш, мой дваццаты век.
Хоць ты і мой — ты не багаславёны,
Бо ўсе высокія твае імёны —
Век Космасу, Камп’ютэраў, Ракет —
Чарнобыль перакрэсліў, як рукой,
І для мяне ты Век Бяды — такой,
Якой не знаў ад сатварэння свет.

*1998*

* * *

Свет брыдзіць сівую маю галаву
За тое, што ў хамскай дзяржаве жыву.
І страшна мне стала: надыдзе часіна —
І ўбачу я Янку, Якуба, Максіма,
Яны і спытаюць: «А што ж гэта, брат?

Які ж вы і як усталёўвалі лад,
Што ў краі арудуе хамская сіла?»

*1998*

* * *

У чыстым белым ільняным уборы,
Дарогаю, што ў лужынах была,
У горад Маці крывічоў ішла
І думала, што падвязе каторы…
Але ў абмін імчалі ўсе аўто
І ў лімузін не ўзяў яе ніхто,
А кожны граззю наравіў абхляпаць.

*1998*

* * *

Ты ў горкіх думах не карай мяне
За немату, няўвагу і няўдзячнасць.
Маўчу з табой, бо з Ёю гавару,
Бо знаю ўжо: калі ні пахіне
Мяне мой лёс — я за Яе памру.
У гэтым сутнасць існага і значнасць,
А ўсё астатняе — не больш чым бачнасць.

*1998*

* * *

А ліпы ў прысадах, як колісь, цвітуць,
І пчолкі, як колісь, снуюцца, гудуць,
І лісце расою мядовай паблісквае,
Як колісь — у тое далёкае блізкае,
Калі ты зрывала лісток за лістком
І смешна лізала іх мёд языком,
Каб мог тую соладзь я й сёння адчуць.

*1998*

* * *

Павольна і годна, на захадзе сонца,
Рагуля вяртаецца з поля… Вось-вось
Бабуля ёй скажа ласкавае штосьці,
І тут жа — зазвоняць цурочкі ў даёнцы.
На іхнія вешчыя вечныя гукі
Збягуцца прыезджыя з горада ўнукі —
На дзіва глядзець і шчасліва чакаць.

*1998*

* * *

Вам трэба знаць, чаго душа дрыжыць,
Чаму хачу я да вясны дажыць?
Каб пэўным быць, што грушка прыжылася
І ў рост пайшла, а значыцца — па часе
Унук успомніць дзеда… Вось і ўсё!
Такая дробная, даруйце, мара.
Так мала трэба мне. Ганебна мала!

*1998*

* * *

Вось і ўсё… І круглай сіратою
Засталася… Б’ецца ў фортку вецер.
Ці душа матулькі?.. Глуш і стынь.
Як няўтульна стала ў людным доме!
Як няўтульна стала ў родным краі!
Як няўтульна стала ў белым свеце —
Анямелым, вусцішна пустым!

*Сакавік 1998 г.*

* * *

Божа, я ўжо былых не ўзнаўлю
Яснадум, яснадзён, ясназорак,

І таму цябе слёзна малю:
Той, якую любіў і люблю,
Дай здароўя, адхланнасці дай
І яе залаты адвячорак
Як мага надаўжэй затрымай!..

*1998–1999*

* * *

Дзіўнае стварэнне — чалавек:
З году ў год, штодня, і з веку ў век
Сам з сабой хітруе і хітруе…
Ну, ды скора, скора ўжо, здаецца,
Ён перахітрыць сябе самога,
І зямная куля застанецца
Без людзей. Пад горкі посмех Бога.

*1998*

* * *

«Не крычы, беларускі паэт, не крычы! —
Павучае прыручаны крытык. —
Лепш сябе выяўляць у спакойным ключы.
Для чаго надрывацца ад крыку?..»
Сапраўды, для чаго? Вырываюць язык?
Ну і што? Будзеш жыць без’языкім.
У братэрстве затое ў вялікім!..

*1998*

* * *

Тарас Шаўчэнка, геній Украіны,
Сваю хацеў мець хатку, свой садок,
Свой дворык, свой пад вербамі ставок,
Сваё дзіцятка, каб узяць на рукі…
І ўсё жыццё канаў, згасаў ад мукі,

Што анічога гэтага не мецьме…
І нават не паслаў праклёну ведзьме.

*1998*

* * *

Як стары марак на мора з берага,
Ты глядзіш удаль з пагорка белага
На прасцяг, знаёмы да драбніц:
Вось — зямля, якой не разлюбіць
І ў якой ніколі не зняверыцца!..
Ты — заплакаў? Значыць, так і быць.
Значыць, лёс не здрадзіць, не адвернецца.

*1998–1999*

* * *

Смялей, смялей перабірайце косці
Паэтаў на парнаскім цвінтары,
Паколькі гэтай паэтычнай корці
Вам не пазбыцца ўсё адно, сябры!
Занятак, праўда што, як свет, стары,
Затое ў духу часу — не запечны,
Дэмакратычны і зусім бяспечны.

*1999*

## НЯСМЕРТНЫ ДУХ СЛОВА

Ці гляну навокал, ці памяць крану —
І чую і бачу: па гуку, па слову
Стараюцца гэрцы пакласці ў труну
Маю беларускую мову.

Стараюцца! Сотні ўжо гэтак гадоў —
Па гуку, па слову, па выразу цэлым —
І душаць, і душаць, і зноўку, і зноў, —
Каб стаўся наш край анямелым.

Ад злосці пры гэтым шалеюць ажно.
Аж кожны з іх зекры на лоб вырачае:
«Якая жывучасць! Дзе ўсмерцяць адно —
Там сем узамен вырастае!

І лезе, і лезе — куды ні паглянь —
То гукам, то словам, то цэлай прымоўкай,
Як лезе стаквецце на ўлоннях палян
Ці ў пойме, цяплынню прамоклай».

І гэрцам ужо не хапае разваг:
Што здумаць-прыдумаць, каб справіцца з ёю?
Ну хоць ты суцэльны будуй саркафаг
Над гэтай праклятай зямлёю!

Не цямяць чужынцы, не кемяць свае,
Што тут не паможа і покрыў бетонны.
Любыя прыдумы ўзарве і сарве
Нясмертны дух слова бунтоўны!

*2001–2002*

## ПАЧУЙЦЕ!

Магчыма, і гэты мой кліч
Далёка не дойдзе: заглохне
У нетрах муроў-камяніц,
У зараслях чортапалоху.

Магчыма… І ўсё-ткі, і ўсё ж:
— Пачуйце! Пачуйце! — гукаю. —
Імперцы прыставілі нож
Да горла няшчаснага краю!

Пачуйце ж, о дзеці зямлі,
Што ваша павек, і не дайце,
Не дайце, каб род наш звялі
Антыхрысты і запраданцы!

*2002*

## І СТАЛА ІМ…
*Санет памяці НАН Беларусі*

І стала ім акадэмічна ясна,
Якую ролю змусяць іх сыграць…
О, як эфектна, прафесійна, класна
Іх распласталі гальштукамі ў гразь!

Хоць колеры лаяльныя Радзіме,
Іх брудзілі з нянавісцю такой,
Як быццам кожны гальштук на грудзіне
Быў з бел-чырвона-белай паласой.

Цяпер — трымцяць: хаця б не адбылося
Так, як бывала ўжо на іх вяку:
Спярша валялі гальштук у балоце,
Пасля зашморгвалі на гарляку.

Каб знішчыць нацыю — навука цвердзіць —
Перш-наперш трэба дух свабоды ўсмерціць.

***Сакавік 2002 г.***

## БАЛАДА ПРА ГОРКАСЦЬ

Пасадзіўшы голенькага ў ночвы,
Мама мые сына. Любата!
Але вось папала мыла ў вочы —
Давяла да плачу гарката.

Мусібыць, зайшло занадта шчодра.
Мама нагінаецца хутчэй
І губамі цёплымі, пяшчотна,
Горкасць выцалоўвае з вачэй.

«Вось і ўсё, не плач, ужо не есца», —
Сплюнуўшы салёны выцмак з губ,
Кажа мама. Памяць малалецтва!
Памяць першых горкіх страт і згуб!

На сцяжынках, роўных і крывенькіх,
На шляхах з імглы і з цемнаты —
Колькі мне заходзіла пад вейкі
Да нясцерпу едкай гаркаты!

Колькі блудных крокаў незваротных
Зроблена ў жыццёвай мішуры!
Колькі любых, дарагіх і родных
Адышло ў магілу без пары!..

Думаў: з часам прыцярпеўся, звыкся.
Не. Пад вейкамі ўсё больш гарчэй.
Неба роднае! Пара! Схіліся
І мне горкасць выцалуй з вачэй!

*Красавік 2002 г.*

## ЯК ЖА СТАЛАСЯ?

Не паверацць, напэўна, нашчадкі,
Што такія былі ў нас парадкі,
Што дурнілі нас так верхаводы —
Ненавіснікі нашай свабоды,
Нашай мовы, і кнігі, і песні,
Нашых скарбаў і нашых святынь, —
Усяго, што мы ў душах пранеслі
Праз стагоддзяў смяротную стынь.

Як жа сталася, як гэта выйшла,
Што пад выжлаю шчэрыцца выжла,
А пад быдлам скаціпіцца быдла,
А пад хлусам крыўляецца хлус,
А пад злодзеем хмыліцца злодзей,
А пад лёкаем мыліцца лёкай,
А пад гнусам капошыцца гнус,
А пад гэтым усім — беларус?

*2002*

## А ПАВІННЫ, А МУСІМ…

Беларускую справу
Трэба, хлопцы, рабіць
Не цяп-ляп, а на славу.
Справу трэба любіць!

Цяпам-ляпам, паспешна,
Мы і цэлым гуртом

Не збудуем належна
Беларускі наш дом.

А павінны ж, а мусім
Так яго збудаваць,
Каб майстроў Беларусі
Свет з’язджаўся вітаць.

А павінны, а мусім
Так свой гонар явіць —
Каб у дом Беларусі
Бог зайшоў блаславіць.

*2002*

## ДУХ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Адкуль бярэцца ён? З травы і зёлак,
З лясоў, што засланяюць небасхіл,
З крыніц бруістых, з тоняў у азёрах,
З крыжоў збуцьвелых і з саміх магіл.

Куды ні ступіш — скрозь і ўсюды чутна
Яго ўсяіснасць. Так задумаў Бог, —
Каб, як бы ні было табе пакутна,
Свой родны край ты разлюбіць не змог.

*2002–2003*

## БАЛАДА
## ПРА МІКАЛАЯ І КАЦЯРЫНУ

Жыў-быў на свеце Мікалай.
Жыла-была з ім Кацярына.
Хоць бачылі: жыццё — не рай,
Свой лёс сям’я не мацярыла.

Бо зналі: ёсць Народ і Край,
І ёсць — чым доля надарыла:
У Мікалаі — Мікалай,
А ў Кацярыне — Кацярына.

Але жыццё дало разлом
На неспадзеўным развароце.

Размежаваць дабро і зло
Прадыктавала… дзірка ў роце.

І людзі ў злосці пачалі
Бурыць, ламаць, таптаць і бэсціць
Усё, што самі ж падвялі
Пад кодэкс праў і кодэкс чэсці.

Бурылі, верачы найперш,
Што здань руйнуецца былая.
А зруйнавалі ў рэшце рэшт
У Мікалаі — Мікалая.

Таптали, мялі, як трысцё,
Сляпую шкодную дактрыну.
А растапталі перш за ўсё
У Кацярыне — Кацярыну.

***Сакавік 2003 г.***

## ЗАПОЗНА, ПАНОВЕ…

Як ні прамоўлю — усё неўпапад,
Ды так, што ад злосці жыгаламі пораць:
Справа — нястомны саліст «дэмакрат»,
Злева — стагорлы «славянасаборац».

Аж дзіўна — як дружна!
Аднак жа — за што?
Люблю сугалоссе, спакой і свабоду.
З-за чорных шор і карычневых штор
На свет і людзей не глядзеў ад роду.

Ні ў форме палкоўнік,
Ні ў штацкім маёр
Мяне на кручку не трымаў пакрыёма.
І хоць у пакутах сумленне маё —
Мне ніцая радасць раба не знаёма.

Таму і вар'юе іх вольны мой кліч
У матчынай мове, не здадзенай гэрцам.
«І ты, галяпуюць, прадайся і ўкленч!
І ты адрачыся і станься зняверцам!»

Дарма — галяпуюць.
І пораць — дарма.
Запозна: мяне ўжо дастаць немагчыма.
Я — там ужо, там, дзе нявολі няма,
Дзе толькі свабода, любоў і Айчына.

*Люты 2003 г.*

* * *

Ведаў: будзеце зноў і хлусіць,
І віляць перад праведным словам,
А я зноў буду Бога прасіць,
Каб яно на здароўе пайшло вам.

Разумею ваш клопат, браткі, —
Разумею і крыўды не маю:
Гэта лёс, гэта вырак такі —
Мой, і ваш, і няшчаснага краю.

*2003–2004*

## СКАЗ ПРА ЗАЛАТОЕ ПЁРКА

Як матульку немаўлём
Меў за Матку Боску —
Я смактаў і ўноч і днём
Залатую соску.

Падкачаўшыся крыху.
Часта і ўахвотку
Еў ільняную жмыху
З залатога сподку.

Як давер бацькоў зазнаў —
Хоць малы, а служка! —
Парасят на выган гнаў
Залатою пужкай.

Стаў падлеткам — на мурог
Пасвіць вёў Буронку
На прывязаным да рог
Залатым пастронку.

Потым… неяк на жніве
Птушка перапёлка
Падарыла ў жыце мне
Залатое пёрка.

Хай не з неба журавель —
«Жнеячка» затое.
Я ад шчасця ружавеў:
Пёрка залатое!

Любаваўся доўга ім
Дый схаваў чын-чынам:
Рана знацца мне з такім
Залатым начыннем.

Як, пажыўшы, награшу —
Вось тады, канешна,
Выму пёрка й напішу
Залатое нешта.

Жыў, грашыў і гараваў,
Піў і плакаў горка.
Дый забыўся, дзе схаваў
Залатое пёрка.

Сама ў час, адчуў калі,
Што душа гатова
Падарыць сваёй зямлі
Залатое слова.

Ну, ды што ж! Такой бяды!
Гэты дар у вершах —
Зробіць нехта малады —
З племя шчаслівейшых.

Тое пёрка ў добры час
Знойдзе ў нейкім склепе —
І напіша Слова-Сказ
Прыгажэй і лепей.

*2003–2004*

# ЦЫКЛ «ПЯЦІРАДКОЎІ»

*У форме японскага танка*

## ВЯНОК НА АЛТАР

Што гэта ў цемры
Свеціцца там, дзе клады?
Ледзь здагадаўся:
Фасфарысцыруючы,
Мова выходзіць з магіл.

*

Задыхаюся.
Не хапае паветра —
Бы ў душагубцы.
А стаю на пагорку,
Пад небам, сярод палёў.

*

Злуюцца, крычаць:
«Дакуль ты іх будзеш сніць —
Вершы аб волі?»
Злуюцца… А хіба ж я
Снам у сне загадаю?

*

Памяць маленства:
Над чорным полем — імжа.
Сагнуўшыся ў крук,
Грэбае мама раллю
І кідае ў кош бульбу.

*

Сядзіць і плача,
А чаго — не гаворыць.
І страшна спытаць —

Каб не пачуць такое,
Што й сам зальюся слязьмі.

*

Музыка ночы!
Неба з зямлёй злучыла!..
А камертонам
Ёй паслужыў цвыркунок —
Першы азваўся ў цішы.

*

Разлёталіся,
Размільгаліся думкі —
Ні сабраць, ні ўняць.
І чаму на Купалле
Такая доўгая ноч?..

*

Вось і ў табе ўжо
Бачу адно дабрыню,
Ціхасць і стому.
Як моцна цяпер ты мне
Напамінаеш маму!

*

Самы высокі
І самы белы касцёл —
Наш быў, у Гайне.
Заглянеце мне ў душу —
Пераканаецеся.

*

Так страшна ўявіць,
Колькі я дам аднойчы
Клопату родным, —

Што хай бы я ўлёгся лепш
Дзесь у брацкай магіле.

*

А быў жа ён — час,
Калі мне здаваліся:
Рачулка — ракой,
Пагорачкі — горамі,
Дзедава слова — Божым.

*

Белая поўня.
Белы сувой дарогі.
Скора і дома!
Камашы ў адной руцэ,
Куфэрак кніг — у другой.

*

«Любіць — не любіць…»
Помню, абшчыпваў і я
Белы рамонак.
Забава, а як хацеў
Скончыць пялёсткам «любіць»!

*

Родныя гукі…
З гукаў — родныя словы…
Са словаў — песні,
Казкі, паэмы, драмы,
Жыццё, Радзіма, Народ.

*

І я зразумеў:
Хоць кінься грудзьмі на дот
За волю Тваю —

І з амбразуры зняты
Не пераканаю іх.

*

Часцей і часцей
Апынаюся думкай
На тым пагорку,
Дзе мама, сястра і брат.
І камяні. І сосны.

*

Скора ўжо, скора
Пройдзе, я веру, Гасподзь
Па нашай зямлі.
Толькі патрапіць бы нам
Ступіць у Яго сляды.

*

Ужо холадна,
Ужо хочацца ў хату
Падацца з двара
І з напаленай грубкай
Павітацца далоньмі.

*

Гляджу на пусты,
Голы садок. А ў думках:
З кім я? І што я?..
На бязлістай галінцы
Склее забыты яблык.

*

Музыка лесу
Заўсёды ў душу спакой
Мне навявала.

Што ж гэта сёння так
Хвоі шумяць трывожна?

*

Вы — маеце ўсё,
А я — толькі вяргіняў
Кустоў дзесятак.
Што ж трэба вам ад мяне?
Даць на развод? Вазьміце!..

*

Аж не верыцца,
Гледзячы ў вочы жыццю,
Што калісь і мы
Мелі гонар дзяржаўных,
Свабодных душой, людзей.

*

Пад вечар набіў
І сяннік і падушку
Шэптам мурагу,
Водарам спелых зёлак.
Што сёння прысніцца мне?

*

Мне цяжка вельмі:
Я знаю, што зрабілі
За сотні гадоў
З нашай ліцвінскай душой
Чужакі-акупанты.

*

Па чым пазнаю,
Што ты — мой брат беларус?
У тваіх вачох —

Наша гісторыя ўся,
Усе дзесяць стагоддзяў.

*

Вы думаеце,
Што ў вас апраўданне ёсць?
Так думаў і я.
І гэта мой страшны грэх
Перад памяццю родных.

*2002–2004*

## ВЯНОК НА МАГІЛУ

Ведаю: гэта —
Толькі маё. Да скону.
Навошта ж пішу?
Ну, можа, знойдзецца хтось,
Хто зразумее нешта.

*

Ціха ляжала.
Думаў, што спіць. І раптам:
«Ты ж трымайся, Ніл!
Ты ж трымайся!..» — сказала.
Не адкрываючы воч.

*

«Падвядзі мяне
Да вакна, — папрасіла. —
Хачу паглядзець…»
Праз паўхвіліны цяжка,
Скрушна сказала: «Усё…»

*

Абарвалася…
Усё абарвалася…
Усё пагасла…
Усё, што свяціла мне
І абяцала свяціць.

*

Помню, сказала:
«Ой, як ты будзеш плакаць,
Калі я памру…»
Не, не ўяўляла яна
Плачу майго землятрус.

*

Як ты прасіла:
«Дамоў! Хоць на дзень дамоў!..»
І вось ты дома.
І толькі на дзень. Заўтра
Пакінеш свой дом навек.

*

Дзе ты, куды ты
Гэтак далёка пайшла,
Што не прыходзіш?
Вочы прагледзеў — няма.
Слухаю ціш — не чутно.

*

Плачу і плачу.
Я і не знаў, што ў мяне
Слёзы так блізка.
Як ні згадаю цябе —
Вочы да Бога плывуць.

*

Вось і настала
Страшнай расплаты пара:
Курчуся ў муках
І праклінаю сябе —
І ратунку не бачу.

*

Ты — вечным жыла:
Любоўю і дабрынёй.
І будзеш вечна.
А я — быў рабом часу.
Гэтым і пакараны.

*

Усё бачыла.
Пакутавала. Плакала.
І малілася:
«Божа, падтрымай яго!
Маіх сіл не хапае!..»

*

«Што яны робяць
З Беларуссю! — плачучы,
Крычала яна. —
Я не стрываю й памру!..»
І — памерла. Ад гора.

*

Тымі ключамі,
Што я адмыкаў дзверы
У свет мілаты —
Цяпер адмыкаю ў стынь,
У пустату, у вусціш.

*

Сто дзён я хадзіў
Высакародна хлусіць:
«Ты папраўішся…»
І вочы ад воч хаваў,
Каб праўду не ўбачыла.

*

І чуецца мне
Ціхі журботны голас, —
Той, у палаце:
«А ружы ці зацвілі?
Праўда? То гэта добра…»

*

Знаю, якой ты
Ад Бога ка мне прыйшла —
Якой святлістай!
Знаю, што ўзяў у цябе.
А ці што даў — не знаю.

*

Якую ўжо ноч —
Толькі пачну засынаць —
Боль працінае:
«Чаму ты крыўдзіў мяне?
Няўжо ты не знаў, хто я?»

*

Хаджу паплакаць…
Лепш, як пабліз магілы
Нікога няма, —
Тады можна і ўголас.
Уголас не так баліць.

*

Божа, якою
Няшчаснай, пакрыўджанай
Ты ўранку была!
Хай бы я лепш не ўбачыў.
Хай бы я ноччу памёр.

*

Як ты трымцела
Над верай сваёй! І як
Змагалася ты —
З сабой і з цэлым светам, —
Каб той веры не страціць!

*

«Паклёп іх і бруд
Ты не прымай да сэрца», —
Гэтак сказала
Мне на сустрэчы яна.
Сёння. У сне. У поўнач.

*

Як кроплю расы
Долу баіцца праліць
Поўненькі венчык —
Гэтак баялася ты
Долю праліць няўмысна.

*

Ноччу пабачыў,
Як ты ламала рукі —
Ад болю, ад мук —
Над цяжка хворым дзіцём…
І я зразумеў усё.

*

Што ты стрывала,
Сцярпела і вынесла —
Знаю адзін я.
Пэвен, што ў нашым краі
Святых жанчын больш, чым дзе.

*

З кім падзяліцца
Мне болем за родны край —
Так, як з табою?
Так — каб сляза у слязу.
Так — каб на клятву клятва.

*

Помню, спытаўся:
«Што ад мяне ім трэба?
Чаму так грызуць?»
І ты адказала мне:
«Душу не прадаў — таму».

*

«Ну й патрыёты! —
Балесна ўздыхнула ты. —
Няўжо ім няўцям,
Што гэтай хлуснёй яны
Б'юць Беларусі ў сэрца?»

*

Мама… І Ніна…
Як памералі страшна!..
Вось і выходзіць:
Хто ў муках пражыў жыццё —
Ім і пакутная смерць.

*

Годнасць і гонар
За свой чалавечы сан —
Годнасць і гонар.
У гэтым ты ўся была.
І на людзях і дома.

*

Ты плакала так
Жаласліва — як дзіця
Знясіленае,
Што ўжо не можа гукаць
Маму, а толькі плача.

*

Найстрашнейшая
Кара з усіх на зямлі —
Кара памяці.
О каб мог я забыцца
На гэты роспачны плач!

*

На што ні зірну —
На хатку, кветнік, садок —
Ва ўсім мне відзён
Запозна ўяснёны мной
Геній тваёй любові.

*

Усё, што магла,
Ты для мяне зрабіла.
Усё, што магла.
І нават намнога больш:
Выгнала д'ябла з душы.

*

Няма таго дня,
Каб не падступіла мне
Памяць да горла —
Жалем, балючым няўсцерп.
Ці не да Бога іду?

*

Пытаецеся,
Чаму не хаджу я ў храм
На пакаянне?
Чаму?.. Не хачу, каб Бог
Зменшыў пакуты мае.

*

Да астатку дзён,
Па самы апошні ўздых,
На гэтай зямлі
Ты — светач душы маёй.
І там будзеш ім, і там…

*2003–2004*

## БАЛАДА
## ПРА ВАНЬКУ І МАНЬКУ

Ванька і Манька,
Каб не псаваць
Адносін з багатай суседкай,
Рашылі ёй хату сваю аддаць
І жыць у яе пад паветкай.
(Ну й недарэкі!)

Як жыцьмуць яны там?
Вядомая рэч:
Зімою заенчаць абое:
«А дзе ж наша хатка?
А дзе ж наша печ?

А што ж мы зрабілі з табою?
Ой недарэкі!»

Пасля — акалеюць.
І прыме іх дол.
І крыж ім паставяць з паметкай:
«Ванька і Манька.
Мелі свой дом,
А ўмёрлі ў людзей пад паветкай.
Ну й недарэкі!»

*2004*

## ПЫТАННЕ

Беларус!
Ты і дужы, і зграбны,
І кемны, і ў працы не зломак.

Дык чаму ж
Ты жывеш, як бяздарны,
Нікчэмны лайдак-пустадомак?

Дзе твой дух?
Дзе твой гонар? Твой голас?
Твой чын беларускі?

Ці ты гакнеш…
Ну хоць кулаком па стале —
Каб на дробныя друзкі!?

*2004*

## ГОСПАДЗЕ БОЖА…

Госпадзе Божа,
Навошта,
Навошта ты ўзяў мяне ў сведкі —
Бачыць, як з роднае Маці
Знушчаюцца вылюдкі-дзеткі?
Як выглумляюцца,
Як ёй у вочы плююць,
Супастаты-блюзнерцы,

Як намагаюцца,
Найбалючэй каб
Ударыць няшчаснай у сэрца…

Госпадзе Божа,
За што мне,
За што мне такая пакутная кара —
Каб адыходзіў я
З гэтага свету
Пад гогат агідных пачвараў?
Хай бы я лепей
Не чуў і не бачыў,
Не знаў і не ведаў такога!
Хай бы Ты лепей
Забраў да сябе мяне, Божа,
З калыскі — малога.

*Май 2004 г.*

## САНЕТ БЕЛАРУСКАМУ МЁДУ

*П. У. Вяленку*

Назло ўсім немачам, што пачалі
Усё мацней адольваць з кожным годам,
Назло напасцям розным і нягодам —
Жыву! Нячысцікі йшчэ не ўзялі.

Жыву таму, што, як дзіця ў сям'і,
Апекаваны ўсім пчаліным родам,
Штодня лячуся беларускім мёдам —
Лячуся ласкай роднае зямлі.

Цудоўны лек! Любы, хто паспытае, —
Гарчынку знойдзе ў слодычы яго.
Па ёй і цэняць мёд. Але з чаго,
Адкуль бярэцца ў ім гарчынка тая?
Мо з гэных зёлачак, што ў розгар мая
На курганах-капцах цвітуць штогод?

*Снежань 2006 г.*

## ПРА ПОРТКІ

Між калег, крутых і порсткіх,
Я — апошні на паяўцы,
Хто насіў са зрэб'я порткі,
Фарбаваныя ў рудаўцы.

Так, іх шылі мне са зрэб'я.
А каб выгляд мелі файны —
Фарбаваць было іх трэба
У рудой балотнай твані.

Вось іх мама й фарбавала
У імшарным іржавінні.
Як я ў іх фарсіў, бывала, —
Зразумець вы ўсё ж павінны.

Як ішоў я па дзядзінцы —
Мне ўвесь свет тады зайздросціў.
Больш, чым вам у новых джынсах
У зялёным тым жа ўзросце.

Пэўна, больш. І больш я імі
Даражыў. Хаця б за тое,
Што другіх не меў. Аднымі
Быў шчаслівы пагатове.

Памяць, свенчаная ў горы, —
Штука, знаеце, такая,
Што каторых-некаторых
Аж па смерць не адпускае.

І дыктуе ўсё ім: густы,
Меркі, прынцыпы, пагляды.
Бо — датуль і беларус ты,
Покуль помніш лёс пракляты.

Ну, а іншых цешыць, жывіць
Дух зусім-зусім інакшы.
Памяць фарбамі чужымі
Перакрэслілі крыж-накрыж.

І шыкуюць, духу продкаў
Пасьпяхова рады даўшы…

Я — не з іх. Я — родам з порткаў,
Фарбаваных у рудаўцы.

*Кастрычнік 2006 г.*

## У НОЧ НА ПАКРОВЫ

Вось і холад. Скора снег
сцежкі зацярусіць.
А чаму чуццё віны
точыць — не здаўмею.
Што я мог, ды не зрабіў
дзеля Беларусі?
Божа моцны, падкажы —
мо яшчэ паспею…

*14 кастрычніка 2006 г., пад раніцу*

## ЗГАДКА ПРА ПАЛАНЕЗ

Не перанесці…
Не вытрываць…
Сэрца заходзіцца. Млее ў грудзёх.
Сілы, здаецца, пакінуць вось-вось
і перратнецца дыханне…
Як жа так сталася?
Як жа так сталася, што без цябе
слухаю гэтую боскую музыку?
Сам. Без цябе.
Тваё крэсла пустуе.
А помню: як трэба было мне,
як мусіў я пераглянуцца з табой,
каб убачыць, як ты
выціраеш хусцінкаю слёзы —
ад шчасця, што чуеш яе,
гэтую боскую музыку…
У тыя хвіліны
я сам быў бязмежна шчаслівы.
І ўдзячны бязмежна —
Радзіме, Табе і Агінскаму.

*2006–2007*

## ГРАЕ ІРЫНА ШУМІЛІНА

Вечар цячэ не хвілінамі —
Музыкай дзіўнай цячэ.
«Брава, Ірына Шуміліна!
Просім што-небудзь яшчэ!»

Сэрцам да сэрца прыхілена
Зала ў прызнаннях любві.
Дзякуй, Ірына Шуміліна!
Божа цябе блаславі!

Ах, як натхнёна, акрылена
Гукі ўзлятаюць з-пад рук!
Грай жа, Ірына Шуміліна!
Грай! Каб жыла Беларусь.

*2005, 2007*

## ЧЫМ БОЛЬШ Я НА СВЕЦЕ…

Чым больш я на свеце і жыў і мадзеў —
ішачыў, цярпеў і змагаўся, —
тым болей да праўды дабрацца хацеў,
да праўды ўсім духам ірваўся.

З хлусні і з абману, з аблуды сляпой —
да праўды, да праўды штосілы!
Да самай вялікай, галоўнай, да той,
што кожнага лучыць з усімі.

І вось яна ўрэшце адкрылася мне —
ні чым не прыкрытай паўстала.
У поўнай істоце. Ва ўсёй галізне.
…І праўда мяне зруйнавала.

*Студзень 2007 г.*

## РОЗНІЦА

Усе, што гавораць сягоння
пра лёс беларускае мовы,
дзеляцца на дзве палавіны:

на тых, каму баліць
і каму не баліць.

Тыя, каму не баліць, —
спакойна зусім
філасофствуюць і разважаюць,
аналізуюць і аргументуюць,
нават пішуць трактаты.

Ну, а тыя, каму баліць, —
у прыступе болю
кідаюцца ніцма на дол
і плачуць надрыўна,
і б'юць кулакамі зямлю…

Вось і ўсё, і ўся розніца
паміж тымі і тымі.

*Май 2007 г.*

## І БУДЗЕМ…

І будзем мы ўсе, дарагія-шаноўныя,
Амбіцыяў, сілы, энергіі поўныя,
Да скону за волю і долю змагацца,
А ворагі будуць з нас толькі смяяцца.

І будуць, павырасшы, дзеткі шаноўныя,
Амбіцыяў, сілы, энергіі поўныя,
Таксама за волю і долю змагацца,
А ворагі будуць з іх толькі смяяцца.

І будуць нашчадкі нашчадкаў шаноўныя,
Амбіцыяў, сілы, энергіі поўныя,
За волю і долю Радзімы змагацца,
А ворагі будуць з іх толькі смяяцца.

Так будзем і будзем змагацца з прымусамі,
Пакуль не адчуем сябе беларусамі
І сцягам, бяссмертным, як сэрца Хрыстова,
Не пусцім паперадзе Роднае Слова.

*Кастрычнік 2007 г.*

## І ХОЧАМ…

Прасякліся з дзяцінства
Чужым, дурным, атрутным —
І хочам мець адзінства
У гэтым часе скрутным.

І заклікаем-клічам
Да ўсенароднай згоды —
Без мовы, без аблічча,
Без праўды, без свабоды.

*2007*

* * *

Даруй, Гасподзь, і ты даруй-прабач,
Анёл далёкі мой, павек адзіны,
Што часам здрадна падступае плач
У горкіх роздумах пра лёс Радзімы.

Я чую, чую голас твой з нябёс:
«Табе няможна так! Не маеш права!
З любві і гневу, а не з плачу й слёз
Ва ўрочны час здзяйсняецца Дзяржава».

*Кастрычнік 2007 г.*

* * *

З чаго пачаў калісь, тым і канчаю.
Пакуль пяро не выпала з рукі —
Табе, народзе мой, я прысвячаю
І самыя апошнія радкі.

Жыві! Працуй! Твары свой лёс уласны!
Сам, сам сабе дарогу пракладай!
І слова роднае, як дзень свой ясны
Да скону свету пагасіць не дай!

*15 кастрычніка 2007 г.*

## РАЗМОВА З ПАМЯЦЦЮ

Што ты мучаеш, памяць, мяне —
Так бязлітасна, так неадчэпна?
Я тапіў цябе ў ярым віне —
Не ўтапіў. Хоць і піў невычэрпна.

Дні і ночы работай душыў
Дух і плоць — каб не даць табе волі,
Каб не ўзняўся з прадоння душы
Скрушны боль, што не знае патолі.

Толькі ўсё, што рабіў і раблю,
Каб на церні былога забыцца, —
Марны клопат. Люблю — не люблю,
Мне прысудаў тваіх не пазбыцца.

Кожны зрыў, кожны крок за «сцяжкі»,
Кожны прыкры нязлосны правінак
Ты караеш, як грэх найцяжкі,
Як віну перад Маці-Краінай.

Што ж так мала вяртаеш ты мне
З пражытага сонечна-шчасна?
Светлячком уначы прамільгне
Згадка-радасць і тут жа пагасне.

І ты зноў чарнатой, гаркатой
Напаўняеш усе мае думы.
Шчырым хростам самой Прасвятой
Я малю: сунімі свае тлумы!

Дай мне светла з табою дажыць —
З тым усім, чалавечна-прыгожым,
Чым я ўсё-такі ўмеў даражыць —
Насупор цемрасілам варожым.

*Сакавік 2008 г.*

## І Я ДАРУЮ ВАМ…

А болей… Што ж там болей…

*Янка Купала*

Калісь, гадоў таму ўжо трыццаць сем,
Паддаўшыся Сатыравай спакусе,
Я напісаў найшумную з паэм
У творчым летапісе Беларусі.

Паэме выпаў незвычайны лёс:
Як бомба, выбухнула неспадзеўна,
І гэны выбух у шматкі разнёс
Завалы афіцыйнага нудзення.

Яе чыталі нават тыя ўсе,
Хто не чытаў ніякіх вершаў зроду.
Жывое слова ў сіле і красе
Прыйшлося вельмі да душы народу.

Дасюль паэту ўдзячны просты люд.
Але ж на тое мы і самі творцы,
Каб годнае імя ўкачаць у бруд.
А дзе ж дзявацца ад прыроднай корці?

І прычапілі дабрадзеі хвост
Да справы чыстай, яснай нават дзецям.
Такі хвасцішча, што і на пагост
За мной пацягнецца — і ўсё смярдзецьме.

Ну, што ж! Нам іншай долі Бог не даў.
Такія мы. Але й па ўздых апошні
Я цвердзіць буду, хто б ні спавядаў:
Усякі быў мой верш, але не пошлы.

Яго мне вера ўберагла мая.
Таму і ведаю, чыёю воляй
Я мушу ўсім вам дараваць. І я
Дарую вам. А болей? Што ж вам болей?..

*Сакавік–красавік 2008 г.*

# ПАЭМЫ

## ЗАРУЧЫНЫ

Пасля вайны гады са два, відаць,
Я працаваў калгасным паштальёнам.
Згадзіліся мне гэты хлеб аддаць,

Што між падлеткаў-хлапчукоў зялёных
У вёсцы першым грамацеем быў.
Я спакусіўся не заробкам-плёнам:

За «палачкі» — за працадні — рабіў.
Мяне прывабіў чын працоўны гэты,
Бо вельмі прэсу я чытаць любіў

І ўсе часопісы, усе газеты
Абавязкова сам гартаў спярша —
Жыцця і свету вызнаваў сакрэты.

Бывала, млее з нецерпі душа,
Пакуль начальнік, зверыўшы, размеціць
Насліненым канцом карандаша.

Апроч звычайнай пошты, раз у месяц
Разносіць грошы выпадала мне —
«Пасоб’е», выданае ў райсабесе:

Бацькам сыноў, палеглых на вайне,
Удовам, дзецям, з недаяду хворым…
О, колькі іх у нашай старане

Было тады людзей, прыбітых горам,
Што ў вочы чыстыя саміх нябёс
Глядзелі з крыўдай і нямым дакорам!

Яшчэ не верачы дарэшты ў лёс,
Яны чакалі сатварэння цуду,
А я «пасоб'е» ім у хаты нёс.

Тых горкіх дзён да скону не забуду.
Тых позіркаў жаночых, што былі
Страшней усякага вайне прысуду.

Найгорш сціскала сэрца мне, калі
Прыходзіў я да цёткі Міхаліны.
Яе дачка і сын у дол ляглі

За Віслай дзесьці. Можа, з паўхвіліны,
Пакуль «пасоб'е» з кайстры я вымаў,
Яна глядзела на мяне маўкліва,

І ў позірку, успыхнуўшы дарма,
Згасаў надзеі матчынай агеньчык.
«Няма… Чаго чакаю — зноў няма…»

Садзілася на зэдлік каля печы,
Журботна склаўшы рукі ў прыпале.
Суцішыць боль яе было мне нечым.

«Вазьміце, цётка, грошы вось…» Але
Яна ніколі ў рукі іх не брала.
«Пакінь іх там, дзіцятка, на стале», —

Глухім, няўцямным голасам казала,
Як бы не мела і патрэбы ў іх —
Пры той нішчымніцы, што панавала.

Апроч удоў і мацярок старых
Яшчэ атрымлівалі ў нас «пасоб'е»
Чацвёра воінаў-байцоў былых.

Калек чацвёра. З усяе паўсотні
Мужчын, што з вёскі на вайну пайшлі,
Лёс толькі ім дамоў вярнуцца собіў.

Таму яны шчасліўцамі былі.
Хоць на падпоры стаць ён іх прымусіў —
А ўсё ж хадзілі па зямлі, жылі!

І не адна Марыля ці Франуся
Зайздросціла, галосячы наўзрыд:
«А хай бы ж мой хоць гэтакі вярнуўся!..»

Тады ж да нас, у наш вясковы быт,
Замест свайго, прывычнага адвеку,
Прыйшло важкое слова «інвалід».

«Я — інвалід вайны, а не калека! —
Пратэставаў бязногі Мікалай. —
І ты не крыўдзі, цётка, чалавека:

Калекам ты мяне не абзывай! —
Калека вунь Мікіта сухарукі…»
А быў скалечаны ўвесь родны край!

Ляжаў, трываючы пакуты-мукі,
У страшных ранах, у руінах спрэс,
У попеле, дзе згаслі стогнаў гукі.

Але з нябыту ён ужо ўваскрэс!
Ужо на ўвесь прасцяг сякеры пелі,
І пілы шорхалі — валілі лес,

Нязмоўчна кіркі і ламы звінелі,
І з гэтай музыкай не ва ўнісон —
Пратэзы й мыліцы паўсюль скрыпелі.

Іх заглушыць не мог ні гул, ні звон:
На ўсіх дарогах, вуліцах, падворках
Быў чуцен страшны іх вайне праклён.

І так глядзець было балюча-горка,
Калі, нацупваючы слізкі брук,
На неслухмяных мыліцах-падпорках

Ішоў высокі прыгажун-дзяцюк —
Сярод «шчасліўцаў» маладзейшы самы,
Нязвыкла сумны, Мікалай Стрыбук.

Яму нагу начыста адкрамсалі.
З падторкнутай пад пояс штанінай,
Ён невясёла жартаваў часамі:

«Ну, коні, страсяніце галавой!
Вязіце, мілыя, мяне, вязіце!..»
І з фронту, і з бальніцы тылавой

Я пісьмы ад яго прыносіў Зінцы —
Дачцэ суседа нашага Кузьмы —
І больш за іншых знаў аб таямніцы.

Хоць не былі равеснікамі мы —
Я нават трохі раўнаваў употай…
Стрыбук вярнуўся ў першы дзень зімы.

Знябыўшыся чаканнем і самотай,
Дзяўчына прывітаць яго прыйшла
І не стрымала слёз пры ім… А потым…

А потым вёскай чутка паплыла,
Нібы Кузьма сказаў: «Хоць і чакала,
Ды не такога…» Крыўда апякла

Душу хлапца. І Зінцы нельга стала
Да Стрыбукоў пераступаць парог.
А тут і з працай не пашанцавала:

Пасад «начальніцкіх» на чатырох
У вёсцы не было. Ды і адкуль жа?
Снягір Валодзя — без абедзвюх ног,

З рукамі да зямлі, на тоўстых кульшах —
Вясковым клубам з лета кіраваў.
На пошце быў начальствам Пётра Кужаль —

Ён на пратэзе з кіем чыкільгаў.
А старшынёю сельсавета ўвосень
Іван Ярэмка, аднарукі, стаў.

А больш — якую дзе пасаду возьмеш,
Каб мог ты з ёй спраўляцца ў акурат?
Дык што? Да скону ехаць у абозе?

І ў Стрыбука ў душы настаў разлад.
Былы лясны і франтавы разведчык,
Танцор, пяюн, наогул — хлопец-хват,

Пачаў здавацца лёсу. І засведчыў
Сваё змірэнне з горам і надлом,
Калі аднойчы п’яны цэлы вечар

Праспаў на сцэне ў клубе — куль кулём.
Я не судзіў яго судом суровым —
Я ўспамінаў, як беласнежным днём,

У сорак трэцім, з аўтаматам новым,
У поўны рост стаяў ён у санях
І стрымліваў гнядога ўладным словам,

Што на марозе сам ірваўся ў шлях.
Ён у падлеткаў быў тады кумірам,
Героем быў у моладзі ў вачах.

А зараз вось ён — сам сабе нямілы,
Непашаноўны, моўчкі да дзвярэй
Жыргае, з позіркам цяжкім, панылым.

Спяшаецца — напэўна, каб скарэй
Дамоў дабрацца і дадаць з паўкварты:
Усё адно, маўляў, не весці рэй,

Усё адно нічога ты не варты,
Тваё жыццё пайшло кату пад хвост,
Вайна з табой згуляла не на жарты —

І ты не станеш больш у поўны рост
Ні ў баявых санях, ні за трыбунай…
Але ж і страшна думаць пра пагост!

* * *

Пачатак лета зеляніўся буйна.
Шугалі травы. Перла ярына.
І лапушылася на сотках бульба.

Патроху ў сны сыходзіла вайна.
Ясней, выразней паўставала ява.
І абляцела вёску навіна:

Кузьма прызнаў, што ёсць на свеце права
Вышэй ягоных, бацькавых, правоў
І не ўступаць яму — пустая справа!

Перамагла прасветлая любоў!
Яго дачку, кірпаценькую Зінку,
Са Стрыбуком убачылі ізноў.

Праз вёску ўсю ішлі на вечарынку
І з вечарынкі разам, удваіх,
Не таячыся ад людскога зірку.

Пасля балючых крыўд-пакут усіх
Яны ад шчасця аж цвілі. І людзі
Загаварылі пра вяселле іх.

Яно, казалі, па дажынках будзе,
На схіле лета, каб на каравай
Зачэрпнуць жыта новага ў арудзе.

Тады й знайшоў заробак Мікалай.
За пенсію вяселля не наладзіш:
Жаніцца хочаш — грошы здабывай!

За вёскаю, як здань на даляглядзе,
Тырчэў палац, разбураны ў вайну,
У састарэлым, калісь панскім, садзе.

Я помню: мураваную сцяну
Мы кіркамі дзяўблі і малаткамі —
Мы, хлапчукі, пазнаючы цану

Раствору й кладкі, сцверджаных вякамі.
«Без грубкі ў школе будзеце зімой,
Калі не надзяўбеце цэглы самі», —

Сказаў дырэктар нам. І мы гурмой
Прыходзілі шторанку на руіны
І выдзіралі са сцяны старой

Па тры-чатыры — за паўдня! — цагліны.
Аднойчы прыжыргаў да нас Стрыбук,
Стаяў, глядзеў, напэўна, з паўгадзіны.

Назаўтра мы здаля пачулі грук —
Хтось дзёўбаў мур.
Так, гэта ён быў з ломам
І ўжо надзёўб не менш паўсотні штук.

У працы быў жаніх зусім не зломак.
Усеўшыся, дзе ніжай, на муры,
Заядла гахаў, аббіваў без стомы,

Затым цагліну падаваў сястры,
Малой дзяўчынцы, каб яна занесла
І палажыла ў штабель на двары.

Было відаць: душа хлапца ўваскрэсла.
Ён абвясціў нядаўняй скрусе бой!
Ад апантанасці яго аж трэсла.

Ён бачыў будучыню прад сабой.
І, хоць духі выматывала праца,
Здавалася: праз тыдні два, не больш —

Не застанецца следу ад палаца.
Ён ведаў: сёння цэглу, цэглу дай! —
Народ пачаў нанова будавацца.

Агнём пажараў зруйнаваны край
Меў незвычайную патрэбу ў цэгле:
Расхопяць тут жа — толькі паспявай!

Таму і думкі так святочна беглі,
Калі ён досвіткам ішоў праз сад:
«Не, я не бедны, братцы! Я не бедны!

Руіна гэта для мяне — што клад.
Да той пары, як рыхтаваць гасцінцы, —
Я дзесяць тысяч выб’ю! Пяцьдзесят!

Сто тысяч выб’ю! Па адной цаглінцы
Перабяру ўвесь гэты чортаў мур!
І зразу ўбор вясельны спраўлю Зінцы!

Сабе куплю шыкоўны гарнітур.
Зраблю застолле — каб на ўсё наўколле!
Гуляй, народ! Пі і вачэй не жмур!..»

Праз тыдзень ён усё раздзёўб, адолеў,
Дзе толькі мог далезці і дастаць.
А як бурыць, дзяўбаць далей і болей?

Аб гэтым доўга нечага гадаць:
Патрэбна толу раздабыць, закласці
У нішу выбітую і ўзарваць.

Хоць і не быў ён спец па гэтай часці,
Але на фронце з толам справу меў
І не баяўся, што «салют» не ўдасца.

Якраз у дзень заручын ён хацеў
«Салютаваць» жыццю, каханню, любай.
…І задыміўся шнур, і зашыпеў.

А ён няспешна ўстаў, падцяўшы губы,
І павярнуўся да сцяны спіной,
І жырылануў праз бітай цэглы гурбы.

Але няўдала: мыліцай адной
За камень зачапіўся, спатыкнуўся
І ў друз калючы ткнуўся галавой.

Апёршыся на рукі, азірнуўся —
А мыліца за метры два ўбаку.
Спачатку ён дастаць яе памкнуўся,

Ды, мабыць, страшна стала дзецюку,
І ён, з адной падпораю, падскокам,
Пайшоў па коўзкім друзе і пяску.

І вільтахнуўся зноў за трэцім крокам,
І зноў упаў, кульнуўся тварам ніц,
Падскочыў спрытна, бы працяты токам,

А за спіной ужо «салют» грыміць…
Калі на дол асела хмара пылу —
Ляжаў пад грудай мёртвы падрыўнік.

* * *

Ну, а жыццё, не ведаючы спыну,
Пайшло далей, далей за годам год.
Ужо за трыццаць Зінчынаму сыну.

Ужо на тры чацвёртыя народ —
Ва ўзросце міру. Аж паверыць цяжка:
Жывуць — не помнячы вайны нягод!

Ды што яна — не міф, не казак вязка —
І сёння ўсім здаровым, маладым
Напамінае стукам дзеравяшка,

Ды мыліц скрып, ды рукавом пустым,
Запхнутым у кішэнь, пінжак нямодны
На незнаёмым дзядзьку пажылым.

Уціх, улёгся боль усенародны,
І як пяецца ў песні не адной —
Квітнее край, шчаслівы і свабодны!

А ім — знявечаным калісь вайной —
Усё цяжэй з пакутамі спраўляцца,
Трымацца з мужнасцю непаказной.

Унукі ў хатах скачуць, весяляцца,
А ім прыходзяць позвы ўсё часцей —
Да баявых сяброў перасяляцца.

Штогод іх менш і менш сярод гасцей
На людным свяце ў гонар Перамогі.
А на кладах магілы ўсё гусцей.

А па зямлі ўсё сцелюцца дарогі —
Гасцінцы, магістралі, бальшакі —
Не для пакут, не для людской трывогі —

Для радасці і шчасця на вякі!

*1965–1978*

## ЛОДАЧКІ

Жылі, жылі, жылі — і дажыліся…
Ішлі, ішлі, ішлі — і вось прыйшлі…
Так калісь казачнікі пачыналі,
І добра ім, не горка ім было,
Бо знаці: казка ёсць не больш чым казка,
Знарок прыдуманая небыліца,
Каб супакоіць і суцешыць тых,
Каму гаротна і няўтульна ў свеце,
Каб усяліць у душы іх надзею.
Што можна ўсё-такі і дачакацца
Шчаслівай, радаснай развязкі лёсу,
Як дзед і баба ці мужык і жонка:
Жылі, жылі, чакалі й прычакалі,
Або як тыя тры браты-малойцы:
Ішлі, ішлі й прыйшлі да хаткі ў лесе…
Так, добра баяць бахарам было
У той далёкі час міфалагічны.
А як сягоння ў наш вучоны век
Сказаць: жылі, жылі — і дажыліся?
Сказаць: ішлі, ішлі — і вось прыйшлі?
Куды і з чым прыйшлі? Дзеля чаго
Жылі, жылі? І што ж на дажыванні?..
У незалежнай, суверэннай, вольнай,
У нашай роднай, любай Беларусі,
Што разам з іншымі тры чвэрці веку

Раўняла крок на сонечнае заўтра, —
Пасля вялікіх перамог працоўных
І гістарычных заваёў народа, —
Настаў вялікага жабрацтва час.
І як калісь пасля вайны апошняй,
Ізноў на гора наша і нястачу
Спагадным сэрцам адгукнуўся Захад
І, нібы пагарэльцам, нам, ахвярам
Чарнобыльскай аварыі жахлівай,
Пачаў дарункі ўсякія дарыць —
Адзетак, вобуй, лекі, харч дзіцячы…
Нярэдка — друк не раз пісаў пра гэта —
І рызманы, і транты-неданоскі
З нявыветраным духам нафталіну.
(А што ж вы, братцы-жабракі, хацелі?
Каб шубы новыя з пясца ці з норкі
Мы вам прывозілі? Ага, чакайце!)

Ізноў, мінулае было забыўшы,
На схіле веку і тысячагоддзя
Абрабаваныя нядоляй людзі,
Сваёй краіны негаспадары,
На падарункі квапяцца чужыя
І да начальства з крыўдаю прыходзяць,
Чаму нячэсна дзеляцца дары.
«Чаму маім не дасталіся дзецям
Прывезеныя з-за граніцы транты,
І той абутак, і прысмакі тыя?
Ці радыяцыя маіх не труціць?
Ці мо яны зусім жыцця не варты?..»
І плача маці, а пры ёй дзяўчына
Гадоў трынаццаці, таксама, бачу,
Не сутрымаецца, вось-вось заплача,
Худзенькая, з сінечай пад вачыма,
Нездаравячая па ўсіх прыкметах.
На ёй сукенка з міткалю ў гарошак,
А на нагах — стаптаныя танкеткі,
І тыя завялікія ёй трошкі,
Хутчэй за ўсё, як гэта ў нас адвеку
Было зазвычай, — матчыны даноскі…

І да таго мне блізкім і знаёмым
Здалося штосьці ў вобліку падлетка,
Што, дзеі гэтай выпадковы сведка,

Я памяццю сваёй у сорак сёмым
У роднай вёсцы апынуўся раптам.
Прымружыў вейкі і на міг убачыў
Дзяўчынку, гэткага ж якраз узросту,
З такой жа марай у вачах дзіцячых:
Замест дашчэнту зношаных апорак,
Ужо ў рамонце быўшых неаднойчы,
Узбуць на ногі цуда-чаравічкі —
Свае, уласныя! І выйсці ў іх
Упершыню на людзі, — хай глядзяць
І дзівяцца… І нават хай зайздросцяць,
Што ў іх няма такіх… Той успамін
Азваўся болем у мяне ў грудзях,
І я адчуў, што мушу, што павінен
Балючай згадкай падзяліцца з некім.
Вось і бяруся расказаць сюжэт
Пра туфлі-лодачкі, хоць слаба веру,
Што старамодную маю манеру
Апавядаць ты выцерпіш, чытач,
І па радках не пусцішся наўскач.

* * *

У тым далёкім паваенным годзе
Яны сям'ісцы нашай дасталіся
З амерыканскіх рэчаў, што прывезлі
У чатырох мяшках у нашу вёску
І растлумачылі, што гэта нам
Якаясь «юнраўская» дапамога.
Па спіску, складзеным у сельсавеце,
Адзетак і абутак з тых мяшкоў
(Усё ўжо ношанае — больш ці менш)
Размеркавалі самым бедным сем'ям:
Асірацелым за вайну, бяздомным
І мнагадзетным… Што каму прыпала:
Каму сукенка, ці каптан, ці джэмпер,
Каму жылет, ці плашчык, ці пантофлі,
Каму гамашы, ці халат, ці хустка…
Нам, можа быць, з увагі, што ў сям'і
Аж тры дзяўчыны, — лодачкі далі.

Ах, тыя цуда-лодачкі з-за мора!
Такіх ніколі я не бачыў зроду.

Такіх у нашай Слабадзе не мела
Ані адна красуня-прыгажуня,
Такіх не толькі ў радавых «каўхозніц»,
А і ў настаўніц нашых не было.
Фігурныя, але мадэлі строгай,
Без засцежак, без банцікаў, без строчак,
З абцасікамі, выгнутымі пекна,
З люстрана-чорнай натуральнай скуры,
Знутры — усцеленыя гладкай сцелькай,
З падэшаўкамі, слізкімі, як шкло…
Ну, адным словам, лодачкі — на славу,
А як на тым пасляваенным нашым
Суцэльным гумава-кірзовым фоне —
Дык і багацце не абы-якое!

Старэйшай з трох маіх сястрыцаў Ліне
Прыйшліся лодачкі не па назе —
Не ўздзела нават. Бедная студэнтка
Ажно заплакала ад шкадавання,
Ад крыўды на несправядлівы лёс.
Ды тут ужо нічым не дапаможаш:
Памеру іх не павялічыш сілай
І на другія ў краме не заменіш.
Адно і застаецца, што паплакаць.
Затое гэту акалічнасць, помню,
Без засмучэння ўспрыняла Ідзея —
Сярэдняя з дзяўчат у нашай хаце.
Не раз, не два я апынаўся сведкам,
Як, улучыўшы час, калі нікога
З усёй сям'іскі дома не было,
Яна вымала лодачкі са схову
І прымярала на сваю нагу.
Было дванаццаць ёй, калі яна,
Не па гадах цыбаценькі падлетак,
Іх першы раз абула і з вялікім,
Нестрыманым трапятаннем сэрца
Глядзела-любавалася спярша,
Як ёй пасуюць, як сядзяць яны,
Ці завялікія нашмат, а потым
Прайшлася асцярожна па масніцах
І нават не стрывала — о жанчына! —
На момант закружылася шчаслівa
У нейкім вольным танцы, узмахнуўшы,

Як птушка крыллем, тонкімі рукамі.
Не разумеючы, на жаль, таго,
Што адбываецца ў душы дзяўчынкі,
Я пакрывіўся кісла і сказаў:
— Зламі, зламі абцасікі! От будзеш
Ад мамы мецы! Кладзі хутчэй на месца.
Яны зусім табе не падыходзяць…

Сястра гарэзліва, бы мне наўперак,
Ізноў крутнулася, з прытупам нават,
Але зняла і, ў куфар кладучы іх,
З вясёлым выклікам дала адказ:
— Нічога! Сёлета яшчэ мне трохі
Велікаватыя, але налета…
Убачыш — будуць самы-самы раз!
— І ты абуеш іх і па гразішчы,
Па нашым бруку ў школу пабяжыш, —
Падкалупнуў я з посмехам сястрыцу.
— Ага, знайшоў дурную! Па гразішчы
Я іх у торбе панясу да школы,
І то — па святах толькі, для канцэрта.
А там… — Аж вочы сплюшчыла яна,
Як уявіла той шчаслівы момант, —
А там абую і на сцэну выйду —
Дэкламаваць і пець, і ўсе пабачаць,
І ўсе пабачаць… лодачкі мае!..

* * *

Праз год, налета… Бедная сястрыца!
І ў страшным сне ёй не магло прысніцца,
Што тая сонечная думка-мара
Пра лодачкі, што дастануцца ёй,
Ураз, імгненна лясне і пагасне.
І праз каго! Праз брата. Праз мяне.
Хоць быў я толькі ўскосна вінаваты,
Бо не выходзіў з ініцыятывай
І лёсу лодачак не вырашаў, —
А ўсё ж, а ўсё ж! Калі б не я, калі б
Не ўзнікла вострым-вострае пытанне,
У чым паеду ў Мінск я на вучобу, —
Пра лодачкі не ўспомнілі б, бадай.
Яны ляжалі б там, дзе і ляжалі,

У запаветным для сястрыцы схове,
Пакуль не стануць ёй зусім якраз…
Але сказала нейк увечар мама,
Галодны гурт уцешыўшы заціркай,
Хутчэй прысіўленаю, чым бялёнай, —
Сказала мне і для мяне, сам-насам,
Ніхто з дзяцей не чуў яе развag:
— Не знаю, сын, за што табе купіць
Хоць трохі людскія штаны якія,
Каб не смяяліся з цябе студэнты.
Нічога болей не магу прыдумаць,
Як з тымі лодачкамі развітацца.
Вязі, прадай у Мінску на базары
І там за выручку купі штаны…

Бязбожны, чэрствы, подлы эгаіст!
Свой пераследуючы інтарэс,
Я з пагатоўнай радасцю згадзіўся
Уранку ж заўтра ехаць на базар,
І не падумаў, і не ўспомніў нават,
Што павязу не лодачкі на продаж,
А мару, мару — ды якую мару! —
Маёй сястрыцы!.. Божа літасцівы!
Паўвека ўжо, як я цябе прашу:
Даруй мне грэх мой і ўратуй душу!
І да апошніх дзён свайго жыцця,
Успомніўшы сястрыцу, што даўно ўжо
На родных могліцах слабодскіх спіць,
Я кожны раз аб гэтым жа прасіць,
Маліць Цябе не перастану, Божа.
Назаўтра раненька, з усходам сонца,
У чыстую анучку загарнуўшы,
Паклала мама лодачкі ў стары
Абшэрпаны партфель, з якім калісьці
Па службе ездзіў у райцэнтр бацька.
Дала з сабой мне праснака акраец,
Два яйкі, звараныя укрутую,
Два агуркі з грады і шчопаць солі.
Тады ад нас дабрацца ў стольны Мінск
Адзін быў спосаб: пешшу да Лагойска,
А там, каля піўной сярод мястэчка,
Прасіся ў шофера грузавіка,
Каб ён узяў цябе… А ён і возьме.

Але спытае перш: «А грошы маеш?»
«Ага», — адкажаш ты. «Гані трыццатку —
І марш у кузаў!» — кіне той з пагардай.
Вось тут ты маху не павінен даць.
Вядома, такса — трыццаць, і для ўсіх,
Але ты будзеш ёлупень апошні,
Калі не зможаш збіць хоць на пяцёрку,
А той й на дзве… Па-першае, ты ўсё ж
Яшчэ, лічы, падлетак, па-другое,
Без багажу, без кошыкаў і вёдзер,
Паўнюткіх ягадамі ці грыбамі,
А раз улегцы — мусіць скідка быць.

Па халадку па ранішнім, бязважкім
Вясёлым крокам, з радасным настроем,
За дзве гадзіны я ў Лагойск прыджгаў.
Каля піўной стаяў адным-адзіны,
Нагружаны амаль да неба сенам,
Магутны тупаморды «студэбекер».
Наўзбоч, ля вёдзер і кашоў з дабром,
Жанчыны тоўпіліся ладным гуртам
І з зайздрасцю глядзелі на кабіну,
Дзе ўжо сядзела, з хлапчуком пры боку,
Шчасліўка — з іх жа, мабыць, грамады.
«Калі вось гэтак — па адной, па дзве,
Дык да мяне чарга няскора дойдзе, —
Прыкінуў я, засмучаны знянацку. —
Так і паўдня тут можна пратырчаць…
А што, калі… — Я зноў і зноў агледзеў
Бухматы воз, як сціпрта, здаравенны, —
А што, калі наверх я папрашуся?
Там — парубень і ўпоперак вяроўкі,
Трымацца ёсць за што. Па цэнтру лягу,
Дзе ўціснута, дык і не бачны буду…»

Тым часам з забягайлаўкі-піўнушкі
Вярнуўся шофер — малады мужчына
З вясёлымі, смяшлівымі вачмі.
І гэта падняло мае надзеі.
— Мне надта ў горад трэба тэрмінова,
Дазвольце мне туды, наверх, залезці,
Я заплачу… — Наверх? — здзівіўся той. —
А не зляціш, як страсяне дзе-небудзь?
— Не, не зляту. Я за вяроўку буду

У дзве рукі трымацца… Падвязіце!
— Арол! Ну што ж, залазь. Адсюль, з кабіны.
Але запомні: я цябе не бачыў.
Ты ўпотай сам забраўся. Зразумеў?
— Ага, — кіўнуў. І выняў два чырвонцы. —
Вось грошы… — Грошы мне твае не трэба.
Пакінь сабе іх — як узнагароду
За смеласць і адвагу… Эйш, арол!

«Арол» між тым зусім арлом не чуўся,
Бо ўся была ў выбоінах дарога,
І так раз-пораз гоцала машына,
Што падкідала і мяне наверсе,
І я мацней сціскаў вяроўку ў пальцах,
Не выпускаючы й партфель бясцэнны,
Каб ад мяне не ўцёк неспадзявана.
Бо выпушчу — і ўсё! Пішы прапала:
Адгэтуль крыку шофер не пачуе,
І не пастукаеш яму ў кабіну,
Каб запыніўся… Аблізнешся толькі —
І без партфеля, значыць, без штаноў,
Як пёс пабіты, прыпаўзеш дамоў.
Таму — аж гучна выдыхнуў нарэшце,
І сэрца зноў вярнулася на месца,
Калі пры ўездзе ў горад «студэбекер»
Зацішыў ход і стаў. Ну, вось цяпер
Магу сказаць, што мне пашанцавала:
Я ў Мінск прыехаў задарма! Ура!
А за «дарожныя», што не растраціў,
Куплю ў кнігарні кнігу, а то й дзве.
У бедны той пасляваенны час,
Галодна-прагны на харчы для духу,
Без кніг дамоў я з Мінска не вяртаўся.

* * *

У сорак сёмым летам стольны Мінск,
Датла спажараны і зруйнаваны,
Яшчэ жахаў пустэчай папялішчаў
І зданямі сляпых муроў разбітых.
Пад Ляхаўкай, дзе Свіслач робіць выгіб,
У той луцэ на поплаве прырэчным,
Дзе да вайны быў слынны іпадром,

У сорак сёмым быў базар-таўкучка, —
Універсальны, пра які казалі,
Што толькі бацьку з маткай там не купіш.
Туды я і прыйшоў — прадаць-купіць.
Прадаўшы лодачкі, купіць штаны.
Народу — процьма, хоць і будні дзень.
Чаго, і праўда, тут не прадаецца —
На тлумным скопішчы людскіх турбот?
Я ў думках паўтарыў наказ-параду,
Што на дарогу мне сказала мама:
«Спярша прайдзіся, пацікаўся, колькі
За туфлі-лодачкі другія просяць,
Прыглядзься, ці такія, як і нашы,
Ці лепшыя, ці горшыя, а потым —
Вымай, паказвай і кажы цану.
На менш, чым трыста, не згаджайся, сынку.
Ну і пільнуйся ж, каб не ашукалі,
Там, знаеш, колькі ўсякага жулля…»

І вось — хаджу. Нібы — як пакупнік.
Гляджу і слухаю. Цікава — страшна!
Ай, як умеюць свой тавар хваліць!
Якою складнай, вострай мовай сыплюць!
А як таргуюцца! Як не ўступаюць
Ані пяцёркі! Сварацца ажно!
Тэатр, дый годзе! Цэлы б дзень, здаецца,
Глядзеў і слухаў паядынкі-сцэнкі!..

«Генеральская папаха!
Генеральская папаха!
Налятай, каму нядорага!
Ды і ўступім для каторага!»

«Чаравікі! Чаравікі!»
«Колькі?» — «Трыста просім!
Забіраеш?» — «Кошт вялікі!»
«Што ты круціш носам?
Ты бяры й не сумнявайся!
Дома дзякуй скажаш.
Будзеш біць — адно трымайся!
І ў труну ў іх ляжаш!»

«Бурнос па дзяшоўцы!
Бурнос па дзяшоўцы!

Купляй, чалавеча!
Бурнос — заглядзенне!
І сам будзеш цёгаць,
І баба адзене!..»

«Дзядзька, скінь хаця б пяцёрку!»
«Мо табе аддаць дарма?»
«Ён жа, глянь, зусім пацёрты!»
«Ты пацёртая сама!»

«Колькі просіш, мадам?»
«За «бумагу» аддам».
«Хіба разам з табой —
Тады, можа, й куплю!»
«Калі разам са мной —
Палавіну ўступлю!..»

«Што, падабаецца табе
Тальяначка? Бяры!
З ёй і ў асінавай журбе
Не будзеш знаць бяды!»
«Узяў бы, братачка, яе,
Узяў і не гадаў,
Калі б і рукі ты свае
Мне заадно аддаў».

«Ну харасо! Ну харасо!
Сто дваццаць конщаных — і фсо!
І то, мадам, сугуба вам!
Бо візу, ві із тых, мадам,
Хто панімае, сто к цаму.
Дык вам — і льготную цану!..»

Прайшоўшы наўкруга і перасекшы
Базарны пляц упоперак крыж-накрыж,
Спыніўся я і выдыхнуў: «Ну, фсо!
Пара і мне свой торг распачынаць».
І я дастаў з партфеля цуд заморскі —
Карцінкі-лодачкі: мадэлі строгай,
Без засцежак, без банцікаў, без строчак,
З абцасікамі, выгнутымі пекна,
З падэшаўкамі, гладкімі, як шкло…
Ні ў кога тут падобных я не бачыў
І блізка нават! А таму цану
Я адпаведна вартасці назначыў:

Паўтысячы — і ні рубля ніжэй!
Мой «цуд» заўважылі, жанкі, вядома,
І пачалі спыняцца, браць у рукі,
Круціць, глядзець дасведчана і ўважна,
Але, пачуўшы, колькі я прашу —
«Ого! — ускрыквалі. — Ну й заламаў!»
І, таргавацца нават не пачаўшы,
Прэч адыходзілі або казалі:
«За трыста — хочаш, дык давай вазьму».
І я, напэўна, з пачуцця пратэсту
Супроць такой насмешкі і абразы,
Успыхваў раптам, траціў сарамлівасць
І ўсё смялей ім сыпаў у адказ:
«Вы паглядзіце толькі! Гэта ж цуд!
Такіх не знойдзеце ва ўсёй краіне!
Абуеш — і саперніцы капут!
Як тому гаду Гітлеру ў Берліне!»
Заўважыў: ацанілі мой нязвыклы
Прэтэнцыёзны хваласпеў тавару.
«Ты бач яго! Як складна прымаўляе!
І ведае, чым падкупіць жанчын…»
Натхнёны, пэўна, я і сапраўды
Зрабіў бы лодачкам сваім рэкламу,
Каб быў і змест у ёй, і склад, і лад.
Але патрэба ў тым адпала раптам.
Перада мной спынілася дзяўчына,
Мая равесніца, а можа, нават
І маладзейшая крыху, — дзяўчына
Такой чароўнай, дзіўнай прыгажосці,
Што я на момант там аслупянеў.
«Прынцэса! Тая, што ў кіно замежным
Нядаўна бачыў. Чыстая прынцэса!..»
З адкрытым, па-дзіцячы мілым тварам,
З блакітна-васільковымі вачыма,
З прыпухлымі пунцовымі губамі,
З даўгой і тоўстай ільняной касой,
У белай кофтачцы з бурштыннай брошкай,
У цёмна-шэрай клёшавай спадніцы,
Як заварожаная, нейкі міг
Яна на лодачкі мае глядзела,
Затым, назад галоўку павярнуўшы,
Гукнула: — Мама! Мама, йдзі сюды!..

На кліч «прынцэсы» падышла жанчына —
Мажная целам, у квяцістым плацці,
Са скураною сумкай у руках.
— Глянь, мама, лодачкі, якраз такія,
Як я хачу, — і колер, і фасон… —
Сказала, гледзячы жанчыне ў твар,
Чароўнае, нябеснае стварэнне.
А я… а я з яе не зводзіў воч,
Забыўшыся, чаго я тут і хто я,
І адчуваў, як чырванею ўвесь,
Як залівае твар гарачай хваляй.
— Ну пакажы, — спакойна, не адразу,
Нейк па-начальніцку сказала маці.
І я падаў ёй лодачкі — абедзве.
Адну, з вялікім нецярпеннем, тут жа
Дачка схапіла — разглядае, ставіць
На даланю, і пальчыкамі гладзіць,
І зіркае на маці раз за разам
Такім шчаслівым позіркам, што я
Адчуў у сэрцы дзіўнае жаданне,
Каб іменна яна, яна, яна
Купіла лодачкі мае! І нават
Імгненна вырашыў: дзеля яе —
Цану спушчу, не буду таргавацца…
— Падыдуць, бачу зразу, што падыдуць, —
Перакanaўча, горача, напорна
Яна гаворыць імпазантнай маці,
Каб тая не ўсумнілася, крый бог!..
— Ды пачакай ты! Мы яшчэ не знаем,
За колькі хоча ён прадаць іх, можа,
У нас і грошай гэтакіх няма…

Я не адразу зразумеў, што просяць,
Каб я назваў цану, — мая ўся ўвага,
І думкі ўсе, і чуйнасць, і свядомасць
Былі забраны казачнай «прынцэсай»:
Як сам не свой я чуўся перад ёй.
— Дык колькі ж, хлопец, хочаш ты за іх? —
Перапытала голасна жанчына.
І я — куды дзяваўся мой імпэт —
Адкашляўся і, каўтануўшы сліну:
— Чатырыста, — ледзь выдавіў з сябе.
— Што-што? Напэўна, ты жартуеш, хлопец! —

Зрэагавала насмехам жанчына. —
Табе ніхто за іх не дасць і трыста.
Але пра гэта рана гаварыць,
Спярша прымерыць трэба, ці падыдуць.
Хадзем на ўзбочча, дзе няма народу, —
І, згоды не чакаючы маёй,
Пайшла паперадзе, за ёй — «прынцэса»,
А за «прынцэсай» — я, усхваляваны,
Разгублены — да роспачы амаль.
«Дык як жа гэта? Не дадуць і трыста?
Мне ж прапаноўвалі… Але такой бяды!» —
І тут жа ўслед пераляцела думка
На іншае: «Каб толькі падышлі!
Каб толькі ёй у самы раз былі!..»
Ёй, што ішла перада мной спаважна,
У белай кофтачцы, у клёш-спадніцы,
Такая зграбненькая ўся ў пастаці,
Такая тоненькая ў паясніцы,
З такой прыгожай русаю галоўкай
На роўнай тонкай шыйцы пад касой!..
«Адкуль яна? Хутчэй за ўсё, мінчанка.
І не з галетных. Не з такіх, як я.
Цікава, як яе завуць? Напэўна,
Не па-вясковаму, не Верка, Волька,
А нейк, а нейк… Каб толькі падышлі!
Каб толькі ёй у самы раз былі!..»

— Вось тут і будзем прымяраць, — сказала,
Спыніўшыся на гладка ўбітай сцежцы,
Жанчына. — Дай-ка ж, хлопец, іх сюды!
І я падаў іх — лодачкі з-за мора,
З люстрана чорнай натуральнай скуры,
Без засцежак, без банцікаў, без строчак,
З абцасікамі, выгнутымі пекна,
З падэшаўкамі, слізкімі, як шкло…
— Скідай сандалікі, дачка, і мерай!
Я падтрымаю пад руку цябе…
Амаль не дыхаючы, я сачыў,
Як узбувае лодачкі «прынцэса» —
Без прыкладання сілы, асцярожна
Уздзела правую спярша і цупка
Ступіла ножкай на зямлю — і вось —
Ушчэнт шчаслівая глядзіць на маці.

— Ну што? Нідзе не цісне? — Як уліта!
— Бяры другую…
Левая таксама
Без намагання ўздзелася. «Прынцэса»
Ізноў шчасліва глянула на маці
І паўтарыла ўзнёсла: — Як уліта!
— Прайдзіся трохі!
І яна зрабіла
Тры крокі ўперад і назад… І тут…
І тут, адно цяпер заўважыў я,
Адно цяпер, калі яна прайшлася, —
Якія стройныя ў дзяўчыны ногі!
І не таму, што ў лодачках былі,
А ўвогуле… Ад Бога… Ад прыроды…
Якой прыгожай, дасканалай формы!
У светла-бронзавым загары летнім,
Чысцюткія, без драпінак, яны
Не проста так убачыліся мне,
А ўсхвалявалі нейкай таямніцай,
Што для мяне дасюль не існавала.

Ну так, дагэтуль я сваіх равесніц
Цаніў адно па тварыках, — глядзеў
На вочкі — каб свяціліся, як зоркі,
На шчочкі — каб успыхвалі ружова,
На носік — каб не вытыркаўся лішне,
На зубкі, каб — як белыя каралькі,
А перш за ўсё, бадай, на іх усмешкі…
Але на ногі!!. Не! І не таму,
Што не было на што глядзець, што ў кожнай
Яны былі да сінізны худыя,
Парэпаныя ад вады і ветру,
Абшэрпаныя, сколатыя ржоннем,
Сухім бадыллем і калючым хмызам,
Скусаныя сляпнямі… Атаму,
Што не прыйшла яшчэ мая пара
Глядзець на ногі… Ну і вось, нарэшце,
Яна прыйшла. Упершыню ў жыцці
Я ўбачыў прыгажосць не зрокам воч,
А зрокам сэрца, што, па маладосці,
Яшчэ зусім сляпенькае было
І не паспела хоць бы раз затахкаць
Тым неўтаймоўным тахканнем, якое

Спыняецца адно ад замірання, —
Вось як цяпер, у гэтую хвіліну,
У гэты міг… О, што ж гэта яна?
Нібы на сцэне, на якім аглядзе,
Яна стаяла момант перад намі —
Перада мной і маці, хоць глядзела
Адно на маці, на мяне ні разу
Не павяла і вокам, — быццам я
Тут ні пры чым быў, выпадковы сведка,
Ці ўвогуле тут не было мяне.
«Ну бачыш? Бачыш?» — аж крычала ўся
Яе шчаслівая наскрозь істота.
І раптам… Каб упэўніцца самой,
Як адмыслова лодачкі глядзяцца,
Яна крыху схілілася наперад
І падцягнула — хай не замінае
Шырокім клёшам — шэрую спаднічку
Угору, — не нашмат вышэй каленак,
А ўсё ж вышэй… І мне перахапіла
Дыханне… Ад неспадзяванкі я
Дадолу вочы апусціў, няйначай
Рашыў зірнуць на шкрэбалы свае,
У латках спрэс, папрышываных дратвай…
Жанчына ўсё заўважыла, напэўна,
І зразумела ўсё — дый хіба цяжка
Было заўважыць ёй і зразумець,
Што робіцца з няшчасным небаракам,
Якое хмелле на яго найшло?

— Здымай! — сказала, як прысуд, жанчына,
Так, нібы ўсё ўжо вырашана ёю,
І ўсё ўжо зразумела: будзем браць.
Чуць павярнуўшыся ка мне, спытала:
— Ну што? Ты хочаш, каб яна ў тэатр
У гэтых лодачках хадзіла, га?
І я, наіўны, смешны, як хлапчук,
Кіўнуў на згоду і сказаў: — Хачу…
Як быццам з гэтай казачнай «прынцэсай»
Пад ручку буду я ў тэатр хадзіць…
Жанчына не стрымалася, відаць,
І спасміхнулася сабе паблажна
З дзіцячай прастадушнасці маёй.
І, не марудзячы, палезла ў сумку.

«Па грошы… Ну вядома!.. Будзе браць.
А колькі? Колькі?» — роспачна ў грудзях
Закалацілася імгненна сэрца.
«А колькі дасць?.. Яно сабе!.. Абы…
Абы ўзяла! Абы вось ёй… вось ёй!..»
Я палымнею ўвесь і адчуваю,
Што калі зараз мне жанчына скажа
Аддаць дарма іх — і дарма аддам!
Таму гляджу, няшчасны, не туды,
Куды павінен — не на тыя пальцы,
Што дастаюць чырвонцы, а на тыя,
Што далікатна лодачкі здымаюць
І ўжо трымаюць іх, нібы свае,
І ўжо назад мне іх не аддаюць…

— Дык вось, — пачуў я голас, як прысуд,
Якім страшэнна буду пакараны,
Які мае шчаслівыя пакуты
Імгненна ператворыць у нішто, —
Канешне ж, гэтулькі яны не варты
І гэтулькі табе ніхто не дасць,
Хоць цэлы дзень тут стой. А я — даю.
Тры сотні роўна. Чуеш? А чаму?
Адно таму, што ты сумленны хлопец.
Ты зразумеў? — зірнула ў вочы мне.
І я ізноў наіўна, па-дзіцячы,
Ёй у адказ ківаю: — Зразумеў!..
— Трымай! Яшчэ раз пералічым разам!..
І ў рукі мне, купюра за купюрай,
Адлічаная сума перайшла…
Я не паклаў іх зразу ж у кішэнь,
Я іх трымаў у пальцах і, напэўна,
Меў выгляд, быццам усумніўся раптам
І зараз закрычу, што перадумаў,
І гэтых грошай не вазьму… Але —
Раззяпілася на ўсю зяпу сумка
І праглынула лодачкі мае, —
Карцінкі-лодачкі, заморскі цуд,
Без засцежак, без банцікаў, без строчак,
З люстрана-чорнай натуральнай скуры,
З абцасікамі, выгнутымі пекна,
З падэшаўкамі, слізкімі, як шкло…
— Бывай здароў! — сказала мне жанчына,

Нібы даўно знаёмаму — звычайна
І як зусім дарасламу — сур'ёзна.
— Да пабачэння! — хораша і шчыра
Сказала ўслед шчаслівая «прынцэса»
І паглядзела ў твар мне — першы раз
За ўвесь наш торг без торгу… У адказ:
— Да пабачэння! — я кіўнуў чупрынай
І паўтарыў мацней: — Да пабачэння!..
І аж пакуль яны ў гурме людзей
З вачэй не зніклі, я стаяў на месцы
І сам сабе шаптаў: «Да пабачэння!..
Да пабачэння!..»
Вось і ўсё, бадай.
Праз паўгадзіны, там жа, на базары,
Купіў за выручку сабе штаны
І там жа ў нейкага дзядка сівога
Даволі танна — «Кнігу песень» Гейнэ,
Цудоўны, рэдкі антыкварыят!..

* * *

Дадому я вярнуўся адвячоркам.
Пашанцавала сесці на машыну,
Што ехала якраз ажно да Гайны.
Усю дарогу на грузавічку
Я думаў толькі пра адно — пра тое,
Што здарылася на базары ў Мінску, —
Пра нечаканае маё спатканне
З чароўна гожай, казачнай «прынцэсай».
Заплюшчыўшы павекі, зноў і зноў
Перабіраў я ў памяці гарачай
Амаль што кожны момант, кожны міг
Яе прысутнасці на гэным торгу,
На той прымерцы, асабліва ж часта
Успамінаў, як глянула яна
Мне ў вочы, кажучы «да пабачэння».
Да пабачэння — значыць: да сустрэчы.
Дык мо і праўда пашчасліціць мне
Спаткацца з ёй? Я ж буду жыць у Мінску,
Хадзіць па вуліцах, трамваем ездзіць,
Ды і ў тэатр зрэдчасу заглядаць…
Калі сустрэнемся дзе-небудзь раптам,

Абавязкова ёй скажу: «А помніш,
Як лодачкі купляла на базары?
Не пазнаеш? То ж я іх вам прадаў!..»
Я быў амаль упэўнены: спаткаю!
Не можа быць, каб не спаткаў аднойчы!
Хоць і вялікі горад Мінск, а ўсё-ткі
Надзеі ёсць — я ж буду там штодня!
Гара з гарой не сходзяцца, а людзі
Абавязкова сходзяцца!.. Я веру,
Я веру, веру — сыдземся і мы!..

З такімі думкамі, з такім настроем —
Узнёсла радасным і акрылёным —
Зайшоў я ў хату. І адчуў адразу,
Па тым, як стрымана мяне сустрэлі,
Што тым часове здарылася штось.
Я расказаў і маме і малым,
Як па базары лодачкі насіў я,
Як не хацеў ніхто мне больш, чым трыста,
Даваць за іх, і як таму, нарэшце,
За гэту суму я іх і прадаў.
І паказаў штаны — сваю пакупку,
Надзеў іх нават тут жа, каб запэўніць,
Што я і ў гэтым не зрабіў пралiку.
І выбар ухвалілі мой… Але,
Але ажно мне пачало рабіцца
Трывожна ўжо, — так, гледзячы на маму
І на малых, адчуў, што нешта стала,
Што нешта тояць ад мяне, і зараз
Пачую штось. І я не памыліўся.
Нарэшце мама, уздыхнуўшы цяжка,
Сказала: — Што ж, прадаў дык і прадаў,
А каб прывёз назад, каб не купілі,
Дык мо і лепей бы яшчэ было.
А то вунь цэлы дзень у пуні плача
І ўсё крычыць: нашто ён іх павёз?..
Не знаю ўжо, якой ёй рады даць.
Схадзі, мо ты як-небудзь угаворыш…

Тут і малыя ўзрушана, з трывогай
І спачуваннем да сваёй сястрыцы,
Загаманілі ўсе наперабой.
— Яна нічога цэлы дзень не ела!
— Ні снедаць не пайшла і ні абедаць…

— А мама так сварылася, хацела
Яе набіць… І плакала таксама.
І ўсе мы плакалі, і ўсё казалі:
От каб даў Бог ён там іх не прадаў!
І каб назад прывёз! А ты прадаў…
— Ну досыць, досыць! Сціхніце вы ўжо! —
Прыкрыкнула на іх нязлосна мама.
Я глянуў на яе — і занямеў:
Яна далонню вочы выцірае!..
І так шкада мне стала ўсіх адразу:
І маму, і сястрыцу, і малечу,
А можа, нават і сябе самога,
Што радасць мне мая — ужо не ў радасць,
Як бы я страціў права на яе…

Пайшоў у пуню. Меншыя, канешне ж,
Хацелі сведкамі пры гэтым быць,
Але пачулі мой сярдзіты голас:
— А вы чаго? Абыдзецца без вас! —
І зачыніў вароты за сабою.
У пуні, у кутку, на свежым сене,
Засланым шэрай посцілкай-рызаўкай,
Сядзела сплаканая ўшчэнт сястрыца.
Адкінуўшыся да сцяны спіною,
Глядзела ў шчыліну ў шчыце, адкуль
Лілося звечарэлае ўжо сонца.
Убачыўшы, што гэта я зайшоў,
Не ў твар мне, а на рукі паглядзела,
Як быццам спадзявалася, што ў іх
Я паратунак ёй прынёс ад смерці…
Але былі пустымі рукі брата!..

Я не паспеў загаварыць і толькі
Прысеў на ўскраек посцілкі насупраць,
Як, не ўздымаючы вачэй, сястрыца
Спытала роспачна: — Ты іх прадаў?
Я памаўчаў і адказаў: — Прадаў…
— Ты злодзей! Злодзей! — закрычала раптам
Яна і ўся затрэслася ад плачу.
— Ты ўкраў іх у мяне! Ты ўкраў! Ты злодзей!
Сыдзі з вачэй маіх! Сыдзі з вачэй!..
Закрыўшы твар далонькамі худымі,
Знясілена схіліла галаву
І безуцешна ўсхліпвала глыбока,

Усё радзей, што праўда, і цішэй.
Так даўшы выплакацца ёй яшчэ раз,
Я ўлучыў момант і спытаў знянацку:
— А ведаеш, каму я іх прадаў?
І дзіва дзіўнае: яна імгненна
Адкрыла твар і ўскінула пагляд
Крыху прыпухлых, мокрых воч: — Каму?
— Каму?.. Спачатку пакляніся словам,
Што ты нікому гэтага не скажаш.
— Клянуся чэсным піянерскім словам! —
Сур'ёзна, чынна выпаліла тут жа,
Як перад строем, бедная сястрыца.
— Прадаў адной дзяўчыне, ды такой…
Такой прыгожай — проста як прынцэса!
Каб толькі ты пабачыла яе!
У белай-белай кофтачцы шаўковай,
У цёмна-шэрай клёшавай спадніцы,
А вочы — сінія, як васількі,
А на спіне каса — як чысты кужаль,
А як уздзела лодачкі на ногі,
Як іх абула і прайшлася ў іх…
— А колькі ёй гадоў? — ад нецярпення
Аж перабіла мой расказ сястрыца.
— Дык як і мне, відаць. А можа, нават
І менш на год. — А як яе завуць?
— Не знаю. Матка з ёй была, дык дзе ж я
Пытацца буду! — А адкуль яна?
— Не знаю. З Мінска, пэўна. Ну канешне!..
Хвіліну цэлую сястра маўчала,
А потым: — А яны ёй падышлі?
— У самы раз, сказала. Як уліта!

Сястра ізноў замоўкла. Нейкі час
Сядзела ціха і без дай патрэбы
Круціла пальцам «кольцы» па рызаўцы.
Пасля ўсміхнулася нейк сарамліва
І, як дарослая, мне заявіла:
— Цяпер я знаю ўсё: ты закахаўся!..
— Не гавары пустое! — узлавана
Зрэагаваў я на яе заяву.
— Не бойся, я нікому не скажу, —
Па-змоўшчыцку міргнула мне сястрыца.
— Але, але… а як яе ты знойдзеш?

Ні як завуць, ні дзе жыве, не знаеш…
— Знайду! Не бойся! Мінск, хоць і вялікі,
Але ж я буду там аж тры гады
І хоць дзе-небудзь там яе спаткаю
— А ты штаны сабе купіў? — спытала,
Успомніўшы пра клопат мой, сястра.
— Купіў! Хадзем, пабачыш.
— Пачакай…
А ростам ці высокая яна?
— Высокая! Амаль як я. — Ого!
Дык добра! Я нізюлек не люблю.
А гэта — добра… А калі не знойдзеш? —
Перапытала зноў яна з трывогай.
— Знайду, сказаў жа! Ну хадзем, хадзем!
— Чакай!.. А мне ты скажаш, калі знойдзеш?
— Скажу. — І пазнаёміш нас? — А як жа!
— Ой, як я рада! — Ну хадзем! Хадзем!
— Чакай… Скажы, а я, — і ледзь не шэптам
Спытала: — Я таксама калі-небудзь?..
— Што — калі-небудзь? — не адразу ўцяміў,
Аб чым яна. Пачырванеўшы страшна,
Яшчэ цішэй сястрыца прашаптала:
— Мяне таксама нехта… пакахае?
— А як ты думала! Абавязкова!
Дый не такі, як твой нягеглы брат,
А самы лепшы, самы найпрыгожшы
У цэлым краі хлопец!.. Дык хадзем!

Яна мільгом саскочыла з рызаўкі
І, паглядзеўшы ў вочы мне, сказала:
— Я не злуюся ўжо, такой бяды!
Адно каб толькі ты спаткаўся з ёю…

* * *

Паўста гадоў прайшло ад той пары.
Сястрыцы мілай, у якой калісьці
Я гэтак жорстка радасць адабраў,
Ужо даўно няма: адгараваўшы,
Адмучыўшыся, рана, страшна рана
Пайшла ад нас… А я — яшчэ цягну
Памалу-поціху свой воз нялёгкі,
Нагружаны грахамі, мабыць, так жа,

Як той магутны «студэбекер» сенам,
Што ў сорак сёмым вёз у Мінск мяне —
З маёю першай перад ёй віною…
І чым бліжэй мне да спаткання з ёй,
Тым балючэй, гарчэй я ўспамінаю
Той летні дзень, не раз пракляты мной,
Калі цішком, употай ад сястры,
Прадаў я лодачкі — яе надзею,
Яе, падораную лёсам, мару…
І хоць яна яшчэ тады ж мой грэх
Мне даравала, як у час расстання
І ўсе астатнія мае правіны, —
Усё ж няма, няма спакою мне,
І я, не знаю сам чаму, але
Хачу сказаць усім мужчынам краю,
Якога б сёння ўзросту хто ні быў:
Не прадавайце сестрыной надзеі,
Ні даччынай, ні матчынай, браты!
Не прадавайце! Як бы хітра д’ябал
Ні падбіваў вас на ганебны торг!
Не прадавайце! Каб пасля аднойчы
Не давялося горка шкадаваць,
Кусаць сябе за локаць і ў прыпадку
Бяссілля — біцца галавой аб мур.

*1997–1998*

# РОДНЫЯ ДЗЕЦІ

## *Раман у вершах*

### *ЗАПЕЎКА*

*Пісаць бы мне пра час далёкі!*
*Не зябла б муза сіратой:*
*Штодзень бы піў набгом з даёнкі*
*Хвалебстваў пенны сырадой!*

*Я ж выбраў працу без гарантый:*
*Дыханне часу сцерагу*
*І ад надзённасці гарачай*
*Убок падацца не магу.*

*Дый ты, чытач, таму прычына:*
*Ты — вось, ты побач, ты са мной.*
*І разлучыць нас немагчыма:*
*Мы доляй звязаны адной.*

*І хочаш ты пазнаць у кнізе*
*Жыццё, якому сам — суддзя.*
*Ды каб без тых эрзац-калізій,*
*Дзе ўсё вядома загадзя.*

*Каб пошук праўды ў ёй быў моцны.*
*Каб прачытаў, сабе наўздзіў,*
*Усю зараз — і смачна цмокнуў:*
*«Прыдумаў, гад, а — дагадзіў!»*

*Чытач! А можа — не прыдумаў?*
*А — толькі кінуў свой пагляд*
*На сутнасць радасці і суму,*
*З якіх сатканы побыт-лад?..*

*Ды гэта — тэма для дыскусій,*
*Ты тут, брат, сам не дайся ў зман.*
*Я ж быў бы рад, калі б прымусіў*
*Цябе — уткнуцца ў мой раман.*

## ПРЫЧЫНА

Сцяпан Якубавіч Вячорка,
Хоць і караў сябе не раз,
На ўлонне роднага падворка
Не заяўляўся доўгі час.

Ён разумеў: жыве, як злыдзень,
І ўсё збіраўся завітаць.
«Абавязкова дзесь праз тыдзень!
Далей няможна адкладаць».

Праз тыдзень зноў не выпадала —
І зноў ён бэсціў сам сябе.
На шчасце, маці прыязджала
Сама, знябыўшыся ў журбе.

Відаць, таму, што бачыў зрэдку,
Не так пакутваў ад віны.
«Прыедзь, Сцяпаначка, улетку —
На спелы яблычак вінны.

На тыя ж вішні, на маліну
Ці на любімы свой агрэст...»
Расчулены ад успаміну,
Сын абяцаў старой прыезд.

І шчыра верыў сам, і нават
Ужо ўяўляў, як нацянькі
Ідзе праз луг, па спелых травах,
Сцяжынкай вогкай да ракі;

Як, разамлеўшы на спякоце,
Ён акунаецца ў віры;
Як растае салодка ў роце
Даспелы яблычак вінны;

Як ён пад венічкам якоча
У лазні брата Тамаша —
А дыхту болей, болей хоча
Не толькі цела, а й душа;

Як потым матчыны «кумпанкі»,
З нагоды клікнутыя ў дом,
Сваёй дзявоччыны вяснянкі
Пяюць для госця за сталом;

Як апасля ў суседняй вёсцы,
Дзе караніўся матчын род,
Гасцюе ён у дзядзькі Лёксы,
Каштуе свежы, з вузай, мёд,

А дзядзька сыпле, нібы з меха,
Навіны ўсякія, ды так,
Што ён заходзіцца ад смеху, —
О, дзядзька выдумаць мастак!

«І для душы спажытак быў бы,
І адпачыць бы добра змог,
І не было б у мамы крыўды...
Паеду ў свой Каменны Лог!..»

Але, правёўшы маці, тут жа
Ён акунаўся з галавой
Не ў вір маленства — праца-служба
Штодзённа ў вір цягнула свой.

Зноў бачыў: выбрацца не зможа,
Уявы светлай тух прамень, —
І адкладаў ён падарожжа,
Як бы да нейкіх перамен.

Да нейкай паслабкі-аддухі,
Што ўрэшце выпадзе яму,
Каб хоць на тыдзень сэрца й думкі
Даверыць котлішчу свайму...

Была яшчэ адна прычына,
Што астуджала ўраз запал.
Вы здагадаліся: жанчына,
З якой знаёмы быў Сцяпан.

Ды і не проста так знаёмы.
Зусім, зусім не проста так...
Над імі калісь дзень маёвы
Устаў, як лёсу добры знак.

Пасля... да жудасці раптоўна
Той дзень бязлітасна патух —
І доўга крыўдай невымоўнай
Цямрэла ў сэрцы ноч пакут.

Хоць знаў: у тым, што толькі горыч
Яму пакінуў на ўспамін
Вясновы вечар ясназоры, —
Быў вінаваты ён адзін.

Што ж, скрухі ён пазбыўся з часам —
Жыццё на ўсё знаходзіць лек,
Яно не любіць, каб няшчасным
На свеце чуўся чалавек.

Тым больш — у гэтакім узросце,
У самым розгары вясны...
Але вясна прайшла, а штосьці
Ад той пары не збегла ў сны.

Не-не, — і марнае пытанне:
Чаму так здарыцца магло? —
Будзіла крыўду, шкадаванне,
Пакутнай прыкрасцю гняло.

Калі ж нарэшце крыўда гэта
З вірлівай мутнасцю сплыла —
Было запозна ўжо: Альжбета
За іншым замужам была.

Памылку выправіць, хоць з болем,
Назад, хоць з кроўю, адкруціць —
На гэта ўзняцца ён не здолеў.
Рашыў: няхай перабаліць.

Нашмат пазней, калі ўжо ўласнай
Быў сам ён звязаны сям’ёй,
Цераз знаёмага дазнаўся
Сцяпан што-кольвечы аб ёй.

Альжбета шлюб свой разарвала:
Ёй шчасця замуж не прынёс,
І марнаваць яна не стала
З нялюбым свой жаночы лёс.

Ды вось мінулы год увосень
Яму прывезла маці ў дом
Такую вестку, што здалося:
Над галавою грымнуў гром.

— Да нас вучыцельку аднекуль
Прыслалі ў школу працаваць.
Яшчэ ў тваім прыблізна веку,
Альжбетай Францаўнаю зваць.

Дык дзецям гэтак дорыць ласку,
Як маці родная, дальбог!..
— Альжбета Францаўна? — знянацку
Схаваць здзіўлення ён не змог.

— Ну, так. А прозвішчам — Кудзёлка.
Разводка быццам бы... Але
Па ўсім відаць, што не свісцёлка.
Да ўсіх з павагай у сяле...

Сцяпану ў сэрца, як іголкай,
Кальнула: «Вось дык навіна!
Альжбета Францаўна Кудзёлка!
Няма сумнення, што яна...»

Маўчаў, аглушаны як быццам,
І зразумець ніяк не мог:
Чаму ёй собіла прыбіцца
Якраз жа ў іх Каменны Лог?

Ці ж мала школ у іхнім краі —
У межах вобласці ўсяе?
Які ж «асветнік» ёй нараіў
Атайбавацца ў іх сяле?

А можа быць, яна наўмысна
Зрабіла так?.. А для чаго?
Нашто — калі ёй ненавісна
Любая згадка пра яго?

Відаць, тут проста выпадковасць.
Відаць, забылася суздром,
Што гэны кут — яго мясцовасць,
Яго бацькоўскі, родны дом.

— Была і ў нас, у нашай хаце:
То ж вучыць Паўліка якраз,
Дык ушчувала бацьку, маці,
Што той кладзецца спаць не ў час.

І пра цябе спытала потым:
Ці праўда, значыць, ці мана,
Што ты мой сын і згэтуль родам...
— І што?.. — Здзівілася яна:

Такі, гаворыць, талент звонкі
Радзіўся ў гэтакай глушы...
Ад большай пэўнасці ў Вячоркі
Паспакайнела на душы.

«Ну, так, забылася няйначай,
Што гаварыў я колісь ёй —
Аб нашай вёсцы, школе нашай,
Аб першай музыцы маёй...

От можа фокус быць вясёлы:
Прыеду я — і як на грэх
Адразу ўбачымся ля школы...»
І зноў па сэрцы цень прабег.

Ён мусіў сам сабе прызнацца:
Паклаўшы крыж на той бядзе,
Ён не хацеў бы сустракацца
З былым — ніколі і нідзе.

Тут справа, знаў ён, не ў капрызах
Яго натуры. Справа ў тым,
Што калі нават попел-прысак
Астыў — нашто капацца ў ім?

А ёй? Хіба ёй будзе ў радасць
Узрушыць памяць гаркатой?
Яна ж дагэтуль лічыць здрадай
Яго правінны ўчынак той.

Калі ў яе спакой і немуць
Пануе ў сэрцы — не бунтуй!
Авось пачасе куды-небудзь
Перабярэцца і адтуль...

У гэткіх роздумах-развагах
Бываў Вячорка ўсякі раз,
Калі матуля ў госці звала —
На адпачынак, на папас.

І ўсякі раз яго паездка
Ізноў не месцілася ў план...
Ды вось прыйшло пісьмо-павестка,
Якой чакаў ужо Сцяпан.

«Ты не забыўся, брат наш кроўны, —
Струменіў водар з родных слоў, —
Што маме, Сохвіі Пятроўне,
Праз месяц семдзесят гадоў?

Якраз на свята, на Купалле.
Дык выкрай часу і прыедзь.
Каб потым людзі не казалі —
Парадуй маму і прывець...»

Сцяпан і сам у тлуме будняў
Не забываў пра юбілей.
«Ну, што ж, рыхтуйся, сын аблудны!
Тут не адкласці надалей.

Набок усякую нязмогу!
На свята маці рушым, брат,
Каб нават падаў на дарогу
Перад табой каменны град!

Ну, а наконт магчымай стрэчы...
Ці не пара прасцей, дзівак,
Глядзець на гэтакія рэчы?
Табе ж за сорак як-ніяк!..

Ці мала што ў жыцці бывае!
Якіх вузлоў не вяжа лёс!
Няшчасны той, хто ўсё прымае
Да сэрца блізка і ўсур'ёз.

Спакойна, брат, звычайна стаўся
І да сябе, і да людзей...
Ах, ты, на жаль, не гэткі ўдаўся?
Не можаш звольна і прасцей?

Тады — ты сам свой інквізітар,
І — як сказаў алкаш-сусед:
«Прабач, таварыш кампазітар,
За гэтым я прыйшоў на свет!..»

## ЗГАДКІ Ў ДАРОЗЕ

Вячорка, стомлены мільганнем
Карцін-малюнкаў за акном,
Павекі звёў без намагання
І перанёсся ў родны дом.

Перш-наперш маці твар убачыў:
Маршчынкі дробныя ля губ
І вочы ў крапінках табачных,
Што аніколі не ілгуць.

Ля маці дзеці: Лёдзя з мужам,
Антось, Мікіта і Тамаш —
На гэты раз, напэўна, дружна
Збяруцца ўсе, як на кірмаш.

Ну, Тамашу збірацца ўласна
Няма чаго — ён там жыве,
Ён — гаспадар, ён у саўгасе
На працы ўдарнікам слыве.

Адзін з усіх застаўся дома.
Што самы меншы, можа быць?
Смяяўся: «Доля, братцы, доля!
Павінен хтось і хлеб рабіць!..»

Ён жонку Анцю (Антуніну)
Настроіў так на боскі строй,
Што меў дзяцей амаль асьміну.
Смяяўся: «Я — айцец-герой!..»

Хоць скончыў колісь толькі восьмы —
Адстаў ён мала ад братоў, —
Смяяўся: «Я — у дзядзькі Лёксы
Дзве акадэміі прайшоў!..»

Што тычыць Лёдзі — як зазвычай,
Яна прыедзе з Вінцусём.
Калісьці ў робе будаўнічай
Ён стаў Сцяпану швагрусём.

Вячорка ў тым далёкім годзе
Кансерваторыю канчаў,
Калі дазнаўся, што да Лёдзі
Якісь жаніх хадзіць пачаў.

Іх Лёдзя ў Мінску на будоўлі
Тады падсобніцай была
І аб сваёй дзявочай долі
Не турбавацца не магла.

Жыла ў рабочым інтэрнаце,
З гурмою гэткіх жа нявест,
І добра помніла, як маці
Засцерагала на ад’езд:

«Хаця ж не слухай кавалераў,
Культурных гэных, гаваркіх.
Няхай іх выкаціць халера —
Тых ашуканцаў гарадскіх!..»

Ва ўсіх нявест безабаронных
З тых інтэрнацкіх катухоў
Жыў недавер да ім не роўных
Інтэлігентных жаніхоў.

«Хіба ён гэткі возьме замуж
Мяне — з будоўлі галату?
Адно ў душы пакіне замуць,
Пасее ў сэрцы гаркату...»

Ды вось у клубе іх на танец
Аднойчы Лёдзю запрасіў,
Па ўсім відаць, не «ашуканец»,
Бядняк, мяркуючы па ўсім.

Сказаў дзяўчыне, што рабочы.
Праводзіў позна ў інтэрнат —
За разам раз глядзеў у вочы
І сыпаў досціпы — як град.

Хоць жартаваў замыславата —
Было прыемна ўсё адно.
Праз дзень — прыйшоў да інтэрната
З двума білетамі ў кіно.

Далей — амаль што кожны вечар,
Пасля работы — тут як тут.
І сімпатычны быў ёй нечым,
І нечым дзіўны, Вінька Шкут.

Найбольш сумелася дзяўчына,
Калі адкрыла незнарок,
Што не бядняк ён, як лічыла,
Што ён — прафесарскі сынок!

Аж не паверыла спачатку
І машынальна перш за ўсё
Паглядам змерала апратку:
На ім было амаль рыззё!

А ён сказаў: — Давацца дзіву
Няма чаго. Зірні-паглянь:
Народ не носіць габардзіну,
Народ апрануты ў паркаль!

І нейк паблажліва ўсміхнуўся:
— Не зразумела ты пакуль.
Не думай кепскае. Клянуся:
Я не басяк і не куркуль!..

Не зразумела, гэта праўда.
І напісала брату ліст,
Каб што параіў... Неадкладна
Сцяпан прыехаў к ёй у Мінск.

Калі пачуў, хто з ёй «на роўных»
Пачаў дружыць, — скрывіўся ўраз:
— Ты бач яго, які «народнік»!
Напэўна, хітры лавелас!

Каб ачмурыць з будоўлі дзеўку —
Маўляў, і я — такі ж, як ты, —
Адзене світку ці паддзеўку,
Ну, і канечне ж — у кусты!

— Мяне? Павек таго не стане!
Хай паспрабуе, хоць у жарт!..
— Ну што ж: іду з ім на спатканне.
Пабачу сам, чаго ён варт.

Не да канца спасціг загадку,
Правёўшы розведы, Сцяпан:
— Развесяліў мяне спачатку,
Калі ішлі паўз рэстаран.

Пытаю: «Можа быць, заглянем?
Прапусцім сціпла па адной?»
«Народ не мокне ў рэстаране!
Народ сілкуецца ў чайной!»

Вось так і ўрэзаў мне твой Вінька.
Як абухом — па галаве!
Хаця хваліўся, што крывінка
Патомнай шляхты ў ім жыве.

Магчыма. Хлопец дзіўны нейкі.
З бацькамі ў контры — і ўсур'ёз.
Ён не бярэ ў іх ні капейкі.
Ну, і таму не ў пудры нос.

Сказаў: не возьме нізавошта.
Жыве на ўласныя грашы.
Працуе. Вучыцца завочна.
Мне — самастойнасць па душы.

Аднак... ужо і зараз бачна:
З такімі думкамі — наўрад
Ці зробіць ён цябе багачкай, —
Падсумаваў з усмешкай брат.

— Я не ганюся за багаццем,
Адно б душы не знаць пакут...
І неўзабаве стаў ім зяцем
Дзівакаваты Вінька Шкут.

Амаль што два дзесяцігоддзі
Крылом галубіць іх анёл.
Але раскошы ў доме Лёдзі
Не адшукаць і ўдзень з агнём.

Вінцусь праз грані той жа прызмы
На свет пражорлівы глядзіць
І ў тым жа духу афарызмы
Не перастаў пуляць-пладзіць.

Пачуе: «Волгай» трызніць хтосьці —
Ён тут жа рэпліку яму:
— Народ ганяе «Запарожца»!
Народу «Волга» ні к чаму!

Убачыць: грушу абірае
Сусед — ахвяра на чарзе:
— Народ пладоў не абразае!
Народ са скуркаю грызе!

І часта Лёдзя: «Ну, народнік! —
Крычыць нязлосна на яго. —
Дальбог, куплю табе наморднік,
Каб не брахаў абы-чаго!..»

Сцяпан у думках спасміхнуўся,
Як уявіў славесны шторм,
Што ўздымуць дома немінуча
Антось з Мікітам і Шкутом.

Антось на слова быў заядлы
І апанента ў спрэчцы браў
Што называецца «за яблык» —
Дыхнуць секунды не даваў.

Ён быў філосаф-сацыёлаг,
Дацэнт сталічнай ВНУ.
З натур дасціпных і вясёлых.
І клаў за праўду галаву.

Ён мог бы век не знаць дакукі,
Каб на ражон не пёрся сам.
«Аб эфектыўнасці навукі»
Аднойчы працу напісаў.

Сацыялогіі айчыннай
Наважыў трохі памагчы:
Як цесна ў сувязі прычыннай
Стаяць Навука і Харчы?

Грунтоўна вывучыў, даследваў
І сцвердзіў з жарам у крыві:
Якая процьма дармаедаў
Пасецца ў многіх НДІ!

У пераказе дзядзькі Лёксы
Карціна выглядзела так:
Антось рашыў зімой у вёсцы,
У цішыні, пісаць трактат.

Падсунуў стол да самай грубкі —
Каб ногі ў цёплае ўпіраць,
Паклаў канспекты, картак грудкі,
Паперы чыстай пачак пяць.

Ну, за работу, Анцік! З Богам!
А маці строга наказаў:
«Вары мне толькі груцу з бобам —
Штодзень каб поўненькі казан!..»

За месяц, седзячы на груцы,
Зрабіў трактат лістоў на сто:
«Ці трэба збткалы ў навуцы,
А калі трэба — дык нашто?»

І выйшла: заткалы патрэбны!
Дарэмна скрыва хтось глядзіць:
Ніколькі нават не ганебна
Сягоння ў заткалах хадзіць!

І больш таго: у тым і штука,
Што калі недзе ёсць уздым
І мае поспехі навука, —
Дык гэта дзякуючы ім!

На працы заткала шчыруе —
Шукае, доследы вядзе!
А той, хто заткалам кіруе,
Сваё імя паўзверх кладзе.

«Тады наш Анцік чуць не спёкся —
Шаноўных шмат увёў у злосць...» —
Так разабраўся дзядзька Лёкса
У тым, што высветліў Антось.

Наогул, дзядзька ўмеў надзіва
Адчуць турботы племяшоў.
З Антосем ладзіў асабліва —
Сваю натуру ў ім знайшоў.

Меў дар маўлення смехатворац,
І ўсе браты сябе не раз
На тым лавілі, што гавораць
«Нутром» ягоных слоў і фраз.

Як антыпод і выключэнне
У іх гурбе — Мікіта быў.
«З ім гаварыць — адно мучэнне», —
Мікіту дзядзька не любіў.

На свяце ж будзе і Мікіта —
Старэйшы самы, зводны брат.
Хоць нос трымае самавіта —
Прыедзе к маці ў акурат.

Аддаць належнае тут трэба:
Не забывае родны дом.
Ягоны бацька Зміцер Рэпа
Пакінуў Зосю маладой.

Той год быў «годам пералому»,
І Рэпа, сельскі актывіст,
Па прапанове выканкому
Старшыняваць пайшоў кудысь.

Ён заглядаў дамоў наездам
І ўсё радзей — пакуль здаля
Не дапаўзла да Зосі вестка:
Другая ўжо з ім спіць, змяя!

Пакінуў Зміцер жонку з сынам —
Пяцігадовым хлапчанём.
Ото ж яна і ўгаласіла,
Калі збіраў пажыткі ён!

Крычма крычала паратунку,
Мікіту трэсла з усіх сіл:
Прасі, сынок, прасі татульку,
Каб ён цябе не сіраціў!

І сын прасіў — услед за маткай
Крычаў: «Татулечка, не едзь!
Забі змяю, забі, мой татка,
А то змяя цябе заесць!..»

Не апрытомнеў Рэпа Зміцер
На слёзны лямант хлапчука.
На развітанне воч не выцер —
Не абрасілася шчака.

Душы ж дзіцячай неакрэплай
Ён рану страшную нанёс.
На ўсё жыццё Мікіта Рэпа
Застаўся з крыўдаю на лёс...

А Зося выйшла за Якуба
І — да някліканых нягод —
Жыла з ім проста міла-люба:
Спраўлялі хрэсьбіны штогод.

Мікіту — горача любіла,
Ад крыўды чуйна берагла.
З праклятай даты — не набіла
Яго ні разу: не магла.

І калі ўсё-такі ён вырас
Непамяркоўным, грубым, злым, —
Быў вінават, відаць, той вырак,
Грымаса здрады над малым.

На ўласны хлеб пайшоў ён рана
І рана ўлады зведаў смак.
Да ўсякай мэты крочыў прама.
Амбіцый меў ажно зашмат.

Каб не ўніжаць аўтарытэту,
Ён Рэпу справіў на Рэппо, —
Хоць землякі замену гэту
Не прынялі, яму назло.

У вочы звалі «паважаным»,
За вочы — тыя ж языкі
Маглі назваць і «Абіззянам».
Ого, як могуць землякі!

Мянушку гэту меў ён змалку.
А праз каго? Чыя віна?
Ды ўсё праз тую поскудзь-малпу,
Каб тройчы выдахла яна!

Калісь настаўніца Марыніч
Свой падапечны шосты клас
Павезла ў горад, каб звярынец
Ім паказаць: гасціў якраз.

Усё агледзелі: мо дзвесце
Звяроў і птушак — па чарзе.
І прыпыніліся нарэшце
Ля клеткі з рослым шымпанзе.

Касмач стаяў і чухаў брыдка
Даўжэзнай лапаю жывот.
Такое ўбачыўшы, Мікітка
Аж да вушэй разявіў рот.

Ад дзіва пырснуў смехам хлопец
І ўцехай-радасцю заззяў:
— Вы гляньце, гляньце, што ён робіць —
Вялізны гэты абіззян!

— Не «абіззян», а «обезьяна»
Па-руску трэба гаварыць, —
Марыніч ціхенька сказала,
Каб перад дзецьмі не журыць.

Але Мікітка тут жа ўспыхнуў
І ёй без бою не ўступіў
(Ужо тады ішло на пыху —
Заўваг крытычных не любіў!):

— Дык абіззяна — калі маці,
А калі бацька — дык жа як? —
І нават з крыўдай патлумачыў:
— Чаму ж ёсць гуска і гусак?..

Малыя тут жа падхапілі
Няўдалы моўны наватвор
І да Мікіткі прыляпілі:
Ты — аўтар, значыць, гонар — твой.

У вёсцы так было адвеку:
Калі дасціпнае імя
Прышпіліць нехта чалавеку —
То не здзярэ і смерць сама.

І дзеці вырастуць і ўнукі
Пад гэтым імем — цэлы род
Яго без крыўды, без дакукі
Адносіць сто гадоў і год!..

Вось так, пад роўны гул матора,
Сцяпан, схіліўшы галаву,
Успамінаў, каго ён скора
Пабачыць дома наяву.

А найчасцей перад вачыма
З'яўляўся даўні эпізод:
Ушчэнт шчаслівая дзяўчына
На вулку выбегла з варот.

У белай кофтачцы шаўковай,
І валасы — святлісты шоўк.
Глядзіць разгублена наўкола:
Няма! Спазніўся! Не прыйшоў!

Ні на дарожцы пешаходнай,
Ні на брусчатай маставой...
А ён знарок стаіўся воддаль
За тоўстай ліпай векавой.

Ах, тая ліпа-медавуха!
Як часта ў сэрцы ён пасля,
Калі даймала горыч-скруха,
Чуў весні шум яе галля!

І бачыў трэшчыны-маршчыны,
Што ўверх віліся па кары.
І — чысты, юны твар дзяўчыны —
Нібы лілея на зары...

«Ого! Яна вось-вось гатова
Заплакаць! К чорту гэты жарт!»
— Я тут! — гукнуў Сцяпан са схову
І выйшаў к ёй, на тратуар.

Не раззлавалася — ні трохі.
Ізноў імгненна расцвіла.
Прабегла тры-чатыры крокі
І — крылы-рукі развяла.

А ты?.. Дзівак! Нясмелы дурань!
Ці ж можна з гэткім паляцець?..
Успамінай цяпер і думай —
Пра заўтра думай, целяпень!

Напэўна ж прыйдзецца спаткацца,
Сустрэць... Праз дваццаць два гады!
Пра што пытацца? Як трымацца?
Ці засталіся хоць сляды —

Таго, што колісь хвалявала?
А што карысці, калі й так?
Тваё што сэрца захавала?
Які ў цябе застаўся знак?

Астаткі крыўды, шкадавання,
Ды думка скрушная, з якой
Даўно зміры́ўся ты: вяртання
Няма да ліпы векавой.

Няма вяртання і не будзе.
І вы ўдваіх, сабе ж назло,
Не варушыце, не турбуйце
Таго, што зеллем парасло.

### *АДСТУПЛЕННЕ ПЕРШАЕ — ПАТЭТЫЧНАЕ*

*О, Беларусь!.. — Няхай усклікну*
*І я — за волатамі ўслед.*
*Як пілігрым нясе малітву —*
*Так я нясу іх запавет.*

*Я скалясіў і змераў пешкі*
*Твае прасторы ўдоўж і ўшыр —*
*І ўсе шляхі, дарогі, сцежкі*
*Пакрыжаваліся ў душы.*

*Не знаю сам, якога зелля*
*Ты падліваеш мне ў пітво, —*
*Што гэтак моцна, гэтак хмельна*
*Тваё чаруе хараство.*

*Не знаю слоў, каб растлумачыць,*
*Разгадку тайны праявіць, —*
*Чаму штодня мне трэба бачыць*
*Твой непаўторны краявід.*

*Чаму без роднага паветра*
*Я доўга дыхаць не магу,*

*Чаму мне суджана павечна*
*У неаплатным быць даўгу —*

*Перад тваёю некрыклівай,*
*Зусім не кідкаю красой,*
*Што з воч зрываецца імклівай,*
*Непаможнаю слязой,*

*Што анікому не чужая*
*І нават кончаных бадзяг*
*Адчуць раптоўна прымушае,*
*Як радасць тахкае ў грудзях.*

*«Якая дзіўная краіна! —*
*Пісала госціца адна: —*
*І да Бабруйска скрозь — раўніна,*
*І за Бабруйскам — раўнінб...»*

*Перапрашаю госцю вельмі —*
*Удакладніць належыць тэкст:*
*Хоць раўніна — ды не пустэльня,*
*Хоць і раўніна — ды не стэп!*

*А ўсё лясы ды пералескі,*
*Бары, дубровы ды гаі,*
*Бяроз і сосен пераблескі,*
*Нязмоўчны шчэбет у галлі.*

*А ўсё пагоркі, ды лагчыны,*
*Ды касагоры, ды равы,*
*Сярод палеткаў — лугавіны,*
*У ціхіх поймах — паплавы.*

*А ўсё азёры ды азерцы,*
*Бруенне рэчак, плыннасць рэк...*
*Дык што ж за дзіва, што на сэрцы*
*Адбіўся вобраз твой навек?*

*Дняпро і Нёман, Сож і Прыпяць,*
*Дзвіна, Бяроза і Вілля —*
*Спляліся так, што не разблытаць*
*Іх у душы маёй, зямля!*

*Не раз'яднаць і не адсекчы*
*Ні ручайка — пакуль жывы.*
*Тваіх артэрый ток адвечны —*
*Давечны ток маёй крыві.*

*Спыні на міг — і задыхнуся,*
*І — як падкошаны ўпаду.*
*Ды знаю, што прашэпчуць вусны*
*Раней, чым іх навек звяду.*

*Тваё імя яшчэ прамоўлю*
*Апошні раз, о краю мой!*
*Шчаслівы лёс — плаціць любоўю*
*Табе і жыць — адною ёй.*

*З чаго пачаў калісь над Гайнай —*
*І скончу тым... Спакойны я:*
*Павек не стане чорнай ганьбай*
*Любоў прасветлая мая!..*

## БЕЛЫ МАЙ

Альжбета Францаўна Кудзёлка
У тыя дні — даўным-даўно
Была дзяўчына, як вясёлка:
Уся свяцілася ажно.

Жывога розуму дзяўчына
І шчодрай, ласкавай душы.
А гляне карымі вачыма
На дзецюка — прапаў, пішы!

У педвучылішчы сталічным
Яна выдатніцай была.
Яшчэ і талент ёй музычны
Прырода-матухна дала.

На лыжках грала вельмі хвацка!
Як забразгоча польцы ў такт
На вечарынцы інтэрнацкай —
Маэстра сам не змог бы так!

«Во, шэльма дзеўка! Во, зараза!» —
Гукаў сёй-той пад пераміргі,
І сказ гучаў не як абраза,
А як прызнання светлы міг.

Такою, з лыжкамі, і ўбачыў
Яе Сцяпан у першы раз
І, заварожаны няйначай,
Па-за плячмі ў сяброў «завяз».

Сюды, да будучых настаўніц,
Ва ўтульны, чысты інтэрнат
Іх Юзік Бэнсь прывёў на танцы —
У гэтай справе зух і хват.

Сцяпан, пакуль яна іграла,
Глядзеў, не зводзячы вачэй,
А цуда-музыка гучала
Усё званчэй, усё званчэй.

Калі ж нарэшце полька змоўкла,
Дзяўчына ўстала даць паклон —
Усе запляскалі навокал,
Не зварухнуўся толькі ён.

«Альжбеце брава! Брава, Аля!» —
Завыгукала ўся гурма.
«Альжбета?.. — Дзіўна як назвалі
Бацькі... Забытае імя!»

Вядучы рэй, лабасты хлопец,
Гукнуў: «Цяпер — жаночы вальс!»
Каля Вячоркі ўзнікла постаць:
— Я запрашаю ў танец вас!

Сцяпан як быццам прабудзіўся:
Глядзіць — Альжбета перад ім!
Ад неспадзеўкі — разгубіўся,
Хацеў адмовіцца зусім.

Але ў апошняе імгненне
Кіўнуў на згоду галавой
І, не сказаць, каб зграбна вельмі,
На круг брусчаты выйшаў з ёй.

О першы вальс! Павек забыцца
Не зможа той паднебны ўзлёт!
Як лёгка з ёй было кружыцца,
Адчуўшы ў сэрцы веснаход!

Як далікатна, нібы пёрка,
Далонька ўлеглася ў руцэ!
Як звабна блізка, нібы зорка,
Радзімка ззяла на шчацэ!

«Вы нейчы госць тут?» — запытала.
«Не, мы зайшлі к вам... проста так».
Язык яму — як завязала:
Адно глытаў сухі камяк.

Хоць меў прыгожы голас звонкі
І быў не з роду маўчуноў —
Ён не знаходзіў для гаворкі
Зачэпкі добрай, вартых слоў.

«А вы ігралі, як артыстка!» —
Знямогся ўрэшце ён маўчаць.
І ўбачыў: сонечная іскра
У карых бліснула вачах.

Кранула водзывам ягоным!
«Ды што вы! Так — дурэць люблю...»
Тут абарваўся вальс — і гоман
Спусціў іх з неба на зямлю.

Музыка ўпараны на крэсла
Баян паставіў: «Перакур!»
Сцяпан туды рвануўся з месца:
«Дазвольце мне сыграць, пакуль...»

Мо ад няёмкасці хлапечай
Уздумаў гонар апраўдаць?
Ускінуў дзве шляі на плечы
І з ходу ўрэзаў — як аддаць!

«Эге! — адразу ўсе адчулі. —
Вось гэта ўзровень, гэта клас!»
Аж пыл пайшоў па вестыбюлі —
Так завіхрыла полька ўраз.

Што праўда, сам музыка трохі
Занерваваў і ўмерыў дух:
Альжбета-лыжачніца ў скокі
З нахабным Бэнсем выйшла ў круг.

Але заўважыў: хоць дзяўчыне
І сыпле ўсмешкі Юзік-хват,
А ўсё ж яна не-не дый кіне
На баяніста зірк-пагляд.

Пасля яго шалёнай полькі
Альжбета знікла неўпрыкмет.

Калі — не ўгледзеў ён, а толькі —
Застаўся ў сэрцы гулкі след.

Такі гарачы след трывожны,
Што ён пачаў шпацыраваць
Ля інтэрната вечар кожны —
А раптам выпадзе спаткаць?

Ну, дык і выпала нарэшце!
З сяброўкай-дылдай пад руку
Яна аднойчы выйшла з весніц —
Якраз насустрач дзіваку.

Сцяпан сумеўся, разгубіўся:
Пракляты сорам, каб ты счах!
Даў «добры вечар» і спыніўся —
З мальбой і радасцю ў вачах.

Яны таксама крок стрымалі.
Лілася з вокан гамана.
«Вы так прыгожа ў нас ігралі! —
Сказала шчыра... не яна. —

Прыходзьце зноў! Абавязкова!» —
Штось «дылдзе» рупіла самой.
Яна ж — ні слова, ні паўслова.
Але глядзела... Божа мой!

Як на яго яна глядзела!
З якой прадоннай глыбіні!
Якая светлая надзея
Пускала ў сэрцы карані!..

Ледзь дачакаўшыся суботы,
Сцяпан падаўся ў інтэрнат.
Адзін. І шмат іграў з ахвоты.
І танцаваў з Альжбетай шмат.

Але сказаць ёй хоць намёкам,
Чаго прыйшоў ён зноў сюды,
Чаго блукаў ля іхніх вокан, —
Не змог музыка малады.

І ён рашыў пакарыстацца
Вядомым спосабам старым:
Прызнацца ў вершы — і на танцах
Аддаць лісток ёй. А затым...

Ужо што будзе — тое будзе.
Ва ўсякім разе — будзе знаць.
Тры дні мазгі мазоліў-трудзіў,
Каб як найлепей напісаць.

У рыфму ён яшчэ са школы
Грашыў — умеў цаляць як след.
І вось на лісціку васковым —
Амаль класічны трыялет:

«Ты сэрца мне усхвалявала,
Як краска першая вясной
На ціхай просецы лясной —
Ты сэрца мне ўсхвалявала.

Пасля іх будзе тут нямала
Цвісці, буяць, зырчэць красой.
Ты ж сэрца мне усхвалявала,
Як краска першая вясной».

Перачытаў сто раз — не меней,
Рашыў: «І ў друк бы падышло!»
І ў нагрудной паклаў кішэні —
Каб лёгка выхапіць было.

Назаўтра ж вечарам, у танцы,
Пад шоргат ног, пад гоман-гам,
Ён у кішэньку сунуў пальцы,
Сказаў: «Вазьміце, гэта вам!..»

І чуе: «Мне? Але навошта?
Не разумею, што за жарт?..»
Зірнуў — бы хтось яму бязбожна
Чабэхнуў кіпенем у твар.

Ён не лісток дае з блакноту,
Дзе ёй прызнанне ў вершы сплёў, —
А глянцавітую банкноту —
Ні больш ні менш — на сто рублёў!

Паблытаў, гад! Ляжала ў той жа
Малой кішэньцы на грудзях.
Якая ганьба-стыд, о Божа!
Які канфуз! Ды пры людзях!

«Даруйце!» — згроб купюру ў жменю
І ў дзверы ледзьве не бягом.
Яна — на ганак праз імгненне,
А там — на вулку, наўздагон.

«Сцяпан! Вярніцеся! — гукнула. —
Прашу, вярніцеся! Сцяпан!..»
Спыніўся ён. Душа пачула:
Ад сэрца голас — не спадман.

«Вы трохі дзіўны, выбачайце.
Чаго з-за дробязі ўцякаць?
Забудзьце ўсё — і не зважайце...»
«Я вам хацеў вось гэта даць...»

І ён падаў ёй невялікі
Учвэртку складзены лісток.
Яна ўзяла і для прыліку
Зірнула ўпрыцемку: «Сцішок?!»

«Вы... не цяпер, вы потым гляньце», —
Ён сарамліва папрасіў...
Яны вярнуліся на танцы —
Як быццам іншыя зусім.

Як бы на іх лягла ўжо мета
Якогась кону аднаго.
І цэлы вечар той Альжбета
Не пакідала ўжо яго...

...На цёмнай лесвіцы вячэрняй
Акно расчынена ў прастор —
У весні горад, — да свячэння
Агнёў і зор, агнёў і зор.

«Уночы будзе навальніца», —
Ён, бы сабе, сказаў услых,
Яшчэ сакрэт і таямніца —
Усё, што ўзнікла паміж іх.

Але ўжо з моцнае далоні
Не вырываецца далонь.
Але ўжо хіліцца да скроні,
Нібыта ў лёгкім хмелі, скронь.

І слова згоды ўжо трапеча.
На смяглых вуснах — без умоў,
Што не далей, як заўтра ўвечар,
Яны спаткаюцца ізноў.

* * *

Сляпы ад шчасця ў май той белы,
Калі шугаў паўсюдна бэз,
Не знаў Сцяпан, што да Альжбеты
Тады ж «прыліп» і Юзік Бэнсь.

Дый не на жарт «забрала» Бэнся!
Амбітны, хцівы сэрцаед
У інтэрнат зайсці ўжо меўся,
Каб на яе натрапіць след.

І як жа вырачыў ён вочы,
І як напнуўся цецівой,
Калі яна сама аднойчы
Да іх заглянула ў пакой.

Яе прывёў Сцяпан — і проста
Сказаў, не ўмеючы хітрыць:
«Мая знаёмая і госця,
Прашу ласкавымі вас быць!..»

Найлепей Юзік просьбу ўважыў —
Ласкавы быў, аж цераз край:
І шчодра досціпы адважваў,
І згатаваў імгненна чай.

Адшчоўкнуў ключыкам куфэрак
І тут жа («ахні, слабы пол!»)
Кулёк не нейкіх там цукерак,
А «мішак» высыпаў на стол.

Альжбета ахнула, канешна.
Ніхто ёй «мішак» не купляў.
Бэнсь звысака глядзеў належна:
«Частуйся! Семачкі, маўляў!

Яшчэ не гэткае зазнаеш, —
Прасіўся довад з языка, —
Калі, вядома, розум маеш
І прэч адшыеш вахлака!..»

Калі ж яна Сцяпану ўрэшце
Шапнула: «Нам ісці пара!» —
Зніякавеў, застыў ва ўсмешцы —
Нядобрай, як аскал тхара.

«Не, з гэтым я не прымірuся,
І ты не радуйся, дружок.
На ўсё пайду — свайго даб'юся:
Ты будзеш сцёрты ў парашок!..»

Услед за імі з інтэрната
На вулку выйшаў — злы, як звер,
І — прама ў будку «Сто на брата»,
Дзе Лёф даваў і напавер.

Сядзеў за столікам дапозна,
За кухлем кухаль асушаў,
І чым далей — тым болей грозна
План помсты ў думках вырашаў.

«Ну хто такі Сцяпан Вячорка?
Паршывы конь у табуне!
Чаму ж павінна гэта зорка
Свяціць яму? Чаму — не мне?

Абдзіртус з віцебскай глыбінкі!
Калі паштэт я ем усмак —
Ён, здыхля, душыцца ад слінкі,
Глядзіць у рот мне, як жабрак!

Ды і наогул!.. Чым ён знаны,
Каб мог супернічаць са мной?
Не, гэны яблычак крамяны
Я адаб'ю любой цаной!..»

## ГАНЬБА

Аднойчы Бэнсь, як друг бязгрэшны,
Сказаў Вячорку: «Ну — лады:
Ты едзеш з намі да падшэфных
У вёску Доўгія Брады.

Я ўгаварыў дацэнта Дроба
За баяніста ўзяць цябе.

Дадзім канцэрцік хлебаробам —
Паможам музыкай сяўбе!..»

Сцяпан любіў паездкі ў вёску —
Спаткацца з новымі людзьмі,
Пазнаць свой край шырэй хоць трошку,
Павеў жыцця ўздыхнуць грудзьмі.

У вёсцы іх, «артыстаў з Мінска»,
Развёў па хатах брыгадзір
І — выпадкова ці наўмысна —
Сцяпану з Бэнсем дагадзіў:

Да Базыля Крата паставіў.
Той быў заможны гаспадар:
Меў новы дом і двор на славу,
І ў тым двары — дай Бог тавар!

І меў дачку. Даўно нявеста,
Ды лёс Гілену абмінаў:
Была з «няўходжанага цеста» —
І люд тутэйшы гэта знаў.

Як паглядзець — амаль красуня,
А па натуры — пустальга.
Дзяцюк прыстане, пабузуе —
І прэч нясецца як мага.

Яна загадчыцаю клуба
Рабіла ў вёсцы — і штораз
Было ёй радасна і люба,
Як госці ехалі ў калгас.

Сам брыгадзір улучыў шэптам
На гэта Бэнсю намякнуць:
Маўляў, не грэшна будзе шэфам
З такою краляю гульнуць.

Тады і ўзнікла думка ў Бэнся:
«А што, каб Кротаву дачку
Апрацаваць у пэўным сэнсе
Ды і Сцяпану — пад руку!

Падстроіць так, каб на вячэры
Ён ля Гілены побач сеў,
Каб «гары» выжлукціў звыш меры
І да няўцяму акасеў?

Каб аж не помніў сам, што робіць.
Вось будзе факцік у мяне!
А ўсё астатняе ўжо дробязь:
Альжбеты чутка не міне!..»

Сам лёс зрабіў яму паслугу:
За пуняй стоячы ў садку,
Зусім няўмысна Бэнсь падслухаў
Як маці бэсціла дачку:

«Ты бач! Яна ўжо па ахвоце
І гэтым пойдзе пасабляць!
Напасаблялася ўжо, годзе!
Праз месяц будзе — не схаваць!

Ці, можа, гэта з іх каторы
І нагуляў табе нябось?..»
У словах чуліся дакоры,
І крыўда горкая, і злосць.

Замёрлы Юзік ад здзіўлення
Аж рот разінуў за сцяной.
«Ого! Дык самы раз Гілене
Яго ўсучыць! Любой цаной!..»

Рашыўшы, Бэнсь, падступны сэрцам,
Пачаў свой план ажыццяўляць:
Дзяўчыну ён перад канцэртам
Адвёў убок хвілін на пяць.

«Вы не здзіўляйцеся, Гілена,
Што так пытаю — па прамой:
Але скажыце мне сумленна:
Вам... па душы таварыш мой?

Ах, вы яшчэ... Ну што ж, не стану
Патрабаваць. Я сам скажу.
Я — тайну выдам: вы Сцяпану
Страшэнна ўзрушылі душу!

Але ён вельмі сарамлівы!
Ён нізашто не скажа вам,
Што быў бы ў свеце найшчаслівы,
Каб ваша сэрца мець за храм.

Таму — круціце самі гайку...
А што сказаў я вам — маўчок!..»
Гілена «клюнула» на байку,
Як верхаводка на кручок.

Амаль увесь канцэрт прасцячка
Вачэй не зводзіла з хлапца,
І Бэнсь паверыў: тут няцяжка
Давесці справу да канца.

Перад вячэрай тонка-хітра
Ён гаспадыні прашаптаў:
«Ну, цётка Тэкля, з вас паўлітра —
Вам зяця ў хату я дастаў!

Мой сябар з вашаю красуняй
Сышліся так адно з другім,
Што будзе проста неразумна
Не паспрыяць у шчасці ім!

Кажу вам шчыра — даастачы:
Не выпускайце зяця з рук!..»
Хвілін праз колькі Бэнсь убачыў:
У справе ёсць прыкметны зрух!

Вячэра, з поснае і беднай,
Як планаваў скупеча Крот,
Пабагацела адпаведна
Задуме, пушчанай у ход.

Не проста ж госці ўжо, выходзіць,
А — сват у хаце з жаніхом!
У гэткім разе не зашкодзіць
Уразіць іх і за сталом.

Базыль паставіў «гары» кварту,
А Тэкля — закусь: свежы сыр,
І масла жоўтае, і скварку,
І нават кольца каўбасы.

Канешне ж, Юзік пастараўся,
Каб ля Гілены сеў Сцяпан.
З павагі — той і не ўпіраўся,
Не знаў, што змысліў інтрыган.

Базыль — яму паспела Тэкля
Сказаць пра «зяця» і дачку —
Наліў пякучага, як з пекла,
Па поўнай шклянцы першаку.

— Ну, хлопцы, сёння вы героі!
Арлы! Дык як тут не нальеш?..
Сцяпан у добрым быў настроі —
З усіх ён выступіў найлепш.

Ды і наогул — гэта вёска,
І гэта ранняя вясна...
— Дык, хай даруе Матка Боска,
Давайце, хлопчыкі, да дна!

Хто не блазнюк, а хват-мужчына,
Без перадыху — да канца!..
І, падагрэты гэткім чынам,
Сцяпан «згуляў у малайца».

Сцяло — не мог дыханне звесці,
Як бы ў нутро пайшоў агонь.
— Вазьмі, сынок, хутчэй заесці! —
Гукнула Тэкля да яго.

Гілена вобмігам на сподак
Суседу закусь падала
І ўся ад шчасця млела ўпотай —
Уся брыняла і цвіла.

Ледзь дых вярнуўся да Сцяпана,
Як Юзік ткнуў рукой на іх:
— Вы паглядзіце, што за пара:
Дальбог, нявеста і жаніх!

Старых уцешыў вокліч гэткі:
Быў па душы абоім «зяць».
— Дапраўды кажаш, мае дзеткі:
Такую пару — пашукаць!..

Сцяпан зірнуў на Бэнся грозна:
— Ты... гэта самае, прымоўч!..
Гілена ж соладка-трывожна
Тым часам думала пра ноч.

Была няўрымсная Гілена!
Вячорка раптам так адчуў
Пякельны жар яе калена —
Аж стала горача ўваччу.

Пяршак, што ён кульнуў з ахвотай,
Сцяпана моцна захмяліў.
А ўжо Базыль другім заходам
Ім шклянкі поўныя наліў.

— Давайце кропляю свянцонай
Яшчэ абнашчымся разок,
Хоць вы прывыклі да куплёнай,
А гэта — так сабе, квасок!

І як пад добрую закуску,
Дык можна буталь апрастаць,
Крыху пахыркаць у падушку
І зноў за плуг на полі стаць!..

Не ўнікшы ў гэткую манеру
Хваліць сябе «наадварот»,
Сцяпан за чыстую манету
Прыняў усё, што збаяў Крот.

Таму, не быўшы п'яны з роду,
Пасля «заходаў» чатырох
Язык варочаў, як калоду,
І ўстаць з услона сам не змог.

Апошні момант, што назаўтра
Туманна ў памяці ўваскрэс, —
Вясёлы Бэнсь крычыць з азартам:
«Смялей, жаніх! Даёш прагрэс!..»

Старая ўдумліва рашыла,
Каму дзе класціся з гасцей:
Сцяпан, без памяці, за шырмай
Заняў Гіленіну пасцель.

Свабодны ложак у святліцы
Дастаўся Бэнсю. А дачцэ...
Дачка павінна прымасціцца
Ля «зяця» побач. Дзе ж яшчэ?

Ёй Тэкля так і прашаптала:
«Ідзі! Каб ведаў, чый ён зяць.
Ну, што ты бельмы пакуляла?
Цяпер няма чаго куляць!..»

На шчырасць гэткую Гілена
Не спадзявалася ніяк
І аж крыху пачырванела:
«Дык ён жа... п’яны, як мярцвяк!»

«Ты не пра тое зараз думай!
Ты прыбяры спярша да рук!
Калі, дасць Бог, ён чэсны дурань —
Дык будзе бацьку мець байструк!

Прайшла з паскуднікам навуку —
Прыруч і добрага хлапца!
Упусціш — выганю, як суку,
У чым стаіш! Ані рубца!..»

* * *

Сцяпан ачнуўся. Так, нібыта
Ужо не спіць, а галавы —
Не павярнуць: свінцом наліта.
І сам увесь — як нежывы.

Але выразна чуе: нехта
Няроўна дыхае паўзбоч.
Як ток працяў. Дайшло імгненна:
Быў тлумны вечар... Потым — ноч.

А гэта — прыцемак світальны.
А гэта... што? Нядобры сон?
Тут шырма шырхнула — і ў спальню
Убегла Тэкля з абразом.

«Са шлюбам вас! Са шлюбам, дзеткі!
Раз самі Божы запавет
З сябе знялі — то Бог у сведкі:
Ідзіце зразу ў сельсавет!

Калі ўжо гэтак раптам выйшла —
Благаслаўляем вас з айцом!..»

І бацька тут падбег увішна,
Сказаў: «А ты, брат, малайцом!

Умэнт з Гіленкай згаварыўся!
І тыдня ўслед не пахадзіў!..»
Сцяпан, збялелы, падхапіўся,
Памостам ногі астудзіў.

Але кальнула так у скронях,
Што, каб не ўпасці, тут жа сеў,
Заціснуў голаў у далонях,
Адчуў: канец — задушыць гнеў.

«Дык гэта... што ж гэта такое?
Я — звар'яцеў? Або — яны?
Ух, як нясцерпна ў чэрап коле!
Набраўся ўчора, бот дурны!..»

«Ці не муціць цябе, Сцяпанка? —
Бліжэй ступіла Тэкля крок. —
Бач, не пайшла здароўю п'янка.
Базыль, дай похмелкі глыток!..»

«Ідзіце к чорту!» — дзіка, страшна
Сцяпан у гневе закрычаў,
Схапіў свой «клёш» з бліскучай спражкай,
Збірацца похапкі пачаў.

«Ну-ну! Нявольна так, дзіцятка!
Ужо ж нікому не сакрэт!
І справядліва кажа матка:
Цяпер вам толькі ў сельсавет!

А што ж! Дачка ў нас — не круцёлка,
У бацькі-маткі — на слуху.
Паненскі стан трымала цвёрда,
Каб гонар быў і жаніху!» —

Так бацька з годнасцю, спаважна
Размову хітрую павёў
І «гарай» з бутлі учарашняй
Напоўніў шклянкі да краёў.

«Дапусцім, нават і па п'янцы,
Але ж было, зяцёк, было!
Давай асушым, брат, па шклянцы,
Каб сумляванне не ўзяло!

На шчасце гэта неспадзеўка —
Адно патрэбна ўразумець.
Ты паглядзі, якая дзеўка,
Якую жонку будзеш мець!

На ўсе шаснаццаць — гаспадыня:
І ткаць — сама, і шыць, і мыць.
І ўжо біткам набіта скрыня —
Пасаг дадзім — як мае быць!..»

Тым часам, седзячы на ложку,
Гілена хліпаць пачала —
Усё мацней, мацней патрошку
І Тэклі жару паддала:

«Ты што ж? Зрабіўшы дзеўцы псуту,
Як той пранцузскі кавалер...
Каму ж яе цяпер падсуну?
Хто ж возьме гэткую цяпер?..»

Сцяпан, не бачачы нічога
І як не чуючы зусім,
Ужо рвануўся да парога,
Як раптам — Юзік перад ім.

«Я — еду! — крыкнуў. — Гэта пастка!»
«Мне ўсё вядома. Пачакай!
Не гарачыся, калі ласка,
І ад Гілены — не ўцякай.

Падумай сам: бацькі сягоння ж
У камітэт напішуць ліст —
З кансерваторыі пагоняць,
І з камсамола паляціш...»

«Ты што — смяешся? Ці сур'ёзна?» —
«Зусім сур'ёзна, галубок!»
«Пусці!» — сказаў Сцяпан пагрозна
Ды так, што той — адразу ўбок.

Сцяпан піхнуў рукою дзверы,
Не зачыніўшы за сабой, —
І са двара, як ад халеры,
Панёсся вулачкай крывой.

У лесе толькі, ля рачулкі,
Спыніўся, лоб вадой абдаў,
Пачуў у скронях стукат гулкі —
І ўрэшце сэрцу волю даў.

Не сутрымаў усхліпу-плачу —
Папёрлі слёзы з глыбіні.
«Каму і як я растлумачу,
Што тут няма маёй віны?

А можа, толькі папужалі —
І не пашлюць у Мінск пісьма?
Тады ўтаіць усё ад Алі?
А як дазнаецца сама?

Не, лепей ёй сказаць адкрыта,
Што ў гэткі трапіў пераплёт...»
Аж задыхаўся ён ад крыўды
І кляў увесь Гіленін род.

## *АДСТУПЛЕННЕ ДРУГОЕ — ІРАНІЧНАЕ*

*Даруй, чытач, я захапіўся*
*Ідэяй, думкамі, людзьмі*
*І на метафары забыўся —*
*На сэнс пісання, чорт вазьмі!*

*Перапыніся на хвіліну*
*Сачыць за лёсам і жыццём,*
*А я хоць парачку падкіну*
*Метафар, злоўленых жыўцом.*

*А то ізноў мой строгі крытык*
*У нос сярдзіта засапе —*
*І затрымчу я аж да лытак,*
*І стане мне не па сабе.*

*Як быццам гэткі ўжо я зломак,*
*Што не магу, на модны ўзор,*
*Падзавастрыць танчэй аловак*
*Гуллівай выдумкі лязом.*

*Яшчэ ж і слоў арыгінальных*
*Хоць колькі мушу я ўтварыць, —*

*Цяпер жа вельмі непахвальна*
*Даступнай мовай гаварыць!*

*Каб з тымі докамі зраўняцца*
*І заслужыць іх пахвалу —*
*Хоць раз мне трэба пастарацца*
*Надзець штаны праз галаву!*

*Ці ўверх нагамі на далонях*
*Прайсці прылюдна па двары,*
*Як мой адзін дацэнт знаёмы,*
*Калі паўлітра абярэ.*

*Бо ўжо той самы крытык мондры*
*Не раз выносіў мне прысуд,*
*Як эстэтычна-творчай контры,*
*І смачна клаў мой верш на зуб.*

*Ну, што ж, каб «гладкім» ці яшчэ як*
*Ён не кляйміў маё пісьмо,*
*Растрыбушу страфу ушчэнт я,*
*Адкіну прэч памер-вязьмо,*

*Такіх зігзагаў накладаю,*
*Такі ўчыню над словам гвалт,*
*Так паэтычна наскандалю,*
*Каб густ здаровы — напавал!*

*Каб ты, чытач, аж разжалобіў*
*Сябе ад крыўды і віны:*
*«Ані радка не расшалопаў:*
*Які ж я цёмны і дурны!..»*

*Жартую гэта я, канешна,*
*Ты мне іронію прабач —*
*Тым больш што мне зусім не смешна,*
*Не да забавы мне, чытач.*

*Хай буду збэшчаны і скляты,*
*А свой радок, якім не лгу,*
*На рагазлівы і дзяркаты*
*Не прамяняю: не магу!*

*У нас дзяркатых больш чым досыць,*
*А мне не выпаў рэдкі дар:*
*Ні шапялявіць, ні гундосіць,*
*Ні заікацца — Бог не даў.*

*Ды і нашто ён гэткі ў вершы*
*І гукаў збег і сказаў стык,*
*Каб, потырч носам паляцеўшы,*
*Чытач зламаў сабе язык?*

*І да спакуснага верлібра*
*Не дарасці ніколі мне,*
*Якога часам без паўлітра*
*І д'ябал сам не праглыне.*

*Цяпер у модзе арытмія.*
*На тузаніне, на рыўках,*
*Яе сумбурная стыхія*
*Сям-там пануе у радках.*

*Ну, што ж: вялікі свет парнаскі!*
*А мне й на гэты раз, браткі,*
*Слугуе ямб — тутэйшы, наскі,*
*Рухомы, гібкі, трапяткі.*

*Яшчэ адной успышкай ямба —*
*Апошняй, можа — пасвячу,*
*Каб, нібы казачная лямпа,*
*Адкрыў мне скарб, які хачу:*

*Дзівосны скарб — душу людскую,*
*Дзе выспявае праўда-боль*
*У праўду-радасць, — пра якую*
*Мы прагнем ведаць як найбольш.*

## РАЗЛАД

За ўсё жыццё падобнай ганьбы —
Перад самім сабой — не знаў
Сцяпан Вячорка. «Лепш няхай бы
Я ў гэны вечар там сканаў!..»

Яго з агіды калаціла,
Што ў гэткі пляснуўся ён бруд.
Аднак жа духу не хапіла
Пачуць Альжбецін суд-прысуд.

Яна спытала пры сустрэчы:
«Ці добра з'ездзіў? Раскажы!»

І ёй здалося, быццам нечым
Сцяпан прыгнечаны ў душы.

Адкрыты, шчыры па натуры
Зрабіўся штось негаваркі,
Якісь разгублены, пануры,
Наогул — «нейкі не такі».

Не без трывогі падступала
Яна да хлопца — раз і два:
— З табою, Сцёпа, нешта стала?
Маўчыш парою, як трава...

— Не выдумляй! — ён буркнуў ціха,
А сам — і ў сне трымцеў адным:
Ці пранясецца тое ліха,
Ці перуном праб’е над ім?

Быў кожны дзень яму, як момант —
Як той замёрлы страшны міг
Між бліскавіцаю і громам,
Калі ты ўвесь — напяты слых.

Але міналі дні і тыдні —
Яго ніхто не выклікаў,
Каб суд вяршыць над ім агідны,
Што ён дзяўчыну ашукаў.

Сцяпан патроху стаў вяртацца
У свой ранейшы стан-настрой:
У педвучылішчы на танцах
Ізноў дзяўчат здзіўляць ігрой,

Хадзіць з Альжбетай у любімы
Садок ля Свіслачы-ракі,
Дзе ў вечар шыза-галубіны
Рука не просіцца з рукі...

Адно, што кепска: з той падзеі,
З тых дат, адносіны між ім
І Бэнсем рэзка ўхаладзелі —
Сцяпан адчуў яго чужым.

Ён успрыняў тады як здраду
Яго параду «не ўцякаць».

А здраду... здраду нават брату
Сцяпан не змог бы даравацъ.

І ён сказаў без далікацтва:
«Прадаў мяне ты з галавой —
І я прашу не заікацца,
Што мы сябры былі з табой...»

А тут яшчэ, на зайздрасць Бэнсю,
Які чарнеў ад «творчых мук»,
Вячорка склаў такую песню,
Што нават выдрукаваў друк.

Амбітны Юзік ад здзіўлення
Не мог ачомацца ніяк.
Яго душу пачаў з карэння
Тачыць суперніцтва чарвяк.

Самаўлюбёнага без меры
Азлобіў сябраў поспех-плён.
Не, Бэнсь ніколі не паверыць,
Што нехта здольны больш, чым ён.

* * *

Альжбета ў ноч на схіле мая
Ад шчасця плакала ажно.
А ўранку з пошты атрымала
За смерць страшнейшае пісьмо.

Якісьці аўтар ананімны
У трох радках паведамляў:
«Разіня! Сцёпа твой любімы
Гілене пуза нагуляў!

Калі не верыш, то праедзься
У вёску Доўгія Брады,
Дзе выступаў ён у канцэрце
І волю даў сабе тады...»

Як непрытомная чытала
Яна забойчыя радкі.
«Дык вось чаму ён, — прыгадала, —
Вярнуўся нейкі не такі!..»

Пасля схапілася за сэрца
І, закрычаўшы нема «о-ой!»,
Нібы падсечанае дрэўца,
Упала ніц на ложак свой.

І ні адной душы ў пакоі —
Ані адной з яе дзяўчат,
Каб хоць бы словам супакоіць
Ці хоць бы побач памаўчаць.

Яна нямела, абмірала
І, як у трызненні ці ў сне,
Адно бясконца паўтарала:
«Забіў ты, Сцёпачка, мяне!..»

Слоў не знаходзіла Альжбета.
Пераціналі спазмы дых.
«Як мог... як мог зрабіць ты гэта?
Ты — мой свяцейшы за святых?

А тое ўсё, што мы... што потым
Павінна быць было між нас?..
Пра што так марыла я ўпотай —
Аж калацілася не раз?..

Дык тое ўсё было няпраўдай?
Ты прытвараўся і хлусіў?..
У сэрцы, высцюдзеным здрадай,
Гадзюку чорную насіў?..»

Зусім знясіленая горам,
Ад слёз знямогшыся, ад мук,
Яна ляжала дзіцем хворым
І — не азвалася на стук.

Хаця на гэты стук заўсёды
Улёт ляцела да дзвярэй,
Каб родны твар, пагляд вясёлы
За імі ўбачыць найскарэй.

Цяпер «не-не!» — шапталі губы.
«Не-не! — круціла галавой. —
Ён здраднік, здраднік, а не любы!
Хай прэч ідзе, а не ў пакой!..»

А ён яшчэ пастукаў тройчы.
Счакаў. Паслухаў — цішыня.
На дзверыну націснуў трохі,
І — адчынілася яна.

Спытаўся голасна: — Хто дома?
Маўчанне. Хмыкнуў: «Можа, спіць?»
Зайшоў і ўбачыў: нерухома
Альжбета страшная ляжыць.

Сцяпан жахнуўся, крыкнуў: — Аля!
Падбег да ложка: — Што з табой?..
Не зварухнулася. Не ўстала.
Адно смыкнуўся ў вуснах боль.

Глядзіць, не міргаючы нават.
А што ў вачах — не зразумець:
Пагарда? Крыўда? Ці нянавісць?
Ці зразу ўсё? Ці, можа, смерць?

— Ты захварэла? Аля? Аля!
Ты што маўчыш? Кажы хутчэй!..
Адчуў: па целе ўсім, як хваля,
Трывога — жарам да вачэй.

Яго здагадка паласнула —
Аж адступіў назад на крок.
Альжбета моўчкі працягнула
Яму скамечаны лісток.

Ён прачытаў, і горкі посмех
Скрывіў яго прыгожы твар.
«Ну, вось і ў Бэнся творчы поспех!
Якраз у дыхавіцу ўдар!..»

Шпурнуў на стол лісток паскудны,
Прысеў на ложак, у нагах.
— Глядзіш, як быццам я — падсудны...
Ну й гад жа — Юзік, ну і гад!

Яго пісьмо — паклёп, не болей,
А ты паверыла яму...
Альжбета выдавіла з болем:
— Калі паклёп, тады чаму...

Чаму ты быў... пасля паездкі...
Нібы апушчаны ў ваду?..
— Чаму? Настрой быў вельмі кепскі:
Я ледзь не трапіў у бяду...

Яна глядзіць — жывая ледзьве:
«Ну, гавары ж ты, гавары!..»
— Там баба — хітрая, як ведзьма,
І ёй да пары — псюк стары.

Ну, і дачка... такая ж выжла!
Хацелі з ёю... ажаніць.
Нічога з гэтага не выйшла —
Мяне ў пятлю не заманіць.

Але ў душу наклалі бруду —
Такога бруду, што, відаць,
Усё жыццё выплёўваць буду.
І ўсё жыццё сябе караць.

Яна глядзела і чакала:
«А што далей? А што далей?..»
— Мяне наіўнасць ашукала:
Я дрэнна ведаю людзей.

У іх там, знаеш, самагонка —
Як звер: кладуць у брагу штось.
А я ў напітку гэтым тонка
Не разбіраюся... Ну й вось!

Мяне ўпаілі там... Сумысля.
Так, што і памяць адняло...
Яна глядзіць — нібы завісла
Над прорвай: «Потым... што было?»

— Прачнуўся ўранку, ну, а збоку —
Пачвара гэная... сапе...
Альжбета ўпрогалас глыбока
Паветра ўхліпнула ў сябе.

І закрычала: — Значыць, праўда!
Дык праўда ўсё ж, а не паклёп!..
— Якая праўда? Ёй бы варта
Пусціць за гэта кулю ў лоб!

Каб я — і з ёй?.. Ды ты вар’ятка,
Калі паверыла ў абман!..
— Ты з ёю спаў! Мне гадка, гадка!
Ты брыдкі мне! Ідзі, Сцяпан!

Ты і пачаў, відаць, з памылкі,
Калі ўнушыў сабе, што я...
Не, кошка брудная з памыйкі —
Вось муза творчая твая!..

Сцяпан, бы ўджалены, адразу
Падскочыў з ложка. Губы сцяў.
Такой зняважлівай абразы
Ён ад Альжбеты не чакаў.

— Вось нават як? Тады — нічому
Не веру й я... Тады — бывай!..

Праз месяц, кінуўшы вучобу,
Вячорка з’ехаў на Алтай.

Магчыма б, ён свой пыл і ўмерыў,
Калі б не ўбачыў неяк сам,
Як з Аляй вечарам па скверы
Хадзіў-гуляў якісь курсант.

А да таго ж камсорг Асьмінка
Сказаў, па дружбе, пад сакрэт,
Што паступіла ананімка
У камсамольскі камітэт.

Нібыта ён, Сцяпан Вячорка,
Дзяўчыну ў вёсцы збэсціў дзесь,
І будзе шумная «праборка» —
На калектыў студэнцкі ўвесь!

Вось толькі вернецца аднекуль
З камандзіроўкі сакратар...
«Не, я цярпець не стану здзеку,
Памру — не дам пляваць у твар!

Пачнём свой лёс каваць нанова.
Пасля — пабачым, паглядзім.
Урэшце, з гэткай установай
На свеце горад не адзін.

Часова прыйдзецца расстацца
З гарачай мараю сваёй...»
А што рабіць? Куды падацца?
Жыццё паўсюдна б’е бруёй.

Сама рэальнасць падказала:
Быў пяцьдзесят чацвёрты год —
І моладзь з мінскага вакзала
Штотыдзень брала шлях на ўсход,

У край аблогаў нечапаных,
У Казахстан і на Алтай —
Каб небывалы, нечуваны
Спячы цалінны каравай.

Туды, туды — увага, сіла
І грошы-сродкі ўсе — туды,
Каб цаліна ускаласіла
На незлічоныя пуды.

Уся, здавалася, краіна,
Надзеяй новай зажыла, —
На ўсе лады загаманіла,
На ўсе акорды загула.

Ад уяўлення, што за зерне
У свірны прыйдзе, хлеб які! —
Яшчэ глыбей Нечарназем’е
Туліла твар у хмызнякі.

## НА ЎЗВЕЯХ ЧАСУ

Сцяпан удзень хадзіў цяслярыць —
Дамы цалiннiкам стаўляць,
А вечарамі, каб памарыць,
Вымаў баян, садзіўся граць.

І з першай нотай, як на крылах,
Ён пераносіўся туды,
Адкуль яго пагнала крыўда —
Як птушку ў вырай халады.

Ад смутку-горычы, бывала,
Шаптаў: «Пашлю я ўсё ж пісьмо!..»

Ды крыўда мову адымала,
Сціскала дых, нібы ярмо.

«Калі яна цяпер не можа
Мне веры даць, як чалавек, —
Куды ж пускацца ў падарожжа
На ўсё жыццё, на цэлы век?

Ах, хай пакрые зелень бросні
Усё, што марна ўспамінаць!
Не першы я і не апошні,
Каму з такога пачынаць...»

А йграў ён так, што досыць скора
Яго прызванню «далі ход»:
Ён маладым саўгасным хорам
Стаў кіраваць у той жа год.

І хор аднойчы, каб паднесці
Тутэйшай публіцы сюрпрыз,
Пачаў канцэрт з «Цаліннай песні»
Кіраўніка. І спеў на «біс!».

Такі быў поспех неспадзеўны,
Такі грымеў авацый шквал,
Што кампазітар самадзейны
Пачуўся п'яным без пітва.

І ўпершыню падумаў: шчасця
На свеце большага няма,
Чым да людской душы дапасці,
Каб засвяцілася яна.

Тым часам песня-навасёлка
Пайшла гуляць па цаліне.
І схамянуўся нейк Вячорка:
«А ўсё ж вучыцца трэба мне!..»

Адпрацаваўшы год як цесля —
Сякеркай, гэблікам, пілой,
Сказаў: «Давай, таварыш песня,
Да справы вернемся былой:

Ізноў засядзем за вучобу —
Каб не ўпусціць урочны час.

А дзе? Даверымся на спробу
Маскве: авось ды прыме нас!..»

* * *

Праз шмат гадоў з Масквы-сталіцы
Сцяпан вярнуўся ў стольны Мінск.
Не сам сабой — а з маладзіцай:
Як паўнапраўны сем’янін.

Музфонд кватэркай забяспечыў —
Жыві ды радуйся, маўляў!
На жаль, у шчасці чалавечым
Ён усё больш і больш губляў.

Яго прыгожанькая Феня,
Якую ён лічыў, сляпак,
Сваёй чароўнай, добрай феяй, —
Да грошай выявіла смак.

Пакуль не стала «палавінай»,
Не бачыў ён за дымкай чар,
Як прагна Фенечка лавіла
Усякі сказ пра ганарар.

Датуль — зусім другое пела,
Пад ручку ходзячы ў кіно:
Усё пра Баха ды Шапэна,
Усё пра Грыга ды Гуно.

Цяпер адкрылася: ад Фені
Нямнога можа ён чакаць.
Ва ўсякім разе — аб натхненні
Забыцца трэба і маўчаць.

Яго турбот, пакут і болю,
Яго трывог, надзей і мар
Ёй не прыняць душой ніколі:
Не дадзен гэтакі ёй дар.

А больш за ўсё ёй грызла сэрца —
Ніяк уцяміць не магла:
Чаго ён так у Мінск ірвецца
З яе маскоўскага жытла?

Ніякі довад, што для творцы
Навек пакінуць родны край —
Усё адно што і памёрці, —
Не пераконваў — хоць канай!

З вялікім лямантам-скандалам
Усё ж паехала за ім —
І яшчэ больш увішна стала
Яго жыццё драбніць сваім.

І пацягнуўся быт бясконцы!
Сцяпан мірыўся, колькі мог,
Што аднадумца-друга ў жонцы
Яму не даў скупеча-бог.

Цяжэй было змірыцца з іншым:
Ён учарнеў ад адкрыцця,
Што Феня нават з Усявышнім
Прыдбаць не здолее дзіця.

Прысуд быў болей чым жахлівы:
«Ну вось і ўсё! Да скону дзён —
І ў шчасці будзеш нешчаслівы,
І ў славе будзеш не славён...»

Тым часам шмат і ўчэпна вельмі
Пачаў ён думаць тут аб тым,
Як трэба мужна і сумленна
Шукаць свой голас, свой матыў.

Папраўдзе, гэтаму спрыяла
Сяброўства з дзедам Гарбылём,
Што ў ціхай хатцы бліз вакзала
Век дажываў свой бабылём.

Стары скрыпач і кампазітар
Быў не пусты — ідэйны дзед,
І праз ідэйнасць, як праз сіта,
Перасяваў мастацкі свет.

Людзей ён ведаў адмыслова,
І бачыў кожнага наскрозь,
І вызначаў беспамылкова,
Чаго ты варт і што ты ёсць.

Ці ты музыка з ласкі божай
І для цябе твой дар — твой крыж,
Ці — дзеля сытасці і грошай
Людзей забаўкамі чмурыш?

Ці ты турбуешся, каб песня
Ішла з глыбокай глыбіні,
Ці як мага падрэзаць пнешся
Яе жывыя карані?

На гэты конт было карысна
Сцяпану браць у дзеда ўрок.
«Або — або!» — катэгарычна
Сціскаў ён востры кулачок.

«Каб песню, вартую народа,
На поўны голас шчыра спець —
Што трэба творцу? Вельмі многа!
Радзіму ў сэрцы трэба мець!

Каб кожны дзень твой быў узлётам
Увысь, за звыклы небакрай —
З яе высокім ладам-лёсам
Ты ўласнай песні лад звярай!

Памры — не дай сабе пад крылы
Падвесіць фальшу страшны груз,
Што з-пад нябёс на дол абрыне
Тваю душу — у гразь і бруд!..»

Так гаварыў стары музыка,
Яго з увагай слухаў госць,
І пакрысе між імі ўзнікла
Накшталт ідэйнай змычкі штосць.

Сцяпан любіў бываць у дзеда.
Гарбыль звычайна даставаў
Набор фарфоравы з буфета
І госця кавай частаваў.

У знак павагі, для вітання.
Перад гаворкай — на зачын.
Аднойчы дзед неспадзявана
Ушчаў размову пра жанчын.

Вячорка здзіўлены быў трохі,
Што жонак шмат каго з калег
Гарбыль пад суд падводзіў строгі
За іх адзін вялікі грэх.

«Да грошай прагныя страшэнна.
Штодзень тармосяць мужыкоў:
Давай! Давай! — і з іх кішэняў
Грабуць усё — да медзякоў.

Паўвека ўжо я назіраю
(Пра гэта зло не піша друк!),
Як лепшых хлопцаў прыбірае
Мяшчанства хціваe да рук!

Абы хто з іх успыхнуў ярка
Свячэннем ноты ці радка —
Ураз падлезе хітраванка
І забрытае прастака!

Ён ні спагады, ні падмогі
Не будзе мець да скону дзён.
Каму кладзе свой дар пад ногі —
Не разумее, ахламон!..

І не заўважыць, не адчуе,
Як з небам повязь абарве —
Пад дудку злыдня затанцуе,
У дружбе з д’яблам зажыве...»

Сцяпан тым разам ад старога
Пайшоў з цяжарам у грудзях.
«Ну, а які мяне самога
Чакае ў будучыні шлях?

І чым закончу я нарэшце?
Няўжо вось гэта мой і лёс —
Да скону з Фенечкай ва ўпрэжцы
Цягнуць панына грузны воз?

І дзесь на рытвінах-калдобах,
Як той знямоглы конь стары,
Аднойчы рухнуць у аглоблях —
Задраць капыцце без пары?..»

Тым часам цешча, мама Фені,
Раптоўна сталася ўдавой,
І Феня ў моцным задуменні
Ізноў затрызніла Масквой.

Трохпакаёвая кватэра
Каля Садовага кальца —
Жыла ў яе душы, як вера,
Якой не здрадзіць да канца.

«Паеду, — Феня заявіла, —
Пабуду ў мамы нейкі час...»
Праз дзень, аднак жа, прыкаціла
З рашэннем цвёрдым, як указ.

«Дык вось табе, Сцяпан, умова:
Або — пярэбары ў Маскву,
Або — развод. І тэрмінова.
Бо ўсё вісіць на валаску...»

Ён зразумеў без тлумачэння
Яе жаданых думак ход.
Сабе сказаў: «Канец мучэння!»
А ёй: «Развод, — сказаў, — развод!»

## *АДСТУПЛЕННЕ ТРЭЦЯЕ — ГІСТАРЫЧНАЕ*

*Мой край, мой рай бульбяна-жытны!*
*Зеленадолы, залаты!*
*Як спеў матулі — старажытны,*
*Як песня любай — малады!*

*Акіну шлях твой думкай-вокам*
*З вяршыні сённяшняга дня:*
*Якая далеч да вытокаў!*
*Які прасцяг і глыбіня!*

*Мы шмат і ведаем і помнім*
*Падзей, раскрытых да драбніц.*
*Але твой лёс і сёння повен*
*Неразгаданых таямніц.*

*Як падлічыў адзін статыстык,*
*Дык на прасторах на тваіх*

*Калісь было не менш ста тысяч*
*Магільных насыпаў старых.*

*Хоць часу плынь і размывала*
*Гарбы крутыя тых капцоў, —*
*Яшчэ іх высіцца нямала,*
*Прыбраных зеленню кустоў.*

*А што яны хаваюць-тояць —*
*Твае магілы-курганы?*
*І як пачуць нам продкаў споведзь?*
*І як у іх заглянуць сны?*

*Даваць парады не бяруся,*
*А толькі ведаю адно:*
*Калі ў мінуласць Беларусі*
*Прасекчы добрае акно*

*І паглядзець на ўсё вачыма,*
*Не замутнёнымі яшчэ —*
*Не раз і гордасць дойме шчыра,*
*Не раз і болем апячэ.*

*І будзе думацца: які ты —*
*Яшчэ ў прадаўнія часы —*
*Быў, любы краю, знакаміты*
*Майстрамі-творцамі красы!*

*Якіх ты меў на зайздрасць свету*
*І цесляроў, і маляроў,*
*І летапісцаў, і паэтаў,*
*І музыкантаў-дудароў!*

*Якой асветай і культурай*
*Твае здзіўлялі гарады —*
*Не толькі Полацак ці Тураў,*
*А й Друцак, зніклы назаўжды!*

*І будзе думацца: чаму ж ты*
*Не змог далей свой весці лад?*
*Калі — пад цяжкім гнётам змусты —*
*Пайшоў твой лёс на заняпад?*

*Калі Ўладзімір завалодаў*
*Сталіцай племя крывічоў*

*І ўсмерціў князя Рагвалода*
*Пад скрыжавальны звон мячоў?*

*Ці пачалася крыўда-ганьба*
*І над душою здзек-прыгон,*
*Калі нямудры князь Ягайла*
*Паквапна сеў на польскі трон?*

*І будзе думацца: адкуль жа*
*Набраў ты моцы, сіл жыцця,*
*Каб уваскрэснуць зноў і мужна*
*Паўстаць амаль што з небыцця?*

*Каб, як дзівосная праява*
*Народнай волі векавой,*
*І Беларуская дзяржава*
*На сонца сцяг раўняла свой.*

*Сама гісторыя вучыла:*
*Шануй, народзе, і цані —*
*Усё, што поіць-жывіць шчыра*
*Тваёй свабоды карані!*

*Шануй душу сваю, народзе,*
*І ўласнай памяці не трась,*
*Каб у нязведанай дарозе*
*Ахвярай хуткасці не стаць!*

*Вучы дзяцей яшчэ з пялёнак:*
*Каб не скаціцца пад адхон —*
*Хай з курганоў тваіх зялёных*
*Бяруць у заўтрае разгон.*

*Хай пачынаюць думкай-марай*
*Ад тога болю, што прарос*
*Пад сінявой тваёй бясхмарнай*
*Напевам сосен і бяроз,*

*Ад гэных зорак прамяністых,*
*Што й позна ўноч і рана ўрань —*
*Гараць, гараць на абелісках —*
*Куды ні глянь, куды ні глянь!..*

## БАЦЬКОЎСКІ КУТ

У край бацькоў, у кут свой родны
Сцяпан прыехаў раніцой,
Калі сады і агароды
Яшчэ свяціліся расой.

Напэўна, згледзеў хтось увішны
І абвясціў, што едзе госць,
Бо сустракаць да весніц выйшлі
І Лёдзя з Вінькам, і Антось,

І Анця з гуртам белабрысых
Малых сваіх «тамашанят»
(Як па ўнаследаваных рысах
назваў іх Лёкса, бабін брат).

А ўсіх наперадзе — матуля,
З хусцінкай — слёзы выціраць.
— А мой сыночак! Сэрцам чула,
Што ты прыедзеш гэты раз!..

Расцалаваўшыся з усімі,
Госць зноў да маці падышоў,
У вочы глянуў, што расілі
І вымаўлялі ўсё без слоў.

І сам заморгаў неспадзеўкі,
І пад руку пяшчотна ўзяў.
— Вядзіце ў хату, хлопцы-дзеўкі! —
Малечы весела сказаў.

У хаце ўбачыў і Мікіту —
Сядзеў пры пляшцы за сталом
І Тамашову «акавіту»
Пускаў па поўнай — сакалом.

Крыху сумеўся пры Сцяпане:
— Я тут... авансам, напярод! —
Прагуў, нібыта ў апраўданне,
І пульхным блінам выцер рот.

Пагаварыўшы цёпла з маці,
З братамі, з Лёдзяй і раднёй,
Сцяпан не стаў тырчэць у хаце,
Таміцца тлумнай мітуснёй.

Каб не ўшчуваць сябе дакорам,
Рашыў на могілкі схадзіць —
У той сасняк, на той пагорак,
Дзе многа ўжо з іх роду спіць.

Яшчэ прапрадзедаў вадзіла
Дарожка бітая туды,
Каб разумелі, што радзіма —
Не толькі дом, а і клады.

Па просьбе брата, Лёдзя спрытна
Зайшла ў гародчык пад акном —
Букет вяргінь яму настрыгла,
Што палымнеліся агнём.

І ён падаўся загуменнем,
Цераз аселіцу, кусты, —
Туды, дзе ў сонечных праменнях
Сасняк кудлаціўся густы.

Сцяпан ішоў няспешным крокам
Ускрай высокай збажыны.
Наўкол стаяў вясёлы строкат —
Купалле гралі цвыркуны.

А што ж замоўклі ўраз? Над полем
Нястрымны вецер шугануў.
Сцяпан спыніўся: неспакоем
Віхурна-рэзкі шквал дыхнуў.

Раптоўна моцна пацямнела,
Патухла далеч перад ім.
Як азірнуўся — на паўнеба
Сцяной нясецца буры дым.

«Пажар! — кальнула зразу ў сэрца. —
Лясы? Ці хаты? Штось гарыць!..»
І — зразумеў: не дым нясецца —
Тарфяны пыл сцяной ляціць!

У твар ударыла, як пырскам,
І вочы засціла імглой.
Да неба сёмага вятрыска
Зямлю уздыбіў над зямлёй.

Сцяпан стаяў, працяты болем,
Глядзеў, бяссільны, хоць заплач,
Як грозны дух нясе над полем
Сарваны з долаў плодны пласт.

Зямля ляціць у небе пылам,
Ляціць, імчыцца ўдалячынь,
Дзесь ападзе за небасхілам —
І не вярнуць яе нічым!

За сотні год на гэтым месцы
Не нарасце яна цяпер,
І ўжо ніхто тут не наесца —
Ні чалавек, ні птах, ні звер!

Пясок аголіцца ды камень —
Бясплодны, мёртвы мінерал.
«Зямля! Твой люд цябе вякамі
Бярог, любіў — не памірай!

Жыві, карміцелька-зямліца!
Радзі! Пладзі! Святкуй жніво!
І дзень і ноч гатоў маліцца
Я за здароўе за тваё.

Ды што малітва! Тут патрэбен
Разумны, рупны гаспадар,
Каб не ляцеў, не слаўся небам,
Як дым, жыцця прыродны дар.

Калі так весці асушэнне —
Пустыняй зробіцца разлог!..»
Сцяпан ішоў — і суцяшэння
Для горкіх дум знайсці не мог.

Успомніў гутаркі і спрэчкі
З меліяратарам адным —
Не з тым, што сам раўняе рэчкі,
А — што загад дае другім.

«Таму ты працу нашу хаіш, —
Кіпеў вучоны-інжынер, —
Што па натуры сам архаік
І непапраўны старавер!

Твая бяда, што ты не здольны
Пераступіць якісь парог,
Каб навізну прыняць бязбольна,
І мне шкада цябе, дальбог!..»

Сцяпан на момант прыпыніўся,
Абвёў паглядам шыр-прастор.
«Эгэй, мой кут, як ты змяніўся!
Стаў роўны й гладкі — нібы стол.

Дзе хмыз кусціўся нізкарослы,
Ляжаў-гібеў гадзючы рай, —
Там бульбы цягнуцца барозны
Амаль па самы небакрай.

Дзе буй гарбеў, капыццем збіты,
Як бубен, голы, — там наўсцяж,
Бы хвалі мора, ходзіць жыта
Напорнай сілаю жыцця.

Архаік? Я? Ды не, шаноўны!
І ты не вер яму, зямля!
Мне проста вельмі не ўсё роўна,
Што потым будзе тут — пасля!

Пасля мяне — праз трыццаць — сорак,
Праз сто і тысячу гадоў:
Ці не дагоніць ганьба-сорам
І там — пакладзенага ў дол?

Не вер, што марна ў спрэчку лезу,
І не спяшайся асудзіць:
Маўляў, таварыш ад прагрэсу
Рашыў цябе адгарадзіць.

Ты рвешся ў сонечнае заўтра,
Каб больш дрыгвою не драмаць,
А нейкі скептык-кансерватар
Разгон твой сіліцца стрымаць.

Ну, што ты, родная! Не рушу
Павек з жыццём наперакос.
Але каб жыць — я ведаць мушу:
Які далей твой будзе лёс?

Ніхто так, можа, не жадае,
Як я — каб гожай ты была,
Каб, як нявеста маладая,
Вясновай квеценню цвіла.

Таму й гляджу, амаль са страхам,
Тваіх улонняў кроўны сын,
Як ты нясешся пылам-прахам,
Да неба ўзнятая з нізін.

Яшчэ ж я думаю з трывогай:
А ці не выветрыцца так
З тваёй душы, як торф з аблогаў,
Уласнай долі вечны знак?

Няўжо? Няўжо, змяніўшы воблік,
Ты гэтак зменішся душой,
Што гэтых самых змен паводле
Мне станеш цёткаю чужой?

Не! Я ў тваёй суровай долі
Знайшоў свой лёс — і для мяне
Чужой не будзеш ты ніколі:
І ў самай новай навізне!

Усё, за што табе пашану
Складаюць людзі пакрысе, —
Яшчэ мацней цаніць я стану,
На службе праўдзе і красе!..»

У гэткіх думках, непаспешна,
Ён узышоў на верх гары,
Дзе колісь леглі ўпобач, цесна,
Магілы брата і сястры.

Дух перавёўшы, парасторкаў
Вяргіні ў слоікі з вадой
І, нібы цень, замёр Вячорка —
Сам-насам з горкаю журбой.

Глядзеў на ўпраўленыя ў мармур
Авалы з воблікамі тых,
З кім столькі год — з калыскі, змалу —
Хадзіў па сцежачках адных.

З кім разам рос і гадаваўся,
З адной агульнай міскі еў,
Адною коўдрай накрываўся,
Адны і тыя ж песні пеў.

Сястра Крыстына, Крыся, Крысця,
Была пяршаначка ў сям’і.
І ў горад першая калісьці
Пайшла — на хлеб не ад зямлі.

Пайшла — каб дома гурт паменшаў
Хоць на адзін галодны рот.
Быў недаяду час. Быў першы
Пасляваенны, мірны год.

Яшчэ ў дварэ іх — пуста й гола.
Зямлянка ў плеснях. Рызманы.
І — голад, голад, люты голад —
Як самы страшны след вайны.

Той год ва ўдовае Анэлі,
Суседкі іхняй, дзве дачкі —
Блізняткі — спухлі, пасінелі
І згаслі ўраз, як светлячкі.

Вячорка помніў тое ранне,
Як маці з ім за край сяла,
Аж за крыжацкае курганне
Крыстыну з дому правяла.

Цвірчэлі жаўраначкі ў высі,
Адталым дыхала зямля.
А маці ўсё ўнушала Крысі:
— Цярпі — і звыкнешся пасля.

Старайся быць у дружбе з цёткай
І не пярэч ні ў чым, глядзі.
Ну, мы ўжо вернемся са Сцёпкам,
А ты, дачушачка, ідзі!..

Крыстыну к сэрцу прыгарнула,
Абцалавала шчокі, лоб,
На добры час — перажагнула,
А слёзы — сыпяцца, як боб...

І горад бедна жыў, а ўсё-ткі
Меў хлеба кус на едака.
Спярша з паўгода Крыся ў цёткі
За харч глядзела хлапчука.

Пасля, прыблізна год з паловай,
Пакуль наелася ў адвал,
Яна ў бальніцы, у сталовай,
Цягала з кашай «катафалк».

Паднос цягала на калёсцах,
А «катафалкам» абазваў
Прыдумшчык смеху дзядзька Лёкса,
Калі ў бальніцы пабываў.

За дабрыню, што ў вочы біла,
За спрыт-стараннe памагчы —
Бальніца Крысцю палюбіла:
І ўся абслуга, і ўрачы.

Тады ж якаясьці дакторка,
Спагаду ўмеючы цаніць,
Рашыла з Крысцяю Вячоркай
Свайго пляменніка жаніць.

Пляменнік гэны, Зэлік Лазнер,
Ужо не надта малады,
Рабіў цырульнікам пры лазні
У тыя бедныя гады.

Быў вельмі сціплым чалавекам,
Нячысты грош не ліп к яму,
І цётка Роха недарэкам
Лічыла Зэліка таму.

Ён жыў з пакутна хворай маці
Ва ўласным доміку старым.
Ці шмат памог там цётчын націск —
Але сышлася Крысця з ім.

І дваццаць год жылі бязбедна,
З дзіцячай верай у дабро,
Пакуль хвароба непрыкметна
Не падтачыла ёй нутро.

Сцяпан успомніў, як ён крочыў
У дзень расстання за труной,
Як засцілала з жалю вочы
Гарачай ліпкаю імглой.

Мароз быў — вейкі ледзянелі.
Дзень стыў у срэбраным сяйве.
Адно лісточкі зелянелі
На плацці крэпавым яе.

Грузавічок на сцёртых колах
Пад горку браўся ледзьве-ледзь.
Хоць ёй не страшны ўжо быў холад —
Без слёз няўсцерп было глядзець.

Пасля Сцяпану тройчы запар
Адзін і той жа сніўся сон:
Пад гэтай вось сасной разгатай
Наўзрыд галосіць-плача ён.

Галосіць ён, а голас нейкі —
Як незнаёмы, як не свой:
— А мой лісточак ты драбненькі,
А зелянюсенькі ты мой!..

На гэтым голас абрываўся —
Як бы стрыманы пры людзях,
І ўсякі раз ён прачынаўся
З цяжарам страшным у грудзях.

Садзіўся ў ложку ці на лаве
І, як малы ў былыя дні,
Ужо не ў сне, а ў шчырай яве
Ад плачу троссяў цішыні...

А цераз год не стала й брата —
Яго найлюбага з братоў.
Была такой жахлівай страта —
Што злёг, вярнуўшыся з кладоў.

І зноўку сон... І зноў — пакутны.
І зноў — не раз сасніў, не два...
Ставок за вёскай, цёплы, мутны,
І ў ім — шчаслівая дзятва.

І Лёнік, брат, крыху старэйшы,
З усімі цешыцца ў вадзе.
А ён — каменьчыкамі, жэўжык,
Абстрэл іх з берага вядзе.

Вядома — толькі каб спалохаць.
Ды, на бяду, зрабіў пралік:
Каменьчык трапіў брату ў локаць,
І ён пачуў нямоцны ўскрык.

Магла б услед настаць адплата,
А брат не выйшаў і з вады,
Стаіць на водмелі і плача —
Як храпак, белы і худы...

Дагэтуль плача несціхана
У снах ягоных па начах —
І гэта мучае Сцяпана
І на душу наводзіць страх.

«Няўжо я мог так правініцца,
Так нечым скрыўдзіць у бядзе,
Што іншы мне ён не прысніцца,
А толькі — плачучы ў вадзе?

Няхай бы ён тады пагнаўся,
Злавіў і добра мне натоўк!
Чаму, чаму навек застаўся
Неадквітаным гэны доўг?..»

Стаяў Вячорка пад сасною
І скрушна-горка шкадаваў,
Што рэдка бачыўся з сястрою,
Гадамі ў брата не бываў.

Не з роднай хаты адляцелі
Іх душы — з клетак гарадскіх,
Яны ж абое захацелі,
Каб тут у дол паклалі іх.

Сцяпан акінуў вокам далі —
Бары, палі, лугі, сады...
«А мелі розум, што абралі
На супачын свае клады!

Мясціна — слаўная на зайздрасць.
Сюды — не сорам з «кірмашу»...
Ну што ж, вярнуся ў хату зараз —
Скажу таксама Тамашу:

«Калі памру — абавязкова
Вязі мяне ў бацькоўскі край
І тут, на могілках вясковых,
У родным доле пахавай.

Скажу: уваж і не пакрыўдзі —
Не пахавай, браточак, там,
Куды на свежы насып прыйдзе
Украсці кветкі п'яны хам.

Тут не рабуюць марадзёры
Слязамі зрошаных магіл.
Паклон прынёсшы ў смутку-горы,
Тут не надломваюць вяргінь...»

— Ці не Стафан, каб не змыліцца,
Прыйшоў з памінкам на пагост?..
Вячорка ўздрыгнуў: на сцяжынцы —
Стары з кійком. Валента Дрозд!

Ну, так, той самы Дрозд Валента —
Сухенькі, згорблены дзядок,
Што кожны год, як прыйдзе лета,
Малечу кліча ў свой садок.

І надзяляе ўсіх удоваль
Духмяна-спелай смакатой.
Яго ў суровы час нядоля
Навек зрабіла сіратой.

Сыноў абодвух, лейтэнантаў,
Не дачакаўся дзед з вайны.
Ніхто сказаць не можа нават,
Дзе пахаваныя яны.

Старую ў час блакады ў лесе
Схапілі злыдні — і на здзек
За белы свет у рабства звезлі, —
Там ад пакут і згасла дзесь.

Дачку з грудным яшчэ дзіцяцем
Тут расстралялі, у барку.
У тыя ж дні не стала й зяця —
Склаў галаву на Паліку...

Адзін застаўся дзед, каб скруху
Гадамі няньчыць пад страхой.
Сватоў і свацціяў — не паслухаў,
Сказаў: «Як-небудзь сам сабой...»

Сцяпан узрадваўся старому,
Як згадцы светлай у жыцці.
— Прыйшоў... Наведаўшыся дому,
Сюды няможна не прыйсці...

— Так, так, няможна! Род звядзецца,
Калі магіл не шанаваць...
Стары падняў з травы вядзерца:
— А я во — з хварбай, маляваць.

Дачку ж маю ты знаў, Мальвіну?
З дзіцяткам тут іх вечны сон.
Вось і прыходжу на магілу.
Унь — агародка між сасон.

Сцяпан зазначыў: так маліцца
Ідуць у храм дзяды ў гадах:
У чыстых чорных нагавіцах,
У чаравіках на шнурках,

Кашуля сіняя навыпуск,
І паясок — па жываце...
Што ж, не карэнне драць на выспу...
— А як вы, дзядзька, жывяце?

— Пакуль што Бога не турбую.
Жыву... Магілу во гляджу:
Прыйду — дзе трохі пахварбую,
Папраўлю, кветкі пасаджу.

Прасілі ў дом перастарэлых.
А што ў тым доме мне рабіць —
Сярод такіх, як сам, згрыбелых?
За што там вока зачапіць?

Я ж тут яшчэ пры дзеле нават:
Вяроўкі ўю, пляту кашы.
Які б ні быў для рук занятак —
Усё ж палёгка для душы.

От за адно перажываю,
Гнятуся думкаю адной:
Што калі дойдзе ўжо да краю —
Дам людзям клопату сабой...

Сцяпан з Валентам развітаўся
І, з пачуццём якойсь віны,
Зноў па сцяжынцы ўніз падаўся —
Ускрай той самай збажыны.

Зноў гралі конікі штосілы,
Ды ён не чуў — быў повен дум:
«Чаго мы ходзім на магілы?
Што нас вядзе пад сосен шум?

Ці жаль? Ці страх? Ці проста звычай?
Ці неўсвядомлены абрад?
Ці нейкай сілай таямнічай
Жыве ў нас памяць цяжкіх страт?

Чаго ідзём? Паплакаць горка?
Паспавядацца? Клятву даць?
Ці, можа, з гэтакіх пагоркаў
Сваё жыццё нам лепш відаць?

Свой шлях у пошуках і ўдачах,
У заблуджэннях і грахах?
Ці ў гэткі час ясней мы бачым
Радзімы-Бацькаўшчыны шлях?

Ужо даўно і косці стлелі,
Зямлёй зрабіліся даўно,
А мы ідзём у прасвятленні
Аддаць пашану ўсё адно.

А мы ідзём і садзім кветкі
І з болем думаем падчас:
Ці будуць так нашчадкі-дзеткі
Прыходзіць некалі да нас?

Чаму ж нам ведаць гэта важна?
Таму, што ў вечны супакой
Нам не з жыцця сыходзіць страшна,
А з добрай памяці людской?

Калі б ды так! Калі б ды кожны
З маленства думаў, з першых лет:
Які — ці светлы, ці прыгожы —
Пакіне ў памяці ён след!

Дык дзе там! Вучымся з пагардай
На сэнс жыцця глядзець — няўцям,
Што жыць адно тады і варта,
Калі рабіць дабро людзям.

Рабі дабро! Хоць нават коштам
Апошніх сіл, апошніх мук.
І не пытай: каму? завошта?
Рабі — без просьбаў і прынук!

І не турбуйся сам, ці глуха
Закончыш ты свой круг зямны,
Ці — па значэнню і заслугах —
З аб'явай: «Доступ да труны...»

Чаму ж, таварыш Ненаежац,
Так не па-людску ты жывеш?
Што семярым спажыць належыць —
Адзін бярэш, грабеш, ірвеш?

Усё, чым грудзі ты азвончыў,
Што нахапаў ты за жыццё, —
Усё абсыпецца аднойчы,
Як з дрэва восенню лісцё!

І толькі неба гляне сумна
На «плён» нікчэмнай мітусні,
Якой ты гэтак неразумна
Ахвяраваў гады і дні.

А застанецца што? Маўклівы
Граніт на нейкай там вярсце...
Чаго ж мы ходзім на магілы?
Чаго душа баліць няўсцерп?..»

Сцяпан, углыбіўшыся ў думкі,
Ішоў па сцежцы, нібы ў сне,
І не заўважыў, як ля пунькі
Зноў апынуўся на гумне.

Глядзіць — Тамаш насустрач раптам.
Відаць, ён толькі што з касьбы:
У пыле ўся яшчэ апратка
І твар ад поту — аж рабы.

— Ну, ашчаслівіў ты, брат, маці!
Здароў, Сцяпан! — Здароў, Тамаш!
— Са мной не вельмі абдымайся:
Глядзі, касцюм свой не замаж.

— А ліха з ім, маім касцюмам!
Ну, як ты тут, браток, кажы!
— Убачыш сам, як пагасцюеш...
Усяк: і хлеб ем, і каржы.

— Ты што — і сёння на рабоце:
Адгулу нават не прасіў?
— Грэх пры такой гуляць пагодзе:
Хоць да паўдня — а пакасіў.

Дырэктар з просьбай палічыўся б —
Я сам... Ты знаеш... не магу:
Сабе сылгаць бы навучыўся,
Зімой каровам — не салгу.

— Ты бач яго! Не можа ўзімку
Сылгаць каровіным вачам!
Прысядзем, можа, на хвілінку?
Ці ты патрэбен вельмі — там?

— Не я, а ты: там муліць многім
З табой пабачыцца. Хадзем!
А мы — паспеем, пагамонім:
Ты ж мо прыехаў не на дзень?..

## СУСТРЭЧА

Пакуль жанчыны нетаропка
Стаўлялі закусь на сталы,

Мужчыны ў ценю пад істопкай,
Кругляк асвойтаўшы стары,

Пускалі дым у асалоду,
Вялі гаворку між сабой —
І пра ўраджай, і пра пагоду,
І пра далёкі Лісабон...

Хоць чуўся гурт правамі роўны —
Ніхто не лёкай і не пан, —
Але як рэдкі госць шаноўны
У цэнтры ўвагі быў Сцяпан.

Пачуць яго было цікава —
Аўтарытэтны ўсё ж зямляк:
З начальствам сходзіцца па справах
І свет аб'ехаў як-ніяк.

Што праўда, сам Вячорка лезці
У цэнтр увагі не прывык
І быў заўсёды ззаду дзесьці
На фотаздымках групавых.

Як чалавек не баз амбіцый
Дырэктар школы Крутарог
Хацеў павесці асабісты
«На ўзроўні госця» дыялог.

— Сцяпан Якубавіч, ну як вам
На ўлонні роднага кутка —
Тут, дзе ў прысутнасці наяўнай
І лес, і поле, і рака?

Вячорка страс з цыгаркі попел:
— Прыгожа ў нас тут, што й казаць!
Вячысты лес, мурожны поплаў —
Цаніць бы гэта й шанаваць...

— Усе гарантыі і ўмовы,
Каб творчай музе аддыхнуць! —
Дырэктар, бачна, быў гатовы
Бліжэй к мастацтву павярнуць.

Але Вячорка не паддаўся —
На іншы выкіраваў лад:

— А мы, у гэтым і бяда ўся,
Не цэнім свой прыродны клад.

Мы часта думаем: вось недзе!
Вось там — прырода! Там — краса!
Я па зямлі крыху паездзіў —
І хлам з душы павытрасаў.

Заблуд і прымхаў вымеў смецце,
Мне смешна чуць пра нейчы рай:
Для ўсіх і кожнага — на свеце
Найпрыгажэйшы родны край!

Для нас — прыроды болей мілай,
Чым беларуская, няма.
Яна ж усіх нас надзяліла
Душой такою, як сама!

То ж у яе натуры — чуласць,
Гасціннасць, мяккасць, дабрыня,
Гатоўнасць даць табе прытулак —
Ці ты чужы, ці ты радня...

Рай нейчы хвалім у ахвоту.
А вось задумваліся вы,
Што ў нас, апроч, бадай, асоту —
Няма калючае травы?

У нас — ці ў лесе ты, ці ў полі —
Садзіся смела, дзе стаіш:
Не бойся — сцёгны не паколеш,
Як на падушцы, пасядзіш!

Я ж быў у тых краях на поўдні,
Дзе ўсюды горы навакол.
Хадзіў па полі і запомніў:
Які няўтульны, жорсткі дол!

Над ім у поце людзі гнуцца,
А ён на ласку страх скупы:
Нідзе ні сесці, ні прыткнуцца —
Адны калючкі ды шыпы...

А ў нас зямля — якую краску,
Якую былку ні сарві —

Кладзі да сэрца як лякарства
І — здаравей, брат, і жыві!

Мы ад зямлі суздром залежым —
Як і яна ад нас, людзей.
Завошта ж мы яе драпежым —
Штораз бяздумней і люцей?

Вось вы ўжо ўсе немаладыя —
Тут нарадзіліся, раслі:
Дзе ручайкі-крынічкі тыя,
З якіх калісьці мы пілі?

Дзе дзеўся бор на Белых Выспах,
Што быў нам домам у вайну?
Чаму ён знік? Чаму ён высах?
Каму прад'явіць час віну?

Дзеля якой вышэйшай мэты
Бясцэнны клад жывой вады
У акіян мы пром сусветны?
Ну й перапром! А што тады?..

Сцяпан, замоўкшы на паўслове,
Нагой акурак прыдушыў
І зноў адчуў, як крыўдна-злое
Штось варухнулася ў душы.

Не раз, не раз ужо ўскіпала,
Як магма, лютасць у грудзях
Ад горкай думы: што прыспала
У многіх душах — грамадзян?

Чаму яны так неабачна,
Не прадчуваючы бяды,
Ідуць за глупствам і нахабствам
Якога-небудзь Гламазды?

Няўжо яны не разумеюць,
Што тут яны — гаспадары:
Адвеку тут аруць і сеюць
І шлюць у свет свае дары!

Што ў рэшце рэшт і іх нашчадкам
Не дзесь, а ў краі родным жыць —

І трэба мець, каб чуцца шчасным,
Што шанаваць, чым даражыць!..

— Сцяпан, — зірнуў Тамаш на брата, —
Ты так гаворыш, як бы тут
Сабралі тых, хто вінаваты,
І ты выносіш ім прысуд.

А нашай, брат, віны не болей,
Як і тваёй, а можа, й менш,
Бо ты ж усё-ткі, Божай воляй,
Дзесь там з уладаю наўзмеж.

Напрыклад, я — не растлумачу,
Чаму так сталася і як,
А толькі многімі ў нас, бачу,
Кіруе хэнць «пажыць усмак».

На ўсё ядомае ў прыродзе
Пайшоў у наступ спажывец —
І звер і птах ужо на зводзе,
І ў рэчцы рыбіне — канец.

Усё наважыў зжэрці, знішчыць —
Без сантыментаў, лішніх слоў —
Мільёнавокі паляўнічы,
Мільёнарукі рыбалоў.

Ніхто не мучыцца дакорам,
Ніхто не думае пра грэх,
І ўжо не стане ягад скора,
Звядуцца жолуд і арэх.

А з’ездзі ў лес, у гушчу нетраў,
І глянь, што робяць грыбнікі:
З-за грыба мох на сотні метраў
Дзяруць і рыюць, як дзікі!

Як бы іх страшны голад гоніць —
І трэба грэбці наўзахоп,
Усё каб выграбці сягоння,
А заўтра — заўтра хоць патоп!..

— Тут і са школы трэба многа
Спытаць за рост падобных з’яў, —

Зірнуўшы ўскос на Крутарога,
Антось-філосаф слова ўзяў.

— Напомню прыклад досыць даўні:
Калісьці ў нас у буквары —
Было на «б» апавяданне —
«Барыс і белка у бары».

Што непісьменна — не «вавёрка»,
А «белка» — тэма на пасля.
Цяпер пра іншае гаворка:
Чаму драпежнасць узрасла?

Барыс са стрэльбай. Бачыць: белка!
Бах! — міма. Белка на суку.
Зноў: бах! — не лучыў. «Эх, няўмека!» —
Гаворыць белка хлапчуку.

І вось сынок бацькоў нядрэнных
На ўсё жыццё запамінаў,
Што трэба біць звярка на дрэве,
Каб ён зваліўся і сканаў!

Не жыць у радасці з ім дружна,
Не любавацца і любіць,
А біць — бязлітасна, бяздушна
Страляць і біць, страляць і біць!

І паспрабуй пасля ў такога
Перавярнуць душу інакш!..
— Ён пераверне сам любога! —
З запалам выгукнуў Тамаш.

— У нас такую сілу мае
Меліяратар Гламазда:
Яго ніпто, брат, не стрымае,
Яму нічога не шкада!

Яму, што збег ад аліментаў
За восем тысяч вёрст сюды
І што, паводле дакументаў,
Прайшоў і турмы і суды.

Такія вывернуць з карэннем
Апошні кусцік на зямлі,

Каб атрымаць адно скарэй ім
На апахмелку тры рублі...

Відаць, мы ўсе папроку варты.
Я і мастацтва закрану:
Вось быў я неяк у тэатры —
Глядзеў камедыю адну.

Дык там якісь артыст на сцэне
Іграў старога цурбяля
І ўсё крычаў, аж пырскаў пенай:
«За што любіць цябе, зямля?!»

І што жылі мы небагата,
І пухлі з голаду парой —
Зямля была ў тым вінавата, —
Даводзіў бравы дзед-герой.

Я слухаў гэта — і, не блазен,
А ўсё ж патомны хлебароб,
Адчуў, што ён мяне абразіў,
І рушыў з залы ў гардэроб.

О прастата, ды не святая!
Як ты далёка завяла!
Падумаць толькі: ён пытае:
«За што любіць цябе, зямля?»

За што любіць? Во ліха-матры!
Во даў задачку для глузда!
Відаць, арудуе ў тэатры
Таксама добры Гламазда!

Калісь дзяды навук не зналі,
Але карміцельку-зямлю
Ласкава «матухнаю» звалі —
Як маці родную сваю...

Стамлёна з хаты выйшла Лёдзя,
Падсела к Віньку на кругляк:
— Напрацавалася — аж годзе!
Дый наспыталася няўзнак.

— Ну як там — скора ўжо, сястрыца? —
Міргнуў ёй весела Антось.

— Гатова ўсё, маглі б садзіцца,
Але не чутна дзядзькі штось.

Альжбета Францаўна чамусьці
Яшчэ таксама не прыйшла...
Сцяпан адчуў, як вена ў вусці
Звужацца раптам пачала.

У думках сам сабе ўсміхнуўся:
«А ты хвалюешся, аднак!
Як бы на стрэчу з ёй вярнуўся
Той сарамяжлівы юнак.

Спакойна, брат! Не ўскрэсне тое.
Даўно ўжо зеллем парасло.
Вы не захочаце абое
І ўспомніць нават, што было...»

— А дзе ж Мікіта? — хтось пытаннем
Ягоных думак ход спыніў.
— Сказаў: пайду на прагулянне.
— А вунь ён — лёгкі на ўспамін!

І сапраўды, з гумна да гурту
Паважна крочыў зводны брат —
Не йшоў, а нёс сваю фігурку —
Глячок паўнюткі акурат!

Ён зранку добра быў паддаўшы —
Цадзіў, пакуль не набрыняў.
Паспаў на сене, у паддашшы,
І мацыён цяпер прыняў.

Вінцусь рашыў «душу адвесці» —
Увагай швагру «дагадзіць»:
— Мікіта Зміцеравіч дзесьці
Адзін сызволіў пахадзіць?

Мікіта зіркнуў, нібы стрэліў:
— А што з табой тут дым глытаць,
Калі ўвяздзе такая прэлесь
І пасматрэць і падышаць?..

З усёй радні сваёй найболей
Ён Вінцуся не паважаў,

Бо зразумець не мог ніколі:
Сур'ёзна кажа той ці ў жарт?

— Ты — гарадскі, табе, Вінцэнты,
Паняць прыроду не дано.
А я ўвесь век жыву ў райцэнтры —
Што і ў дзярэўні ўсё адно.

Бывае, выйдзеш вутрам з хаты —
Так благавухае сярэнь —
Аж нос зрываюць араматы!
Здаецца б, нюхаў цэлы дзень!

Вінцусь тыраду ледзь даслухаў:
— А я на гэта вам скажу:
Народ не цэніць благавухаў —
Ён любіць водар сенажу!..

Сёй-той ухмылку сцёр на вуснах,
Мікіта ж глянуў на радню:
— Ты прыдзяржы язык распусны —
Прывык плявузгаць ерунду!..

Крыху няёмка стала Лёдзі —
Аж злосць мільгнула на губе:
— Ну, муж, калі б не пры народзе —
Ой, благавухнула б табе!..

Агульны смех з яе пагрозы
І жартаў-рэплік цэлы рой —
Знялі канфлікт, амаль сур'ёзны,
Пераламалі ўраз настрой.

Каб як лягчэй астатак часу
Счакалі госці на двары:
— Прынесла б, Лёдзя, ты нам квасу, —
Кіўнуў-міргнуў Сцяпан сястры.

— Такі бярозавік з ячменем
Тамаш прыпас — што валіць з ног!..
На гэты голас захаплення
У тон азваўся Крутарог:

— А нарачанскага кефіру
Вам не даводзілася піць?

Шкада! Вось ім бы музу-ліру
Натхнілі вы як мае быць!

Я ў санаторыі залетась
Лячыўся там — такой парой:
Вады і ў рот не ўзяў за месяц —
Ні гатаванай, ні сырой.

Штодня кефір купляў у Гэлькі —
У магазіне. Вось дзе смак!
Зірнеш — а ў горлачку бутэлькі,
Як корак, маселца камяк!..

Прынеслі квас. Гладыш няспешна
Пайшоў, пад крэкты, па руках.
З усіх гучнейшае, канешне,
Было дырэктарава «а-ах!».

— Не квас — сімфонія лясная!
Глытнеш — і чуеш гаю шум.
Здаецца, так і напаўняе
Святлістай музыкай душу!..

Дырэктар яўна меў на мэце
Не толькі госцю дагадзіць,
А й паказаць, каб гурт прыкмеціў,
Які эстэт у ім сядзіць.

Ды зноў Вінцусь у звыклай форме
Крутнуў нязменны свой педаль:
— Народ не слухае сімфоній!
Яму «Лявоніху» падай!..

І тут з'явіўся дзядзька Лёкса.
«Дзень добры» даў, паставіў кій.
— Фу, братцы, ледзьве прывалокся:
Не служаць ногі — хоць адкінь!

Перш са Сцяпанам парукаўся,
Пасля — з усімі па чарзе.
У Лёдзі ціха папытаўся,
Ці ў поўным зборы дзеці ўсе.

Антось-філосаф тут жа месца
Яму ўступіў на кругляку.

— Ужо і дзядзька непрыкметна
Пачаў катацца на кійку?

— Пашкадаваў купіць машыну —
Дык езджу так. Чаго ж хацець?
Цяпер, каб чуцца чын па чыну,
Сваю «каляску» трэба мець.

Калі не ўзбіўся ты на ўласны
На свой «Масквіч» або «жыгуль»,
Дык, значыць, ты — бядняк няшчасны,
І для людзей ты — круглы нуль.

А калі ты ў сваёй бляшанцы
Сядзіш на колах, дабрадзей, —
Дык у цябе другія шанцы
І на павагу ад людзей!

Дарэчы, цацку гэту нешта
Не завінуўся ты купляць?
— Гляджу на дзядзьку: ходзіць пеша!
Хаця і ногі ўжо баляць...

— А што ты хочаш, ягамосцю,
Ад гэтых збітых капытоў?
Я ўжо ў сярэднім, брат, узросце:
Налета — семдзесят гадоў!

— Ну, дзядзька! Лэбусь вунь таксама
Ужо хадзіў і шкрэбаў дол,
А гляньце, як цяпер гайсае,
Калі пабраўся з маладой!

Пісаў наш друк: якісь іранец,
Хаксар, за семдзесят гадоў —
Пры мусульманскім іх каране —
Жаніўся трыццаць шэсць разоў!

— Ну, Лэбусь столькі ўжо не зможа!
Хаця — як кажа ўсё сяло —
Пасля жаніцьбы, дай ты Божа,
Яму на вобмаладзь пайшло!..

Мужчыны дружна рагатнулі,
І ўжо адчулася па ўсім:

На тую тэму павярнулі,
З якой не выблытацца ім.

— Вы раскажыце, дзядзька Лёкса,
Як ваш зарэчанскі Адам
З мадамай мінскай чуць не злёгся
І чуць душу там не аддаў.

— Гэ-э, хто б аддаў там — невядома,
Ён — не слабак, не думай, брат!..
Казаў: ну, чыстая мадонна —
Хоць ты малюй з яе абраз!

А ездзіў ён у Мінск на свята
Як трактарыст-перадавік.
І дзесьці там, хоць не аматар,
Казаў — бутэльку прыдавіў.

Канешне, гакнуў падхадзяшча.
Але не ў тым была бяда,
А ў тым, што быў ад ранку нашча,
А нашча хмеліць і вада.

Ну, там і высачыў мадонну
І вельмі ж моцна пакахаў.
Праводзіў вечарам дадому —
Трымаў за локцік і ўздыхаў.

На развітанне далікатна
Хацеў у шчочку цмокнуць ёй —
Яна ж сама пайшла захватна
На буську буськаю сваёй.

І так па-зверску цалавала,
Уся шалеючы знутры,
Што губы ўсе яму парвала:
Казаў, балелі тыдні тры.

Казаў: каб жонка ўночы гэтак
На буську буськаю ішла,
Дык меў бы ён не двое дзетак —
Штогод збягала б з падала!

— А што? У гэтай справе зверства,
Відаць, павінна трохі быць!

— Вы зверствам лічыце майстэрства —
Уменне хораша любіць!

І тут Вінцусь зусім спакойна
Уткнуў тры грошыкі свае:
— Народ цалуецца прыстойна:
Ён ляпу ляпай не ірве!..

— Чакайце! Я ж вам пра Адама
Яшчэ не кончыў. Значыць, так:
Што не бясхозная мадама —
Аб тым не думаў наш басяк.

Пакуль ён буськаўся — з пацёмку
Аднекуль выскачыў мужык:
«Ты што маю цалуеш жонку!» —
Пачуў Адам пісклявы крык.

Казаў: маленькі, кучаравы —
Як пакаёвы сабачок.
Але на выгляд — надта бравы!
І на Адама — кулачок!

Адам як даў нагой пад рэтра,
Дык бедны «пудлік» метраў пяць
Ляцеў, хапаючы паветра,
І екатаў на ўвесь той пляц!..

Пасведчыў смех, што Лёкса хвацка
Падаў праграмны «нумарок».
— А што такое «рэтра», дзядзька? —
Спытала Лёдзя назнарок.

— Ды я і сам не вельмі петру,
Але ж цяпер кругом і скрозь
Адно і чуеш: рэтра, рэтра, —
Дык, мабыць, гэта рэтра й ёсць!..

— Цяпер вунь пішуць, што для шчасця
Мужык і жонка між сабой
Ва ўсім павінны сумяшчацца,
Іначай — кранты і адбой!

Нібы часцей за ўсё бярэцца
Развод з-за гэтага якраз.

«Несумяшчальнасць душ і сэрцаў!» —
Такі ў судзе даюць адказ.

— Вунь Каптуроў старэйшы, Васька,
Не сумясціўся са сваёй.
Гады ж са два ці тры да загса
Дык сумяшчаўся — Божа мой!

І так спляталі рукі ёмка,
Так згодна ў клуб гуляць ішлі!
А толькі сталі муж і жонка —
Не сумяшчацца пачалі!

Пры чым жа тут віною цела?
Тут цела, братцы, ні пры чым.
Душа заўчасна абыдлела,
У ёй — прычына ўсіх прычын.

Я выдумляць-хлусіць не буду —
Каптур сказаў, чыя віна:
Ніхто не браўся мыць пасуду —
І ён упёрся, і яна!

Два тыдні дыхалі смуродам —
На кухню страх было зайсці!
І спрэчку кончылі разводам:
Не сумясціліся ў жыцці!..

Згусціўшы зморшчыны-баразны,
Вінцусь маўчаў, пахмурыў твар
І ўсім надзіва даў сур’ёзны
К расказу Лёксы каментар:

— Народ умее сумяшчацца,
Народ душою не азыз.
Не сумяшчаецца мяшчанства —
З капрызам дробязным капрыз!

Пакуль на ўсім гатовым дома
Не трэба голаў клапаціць —
Дык ад раскошы той, вядома,
Натуру лёгка распусціць.

А ледзь пачнуць па шлюбе самі
Сябе карміць і даглядаць —

Дык і каханне ўмэнт згасае,
І згоды-ласкі не відаць...

Так зацікаўлена і жыва
Ішла дыскусія ў мужчын,
Што й Лёдзя ўрэшце прылажыла
Да важнай тэмы свой аршын:

— Вам толькі моладзь не па густу,
А ў тым не бачыце бяды,
Што ў блуд, у гулі, у распусту
Ідуць бабулі і дзяды.

Павыдаюць або пажэняць
Дарослых дочак і сыноў,
Старыя мошчы паджэньшэняць
І самі жэняцца наноў.

Калісь, ад нэндзы ўсохлы-дохлы,
У пяцьдзесят гадоў мужык
Старым лічыўся і, нямоглы,
Не браўся бабамі ў разлік.

Цяпер і ў шэсцьдзесят не годзе!
А што? Здаровыя, бык і!
На кірмашы вунь так і водзяць
Блудлівым зіркам у бакі...

— Другі праз «грыб» не пераплюне,
Сліняк цячэ па барадзе,
А ўсё адно падчэпіць плюндру
І ў рэстаран паіць вядзе.

Дзядусь, а толькі і цікуе,
Як за здабычаю каршун,
Каб дзеўку злэпаць дзе якую;
І каб прытым не ўзняўся шум!..

— Таму пайшла цяпер распуста
І юр узвірыўся, як вір,
Што надта масла мажам тлуста
На чорны хлеб, на белы сыр.

Бывала, помню, мама ложыць
Арэшак маселца ў камы —

Не для таго, каб заваложыць,
А каб хоць пах той чулі мы...

Антось-філосаф раптам скеміў:
Без філасофскага вянца
Уся дыскусія па тэме —
Што тая казка без канца.

Ён кашлянуў без дай прычыны —
Як знак на ўвагу ўсёй гурме,
Ступіў наперад досыць чынна
І гучна ўрэзаў рэзюмэ:

— У нас уклад жыцця змяніўся —
Нястача канула ў нябыт.
Як цяжкі груз, на нас зваліўся
Раней не знаны дабрабыт.

Да грузу гэтага, дарэчы,
Не ўсе гатовыя былі,
І ў многіх кволенькія плечы
Пачварна гнуцца пачалі.

Душы падмурак іх маральны
Няйначай трэшчыны дае,
Таму й праблема, натуральна,
Перад грамадствам паўстае...

Закончыць сказ, парыўна ўстаўшы,
Антосю Лёдзя не дала:
— Усё! У зборы госці нашы —
Альжбета Францаўна прыйшла!

На міг замёрлі ўсе на месцы —
Як бы напнулася струна.
Дарожкай жоўтаю ад весніц —
Сцяпан пазнаў — ішла *яна*.

Ну, так яна — Кудзёлка Аля,
Яго абранніца калісь!
Як і ў студэнцтве — без караляў,
Без персцянёў, без завушніц.

У строгім светлым гарнітуры,
У белай блузцы... падышла

І сціпла, проста, без натугі
Мужчынам «здраствуйце» дала.

Яму — ледзь бачны ўклон. Без слова.
А позірк вымавіў з тугой:
«Калі так трэба — я гатова:
Мы — незнаёмыя з табой...»

А ён і сам не знаў, як трэба.
І як трымацца, так ці так?
Але з знаёмства іх сакрэта
Рабіць не меціўся, аднак.

Ён пра другое думаў зараз:
Уразіў выгляд: «Божа мой,
Што робіць час! Пачвара-старасць
Красу жывую есць, як моль!

Ёй сорак год, а пaглядзеўшы —
Намнога болей можна даць.
Напэўна, лёс зусім не цешыў,
Жыццё не песціла, відаць».

Ён кідаў позірк на Альжбету —
І сэрца кроіў боль скразны:
Амаль нічога — ані следу
Ад той дзяўчынкі, з той вясны!

Як і чакаў і знаў наперад —
Не сустракацца б лепей ім.
Нібы старую рану верад —
Душу спарушыў успамін.

І стала сумна... Горка нават...
Ну, вось і ўсё! І ўвесь разрад!
Зусім без грому, без маланак...
Ды і з чаго быць грому, брат?..

Ад кругляка, дваром, да хаты
Сцяпан з ёй побачкі пайшоў.
«Канешне ж, я быў вінаваты!» —
Пакутна выдыхнуў без слоў.

— Ну, як жывецца? Як работа?
— Жывём... Працуем і жывём! —

Сказала неяк бестурботна.
— А вы — надоўга ў родны дом?

— На пару дзён. Для святкавання.
— То ж нешта мала — пара дзён.
На больш — не маеце жадання? —
Пачуў у словах крыўду ён.

— Чаму ж! Свой дом заўсёды ў сэрцы.
К яму ідзеш з усіх дарог...
І тут ім даў праход у сенцы
Пачцівым жэстам Крутарог.

### *АДСТУПЛЕННЕ ЧАЦВЁРТАЕ — У ГОНАР МАЦІ*

*Такі закон прыроды, маці,*
*І ў ім ёсць сэнсу глыбіня:*
*Раней, чым першы смех дзіцяці,*
*Ты доўга чуеш плач штодня.*

*Ягоным смехам, словам, спевам*
*Пасля ўмудрэеш... А спярша —*
*Патрэбен плач, каб болем спелым*
*Магла напоўніцца душа.*

*І колькі ты жывеш на свеце —*
*Спакон вякоў, здавён-даўна —*
*Ты сэрцам там, дзе плачуць дзеці,*
*Бо дзеці слёз не льюць дарма.*

*Бо ім ці страшна, ці балюча,*
*Ці душыць крыўда — не сцярпець.*
*Ад шчасця слёзы ў іх не льюцца,*
*Ад шчасця — хочацца ім пець.*

*Ты — маці, ты — на ўсё гатова,*
*Усё — змагчы, усё — аддаць,*
*Адно б вясёлых ды здаровых*
*Дзяцей пад сонцам аглядаць.*

*Таму сабе ты ў долі просіш*
*Зусім не шмат, зусім не шмат:*
*Над галавою — неба просінь,*
*Ды ў дзецях — лад, у дзецях — лад.*

*О, як ты радуешся светла,*
*Калі, не зломкі, не злябы,*
*Яны жывуць беззапаветна*
*Дабром — без прыценю злабы!*

*Як пачуваешся шчасліва,*
*Калі, не кволыя душой,*
*Яны шануюць клапатліва*
*Твае гады і гонар твой!*

*Гады ж баляць, гады цяжэюць.*
*А балючэй за ўсякі боль —*
*Як дзеці любыя чужэюць*
*І варагуюць між сабой.*

*І ты глядзіш пакутна-скрушна:*
*«Чаго вам, дзеткі, не стае,*
*Каб жыць па-брацку, згодна, дружна?*
*Усе ж вы — родныя мае!*

*Я ўсіх пад сэрцам вас насіла,*
*І кожным гордая была,*
*І шчасця кожнаму прасіла,*
*І ў кожным род наш берагла...»*

*О, так! У кожным прадаўжала*
*Свой род — не горшы між другіх.*
*І як ні крыўдзіў лёс, бывала, —*
*Ніхто не бачыў слёз тваіх!*

*Вайна, разбой, пажар смяротны —*
*І зноў — з руінаў, з небыцця —*
*Тваёй любоўю дом твой родны*
*Уваскрасае для жыцця!*

*Ніякай сіле, ліху злому*
*У сэрцы маці не забіць*
*Надзею: даць працяг жывому!*
*Надзею: песціць і любіць!*

*І колькі доўжыцца тут вёснам,*
*Кругавароту зім і лет —*
*Прыгожы, казачна-дзівосны*
*Дарыць ты будзеш дзецям свет.*

*Пры ўмове, матухна, што сёння*
*Зямлі ўсёй дочкі і сыны*
*Развеяць змогуць назаўсёдна*
*Цень тэрмаядзернай вайны.*

*Што ў цэлым свеце, на планеце,*
*Ва ўсіх краях, ва ўсіх кутках —*
*З'яднае ўсе людскія сэрцы*
*Твой вобраз з дзіцем на руках!..*

## ПАШАНАВАННЕ

— Сядайце, госцейкі, сядайце!
— На покуць суньцеся — далей! —
Гукаў Тамаш — дуэтам з Анцяй.
— Ну, весялей жа, весялей!

Ці мне ўсчынаць тут з вамі сварку?
Прашу вас, любыя, прашу!..
— На покуць трэба юбілярку! —
Напомніў Лёкса Тамашу.

Тады і ўсе: — На покуць — маці!
— Пашану ёй найперш аддаць!
— А то сталы ваўсю дымяцца,
А юбіляркі — не відаць!..

І маці выйшла — «пад канвоем»
Унукаў — хлопцаў і дзяўчат,
Хусціна золатам кляновым
Цвіла на згорбленых плячах.

А пад хусцінай — дзякуй дзеткам! —
Навюткі джэмпер шарсцяны:
Хай бачаць людзі, што адзеткам
Не крыўдзяць дочкі і сыны.

— На покуць, Сохвія Пятроўна! —
Гукнуў сусед — дзядок Сівец.
— А Божа мой, ці не ўсё роўна
Старой мне, бабе, дзе сядзець?..

Амаль сілком, усё ж на покуць
Пятроўну дзеці завялі.

Тады і ўсе — да локця локаць —
Садзіцца шчыльна пачалі.

Каля Вячоркі ўлучыў сесці
Дырэктар школы Крутарог:
О так, на нейкім іншым месцы
Ён уявіць сябе не мог!

Пры ім і жонка села горда.
Альжбета Францаўна — за ёй.
Яна рашыла вельмі цвёрда
Трымацца тактыкі сваёй.

«Няхай не думае насмешна,
Што ў вочы лезу я... о не!
Калі хоць нешта... хоць бы нешта —
Ён сам падыдзе да мяне...»

З другога боку да Сцяпана
Падсела Лёдзя з Вінцусём:
— Хоць тут цябе мне перапала:
Забыў, браток, мяне саўсём!..

Насупраць — пара маладая:
Мікітаў сын — Рэппо Артур
І з ім — дзяўчына. Хто такая?
З радні? Прыезджая? Адкуль?

Але ж і пекная дзяўчына!
Які жывы і ўдумны твар!
Сцяпан няўзнак стрыгнуў вачыма,
Пасля — яшчэ — і раз, і два.

І зразумеў: яна — чужая,
Не прадстаўляе тут радню.
К таму ж — амаль што не зважае
На кавалера балбатню.

Яна яго, Вячоркі, слова,
Здаецца, ловіць неўпрыкмет!
Пагляд спаткаўшы выпадкова,
Пачырванела тут жа ўслед.

«Ты хто такая, незнаёмка?
Што заірдзелася, як жар?..

Спытаць бы ў Лёдзі, ды няёмка:
Яшчэ Вінцусь адпусціць жарт...»

Тым часам хтось музычна-лёгка
Па шкле відэльцам стаў званіць.
Ага, падняўся дзядзька Лёкса
І загрымеў: — Прашу наліць!

Савет пляменнікаў гвалтоўна
Мяне прызначыў тамадой:
Маўляў, і цвёрда і тактоўна
Кіруй шаноўнай грамадой.

А што ў застоллі — кіраванне?
Сачы, каб чуўся чарак звон?
То і пачнём жа чаркаванне,
Як чаркаваліся здавён.

Хай кожны ўздыме келіх поўны
І скажа так за мной услед:
«Здароўе Сохвіі Пятроўны!
На сто гадоў! На сотню лет!»

Усе запляскалі ў далоні,
Пасля ўзняліся з-за сталоў:
— Здароўя Сохвіі Пятроўны!
На сотню лет! На сто гадоў!

Так пракрычалі хорам тройчы
І дружна выпілі да дна.
Завільгатнелі ў Зосі вочы,
Ды не ад хмельнага віна.

Хусцінку — слёзы тыя ўцерці —
Дастала дзесьці з рукава.
— Дай Божа вам здароўя, дзеці,
Пры вас я буду здаравб...

Хвілін праз пяць ці нават меней
Падняўся Лёкса за сталом:
— Сцяпан Якубавіч! Пляменнік!
Як ты ў нас знацен і вядом —

Уваж хаціну, дзе радзіўся:
Скажы, брат, свой сыноўскі тост, —

Калі ў сталіцы не забыўся
Або ў дарозе не растрос!..

Ох, гэты дзядзька языкаты:
Без падкалупкі — анідзе!
Сцяпан, прызнацца, быў бы рады
Не гаварыць пры грамадзе.

Падыдзе, думаў, да матулі,
Абдыме, волю дасць слязе...
Аднак жа госці Лёксу чулі
І ўжо чакаюць. Сціхлі ўсе.

— Паклон табе ад сэрца, мама, —
Пачаў няголасна Сцяпан. —
Ты без хлусні і без абмана
Трымала наш сямейны стан.

Даверам нас, дзяцей, расціла,
Бо знала ты, што й цэлы свет —
Адно дамовіўшыся шчыра —
Пазбыцца зможа страшных бед.

І не чытаўшы мудрых кніжак,
Спасцігла ісціну сама:
Няма Радзімы ў злыдняў хіжых
І Маці ў нелюдзяў — няма.

Мы — тройчы дзеці ў вечным крузе:
Мы — дзеці роднае сям'і,
І — дзеці Маці-Беларусі,
І — дзеці Матухны-Зямлі.

Трайны ён, круг, ды недзялімы:
Бо сёння — як ні пaглядзім —
А лёс Дзяцей, і лёс Радзімы,
І лёс Планеты — лёс адзін.

І ўсе мы разам у адказе
За гэты вечны круг жыцця.
Хвала ж таму, хто ў трудным часе
Без мітусні і без ныцця

Сваё праходзіць... Так, як мама, —
Сцяпан праз паузу дадаў.

Абняў старую ўсхвалявана
І рукі ёй пацалаваў.

Усе запляскалі. У шуме
Сёй-той з радні слязіну сцёр.
А Крутарог гукнуў: «Віншую!
От гэта тост! Усім узор!..»

Застолле ўраз павесялела,
Настрой і тонус набыло —
Загаманіла, зазвінела,
Забразгатала, загуло.

І зноў з паглядам незнаёмкі
Спаткаўся позіркам Сцяпан.
«Ах, не рашай галаваломкі —
Знаёмся сам, стары чурбан!..»

— Прабачце, хто вы?
— Я? Мар'яна.
Бібліятэкар СДК.
— З чыйго ж вы роду — не прыгляну?..
— Наш род не з гэтага кутка...

Сцяпан адчуў, як загайдала
Яго на стромкім грэбні хваль.
«Якоесь свята нагадала...
Якуюсь сонечную даль...»

Лінуў у чаркі, аж расплёскаў, —
Душа пайшла праз берагі:
— Давайце... вып'ем за знаёмства,
Так, так — мы з вамі, без чаргі...

Напэўна, быў у гэтым жэсце
І неўсвядомлены разлік:
Усё з'яснілася нарэшце —
Далёкай смуты прывід знік.

Хай бачыць Аля, як свабодна
Ён пачуваецца пры ёй:
Іх май у вечнасць беззваротна
Плынь часу знесла быстрынёй...

Альжбета ж Францаўна умлела:
Мар'яна чокаецца з ім!

І нават неяк вельмі смела
Яму ўсміхаецца пры тым!

«Ну, гэта ўжо, дачка, занадта!
Нягожа так у грамадзе!
Пасля за ўсё адказвай матка,
Бо на мяне ж усё ўспадзе!..

Але й Сцяпан!.. Аж дзіўна проста:
Нашто ён гэтак? Сам наліў
Для нечарговага, бач, тоста!
Зашмат ёй чэсці адваліў!..

Ну, пазнаёміўся — і добра.
Ці то ўжо гэткі значны факт,
Каб нават чокацца асобна?
Хоць кампазітар, а — дзівак!..»

Так гаварыла-разважала
Альжбета Францаўна з сабой,
І сэрца здрадна задрыжала —
Дало трывожны перабой.

Тут дзядзька Лёкса па пасудзе
Ударыў зноў: — Прашу наліць!
Мікіта Зміцеравіч будзе
У гонар маці гаварыць!

Мікіта вычакаў хвіліну,
Пакуль заціх-улёгся шум,
Устаў паважна, нос закінуў,
Як перад люстрам харашун.

— Што ж, еслі просіць прадсядацель
Ці, ізвіняюсь, тамада,
Каб я сказаў што к гэтай даце,
То я далжон атвеціць: да!

Дык вот у нашай юбіляркі
Есь многа качестваў такіх,
Што быў бы грэх не выпіць чаркі,
Не ўшанаваць пачотам іх.

А першым качаствам законна
Шчытаю я без лішніх слоў,
Што, хоць і ў возрасце прыклонным,
Ана не знаець дактароў.

Другое качаства па праву
Адмецім такжа мы спаўна,
Што патрудзілася на славу
За жызь працоўную ана.

А трэцім качаствам гардзіцца
Найболей нада, што ўдава
Зрасціла нас, как гаварыцца,
І ў жызь пуцёўку нам дала.

У ту вужасную разруху,
Благадара і вапракі,
Ана не пала сілай духу:
Пускала нас — как пціц з рукі!..

Тут выйшла пауза малая,
І д’ябал Вінька не стрываў:
— А што бабуся залатая
І ўнукаў любіць — не сказаў!

Мікіта згроб сурвэтку ў пальцы,
Махнуў рукою, як ластом:
— А вы мяне не папраўляйце! —
Раўнуў на Віньку цераз стол.

— Я лучча знаю, што бабуся!
І ўсё я знаю, што к чаму!
А еслі ў чом і абшыбуся —
Мяне паправіць есь каму!

Наліўся чырванню, засопся
І сеў, забыўшыся на тост.
— Іш, папраўляць мяне знайшоўся!
Схадзі папраў цяляці хвост!..

Застолле зразу анямела,
Уткнула ў скацерку насы,
А потым ціха і нясмела
Сям-там узніклі галасы:

— Яно, падумаўшы, канешна,
Перабіваць другіх не варт...
— Хацеў — пацешна, выйшла — грэшна...
— Дык ён жа, мабыць, гэта ў жарт?..

Сцяпан глядзеў на край кілішка,
Было ад сораму — хоць плач:
«Ну і Мікішка! Ну й Мікішка!
Хоць маму ўважыў бы, таўкач!..»

Няёмкасць зняў пляменнік Зосін —
Нібыта ў бочку, грымнуў бас:
— Мікіта Зміцеравіч, просім
Не сердаваць і кончыць сказ!

Тады й Тамаш ускінуў вочы,
Адчуў сябе гаспадаром:
— Ты трэцім качаствам закончыў,
Кажы далей, ды і кульнём!

— А просім, просім! — раптам госці
Сыпнулі хорам, дружна ў лад.
Мікіта й сам уцяміў штосьці
І адарваў ад крэсла зад.

Устаў, узяў у пальцы чарку,
Хвіліну важна памаўчаў
І ў тым жа тоне, так жа ярка
Сказ прапановай увянчаў:

— І так, за здравіе мамашы
І за дальнейшы, значыць, рост
Праізвадзіцельнасці нашай
Я прыдлагаю выпіць тост!..

Кульнуў, кілішачак на сподак
Паставіў, смачна крактануў
І пад грунтоўны падбародак
Сурвэтку рогам падаткнуў.

Яму папляскалі актыўна —
З надбаўкай яўнай, з каптуром,
Каб гэтым самым калектыўна
Кампенсаваць «маральны ўрон».

Вінцусь нагнуўся да суседкі,
Шапнуў: «Во злосны! Як шашок!
А знаеш ты, чаму ён гэткі?
Што сэрца блізка ад кішок!..»

Прайшла няёмкасці хвіліна —
І зноў застолле ажыло:
Забразгатала, зазваніла,
Загаманіла, загуло.

Запрацавалі безадмоўна
Відэльцы, лыжкі і нажы.
— О, гэта ўсмажана цудоўна!
Не закусь — свята для душы!

Пакласці вам? — А што за закусь?
— Я й сам не ведаю, дальбог,
Але ручаюся за якасць! —
Прыцмокнуў смачна Крутарог.

— Хоць закрычы: кухарцы — брава!
Якія скабкі! А кулеш!
Ну, смаката! З такою стравай
І рашпіль нават праглынеш!..

Пасля «свянцоных» грам дырэктар
Закускам ганьбы не даваў:
З прыцмокам, з воклічамі, з крэктам
Без перадухі трамбаваў.

Свой грэх застольны — добра з'есці,
Умяць мяснога лішні фунт —
Ён знаў, таму любіў падвесці
Пад гэту слабасць пэўны грунт.

— З пары, як стрыглі мы калоссе
Ды боршч варылі з лебяды,
На ўсё жыццё ў нас засталося
Нераўнадушша да яды.

Псіхалагічна — беднасць тая,
Якой душу гняло штодзень,
Нас і дасюль не адпускае
І пераследуе, як цень.

Таму й дзябёлыя мы целам
І трацім форму, трацім спрыт,
Што пакаленне наша ў цэлым
Не знае скарг на апетыт.

Ну, як? Давайце ваш відэлец —
Яшчэ кусочак пакладу!
Між тым Вінцусь, аматар цвеліць,
У крыўдзе быў на грамаду.

Прывыкшы ў рожкі з сваякамі,
Ён тут жа вытыркнуўся ўвесь:
— Народ кускі бярэ рукамі!
Народ відэльцамі не есць!

Вячорка, цэнячы дасціпнасць,
З усмешкай рэпліку прыняў:
Сапраўдны гумар — як гасціннасць,
У ім асновай — дабрыня.

А для Мікіты шваграў досціп
Быў толькі выпад і падвох.
— Ты б у сябе, сабраўшы госці,
Агітаваць за гэта мог!..

Ды што для Віңькі злосць Мікіты?
Што новы хворост для агню.
А асабліва ён падпіты
Любіў пацвеліваць радню.

Таму, як раптам, ненаўмысна,
Кілішак з тоненькай нагой
Мікіта ў пальцах перацiснуў, —
Вінцусь пальнуў туды чаргой:

— Крышталем цёмнасць даканалі.
Між іншым, мілыя мае:
Народ куляе стаканбмі,
Народ кілішкамі не п’е!..

Дарэчы, трэба тут зазначыць:
Ён меў адменны зрок і слых:
Усіх ён чуў, усіх ён бачыў
І тут як тут браў слова ўміг.

Хоць апетытам некапрызным
Быў прыкаваны да стала —
Сваім абсурдным афарызмам
Ураз любога даставаў.

І так у гутарку ўключаўся,
Такі даваў ёй паварот —
Што ўжо крыху бянтэжыў часам
Не толькі швагра, а й «народ».

## ГАМАНА Ў ЗАСТОЛЛІ

Народ, што праўда, быў застольны,
І гэта трэба разумець:
Ён і на слоўца болей вольны
І болей здольны пашумець.

Яму душу адкрыць ахвота —
Наросхрыст,
насцеж,
нарасхляб,
Каб выйшла вон уся згрызота —
На суд людскі і на разгляд.

І ён гаворыць! Хто — з суседам,
Што каля боку, хто — праз стол,
Хто — сам з сабой,
хто — з цэлым светам...
Усе — гавораць! А пра што?

Пра што? Давай, чытач, хоць трохі
Мы іх паслухаем з табой:
Ці ўловім дух і стыль эпохі
У гамане па кругавой?

З каго пачнём? З дзядоў, канечне.
Старым пашану аддадзім.
Ці ёсць у мудрасці запечнай
Для нас што-небудзь — паглядзім.

— Калісь да гэтай самай «Рускай», —
Пачаў разважна дзед Сівец, —
Быў селядзец у нас закускай —
Салёны, з бочкі, селядзец!

Ляжаў і керчанскі, бывала,
І астраханскі — на выбор!
Цяпер ніякага не стала.
Гавораць: звёўся, перамёр!

— А як яму не перамёрці, —
Прадоўжыў гучна дзед Сакол, —
Пры чалавечай нашай корці
Усё паскудзіць навакол?

Якая толькі смерць-атрута
У нашы рэкі не бяжыць,
А з рэк — у мора, па маршруту.
Дзе ж селядзец той будзе жыць?..

І тут Вінцусь «уторкнуў шпільку» —
Прытворным тонам мудраца:
— Народ усмак цярэбіць кільку!
Народ не просіць селядца!

— Цяпер прызнаны і ўхвалёны, —
Яму ў адказ загуў Сівец, —
Марынаваны ці салёны,
Як след прыпраўлены, грыбец!

Баравічок марынаваны
Не ўступіць закусі любой!
А рыжык! Пане мой каханы!
Адно падхоплівай губой!

Салёны рыжык — гэта, братка,
Табе не нейкі чорны грузд:
Усю талерку зменціш гладка,
Калі, вядома, маеш густ!..

І зноў Вінцусь — ну дай ты рады! —
Гукнуў — аж рэха на дварэ:
— Народ любому грыбу рады!
Народ і порхаўкі бярэ!

— Вось тут, шаноўны, ты ўжо хлусіш!
Народ якраз наадварот —
Прынамсі, ў нас, у Беларусі —
Не ўсякі грыб піхае ў рот.

— Антось казаў: паэта знае,
Здаецца, прозвішча на -ок.
Той, праўда, порхаўкі збірае,
Пакуль яны — як тваражок.

— Дык што за дзіва! Свенты Езус!
Адзін з заезджых грыбнікоў
Браў тыя ў нас, што з долу лезуць
Каля сухіх каравякоў!

Насіўся полем як шалёны;
Калі ж я жарт пусціў з губы —
Ён крыкнуў: «Гэта ж — чампіёны!
Найсаладзейшыя грыбы!»

Я не здзіўлюся, калі скора
Аб'явіць нейкі балантэс,
Што запяканка з мухамора —
Найдарагі далікатэс!

— Вось ты смяешся, а тым часам
Усё да гэтага ідзе:
Так, скора ўбачыш вокам ласым
І мухамор на скаўрадзе!

У грыбаварні вунь загрузка
Штогод змяншаецца ўдвая.
«Неперспектыўная закуска!» —
Вось так, браткі, скажу вам я.

Мы лёс грыбоў тады рашылі —
І многіх ягад, зёлак, траў, —
Калі магутны плуг машынны
У грунце вены перарваў.

Ці ж будзе лес грыбной кладоўкай,
Калі ў яго аж страх зайсці:
Нідзе — і ў цені нават — долках
Зялёнай плямы не знайсці!

Усохла ўсё і перасохла,
Трашчыць, як порах, пад нагой.
Не дастае карэнне сокаў —
Спажыўнай вільгаці зямной...

Ага! Няспешна, па-старэчы,
Пачаўшы з закусі, з яды,
Усё ж узбіліся нарэшце
На тэму важную дзяды.

Ну што ж, няхай памітынгуюць,
Хай на здароўе пабурчаць,
А мы кампанійку другую
З табой паслухаем, чытач.

Вунь — штось мурлыкаюць інтымна
Сяброўкі даўнішнія дзве.
Ці не аб тым яны, што стыдна
Сказаць услых пры грамадзе?

— Цяпер з нас кожны сам сабою —
У шлюбе больш «не састаім».
Ад жаніхоў — няма адбою!
А ты як — з дзедам са сваім?

— Жыву... Ты ж ведаеш Ямполя:
Не я пры ім, а ён пры мне.
Адной і ўцехі, што ніколі
І словам колкім не кране.

Са мной ён пурхацца не можа:
Я ж кожны дзень пры барышы...
— Дык вельмі добра! Дай вам Божа!
А ёсць хто-небудзь... для душы?

— Ну, калі хочаш ты ўжо ведаць —
І для душы таксама... ёсць.
А што? Варочаючы дзеда,
Намарна страціць маладосць?

Каб я была якой нягеглай
Або дурной — ні даць ні ўзяць...
Вось, ад’язджаючы, забегла
Касцюм свой новы паказаць.

Якраз купіла ў нашым ЦУМе.
І знаеш, што ён мне сказаў?
«Ты хараша ў любым касцюме!»
І яшчэ больш за сэрца ўзяў!..

Не, гэта слухаць нецікава!
Здзівіла б болей навіна,
Каб маладуха не ўцякала
Ад дзедугана-шугана.

Мы гэткіх шлюбаў многа знаем:
На кветках жэняцца карчы,
І тым карчам мы спачуваем,
Але не можам памагчы.

Мы нават чулі пра здарэнне,
Калі нямоглы корч адзін
На разагрэтую патэльню
Ад злосці жонку пасадзіў.

А што падняў там за праблему
Перад суседам тамада?
— Мне сын купіў касцюм з крымплену —
Дык братка мой: адна бяда!

Якой мне радасці, што модны?
Прайдуся ў ім туды-сюды —
Дамоў вяртаюся аж мокры,
Як быццам вылезшы з вады!

Што не камечыцца — я знаю,
Ды толькі ён не для мяне:
Пацею, млею і канаю
У гэтым штучным палатне.

А мы пытаемся ў вучоных
І самі ў думках моршчым лоб,
Адкуль усякіх незлічоных
На нас звалілася хвароб?

І дурню ясна, дзе прычыны:
Не трэба хіміяй фарсіць,
А трэба з лёну ды аўчыны
На целе вопратку насіць!..

Катэгарычны дзядзька вельмі.
Ды, як мы ўпэўнімся вось-вось,
Тут сэнс пытання не ў крымплене,
Нашмат шырэйшы сэнс тут ёсць.

— Дык, значыць, ты супроць прагрэсу? —
Спытаў уедліва сусед.
— Э, не! Хоць родам я і з лесу —
Мяне на мушку браць не след!

Я — за прагрэс! І ўвесь мой клопат
У тым, што мы, мясцовы люд,
Не беражом, не цэнім вопыт,
Які ў вяках капіўся тут.

Давай, каб больш было канкрэтна,
Сабе ж пытанне зададзім:
Чаму з табой мы гэтак рэдка
Бліны-грачанікі ядзім?

— Таму, што мала сеем грэчкі.
— Ну, а чаму? — пытанне зноў.
— Ды абыходжуся я, зрэшты,
І без грачанікаў-бліноў!

— Ты абыходзішся — то добра:
Да іншых, значыцца, прывык.
А ў Тамаша, у хлебароба,
Спытаў? Ці ён ужо не ў лік?

У нас жа грэчка слаўна родзіць!
Мы можам мець яе ў адвал!
Чаму ж не маем? Што нам шкодзіць?
Стандарт і вал. Агульны вал.

Раней мужык, хоць жыў і бедна
І цёмны быў, а ведаў ён:
Да жыта й бульбы адпаведна
Патрэбен грэчачкі загон!

Дык вось прагрэс я мыслю гэтак,
А ты на вус матаць сызволь:
Засеем грэчкаю палетак —
«Дзе боб?», спытаю, «дзе фасоль?»...

Ну, што, чытач? Бадай, даволі
Нам слухаць Лёксу-тамаду, —
Іначай я цябе ніколі
Наўкруг стала не абвяду.

Хадзем са мной далей застоллем.
Вунь — бачыш гэных двух мужчын?
Давай ля іх крыху прыстоім —
Удумна гутараць. Аб чым?

— У нас падобных сем'яў многа,
Дзе ён — мужчына без заган:
Па ўсіх стаццях узяў ад Бога,
Іван-царэвіч — як ні глянь!

А жонка — чорт ляпіў, напэўна!
Супроць яго — як ноч і дзень!
Такая, братачка, царэўна —
Хоць ты аброць на морду ўздзень!

Ну, сапраўды: якая ж пара?
Асілак, волат, багатыр —
І сухарэбрая гаргара,
Яшчэ й гундосая прытым!

Або такая малюпашка,
Што меншай нельга і ўявіць,
Што і ў пасцелі нават цяжка
Пад коўдрай граблямі злавіць!

А ў той жа час плюгавамордны
І віслазады бегемот —
Глядзіш — вядзе пад ручку, горды,
Такую жонку — Божа мой!

Ну рыхтык — з казкі Васіліса!
Нашто ж ёй гэны вымяед?
Ды на яе ж гатоў маліцца
Найлепшы, можа быць, паэт!

Не знаю, лёс тут неабачны?
Ці так само пайшло здаўна?
Найлепшы яблык — самы смачны
І самы спелы — есць свіння!..

Ну, вось, культурныя нібыта,
А зноў — пра жонак і мужоў.
Не, гэта тэма страшна збіта
І намі вычарпана ўжо.

Далей пакруцім круг сябрынны!
Чаго, напрыклад, хмурыць лоб
Ля боку ўласнай палавіны
Пляменнік Сохвіі Пракоп?

— Схадзі, як вылезем, на пошту
І ў Мінск дачушкам пазвані,
Каб пакупалі ў тазе кошку,
Як прыйдзе вечарам з гульні.

А то яшчэ якой заразы
Дзе набярэцца ля вуглоў.
Ты чуў?.. Чаго ж, як ад абразы,
Ты ад маіх скрывіўся слоў?

— А ты цішэй бы гаварыла,
Магла б і ведаць, што не ўсім
Пра нашу кошку слухаць міла! —
І ён пагляд наўзбоч скасіў.

На Вінцуся? Ну, зразумела:
Пачуў, напэўна, што сваяк
Якраз узяўся пляжыць смела
Кармільцаў кошак і сабак.

— Нам пачалі давацца ў знакі
Як звышбюджэтныя раты —
Дэкаратыўныя сабакі,
Дэкаратыўныя каты,

Што не бягуць на паляванне
І што не ловяць пацукоў.
Таму — законнае пытанне:
А хто гадуе тых псюкоў?

Нядаўна ў нашым магазіне
Я назіраў — быў сведкам сам,
Як выбірала мяса псіне
Адна фуфырная мадам.

Перабарляла ўвесь прылавак
І ўрэшце кажа: «Прадавец!
Знайдзіце выразкі кавалак —
Наш цюцік гэткага не есць!»

«Ядры ж тваю раскачарэжку!» —
Я ціха вылаяўся ўсмак.
Дык, значыць, я, на здзек-насмешку,
Ем, што не годна для сабак?

Не, вы задумайцеся толькі:
Выходзіць так, што ў кабяля
І густ на мяса болей тонкі?
Танчэй на цэлага рубля!

Ну, прадавец ёй рэзнуў прама
І нават пальцам пагразіў:
«Вы не туды прыйшлі, мадама!
Тут не сабачы магазін!..»

Вінцусь замоўк — чакаў, напэўна,
Што зараз нехта ў грамадзе
Яго дапоўніць так жа гнеўна
І тэме рысу падвядзе.

Але апроч «так, так, і варта»,
Нічога болей не пачуў
І нават неяк вінавата
Прымружыў посмех уваччу.

Каб не цягнулася няёмкасць —
Наліў суседу леваруч
І, крутануўшы на ўсю громкасць,
У іншы бок даў слову рух.

— Ты што раскіс, мой мілы Зэлік?
Што глюгу звесіў над губой?
Давай, брат, — келіхам аб келіх!
Ці ж мы не родзічы з табой?

— Э-э, братка-братачка, каб мог я
Заразу гэтую глытаць —
Я б за здароўе бабы Зохвы
Быў рад і ў бутлі дна дастаць!

— Ты не зважай, што трохі шлакам
Ці дрывясінаю смярдзіць
Народ не гоніцца за смакам!
Народ на градусы глядзіць!

Ты ж ад прыроды мудрамыслы
І энергічны чалавек,
А вось не п'еш — таму і кіслы,
Як нечым скрыўджаны навек.

Эх, Зэля, Зэля, мілы Зэля!
Ты б лепшы быў з усіх сяброў,
Каб не баяўся гэта зелле
Пускаць сабе хоць трохі ў кроў!

— Хоць трохі я пусціў, хоць трохі!
Праз не магу, праз калаццё
Глынуў у гонар бабы Зохвы —
Каб ёй на доўгае жыццё!..

— Ах, значыць, выжлукціў кілішак?
Дык ты герой, брат, упаўне!
Запомнім гэта і запішам
Хоць качаргою на сцяне!..

Аднак жа годзе пра «глытанне»
І годзе ўвагі Вінцусю.
Тым больш што побач між братамі
Ідзе дыскусія ваўсю.

Антось-філосаф і Мікіта
За штось счапіліся не ў жарт.
Ну-ну! Чыё з іх будзе біта
І хто пакажа большы гарт?

Ого, на чым так не па-брацку
Яны скрыжоўваюць мячы:
Літаратуры і мастацтва
Іх сутыкнулі дзеячы!

— Аб іхняй творчасці я ў курсе,
І я далжон табе сказаць:
Ты брось! Тут дзела не ва ўкусе!
За жабры нада іх узяць!

Даволі ўжо качаць Машэку!
Даволі смех пускаць з пяра
І ўрэд прыносіць чалавеку —
Замест здароўя і дабра!

У наша ўрэмя, калі спутнік
Над светам космас баразздзіць —
Сатырапісцаў баламутных
Пазорам нада прыгваздзіць!

— За што ж, Мікіта? Праўда ў творах,
Якой бы горкай ні была —
Яна ніколі нам не вораг,
Не зло для нас і не бяда.

Як той папутны ў моры вецер,
Яна ўсёй сутнасцю сваёй
За нас — і больш за ўсіх на свеце
Мы зацікаўленыя ў ёй!..

Ну што, чытач? Відаць, філосаф
У ім абранай галіне —
Як той казаў — не з голых-босых
І нешта мае ў галаве?

Мікіту б лепей не спрачацца,
Ды хіба ён уступіць верх?
Калі не тут — то дзесь пры чарцы
Яшчэ свой пусціць «феерверк»!

Але мы спрэчку іх пакінем,
А лепш паслухаем крыху,
Як запрашае гаспадыня
Аддаць пашану пірагу.

— Ты ж піражка вазьмі, Барбарка!
Ой, крыўдзіш, кумка, даліпан!
Хоць пакаштуй, чаго ён варты —
Ці ўдаўся гэты марцыпан?

— Маўчы, кума, і не кажы ты!
Ну як вазьму я піражка?
Ці мой трыбух з трох полак сшыты?
Ці паўтара мяшка — кішка?

— На гэткі смачненькі кусочак —
Ты паглядзі: у мёдзе ўвесь! —
Яшчэ там знойдзецца куточак,
Бо застанецца — хто ж паесь?

— А ты, Рыгор? Ну — колькі змогі!
— Не, я мучнога не хачу:
Я ж не жанчына — я ж хоць трохі
Яшчэ за таліяй сачу!

— Каб ты з сваёю таляй спёкся!
Яшчэ і дражніць баб! Ты еш,
Пакуль, як кажа дзядзька Лёкса,
Стол жыватом не адапхнеш!

Ты б сам сябе акінуў вокам:
Усмяг і высах у сцябле —
Як тычка! Зломішся няўрокам —
То пасмяёмся мы з цябе!

— А хіба лепш, калі здаровы
І малады дзяцюк ідзе,
А той жывот — нібы ў каровы,
Што вось-вось двойню прывядзе?

Па-мойму, гэта непамысна —
Таўсцець ад лішняе яды.
І прымушаць гасцей да місы —
Як і жадаць ім зла-бяды!

— О, бачна — рос далёка дзесьці!
А ў нас судзіла так сяло:
«Было ўсяго — і піць, і есці,
Але — прымусу не было!..»

### *АДСТУПЛЕННЕ ПЯТАЕ — КУЛІНАРНАЕ*

*Што наша закусь у пашане*
*У знатакоў застольных страў —*
*Аб гэтым хораша ў Варшаве*
*Адзін наш сябра напісаў.*

*Цытую сцісла па газеце:*
*«Як журналіст і дыпламат*
*Я пабадзяўся шмат па свеце*
*І ўсякіх кухань знаю шмат.*

*Але якую б вы закуску*
*Мне ні даўмеліся назваць —*
*За «парася па-беларуску»*
*Аддам любую без развag!*

*О, млечны дзюдзік на талерцы!*
*Цалком засмажаны ў духу!*

*Ягоны вобраз будзе ў сэрцы,*
*Пакуль не стлею на труху!*

*О, як ляжыць ён маляўніча*
*На падагнутых капытках,*
*Задзёршы ўгору пекны лычык*
*З пахучай траўкай у зубах!*

*Як той анёлачак — румяны,*
*Са скуркай круххаю, ядкой,*
*І грэцкай кашаю напханы —*
*Не абы-як — абы-якой!*

*У кашы — яблычак мядовы*
*Ці ўпрэлы пахкі баравік!*
*Самлець нядоўга там, панове,*
*Калі к раскошы не прывык!*

*Я на прыёмах, у застоллях,*
*Прызнацца вам, і састарэў, —*
*А для душы сваёй раздолля*
*Нідзе такога не сустрэў.*

*Калі б я мог, то ў школах нашых*
*Каб падхапіла Польшча ўся —*
*Прадмет увёў бы: «Як засмажыць*
*Па-беларуску парася!..»*

*Што ж, знаць прыемна і не лішне,*
*Чым слаўны ў свеце родны край.*
*Ды ты, зямляча, не за іншым,*
*А за сабой паназірай.*

*Вось ты ў гасцях — і нават слоўца*
*Табе сказаць няма калі:*
*Вяндлінку з водарам ядлоўца*
*Мяцеш — зараз па два скрылі!*

*А побач — зірк! — як цуд, як казка —*
*З каляндрай, з перцам, з часнаком —*
*Ляжыць вясковая каўбаска,*
*Таксама ўвітая дымком!*

*К таму ж падсохла на гарышчы —*
*Дык толькі плеўка шапаціць!*
*Умэнт кальцо з паўметра знішчыў —*
*Адно раз'ятрыў апетыт!*

*Калі ж дапаў да вантрабянкі —*
*Цягаць стамілася рука!*
*Глядзіш — а ўжо кіндзюк крывянкі*
*На блюда выклалі з гаршка!*

*О, гэны зверху і сысподу*
*Наскрозь усмажаны каўбух!*
*За чатырох змалоў — уходаў!*
*(Хоць сам ты лічыш, што за двух.)*

*Паспеў адчуць, што ўжо не слабка*
*І ў паясніцы, — а на стол*
*Тым часам едзе ў місе бабка*
*І парай дыхае пад столь:*

*З бакоў запечаная ў меру,*
*У бульбе скварачкі тырчаць... —*
*І так жа ўслед пайшла на змену —*
*Хоць замычы — каб не маўчаць!*

*«Усё! — сказаў. — На гэтым дзякуй!»*
*А на абрус — нясуць бліны*
*І к ім — мачанку-верашчаку*
*З наборам рэбрачак свіных!*

*Хвіліну выстагнаў ты моўчкі:*
*«Дзе месца ўзяць? Патоўпіць дзе?»*
*І неўпрыкмет на два-тры вочкі*
*Паслабіў пас на жываце...*

*Ужо не здыхацца! Падпёрла —*
*Няйначай, крушня камянёў!..*
*А перад носам... ставяць цёрла*
*Гарачых, тлустых калдуноў!*

*Калдун!.. Духмяны, самавіты,*
*У масле ўсмяглы, а паўзверх —*
*Смятанкай свежаю паліты!..*
*Ну што? Ізноў глядзіш як звер?*

*І адчуваеш, адчуваеш:*
*Няхай хоць згэтуль у труну —*
*А не зганьбуеш, не стрываеш —*
*Дасі прытул і калдуну!*

*Дасі!.. І добра зробіш, браце!*
*І не ўпікай дарма сябе!*
*Ты за ядой — як і на працы:*
*На малацьбе ці на касьбе!*

*Калі на свеце нехта дзесьці*
*Умее добра працаваць, —*
*То ўмее ён і смачна з’есці*
*І — адпаведна — згатаваць!*

*Таму — дастойна, без эфекту*
*Прымай падзяку-пахвалу —*
*І беларускаму палетку,*
*І беларускаму сталу!*

*І цмокні ў ручку гаспадыні,*
*Каб сонцам пырснула яна,*
*І ўскінь яшчэ — а то астыне! —*
*Ускінь на сэрца... калдуна!..*

## ІСКРЫНКА

Калі аслабла ўжо цікавасць
І да пітва і да яды,
І, каб зусім не ўпасці ў млявасць,
На двор курнуць пайшлі дзяды, —

Тады і даў каманду хтосьці:
— Дзяўчаты! Бабы! Песні дзе?
Ці нас пазвала свята ў госці —
Ці мы сабраліся ў бядзе?

— Альжбета Францаўна! Сябрына
Не запяе без вас, дальбог!
— У гонар маці — песню сына! —
Напомніў важна Крутарог.

— «Дуброву», Францаўна, «Дуброву»!
— І мы паможам — пачынай!
Было відно, што спанарову
Тут песня ўсім. Пявучы край!

Сцяпан зірнуў усхвалявана:
Няўжо Альжбета будзе пець
Яго «Дуброву»? Нечувана!
Як гэткі дар і зразумець?..

— Цішэйце, бабы! Волька! Зіна!
Ішлі б кудахтаць за парог!..
— У гонар маці — песню сына! —
Гукнуў яшчэ раз Крутарог.

Застолле сцішылася, змоўкла,
Альжбета знак жанкам дала,
І вось — суладна, чыста, звонка
У вокны песня паплыла.

«Чарней, чарней, сястра-дуброва,
Чарнець з табой нам удваіх:
Ты па сваім лісці, дуброва,
А я — па лецейках сваіх.

Тваё лісцё, сястра-дуброва,
Зноў забуяе па вясне,
А мае лецейкі, дуброва,
Ужо не вернуцца ка мне...»

Запляскаў першы дзядзька Лёкса:
— А хай вам шчасцем Бог аддасць!
От гэта песня! Нават слёзка
На вока выбегла ў адказ!

Сцяпан устаў і да спявачак
Руку з кілішкам працягнуў:
— За талент ваш!.. За сэрца ваша! —
І так расчулена ўздыхнуў —

Аж заўсміхаліся міжволі
І з разуменнем госці ўсе.
А ён дадаў: — Здароўя школе,
Дзе моладзь з песнямі расце!..

Альжбета, мабыць, не чакала
Такой высокай пахвалы.
— За вас!.. — разгублена сказала. —
Мы ні пры чым тут... Гэта — вы...

Было ёй цяжка прынародна
Сваю збянтэжанасць схаваць,
І, каб пачуцца больш свабодна,
Гукнула: «Айда ўсе спяваць!»

І пачала. Бясконца — шчыра.
Суздром аддаўшыся журбе.
О, колькі можа нам жанчына
Сказаць у песні — пра сябе!..

«Закладайце, запрагайце
Коні вараныя:
Я паеду даганяці
Леты маладыя.

Як дагнала свае леты
Ў калінавым мосце:
— Вярніцеся, мае леты,
Хоць да мяне ў госці!

— Не вернемся, не вернемся
Мы да цябе ў госці:
Было табе шанаваць нас
Яшчэ з маладосці!..»

* * *

Як толькі змоўкнуў хор — у сенцах
Ураз завыў магнітафон,
І моладзь — дзе тут ёй уседзець! —
З застолля кінулася вон.

Артур Мікітаў за партнёршу
Мар'яну вывеў твіставаць.
Танцорам ён сябе не з горшых
Лічыў — па ўсім было відаць.

Віхляў спіной, круціў клубамі,
Пучыў жывот, плячыма трос
І апантана тоўк нагамі
Дашчаны вымыты памост.

Задраўшы нос (усіх касую!),
Ён горда выгукнуў з сянец:
— Айцец! Ты глянь, как я танцую!
Па-саўраменнаму, айцец!..

— А ўжо ж! — зазначыў дзядзька Лёкса,
З Вячоркам стоячы ў дзвярах. —

Чым больш свайго сцураўся-зрокся,
Тым больш сучасны, вертапрах!

Танцуеш толькі для прыліку —
Катлеты выйшаў утрасаць!
Шкада: не клікнулі музыку
Што-небудзь наскае сыграць,

А то б, дальбог, назло балбесам,
Не паглядзеў бы на гады —
І ўшпарыў польку з «падкіндэсам»,
Каб аж раззявілі раты!

Сцяпан, скажы ты мне, старому:
А нашы танцы ў свет пайшлі?
Ну «Крыжачок» ці, скажам, «Ойру»
Дзе-небудзь скачуць на зямлі?

Ці нас Еўропа абдурыла,
Ці самі мы... А крыўдна нейк,
Што скрозь — ад Буга да Курылаў
Усе мы скачам твіст і шэйк!..

Сцяпану ў Лёксавай асобе
Быў люб народны педагог.
— Спыталі б, дзядзька, тымчасове
Пра што лягчэйшае, дальбог!

Не чуў, не бачыў, каб у модзе
Наш «Крыжачок» быў між людзей.
Пайду дыхну на прахалодзе! —
Міргнуў ён Лёксу весялей.

* * *

Сцяпан стаяў каля штыкету,
Дзе шыкаваўся куст вяргінь,
І думаў... Не, не пра Альжбету
І не аб даўнім-дарагім.

Ён рады быў, што не чапала
Яна той лёсу прыгавор.
А думаў ён... І нечакана
Мар’яна выбегла на двор.

Сцяпан знячэўку аж падаўся
Насустрач ёй — на нейкі крок.
— Натанцаваліся? — спытаўся
Бадзёра, гучна назнарок.

— Ён выпіў шмат і скача брыдка.
Ды і наогул... пустапляс! —
Сур'ёзна, проста і адкрыта
Мар'яна мовіла ў адказ.

Вячорку ўразіла, як строга
Яна гатова зло судзіць.
— А я тут... згледзеў кветак многа,
Якія спрэс паспеў забыць.

Вы не паможаце, Мар'яна,
Мне іх імёны прыгадаць?
— Не знаю... можа, я таксама
Усіх не здолею назваць.

— Вось гэту помніце? Вяргіня!
— Вяргіня? Часам не з княгінь?
А як па-бацьку? — Жарт дзяўчыне
Дапаў — падаўся неблагім.

— Па бацьку будзе Тамашоўна —
Тамаш Якубавіч садзіў! —
І засмяяліся раптоўна
Абое — хораша наўздзіў.

Іх шчыры смех пачула Анця,
Альжбету выманіла ў двор,
Шапнула: — Францаўна, пагляньце:
Па-мойму, пара — на падбор!
Ну чым не зяць? А нам — нявестка!..

Альжбета смыкнула губой
І абарвала Анцю рэзка:
— Ён у бацькі гадзіцца ёй!

А на душы ў самой заскрэбла.
«Яму на выгляд — трыццаць пяць,
І нават менш... Жаніх — што трэба!
Дык і папраўдзе: чым не зяць?

Сабраны, стройны, маладжавы,
Яшчэ зусім без сівізны
І ўжо — вядомы, паважаны...
Аб чым так гутарацць яны?

Што разглядаюць за штыкетам?
Напэўна, кветкі... Мілы госць,
Ты пагарджаеш этыкетам:
Вы — не адны: тут людзі ёсць!

Дай повад ім — не абярэшся
Пасля ад плётак і размоў.
Дый я таксама ёсць, нарэшце...
І я скажу дачцэ: дамоў!

Я ж, можа, маці? Ці, па-твойму,
Ужо ніхто я? Здань? Марб?..»
І — не сказала... а раптоўна —
Сама цішком пайшла з двара.

Пайшла, прыдушаная крыўдай,
Ад болю сцяўшыся, пайшла.
Ніхто не чуў, як немым крыкам
Крычала ўся яе душа.

Паспакайнела нечакана
Ужо ля дому, ля варот.
«А ён... ці знае, што Мар'яна —
Мая дачка? Мой горкі плод?..

Ды не, напэўна!.. Бо каб ведаў...
Як і Мар'яна... Знаць бы ёй!..
Ад усяго ўтаіла свету
І ад яе... Дачкі сваёй...»

Хвілін праз колькі пісьманосец
Гукнуў Мар'яне як грамчэй:
— Эгэй, паненка! Маці просіць,
Каб ты дамоў ішла хутчэй!..

«Паненка» ўраз пачырванела:
Ах, гэты мамін недавер!
І што за прыхамаць-манера
Гукаць дамоў... якраз цяпер!..

— Прабачце мне... Да пабачэння!
— Да пабачэння! — адказаў
Вячорка не без засмучэння.
Глядзеў услед ёй і маўчаў.

Ужо выходзячы за брамку,
Мар’яна ў пальцах трапяткіх
Прызатрымала трохі клямку
І — азірнулася на міг.

Ды хоць і быў зусім кароткі
Той міг, той скрадзены пагляд, —
Іскрынкі ўбачыў ён усё-ткі
У двух карычневых вуглях!

А можа, так яму здалося,
Што сам адчуў, як смутак-жаль
Па тым, што колісь не збылося,
Іскрыць, каб выклікаць пажар?

Што сэрца думкай пранізала:
«Няўжо, аблытаўшы калісь,
Жыццё навек цябе звязала
І ты не ўскрыліш зноў увысь?

А гэта шчасце, на якое
Ты маеш права, як і ўсе —
Неспадзявана маладое,
У весняй квецені-красе?

А гэты позірк — ясны, чысты,
Не замутнёны анічым —
Як ранак сонечна-іскрысты
У росных россыпах лагчын?

Хіба не гэткаю дзівоснай
Ты бачыў мару кожны раз?
Ці не яе пазнаў ты проста —
У рэшце рэшт, у добры час?..»

Сцяпан хацеў пабыць сам-насам,
Ды выйшаў з хаты дзядзька ў двор:
— Прабач: курцы, відаць, калгасам
Твой раздымілі «Беламор»?

— Яшчэ не ўвесь: узяў з разлікам,
Каб і курцам было і мне.
— Тады цягні, няхай ён ліхам,
Усё ж чужы прыемней тхне!

Пусцілі дым. — Пайду-тка ў пуню
Ды паляжу крыху, плямеш.
Як ні храбруся, ні жартую —
А сілы ў целе — менш і менш.

Змарыўся, Сцёпачка, змарыўся,
Выдаткаваўся да асноў.
І толькі з крыўдай не зміррыўся,
Што гáды плодзяцца ізноў.

## КУПАЛЬСКІЯ ВАСІЛЬКІ

Як хутка ўсё наўкол заціхла:
Дзявочы смех, дзіцячы крык,
Агідны вуркат матацыкла,
Ля нейчай студні корбы скрып...

А быў жа час: купальскай ноччу
Не спалі ў вёсцы да зары —
Ганялі ведзьму-патарочу,
Агні палілі на гары,

Спявалі песні і скакалі,
Вянкі пускалі на ваду
І кветку-папараць шукалі —
З жыццём і доляй не ў ладу...

Нічога з колішняга свята
Не засталося ўжо — няма.
«А раз няма — праблема знята.
Зняла гісторыя сама!»

Цытата гэтая ў Сцяпана
Сядзела ў чэрапе, як косць.
«Праблема знята для васпана,
А для мяне — праблема ёсць!

Вось — не палілі вогнішч хлопцы,
Вянкоў дзяўчаты не вілі —

Дзень цэлы дзюбалі па стопцы
І, ачмурэўшы, спаць ляглі...»

Вячорка, седзячы на лаўцы,
Курыў так прагна, бы ў запас,
І ўжо хацеў было падацца
На вышкі ў пуню — самы раз! —

Калі пачуў, што нехта вулкай
Ідзе ад школы ў гэты бок:
Абцасы тахкаюць нягулка
І часта — лёгкі, шпаркі крок.

Вячорка ўраз насцеражыўся,
Ператварыўся ўвесь у слых,
Разгледзеў постаць, падхапіўся
І зноў замёр, стаіўшы дых.

Яго заўважылі таксама —
І замарудзілі хаду.
«Няўжо яна? Няўжо Мар'яна?
На шчасце мне ці на бяду?»

А постаць круць! — і шыбкім крокам
Назад — у морак-цішыню.
— Пастойце! — выгукнуў Вячорка. —
Я ўсё адно вас даганю!..

Нібы дзяцюк, рвануўся з месца
Ступой сажнёвай наўздагон.
Яна — стаяла. Дзе ж ёй дзецца,
Калі пазваў не хтось, а ён!

— Вы што пусціліся наўцёкі,
Як бы я звер, што з'есць ураз?
І ён пачуў уздых глыбокі:
— Я не чакала ўбачыць вас...

Я толькі думала: прайдуся,
Бо спаць не хочацца зусім...
Балючай марай светла-русай
Яна стаяла перад ім.

Той сон пакутлівы, што сніўся
І вабіў цягам доўгіх год —
Яму здалося: раптам збыўся,
Зрабіўся явай для яго.

— А што — вас мама адпускае
Адну так позна са двара?
— Не, я сама... Яна не знае,
Яна б дазволу не дала...

— Дык вось якая вы, Мар’яна! —
Ён адабрэння не ўтаіў. —
Што ж, раз абоім спаць нам рана,
Дык мо і пройдземся ўдваіх?

Як, згода? — Згода. — Малайчына!
Які ж маршрут мы абяром?
Яна пацiснула плячыма:
— Не знаю... Хораша кругом!..

— За вёску, можа, у жытное,
Дзе ціша долы спавіла?
— Ага, за вёску. Так даўно я
У полі ноччу не была!..

Вячорка глянуў на кафтанік:
— А не прастудзіцеся — так?
— Ды што вы! Я — з загартаваных.
Мне гэткі холад ані ў знак!

— Будзь блаславёна тая сіла,
Што вас прымусіла ўцячы!
Айда шукацьма, дзе згубіла
Зара вячэрняя ключы!

А раптам знойдзем? Вы не супраць,
Каб мы знайшлі іх дзесьці тут?
На вашу мілую прысутнасць
Я запісаў бы гэты цуд!

— Ключы у возеры ўтанулі,
Іх месяц знойдзе давідна...
А што б вы імі адамкнулі? —
Цяпер спыталася яна.

— Я адамкнуў бы імі дзверцы
Той студні ў вотчынным двары,
Адкуль сабе натхненне ў сэрца
Бяруць музыкі й песняры.

Я ўжо даўно адтуль не чэрпаў,
Не даставаў жывой вады...
— А без ключоў зары вячэрняй
Вы не дасягнеце туды?

— Не, нават нечага і марыць.
Ключы патрэбны мне, ключы!..
Яна задумалася, мабыць, —
Маўчала, побач ідучы.

Маўчала ноч. Маўчала неба.
Свяціўся месяца паўкруг.
Калматай коўдрай бела-срэбнай
Засланы быў прырэчны луг.

З лагчыны ўезджаным прасёлкам
Да ўзгорка крочылі яны,
І вось у твар дыхнула цёплым,
Адвечным духам збажыны.

І перапёлка ў прывітанне
Ім пракрычала: «Жаць пара!»
Жаданай тайны прадчуванне
Было ім за павадыра.

— Скажыце мне, а што павінна
Лічыцца шчасцем у жыцці?
— Па мне — з найлепшаю жанчынай
Вось гэтак поручкі ісці.

І знаць: яна цябе кахае,
Як ты яе — усёй душой,
І што за лёс вас ні чакае —
Табе не зробіцца чужой...

— І ўсё? — спынілася Мар'яна.
— І ўсё!.. — А творчасць? А тварыць?
— Тварыць — штодзённа, апантана —
Для чалавека значыць — жыць...

— А ці не шчасце — поспех, слава,
Прызнанне публікі? — О не!
Усё, што слава — нецікава.
Ва ўсякім разе — для мяне.

— Але яна ў вас ёсць, аднак жа,
І без яе ўжо вы — не вы.
— За гэта час, відаць, адкажа —
Маёй нямнога тут віны...

Мар'яна, гладзячы рукою
Па шорсткай грыве каласоў,
Крутнула русай галавою:
— Не, вы віноўнік перш за ўсё.

Адной той песні, што ў застоллі
Сягоння спелі дзеля вас, —
Адной яе было б даволі,
Каб не ўскладаць віну на час...

Прабачце мне, што я, магчыма,
Бяру занадта смелы тон:
Я вам удзячна, шчыра-шчыра,
За гожы талент ваш і плён!

Я вашу музыку звычайна
Па першых гуках пазнаю,
Што нейкай сілай ачышчальнай
Душу ў палон бяруць маю.

Пачую раптам, выпадкова —
І ўся, да клетачкі адной,
Замру ад нечага такога,
Што лучыць з вечнасцю самой.

І родны кут адразу ўбачу —
У светлых днях жыцця свайго.
Знямею, слухаю і плачу —
Сама не ведаю чаго.

Ад шчасця, можа? Ці ад болю?
Ад крыўды той за нас саміх,
Што краю роднаму з любоўю
Не аддаём свой кожны міг?..

Мар'яна ўся ажно трымцела,
Уся пылала перад ім.
Не гаварыла — песню пела,
Найсветлы ў свеце пела гімн!..

Сцяпан глядзеў зачаравана
У малады прыгожы твар.
— Дык вось якая вы, Мар'яна!
Які вам выпаў божы дар!

А я не знаў, што вы такая.
Што вы наогул... недзе ёсць...
Што ў роднай вёсцы напаткае
Мяне нанова... маладосць!

Я скалясіў не раз, не двойчы
Удоўж і ўпоперак наш край:
Як часта радасць біла ў вочы —
Глядзі, любуйся, выбірай!

І я глядзеў, і любаваўся
Жыцця найпекнаю красой,
А выбіраць — не парываўся:
Зайздросны лёс, але — не мой!..

Сцяпан адчуў: сусвету веліч
І міг — зліваюцца ў адно.
Ён быў зусім гатоў паверыць,
Што вось і шчасце, вось яно!

— Дазвольце, я вас пацалую, —
Сказаў даверліва, як мог...
Жагнай, жагнай напрапалую,
Калі ты ёсць, купальскі бог!

Цямніся, ноч! Світай, світанне!
Ярыся, сонца! Днейся, дзень!
Любві і згоды панаванне
Яднае з веку свет людзей.

А розум ставіць спасцярожна
Непераступнае «ледзь-ледзь»...
— Сцяпан Якубавіч... ці можна
Адну вам песню вашу спець?

Я — напаўголаса, нягучна...
— Ды калі ласка! Буду рад!
— Даўно са мною неадлучна
Яе высокі, чысты лад...

Мар’яна стала строга, сціпла
Перад маўклівай збажыной —
Як перад залай чуйна сціхлай
У ззянні зорнасці начной.

«Прыйдзі — як снег на квецень маю,
Прыйдзі — як бура на зямлю, —
Не страшна мне, бо я — кахаю,
Не скрушна мне, бо я — люблю.

Я ўсё сцярплю, я ўсё стрываю
І ўсё навек благаслаўлю —
Адно адчуй, як я кахаю,
Адно спазнай, як я люблю.

Ці зладжу я з сабой — не знаю,
І аб адным цябе малю:
Не папракай, што я кахаю,
Не праклінай, што я люблю...»

Чым шчаслівей Мар’яна пела
(Так — раз пяецца на вяку!) —
Тым больш расла ў яго, мацнела
Трывога: што гэта? адкуль?

Яшчэ ў студэнцкім інтэрнаце
Ён напісаў яе... Пазней —
У іншым, новым варыянце —
Пусціў на волю, да людзей.

Яе не часта людзі пелі.
Не дзіва: песень — мірыяд!
Цяпер ён слухаў ва ўтрапенні
Забыты першы варыянт!

Адна душа на ўсю планету
Калісьці ведала яго!..
Спытаў ледзь чутна:
— Песню гэту...
Пераняла вы... ад каго?

— Ад мамы!..
— Значыць, вы, Мар’яна —
Альжбеты Францаўны... дачка?!
Усё было так нечакана —
Як з неба гром без аблачка.

— Дачка!..
На міг сцяло, здавіла
Яму ў грудзях — не прадыхнуць.
— А што вас гэта... так здзівіла?
— Вы... не падобныя нічуць!..

Ён знаў, ён помніў, што Альжбета
Ад мужыка пайшла з малой.
Але што кветка-цуд вось гэта —
Яе крывінка?.. Божа мой!

Хвіліну цэлую балесна,
Вачэй не зводзячы, глядзеў.
— Дык вось якая наша песня! —
Сказаў працягла, нараспеў.

Мар'яна зразу ж улавіла,
Што нешта сталася, але ж —
Ёй так хацелася шчасліва
Абняць увесь прастор-бязмеж!

І так паверылася моцна:
Жыццё для шчасця існуе, —
Што усумніцца хоць на момант —
Было б забойчым для яе!..

— Світае ўжо... Раса ірдзіцца...
Я пабягу... А вы — пасля.
Са мною разам не ідзіце —
Убачыць можа хто здаля...

Сцяпан цяпер адно заўважыў,
Што ноч радзее пакрысе.
— Я... буду помніць словы вашы!
І слухаць песні вашы ўсе!..

Ужо адбегшыся далёка,
Яна спынілася, затым
Звярнула ўбок і ў момант вока
У жыце канула густым.

«Там нацянькі, відаць, сцяжына», —
Падумаў ён — і неўпапад:
Мар'яна вынырнула з жыта
І стрымгалоў бяжыць назад.

Падбегла — быццам бы з купання:
І нос, і лоб, і валасы,
І дужкі броў — усё дазвання
У срэбных кропельках расы!

Расой намоклі чаравічкі,
Спаднічка зрошана з бакоў.
А каля сэрца — невялічкі
Букет купальскіх васількоў!

Няйначай, цуд прыроды нейкі,
Сатканы з росаў, перад ім.
— Вось, — падала Сцяпану кветкі, —
Аб роднай ніве на ўспамін...

— Ты змокла ўся, — сказаў ласкава.
Яна ўсміхнулася: — Дармо!
І засаромлена спытала:
— Вы мне напішаце пісьмо?

Хоць два радкі, як болей нельга...
— Хоць два радкі, — кіўнуў Сцяпан.
— Да пабачэння! — і пабегла
У шызы досвітны туман...

* * *

Альжбета Францаўна паспала
Зусім не шмат — гадзіны дзве.
Пасля гасцей — чамусь абвяла,
І боль азваўся ў галаве.

Спачатку думала з Мар’янай
Пагаварыць і ўсё сказаць —
Чаму ёй стала так пагана
Ад жарту Лёдзі: «Чым не зяць?»

Адкрыцца ўвогуле начыста:
Чым столькі год яна жыла —
Якой пакутаю цямрыстай,
Якой іскрынкаю святла!

Але адчула, што не зможа —
Душа зайшлася палыном.

Аддасць хай трохі... Легла ў ложак
І знемаглася цяжкім сном.

Што ёй прыснілася — не помніць,
Але прачнулася яна,
Адчуўшы страх, якраз у поўнач,
Пры пасках месяца з акна.

«Мар'яна!» — рэзкі боль нясцерпны
Апёк раптоўна, як агнём.
Яна ўсхапілася з пасцелі
І — за пярэгарадзь кулём.

Убегла, шырму адхінула —
І дых Альжбеце заняло,
Здавіла так — аж пахіснула:
Мар'яны ў ложку не было!..

— Мар'яна! — клікнула. — Мар'яна!
І зразумела, што дарма:
Пасцель была не рассцілана.
Дачкі няма! Яе няма!..

Душу здагадка апаліла:
«Мар'яна з ім! Канешне — з ім!»
І, страшна ўсхліпнуўшы, завыла
Альжбета ў цераме сваім.

Яна не плакала — канала,
Слязьмі давілася ўзахліп
І рукі роспачна ламала
Перад бяздушным ззяннем шыб.

Няўцямна выйшла на падворак,
Да весніц моўчкі падышла.
«Маё ж дзіця мне будзе вораг —
Вось да чаго я дажыла...»

Світала. Шызы морак плыўкі
Сплываў у закуткі на дзень.
У скроні білі дум абрыўкі:
«Усё... Ніякіх больш надзей...

Нічога больш... Надзей, уласна,
І не было... А што ж было?
А што ж раптоўна так пагасла,
Суздром рассыпаўшыся ў тло?

Магчыма, памяць, што трымала
Душу на нітачцы жывой?
Цяпер і памяць не стрывала —
Ён нават там ужо не твой...»

Ды вось пачуўся быццам шорах.
У сэрцы тахнула: «Яна!»
Ну, так: сцяжынкай на падворак
Яе дачка ішла з гумна.

Але ішла Мар'яна дзіўна —
Як бы гуляючы з сабой:
То рукі белыя карцінна
Счапляла ўшчэп над галавой,

То нагіналася, зрывала
Травінку, можа, ці лісток,
Да губ прыклаўшы, цалавала
І адкідала тут жа ўбок...

Альжбету згледзеўшы ля ганку,
Яна апомнілася ўміг:
«Ой, будзе мне за прагулянку!
Ой, мама, што ў вачах тваіх!..»

Акамянелы, пастарэлы,
Якісь нядобры і чужы
Быў матчын твар, нязвыкла белы
У дня і ночы на мяжы.

— Ты з кім бадзялася, бадзяга?
— Не трэба, мамачка, пасля...
Альжбеце раптам стала блага:
Спаднічка зрошаная ўся.

— Ты на яго забудзь адразу ж! —
Сказала тонам ледзяным. —
І калі ўздумаеш пра замуж —
То знай: з любым — але не з ім!..

Мар'яна войкнула, замёрла,
Губу падціснула губой
І моўчкі, горда, непакорна
Глядзела ўдаль перад сабой.

Але не бачыла нічога
Праз слёз гарачую імглу,
Апроч усмешкі засмучонай
Ягоных воч, ягоных губ...

А потым кінулася ў хату,
Упала ніцма на пасцель
І доўга трэслася ад плачу —
Ад чорных дум між белых сцен.

* * *

Ці быў хоць дзень адзін, Вячорка,
А ці была хоць ноч адна,
Каб у самотнасці агорклай
Цябе не ўспомніла яна?

Каб не падумала парою:
Хоць дзесь на тысячнай вярсце,
Хоць за апошняю гарою —
А лёс усё-такі звядзе!..

І звёў... «Прыслухаўся», нарэшце,
Да крыку змучанай душы —
І звёў... Узрадуйся, уцешся
І шчыра «дзякую» скажы.

Лёс абышоўся больш чым злосна.
Ударыў так, што не стрываць.
Свая ж дачка... Пакуль не позна —
Іх стрэчы трэба абарваць!..

Яе вяло на двор знаёмы
Зусім не злосці пачуццё —
Сляпая роспач, страх няўёмны:
Куды ж крутнулася жыццё?

Як лёс прыдумаць мог такое,
Што, нібы торбу ў жабрака,
Усё ў яе найдарагое
Адыме родная дачка?

Што раптам згасне гэткім чынам
Апошні променьчык надзей...

І дзе пакут яе прычына —
Не волен знаць ніхто з людзей.

Крый бог, каб ён або Мар’яна
Штось западозрылі... Каб ён...
Ён, для якога заарана
Сцяжынка ў край юнацкіх дзён.

Ён, для каго Кудзёлка Аля —
Як фільм, што калісь перажыў.
Забыта так, што ў ноч Купалля
Яе дачку прываражыў!

У гэткім роспачным настроі
Яна ішла прасіць яго,
Каб ён пакінуў у спакоі
Мар’яну — толькі і ўсяго.

Каб ён знайшоў прыдатны спосаб
І даў дзяўчыне зразумець:
Пасля купальскай ночы ў росах
Патрэбна ёй працверазець...

Альжбета Францаўна застала
Вячорку ў хаце. Штось чытаў
І быў уражаны нямала
Яе прыходам: не чакаў.

Ці мо адразу першы позірк
Усё сказаў яму? Бадай...
— Ну, што спынілася ў парозе?
Праходзь далей, прашу: сядай!

Падаў ёй крэсла. Госця села
І, склаўшы рукі ў падале,
Глядзела моўчкі, анямела
На кветкі ў шклянцы, на стале.

На васількі, што калісь звыкла
Душу ўздымалі над зямлёй,
Што як прысуд, як лёсу выклік
Цяпер стаялі перад ёй...

— Сцяпан Якубавіч, хачу я
Табе бяду сваю адкрыць.

Няхай душа твая пачуе,
Як мне нялёгка гаварыць.

Яна — зялепуха, дурная,
Хоць у яе ўжо і дыплом.
Людскога зла яна не знае,
Узросшы ў маці пад крылом...

— Ты пра каго? — Я пра Мар'яну.
Яна з табой была ўначы.
Ты даў ёй выпіць дурнап'яну,
І ты мне мусіш памагчы...

— Ах, вось пра што ты! — усміхнуўся
Вачыма сумнымі Сцяпан.
Зніякавеў. Панік. Прыгнуўся.
— Ты лічыш: гэта дурнап'ян?

— Так, гэта проста ачмурэнне,
Яна ж уся — як не свая.
Прабач, ты робіш вельмі дрэнна:
Усё ж старэйшы ты ўдвая.

Ты шчасця мець замала будзеш —
Як не апомнішся, павер!
Адно жыццё ёй збаламуціш
Ды, дзякуй, мне ўкароціш век...

Не знаў Сцяпан, якая драма
Якім агнём у ёй смыліць,
Што ў ёй дасюль той май, як рана,
І крываточыць, і баліць.

Што ўчора, першая ж хвіліна,
Калі спаткаліся яны,
Яшчэ выразней праявіла
Далёкі вобраз той вясны...

Не знаў ён гэтага, ды бачыў:
Усё ў ёй стала на дыбы!
Сказаў: — Дарэмна вінаваціш:
Не прынясу я вам бяды.

Сказаў спакойна, у астудзе,
Удзячны лёсу, што сцярог.
І паўтарыў: — Бяды не будзе.
А шчасце... Шчасця — дай вам Бог!.

— Бяда ўжо ёсць! — Альжбета рэзка
Згарнула пальцы ў кулачкі
І апантана ўстала з крэсла:
— Сцяпан, не руш маёй дачкі!

Знайдзі да нас у сэрцы літасць —
Як брата роднага, прашу!
Малю найшчыраю малітвай:
Не даканай маю душу!

Даруй! Ты быў мой бог, мой віцязь —
Дык не пазбаў мяне жыцця:
Не дай, не дай мне ўзненавідзець
Маё адзінае дзіця!

Калі ж, не ўстыджаны ўчарашнім,
Яе ты ўцягнеш у капкан —
Праклёнам маці самым страшным
Я пракляну цябе, Сцяпан!..

Узрушна выпаліўшы гэта,
Запалымнела, як агонь,
І — за парог. — Чакай, Альжбета! —
Гукнуў Вячорка наўздагон.

Але яна, хоць і пачула,
Не запынілася ў дзвярах,
Паўз вокны ценем мільганула
І ў вулку выбегла з двара.

Сцяпан стаяў, маўчаў паніклы.
Зацяўшы нерваў вузлякі.
А на стале — як лёсу выклік —
Сінелі кветкі-васількі.

### *АДСТУПЛЕННЕ ШОСТАЕ — ПЕДАГАГІЧНАЕ*

*Хлеб... Чорны, белы, шэры, сітны.*
*З чарэні хлеб і фармавы.*
*Хлеб — мой і твой, яго і ўсіхны.*
*Ні для каго — не дармавы.*

*Хлеб... Аржаны, аўсяны, ячны.*
*З дамешкам бульбы і з гірсой.*

*Хлеб... толькі смачны, вечна смачны —*
*Калі зароблены і свой.*

*Хлеб кмінны, з рошчынай-закваскай,*
*І — прэсны, пышны, на дражджах.*
*Самой зямлі цяплом і ласкай*
*П'яніць ягоны водар-пах.*

*Хлеб — у дзяжы і на лапаце,*
*На подзе ў печы, на стале.*
*І на далонях шчаснай маці,*
*Што дзецям лусты раздае.*

*Хлеб... Не за свой загар румяны,*
*А за святло, што ў душы нёс,*
*У песнях з сонцам ён зраўняны,*
*Як цар зямлі — з царом нябёс.*

*О, як ён клаўся, свежы бохан,*
*На бел абрус ці на рушнік!*
*І пры размове нават з Богам*
*Так не свяціўся працаўнік.*

*Хлеб... Хай пляткараць у пляткарні,*
*А я скажу: ніякі дух,*
*Як той, што ўночы тхне з пякарні,*
*Ва мне не родзіць столькі дум.*

*І так не будзіць успаміны*
*Пра перажытае калісь,*
*Што і да самай дамавіны*
*На дне душы не адбаліць.*

*Хлеб... Пайка ўвелічкі з васьмушку —*
*На восем душ, на цэлы дзень, —*
*І ні прываркі, ні прытруску*
*Ані на грам — ні скуль-нідзе!*

*Хлеб... Як збавенне ў хату несла*
*Вясна ажымкі-праснакі —*
*З гнілое бульбы перамерзлай*
*І травяной трухі-мукі...*

*Хлеб... Чуў салдат бяссмерця прысмак,*
*Калі з кішэні шыняля*

*Вымаў усохлы недагрызак*
*Скарынкі — чорнай, як зямля...*

*Вось гэткі быў ён — наш салодкі*
*Надзённы хлеб у грозны час.*
*І з ім мы выстаялі ўсё-ткі —*
*Каб нашай волі сцяг не згас!*

*За Перамогу ваявала*
*І тая скібка, што ў сірот*
*Ад рота маці адрывала,*
*Каб не аслаб без хлеба фронт.*

*Было — такое — на планеце!*
*І не віна тут мацярок,*
*Што сёння іх нашчадкаў дзеці*
*Не ўсюды помняць гэты ўрок.*

*Што нехта гібла-раўнадушны,*
*Хто зерня з роду не ласкаў,*
*Ад сытай роскашы аглухшы,*
*Не чуе хлеба горкіх скарг:*

*Таго, што ў полі ад знямогі*
*На дол цярушыцца, на дол —*
*Дажджу асенняму пад ногі,*
*А не на бел абрус, на стол;*

*Таго, што ўжо і на абрусе*
*Пакрасаваўся, а цяпер —*
*Ляжыць на сметніку, у брудзе,*
*І мохам-плесняю цвіце...*

*О, хлеб наш, хлеб! Хоць і няўдзячны,*
*Нярупны множыцца ядок —*
*Заўжды жаданы, вечна смачны*
*На свеце будзе твой кусок.*

*І аж дакуль Зямлі зялёнай*
*Трымцець на лёсу цеціве —*
*Найпершым клопатам надзённым*
*Тут будзе клопат пра цябе.*

* * *

*Даруй, чытач, што азадачыў:
Ты па радках маіх прабег,
А педагогікі — не ўбачыў:
Усё — пра хлеб, адно пра хлеб...*

*Ну, так, пра хлеб... Але дакорам
Ты не спяшы мяне пырнуць,
А паспрабуй углыб, у корань
Навукі школьнай зазірнуць.*

*Ці не даволі верыць слепа
Той педагогіцы, браток,
Што пачынаецца не з хлеба,
Не з мазаля бярэ выток?*

*Мо годзе фікцый і абстракцый?
Без працы — школе грош цана!
Каб чалавек душы не страціў —
Ёсць педагогіка адна:*

*Вучыць любові і пашане
Да хлеба труднага ў жыцці.
А мы? Што славім? Што ўзвышаем?
Пра што пяём, бы ў забыцці?*

*Каму спрыяем і наровім?
Каго гадуем? Спажыўцоў?
А як жа хлеба ім наробім
Мы — без аратых і жняцоў?*

*Ты за экранам сочыш зрэдку?
Прызнайся: згледзеў там хоць раз,
Як дзеці ў полі рвуць свірэпку
Ці гоняць статак на папас?*

*Не згледзеў, брат! Затое з рання
І аж да вечара — штодзень
Ты можаш бачыць на экране
Маленькіх скачучых людзей.*

*Пяюць і скачуць — усе чыста!
Такое ўражанне парой —
Што нам мільёнаў сем артыстаў
Паставіць сёння ж трэба ў строй!*

*Я разумею, разумею —*
*Уздым культуры, рост патрэб...*
*Але... з іх кожны мае жменю —*
*І жменя цягнецца па хлеб!*

*Без хлеба скачацца не надта!*
*А хлеб буханкай не расце:*
*О, колькі трэба, каб з зярнятка*
*Падняўся колас у расе!*

*Так патрабуе ўжо ў калысцы*
*Дагляду мудрага дзіця,*
*Каб у жыццё аратым выйсці.*
*А не нахлебнікам жыцця!*

## ВЕЧАР У ПОЛІ

Да працы прагны, дуж і спрыцен,
Сягоння зноў апошні круг
Тамаш зрабіў амаль упрыцем,
Калі ўжо дзень даўно патух.

Матор прывычна заглушыўшы,
Саскочыў долу, на пракос, —
Глядзіць: Сцяпан шыбуе шыбка
Па канюшынішчы наўскос.

— Сілком забраць цябе хачу я, —
Сказаў з усмешкай уваччу.
— Не бойся: тут не заначую —
Вячэры я, брат, не ўпушчу.

Дамоў ішлі — спачатку «сценкай»
Між двух палеткаў, а затым —
Цераз бярэзнік, вогкай сцежкай,
Праз роў з альшэўнікам густым.

— Вось тут, ты помніш, з-пад узроўя
Крынічкі білі — побач дзве.
Вада была — залог здароўя!
Глынеш — святлее ў галаве!

Няма ўжо іх... Ва ўсім наўколлі —
Нідзе няма ўжо ні адной.

Кароў і тых пастух у полі
З карыта поіць — прывазной!

Ну, растлумач мне, калі ласка,
Ты ўсё ж вучоны, чорт вазьмі:
Як выйшла гэткая няўвязка
Паміж прыродай і людзьмі?

Бяром выдатныя ўраджаі,
Жывём — дай божа! Грэх маніць.
А тых крынічак — не хапае,
І іх нічым не замяніць.

Бывае, млееш у кабіне
Ад духаты, гарачыні —
І забулькоча ва ўспаміне
Струмень крыштальнай чысціні.

З якою радасцю прыпаў бы
Да ручайка — зрабіць глыток!
Як смачна твар апаласкаў бы!
Як адышла б душа, браток!

Ды іх няма!.. Без іх жа дару
Не тыя ўжо лажкі, раўкі,
І ўвесь куток, дзе гаспадару,
Якісь для сэрца не такі!

А ці ж я тут ару і сею
Без сэрца? Робат я хіба?
Усё, здаецца, разумею,
А вось... грызе парой журба.

— Прывыкнеш, брат... Пытанне часу.
Сяло не будзе без вады.
Не ўсё ільга зрабіць адразу —
На штось спатрэбяцца гады.

Ты сам, паколькі ты не робат,
Праб’еш тут колькі свідравін,
Калонак з помпамі наробіш —
І свой заглушыш успамін.

— Наўрад ці я калі прывыкну!
От дзеці, — дзеці — іншы сказ.

Іх не паілі мы крынічнай
Жывой вадой — як калісь нас.

Ім прывыкаць і непатрэбна
Да перайначанай зямлі:
Усё, што добра тут ці дрэнна,
Яны з калыскі прынялі.

Яны не ведаюць, напрыклад,
Што значыць летняю парой —
У самы сквар, у самы прыпар —
Крынічка ў полі пад гарой.

Але аднойчы ўбачаць дзесьці —
Уцямяць, што гэта за цуд, —
І ў горкай крыўдзе нашы дзеці
Нам страшны вынесуць прысуд.

«Чаму, за што вы нас, спытаюць,
Такіх пазбавілі даброт?..»
Бацькі дзяцей не абкрадаюць —
Спакон было так, з роду ў род!

А свідравіны... свідравіны —
Мы робім іх ужо даўно.
Прыедуць хлопцы-здаравілы —
І ў пекле, брат, дастануць дно!..

Сцяпан любіў гаворку брата —
За вастрыню, дасціпнасць, соль;
Хоць груба скажа — але трапна,
Хоць рэзкі выраз — але свой.

Пасля хадульных, посных, плоскіх
Клішэ, што ў коле чуў сваім, —
Ён слухаў мову роднай вёскі,
Як райскі спеў, як боскі гімн.

І сам вяртаўся непрыкметна
Душой ва ўлонне хараства,
Што тут жыве спакон, спрадвечна,
Як лес, як дрэвы, як трава...

— У нас тут лектар быў тым летам —
Паважны муж, не са шпаны,

І ўвесь такі інтэлігентны —
Ажно трашчаць на ім штаны.

Я і яму сказаў: «Шаноўны,
Мы губім шмат зямных дароў!»
Згадзіўся. Кажа: «Безумоўна,
Вада ў зямлі — што ў жылах кроў.

Мы даражыць ёй мусім вельмі.
Ды ёсць, няможна забываць,
Звышактуальныя праблемы:
Пра моц дзяржавы трэба дбаць!

Калі мы мір не забяспечым,
Не зможам гібель запыніць —
Дык будзе некаму і ў нечым
Ні папракаць нас, ні вініць...»

Я доўга думаў — я ж маруда! —
Над тым, што лектар адказаў,
І — ад цябе таіць не буду —
Канцы з канцамі не звязаў.

Такой трывожнаю часінай,
Назло шалёнаму звяр'ю —
Для справы міру трэба ўсім нам
Яшчэ мацней любіць зямлю!

Любіць зямлю! І не наогул,
А — гэту! Нашу! Дзе жывём!
Во з гэтым полем, з гэтым логам,
З касьбою гэтай і жнівом!..

Сцяпан зірнуў з цяплом на брата
І за плячо абняў рукой.
— А што ты ўспыхнуў гэтак раптам?
Я ж не спрачаюся з табой!

— Дык паспрачайся! Я — саўгасны
Рабочы, я — не дыпламат,
І мне патрэбен цалкам ясны
На справу гэтую пагляд.

Таму і ўспыхваю, што бачу:
Сяму-таму між нас з рукі —

На звышпраблему, звышзадачу
Валіць уласныя грахі.

Сваё нядбальства ды паскудства
Напругай часу апраўдаць —
Усё адно, маўляў, для людства
Дарогі ў заўтра не відаць.

Калі ўвесь свет, уся планета,
Маўляў, вісіць на валаску, —
Якая можа вабіць мэта —
Няўцямна толькі прастаку.

І вось, ад будучыні вольны,
Сабе гаворыць спажывец:
Усё вазьмі, што ўзяць ты здольны —
Бо заўтра можа быць канец!

А я лічу: у небяспечны
І трудны час — наадварот:
Стакроць мацней павінен сведчыць
Свой гарт і вытрымку народ.

То слабы духам недавярак
Адно і думае штодня —
Каб як паболей зжэрці скварак
Ды болей выжлукціць віна.

Хто гэтак чуецца сягоння,
Той — панікёр і дэзерцір, —
Хто толькі ў горла цягне-горне,
Пакуль пад ім не рухнуў мір.

А мы... Хіба мы з племя кволых?
Нам — страціць веру ў лёс зямлі?
Тады — чаму ж мы ў гэтых долах
Крынічкі-рэчачкі звялі?..

Тамаш замоўк... «Але й зацяты!» —
Падумаў з гонарам Сцяпан.
— Глыбока плужыш ты, чарцяка!
Хоць пасылай цябе ў ААН!

А што? Свайго ты роду-племя
Не пасаромеў бы, браток.

Душой і сэрцам у праблеме.
Глядзіш і ўдалеч і ў выток!..

Сцяпан быў рад такому шанцу
Пабыць сам-насам з Тамашом,
І не хацеў зусім спяшацца,
І шкадаваў, што блізка дом.

— Жартуй... А я сачу і знаю,
Куды пасоўваецца свет:
Я ўсю палітыку чытаю, —
У нашай хаце — пяць газет!

Ну, праўда, дзве — не для дарослых,
А для маіх «тамашанят».
І па вясковых тэмах розных,
Што тычыць нас, чытаю шмат.

Нядаўна хтось пісаў талковы,
Што сотні тысяч тон у год
Жывога хлеба са сталовых
Ідзе ў адход — ляціць за плот.

Не кілаграм, не пуд, не цэнтнер,
Не тона нават і не дзве,
А сотні тысяч тон! На вецер!
Таго дабра, чым свет жыве!

Як прачытаў — такая крыўда
Мне сцяла сэрца між рабёр,
Што асушыў адзін паўлітра
І плакаў моўчкі, як бабёр!

Рашыў: да д’ябла сівер зольны!
Да д’ябла трактар і плугі,
Калі мой труд, мой плён мазольны
Такі людзям не дарагі!

На сметнік — хлеб! Духмяны! Смачны!
І гэта ў нас, дзе сам народ —
І гаспадар, і распарадчык
Усіх багаццяў і даброт!

А дзе прычына? Ты — не знаеш?
Ну, а хто-небудзь знае ўсё ж?

А можа, ў тым, што ты купляеш
Бясцэнны скарб за дробны грош?

Закону вартасці, здаецца,
Нікому нельга парушаць.
Ну, а другое — дармаедства:
І з ім штосьці трэба вырашаць!

Тут, дзе ад веку не хадзілі
Дзяды без чорных мазалёў, —
Мы тымчасове напладзілі
Нямала трутняў-гультаёў.

Ад дармаедства ўся распуста:
Нішто душу не губіць так,
Як незаробленая луста,
Якою сыціцца лайдак.

Яшчэ на бацькавым, паршывец,
А ўжо такі кіндзюк нясе
І так нахабна ўжо фальшывіць —
Што Бог сам рукі атрасе!

Мужыцкі сын — ці ж не пагана! —
Не хоча працы чорнай знаць:
Пачаў, ці бач, хварэць на пана!
Узяўся панства спаганяць!

Бяжыць туды, дзе ўтульна, чыста, —
Хоць за падсобка, за слугу...
А я, брат, поля адракчыся
Ужо да смерці не змагу.

Навек прырос да ніў зялёных,
Да шэпту жытніх каласоў,
Да чысціні блакітнай лёну,
Да суму светлага аўсоў.

Без іх мяне зламала б скруха
Так, што не даўся б і лячыць...
Пастой хвіліначку, паслухай,
Як жыта хораша маўчыць!..

Браты спыніліся. Над полем
Плыла, гусцела цішыня.

Духмяным дышучы настоем,
Пацела нанач збажына.

Яна маўчала, ды не спала, —
У працы ўся была наўсцяж:
Астаткі клёку дабірала...
— Ну, зразумеў? — спытаў Тамаш.

— А ўранку, раненька, як толькі
Заззяюць росы ў далавах
Ды промняў рынуцца патокі, —
Які тут льецца водар-пах!

А я, нібы па абавязку,
Спынюся, далеч азірну
І — разы два ці тры ўзацяжку
На грудзі поўныя ўдыхну.

І пах, і сонца, і прастору —
Усё ўдыхну, вазьму ў сябе...
Куды ж я з гэткага прастолу
Сыду — у сонечным сяйве?..

Тамаш гарэзна, па-хлапечы,
Хітнуў кудлатай галавой.
— І не сыходзь! Адзіны вечны
Прастол на свеце — гэты, твой!

І ты — адзіны тут сапраўдны
І валадар, і гаспадар.
Палац твой — слаўны, трон твой — спраўны,
Карона — свеціцца, як жар!..

Над жытам жаўранак успырхнуў,
Штось шчабятнуў, бы ў сне, і знік.
Сцяпан згадаў павер’е-прымху:
«Нядобра — ноччу птушкі крык...»

— Тамаш, — апомніўся ён нібы, —
Па-мойму, тут, дзе мы стаім —
Была дарога на Сялібы?
Якраз ля гэтых во хваін?..

— Была... І добрая дарожка!
— А ездзяць як туды? Наўкруг?

— Ніяк не ездзяць. А навошта?
Ад тых Сяліб сышоў і дух.

Сяліб даўно няма ўжо, браце.
Хто маладзейшы быў, — сюды,
У цэнтр саўгаса перабраўся,
А хто стары быў, — на клады.

За ўсіх даўжэй сядзела пара
Бабуль — да смерці не сышлі.
Я знаў іх: Стэпка і Барбара,
Абедзве п’янічкі былі.

Адна ў адной віно цадзілі
І пелі песню за сталом:
«У крапіве нас нарадзілі,
У крапіве мы і памром!»

Нібыта самі песню склалі,
Бо іх падворкі сапраўды
Так крапівой пазарасталі,
Што не прайсці было туды...

— Тамаш, на ўсё глядзець нязвыкла,
Што легла ў прах, што зарасло.
Але, калі дарога знікла —
Страшней, здаецца мне, за ўсё...

Давай прысядзем, брат, на крушні.
Бог з ёй, з вячэрай, — не ўцячэ.
Паглянь: як тая печ у сушні —
Каменні цёплыя яшчэ...

Дарога... Колькі я з дзяцінства
Папахадзіў калісь па ёй!..
Яна — жыцця майго часцінка,
Душы зародачак маёй.

Я помню ўсю яе на памяць —
Дзе грунт быў цупкі, дзе пясок,
І кожны куст, і кожны камень,
І той бярвенчаты масток...

Дарога ў гульні і забавы,
Што бегла з кошыкам маім,

Уся прапахлая грыбамі,
Духмяным водарам малін...

Дарога ў колкіх ранніх росах —
Іх топча босы пастушок,
І вяжа венікі з бярозак,
І грае весела ў ражок...

Дарога песень вечаровых —
Між дзвюх купальскіх зараніц,
І самых першых, хлапчуковых,
Маіх да скону таямніц...

Усё адрэзана навечна —
Так, каб і следу не знайсці,
Каб зразумеў, што недарэчна
За летуценнямі ісці.

Каб не падумаў азірнуцца
Ды не ўнушыў сабе назло,
Што можна ў май жыцця вярнуцца,
Як у знаёмае сяло...

— Вось гэта правільна, я згодзен:
Не варта марыць зноў пра май.
А калі так — журыцца годзе,
І ты па даўнім не ўздыхай.

Табе, па-мойму, аж занадта
Хапае сённяшніх турбот —
І праз адкрыты свой характар,
І ад людскіх непамыслот.

Чыталі з Анцяй мы, канешне,
(А маме я не паказаў),
Што пра твае рамансы й песні
Шпачынскі гэны накілзаў.

Мы за цябе перажывалі.
Пісанне тое так і сяк
Па сказу ўсё перажавалі:
Басяк ён, братачка, басяк!

— Не ён галоўны ў подлым спісе:
Яго рукой вадзіў другі.

А сам Шпачынскі... каб не спіўся,
І крытык быў бы неблагі.

Ён пачынаў даволі храбра,
На жаль — далёка не пайшоў,
І на сягоння — лепшы сябра
Усіх сталічных алкашоў.

Прыходзіў потым — ледзь не плакаў,
Прасіў прабачыць... Выгнаў вон:
Мне завугольных патулякаў
Прымаць з павіннай не рэзон.

Хто дыктаваў яму — не прыйдзе
Перапрасіць за тую муць.
О, гэта страшны, хітры злыдзень!
Іосіф Бэнсь яго завуць.

Мы з ім вучыліся калісьці,
Быў аднакурснікам маім.
У творцы сам не здолеў выйсці —
Рашыў мазгі ўпраўляць другім.

Стаў тэарэтыкам мастацтва
І ў кнігах хітра, неўпрыкмет
Нам раіць з вотчынай расстацца,
Каб пакарыць вялікі свет.

Маўляў, касмічная арбіта
Не прыме нашы «караблі»,
Бо надта ярка ў іх адбіта
Аблічча роднае зямлі.

Куды ён хіліць — зразумела.
Ён сам ляцеў бы ўжо даўно
Па той арбіце безыменнай, —
Вось толькі крылаў не дано!

А твор павінен мець адзнаку
Сваёй зямлі, — інакш ён, брат,
Такі ж без водару, без смаку,
Як з гідрапонікі тамат.

Мы не бязродныя на свеце
І не бяздомныя ў жыцці.

Чым дагарэць у пустацвеце —
Лепш не ўзысці і не цвісці!

Вось так аднойчы я і ўрэзаў,
Калі на пленуме ён чоўп,
Што мы, не цэнячы прагрэсу,
Праз гэта трацім слухачоў.

На павадку ісці мне раіць
У снобаў. К чорту гэты зброд!
Мяне не публіка цікавіць,
Мяне цікавіць мой народ.

А ён — штось іншае, васпане,
Ён — нешта большае нашмат.
Ён падрабляць пад вас не стане
Ні густ, ні нораў, ні пагляд...

— А што, той Бэнсь — такі ўплывовы?
— Ён ходзіць капаць на мазгі
Усім, каму не даспадобы
Я за характар свой «благі».

Маўчаць не ўмею, прытварацца,
Стаяць навыцяжку «ва фрунт»,
Легальнай формай казнакрадства
Аздараўляць свой базіс-грунт;

Вясёлым быць, дзе трэба плакаць,
Лавіць ківок, паклоны гнуць,
Па нейчых тэзісах гагакаць,
На сальны досціп рагатнуць...

Сваім жыццём я замінаю
Такім, як ён, спакойна жыць.
Бянтэжу іх. Напамінаю
Аб тым, што хочацца забыць.

Што нельга з прагнасцю звярынай
Хапаць наўзахап барышы.
Што чалавек усё ж павінен
Баяцца нечага ў душы...

Гадаюць: «Што яму патрэбна?
Відаць, да славы рвецца ўвесь...»

А мне і слава — пыл патрэп’я,
Удушны пыл, што вочы есць.

Што значыць — слава? Колькасць цэшак?
Эфір? Экраны? Тыражы?
Якая слава можа ўцешыць,
Калі ты сэрцам — на крыжы?

У славу рвуцца жываглоты,
А да таго, баліць каму,
Яна пасля прыходзіць, потым,
Як да Максіма, што ў Крыму...

Яны не могуць разабрацца,
Чаго хачу, што трэба мне?
Зусім не шмат: любові брацкай!
Сяброў — што здрада не кране!..

Прабач — за гэтую прамову.
Расспавядаўся, бы ў царкве...
Тамаш маўчаў. Глядзеў, як з рову
Сівы туман да іх плыве;

Як подых ночы ледзьве-ледзьве
На вольхах кратае лісты,
Як абярнуліся ў мядзведзяў
Ядлоўцу цёмныя кусты...

— Не знаю, як наконт сяброўства,
А што датычыць... тут сказаць
Я мушу коратка і проста:
Пара з кім-небудзь лёс звязаць!

Таму й не ведаеш адхлання,
Што адзінокі ты, браток.
Няма пры боку мілавання —
Разблытаць дум тваіх маток.

Ніхто не зможа быць у скрусе
Такім апірышчам табе,
Як жонка верная... Баюся,
Каб не зачахнуў ты ў журбе.

Табе б з настаўніцаю нашай,
Альжбетай Францаўнай, у шлюб.

Была б — ні з кім не параўнаўшы —
Сям'я! І ты ёй быў бы люб!..

— Тамаш! Я думаў, ты параіш
Каго з няшчыпаных дзяўчат...
Я ж не стары яшчэ таварыш!
Мне б і каляску пакачаць...

— Э не-е, брат! Гэткай — не параю.
Нашто — зялепуха, сырэц?
Ты хочаш мець без канца-краю
Турбот — і ў рэўнасці старэць?..

А вось яна — жанчына-дзіва!
Такія — рэдкасць на вяку,
Яна б табе і нарадзіла —
Яна ж уся яшчэ ў саку!

Што трэба бабка: ў самым леце,
У блаславёнай той пары,
Калі ўспрымаюцца найлепей
Усе жаноцкія дары!

Адно што будзе трудна досыць —
Як кажуць, клінам выбіць клін:
Жанчына гэта ў сэрцы носіць
Якісьці сонечны ўспамін.

Яна крыху сябруе з Анцяй
І ёй душу адкрыла нейк:
Яшчэ ў студэнцкім інтэрнаце
Так пакахала — што навек.

Пасля там здарылася нешта —
І хлопца страціла яна.
Сказала Анці:
«Ну, канешна ж,
Была дурной: мая віна!..»

Дванаццаць год ужо ў разводзе.
Уночы — плача, днём — пяе.
І не адзін яшчэ, ніводзін
Не дакрануўся да яе!..

— Так і сказала Антуніне?
— А што? Дзівіцца тут не след:

Жанчына можа, брат, жанчыне
І болей выдаць «пад сакрэт»...

Сцяпан устаў — аж камень з крушні
Скаціўся, грукнуўшы ўначы.
— Хадзем! — сказаў. —
Тут морак душны.
І — просьба: трошку памаўчы...

«Няўжо я ляпнуў штось не тое? —
Сумеўся здзіўлены Тамаш. —
Ах, поле роднае, жытное,
Хоць ты самотніка разваж!..»

## БЯССОННЕ

Пасля запозненай вячэры —
З фінальным кубкам малака —
Антось якіясьці паперы
Дастаў з кішэні пінжака.

Зірнуў на маці ў хваляванні,
На Антуніну, на братоў, —
Сказаў: — Прашу хвіліну ўвагі:
Сюрпрыз для вас напагатоў.

Вось гэты сшытак без абгорткі —
Нам з вамі продкаў запавет:
«Тэстамент Тодара Вячоркі» —
Як сам назваў запіскі дзед.

Адзін мой сябар выпадкова
Яго ў архіве адкапаў.
На жаль, збярогся ён часткова:
Пачатак недзе запрапаў.

Але й па тым, што ацалела,
Убачыш — толькі зазірні, —
Як дзеду Тодару балела
За лёс народа і зямлі.

Вясковы, бедны і бяспраўны
Настаўнік школы прыхадской,
Ён прагнуў вольнасці і праўды,
Тужыў па шчырасці людской.

На царскай катарзе ў Сібіры
Ні маразы, ні шампалы
У ім надзеі не забілі —
Народ свой вывесці з імглы.

То ж там пісаў ён свой «Тэстамент» —
У змрочных шахтах рудніка.
Які — пачуйце — тэмперамент
Ірвецца з кожнага радка!

«Народ сябе пазнаць павінен!
Народ — не зборышча, не гурт.
Ён мусіць мець — інакш загіне! —
Усведамлення цвёрды грунт.

Калі ён сам сябе ўсвядоміў,
Сваю гісторыю, свой лёс,
Свае правы ва ўласным доме, —
Тады — народ, тады — ён ёсць.

Тады не страшныя і здрайцы,
Што дзеля славы і выгод —
Адно ім лейцы ў рукі дайце —
Гатовы плюндрыць свой народ.

Сатрапы кормяць адшчапенцаў,
Каб нам даводзілі, што мы
Не маем права спаткаемцаў
Ані на што — апроч турмы!

Сатрапы знаюць і шалопяць,
Што на шляхах дабра і зла
У нас не толькі гразь ды копаць —
У нас Гісторыя была!

Што пачаліся мы не ўчора —
Наш род, культура, мова, быт, —
Як цвердзяць з пыхаю вучонай
Парфіраносныя ілбы.

Лакейства плодзячы са смакам,
Яны не знаюць аднаго:
Хто хлеб дае чужым сабакам —
Свае забрэшуць на таго!

«Ты — без крыжа! Богаадступнік!» —
Крычыць пагромшчык-крывасос.
Так, я не веру ў крыж пакутны.
Я сам — распяты, як Хрыстос.

Не я — ты, Бог, вялікі грэшнік:
Ты адступіўся ад мяне
І ад маіх братоў няўцешных,
Што мруць у роднай старане.

Якой жа моваю, скажы мне,
Мы будзем гутарыць з табой?
Я — не валодаю чужымі,
Ты, Бог, — не ведаеш маёй.

Усе на свеце — для спатолі
Душы — ты ўзвысіць мовы змог.
Чаму ж на нашай аб нядолі
Ты не гаворыш з намі, Бог?..

О, краю родны! Чым стрымаеш,
Адвернеш лёс свой ад пятлі,
Калі заступніка не маеш
Ні ў небе ты, ні на зямлі?

Адным: на бітву без сумнення!
Як цвердзіць песня — толькі бой!
«Даб'ёмся самі вызвалення
Сваёю ўласнаю рукой!..»

— Вось так... — Антось абвёў вачыма
Усіх прысутных. — Вось такі
Дзед Тодар наш быў малайчына...
Крывёй напісаны радкі!..

— Ён не вярнуўся з той Сібіры, —
Сказала Зося. — Там і ўмёр.
Ад бабы вашае, Сабіны,
Я чула шмат. І ад сясцёр.

Ён сацыяліст быў. У падполлі
Пісаў лістоўкі на цара.
А бацька ваш адно й запомніў
Яго — як везлі са двара...

— Антось, — зірнула Антуніна, —
Ты даў бы ў школьны наш музей
Адзін адбітак. То ж навіна!
Было б цікава для людзей!

Няхай і продак ваш законна
Увекавечыцца ў сяле,
Каб самі мы глядзелі сёння
З павагай большай на сябе...

Сцяпан, уражаны чытаннем,
Узяў запіскі брата з рук:
— А ты не думаў даць «Тэстамент»
У навуковы нейкі друк?

— Занёс адразу ж быў у «Весці».
Прадмоўку даў — каб быў «пад’езд».
Увы, увы! Шалудзька Несцер
Сказаў: «Не пойдзе. Дробны змест».

— Відаць, Шалудзька добры ёлуп,
Калі ён так на змест глядзіць.
— О, ён гісторык плюс філолаг
І плюс вядомы більярдзіст!

— Ён што — са званнем? — Ну, а як жа!
За званні біўся ён у кроў.
Як наш браток Мікіта кажа:
Усе дыпломы прываброў.

Ды над навукай ён не чахне.
Більярдны шар — вось гэта рэч!
Ажно барты трашчаць — як жахне! —
І адлятаюць лузы прэч!

Ён мог бы есці хлеб з більярда,
Калі б быў хлебны гэты спорт.
А так — трымаецца заядла
За ўсе пасады, лысы чорт!

Наогул — тып ён унікальны.
Чаму? Каб ліха не спаткаць —
Прыдумаў спосаб геніяльны,
Як кары грознай «унікаць».

Як толькі вынюхае, гіцаль,
Што будзе біта галава —
Кладзецца зразу ж у бальніцу
На цэлы месяц ці на два!

Ну, і пакуль яго там лечаць,
Разоў пятнаццаць «возьмуць кроў» —
Адыдзе ў суддзяў сэрца-печань
І гнеў абернецца ў любоў.

Ягоны спосаб-ход нялюдскі
Сябры, што рухаюць прагрэс,
Назвалі «спосабам Шалудзькі»
І карыстаюцца ім спрэс!

Бальніца бедная забіта —
Так не кладзе ніякі грып!
Шалудзька — блазан-чмут нібыта,
На справе ж — подлы, шкодны тып.

Хамут і дуб, ён бездакорна
Спасціг унутраным чуццём
Закон сярэдняга узроўню,
Што мае сілу над жыццём.

Ён не ўпусціў той час, той даты,
Калі агулам, сярод дня,
У дактары і ў кандыдаты
Папёр вучоны серадняк.

З усіх навук, якія вызнаў,
Адну засвоіў ён найлепш:
Як сёрбаць лыжкаю вялізнай
З катла грамадскага кулеш.

Ён зразумеў, што можна лёгка,
Зусім на пуп не беручы,
Перарабіць камы з пахлёбкай
На адмысловыя харчы.

Што ў нашай сферы над другімі
Ёсць перавага з пераваг:
Да скону можа хлус-алхімік
Сядзець на пышных пірагах!

«Сумленне — суд наш найвышэйшы!» —
Крычыць аратар у гурму.
А ён сядзіць, сапе і шэпча:
«Сваё — вазьму! Сваё — вазьму!..»

Ён у навуцы нуль, банкруцька,
Тыповы рытар-вадалей,
Ды хтосьці лічыць, што Шалудзька
Пасунуў штось крыху далей.

І вось — слыве вучоным Несцер
І памагае з усіх сіл
Сваім падлізнікам залезці
На навуковы небасхіл.

Для іх, няздар, ён вараціла
Аўтарытэтна-прабіўны,
І на пальто яго з раціна
Набожна хукаюць яны.

Пылінкі-нітачкі здымаюць —
З сабачай вернасцю ў вачах.
Студэнты ж хэнці штось не маюць
Яго брашуркі вывучаць.

Таму ён любіць звыш білета
Задаць пытанне «на зарэз»:
«А дзе, калі і што пра гэта
Пісаў прафесар Чымергэс?»

І тым пускае пыл у вочы —
Маўляў, дасведчаны які!
Між іншым, так на пол жаночы
Глядзіць — аж трэскаюць «бялкі»!

Казаў ягоны аднакурснік,
Што гэты самы хват-дзялок
Ужо ў студэнцтве быў распуснік
І вечна цёрся ля дзявок.

Да навуковых прац нятленных
Не меў цікавасці, аднак
Трактат аб зонах эрагенных
Чытаў шчырэй, чым дыямат.

— Відаць, нішто сабе з выставы?
Калі ў навуцы не дабраў,
Дык хоць на выгляд, гад, цікавы? —
Тамаш з ухмылкаю спытаў.

— Ён жаба рыжая — на выгляд!
І ростам — жабы не вышэй,
І вочы жабіны — навыкат,
І рот, бы ў жабы, — да вушэй.

Без шыі, чэраўца ды лапкі,
Сядзіць і зекрыць на карчы —
Пардон, на кафедры...
— А браткі!
Аж страшна чуць наўпроць начы!

Яшчэ прысніцца ў сне, пачвара! —
І Антуніна к Тамашу
Знарок плячом на міг прыпала:
Маўляў — не жабай даражу.

Браты затрэсліся ад смеху.
— Ну, ты мастак! Бадай ты скіс!
— Партрэт — на зайздрасць і на ўцеху!
— Які партрэт? Адно — эскіз!..

І тут заўважылі, што маці
Глядзіць без смеху з-пад павек.
— Не трэба, Анцік, так смяяцца:
Усё ж ён з імем чалавек.

— З фальшывым, мамачка, з фальшывым!
Ён у навуцы — шкодны клешч:
Сядзіць, упіўшыся, на шыі,
Пакуль не лопне ў рэшце рэшт.

А што ён лопне неўзабаве —
Дык гэта ясна мне як дзень:
Не без канца ж цярпець дзяржаве,
Як клеіць дурня ліхадзей!..

— Ідзіце, дзеці, спаць — не рана:
Ужо за поўнач, ноч — на спад.
А што ж ты, Сцёпа, нечакана
Наважыў заўтрага назад?

Здаецца ж, ты маніўся болей
Пагасцяваць... Пабыць даўжэй.
А то й ці ўбачымся з табою:
Я з кожным летам — не дужэй...

— Ты што, матулька? Ты павінна
Жыць доўга-доўга. Без цябе
Нам гэта хата не ўявіма,
Як храм без Бога на сцяне.

А ехаць трэба мне... Так выйшла,
Што мушу ехаць... Выбачай!..
.....................................................
Сцяпан у пуні лёг, на вышках,
На сене — пахкім, нібы чай.

Яно ўціскалася, шамцела,
Шаптала штосьці: шу-шу-шу... —
Бы замаўляла стому цела,
Сон напускала на душу.

Ды сон зусім не браў Вячорку.
Праз дзірку-шчыліну ў шчыце
Ён бачыў неба пас і зорку,
Што ярка ззяла ў цемнаце.

Нібы ў вар'яцкай крутаверці,
Мільгалі думкі ўразнабой,
І незнаёма востра ў сэрцы
Упершыню азваўся боль.

«А можа, ўсё-такі застацца?
Хоць дзень ці два яшчэ пабыць?
І што?.. Пабачыцца? Спаткацца?
Душа ў душу — пагаварыць?

Не атрымалася ж размовы!
І зноў — бязвінны вінават...
Дзе судзіць лёс — што значаць словы?
Той май быў столькі год назад!..

Хоць дзіўна ўсё ж: і мне і Алі
З другімі сонца не ўзышло...
Ах, Аля, Аля!.. Пакаралі
Сябе мы самі нізашто!..

А ўсё магло ж бы быць іначай —
Як у шчасліўшых між людзей,
Калі б на сцежцы на юначай
Не вырыў яму ліхадзей.

Пераступіць бы тую плётку,
Разумна разам абмінуць...
Ах, Аля, Аля! Як жа лёгка
Далі сябе мы абмануць!..

Пайду прайдуся... Усё роўна,
Відаць, не будзе сёння сну.
Паклон адвешу школе роднай,
На зоры мар маіх зірну...»

Каменны Лог маўчаў — бы вымер.
Вячорка чуў свой кожны крок.
Вачамі вокан нежывымі
Глядзелі хаты ў ноч, у змрок.

Сон, сон кругом! Спяць людзі звыкла,
Спіць белы бусел на гняздзе,
Ані лісцінка, ні травінка
Не зварухнецца анідзе!

Сцяпан раз-пораз прыпыняўся —
Стаяў і слухаў цішыню,
Глядзеў на круглы месяц ясны,
На зор міглівых гушчыню.

Вось ён — бясконцы і бязмежны
Непадуладны нам сусвет!
Вялікі чымсьці, нечым смешны,
Хто ў ім ты — грэшны чалавек?

І што твой клопат чалавечы,
Твой бунт штодзённы, твой дакор —
Вось перад гэтым векавечным
Свячэннем месяца і зор?

Чаму ж так мала даражыш ты
Загадкі гэтай хараством:
«На залатым густым іржышчы
Пасецца ўночы лысы вол»?..

Ля школьных веснічак знаёмых
Сцяпан умлеў: не можа быць!
Наўзбоч, як прывід, нерухома —
Альжбета Францаўна стаіць!

Уміг здавіла грудзі хваля —
Што ўзняў з прадоння ураган.
Нарэшце вырвалася: — Аля?!
Пачуў — глухое: — Я, Сцяпан...

Што вельмі ўразіла перш-наперш —
Твар — незвычайнай белатой
І дзве рукі — ля сэрца накрыж, —
Як на іконе ў прасвятой.

— У гэткі час не спіш ты? Аля!
— Так, як і ты... Не сплю, Сцяпан.
— І ты даўно стаіш тут?.. Аля!
— Яшчэ ад той вясны, Сцяпан.

— Чакай, ты... што? Ты — плачаш? Аля!
— Ты ж бачыш... Плачу я, Сцяпан.
— Чаго? Па чым ты плачаш, Аля?
— Па ўсім жыцці сваім, Сцяпан...

Вячорка ўбачыў побач камень, —
Валун, што тут ляжаў здавён, —
Прысеў, падпёр чало рукамі.
Як быць далей — не ведаў ён.

Альжбета Францаўна стаяла —
І з месца нават не сышла.
Маўчала ноч. Зямля маўчала.
Адкуль жа музыка плыла?

Ну, так, ён чуў зусім выяўна:
Як шум спакойнага дажджу,
Што ўсё бліжэй, — напеўна, плаўна
Плыла мелодыя ў душу.

Гучала мякка, задуменна
І ўся — праменіла святло.
Ад калыханкі нешта мела,
І штосьці ад гімна ў ёй было.

Такой яму яшчэ ніколі
Не надаралася ўлавіць —
Ні тут, у родным наваколлі,
Ні ў іншых далях палявых.

Знаць — баслаўлёна падарожжа
Да гэтых хат, садоў, сядзіб...
— Сцяпан, валун халодны, можа, —
Прастуду схопіш, не сядзі...

Вячорка ўстаў, у светлай цемры,
На добры крок ступіў бліжэй.
— Паслухай, Аля... я хацеў бы
Наведаць заўтра ваш музей.

— А ты... хіба не едзеш заўтра?
— Вячэрнім... Тым, што ля васьмі...
— Прыходзь... Такога экскурсанта
Паводзіць сам Ілля Кузьміч.

— А ты?.. Не зможаш?.. Ці не хочаш?
— Змагу... Адно... там шмат заган...
— Тады... спакойнай, Аля, ночы!..
— Спакойнай раніцы, Сцяпан!..

* * *

І зноў на вышкі ўзлез Вячорка,
І зноў праз шчыліну ў шчыце
Убачыў неба, — толькі зорка
Ужо не ззяла ў цемнаце.

«Глядзі... Глядзі... Цяпер не скора
Ты будзеш тут... Не скора, брат!
Раз ёсць начное неба ў зорах —
То, значыць, ёсць і зарапад...»

### *ДАПЕЎКА*

*Усё, чытач. Я стаўлю кропку.*
*Ах, не завершаны сюжэт?*
*Ну, што ж рабіць! Далей — ні кроку.*
*Далей — табу і запавет.*

*Мне і самому знаць цікава,*
*Ці развязаў вузлы герой.*
*Але гадаць — не маю права,*
*І клопат гэта ўжо не мой.*

*Апроч таго, мой дружа шчыры,*
*Я знаю кошт тваіх гадзін —*
*І я не стану іх транжырыць:*
*Паэтаў — шмат, а ты — адзін.*

*Ты й так парой як непрытомны:*
*Няма жыцця — хоць апупей! —*
*Ад мнагатомных, мнагатонных*
*І манатонных эпапей!*

*Я не спаборнічаць сабраўся,*
*Тым больш — у тонах і тамах,*
*Калі ад лірыкі падаўся*
*На стаўбавы эпічны шлях.*

*Адну надзею ў сэрцы маю,*
*Што ў нейкі з дальніх вечароў,*
*З нагоды нейкай, аб'яднаю*
*Сваіх няведамых сяброў,*

*І ў некім знойдзецца адвага,*
*І нехта скажа без граха:*
*«Тут лёс, браткі, ляжыць на вагах,*
*А з ім — і слова, і страфа!..»*

*1972–1984*

# ПЕРАЖЫЎШЫ ВАЙНУ

## І ДОЎГА ГЛЯДЗЕЛА НА СВАЮ РУКУ

Мінула, можа, дзён пяць, як нямецкая навала пракацілася праз нашу мясцовасць на ўсход. Відаць, у кагосьці з моладзі быў радыёпрыймач, бо ўсё больш шырылася чутка, што немцы ўжо набліжаюцца да Воршы і, значыць, крах Чырвонай Арміі вось-вось адбудзецца, а калі і не — то вайна прыме зацяжны характар. Гэтыя лічаныя дні, пакуль акупанты не пачалі ўсталёўваць свой парадак, панавала безуладдзе. Як быць і што рабіць — ніхто не ведаў. Але службоўцы пакінулі свае рабочыя месцы — у сельсавеце, на пошце, у хаце-чытальні. Натуральна, зачынілася — на цяжэзны замок — крама. Толькі старшыня калгаса сядзеў у канторы, як бы ў чаканні якогась загаду ад новых улад: усё ж такі немалая гаспадарка — табун коней, статкі кароў і авечак, свіран з фуражом і інш.

Зачынілася і адзінае ў нашым кутку дзяржаўнае прадпрыемства — сырзавод у Мураванцы, гэта ў адным кіламетры ад нашай Слабады. Завод досыць маштабны, ці не рэспубліканскага падпарадкавання. Ягоная прадукцыя, цудоўныя галандскія сыры, паступала Бог ведае куды, бо на Лагойшчыне яе ніхто ніколі не бачыў. Спялілі сыры, як патрабавала тэхналогія, у цёмным падвале былога панскага палаца. У пакоях жылі людзі (пятнаццаць сямей), а велічэзны падвал, цэлы падземны паверх, які толькі адной сцяной выходзіў вонкі, дзяржава ўзяла сабе пад сырзавод.

Вайна разгарнулася так імгненна і не ў той бок, што вывезці гатовую і не зусім гатовую прадукцыю завода савецкія ўлады не паспелі. Дык мураванскія мужчыны і не разгубіліся. Пакуль пра адменны стратэгічны харч не пранюхалі немцы, пастараліся ачысціць падвалы самі. Узламалі апоўначы дзверы і вынеслі ўсе сыры да апошняй галоўкі — мяхамі цягалі да сваіх двароў навыперадкі.

Яшчэ толькі ўзышло сонца, калі мама разбудзіла мяне весці на пашу карову. Я спаў каля расчыненага вакна (ноччу — душна) і, прачнуўшыся, убачыў, што на двор заязджае фурманка. Заехала і спынілася каля самага ганка. На калёсах — мой стрыечны брат з Мураванкі Алёшка. Ён штосьці сказаў маме і адгарнуў на возе пасцілку. Пад пасцілкай аказалася ладная горка зялёных галовак галандскага сыру. Я не адразу і здагадаўся, што гэта.

— Алёшачка! — усклікнула мама. — Надта ж многа ты… А сабе хоць пакінуў?

— Сабе, цётка, я нанасіў столькі, што на цэлы год хопіць. Забірайце і пакладзіце дзе ў цёмнае, яны яшчэ недаспелыя…

Мама хуценька перанесла сыры ў істопку, дзе не толькі цёмна, але і прахалодна, нават у летнюю спёку.

Так мураванскія мужчыны рэквізавалі прадукцыю дзяржаўнага сырзавода. Немцам нічога не дасталося. Затое дасталося, дзякуючы Алёшку, нам. І вельмі дарэчы. Бо есці ў нас ужо не было чаго. Дагэтуль, да вайны, мы жылі галоўным чынам з бацькавай зарплаты — як сям'я службоўца, хлеб, крупы, муку куплялі ў краме. У канцы 1930-х бацька працаваў сакратаром райвыканкама, апошні год — старшынёй нашага Слабодскага сельсавета. Цяпер яго, ужо 23 чэрвеня, забралі ў армію. Дарэчы, ад васьмі непаўналетніх дзяцей: старэйшай Ліне — пятнаццаць, меншаму Алесіку — тры месяцы. Такога нават пры царах не было ніколі, каб ад васьмярых дзяцей забраць на вайну кармільца.

Каб эканоміць каштоўны прадукт, мама цёрла сыр на тарку, дабаўляла тоўчанай бульбы і пякла «галдыбікі», якія мы ўплятані з малаком. У першыя дні акупацыі гэта было проста выратаванне. Трохі пазней пачнём капаць у агародзе маладую бульбу і… стрыгчы жытнёвыя каласы на калгасным полі. Помню той вечар. Ужо добра ацямнела, ужо замерлі галасы і шумы на вуліцы, вёска ўляглася спаць, калі мама сказала мне:

— Хадзем, сынок, бо я адна баюся ўночы…

— Куды хадзем? — спытаў я, здзіўлены такой нечаканай прапановай.

— Хадзем здабываць яду… Нядобра гэта, але што ж рабіць? — цяжка ўздыхнула мама. — Есці нешта ж трэба…

Яна стаяла каля мяне — з тонкай зрэбнай пасцілкай у адной руцэ і з сярпом у другой.

— Пойдзем у жытное, што каля могліц, настрыжэм каласоў…

З усіх дзяцей у нашай сям'і я клаўся спаць пазней за ўсіх — не толькі зімовымі, але і летнімі вечарамі доўга чытаў. Відаць,

менавіта таму гонар суправаджаць маму выпаў не старэйшаму на два гады брату Леўку, які ўжо спаў, а мне. Бясспрэчна, я ўспрыняў просьбу мамы як высокі давер маёй мужчынскай годнасці. Ну як жа: мне яшчэ і дзесяці няма, а вось са мной яна баяцца не будзе.

І мы пайшлі, моўчкі, без ніводнага слова, у калгаснае жытное. Паперадзе мама, за ёю я. Перасеклі аселіцу, узмежкам дайшлі да сценкі, якая аддзяляла калгаснае ад сядзіб вяскоўцаў. На сценцы спыніліся. У твар дало смачным цёплым духам недаспелай збажыны.

— З краю рэзаць не будзем, каб не кінулася каму ў вочы, — сказала мама. — Зайдзем крыху далей ад сценкі…

Праз паўгадзіны важкая вязанка каласоў была ў мамы за плячыма. Серп дадому нёс я. Ішоў і ўспамінаў прымаўку, яшчэ зусім нядаўна таямніча-папулярную сярод калгаснікаў: «За ўкрадзены каласок атрымаеш гадок». А колькі ж гадкоў, прыкідваў мамін памочнік, могуць даць за такую вязанку?

Праз дзень падобную «варожую вылазку», не пытаючыся ў мамы дазволу, зрабіў я сам, самастойна. І не ўначы, а сярод белага дня. Пайшоў з кошыкам на Зубаву гару, у сасоннік, у надзеі на першыя грыбы — там заўсёды добра раслі маслякі (у нас іх звалі казлякі) і сыраежкі. Грыбоў яшчэ не нарасло, але затое наўкола сасонніку млела на даспеве калгаснае жыта. Думка ахапіла грыбніка імгненна. Сцізорыкам (без сцізорыка ў грыбы не ходзяць) спачатку нарэзаў каласоў поўны кошык. Падалося — мала. Тады я зняў з сябе кашулю, рукавамі перавязаў пад каўнерыкам — і атрымалася досыць ёмістая торба. І торбу таксама туга наладаваў жытнёвымі каласамі. І прынёс увесь набытак, хаваючыся па-за кустоўем на аселіцы, у сваё гумно. Мама сказала:

— Ну, малайчына. Але больш не хадзі. Неяк абыдземся. Цётка Паўліна прынесла торбачку ячменю…

У той дзень, калі мураванцы авалодалі прадукцыяй сырзавода, слабодскія мужчыны, па іх прыкладу, уварваліся ў краму — узламалі спачатку закратаванае акно, а тады і дзверы. Але іх чакала вялікае расчараванне: усе паліцы і падпрылаўкі былі пустыя. Крамнік (з раднёй, напэўна) ачысціў іх ноччу сам. Людзі хапалі сякія-такія астаткі, у тым ліку — косы, рыдлёўкі, гаршкі і вёдры… Адным з апошніх залез праз вакно і я. Мне дасталіся — і то з боем — два прадаўгаватыя брускі фруктовага чаю, які, вядома ж, мы не заварвалі, а ламалі на кавалачкі і елі ўсухамятку як, не раўнуючы, шакалад або пернікі.

У адзін з тых першых дзён акупацыі, калі яшчэ панавала вельмі трывожная няпэўнасць, мне давялося стаць сведкам падзеі, якая на ўсё жыццё запала ў памяць і згадвалася, бадай, кожны раз, калі апаноўвалі роздумы пра маму, пра яе жыццё, пра яе жаночы лёс. Вельмі-вельмі часта яе вобраз бачыўся мне менавіта ў гэтай падзеі. Было ўжо досыць спаўдня, я ішоў у хлеў выводзіць на пашу карову і ўгледзеў, што ад гумна ў двор шпаркім крокам ідзе чырвонаармеец, у вайсковым абмундзіраванні, але без пілоткі на галаве, без вінтоўкі, адно пусты рэчмяшок пры боку. Наткнуўшыся на мяне, спыніўся.

— Скажи-ка, паренек, немцы есть в деревне?

— Не, няма, — пакруціў я ўпэўнена галавой.

— А мать дома?

— Дома.

Абмінуўшы мяне, вайсковец пакіраваў у расчыненыя дзверы хаты. Я, канешне ж, за ім. Мама штосьці парадкавала на прыпечку, пачуўшы нас, абярнулася і разгубілася: салдат у хаце.

— Мамаша, хлебушка хоць немножко не найдется?

— Няма, чалавеча, — са шкадаваннем у вачах адказала мама. — Хлеба ўжо тыдні два самі не каштавалі…

— То, может, вареная картошка есть? Хоть бы сколько картофелин?..

— І картоплі няма, як на тое. Дзяцей адным крупнікам накарміла…

— Жаль, — скрушна ўздыхнуў чырвонаармеец. — Понимаете, третий день идем голодные… Ну, простите за беспокойство…

Неспадзяваны госць, моцна засмучаны, хацеў павярнуцца і пайсці. І раптам пачуў:

— Можа, вам сыру даць?

— Сыру? Как — сыру?

— Ну, сыру. Галандскага сыру…

— Смеетесь, мамаша? Зачем же так?.. — не ўтаіў крыўду чырвонаармеец.

— Не, я не смяюся. Пачакайце, хвілінку.

Мама ўзяла вялікі нож і кінулася з хаты ў істопку. Вайсковец стаяў у поўным недаўменні. Што адбываецца? Хлеба няма, бульбы няма, а галандскі сыр ёсць? У дні вайны — у беднай вясковай хаце? Ці не насланнё гэта? Ці не памарачэнне? Але вярнулася мама і працягнула госцю добрую трэць галоўкі сыру.

— Вось, вазьміце…

— Мамаша! Мамаша! — закрычаў чырвонаармеец. Схапіў сыр, укінуў у рэчмяшок, затым упаў перад мамай на калені,

злавіў яе руку, якую мама не паспела схаваць за спіну, і пачаў горача, моцна цалаваць.

— А божа! — ускрыкнула мама. — Што вы робіце! Мне ніхто ніколі не цалаваў руку. Нават мой чалавек: ні калі маладыя былі, ні калі дзяцей нараджала…

— Спасибо, спасибо, мамаша! Спасибо! — падхапіўся шчаслівы госць і кінуўся бягом з хаты.

Сумна апусціўшы галаву, мама стаяла моўчкі там жа, дзе толькі што адбылося нешта неверагоднае, і доўга глядзела на сваю руку — худую, кашчавую, цёмную ад загару і пустазелля, парэпаную ад вады і ветру. На сваю ўпершыню за жыццё пацалаваную руку…

## ТАК СКОНЧЫЛАСЯ ДЗЯЦІНСТВА

А скончылася яно адразу, раптам, у адзін дзень. Сонечнай раніцай на пачатку вясны, у канцы сакавіка сорак трэцяга. Скажаце, што так не бывае, каб — раптам, імгненна? Што гэта адбываецца паступова, патроху і цягнецца доўга? Напэўна, сапраўды так, спрачацца не стану. Дый навука лічыць, што пераход да якасна іншай узроставай свядомасці займае перыяд больш-менш працяглы. І аднак жа паўтараю: дзяцінства маё — раптам і назаўсёды — скончылася ў канцы сакавіка сорак трэцяга, і здарылася гэта на слабодскіх могілках, у кар'еры, з якога калісьці бралі на будаўніцтва гравійкі пясок…

Раніцай, дзесьці так а познім сняданні, бо ўжо ладнавата паднялося сонца, страшная паніка ахапіла Слабаду: едуць немцы! Карнікі! Тыя самыя, што ўчора спажарылі Хатынь. Вестку перадавалі ў такім узрушэнні і трывозе, што ніхто не перапытваў — адкуль вядома і ці праўда гэта; усе, хто мог, кінуліся ўцякаць — пераважна дарогай на Айна́равічы, за першы пагорак, дзе пачыналіся равы з хмызам і пералескі. Без дарогі — не надта і разгонішся: ранняя вясна, яшчэ нават не ўсюды сышоў снег, але ралля прыадтала, і поле гразкае, коўзкае… Пабеглі на Айнаравічы і Ліна з Леўкам — нашы старэйшыя: Ліне — семнаццаць, камсамолка, Леўку — чатырнаццаты. Чаму не пусціла мама разам з імі і мяне — усяго на два гады меншага за брата? У яе склаўся свой план, як уратаваць нас, астатніх, калі карнікі сапраўды налятуць учыняць расправу. Яна загадала ўсім нам хуценька абуцца і адзецца, а чатырохгадовага Мараціка абула і апранула сама, затым дала мне ў рукі дзве тонкія лёгкія пасцілкі і сказала:

— Сынок, вядзі іх усіх на могілкі, у той кар'ер, што адразу за магіламі. Выберыце там сушэйшае месца, на сонцы, рассцяліце пасцілкі і сядзіце, не паказвайцеся, аж пакуль я не прыйду за вамі. Калі пачуеце, што страляюць, ці ўбачыце дым, можа, паліць будуць — сядзіце там і не вылазьце! Зразумеў? — Затым паглядзела на ўсіх і спытала: — Дзеткі мае, вы чулі, што я сказала? Сядзіце там ціхенька і не паказвайцеся. Ідзіце з богам, спяшайцеся, каб хаця паспелі. Мяжою ідзіце, мяжою, а то па воранаму, па гразі, не зойдзеце…

— А ты, мамачка, а ты? — скрывіўшыся ў плачы, ухапіла маму за руку большая з сястрычак Ідзея. Ёй — амаль дзевяць, і ў адрозненне ад двайнят Колі і Святланкі, якім па шэсць, і тым больш ад Мараціка, — яна ўсё разумее.

— Куды ж я з хворым Алесікам пайду? Я застануся дома, можа, дасць бог, усё абыдзецца…

Яна правяла нас за гумно, яшчэ раз сказала ісці як мага хутчэй і вярнулася ў хату, дзе ляжаў у прастуднай гарачцы любімец усёй сям'і двухгадовы Алесік.

Могілкі ад вёскі недалёка, можа, і кіламетра не будзе, сярод поля на пагорку, у густым маладым сасонніку. Хвілін праз дваццаць мы ўжо былі ў кар'еры, адзін бераг якога — той, што ў бок вёскі, — высокі, абрывісты, а другі — пакаты і парослы сасонкамі. Толькі разаслалі пасцілкі і ўселіся — як там, дзе дарога на Гайну, усчалася страшэнная страляніна — і з кулямётаў, і з аўтаматаў, і з вінтовак, — няйначай разгарэўся люты, зацяты бой. Над галовамі ў нас запелі кулі і зашпокалі побач, па пакатым беразе кар'ера, у пясок.

— Ой, пчолкі зумкаюць, ці чуеце? — у здзіўленні падала голас Святланка.

— Якія табе пчолкі, дурная! Гэта кулі свішчуць, скарэй усе сюды, пад абрыў! — злосна скамандаваў я і, хапаючы малых за рукі, падштурхнуў іх пад высокі, стромы бераг кар'ера.

Уткнуўшыся галовамі ў жоўтую пясчаную сцяну, мы сядзелі — хто на кукішках, хто на каленьках — пад абрывам і слухалі страляніну і свіст куль над кар'ерам. Колькі разоў ахнуў мінамёт і дзесьці далей, у сасонніку, грымнулі выбухі. Шквал кулямётнага і аўтаматнага агню быў такі густы, што з хваін, якія стаялі на самым краі кар'ера, на нас падалі зрэзаныя кулямі галінкі.

— Чаму яны сюды, на могілкі, страляюць? — павярнуўшы ка мне галаву, ціха спытала Ідзея.

— Адкуль я знаю! Маўчы і ні слова!

Стрэлы сталі радзейшымі, але я выразна чуў, што яны гучаць усё бліжэй і бліжэй. Нарэшце яны амаль замоўклі зусім. Наступіла цішыня. Заварушыліся побачкі малыя — відаць, занямелі ад сядзення ў адной і той жа позе ногі. Ціхенька зашапталіся між сабой. І я чую пра што. Пра маму і Алесіка. Ці жывая яна, і што там цяпер, у Слабадзе, робяць немцы? Я таксама думаю пра гэта. Сеў зручней і задраў галаву ўгору: павылазіўшы з пясчанай сцяны абрыву, над намі звісаюць доўгія тонкія карані сосен.

— Рукі ўверх! Рукі ўверх! Ні з месца! Здавайсь, сволачы!

З рэдкага хвойніку справа з нацэленымі на нас вінтоўкамі выскачылі некалькі мужчын у чорных шынялях і чорных пілотках. Крыкі іх былі такія нечаканыя і такія страшныя, што падхапіцца адразу не хапіла сілы: не слухаліся ногі. Нарэшце я ўстаў і падняў над плячыма рукі.

— А дзетачкі мае! А мамачка любая! А яны ж нас пазабіваюць зараз! — залямантавала-загаласіла адразу ж Ідзея, памагаючы ўстаць з зямлі меншым.

— Падымайце рукі! — паўтарыў я злосным, не сваім голасам каманду фашыстаў.

Паліцаі ідуць прама на нас, і прама ў вочы нам глядзяць нацэленыя дулы, якія з кожным крокам карнікаў робяцца ўсё большымі і большымі, і вось ужо я нічога, нарэшце, апрача гэтых чорных дзір смерці, не бачу, — нават тых, што іх трымаюць у руках; дулы — адразу некалькі — упёрліся мне амаль у самы твар і замёрлі, знерухомелі. Я стаю моўчкі. Побач з паднятымі рукамі стаяць і ўсе іншыя «партызаны»: дзевяцігадовая Ідзея, шасцігадовыя Святланка і Коля і чатырохгадовы Марацік — ён таксама трымае ручкі паднятымі. Пяць жывых палонных, пяць страшных ворагаў гітлераўскай імперыі. Ідзея і Святланка плачуць, скарэй, жаласна скуголяць, мужчыны — я, Коля і Марат, як і належыць мужчынам, трымаемся без слёз.

— Ану, пайшлі! Пайшлі, пайшлі! Жыва! — закамандаваў нарэшце адзін з карнікаў, і, падштурхоўваючы ў плечы буламі вінтовак, нас пагналі з кар’ера, затым — праз рэдкі сасоннік на поле. Выйшаўшы на чыстае, мы ўбачылі ўсю карціну: скрозь па аселіцы, па лугавіне і па полі, па ўзгорку міма могілак подбегам, уроссып ідуць — у чорных або шэра-мышастых шынялях — фашыстоўцы. Мне здалося, што іх незлічона шмат — як варання на свежым ворыве.

Поле, на якое нас выгналі карнікі, — адталая на сонцы і пад першымі вясновымі дажджамі ралля, якая пудамі наліпае на

абутак, а дзе глыбей — у гразі застрае і зрываецца з нагі атопаквалёнак ці чунь. З-за гэтага раз-пораз спыняюцца, і клічуць на дапамогу, і плачуць то Марацік, то Святланка, то Коля, а карнікі крычаць, і падштурхоўваюць, і брыдка лаюцца… Але вось падагналі нас да афіцэра, пры якім — паліцай-перакладчык. Тут жа, на полі, з мяне, як з камандзёра каманды, здымаецца кароткі допыт.

— Чаго вы сюды прыйшлі — на могілкі?

— Баяліся, што вёску паліць будуць…

— А хто вам сказаў ісці хавацца?

— Мама сказала, многія з вёскі ўцякалі, дык мама і нас адправіла…

І ў гэты момант закрычала-залямантавала Ідзея:

— А вунь наша мамачка! А яна ж нас бачыць, як нас гоняць па гэтай гразі! А мамачка! А яны ж хочуць забіць — тваіх маленькіх дзетачак!

— Ціха! — злосна крыкнуў на сястру адзін з тых, у чорным, што гналі нас. — Замаўчы, шчанючка!

У гэту кароткую паўзу я глянуў туды, дзе наша сядзіба, і сапраўды, убачыў на гумне, каля пунькі, маму. Адсюль, з пагорка, было вельмі добра відаць, як яна, ломячы рукі, кідаецца з боку ў бок і, не зводзячы вачэй, сочыць за намі. Паглядзелі туды, на наша гумно, і паліцаі.

— А дзе ваш бацька — дома ці ў партызанах? — пачуў я чарговае пытанне.

— Бацькі няма ў нас, — хлушу, не думаючы і не цямячы, што раблю, ці разумна адказваю.

— А дзе ён?

— Яго забралі на вайну. Яшчэ ў сорак першым…

Божа прасветлы! Усявышні і ўсемагутны! Якой велічыні свечку я павінен табе ставіць да канца дзён маіх, што ты адняў у тую хвіліну ў карнікаў розум?! Яны ж бы маглі ў каго-небудзь з малых спытаць пра бацьку і тут жа выкрыць маю хлусню, пачуўшы ў адказ, што яшчэ ўчора вечарам бацька быў дома, вячэраў разам з усімі, а пасля апрануўся і кудысьці пайшоў. Гэта я перастаў быць дзіцем — зразумеў, што з ворагамі Радзімы, з чужакамі-захопнікамі трэба гаварыць як з ворагамі Радзімы і чужакамі-захопнікамі. Але ж меншыя мае браты і сёстры яшчэ былі дзеці і гэтага не разумелі. Страшна падумаць, што было б, калі б карнікі пачалі здымаць допыт з іх, з дзяцей… Але лёсам было нам суджана размінуцца са смерцю ў той пагодны вясновы дзень. Закончыўшы допыт, афіцэр штосьці сказаў, і нас

адпусцілі са словамі: «Марш дамоў! І запомніце: будзеце ад нас хавацца, — дык у другі раз пастраляем…»

Вопыт размовы з фашыстоўцамі спатрэбіўся мне вельмі хутка — праз месяц з гакам. Спатрэбіўся і дапамог. Вайна вайной, а чалавеку хочацца жыць, і ён — насуперак усім страхам смерці — думае пра жыццё. Іменна таму ў першы дзень мая я прынёс з гаю дзве невяліччкія бярозкі, каб пасадзіць іх у двары, каля хаты. Прыйшоўшы на падворак, я паставіў дрэўцы ля плота, тут жа ўтыркнуў у зямлю рыдлёўку і ў гэты час пачуў нязвыкла звонкае цоканне падкоў на вуліцы (наша вуліца была адмыслова забрукавана яшчэ ў канцы дваццатых гадоў). Канешне ж, я адразу выбег за вароты — паглядзець, што за цоканне, і ўбачыў — ужо амаль насупраць нашай хаты — некалькі, вярхом на конях, немцаў. Я нават не паспеў шмыгануць назад, у двор, як першы, у афіцэрскім мундзіры, штосьці мне крыкнуў і рукою пазваў к сабе. Немцы спыніліся, я падышоў бліжэй. У руках афіцэра быў невялікі лісток, у які ён зазірнуў і на ломанай рускай гучна ў мяне спытаў:

— Гідзе жіфьёт Гілевідж Зімон?

— Хто? — перапытаў я машынальна, хаця ў апошняе імгненне да мяне дайшло, што ён пытае пра майго бацьку.

— Гілевідж Зімон, Зімон! — паўтарыў яшчэ гучней немец.

— Там, — паказаў я рукой у той канец вёскі, куды былі скіраваны і конскія, і фашыстоўскія морды. І дадаў: — Во там далей, пад гарою…

Зацокалі падковы, а я вопрамеццю шыбануў у хату.

— Мама! Немцы прыехалі па тату!..

— Дзе? — глянула на мяне, збялеўшы, мама.

— На вуліцы! Пыталі ў мяне, дзе жыве Гілевіч Зімон. Я паказаў ім у той канец, пад гару…

— Бяжы да каго-небудзь загуменнямі і перачакай там! Бо яны цябе пазнаюць, як вернуцца…

Мама пракрычала мне гэта ўжо на хаду і бегма кінулася на гумно, дзе, як я зразумеў, быў у гэты час бацька. Я выскачыў з хаты ў двор і — цікаўнасць перамагла: выткнуў з-за шула варот галаву — паглядзець, дзе ж немцы. А немцы запынілі каля Бануковай студні жанчыну з вёдрамі на каромысле і ўжо павярнуліся мордамі назад, сюды, дзе наша хата, і я ўбачыў, як яна рукою паказвае і тлумачыць ім, дзе жыве Гілевідж Зімон. Тады і я плітануў штосілы на загуменне і паўз агароды — да хаты аднаго са сваіх сябрукоў, дзе і праседзеў да вечара. Немцы бацьку дома не знайшлі і паверылі маме, што ён збіраўся пайсці на пасёлак да сястры Паўліны і, мабыць, сапраўды там.

## ДВОЕ КАЛЯ ЦЯПЕЛЬЦА

У дзяцінстве ўва мне доўга жыло ўяўленне, што калі чалавек не наскі, не вясковы, не па-нашаму апранаецца і не па-нашаму гаворыць, дык ён і ва ўсім іншым не такі, як усе мы, вясковыя: напэўна, ён не так і есць, і спіць, і не дазваляе сабе нічога такога брыдкага, ніякіх там грубых слоў або ўчынкаў. Для мяне ён быў прадстаўніком нейкага іншага, далёкага, невядомага свету, дзе ўсё не так, як у нас, — усё іначай, лепш, прыгажэй, усё чыста, культурна, хораша… І хваляваў жа мяне той незнаёмы, незвычайны свет, і вабіў-цягнуў да сябе менавіта сваёй непадобнасцю, інакшасцю, няйначай у душы неўсвядомлена існавала надзея, што там і я стану іншы, зусім іншы — і разумнейшы, і прыгажэйшы, і дужэйшы, і больш кемлівы, і больш спрытны ў гульні, у працы…

Відаць, таму вельмі цягнула і да чалавека адтуль — здалёку, з нянаскага, незнаёмага свету, асабліва калі гэты чалавек твой ці амаль твой равеснік. Перад вайною, памятаю, у верасні трыццаць дзевятага, з прыгранічнага ваеннага гарадка, што быў у нашым Баранаўскім лесе, пачаў хадзіць у Слабодскую школу, у наш другі клас, незнаёмы хлопчык — сын якогасьці камандзіра. Па-нашаму ён гаварыць не ўмеў, гаварыў па-руску, ці, як мы тады казалі, па-гарадскому, і вопратка на ім была гарадская, і ўсе манеры трымацца — таксама былі не наскія, само сабой — быў у яго і гарадскі ранец для кніг і сшыткаў з фабрычнай скуры і на рамянях, а не то што ў мяне ці у любога з нас — самаробная зрэбная, у лепшым выпадку суконная, торба… І як жа мне хацелася пасябраваць з ім, гэтым сынам чырвонаармейскага камандзіра. І мне, і кожнаму з маіх сяброў. Мы амаль наперабой прапаноўвалі яму свае паслугі, сваю гатоўнасць уважыць і нешта добрае яму зрабіць, стараліся звярнуць на сябе яго ўвагу, якая нярэдка давалася цаной самапрыніжэння, і горш таго — цаной страты (на нейкі час, вядома) сяброўства паміж сабою. Бо ішло ж фактычна суперніцтва: хто каго адцісне ад гэтага не падобнага на нас, вясковых абдзіртусаў, гараджаніна, хто хутчэй заваюе яго сімпатыі! Ну, а што ўжо дзяўчынкі з нашага класа, дык яшчэ больш за нас стараліся яму спадабацца — па-свойму, па-дзяўчачы: пэўнымі элементамі ўбору, культурай трымання, падкрэсленай ветлівасцю і маральнасцю (вокрыкамі — каб пачуў Ён — на каго-небудзь з нас: «Пецtouя, як табе не сорамна!», «Юзік, як табе не брыдка!»). І, канешне ж, нашы хлапчукоўскія аўтарытэты ў іх вачах тады былі ўпалі здорава. Праўда, цягнула-

ся гэта нядоўга, тыдні тры, мабыць, бо ў тым жа верасні гарнізон гарадка зняўся і пайшоў вы зваляць ад пілсудчыкаў Заходнюю Беларусь, да якое было рукой падаць: наш, Лагойскі, раён быў прыгранічны.

Вядома, у гэтым поцягу да чалавека іншага жыццёвага ўкладу і іншай культуры было не ўсё адназначна вартае пахвалы. Знакі ўвагі, гасціннасць — гэта, бясспрэчна, добра. Але было тут і нешта ненармальнае, нездаровае, а перадусім — вось тое самапрыніжэнне, аб чым я толькі што сказаў, тое жаданне дагадзіць, якое сведчыла аб неразвітасці пачуцця ўласнай годнасці, здольнасці трымацца як належыць гаспадарам: без фанабэрыі, без пагарды да «культурнага госця», але і без лакейскага ўгодніцтва. Запытаемся, аднак жа: а хто нас змалку вучыў, што трэба заўсёды помніць пра сваю чалавечую годнасць? У нашым баку з такой маральнай вучобай мне ў гады маленства сустракацца не даводзілася. Затое колькі разоў чуў іншае, накшталт: «Прыязджаў жа Дарафей з жонкай, у госці да маткі, а жонка такая культурная — і з гаворкі, і з выгляду, зразу бачна, што гарадская, не тое што наша вясковая задрыпа…»

Ах ці божа мой! А ці не беднасць-галеча наша адвечная не давала нам падняць галаву, каб не ўгінаючыся, не знізу ўгору, а на адным узроўні глядзець у вочы любому-кожнаму — і блізкаму госцю, і далёкаму, і гарадскому, і сталічнаму, і замежнаму, і заморскаму, і ўсяму вялікаму свету!

Ну, але ўсё гэта прыказка. Тое ж, пра што я хачу тут расказаць, можа, і пачалося з той акалічнасці, што яна — Нэля — была прыезджая і з культурнай, інтэлігентнай сям'і, але галоўнае ўсё-такі таілася, мабыць, у іншым — у тым, што мне яна, з самай першай сустрэчы, здалася незвычайна прыгожай. Зроду не бачанай красуняй! Рослая, зграбная, высочанькі лоб, роўны прадаўгаваты носік, загадкавыя і сумнаватыя, цёмна-табачнага колеру вочы, ладныя каштанавыя косы на спіне, а сама — у бардовай з белым каўнерыкам сукенцы. Ах, гэты белы мярэжкавы каўнерык! Да чаго ж прыгожа ляжаў ён вакол яе тонкай шыйкі, разыходзячыся спераду двума ўзорчатымі паўкружжамі! Ні адна з нашых вясковых дзяўчынак такога каўнерыка не мела. Зрэшты, нічога дзіўнага: яна ж нетутэйшая, яна прыехала здалёку, з горада.

Крыху пазней я даведаўся, што да вайны яна жыла з маці ў Мінску (бацьку схапіў у трыццаць сёмым «хапун»), у чэрвені сорак першага была ў піянерскім лагеры, разам з якім, калі пачалася вайна, апынулася дзесь далёка ў эвакуацыі, а па вызваленні Беларусі вярнулася на радзіму. І вось пакуль у зруйнаваным

горадзе маці шукае, дабіваецца кутка, яна прывезла на нейкі час дачку да сваёй цёткі Мар'і ў Слабаду, тым больш што ў цёткі зберaглася кароўка і дзяўчынку можна крыху адпаіць сырадоем. На падворку ў Мар'і я ўбачыў першы раз Нэлю. Убачыў — і незвычайна ўсхваляваўся.

У Мар'і былі добрыя жорны, — стаялі ў вялікіх сенцах у кутку, — і мы з мамай прыйшлі апаўдні, каб змалоць гарнец раздабытага ячменю. Я часта дапамагаў маме ў гэтым ручным млыне, які вымагаў высілкаў хаця б дваіх, бо з аднаго цяжкі жарон духі выматае хутка. Мы прыйшлі ў той самы дзень, калі ў Мар'і паявілася госця, пра якую ні мама, ні я нічога не чулі. Але менавіта яна сядзела з кнігай на ўсходках ганка, калі мы ўзышлі на падворак.

— Ты чыя ж гэта будзеш? — спытала мама, пільна пагля-дзеўшы на незнаёмую дзяўчынку.

Тая паднялася і досыць бойка адказала:

— Я прыехала да бабулькі Мар'і ў госці. Я з Мінска.

— А-а, дык ты госця. А я думаю, чыя ж гэта дзеўка такая. А дзе ж сама бабуля?

— Панесла камусьці малако, нейчым дзецям, а мне сказала быць дома.

— Калі малако, то скора вернецца, гэта недалёка… А мы во трохі ячменю хочам змалоць у яе жорнах. Не знаеш, яны там не занятыя, бабуля сёння не малола?

Увесь гэты час, пакуль мама гаварыла, я не зводзіў з дзяўчынкі вачэй. «Ой, якая прыгожая! Якая чыстая, акуратная… гарадская! Зусім не такая, як нашы!..»

Дзяўчынка, відаць, не зразумела мамінага пытання, мабыць, зусім не знала, што такое жорны, бо паціснула плечукамі і ад-казала:

— Не ведаю.

І, было бачна, трохі здзівілася, што мы, без дазволу, праходзім міма яе ў сенцы, ведаючы, што гаспадыні няма дома. Нашы вясковыя звычаі і парадкі, напэўна, ёй былі не знаёмы: што мы і ў хату заходзім не стукаючыся, а толькі кашлянуўшы дзеля прыліку ці падаўшы голас яшчэ на падворку (іду да вас, маўляў, калі што-якое, то папярэджваю, каб пасля не казалі, што знянацку халера прынесла), і што да студні ў двары ходзім, як да сваёй, дамовіўшыся з гаспадаром аднойчы і назаўсёды (ці аж датуль, пакуль, не дай бог, не пасварымся), і пакарыстацца жорнамі — таксама, тым больш што яны звычайна стаяць нават не ў сенцах, а пад паветкай.

Незнаёмка рушыла з ганка ўслед за намі, дакладней, за мною, і я пачуўся досыць ніякавата, нават гарачыня да шчок падступіла ад думкі, што яна бачыць, якія на мне штанцы — латаныя-пералатаныя, асабліва — тылак (прычым латы, вядома ж, featnaga колеру — дзе ты іх пад адну «масць» падбярэш!). І кашуля з латамі на локцях, і босыя ногі — брудныя (сплю не дома ў пасцелі, а ў пуні на сене, дык ці варта перад сном мыць? Хіба што расою на прыгуменні!). І наогул — ну такі ж я «пройгрышны» ў параўнанні з ёю, такі ўжо жабракаваты абдзіртус, што, напэўна, здаюся ёй страшыдлам, пудзілам у гародзе.

Жорны аказаліся не занятымі, скрыня чысценька вымеценай, мама засыпала першую жменю сухога калючага ячменю ў вячай — круглую дзірку пасярод каменя, — і мы звычна пачалі круціць. Дзяўчынка стаяла моўчкі побач і глядзела.

— Гэта так робіцца мука? — спытала яна, калі жорны на хвілінку запыніліся — мама сказала мне «пачакай» і ўзяла ў шчопаць каля ніжняга каменя мукі, каб паглядзець, як мелецца.

— А ты ніколі не малола ў жорнах?

— Не-а. Нават ні разу не бачыла.

— Вот цяпер пабачыш. Будзеш і сама памагаць бабе Мар'і.

— А круціць цяжка?

— Як удваіх, дык нічога. А аднаму — цяжка.

— А можна мне папробаваць?

Мама паглядзела на дзяўчынку са здзіўленнем — відаць, ад яе смеласці і непасрэднасці — і з ледзь прыкметнай усмешкай сказала мне:

— Ну, што ж, дай, сынок, хай яна заместа цябе возьмецца, хай паспрабуе…

Я неахвотна адступіў трохі ўбок, да сцяны, дзяўчынка стала на маё месца, абхапіла белымі тонкімі пальчыкамі палку — там, дзе толькі што былі мае — у плямінах бруду, у шрамах і засохлых ранках, — і жорны зноў загудзелі.

Праз колькі часу мама ўбачыла, што дзяўчынка з непрывычкі стамілася, і гучна сказала:

— Ну, хопіць. Як для пробы, дык хопіць. Вось і будзеш ведаць, ці цяжка.

— Вельмі цяжка, — прастадушна пацвердзіла дзяўчынка.

— Нічога не цяжка! — буркнуў я напаўголаса і чуць-чуць падаўся ад сцяны, даючы ёй зразумець, каб яна ўступіла мне месца. — Мы, бывала, па паўпуда за раз малолі.

Паўпуда — гэта, вядома, быў перабор, ніколі па гэтулькі мы ў жорны не насілі, і мне тут жа стала няёмка за хлусню перад мамай, але выпраўляць так горда заяўленае я не стаў: хай ведае

гэта паненка-гараджанка, што і мы не лыкам шытыя, што і ў нас ёсць нешта вартаснае, чаго няма ў яе, — напрыклад, ёсць сіла, каб за адзін раз перакруціць на жорнах паўпуда.

Я ўлучыў момант, калі мама адняла руку ад палкі, і сунуў сваю далонь на самы ніз — дзе заўсёды бралася яна: таму, хто трымаецца за палку над самым каменем — вядома, цяжэй, бо той бярэ на сябе больш грузу. Мама запярэчыла і хацела аднавіць сваё права на самае цяжкое і самае непрыемнае (так яна рабіла ўсё жыццё — нават калі дзеці сталі дарослымі), — але я не даўся і не ўступіў. І мама з маім захопам яе правоў змірылася. Мабыць, яна, добрая, мудрая мама, зразумела, як мне хочацца паказаць гэтай прыгожай культурнай гараджанцы, што сапраўды зусім не цяжка, і калі трэба, дык мы змелем за раз не толькі паўпуда, але і пуд, і тры пуды!

Я круціў цяжэзны шэры, акаваны жалезным абручом, жарон так заўзята, з такой сілай, як ніколі раней ды, мабыць, і ніколі пасля.

— Што ты так завіхаешся, сынок! Ты ж усе кішкі надарвеш сабе! — старалася прыгасіць мой запал мама.

— Не надарву! — буркнуў я, не падымаючы вачэй, але адчуваючы ўсёй істотай, што побач стаіць і глядзіць, як з-пад каменя цячэ белымі цурочкамі мука, Яна — незвычайная, зусім не падобная на нашых вясковых замухрышак, дзяўчынка-прыгажуня.

— А як цябе зваць? — спытала на развітанне мама.

— Нэля, — адказала дзяўчынка.

— Нэля! — выказала захапленне мама. — Ой, як прыгожа! У нас дык я і не чула, каб так называлі каго. Усё ці Манька, ці Волька, ці Верка… Ну, добра, скажы бабе Мар'і, што прыходзіла Кацярына ячменю змалоць у жорнах…

Нэля засталася на ганку і праводзіла нас паглядам, аж пакуль мы выйшлі за веснічкі, на вуліцу. І зноў мне было так прыкра думаць, што яна бачыць мае толькі для пудзіла прыгодныя порткі!..

Пудзіла пудзілам, а вобраз Мар'інай госці, гарадской прыгажуні Нэлі, адабраў у мяне спакой не жартам. Я ўспамінаў яе на дзень па сто разоў, лішні раз прабягаў без дай прычыны міма Мар'інай хаты, — а раптам будзе стаяць на падворку. І ўсё думаў: як бы бліжэй пазнаёміцца, разгаварыцца і пасябраваць! Вядома, гаварыць мне з ёю будзе нялёгка, яна, відаць, перачытала вельмі шмат кніг, многа ведае, а што я? Можа, яна і зусім гаварыць са мной не захоча? Але ж і я чытаў што-колечы!

А галоўнае, я магу расказаць ёй пра тое, як тут было ў нас пад немцамі, як мы ўцякалі і ратаваліся, як дапамагалі партызанам. Яна ж нічога гэтага не ведае!..

Дні праз два, таксама апаўдні, мама зноў папрасіла мяне дапамагчы ёй змалоць у жорнах. Ад радасці я ледзь не падскочыў: значыць, зараз зноў пабачу Нэлю! І ўжо на гэты раз, калі мама з мукою пойдзе дадому, я знайду спосаб зачапіць якім-небудзь пытаннем Нэлю і прызастацца. Спытаю, напрыклад, пра тую кніжку, якую яна трымала тады ў руках. Або: ці чытала яна кнігу «Палескія рабінзоны», якую мне даў сябрук Лёнік Кулакоўскі на адзін дзень, але нічога страшнага, калі я вярну і днём пазней — пасля таго, як прачытае яна.

Я выйшаў следам за мамай за весніцы і — што такое? Радасць мая раптам перакрэслілася чорнай здагадкай: мама павярнула не ў той канец вёскі, дзе жыла Мар'я, а ў процілеглы.

— Мама! — ледзь не роспачна вырваўся з маіх грудзей голас. — А куды ты?

Мама павярнулася на мой голас і сказала:

— Пойдзем да Ганны Шахоравай, сынок, у Мар'і надоўга заняла Ладэйшыха…

Ах ты, якая няўдача! Як нечакана ўспыхнула радасная надзея, так нечакана і пагасла.

Нічога не зробіш, пайду круціць тыя нямілыя мне жорны да Ганны. Як адразу адпала ўся ахвота! Каб гэта знаццё, я ж бы сказаў маме, хай сёння Леўка дапаможа.

Вечарам на сенавале я ізноў доўга думаў пра Нэлю. Чаго толькі не лезла ў маю растрывожаную галаву! А больш за ўсё — розныя незвычайныя здарэнні і прыгоды, у якіх я, праяўляючы спрыт і адвагу, прыходзіў Нэлі на дапамогу, выручаў яе з бяды. Асабліва ярка ўяўляўся і хваляваў мяне эпізод з паліцаем (колькі дзён назад тата расказваў, што ў Заходняй Беларусі ў лясах яшчэ поўна недабітых «бобікаў»), які то ў Баранаўскім лесе, то на Краснай горцы наводзіць на Нэлю карабін, а я ў гэта імгненне або выбіваю карабін у яго з рук, або сам ва ўпор страляю ў яго з бацькавага нагана (ён ляжыць схаваны ў шафе, у прыскрынку, закручаны ў нейкае белае рыззё, але я не быў бы я, каб не апароў яго там; нават адзін раз схадзіў з ім за пазухай у лес і там, у глыбокім Гурным рове, выстраліў у воўчую нару).

Назаўтра па абедзе, трохі счакаўшы, каб спала самая спёка, я павёў пасвіць Недзяленю — гэты клопат усё яшчэ заставаўся маім. Кароў у вёсцы было мала, і мы, хлопцы-пастушкі, звычайна збіраліся ўсе ў адну грамаду, каб весялей было. Але сёння «ад

паўдня» (кароў пасвілі «да паўдня» і «ад паўдня», з перапынкам на даенне) мне ў грамаду да ўсіх чамусьці не захацелася. Можа, ад таго, што не выходзілі з галавы рамантычныя летуценні і думкі пра Нэлю, захацелася пабыць аднаму, сам-насам з сабою. Я вывеў Недзяленю за аселіцу, да рэчкі, якая ў гэту пару, у сярэдзіне лета, на мелкім перасыхала, заматаў павадок каровы за рогі — хай тут ля прырэчных кустоў пасецца! — выцягнуў з кішэні прывязаны — каб не згубіўся! — сцізорык і пачаў рабіць з вербалозу свісцёлку. Зрабіў, сунуў канец у губы, каб засвістаць, падняў галаву і — ад здзіўлення выпусціў свісцёлку з рук: разам з Мар'яй да мяне набліжалася Нэля, ведучы за повад рахманую Мар'іну Рабоню. Блізілася і — ці то мне здалося? — прыязна ўсміхалася мне вачыма.

— Хлапец, — лагодна загаварыла, яшчэ не спыніўшыся, Мар'я, — вось табе да пары, каб сумна не было, пастушка. Пасіце разам, і ты памагай ёй, бо яна гарадская і яшчэ не ўсё па-нашаму ўмее… А ты, Нэлечка, калі што якое — пытайся ў яго, не саромся…

Ад шчаслівай неспадзяванкі яківаў галавой і разгублена паўтарыў больш чым трэба: «Добра цётка, Мар'я, не бойцеся, я памагу ёй, не бойцеся, я памагу…»

Мар'я крыху пастаяла, сказала Нэлі яшчэ колькі павучальных слоў і пайшла дадому. А мы засталіся ўдваіх. Яна і я. Ды Недзяленя з Рабоняй.

Вось табе, хлопча, тое, пра што ты ўсе гэтыя дні марыў! Пытайся, гавары, знаёмся!

Лёгка сказаць: пытайся! А пра што і як пытацца, калі язык прырос да нёба. Я падняў з травы свісцёлку і нягучна засвістаў. Нэля трымала ў руцэ павадок і не адыходзілася ад Рабоні, з цікаўнасцюназіраючы, як тая забірае языком высокую каля кустоў траву.

Ага, для пачатку справа знайшлася! Што ж, яна так і будзе ўвесь час трымаць карову на павадку? Навошта? І я, на здзіўленне самому, проста і смела сказаў:

— Давай я заматаю павадок на рогі. Хай сама пасецца!

— А яна не ўцячэ?

— Чаго ёй уцякаць? Тут жа трава добрая. А палезе ў шкоду, дык адгонім.

Я спрытна заматаў вераўчаны повад на прыгожыя вілаватыя, з шызым адлівам і ў зарубках, рогі Рабоні.

— А свісцёлкі ты сам робіш?

— Гэткая работа — свісцёлка! — грэбліва пакрывіў я губы. — Іх нават малыя дзеці выразаюць.

— А мне ты можаш зрабіць? На ўспамін.

— На ўспамін? — перапытаў я, здзіўлены, што такая дробязь, як свісцёлка, можа гадзіцца для такой высокай мэты.

— А што? У Мінску пасвішчу і ўспомню.

Зусім не было падобна, што яна насміхаецца. Надта шчыра гаворыць!

Ад гэтых апошніх яе слоў яшчэ мацней затахкала ў мяне сэрца.

— Дык гэта трэба, каб не рассохлася, — тонам вопытнага майстра па свісцёлках адказаў я на дзіўную просьбу дзяўчынкі. — А то свістаць не будзе.

— Усё адно зрабі, хоць сабе і рассохнецца. Зрабі, калі ласка. Я хачу, каб у мяне была на ўспамін свісцёлачка.

Я тут жа палез у вербалозавы куст над рачулкай выразаць пруток на свісцёлку. Я быў проста шчаслівы ад аказанага мне гонару, ад такога даступнага, лёгкага задання, для выканання якога не трэба ні смеласці, ні адвагі, ні гераічнага ўчынку. Не паспеў, аднак, я нават выбраць лепшую, на мой густ, галінку, як пачуў голас Нэлі:

— Рыбка! Рыбка тут у вадзе! Ідзі скарэй сюды, тут рыбка!

У момант вока я апынуўся побач з дзяўчынкай. Нэля стаяла над бухтачкай-ямінай, у якой вада не высахла, хаця было яе там і не многа — не вышэй да калена на самым глыбокім.

— Я тут бачыла рыбку! — узбуджана гаварыла, паказваючы на ваду, Нэля. — Вунь у тую траву шмыганула, к таму берагу!

— Шчупачок? — спытаў я, хаця і без адказу быў упэўнены, што гэта менавіта ён.

— Не ведаю. Во такая во! — паказала двума ўказальнымі пальчыкамі Нэля, якая тая рыбка на велічкі. — Такая вострая, цёмна-бурая…

— Шчупачок! — упэўнена вызначыў я. — Гэта іх вясной, калі паводка, наганяе сюды… І мы іх ловім у такіхямінах проста рукамі.

— Рукамі?

— Ага. Пазакасваем штаны, залезем у ваду і нагамі наробім такога густога муту, што яны задыхаюцца і вытыркаюць насы — тут мы іх і хапаем… Дзіўна, як уцалеў гэты! Мы ж прайшлі нядаўна з хлопцамі па ўсіх ямінах і, здавалася, усіх вылавілі. А выходзіць, што не ўсіх.

— А пасля што, як зловіце? Вы іх ясцё?

— Ну а як! Хто дамоў нясе і там на патэльні смажыць… А мы дык колькі разоў тут, у полі, на агні пяклі, на гарачым вуголлі.

— І смачна?

— Ну а чаму ж! Канешне, смачна!

І тут мне прыйшла думка: трэба злавіць гэтага шчупачка, затым раскласці цяпельца і спячы яго — хай яна пакаштуе! Яна ж ніколі не ела спечанага ў полі шчупачка!.. Ідэя здалася мне настолькі значнай і цікавай, што я, забыўшыся на свісцёлку, рашыў тут жа яе ажыццявіць.

— Ты глядзі і за маёй Недзяленяй, каб не пайшла ў той авёс, за рачулку, а я зараз злаўлю яго.

Аддаўшы ёй гэта распараджэнне, я закасаў вышэй каленяў свае «знятыя з пудзіла» штанцы, узяў у рукі доўгую рагазлівую палку і залез у яміну. Варочаючы нагамі і палкай гразь на дне, я праз дзве-тры хвіліны ператварыў толькі што празрыстую чыстую ваду ў чорны густы жужаль. І — калі ласка! Яшчэ праз колькі хвілін — вось яно! — з каламуты вытыркнулася знаёмае вострае рыльца. Я спрытна схапіў-сціснуў шчупачка ў дзве жмені — так, што ён і не паспрабаваў выслізнуць, і ў гэты ж момант непадалёк убачыў другое рыльца. Ха! Дык ён тут не адзін, тут іх два, аказваецца! Шпурнуўшы здабычу на бераг, на траву, я тут жа ўпаляваў і другога. Па звычцы ляснога чалавека, які, знайшоўшы побач два баравічкі, шукае трэцяга — я пачаў пільна абводзіць позіркам паверхню чорнай каламуты. А чым чорт не жартуе, як то кажуць! І сапраўды, каля самага берага ўбачыў — думаў спачатку, што сучок — яшчэ адзін выстаўлены на пагібель носік. Вось дык удача! Разлічваў на аднаго, а злавіў тры! Маленькія, праўда, кожны — на даўжыню мужчынскай далоні, але ж затое тры! Будзе зусім не мізэрны пачастунак!..

Запалкі ў мяне былі з сабою — вопытны пастух без іх у поле не выходзіць, сухога хворасту ў кустах знайшлося, таму неўзабаве над рачулкай, над тою шчаслівай бухтачкай, задыміла і забліскала язычкамі полымя цяпельца. Бачыўшы не раз, як гэта рабіла дома мама, я распатрашыў сцізорыкам шчупачкоў, саскроб луску, у суседняй — чыстай — яміне старанна вымыў і ўзнізаў тры маленькія тушкі на абкораны белы дубец. Затым утыркнуў па краях вогнішча дзве рагулькі, адсунуў крыху агонь і падвесіў шчупакоў над гарачым жарам — хай пякуцца.

— Рабоня мая, здаецца, у авёс залезла. Пабягу прыганю сюды, — сказала Нэля. Яна ўвесь гэты час пільна сачыла за маімі кухарскімі прыгатаваннямі, разы два ці тры пахваліўшы за ўменне рабіць не мужчынскую, на яе думку, работу.

— Сядзі, я адганю, чаго табе бегаць, — я сказаў гэта зусім як гаспадар становішча, і Нэля не запярэчыла, прыняла маю паслугу з прыемнасцю.

— Толькі ты яе не бі, чуеш? Не бі! — крыкнула мне наўздагон дзяўчынка.

— А я і сваю не б'ю ніколі. Можна і так адагнаць, словам, — адказаў я Нэлі, ужо вярнуўшыся.

Нейкі час пасля гэтага мы сядзелі моўчкі. Я пакручваў ражэнчык са шчупачкамі, каб яны прапякліся раўнамерна, і ў думках дзяліў між намі гэты незвычайны падвячорак: «Сабе — аднаго, а двух — ёй. Можа, і ўсіх трох ёй? Калі возьме, дык я б з радасцю… Калі спадабаецца… Хіба не спадабаецца? Не, павінна спадабацца!..»

Зрэдчасу я кідаў неўпрыкмет позірк на прыгажуню Нэлю, якая адмахвалася рукою ад дыму, прытворна злавалася на яго, фукала, моршчыла носік, выцірала кулачкамі вочы і ад усяго гэтага здавалася мне яшчэ прыгажэйшай. Я быў на сёмым небе ад шчасця! Як добра жыць, калі ўсё выходзіць так, як ты хочаш, калі здзяйсняюцца твае самыя лепшыя, самыя светлыя мары!

Раптам за спіной я пачуў нейкую гаворку і крокі. Азірнуўся і ўбачыў Мікіту Жагора. З прыспушчанымі на вочы павекамі, даўно не голены і таму зарослы чорнай шчэццю, у няўпраўленай пад пояс зрэбнай кашулі, у зношаных, латаных на каленях цёмнасініх галіфэ, босы, ён набліжаўся да нас і штосьці злосна гаварыў сам сабе ўголас. Мікіта, я пазнаў адразу, быў п'яны. Мяне ахапіла трывога, нават, я сказаў бы, прадчуванне бяды. Гэтага чалавека я з самага ранняга свайго дзяцінства чамусьці баяўся. Баяўся і не любіў. Мабыць, яшчэ з таго здарэння каля калгаснай стайні. Было гэта яшчэ, калі я не хадзіў у школу. Не ведаю, з чаго там усё пачалося, але добра помню: разлютаваны Мікіта трымае за вобрацъ гнедага, з хворымі вачыма каня і азвярэла дубасіць яго тоўстай палкай па рэбрах, па шыі, па галаве — па чым папала. Жанчыны кінуліся да яго з крыкам: «Ці не ашалеў ты, Мікіта! Што ты робіш! Ты ж заб'еш жывёліну!» — «Гэ-гэ! — асклабіўся на іх Жагор. — Заб'ю адну клячу — будзе другая! Конская матка не здохла!..» Гэтую яго страшную прымаўку я чуў неаднойчы і пасля. Бывала, стоячы ў перадку калёс, ён так паганяе каня, так лупіць яго пугаўём па крыжы, што той ляціць наўскапыта і як з аглабель не выскачыць. А ён усё дадае пугаўя і галяпуе: «Гэй-гэй, растуды тваю туды! Давай-давай! Конская матка не здохла!..» Мікіту так за вочы і называлі: Конская матка не здохла. Звычайна вясковая мянушка давалася з аднаго слова ці, самае большае, з двух, а тут — цэлы сказ прыгадзіўся.

Жагор спыніўся перад вогнішчам, крыху наўзбоч ад мяне і якраз насупроць Нэлі. Я глядзеў на шчупачкоў, але, скасіўшы вока, бачыў яго брудныя босыя ногі, вялікія, крывыя, з жоўтымі пазногцямі пальцы.

— Што вы тут паліце, га? Што вы тут паліце? — п’яна заварочаў языком Мікіта.

Я прамаўчаў. Нічога не адказала і Нэля. Я адчуў, што яна глядзіць на мяне, відаць, пытае позіркам, што рабіць? — але падняць вочы ў адказ баяўся. Я сядзеў зусім нерухома і ліхаманкава думаў толькі аб адным: «Ну, чаму ты не ідзеш прэч?! Што табе тут трэба?! Што табе тут трэба?! І чаму цябе не забралі ў войска? Гаварылі ж, што вось-вось забяруць у трудармію. А вось жа не забралі!.. Чаго ты тут стаіш? Што табе тут трэба?.. Ідзі адгэтуль прэч, Конская матка не здохла!..»

Але ён не ішоў, ён стаяў нада мной, паўкрока збоку, і я пачуў, як ён зашамацеў адзеннем. Я паглядзеў на шчупачкоў, якія, было бачна, ужо спякліся, гатовы, і рашыўся: зараз жа забіраю гэтую смакату і сам іду прэч, сказаўшы Нэлі, каб і яна ішла за мною. Але не паспеў: у гэты самы момант у хліпкае полымца вогнішча, у яго гарачае вуголле раптам ударыў жоўты струмень, зашыпелі галавешкі, імгненна пацягнула паскудным смярдзючым дымам. Гэта было настолькі дзіка, што мяне на долю секунды паралізавала — я аслупянеў. Першай, спалохана ўскрыкнуўшы, падхапілася Нэля і пусцілася, колькі сілы, бягом да сваёй Рабоні. Затым апомніўся і я, падхапіўся таксама, але не пабег, а памалу, моўчкі, пайшоў прэч. Ад крыўды перацінала дыханне. Хацелася плакаць. «Паскуда! — душыў мяне ў грудзях крык. — Паскуда! Ну, пачакай, паскуда! Я табе да смерці не дарую гэтага!..»

— Гэх-хэх-хэ-хэ! — гучна, на ўсю аселіцу, рагатаў у звярынай радасці Жагор. — Г-гэх-хэх-хэ-хэ!..

На шчасце, Недзяленя была далекавата ад Рабоні, і мне было льга падацца ў іншы бок, каб не спаткацца вочы ў вочы з Нэляй і не памерці ад сораму. Такое ўбачыць і перажыць пры ёй, разам з ёю! З ёю!.. Не, глянуць пасля таго, што здарылася, ёй у вочы я не мог. На душы было так, як быццам гэта я ва ўсім вінаваты, я не засцярог яе — прыгожую, далікатную, слаўную — ад такой гнюснасці, ад такой страшнай абразы…

Праз некалькі дзён Нэля паехала ў горад, да маці. Назаўсёды. І добра, што паехала. Усё адно працягу таго светлага летуценнага пачатку быць ужо не магло. У яго ўварвалася і ўсё разбурыла паскудства.

## ЛАБЭДЗІНЫ ДЗЕЎКІ

Восенню сорак пятага зусім нечакана-неспадзявана я стаў паштальёнам.

Начальнік Слабодскага аддзялення сувязі, здаравісты аднаногі дзяцюк Коля Русенькі — па пашпарту Мікалай Аляксандравіч Давідовіч — сказаў:

— Слухай, хлапец. Ты, я гляджу, кожны дзень падпільноўваеш пошту — і — тут як тут! Дык бярыся, брат, рабіць паштальёнам, га? Па Слабадзе і па Мураванцы. Масліха сказала, што больш не будзе — цяжка старой, асабліва зімою. А табе што: за гадзіну аббегаеш! І заробіш палавіну «палачкі». Знаеш, колькі за год набярэцца? Паўтараста працадзён! У перадавіках, брат, хадзіць будзеш!..

Вядома, лічба гэта — сто пяцьдзесят «палачак» за год! — падагрэла і падахвоціла мяне здорава. Хто з аднагодкаў можа пахваліцца такім заробкам? Хіба толькі тыя, што не ходзяць у школу, а робяць на конях? Дык яны ж цэлы дзень пекуюцца!.. А тут — сапраўды, за гадзіну, за паўтары, прыйшоўшы са школы, я разнясу і газеты і пісьмы, а галоўнае… Так, было і галоўнае, чаму я імгненна прыняў прапанову Русенькага. Пасада паштальёна давала мне магчымасць знаёміцца з усёю прэсай, якая ішла ў Слабаду і выпісваць якую я, зразумела, не мог: не меў за што. Раней чым разнесці газеты і часопісы падпісчыкам, я змагу перачытаць іх сам! Гэта ж лепей і не прыдумаць, калі так хочацца чытаць, а чытаць няма чаго: новая кніга — неймаверна рэдкі госць у вёсцы.

Дакументальна ў праўленні калгаса «пасаду» афармілі на маму, бо мае чатырнаццаць гадоў мне самому права на гэта не давалі. Зрэшты, якое мае значэнне, на каго запісана? Усе ведаюць, што паштальён — я, і сто пяцьдзесят працаднёў за год буду прыносіць дадому — я!..

Беручыся за паштальёнства, я не падумаў — выпусціў з памяці, што апрача пісем, газет і часопісаў мне давядзецца разносіць і грашовыя «пасоб’і»: інвалідам вайны, салдацкім удовам, старым бацькам, чые дзеці загінулі на фронце або ў партызанах… У большасці выпадкаў «пасоб’і» тыя чакаліся людзьмі з нецярпеннем — гэта былі для іх, бадай, адзіныя тады грошы: калгас за «палачкі» не плаціў ні капейкі.

Так я пачаў заходзіць — раз у месяц — і да Ганны Алісіёнчыхі, па-вясковаму, за вочы — Лабэды. Жыла яна ў Мураванцы — за добрую вярсту з гакам ад нашай Слабады — і, па праўдзе кажу-

чы, тулілася з дзецьмі, трыма малымі дзяўчынкамі, не ў хаце, а ў адным з адсекаў колішняй панскай камяніцы-майстэрні, дзе рамантавалі прылады працы і match рознае гаспадарчае начынне. Муж Лабэды, Пётра Алісіёнак, загінуў у партызанах, — за яго яна і палучала «пасоб’е».

Маразы ў тую зіму — маю першую паштальёнскую — былі досыць лютыя, з сівернымі пякучымі вятрамі, і трымаліся падоўгу. Радасці мне ад паходаў у Мураванку было мала, бо адзетак мой, можна сказаць, быў ніякі — пашытая са зношанай салдацкай коўдры ватоўка, а дарога ўвесь час ішла па голаму — ні лесу-пералеску наўзбоч, ні кусціка.

Аднойчы гэткім марозным сцюжным днём я і панёс «пасоб’е» Лабэдзе. Усю дарогу — подбегам, каб угрэцца, затуляючы рукавіцай рот, бо сівер імгненна забіваў дыханне. Вось і прысадзістая, мураваная, абабітая і павышчарбленая па вуглах, будыніна колішніх майстэрань памешчыка Бурнышова — апошняга гаспадара Мураванага Двара, ці Мураванкі. Трое дзвярэй-уваходаў — кожныя ў асобную «кватэру». Першыя справа — да Лабэды. Я ўжо двойчы ці тройчы бываў тут і ведаю, што дзверы трэба цягнуць за тоўстую жалезную ручку на сябе. І адразу трапіш у «святліцу»: ні сенцаў, ні пярэдняга пакойчыка, ні першай, чорнай палавіны — для кухні і для сталовай — няма. Пацягнуў за ручку — дзверы не адчыніліся. Пацягнуў мацней — і зразумеў, што яны не запёрты знутры (замка ў іх не было наогул), а проста здорава прымёрзлі. І вушак абледзянелы, і шчыліна між вушаком і дзверыной уся зарасла лёдам. Бачна, што, прынамсі, сёння іх ніхто не адчыняў. Дзіўна! Што ж яны — і з хаты не выходзілі? А зрэшты — чаго? Каровы няма, свінні няма, курэй няма. А ўсё «багацце», якое ёсць, — трохі бульбы, буракоў, капусты, — яно там жа, у «кватэры». Праўда, большая Лабэдзіна дзяўчынка — школьніца, другакласніца, але цяпер якраз зімовыя канікулы. Ды ў школу па такім марозе маці і не пусціла б яе — школа ж у Слабадзе, за вярсту з гакам; тут, у Мураванцы, школы няма: вёска маленькая, сямей на дзесяць, а вучняў і дзесяці не набярэцца…

Я ўзяўся за ручку абедзвюма рукамі, правай нагою ўпёрся ў сцяну і штосілы пацягнуў на сябе. Наледзь на вушаку засквірчала, затрашчала і — дзверы падаліся, адчыніліся; не шырока, але дастаткова, каб я мог прайсці. У «святліцы» — прыцемак, як на змярканні, хаця на дварэ палудзенная пара. Адзінае — амаль насупраць дзвярэй — акенца спрэс зарасло, замуравалася лёдам і святла прапускае небагата. Я спыніўся ў парозе,

каля печы, якая тут жа, ля ўваходу, справа, і залазіць на якую таксама тут: жаралом яна была разумна павернута на акенца, унутр хаты. Спыніўся, пачуўшы, што ў хаце пяюць. Я ступіў ціхенька два крокі наперад так, што стала бачна ўся «святліца», і замёр, прыслухаўшыся. Нікога нідзе не відно, нікога няма, — а пяюць!

Так, я чую песню — прыгожае дзіцячае пяянне. Але дзе яны? Адкуль галасы?

Божа прамілы! З печы! З жарала печы!

Ад холаду яны пахаваліся ў печ!

І нават засланіліся тоўстай драўлянай засланкай.

Там, за засланкай, і гучала цяпер іх цудоўнае дзіцячае трыо.

Як памё-орла матулька,
Ажані-іўся татулька,
І паслалі сіраці-інку
У сыр-бо-ор па малі-інку.

А ўжо со-онца заходзя,
Сірата-а не прыходзя.
Выйдзі, бацька, паглядзі-і ты
Свайго роднага дзіця-а-ці.

Там стая-а-ла каліна.
Пад калі-і-най магіла,
Там сіро-о-тка хадзі-і-ла,
Сваю ма-а-амку будзі-і-ла:

— Устань, ма-а-мачка, уста-ань,
Устань, ро-о-дная, уста-ань,
Прычашы-ы мне гало-оўку,
І памы-ый мне кашу-ульку…

Цяпер мне і ўспомнілася, як, прыйшоўшы да нас «на сяло», суседка Ганна Барэйшыха расказвала маме: «Бачыла ж Лабэду ў краме: дык не нахваліцца сваімі дзеўкамі. Кажа: ну так ужо красіва пяюць, так пяюць — як артысткі!..»

Сапраўды, пелі дзеці вельмі хораша: галасочкі былі ў іх… мабыць, якраз пра такія і кажуць: анёльскія. Я гатоў быў слухаць іх пяянне яшчэ і яшчэ, але спахапіўся ад пачуцця няёмкасці: непрыгожа ўсё ж — стаяць ціхенька, стаіўшыся, у чужой хаце, усё адно як злодзей які… Калі песня скончылася, я працягнуў руку і

костачкамі пальцаў лёгка пастукаў у засланку. Масіўная абсмаленая дошка тут жа адвалілася, грукнуўшы аб прыпечак, і ў прыцемку печы я ўбачыў побачкі тры залаціста-русыя кудлаценькія галоўкі і тры пары бліскучых спалоханых вачанят.

— Во куды вы схаваліся! — сказаў ім, усміхаючыся. — І дадумаліся ж!..

— Бо холадна надта, — адказала старэйшая, Зоська.

— А маці дзе? Я прынёс вам пасоб’е за бацьку.

— Мама ў Мінск паехала…

— Сёння?

— Не, учора. Але яшчэ не вярнулася…

— І вы адны начавалі?

— А мы не баімся! Мы тут спалі, у печы. Тут яшчэ духу многа было, цёпленька…

— Ты не баішся, — умяшалася ў размову меншанькая, Маруська, — а мне было ўночы страшна, і я плакала…

Зноў успомнілася, што тады ж гаварыла маме Барэйшыха: «Лабэда ёсць Лабэда. Смяяліся мужчыны, што як толькі атрымае пасоб’е, — дык тут жа едзе ў Мінск і на ўсё грошы накупляе дзецям грэцкіх арэхаў. Тыя бульбіне няскобленай ды поснай заціркі рады, а яна ім — торбу грэцкіх арэхаў! На ўсё пасоб’е!.. Ды яшчэ і дражніцца: «От вашы дзеці і не каштавалі і не ведаюць, што гэта такое, а мае — ведаюць!..»

— А за грошы ты можаш распісацца? Умееш? — пытаюся ў Зоські.

— Умею, — адказала дзяўчынка, вылазячы з печы.

— Яна нават пісьмо напісала дзядзьку Ліксандру, — зноў умяшалася Маруська.

— А чарніла ў вас ёсць?

— Ёсць, але… мусіць, замерзла.

Зоська шуснула нагамі ў вялікія парваныя валёнкі, што стаялі тут жа, ля прыпечка, і падышла да стала. Пацягнула на сябе прыскрынак, дастала адтуль чарнільнічку-неразлівачку, паглядзела, патрэсла моцна ў далоньцы і, нібы вінаватая, глянула на мяне:

— Змерзлася…

— Ладна, распішашся алоўкам, а я дома абвяду поверху чарнілам. Толькі націскай добра, каб літары чыталіся…

Я дастаў з-за пазухі і паклаў перад ёй на стале бланк паштовага пераводу і сваю металічную, яшчэ даваеннай мадэлі, асадку — з двума муштучкамі: адзін для пяра, другі для аловачка.

— Вось тут, пад гэтай рыскай, акуратненька напішы сваё прозвішча: А-лі-сі-ё-нак.

Дзяўчынка ўзяла асадку і старанна, кожную паасобку, пачала выводзіць літары. Не дайшла і да палавіны слова, як Зінка і Маруська апынуліся тут жа, абапал сваёй вучонай — сама пісаць умее! — сястры. Яны сачылі за рухам яе рукі і ў той жа час радасна зіркалі на мяне, і было бачна па вачанятах, як яны ганарацца Зоськай. Ого, якая наша Зоська: сама замест мамы пасоб'е палучае!..

— Ну, так, малайчына, — пахваліў я дзяўчынку, — добра распісалася, будзеш калі-небудзь падпісваць і вялікія дакументы…

Паклаўшы зноў за пазуху бланк, я падаў Зосьцы падрыхтаваны, роўненька складзены яшчэ на пошце стосік пяцірублёвых купюрак.

— На, і пералічы пры мне, а то, можа, я збіўся. Лічыць па пяцёрках умееш?

Дзяўчынка, не падымаючы вачэй, нясмела кіўнула галавой. Але выканаць маю просьбу не спяшалася.

— Пералічы, — паўтарыў я настойліва. — Так інструкцыя патрабуе, каб грошы тут жа былі пералічаны.

Дзяўчынка пачырванела і ціха сказала:

— Я пасля пералічу…

— Пасля не гадзіцца. Трэба, каб пры мне… Ладна, давай разам лічыць. Пяць і пяць дзесяць. І яшчэ пяць і пяць — дзесяць, ужо дваццаць…

Так мы далічылі да канца.

— Вось і ўсё. Схавай іх дзе-небудзь і аддай маме, як вернецца.

Толькі цяпер я агледзеў, што Зінка і Маруська стаяць на заінелай падлозе босыя.

— Лезьце скарэй у печ! — закрычаў я на іх сярдзіта. — Вы ж прастуду схопіце!..

Малышкі, няйначай, чакалі гэтага загаду, шмыганулі ад стала, лёгенька, адна за другой, з услончыка залезлі, залацісталосыя, на прыпечак і гэтак жа спрытна, адна за другой, рачком, юркнулі, як лісяняты ў нару, у печ. Праз долю хвіліны адтуль ужо выглядалі іх вясёлыя, сімпатычныя, запэцканыя сажай тварыкі.

А Зоська правяла мяне да дзвярэй і, зусім як дарослая, папрасіла:

— Зачыніце адтуль моцна-моцна, каб не цягнула з двара марозам. Бо адгэтуль шчыльна я не зачыню іх…

«Зачыніце?..» Гэта было першы раз у жыцці, калі да мяне звярнуліся на «вы». Пэўна, не розніца ў гадах прадыктавала ёй

гэта: я ж таксама быў яшчэ школьнік, хадзіў у шосты клас, а ў школе ўсе дзеці паміж сабой на «ты». Прадыктавала мая пасада: як-ніяк, а чалавек на дзяржаўнай службе! Паштальён!..

Ранняй вясной сорак шостага Лабэда з дзецьмі — як і некаторыя іншыя з Мураванкі — выехала на перасяленне ў былую Усходнюю Прусію. Там, гаварылі вярбоўшчыкі, пустуюць дабрэнныя мураваныя дамы і кожнай сям'і бясплатна даюць карову.

## ДАВАЖАЧАК

Сакратаром камсамольскай арганізацыі ў нашай сямігодцы была мая дваюрадная сястра, настаўніца геаграфіі Зінаіда Пятроўна Гілевіч. Яна і сказала мне:

— Заўтра а дванаццатай ты павінен быць у Лагойску, у райкаме камсамолу. Будуць уручаць табе камсамольскі білет.

Хаця я і чакаў гэтага, бо на сходзе мяне прынялі ў арганізацыю яшчэ з месяц назад, аднак жа трохі захваляваўся.

— Там будуць у мяне пра што-небудзь пытацца?

— Могуць і спытаць сёе-тое, а можа, і так абыдзецца. Ды табе баяцца няма чаго: статут ты ведаеш, вучышся добра, грамадскія нагрузкі маеш. Вось і скажаш пра гэта, калі будзе патрэба…

Назаўтра я ўстаў раней, чым звычайна, бо да Лагойска — добрыя дзве гадзіны хадзьбы, і то калі чыстая дарога, а калі пазамятала, — дык і на ўсе тры хопіць. А за ноч магло і намесці — сёлетнія лютаўскія мяцеліцы шчодрыя, сыпяць многа.

Вярнулася ад студні мама і сказала, што ў дарогу мне ёсць кампаньён. Толькі што яна бачыла суседа Валодзю Думанскага, і ён таксама збіраецца ў Лагойск — у ваенкамат па нейкай справе выклікаюць. Праз паўгадзіны будзе выходзіць і сказаў, што гукне мяне, каб я быў гатовы.

Думанскі ўсю вайну прабыў на фронце, але, здаецца, «нарадзіўся ў кашулі», шчаслівец, бо дайшоў да Берліна жывыздаровы і нават ні разу не быў паранены. Дадому вярнуўся ён незадоўга перад Новым годам — у дабротным ваенным паўшубку, у салдацкіх ватніках і валёнках, само сабой зразумела — у вушанцы. Але вярнуўся ў хату халодную і галодную — жонка Ганна з кучаю малых дзяцей спраўляцца па гаспадарцы ўжо проста не мела сілы. Чалавек працавіты і руплівы, хаця па натуры і маруда, Валодзя адразу ж насек і навазіў з Роўніцы

альховых дроў, падрамантаваў сенцы і свіронак, уцяпліў, абклаўшы яловымі лапкамі, наскрозь дзіравы хляўчук, — адным словам, без справы не стаў сядзець ані дня. Што ж да запасаў у свіронку — тут ён перайначыць становішча быў бяссільны: хлеба не было ні крошкі і купіць яго не было за што. З калгаса за ўвесь сорак пяты год Ганна не атрымала на свае вялікія працадні ні грама збожжа. Сям'я трымалася толькі на бульбе і гародніне.

Бульбай з малаком паснедаў наспех і я, апрануў ватоўку, насунуў на лоб цеснаватую аблавушку і выбег на вуліцу, каб не прымушаць сталага чалавека заходзіць па мяне, лепш пачакаю яго сам. На дварэ яшчэ было прыцемна, але адчувалася, што ноччу прайшоў снег — свежы, паскрыпліваў пад нагамі. Неўзабаве выйшаў з хаты і Думанскі, падаў мне руку, як роўнаму.

— Ну што — пачэпаем паціху?

— Пачэпаем! — адказаў я паважна, як дарослы.

Сусед наш быў чалавек сціплы, спакойны і негаваркі, таму мы амаль усю дарогу ішлі моўчкі. Сам я распачынаць гаворку саромеўся, ён, мабыць, не меў патрэбы. Да таго ж — я ўсё больш пачынаў хвалявацца, як яно там, у Лагойску, у райкаме камсамолу, будзе. Мне, можна сказаць, нават было і выгадна, што мой спадарожнік — маўчун. Я ішоў побач і думаў пра сваё — што адкажу, калі мне пачнуць задаваць пытанні. Галоўнае, канешне ж, ведаць статут. І я пачаў паўтараць у памяці — параграф за параграфам — усё, што завучыў пра абавязкі і правы камсамольца. Затым перабраў у памяці ўсё, што я за апошні год зрабіў у калгасе і ў школе і, што мне можа быць залічана за грамадскую актыўнасць.

На канікулах, летам, я не прагуляў бадай ні аднаго дня. Амаль увесь ліпень хадзіў касіць — аж пакуль не скончылася касавіца. Успомнілася, як не хацелася раненька, з усходам сонца, уставаць, вылазіць з-пад пасцілкі-рызаўкі, калі мама прыходзіла ў пуню, дзе мы спалі, будзіць мяне з братам. Іншы раз гэта рабіла не мама, а сам старшыня калгаса Ліксандр Банук: ён ведаў, дзе мы начуем, падыходзіў да варот і гукаў: «Хлопчыкі, пад'ём! Косы чакаюць! Даспіцё ў абед, як расы не будзе!..» І мы падымаліся, з'ядалі па кубку малака з бульбяным праснаком і ішлі, босыя, праз белую ад расы аселіцу, на Доўгае балота — асноўныя сенажаці стаялі там. Раса была такою сцюдзёнай, так апякала і калола ногі, што мы па чарзе мяняліся, каму ісці наперадзе і прымаць на сябе ўсю лютасць гэтай срабрыста-зіхатлівай нерушы.

У жніво, напачатку, я звозіў снапы з поля да тока. Гэта работа мне падабалася. Мне дастаўся добры, цягавіты конь і дагледжаныя калёсы. Укладаць воз я навучыўся яшчэ вайной, калі калгасная зямля была падзелена і даводзілася са свайго «шнура» звозіць збажыну на сваё ж гумно. Толькі адзін раз здарылася, што снапы я ўклаў няроўна і на касагоры воз перакуліўся… Апошні тыдзень канікул працаваў на таку, на малацьбе. Там — успомніў і аж скалануўся — я ледзь не зрабіўся на ўсё жыццё калекам. Малацілі жыта вялікай малатарняй з конным прыводам. За адной з упрэжак хадзіў па крузе я, з пугай у руцэ. За доўгі дзень ды на санцапёку так нахадзіўся, што к вечару ўжо быў асалавелы, задумаўся пра нешта і страціў пільнасць. І калі б не цуд, гэта магло б каштаваць мне вельмі дорага. Левая калашына маіх доўгіх, да самай зямлі, штаноў зачапілася за «кулак» з рухомай зубчатаю шасцярнёю, і нагу пацягнула назад — пад тоўсты сталёвы валік. У долю секунды я зразумеў, што здарылася, і дзіка закрычаў: «Стой!» і з такой нечалавечай сілай ірвануўся наперад, што калашына трэснула вышэй калена і мэнтам спаўзла з нагі, закруціўшыся на «кулаку» анучынай. Толькі пасля гэтага спыніліся і коні, да мяне падбеглі двое іншых паганятых, а таксама людзі ад малатарні. Я стаяў збялелы як палатно і ўсё яшчэ не мог апомніцца. «Шчасце тваё, што, відаць, з нечага гнілога матка штаны пашыла, — сказала, паківаўшы галавой, адна з пажылых калгасніц. — Калі б матэр’ял быў моцны — хруснула б тут твая ножка, як альховы прут. Пашанцавала табе, хлопча, ой, пашанцавала!..» Наконт «нечага гнілога» жанчына не памылілася: штаны былі пашыты са знойдзенай у лесе старой і сапрэлай байкавай коўдры…

Пра што яшчэ, апрача працы на жніве і на касавіцы, я магу, калі будзе трэба, сказаць у райкаме? Відаць, пра тое, што з восені я пачаў рабіць паштальёнам. Праўда, гэта таксама не грамадская нагрузка, а — за «палачкі»-працадні; але ж раблю, лынды не б’ю, не гуляю. А грамадскае?.. Дапамагаю ў школе выпускаць насценную газету, пішу заметкі, а ў апошнім нумары і верш змясціў. Ну, пра верш — гэта я ім не скажу, гэта дробязь… А да кастрычніцкага свята напісаў на шпалерах — на адваротным баку — аж тры лозунгі, якія развешаны ў класах. Прыняў удзел і ў святочным афармленні нашай Слабодскай хаты-чытальні. Да вайны на шыльдзе было: ДСК — Дом Сацыялістычнай Культуры; таксама напісаў лозунг, а яшчэ — намаляваў акварэльнымі фарбамі вялікі партрэт таварыша Сталіна, дакладней — змаляваў з газетнага фотаздымка, у парадный форме генералісімуса.

Загадчык хаты-чытальні, бязногі Валодзя Рулькевіч, былы адважны партызан, работу маю ўхваліў, і партрэт закрасаваўся на сцяне. Але радавацца і ганарыцца мне давялося зусім не доўга, бо скончылася гэта для мяне канфузам: дні праз тры, будучы ў нашым баку, заглянуў у хату-чытальню сам сакратар райкама і загадаў маё маляванне неадкладна зняць і знішчыць. «Як вы маглі дадумацца! — абураўся і сварыўся ён на Рулькевіча. — Што ж гэта будзе, калі кожны жук і жаба пачне маляваць таварыша Сталіна!..» «Жук і жаба» ў адной асобе стаяў каля дзвярэй і чуў усю гэту начальніцкую распяканку. Ахвота да малявання высокашаноўных партрэтаў была адбіта назаўсёды…

Вось ужо і Зялёны Луг мінулі, вось ужо злева, на беразе Гайны, і знакаміты лагойскі парк былых графоў Тышкевічаў. Ідзем вузкаю вуліцай па ўзбярэжжы глыбознага рова, які акаляе старажытнае замчышча. Сем-восем стагоддзяў назад тут высіўся магутны замак, тут быў цэнтр горада Лагожэска (Лагожска, Лагойска) — сталіца ўдзельнага княства. Але пра гэта я, вучань шостага класа Гаенскай сямігодкі, яшчэ нічога не ведаю. Я іду побач з Думанскім па ўтоптаным тратуары і думаю пра сваё. Скора будзе паваротка направа — і я пайду туды: райкам — там.

Сыплецца мяккі, пульхны сняжок. Цішыня. Нам насустрач, па другой узбочыне вулачкі, ідзе чалавек. Па адзенню — дарагое чорнае паліто з каўняром, хромавыя боты, мехавая шапка — бачна, што немалы начальнік. У руках у чалавека — буханка магазіннага (у нас гаварылі — куплёнага) хлеба, з невялічкім, грамаў на сто, даважкам. Хлеб ён трымае перад сабой, пальцы аднае рукі ляжаць на даважку. І трэба ж! Якраз, калі чалавек параўняўся з намі, ён паслізнуўся, вертыхнуўся, але не ўпаў і буханку з рук не выпусціў, а вось даважачак паляцеў долу і пакаціўся па вуліцы. Я міжволі прыцішыў крок і не спускаю з небаракі вачэй. Нейкае імгненне чалавек стаяў і глядзеў, няйначай у разгубленасці, на дарогу, дзе ляжаў даважачак, нават, здалося, быў памкнуўся пайсці і падняць яго, але тут жа перадумаў — ці то нас пасаромеўся, ці проста паленаваўся нагінацца — і шпаркім крокам рашуча пайшоў далей. «Вазьму! — сказаў я ў думках сам сабе. — Хай толькі трохі ён адыдзецца. Такі ладны кавалачак хлеба! Куплёнага!..» І раптам чую нягучны голас дзядзькі Валодзі:

— Іш, трасца бакам! Наеўся, відаць, начальнічак. Ну, а нам — медалі хлеба не далі. Будзем рады і гэтаму.

Сказаўшы так, ён ступіў з абочыны на дарогу і падняў той даважачак. Спачатку паспрабаваў здзьмухнуць наліплы на яго

снег, — не атрымалася, тады ён далікатна абцёр даважачак рукою і сунуў яго за пазуху паўшубка, — туды, дзе сапраўды вісела на грудзях некалькі медалёў. «Добра, што я не кінуўся на гэты кавалачак першы, — з палёгкай уздыхнуў я ў душы, калі мы зноў пайшлі побач. — Цяпер бы няёмка было, каб паквапіўся, — навыперадкі з дзядзькам, сталым чалавекам, франтавіком…»

Праз хвіліну мы дамовіліся, дзе і калі спаткаемся, каб і дадому разам, і разышліся.

«Медалі хлеба не далі… Медалі хлеба не далі», — паўтараў безгалоса я новую, не вядомую мне раней прымаўку, падыходзячы да будынка райкама камсамолу. Можа б, і эпізод з даважачкам так не ўразіў мяне, калі б не гэта прымаўка. Нешта як бы трохі зыначылася ў свядомасці камсамольскага «неафіта»: у суцэльны мажор пераможнага настрою ўклінілася несугучная, журботная нота. «Медалі… хлеба не далі». Раней я ніколі не задумваўся пра гэта — пра ўзаемасувязь паміж хлебам і салдацкімі медалямі. Я проста ведаў, што прайшла вялікая, крывавая вайна і што на нашай спажаранай, зруйнаванай зямлі цяпер усім жывецца цяжка. Усім? І гэнаму, што пагрэбаваў падняць з дарогі кавалак хлеба?..

Ах, як недарэчы прычапілася да мяне гэтая не сугучная часу думка! І дзе? Можна сказаць, на ганку райкама камсамолу. І калі? За якой паўгадзіны перад тым, як я атрымаю з рук сакратара камсамольскі білет. У такі незвычайны, святочны дзень! У такі ўрачысты ў маім жыцці момант!..

## ШЧАСЛІВЫ АБДЗІРТУС

Мабыць, нічога мне ў мае падлеткавыя гады так не хацелася, як навучыцца граць на гармоніку і набыць гэты музычны інструмент сабе ва ўласнасць, каб мог у любую хвіліну ўзяць у рукі і «адвесці душу», як то кажуць.

Як помню, гранне вясковых музыкаў з самых ранніх гадоў маленства хвалявала мяне незвычайна. Абы пачуецца на вуліцы спеў гармоніка — я вопрамеццю вылятаў з хаты і ішоў туды, куды ішла музыка, і стаяў або сядзеў там, дзе гучаў — нярэдка на пару са скрыпкай ці з бубнам — гармонік. Дзеля гэтага вечна тырчэў — дзе-небудзь каля печы, у качарэжніку — на вечарынках, і не так глядзеў на танцораў (што рабілі ўсе іншыя гледачы), як на музыку і на звонкі, галасісты інструмент у яго руках. Асоба музыкі была для мяне, бадай, ці не самай аўтарытэтнай,

і загадкавай, і прывабнай. Да чаго ж мне падабалася, як ён раптам урэжа польку, ды так, што гэты гармонік ажно з рук у яго вырываецца, а ён то заверне галаву на адзін бок, то на другі, то прыкладзе вуха да самых мяхоў, а то закіне-задзярэ нос высока ў столь і, прыжмурыўшы вочы, пачне «выдаваць» у такт з музыкай вясёлыя, дасціпныя прыпеўкі.

Першая ў маім жыцці спроба раздабыць свой гармонік адбылася летам сорак чацвёртага. Спроба гэта, трэба прызнацца, хоць і не мела яўна злачыннага характару, але і да высакародных залічыць яе таксама не выпадае. Тыдні праз два пасля вызвалення ў Слабаду заглянуў на кароткую пабыўку маёр медыцынскай службы Палуэктаў. Ён дазнаўся, што яго жонка Люба з дзецьмі — дачкой і сынам — жывуць у Слабадзе, у бацькі Юстына Рулькевіча, куды, не паспеўшы эвакуіравацца, перабраліся на пачатку вайны. Дык вось Палуэктаў у падарунак свайму пяцігадоваму сыну Эдзіку прывёз нямецкі губны гармонік, трафейны, вядома. Слаўны, прыгожы гармонічак — у бліскучай металёвай абкладцы і з музыкай на два бакі. Такой дзівоснай цацкі-падарунка ні ў кога з вясковых хлапчукоў не было зроду, і таму за Эдзікам хадзілі следам — цэлым гуртом — ці не ўсе слабодскія дзеці, пачынаючы ад яго равеснікаў і канчаючы падлеткамі. Кожны лічыў за шчасце хоць на хвіліну прыкласці гэту цацку да губ і выдзьмуць з яе «музыку». Разы са два пабывала яна і ў маіх руках, і, на здзіўленне сабе самому, я амаль адразу ж вывеў нейкую просценькую мелодыю. «Добра было б на гэткую музыку і мне разжыцца», — падумаў я тады.

І здарылася так, што аднойчы на адвячорку, калі дзеці сядзелі грамадой — з Эдзікам у цэнтры — на кучы бярвення, хтосьці выпусціў гармонічак з рук, і ён слізгануў паміж двух бярвён у шчыліну і прапаў, мабыць, праваліўся аж да зямлі. Я падышоў да гурта хлапчукоў якраз тады, калі адны з іх зазіралі ва ўсе шчыліны — ці не віднеецца дзе бліскучая прапажа, другія — сварыліся на недарэку, па віне якога гэта здарылася, а трэція — суцяшалі Эдзіка, які, канечне ж, хліпаў носам, — суцяшалі тым, што яго дзед Юстын з мужчынамі раскоціць бярвенне і дастане гармонічак. «Раскаціць іх, бадай што, і мне пад сілу, — падумаў я. — Гэта скаціць у кучу цяжка, а раскаціць — папхні добра, дык яно і пакоціцца...» Да вечара гэта думка ў маёй галаве выспела і ператварылася ў канкрэтны план-задуму: ноччу, калі ўсе будуць спаць, бярвенне раскаціць і гармонічак узяць сабе. Дзе і як пасля граць на ім, каб людзі не пачулі? А хоць бы сабе дзе

далёка ў лесе. Або ціхенька дома, калі ўсе разыдуцца з хаты. Галоўнае — завалодаць ім, а такая магчымасць ёсць.

Спаў я тады з братам у пуні на сене, таму выйсці мне ноччу на вуліцу было справай простай. Калі, па маіх разліках, час падбіраўся к апаўночы, я асцярожна, каб не скрыпнуць дзвярыма, выйшаў з пуні і праз колькі хвілін ужо быў на запаветным месцы. Пастаяў хвіліну, паглядзеў у абодва канцы вуліцы, паслухаў — нідзе ні душы і ні гуку. Давай! За работу! Бярвенні былі з колісь разабранай будыніны, а не сырыя, прывезеныя з лесу круглякі, таму, ведаў я, асабліва цяжкімі яны быць не павінны. Упершыся плячом і рукамі ў канец самага верхняга бервяна, я паднапружыўся штосілы — і скрануў яго з месца. І яно пакацілася. Але — божа мой! — з якім гулкім грымотным грукатам! Аж жудкавата стала, і я зноў замёр, каб прыслухацца да цішыні ночы. І ў гэта імгненне зусім непадалёк чую знаёмы мужчынскі голас:

— Хто гэта тут што робіць?

Сэрца ёкнула і абарвалася ад страху. Стары Мароз! Чаго добрага са стрэльбай ды яшчэ і п’яны. Разганяў жа нядаўна вечарам людзей з вуліцы. Раздумваць не было калі, і выйсце ўявілася толькі адно: не вуліцай уцякаць, дзе ён убачыць і можа пазнаць мяне, а кінуцца ў чужы двор, вылецець за гумно, а там паўз сады-агароды да сваёй пуні. Так і зрабіў: перамахнуў праз зачыненыя вароты ў двор і панёсся.

— Стой, страляць буду! — закрычаў наўздагон Мароз. — Стой, кажу табе!

«Страляй! Скулу ты мяне з вуліцы бачыш!..» Да пуні дабраўся па пояс мокры — ліпеньскія росы густыя і шчодрыя. Хутка супакоіўся, што так шчасліва ўсё абышлося, прашаптаў сабе: «Чорт з ім, з тым гармонічкам!», сагрэўся ў духмяным сене і заснуў.

* * *

Музыкам-гарманістам у нашай вёсцы быў інвалід імперыялістычнай вайны Аляксей Мацвеевіч Давідовіч, або проста Матвеіч — для дарослых, ці — для дзяцей — дзядзька Матвеіч. Ад кантузіі ў галаву яму моцна пашкодзіла зрок — і ён, хаця і насіў таўшчэзныя акуляры, зусім кепска бачыў: глядзеў на свет, як праз густы туман. Жыў ён пры старэйшай сястры Алене, нічога асаблівага, апрача як плесці лазовыя кашы ды віць

грубыя вяроўкі, рабіць не мог, можа, таму рашыў навучыцца граць на гармоніку — нярэдкі сярод людзей падобнага лёсу занятак. Здольнасці да музыкі былі ў яго, калі шчыра сказаць, зусім невялікія, і граў ён досыць прымітыўна. Многія гэта адчувалі, разумелі і нават часам іранічна зазначалі: «Ну, Матвеіч ужо завёў сваё «туварва!» І на матыў вальса пра залатыя горы перакрыўлялі: «Ту-вар-ва, ту-вар-ва, ту-вар-ва, ту-вар-ва…» Але паколькі лепшага ў вёсцы музыкі не было, на вечарынках заўсёды граў Матвеіч. Рэпертуар яго, а значыць і танцораў, не пашыраўся: танцавалі вальс, польку, караковік (так у нас называлі кракавяк), ойру, «лысага», «нарэчаньку», падыспань, а таксама «сербіянку» і «барыню». Песень ён граў мала, відаць, іх мелодыі даваліся яму цяжка, але затое адну з іх выконваў вельмі часта — і не толькі граў, але і спяваў. Упершыню я пачуў ад яго гэту песню на зазімку сорак чацвёртага, калі да яго ў хату падсялілася сям'я майго сябра Лёніка Кулакоўскага і я стаў амаль кожны дзень там бываць. К гэтаму часу Матвеіч застаўся адзін — сястра памерла, пляменніца некуды з'ехала, і даглядаць старога ўзялася Лёнікава маці, тым больш што свайго кутка-прытулку ў іх не было.

Аднойчы я пайшоў да сябра на прыцемку і яшчэ ў сенцах пачуў, што Матвеіч грае. Я ціха зайшоў у хату і ўбачыў, што дома ён адзін. Перабіваць гранне я не адважыўся, таму прыпёрся плячыма да сцяны, стаяў і слухаў. Мелодыя была мне не знаёмая і вельмі прыгожая. Я ажно здрыгануўся, калі раптам Матвеіч пад гэту мелодыю заспяваў — густым прыемным барытонам:

Шумел, горел пожар московский,
Дым расстилался по реке.
А на стене вдали кремлевской
Стоял он в сером сюртуке.

Он видел огненное море,
Он видел гибель впереди.
И призадумался великий,
Скрестивши руки на груди.

«Зачем я шел к тебе, Расея,
Европу всю держа в руках?
Теперь с поникшей головою
Стою на крепостных стенах.

Войска все, собранные мною,
Погибнут здесь среди снегов.
В полях истлеют наши кости
Без погребенья и крестов.

Судьба играет человеком,
Она изменчива всегда:
То вознесет его высоко,
То бросит в бездну без следа…»

Божа, колькі душы ён уклаў у гэтую песню, як яна, відаць, яму падабалася! Але гэтак жа моцна яна спадабалася і мне! І пазней, калі паміж намі склаліся досыць прыязныя адносіны, я звяртаўся да яго іншы раз з просьбай: «Дзядзька Матвеіч, сыграйце пра пажар маскоўскі!..» Хто такі Ён, вялікі, што стаяў з паніклай галавою, я ведаў, але песня ўспрымалася і пасучаснаму, яе змест і вобразы так нязмушана дастасоўваліся да той вайны, якая толькі што схлынула з нашай апажаранай зямлі і яшчэ бушавала недзе далёка. Можа, гэтай сугучнасцю, пераклічкай часоў яна імпанавала і Матвеічу? Не ведаю. Але яна была ў яго — у простага вясковага чалавека, у каго вайна адабрала яшчэ ў маладосці ўсе найбольшыя радасці жыцця, — бадай, ці не самай любімай.

Вясною, дзесь напрыканцы мая, калі я прывёз Матвеічу на ручной цялежцы сухога валежніку з лесу і ён быў вельмі ўзрадаваны гэтым і ўдзячны мне, я набраўся смеласці і папрасіў:

— Дзядзька Матвеіч, можа б, вы далі мне трохі пайграць на вашым гармоніку?

Разлік быў досыць дакладны: у гэтай сітуацыі адмовіць мне было цяжка, і Матвеіч, хоць, як то кажуць, і без асаблівай радасці, дазволіў.

— Вазьмі. Толькі памалу расцягвай, бо ён ужо чуць ліпіць…

Так, Матвеіч не любіў даваць у чужыя рукі сваю старэнькую «хромку», і яго можна было зразумець: яна, сапраўды, ужо ледзь трымалася, цяжка сапла і дыхала дзіравымі мяхамі, а падрамантаваць яе належным чынам магчымасці не прадбачылася: стары бабыль-інвалід быў гол як сакол і жыў, можна сказаць, з людскае ласкі.

І, аднак жа, яго «туварва» ў мяне на каленях. Я паціху расцягваю мяхі і націскаю на «гузікі» — спрабую падабраць мелодыю

яго безыменнага вальса, які на вечарынках кожны раз даставаў мне душу сваім сумна-балючым мінорным ладам. Падбіраю толькі па галасах, вядома, басоў не чапаю і моцна хвалююся і перажываю, што збіваюся і бяру не той гук, і думаю: от калі б не было побач дзядзькі Матвеіча, у мяне б выходзіла лепш. І дзядзька, няйначай, пачуў маё жаданне: пераканаўшыся, што з інструментам я абыходжуся далікатна, ён выйшаў з хаты. Я пачуўся вальней і памалу-патроху асвоіў мелодыю, нават паспрабаваў спалучаць галасы з басамі. Захапіўся загарэўся я гэтым незвычайна, і было бясконца шкада, калі, вярнуўшыся з двара і паслухаўшы з хвіліну маё рыпенне, Матвеіч сказаў:

— Мусіць, хлапец, ужо хопіць, паіграў. Ты скажы бацьку, хай купляе табе гармонік, раз маеш хэнць да музыкі…

Лёгка сказаць — хай купляе! Я і пары з зубоў не пасмею пусціць наконт гэтага…

Зрабіўшы першую спробу прыручыць да сябе дзядзькава «туварва», спыніцца я ўжо не мог і шукаў розныя спосабы, каб задобрыць Матвеіча і атрымаць дазвол на чарговы ўрок музыкі. Спосабы гэтыя найчасцей зводзіліся да таго, што я прыносіў яму што-небудзь з яды: ці кавалак праснака, ці два-тры шайморавыя «галдыбікі», ці некалькі вараных бульбін. Усе мы жылі тады бедна, але адзінокі сляпы чалавек, відаць, бядней за ўсіх. На пачатку лета сорак шостага голад так прыціснуў і нашу сям’ю, што падтрымліваць Матвеіча чым-небудзь з яды стала для мяне амаль немагчымым. Але нават і ў гэткіх умовах цяга да музыкі перамагала. Помню: мама налівае ў вялікую місу варанае бацвінне, прыбельвае малаком (вось дзе быў паратунак — карова!) і кожнаму з нас кладзе па дзве бульбіны: малым — меншыя, нам, бальшунам, — трохі большыя. Усім — па дзве! Некалі звычайна бульба высыпалася з гаршка на настольнік, яе было многа, цэлая гара, і кожны еў у адвал — колькі хацелася. Цяпер давялося перайсці на дзяльбу, бо спрыт і апетыт за сталом няроўныя, і сёй-той можа аказацца пакрыўджаным. Вось і ў мяне пад рукою дзве невялікія ў мундзірах бульбіны. Божа, ды я з’еў бы з гэтым бацвіннем дзесяць такіх! Але з’ядаю толькі адну. А другую — неўпрыкмет, каб ніхто не заўважыў — соваю ў кішэнь. Другая — для дзядзькі Матвеіча. Гэта — усё, чым я магу цяпер з ім падзяліцца.

* * *

У першыя дні новага, сорак сёмага года на зімовых канікулах я паехаў у Мінск з цвёрдым заданнем — купіць сабе на базары больш-менш людскія штаны, шапку-вушанку і чаравікі. Патрэба ў гэтых рэчах была крайне пільная: штаны, у якіх я хадзіў у школу (а ўжо ж сямікласнік усё-такі!), былі латаныя-пералатаныя, старэнькая аблавушка на галаве, з салдацкага шлема калісьці перарobленая, — сорамна глядзець, чаравікаў жа наогул не было ніякіх. На гэтыя пакупкі мама дала мне пяцьсот рублёў (як іх наскрэбла — не ведаю) і строга наказала:

— На дарагое не разганяйся. Хай лепей трохі грошай застанецца, дома спатрэбяцца.

У Мінск я прыехаў пад вечар, пераначаваў у знаёмых і назаўтра, як толькі развіднела, ужо быў на Камароўцы. Дзень выдаўся марозны, да таго ж і ветраны, але людзей на базары — процьма. Прадаюць і купляюць усякую ўсячыну, але пераважна — рознае адзенне і абутак. Ёсць і тое, што мне трэба, але хапаць я не спяшаюся — прыглядваюся, прымерваюся, ці не задорага. Цану рублёўцы я, дзякаваць богу, ведаю, выкідваць на вецер не стану. Хаджу, абыходжу па крузе, перасякаю наўскасяк, прыслухоўваюся да галасоў, да запрашэнняў, да ўсяго, чым гудзе-гамоніць базар. І пачуў! Музыку пачуў! Хтосьці грае — і надта прыгожа. Але падобна, што не на гармоніку. Міжволі, уподбег, падаюся туды — на музыку. У невялічкім коле выпадковых слухачоў, а можа, і пакупнікоў, чалавек сярэдніх гадоў, гараджанін з выгляду, грае на невялічкім срэбна-белым акардэоне.

— Гэта што — адна чацвёртая ад поўнага? — спытаў хтосьці, калі музыка сціснуў мяхі і захукаў у пальцы.

— Ты ж бачыш, калі разбіраешся, — адказаў той.

— І колькі ты за яго хочаш?

— За шэсцьсот аддам.

У колцы людзей — маўчанне. Відаць, нікому з іх музыка не патрэбна і таргавацца яны не збіраюцца.

Я гляджу на цуд у руках мужчыны і не магу адвесці вачэй. Да таго ж прыгожы, божа мілы! Увесь у перламутры! А як адсвечваюць, няйначай касцяныя, белыя клавішы! А як пабліскваюць чорныя! Ай-я-яй, які красунец! А гучыць як! Голас які незвычайны! Гэта не тое што дзядзькава «туварва». Во каб займець такую рэч у свае рукі!.. Ад гэтай думкі-мары ажно дыханне ў грудзях перахапіла. Шэсцьсот просіць? А ў мяне — пяцьсот. Але пры

чым тут шэсцьсот ці пяцьсот? Хоць бы сабе і чатырыста — усё адно ты не купіш. Ты ж ведаеш, па што ты прыехаў, на што табе дадзены дома грошы.

Чалавек з акардэонам, мабыць, прачытаў на маім твары ўсё тое, што рабілася ў душы.

— Купляй, хлопча, — сказаў з націскам, з акцэнтам. — Не пашкадуеш. Новенькі, найлепшай нямецкай маркі: «Вельтмайстар»!

Толькі цяпер я агледзеўся, што колца слухачоў разышлося і я застаўся каля яго адзін.

— У мяне столькі грошай няма, — адказаў я так, як быццам уся справа была іменна ў недахопе сумы, а не ў тым, што я наогул купляць яго не маю права.

— А колькі ў цябе?

— Усяго пяцьсот, — прызнаюся сумленна.

— Э, не, за пяцьсот нічога не выйдзе!..

Чалавек павесіў акардэон на плячо і паволі, як усе на базары, пайшоў у адзін бок, а я ў другі.

Я ішоў і спрабаваў прыглядацца да адзетку, да абутку, нават спыняўся і глядзеў некаторыя рэчы, але адчуваў, што яны ўжо мяне мала цікавяць, што я думаю пра акардэон і ў думках ужо таргуюся з тым чалавекам. «А што, калі папрасіць яго харашэнька, каб уступіў сотню? Не, сотні не ўступіць. Многа. Паўсотні — можа б, і скінуў… А можа, хто-небудзь ужо купіў? Трэба пайсці пашукаць яго…» І я міжволі пачынаю, задраўшы галаву, глядзець ва ўсе бакі. Заспяшаўся па кругавой, па якой тут і ходзяць усе, хто хоча хутчэй знайсці для свайго тавару пакупніка. Ага, вось ён! Не прадаў, трымае на плячы, а сам хукае ў далоні — без пальчатак, відаць, прыйшоў. Мы спаткаліся вочы ў вочы, і я не паспеў адвесці позірк, як ён запытаўся:

— Ну, што — не надумаўся? Будзеш купляць?

— Дык я ж сказаў вам… У мяне няма столькі.

— Ладна, — кракатнуў чалавек, — бяры за пяцьсот пяцьдзесят і будзь здароў. Зраблю табе скідку.

— Каб жа ў мяне было столькі… У мяне роўна пяцьсот…

— Э, не, — сказаў чалавек, — гэта ўжо не тое. Паўсотні — яшчэ б уступіў, а сто — не магу.

І зноў ён пайшоў у адзін бок, а я ў другі. Глядзець мне ўжо нічога не хацелася. Думкі мае былі цалкам заняты акардэонам. «А вот жа не прадаў яшчэ! Ужо, лічы, гадзіну ходзіць, а ніхто не купляе». І ад таго, што «яшчэ не прадаў», мне трохі ўцешней робіцца на душы і я шпарка чашу па кругавой, каб спаткацца

зноў і параканацца, што акардэон яшчэ не прададзены. Хвілін праз дзесяць мы спаткаліся зноў і — размінуліся моўчкі. Чалавек як бы і не заўважыў мяне, хаця я бачыў, што заўважыў. І яшчэ раз праз нейкі час спаткаліся — і таксама размінуліся моўчкі. Але я тут жа завярнуўся і пайшоў за ім назіркам следам. І адлегласць паміж намі ўсё скарачалася, бо я прыбаўляў кроку — бо мне хацелася быць бліжэй да таго бліскучага перламутравага цуда, каб у выпадку чаго крыкнуць: «Не прадавайце! Заклінаю вас! Не прадавайце яму! Мне прадайце! Мне! Хай сабе ў мяне і меней грошай, затое…» Што — затое? Што?..

Чалавек раптам запыніўся, абярнуўся назад і ўбачыў перад сабою… мяне. За паўкрока.

— А-а, ты тут, аказваецца, — сказаў ён як быццам нават трохі ўзрадавана. — Ну дык што будзем рабіць?

— Не ведаю… Я сказаў, колькі ў мяне ёсць. Калі б у мяне было болей, ці ж бы я з вамі таргаваўся!..

Чалавек памаўчаў, паглядзеў на мяне і раптам кажа:

— Пакажы-тка сюды свае рукавіцы!

Я не адразу ўцяміў, нашто яму мае рукавіцы, але імгненна сцягнуў іх з рук і падаў яму. Рукавіцы былі адмысловыя, з чыстай белай воўны і яшчэ зусім не ношаныя — мама звязала іх перад самым Новым годам. Першы раз у гэту дарогу надзеў іх.

— Ну, вот што, — сказаў чалавек, не здымаючы мае рукавіцы з рук. — Давай да гэтых рукавіц свае пяцьсот рублёў і забірай акардэон. Апрыкрала мне ўжо з табой таргавацца…

Яшчэ не верачы ў шчасце, якое да мяне прываліла, я выцягнуў з-за пазухі і падаў чалавеку ў маіх рукавіцах грошы. Ён спрытна пералічыў іх і таксама сунуў за пазуху. А невялічкі бліскучы перламутравы «Вельтмайстар» апынуўся на маім плячы…

У адкрытым кузаве грузавіка, які вёз мяне да Лагойска, я вельмі хутка зразумеў, што не такая і малая даплата да паўтысячы — мае рукавіцы. Трэба затуляць ад пранізлівага, пякучага ветру шчокі, нос, а голыя рукі мерзнуць і карчанеюць. Схаваю іх у рукавы — чую, што пачалі заходзіцца шчокі і што трэба неадкладна церці нос. А стукаць увесь час нага аб нагу — гэта само сабою: буркі ў гумавых чунях — не валёнкі, мароз да пальцаў дастае. Ісці ў іх цёпла, а калі сядзіш нерухома, — прабірае. Так і еду: то тру нос і шчокі, то засоўваю далоні ў рукавы, — чаргую гэтыя прыёмы праз кожныя дзве-тры хвіліны. І, аднак жа, настрой невыказна святочны, у грудзях — цёпла. Цёпла ад той радасці, што ляжала, закручаная ў тонкую кужэльную прасцінку, у мяне на каленях. Прасцінку мама дала

мне з сабой замест торбы, каб загарнуў у яе хатулёк з пакупкамі (куфэрка дарожнага ў нашай хаце тады яшчэ не было).

У Лагойску я мог бы зайсці да роднага дзядзькі Валодзі абагрэцца, але мне так карцела скарэй апынуцца дома і ўзяць у рукі перламутравы цуд, што, злезшы з машыны, я адразу ж памахаў пяшком на Гайну. Хатулёк я асцярожна заклаў за плечы і канцы прасцінкі звязаў на грудзях вузлом, каб вызваліць рукі і было льга іх грэць у рукавах. Амаль усю дарогу я ішоў подбегам, а то і бягом бег, загадзя рыхтуючы сябе к таму, што скандал будзе дома страшэнны. Хваляваўся, але і супакойваў сябе: «Ну, не заб'юць жа насмерць за гэта! Ну, пакрычыць мама, канечне, пасварыцца, пазлуецца… Але ж затое якая рэч у руках будзе!..»

Напачатку мне пашанцавала: дома я зусім нікога не застаў. Мама была дзесь у суседзяў, а дзеці яшчэ не вярнуліся са школы. Я скінуў з сябе ватоўку, разуўся, шмыгануў на печ і сунуў пад гарачую коўдру рукі. Адагрэўшыся трохі, сеў на краю чарэні, нагамі на пяколак, і заклаў рамяні акардэона за плечы. Гэй, мілыя-любыя родныя мае, гэй, дарагія людзі ўсяго свету! Ці хочаце вы пабачыць самага шчаслівага чалавека на зямлі? Хочаце? То паглядзіце, калі ласка, на мяне! Вось яна — здзейсненая запаветная мара! Вось!..

І ў гэты самы момант бразнулі клямкай дзверы. Зайшла мама. Убачыла маю галаву за комінам.

— Ты ўжо дома? — здзівілася. — А ці даўно?

— Толькі што… Хвілін пяць як раздзеўся.

— Моцна змерз?

— Не надта. Так, трохі…

— А гэта што? — убачыўшы на грудзях у мяне акардэон, кіўнула галавою.

— Купіў, — кажу. А сам усміхаюся так, што можна падумаць, — жартую.

— Як… купіў? — па твары ў мамы прабег цень трывогі.

— Звычайна, — працягваю я вінавата і блазнавата ўсміхацца. — На базары, у аднаго чалавека…

— А… за што ты купіў? — спытала мама, і я адчуў, што яе абымае жах здагадкі. Усмешка з маёй шчаслівай фізіяноміі сыходзіць, я звешваю над акардэонам галаву, тру без патрэбы нос, нейкую долю хвіліны маўчу, а затым адказваю:

— За грошы… Яшчэ і рукавіцы прыйшлося аддаць у прыдачу…

І мама зразумела, што я зусім не жартую.

— Ды ты звар’яцеў, відаць? — прамовіла яна амаль у роспачы. А потым: — А-ай, людцы мае! Што ён нарабіў! Што ён нарабіў, негадзяй няшчасны!

На шастку каля печы вісеў хвастач — доўгі льняны рушнік, якім звычайна выціраюць посуд. Мама схапіла гэты хвастач і пачала мяне штосілы шлёгаць ім па нагах, па руках, па чым папала. Стамілася, кінула хвастач на ложак, адышлася да стала, села на ўслон каля акна і заплакала. Ад крыўды і бяссілля. Ад таго, што гэткае неразумнае дзіця ў яе вырасла. Дала яму грошы на адзетак-абутак, а ён во што прывёз з базару: туварва!..

Убеглі малыя ў хату. Убачыўшы маму ў слязах — спужаліся. Глядзяць на мяне, а я ім усміхаюся і падміргваю.

— Мама, чаго ты? — нясмела пытаецца Света.

— Вунь, паглядзіце на гэнага негадзяя. Яшчэ і выскаляецца да самых вушэй, абдзіртус няшчасны! Ну, пачакай, рыштант! Будзеш ты цяпер свяціць голым задам цэлы год! І ў школе, і на вуліцы. Пагляджу, як ты тады павыскаляешся!..

Мама выцерла даланёю вочы, паднялася з услона і праз хвіліну ўжо загрымела засланкай: трэба даваць дзецям палуднаваць.

І я зразумеў, што галоўная бура пранеслася. Ну, а што пахаджу яшчэ колькі часу абдзіртусам, нічога страшнага. Пацярплю. Дзеля здзяйснення мары і не на такія страты пайсці можна!..

# ЭСЭ

## ДОЛЮ КАБ БАЧЫЎ У РОДНЫМ НАРОДЗЕ...

Род Янкі Купалы паходзіў з дробнай беззямельнай і таму вечна беднай шляхты. Гэта многае прадвызначыла ў яго жыцці і творчасці. Доля сям'і гаротніка-арандатара, што наймала на колькі гадоў кавалак зямлі ў чарговага гаспадара-памешчыка, стала доляй ягонай, ахрышчанай салёным потам музы.

Яго сапраўднае імя і прозвішча Іван Дамінікавіч Луцэвіч. Псеўданім ён выбраў сабе, несумненна, у гонар старажытнага славянскага боства Купалы. Дата нараджэння падказала яму зрабіць гэты выбар. Як пяецца ў народнай песні: «Сягоння Купала — заўтра Ян, ўзыдзі, ўзыдзі, сонейка, зайграй нам!..» Ноччу з 6-га на 7-е ліпеня палалі святочныя вогнішчы, гучалі купальскія песні, спраўляліся язычніцкія абрады, а 7-га, у дзень святога Яна Хрысціцеля, з'явіўся на свет ён. У сям'і Дамініка Ануфрыевіча і Бянігны Іванаўны Луцэвічаў. Было гэта ў 1882 годзе.

Нарадзіўся Янка Луцэвіч у фальварку Вязынка, непадалёк ад Радашкавіч. У радашкавіцкім касцёле быў і ахрышчаны. Багаславёная зямля, на якой нараджаюцца такія паэты! Але пажыў у Вязынцы немаўлёнак Ясь усяго з год, а можа, і меней, бо ўжо ў наступным 1883 годзе сям'я перабралася на Лагойшчыну, дзе і прайшлі амаль усе дзіцячыя і юнацкія гады будучага паэта, куды ён, стаўшы вядомым, прыязджаў для працы і адпачынку ў матчынай хаце, на працягу цэлых дзесяцігоддзяў — аж па 1926 год улучна. Хроніка пярэбараў і атайбаванняў сям'і Луцэвічаў на Лагойшчыне выглядае так: Юзафова (1883–1886), Косіна (1887–1889), Прудзішча (1891–1895), Селішча (1895–1904), Акопы (1909–1929).

На Лагойшчыне Ясь Луцэвіч пачаў адкрываць для сябе чароўны свет навакольнай прыроды і зусім не чароўны свет бяздольнага мужыцкага жыцця; на Лагойшчыне навучыўся

гаварыць і разумець гаворку тутэйшых людзей, разумець і ўбіраць у душу іх песні і казкі, легенды і паданні, прыказкі і загадкі, зычанні і праклёны; на Лагойшчыне, у Косіне, навучыўся чытаць і пісаць (па-польску) ад прыватнага найманага настаўніка, прыахвоціўся да кніг, самаадукоўваўся, і затым, ужо ў 16-гадовым узросце, за адну зіму закончыў двухкласнае народнае вучылішча ў Бяларучах; на Лагойшчыне ён склаў і свае першыя вершы — спачатку на польскай мове (маці старалася сваім дзецям прышчапіць «пальшчызну»), а затым — на роднай беларускай, майстрам-чарадзеем якой яму і суджана было стаць. На Лагойшчыне, калі Луцэвічы жылі ў Селішчы, сям'ю напаткала вялікае гора: вясной 1902 года памёр — на 52-м годзе жыцця — бацька, Дамінік Ануфрыевіч, а восенню, на працягу аднаго тыдня, шкарлатына выкасіла адразу траіх: брата Казіміра (11 гадоў), сясцёр Сабіну (9 гадоў) і Гэлену (6 гадоў). Усе яны, і бацька, і дзеці, пахаваны на старадаўніх могілках у вёсцы Корань Гайна-Слабадской воласці (цяпер Гайненскі сельсавет). Можна ўявіць, які гэта быў страшны ўдар для 20-гадовага юнака. І трэба думаць, як гэта адбілася на ягоным асэнсаванні жыцця і лёсу чалавека наогул і чалавека-беларуса, асуджанага на выміранне беларускага селяніна — у прыватнасці. Ад лёсу асобных, родных яму людзей — да лёсу ўсяго, роднага яму, народа пачала, можа, менавіта тады ўздымацца неспакойная дума маладога Янука Луцэвіча. Да першага выступлення ў друку — да «Мужыка» — заставалася тры гады.

Спрабуючы пранікнуць у таямніцы творчасці паэта, трэба заўсёды помніць пра яго родны кут, дзе ён падрастаў, станавіўся на ногі і пачынаў уваходзіць у вялікае жыццё. Даўно і слушна было сказана: хочаш зразумець паэта — пабудзь на яго радзіме, там, дзе ён пачынаўся як паэт. Дзе гэтая паэтычная радзіма Янкі Купалы — ён сказаў сам ужо ў 1908 годзе ў вершы «Я не сокал»:

Нават я не салавейка,
Што спявае слаўна.
А я толькі верабейка,
Ўзрошчаны пад Гайнай.

«Узрошчаны пад Гайнай» — зусім канкрэтна, дакладна, справядліва. Пад Гайнай, што на Лагойшчыне. У ваколіцах гэтага старажытнага мястэчка, дзе ў 1504 годзе быў пабудаваны адзін з самых першых на Беларусі касцёлаў, у якім праз дзесяць гадоў у прысутнасці вялікага князя Жыгімонта І Старога

справілі імшу ў гонар перамогі на рацэ Крапіўне каля Оршы... Пад Гайнай, дзе нарадзіўся і ўзрос пачынальнік беларускай, украінскай і польскай археалогіі, фалькларыстыкі і этнаграфіі Зарыян Далэнга-Хадакоўскі, дзе нарадзіўся і жыў вядомы паэт, выдавец і фалькларыст Ігнат Шыдлоўскі, дзе нарадзіўся і вырас вядомы гісторык рускай літаратуры, збіральнік фальклору Лагойшчыны прафесар Яўген Ляцкі. Далучым сюды і сам Лагойск, адзін са старажытнейшых гарадоў Беларусі (упамінаецца пад 1078 годам), родавая вотчына князёў Тышкевічаў, нашчадкі якіх Канстанцін і Яўстахій сталі гонарам і славай беларускай нацыянальнай навукі, асабліва ў галінах археалогіі, гісторыі, краязнаўства, этнаграфіі. Такія багатыя традыцыі культурна-грамадскага, навуковага і літаратурнага жыцця на Лагойшчыне бясспрэчна спрыялі творчаму станаўленню Купалы на пачатку яго пісьменніцкага шляху.

«Беларуская Швейцарыя» — з захапленнем пісалі пра Лагойшчыну ў 20-я гады сталічныя краязнаўцы. Характарыстыка захавала сваю моц і да гэтага часу. Мала хто з беларускіх мастакоў не маляваў краявіды гэтага кутка нашай Бацькаўшчыны. Ці ж дзіва, што ў творчасці Купалы, перш-наперш у ягонай лірыцы, чароўны ландшафт Лагойшчыны адбіўся ва ўсіх сваіх характэрных рысах-абрысах, трансфармаваных у безлічы самабытна-непаўторных купалаўскіх вобразаў. Лагойшчыне Купала абавязаны не толькі вобразамі-малюнкамі сваіх лірычных шэдэўраў, але і сюжэтамі ранніх паэм і вершаваных апавяданняў. На Лагойшчыне, у Акопах, ім былі напісаны выдатныя паэмы «Магіла льва», «Яна і я», геніяльныя драматургічныя творы — камедыя «Паўлінка», драма «Раскіданае гняздо», трагікамедыя «Тутэйшыя». І, можа, самае галоўнае — Лагойшчыне Купала абавязаны мовай сваёй. Мовай сарцавіннага кутка Беларусі. Мовай Юзафова і Косіна, Прудзішча і Селішча, Карпілаўкі і Харужанцаў, Вялікіх і Малых Бясяд, Гайны і Бяларуч... Але пра мову ягоных твораў гаворка пойдзе крыху пазней.

Калі на самым пачатку стагоддзя нікому не вядомы паэт

Песні пачаў пець той мовай убогай,
Якой пагарджаюць горка нядбала, —

мала хто мог падумаць, што гэтага «шарачковага» мужыцкага песняра чакае вялікая будучыня, што яго імені суджана ззяць у сузор'і самых яркіх свяцілаў на небасхіле сусветнай паэзіі.

Долю каб бачыў у родным народзе,
А быў бы шчаслівы Янка Купала.

*(«Я не паэта...»)*

У гэтым раннім праграмным вершы Купала называе сябе ціхім і нясмелым. Але гэта трэба разумець толькі як прыём, якім паэт выяўляе погляд вяльможных валадароў, што хацелі б бачыць яго менавіта такім і адмаўлялі яму ў праве быць іншым: «Ат! ведама, з вёскі — Янка Купала!» У сапраўднасці ж Купала ніколі не быў ні ціхім, ні нясмелым. Ён і не мог быць ціхім. Ён быў пакліканы самім часам і жыццём не для «службы лакейскай», не для таго, каб хлусіць «салаўінымі песнямі, што шчаслівы ўвесь свет, няма гора ў людзей», а для таго, каб будзіць «сыноў сваёй зямлі» — «мільённы прыспаны народ», каб «над беларускай соннай нівай нязгасны светач распаліць».

Прыход Купалы ў літаратуру быў падрыхтаваны ўсім папярэднім развіццём духоўнай культуры беларускага народа і паскораны ўмовамі інтэнсіўнага фарміравання беларускай нацыі і нарастання барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне народа. Песня Купалы была народжана самім гневам працоўных, які збіраўся, накапляўся і распаляўся ў сэрцах стагоддзямі, яна літаральна выбухнула з гэтага гневу, каб «развагніць, затрасці ўсе паляны», каб «вораг-мучыцель дрыжаў з праўды слоў» — праўды, што «сілаю роўная сонца агням». Ці магла яна быць ціхай і нясмелай — гэтая песня, калі ёй трэба было «з цэлым народам гутарку весці», калі яна павінна была будзіць і падымаць, заклікаць і накіроўваць!

Чытаючы радкі Купалы пра вялікага Кабзара:

У хатцы, ў палатцы, ў цямніцы, ў карчомцы
Калоціш ты сэрцы, як звонам званар, —

мы бачым і яго ўласнае ідэйна-эстэтычнае крэда — крэда паэта-трыбуна, паэта-прарока і рэвалюцыянера.

Купала не мог гаварыць напаўголаса. Ён прыйшоў у жыццё і літаратуру з вялікай гістарычнай місіяй. Ён прыйшоў, каб сказаць свайму народу: ты — добры і шчыры, ты вялікі і таленавіты, але ты станеш яшчэ больш вялікім і магутным, калі лепей сябе пазнаеш і мацней у сябе паверыш. Ты павінен сам пераканацца, што ты нічым не горшы за другіх — нічым! — і што ўсе кплівыя небыліцы, якімі цябе так доўга знеслаўлялі, і

ўсе абразлівыя імёны, якімі цябе хрысцілі, выходзілі з вуснаў тваіх нядобразычліўцаў, з сэрцаў чэрствых і хцівых.

Купала прыйшоў, каб сказаць усяму чалавецтву: звярніце ўвагу на мой народ — старажытны славянскі народ. Паглядзіце, якія цуды зроблены яго рукамі, якімі незлічонымі скарбамі багаты ягоны край. Загляніце ў душу гэтага народа, паслухайце, якія дзівосныя легенды і казкі складзены ім, якія непаўторна-самабытныя песні гучаць на яго зямлі, якая прыгожая і мілагучная яго мова!.. Пацікаўцеся ягоным лёсам, шматвяковай гісторыяй яго пакут і барацьбы — і вы ўбачыце, што гэты народ нельга не паважаць і што крыўдзіць яго бясконца — таксама нельга. Бо гэта няпраўда, што ён канчаткова прыбіты і беспаваротна асуджаны на гібенне; ён ужо даўно не той, якім яго прывыклі падаваць свету, ён ужо заявіў і пра сваё права «людзьмі звацца», і пра сваё права на «пачэсны пасад між народамі»...

Ворагі працоўнага беларускага люду — гэтыя «слепавокія шмялі» і «цемратворцы» — вельмі хутка адчулі і зразумелі, якою грознай зброяй у барацьбе супроць іх становіцца магутнае купалаўскае слова, і прыклалі нямала намаганняў, каб збіць паэта з вернага шляху, каб узвесці яго на ціхія сцежкі чыстага мастацтва і хараства. «Вы, паны, мяне з песняй к сабе прызываеце...» Але ж вашыя «душы да славы ўсябратняй няздатны», а ваш парадак і лад, дзе «няпраўда праўду акілзала і едзе людскасці на спіне», — для мяне чужы і варожы.

Роля Купалы ў абуджэнні рэвалюцыйнай самасвядомасці беларускага народа — агромністая, роўных яму ў гэтых адносінах гісторыя Беларусі не ведае. Купала быў адзін з першых, хто непахісна паверыў у народную сілу і змог сваю веру ўсяліць у сэрцы мільёнаў. Беларускай літаратуры — пачынаючы ад Каліноўскага і аж да нашых дзён — заўсёды хапала патрыятычнага пафасу, але нікому не ўдавалася ў такой меры ўвабраць у сябе і выявіць праз сваю творчасць душу народа, духоўнае аблічча нацыі, як гэта было суджана Янку Купалу. Ніхто не прымаў так блізка да сэрца лёс свайго краю, яго мовы і культуры, як Купала, і ніхто так горача, так адкрыта і бясстрашна, як ён, не выступаў у іх абарону. І няма каго назваць іншага, каму б належала такая заслуга ў абуджэнні пачуцця нацыянальнай годнасці ў беларусаў, якая належыць Купалу. Тут сказалася тая асаблівасць яго паэтычнага і грамадзянскага тэмпераменту, дзякуючы якой ён апынуўся ў самай гушчы барацьбы за «волю і долю» свайго народа і якая дазваляе гаварыць пра Купалу як пра самага беларускага з усіх беларускіх паэтаў. Менавіта Купала на

доўгія дзесяцігоддзі зрабіўся сцягам нацыі, стаў для беларускага народа тым, кім з'яўляецца Шаўчэнка для ўкраінцаў, Пецёфі для венграў, Боцеў для балгар.

Дакастрычніцкая лірыка Янкі Купалы, будучы набатным звонам рэвалюцыі, разам з тым выяўляла глыбокі трагізм паэтавай душы, збалелай «у вечнай з мукамі вайне», здратаванай «нікчэмнасцю прыблудаў», што звыклі «крыўдамі карміцца», зраненай «змяіным рогатам адшчапенцаў». Паэт быў не проста сведкам вялікай трагедыі народа, што «быдлём асуджаны быў валяцца» — забіты і цёмны, «як тытун у табакерцы», — ён сам падзяляў гэтую трагедыю, і не толькі падзяляў — ён адчуваў яе вастрэй і больш балюча, чым хто б там ні было іншы, бо ён быў сумленнем нацыі, бо ён быў геніяльны паэт.

У хвіліны найболей горкія і цяжкія, калі, здавалася, паэт апынаўся на мяжы роспачы, з яго душы вырываліся пакутныя воклічы-запытанні, поўныя трывогі за лёс народа і Радзімы: «Няшчасны край! Чым быў, чым стаў, чым будзеш ты з сваім век стогнучым народам?..» З болем і гневам паэт звяртаецца да самога часу, да самой гісторыі, да самой вечнасці: «Куды ідзём? Куды пракляцце нас вядзе? Якія далі здабываем?..» «Дзе мой дом? Дзе мой люд? Дзе айчызна мая?», «Чаму я сею, а другія з сяўбы маёй збіраюць плён?» — такія пытанні паўставалі, падымаліся з глыбіні яго душы адно за адным і ўсё з новаю сілай — дзесятае, сотае, тысячнае і без канца-краю, і кожнае патрабавала адказу, біла ў самае сэрца, прымушала апомніцца, схамянуцца, абудзіцца, зірнуць на сябе і на свет іншым зрокам, адчуць у сабе сілу-моц — і паўстаць! Паўстаць на бітву-бой з няпраўдамі і крыўдамі, на якіх заснавана іх нечалавечае жыццё. «Што ты спіш, што ты спіш, беларускі мужык? Няўжо мала яшчэ катавалі цябе? Няўжо мала яшчэ слёз і гора табе?» «До спаць! Паўстаньце грамадою... каб вораг вас не мог зламаць! Паўстаньце, покуль цар звыродны крыві ўсяёй не высcаў з вас! Паўстаньце! Край ваш стогне родны, заве збаўляць, як зваў не раз!» — усё гэта ён гаварыў так, такою мовай і такімі словамі, што не пачуць яго, не прыслухацца да яго і не пайсці за ім было нельга. Яго балюча-гнеўныя пытанні падхаплівалі мільёны, яго набатныя заклікі былі тым больш страшнымі для дармажэрцаў-захрыбетнікаў, што іх паўтараў магутным хорам увесь край, увесь запрыгонены, заняволены народ.

* * *

Амаль увесь дакастрычніцкі перыяд у творчай біяграфіі Янкі Купалы супадае з гэтак званым «нашаніўскім» перыядам у гісторыі беларускай літаратуры і беларускай эстэтычнай думкі (1906–1915). Пасля трох гадоў працы на броварах Купала, з толькі што выдадзенай першай кнігай паэзіі «Жалейка», прыязджае восенню 1908 года на сталае жыхарства ў Вільню — бліжэй да «Нашай нівы», да літаратурнага асяроддзя, да агменяў асветы і культуры. Малады паэт своечасова зразумеў, што адсутнасць грунтоўнай адукацыі будзе надалей стрымліваць яго творчы рост; магутны прыродны талент можа і не выявіць сябе на ўсю сілу-моц і не зазіхацець усімі гранямі хараства, калі яго пастаянна не жывіць сокамі кніжнай культуры і калі на літаратурнай ніве не працаваць прафесійна. Паэтаў-самавукаў — без належнай адукацыі, без глыбокіх ведаў у галінах літаратуры, гісторыі, філасофіі, без культуры пісьма — было ў тыя часы багата, у тым ліку і сярод аўтараў «Нашай нівы». Купала заставацца ў літаратуры самавукам-самадзейнікам не хацеў. Не мог. Клопат пра набыццё адукацыі, пра далучэнне да вялікай культуры становіцца яго пільнай патрэбай. У Вільні ён уладкоўваецца на працу бібліятэкарам і цешыцца магчымасці быць кожны дзень сярод кніг. А праз год, у снежні 1909-га, упрошвае вядомага беларусазнаўцу прафесара Б. І. Эпімаха-Шыпілу дапамагчы яму перабрацца ў Пецярбург. Паважны навуковец і актыўны дзеяч беларускага адраджэння, бачачы бліскучы дар маладога паэта, бярэ яго да сябе на кватэру, памагае ўладкавацца на працу і паступіць на вячэрнія агульнаадукацыйныя курсы Чарняева — свайго кшталту вячэрні універсітэт. Па магчымасці, Купала ходзіць слухаць лекцыі і вядомых прафесараў Пецярбургскага універсітэта, займаецца ў публічнай бібліятэцы, наведвае літаратурна-навуковы гурток, знаёміцца з многімі прадстаўнікамі літаратурнага асяроддзя расійскай сталіцы. І вельмі плённа працуе, вельмі шмат піша. Асабліва — калі вырвецца летам на радзіму, да маці ў Акопы. Менавіта ў гэтыя гады ў Пецярбургу выходзяць яго кнігі «Адвечная песня» (1910), «Гусляр» (1910), «Сон на кургане» (1912), «Шляхам жыцця» (1913), якія прынеслі Купалу гучную славу і сцвердзілі яго імя ў тагачаснай беларускай паэзіі як зорку першай велічыні.

У верасні 1913 года Купала вяртаецца ў Вільню і праз паўгода становіцца рэдактарам-выдаўцом «Нашай нівы». Пачынаецца купалаўскі перыяд у гісторыі гэтага знакамітага рэвалюцыйна-

дэмакратычнага беларускага выдання, пазначаны баявітасцю адраджэнскага духу і высокім прафесійным узроўнем публікацый. Плённая праца Купалы-рэдактара была спынена ў жніўні 1915 года прымусова: ішла імперыялістычная вайна, і немцы набліжаліся да Вільні. Легендарная «Наша ніва» спыніла сваё існаванне. У верасні Купала ўжо ў Маскве, вучыцца ў народным універсітэце імя А. Л. Шаняўскага. А ў студзені наступнага года яго забіраюць у армію — у дарожна-сапёрны атрад. У тым жа месяцы Янка Купала ўступае ў шлюб з Уладзіслававай Францаўнай Станкевічанкай — актыўнай дзяячкай беларускага культурна-асветніцкага руху. З лета 1916 па лістапад 1917-га Купала служыць у Полацку і амаль нічога не піша. У канцы года перабіраецца ў Смаленск, дзе застаецца аж да студзеня 1919-га, займаючыся зусім-зусім нецікавымі яму службамі. У друку выказвалася меркаванне, што Купала мог быць у канцы снежня 1917 года на Першым Усебеларускім кангрэсе, які абвясціў курс на ўтварэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Меркаванне сумнеўнае: наўрад ці магчыма, каб знакаміты паэт прымаў у працы кангрэса ўдзел і праседзеў моўчкі, не трапіў у прэзідыум кангрэса, у яго выбарныя органы. Іншая рэч — чаму яго не аказалася на кангрэсе. Быў хворы? Не выбралі дэлегатам? Не адпусцілі з арміі? Ніякіх звестак, якія б пралілі на гэты факт святло, пакуль не знойдзена.

У студзені 1919 года Купала пераязджае ў Мінск. Жыве ў ім і падчас польскай акупацыі. Аб яго рашучым непрыняцці ні заходняй, ні ўсходняй апекі над Беларуссю сведчаць не толькі яго палымяныя вершы і артыкулы гэтай пары, але і рэдагаваны ім часопіс «Рунь» (выходзіў пад палякамі ў 1920 годзе).

* * *

У векапомным для Беларусі 1918-м — годзе абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі — і затым у 1919-м — годзе абвяшчэння БССР — Янка Купала, няйначай як набыўшы другое дыханне, зноў загаварыў мовай паэзіі са сваім народам. Кажу: зноў — таму што перад гэтым былі два гады амаль поўнага маўчання. Загаварыў знаёмым з нашаніўскіх часоў голасам, у якім сіла-моц паэзіі вымяралася, з аднаго боку, перуновай сілай гневу і неадольнай прагай свабоды, а з другога — я сказаў бы, не разлічанай на магчымасці чалавечага сэрца глыбінёй болю і горычы, глыбінёй пачуцця ў вышэйшай ступені трагічнага.

Гэта былі вершы «У дарозе», «Свайму народу», «Спадчына», «На сход!», «Наша гаспадарка», «Звяяваным», «З дня ў дзень», «З думак жабрака», «Як цені», «Паязджане», «Мая вера», «Калі часам табе...», «Беларускія сыны», «Паўстань...», «На нашым...» і іншыя — усіх разам амаль паўсотні. Цэлая кніга. Ды якая кніга! Вось ён, той выключна рэдкі выпадак, калі слова паэта запатрабаваў Час, калі паэта паклікаў і загадаў «Гавары!» сам Бог! Небагата ў сусветнай літаратуры знойдзецца аналогій гэтаму прыкладу звышгарэння, звышаддачы, звышнапружання волі і сіл чалавечых,— калі наогул знойдзецца. Таго, што зрабіў за гэтыя два гады Купала, хапіла б, каб падзяліць на многіх і многім прынесці славу змагара за Бацькаўшчыну і забяспечыць навек удзячнасцю народа і памяццю нашчадкаў.

Чытаць гэтыя вершы Купалы — і вельмі цяжка, бо на цябе ўзвальваецца невымерны цяжар, які душыў яго, паэта, і вельмі балюча, бо адчуваеш яго не чалавечы, а якісь усяленскі боль, ад якога не выбавіцца нідзе і ніколі. Як яму баліць, што родныя людзі так пакорна «сагнулі плечы ў крук», што народ так упаў, так змарнеў, што нават забыўся, як яго завуць і як Бацькаўшчына завецца, што «чужак-дзікун» рэжа Маці-Беларусь, «жывую рве на часці, на кускі», і яе ніхто не бароніць!

На нашым полі
Растуць бадылі, —
Ніхто іх не поле,
Не вырве з зямлі.
На нашым лузе
Гадзюкі шыпяць, —
Ніхто іх не хлудзіць,
Не гоніць у гаць.
У нашай хаце
Тчэ кросны павук,
А вонкі пагнаці
Не знойдзецца рук.
У нашым краі
Пануе чужак,
Ніхто не парае,
Пазбыціся як.

*(«На нашым...»)*

І побач з гэтай нясцерпнай горыччу, гэтай роспачнай безвыходнасцю — палымянай выбуховасці заклікі:

Паўстань, народ! Прачніся, Беларусе!
Зірні на Бацькаўшчыну, на сябе!
Зірні, як вораг хату і зямлю раструсіў,
Як твой навала злыдняў скарб грабе!

Паўстань, народ! Для будучыны шчасце
Ты строй, каб пут не строіў больш сусед;
Не дайся ў гэты грозны час прапасці, —
Прапашчых не пацешыць шчасцем свет!

Сваю магутнасць пакажы ты свету —
Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.
Паўстань, народ!.. З крыві і слёз кліч гэты...
Цябе чакае маці-Беларусь!

*(«Паўстань...»)*

У гэты ж лёсавызначальны для беларускага народа час — у 1919–1920 гадах — Купала як ніколі раней актыўна выступае ў ролі публіцыста. Пра што яго палымяныя, смелыя, бліскучыя па стылю, па складу і ладу артыкулы? Калі сказаць адным словам — пра незалежнасць. Пра дзяржаўную самастойнасць Беларусі. Пра тое, аб чым праз восемдзесят гадоў гаворым сёння мы — і гаворым так, як бы за гэты час нічога ў нас не змянілася, — той самы боль, той самы пратэст, тыя самыя клопаты і нават тая самая лексіка. Гісторыя няйначай вяртаецца на кругі свае.

«Калі гаварыць аб незалежнасці якой-небудзь новай дзяржавы, <…> то гэта, здаецца, так і трэба, так і павінна быць. А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці... На ўсякую іншую незалежнасць — кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую».

І далей: «Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу».

Або: «Сягоння кожны, каму не атуманіла расійская і польская рэакцыя мазгоў, адчуе і зразумее, які шырокі размах прыняла наша справа над адбудаваннем сваёй незалежнай Бацькаўшчыны».

Бацькаўшчына, і зноў Бацькаўшчына, і яшчэ раз Бацькаўшчына! І аднак жа: самы нацыянальны па характару, па духу, па мове паэт у беларускай літаратуры — Купала ў той жа час і самы агульначалавечы, інтэрнацыянальны ва ўсім, што выйшла з-пад яго пяра: ні ценю нацыяналістычнай абмежаванасці,

зашоранасці. Міжволі — яшчэ і яшчэ раз — думаеш: і ў гэтым сэнсе ён плоць ад плоці і косць ад косці свайго народа. І гэта чысціня, чалавечнасць і высакароднасць — найпраўдзівы адбітак чысціні, чалавечнасці і высакароднасці беларускага народа — народа, які за стагоддзі пакут, несправядлівасці і крыўды не азлобіўся, не прынізіўся да таго, каб паддацца настроям расісцкім і шавіністычным. Купала найвыразным чынам адрозніваў, дзе праўда народа-суседа, простых працоўных людзей, гатовых і жадаючых жыць па-суседску дружалюбна з беларусамі, а дзе няпраўда і дэмагогія палітыканаў, сацыяльных экстрэмістаў і нацыяналістычных маньякаў. Купала верыў у добрую волю народаў, людзей працы. «Народы, — пісаў ён у студзені 1920-га, — патрапяць найсці супольную мову, каб па-суседску дагаварыцца паміж сабой ды наладзіць і свае граніцы, і свае дзяржаўныя правы на незалежнасць. Віхор праміне, і прыйдзе ясная жыватворная пагода для ўсіх». Сёння, калі ўсім нам так неспакойна, так трывожна на душы, — хочацца паўтарыць яшчэ раз гэтыя яго словы: «...і прыйдзе ясная жыватворная пагода для ўсіх». І на адзін сказ прадоўжыць цытату: «Абы толькі рэакцыя ўрадавая не змянілася на рэакцыю грамадства. Гэтага трэба як найболей баяцца...» Вось глыбіня мудрасці паэта — мудрасці і дзяржаўна-палітычнай, і маральна-філасофскай, і проста чалавечай.

Канцэпцыя дзяржаўнасці Беларусі, распрацаваная Купалам-публіцыстам, зрабіла б гонар прызнаным тэарэтыкам дзяржаўнага права, заканатворцам, палітыкам... Гэта — узор дзяржаўнай мудрасці, да якое так доўга не хацелі нашыя дзяржаўнікі прыслухвацца, ды яшчэ і сёння прыслухоўваюцца далёка не ўсе. І як паэт, і як публіцыст, Купала не ідэалізаваў гістарычную даўніну Беларусі, у яго быў зусім цвярозы, рэалістычны пагляд на мінулае, але ён бачыў у ім тое, чаго не хацелі і да сёння не хочуць бачыць многія «беларускія сыны». І дочкі таксама. Ён бачыў тое, што было духоўнай веліччу народа, яго трагічнай і гераічнай гісторыяй, яго славай, ён разумеў, што гэта жыццёва неабходна для абуджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, для жыўлення іх нацыянальнай годнасці, бо без гэтага проста не зможа паўстаць і разгарнуцца грамадска-палітычны, нацыянальна-вызваленчы рух, а ў выніку — не паўстане свабодная, незалежная Беларусь.

* * *

Многія лірычныя вершы публіцыстычнага характару былі напісаны Купалам па слядах гарачых падзей і з рэвалюцыйна-прапагандысцкімі мэтамі. Здавалася б, што сёння гэтыя творы, так моцна прывязаныя да свайго часу, нават прадыктаваныя канкрэтнымі палітычнымі задачамі, што адышлі ў гісторыю, павінны былі ў значнай меры страціць сілу эмацыянальна-мастацкага ўздзеяння. Аднак жа яны хвалююць і ўзрушаюць, як і дзесяткі гадоў назад. Страты не адбылося. За прыватнымі і надзённымі матывамі, якія далі гэтым вершам жыццё, — такая вялікая чалавечая праўда, такі высакародны боль і гнеў, такі непрытворны крык душы, што і сёння далучыцца да іх чулым сэрцам — значыць узбагаціць сябе і ўзвысіць, абудзіць у сабе найлепшыя парывы душы. Само сабой зразумела, што ўсё гэта выяўлялася ў дасканалых мастацкіх формах. Купала быў непараўнаным майстрам лірыка-публіцыстычнага верша. Прыгадайце такія ўзоры яго рэвалюцыйна-грамадзянскай лірыкі, як «Ворагам Беларушчыны», «Я не для вас...», «А хто там ідзе?», «Зваяваным», «Паўстань...», прыгадайце яго славуты кліч «Беларускім партызанам». Колькі ў гэтых вершах агню і пафасу, палемічнай вастрыні, іроніі і сарказму пры ўсім бляску паэтычнай формы, дакладнасці і пружыністасці радка, пры ўсёй моўна-фразеалагічнай і інтанацыйнай купалаўскай непаўторнасці!

Як і ва ўсіх вялікіх мастакоў слова, у Купалы часовае зліта з вечным, нацыянальнае — з агульначалавечым, асабістае — з усіхным, з людскім. У гэтым — яго сіла, і хараство, і веліч, і найвышэйшае права на водгалас далёкай і блізкай будучыні.

Купала-лірык у нашым уяўленні перш за ўсё паэт высокага сацыяльна-грамадскага гучання. Але яму былі падуладны і іншыя сферы чалавечага пачуцця і думкі. Яго вершы да каханай «дзяўчынкі-галубкі» хвалююць дзіўнай чысцінёй і пяшчотай, па-народнаму бясхітраснай і адкрытай. Яго пейзажныя малюнкі чаруюць тонкім пранікненнем у настрой зямлі і неба; беларускую прыроду ён чуе, бачыць і разумее душой, якая на ўлонні родных прастораў, лясоў і палеткаў, лугоў і аселіц то захапляецца і радуецца, то маркоціцца і плача, то спачывае і гоіцца.

Лірыка Купалы — не лірыка «святлаценяў», пераходных тонаў і фарбаў, спакою і раўнавагі, а хутчэй лірыка «эмацыянальных полюсаў», цэласнага настрою. Тое, што ўзрушала паэта,— узрушала ўсяго, даастатку, і калі гэта быў гнеў, ці

абурэнне, ці крыўда, — паяўляліся палымяныя вершы-заклікі, грозныя вершы-праклёны, балючыя вершы-споведзі, а калі гэта была перамога, ці радасць, ці гордасць — з-пад пяра выходзілі прамяністыя вершы-гімны, пранікнёныя вершы-песні, урачыстыя вершы-оды. У лірыцы Купалы мы не знаходзім той філасафічнасці, спакойнага роздуму і развагі, якія бачым у Коласа, гэтаксама як і той маляўнічасці і пластычнасці, той псіхалагічнай нюансіроўкі, што надаюць цудадзейную сілу паэзіі Багдановіча.

Блізкасцю да народна-песенных асноў тлумачацца і такія выдатныя якасці купалаўскай лірыкі, як яе надзвычайная музычнасць і пявучасць, яе рытмічна-інтанацыйная разнастайнасць і кампазіцыйная завершанасць. Не было ні выдумкай, ні перабольшаннем, калі паэт пісаў: «Бурлівая рэчка і млын гутарлівы... складалі мне рытму мастацкія звівы», а «цяністыя прысады» і «гусей шнуры» «гармонію ўводзілі ў песенным складу», а зялёнае поле і сенажаць «вучылі, як слова ў вянок завіваць». Па агульнай культуры верша, па чарадзейскім абыходжанні з паэтычным радком, са словам і гукам, па той ролі, якую ў Купалы адыгрывае кампазіцыя, строфіка і рытміка, з ім можа параўнацца хіба што адзін Багдановіч.

Шматгранны, незвычайнай энергіі і сілы талент Купалы знаходзіў бліскучае выяўленне не толькі ў разнастайных лірычных, але і ў розных ліра-эпічных і эпічных жанрах і формах паэзіі — у паэмах і баладах, у вершаваных апавяданнях і гутарках, у байках і эпіграмах. Ягонаму пяру аднолькава паслухмяна служылі сатыра і гумар, іронія і сарказм, вобраз канкрэтна-рэалістычны, побытава-заземлены і ўмоўна-сімвалічны, гіпербалізаваны.

Наколькі магутны быў яго паэтычны дар у буйных жанрах эпічнай творчасці, сведчаць больш чым два дзесяткі паэм, у тым ліку — тры драматызаваныя. Эпіка і ліра-эпіка былі, як і драматургія, арганічна-прыроднымі формамі і спосабамі творчай самарэалізацыі гэтага вялікага мастака слова. Ён прыйшоў да іх не пасля, не ў сталым веку, а па сутнасці з іх, як і з лірыкі, пачынаўся. Ужо на працягу першых трох гадоў творчасці — з 1905 па 1908 год — ім было напісана шэсць паэм, — пераважна на сацыяльна-бытавыя тэмы, усё аб той жа долі-нядолі мужыцкай, аб трагічным лёсе бедакоў і гаротнікаў беларускай вёскі, пазбаўленых элементарных правоў на годнае чалавечае жыццё, задушаных галечай і нэндзай, кінутых у беспрасветную цямрэчу знявер’я і роспачы, прыніжаных і абражаных у сваіх лепшых па-

чуццях і марах. Але самыя вартасныя рэчы ў гэтым жанры былі наперадзе: гэта «Курган» (1910) — шэдэўр героіка-рамантычнага эпасу Купалы, у якім вечная тэма сусветнай літаратуры — процістаянне мастака (пасланца неба) уладам — пададзена ў падкрэслена беларускім паданнева-легендарным ключы; гэта «На Куццю» (1911) — адмысловы, з шырокім выкарыстаннем беларускай міфалогіі і прыёмаў умоўнасці, адказ першага па значэнню паэта-адраджэнца на пытанне: «Хто мы?», — адказ пераканаўчы і жыццесцвярджальны: «Наш дух лунаці будзе вечна»; гэта «Бандароўна» (1913) — узнёсла-паэтычны купалаўскі варыянт народнай гістарычнай песні пра гордую і непакорную дачку прыгоннай вёскі, услаўленне высокай чалавечай годнасці беларускай жанчыны; гэта «Магіла льва» (1913) — рамантызаваны «разбойніцкі» сюжэт пра вольнага і страшнага ў сцвярджэнні гэтае волі сваёй Машэку, своеасаблівая беларуская трактоўка «моднай» у той час ніцшэанскай тэмы «моцнага чалавека»; і, нарэшце, гэта «Яна і я» (1913) — цудоўны ідылічны разварот вясновага цыклу ўзаемадачыненняў «двaіх» у працы на зямлі, у сям'і і побыце,— разварот, які ўспрымаецца як высокапаэтычны, урачысты хваласпеў каханню, як пранікнёны гімн яднанню свабоднага чалавека з прыродай, гімн яго духоўнай моцы і душэўнай прыгажосці.

Да гэтых твораў арганічна прымыкаюць драматызаваныя паэмы «Адвечная песня» (1908) і «Сон на кургане» (1910) — яскравае сведчанне плённых светапоглядна-філасофскіх і эстэтычна-мастацкіх пошукаў паэта ў рэчышчы асэнсавання трагічнага лёсу беларускага мужыка і ўсяго беларускага народа.

З паэм Купалы савецкага перыяду творчасці толькі пра «Безназоўнае» (1924) можна сказаць, што яна з'яўляецца працягам творчага ўвасаблення глыбіннай купалаўскай думы пра лёс Беларусі, пра яе свабоду і дзяржаўную незалежнасць. Паэмы 30-х гадоў («Над ракой Арэсай», 1933, «Барысаў», 1934, «Тарасова доля», 1939), пры ўсіх удалых асобных мясцінах і дэталях у цэлым, на жаль, значна ўступаюць сваім ідэйна-мастацкім узроўнем паэмам дакастрычніцкай пары. Зрэшты, як і большыня яго вершаў эпохі «росквіту сацыялістычнага рэалізму», якія без болю за паэта і без гневу да забойцаў яго таленту сёння чытаць немагчыма.

* * *

У апошні раз той Янка Купала, якога мы называем прарокам і геніем нацыі, скалануў душы і сэрцы беларускія ў 1926 годзе — нізкай пераважна публіцыстычных вершаў надзвычайнай выбуховай сілы.

А што было на працягу шасці гадоў папярэдніх?

Было трывожна-пакутлівае, гнятлівае чаканне, якое толькі час ад часу парушалася святлістым усплёскам надзеі, даверу, радасці.

У 1920-м яшчэ верылася, дакладней — вельмі хацелася верыць, што аціхне, уляжацца крывавая калатнеча, сыдуцьсхлынуць навалы «раз'юшаных прыблудаў» і беларускі народ выпрастае прыгнутыя няволяй плечы і пачне ажыццяўляць сваю адвечную мару аб свабодзе, сваё здабытае нарэшце права на «пачэсны пасад між народамі».

Гэй, вольныя птахі, патомкі крывічаў!
Да неба! Па зоры і гром перуновы...
Час крылле расправіць — пагудка ўжо кліча,
Ўжо віхры цярэбяць да шчасця шлях новы!

*(«У вырай!»)*

Але падзеі палітычнага жыцця нічога добрага паэту і яго паплечнікам не абяцалі. Была задушана на Случчыне апошняя гераічная спроба адстаяць ідэалы БНР збройным чынам, у Беларусі была канчаткова ўсталявана савецкая ўлада, а сама Беларусь, у выніку подлай змовы бальшавікоў з пілсудчыкамі, была рассечана напалам — на ўсходнюю і заходнюю палавіны. Мала гэтага — тое, што засталося пад бальшавікамі як БССР, было абрэзана да шасці паветаў Мінскай губерні, астатняе ўсё адышло да Расіі. Можна ўявіць настрой паэта-трыбуна, паэтасцяганосца, апостала і прарока нацыянальнага беларускага адраджэння!

У студзені 1922-га Купала піша і публікуе верш, які ворагі беларушчыны не змогуць яму дараваць ужо ніколі і які амаль на семдзесят гадоў апынецца пад глухой забаронай. Верш называўся «Перад будучыняй».

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...

Ці ўскрэснем мы з душой упаўшай, звяўшай,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі
Засеў за наш бяседны, сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.

Нявольніцтва й жабрацтва так нас з’ела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела
Не смеем, стоптаныя на пясок.

У тым жа 1922-м Купала стварае сваю геніяльную трагікамедыю «Тутэйшыя», прадыктаваную невымерным пачуццём агіды да палітычных прыстасаванцаў, пачуццём непрыняцця чужацкай няволі — ні з Захаду, ні з Усходу.

Але жыць без веры паэт не можа. Як сапраўдны сын народа, ад якога ўзяў сабе і нораў, і характар, і светапогляд, Купала, як і сам народ, не траціў веры ў лепшую будучыню, у перамогу праўды і справядлівасці над векавечным злом. Пытанне, якое так мучыла яго ў перыяд Кастрычніка і грамадзянскай вайны, — а як будзе з Бацькаўшчынай: «Ці блаславяць, ці ўтопчуць гідка ў гаць?» — іншы раз перарастала ў радасць надзеі, што савецкая ўлада якраз і прынесла разам з сацыяльным разняволеннем і нацыянальнае, даўшы яго «ўбогай старонцы» дзяржаўнасць. І тады нараджаліся акрылёныя, няхай сабе і ілюзорнай верай, паэтычныя радкі — як у вершы «Арлянятам» (1923), у паэме «Безназоўнае» (1924): «Беларусь на куце ў хаце сваёй села, — Чарка мёду ў руцэ, пазірае смела. Сядзіць важна, сама сабе гаспадыня...» Тым больш што і ўнутрыпалітычнае становішча ў краіне пачало нібыта развівацца ў лепшы бок. У рэспубліцы быў узяты курс на беларусізацыю, пачалі вяртаць у склад Беларусі (далёка не ўсе, праўда) адарваныя ў свой час усходнія тэрыторыі, арганізоўваюцца асяродкі пашырэння і развіцця беларускай нацыянальнай асветы, навукі, культуры, літаратуры і мастацтва.

І аднак жа душа Купалы не заспакоілася. Дзіўная гэта рэч — душа паэта-прарока! Незвычайнай, звышчалавечай чуйнасцю надзелена — улоўлівае і самыя тонкія зрухі ў грамадскай атмасферы. Улоўлівае — і трывожыцца, і працінаецца болем, і пачынае траціць веру ў ласку дабрадзеяў. І, відушчая, бачыць,

што насамрэч толькі вядзецца палітычная гульня з народам у свабоду і суверэннасць, а па сутнасці — як не меў ён правоў на гаспадаранне ў сваёй краіне, так і не мае.

І вось летам 1926-га, нібыта і прыгрэты ўвагай дзяржавы, ганараваны высокім тытулам народнага паэта Беларусі, Купала «выбухнуў». У апошні раз. Выбухнуў такімі вершамі, як «Акоў паломаных жандар», «За ўсё», «І прыйдзе», «Вецер», «Каб...», «Ёсць жа яшчэ...», «Царскія дары», «Праз гультайства»... Кожны з іх — паэтычная публіцыстыка вышэйшай пробы. І пры гэтым — усе зусім не падобныя адзін да аднаго: у кожнага — свой тон, свой жанр, свая вобразная мова. Гэта — і адкрытая водпаведзь аскаліўшым іклы імпершавіністам:

Акоў паломаных жандар,
Сліўнём зарыўшыся ў нару,
Сядзіць расійскі чынадрал,
«Слуга оцечаству, цару».

І такі ж непасрэдны, цалкам вытрыманы ў стылі народнай парэміялогіі, праклён, з уласцівай гэтаму вуснамоўнаму жанру градацыяй: «Каб таму па локаць адсушыла рукі...», «Каб таму крукамі пакрыўляла ногі...», «Каб таго скруціла гадзінавым скрутам...» і гэтак далей — аж да апошняга:

Каб таго парвала
З сэрцам на тры часці
І звяр'ё збрылося
Мяса параскрасці, —
Хто быў прычыніўся
Нашаму падзелу,
На кускі парваўшы
Маці роднай цела.

І горкім-горкі, цяжкі і балючы папрок... Каму? А ўсім нам, усёй беларускай грамадзе, з якое паэт не выключае і сябе, вядома. І не толькі папрок, але і пільная перасцярога ад самай страшнай у будучым ганьбы — ганьбы ад родных дзяцей:

І засумуецца патомак,
Калі дазнаецца аб нас,
Што нейкі з нас хоць быў не зломак,
А плечы гнуў у крук не раз;

Не йшоў з адкрытымі вачыма
У свет і сцежкі не прастаў,
А ўсёй магчымасці магчымай
Таптаў сляды, сябе таптаў.

*(«І прыйдзе»)*

І — свайго кшталту клятва, мужнае і суровае запэўненне, што і сіла, і сэрца, і песні паэта паслужаць таму, каб натхніць народ на барацьбу, бо апрача ўсяго пералічанага ёсць і вера:

Ёсць жа яшчэ ў мяне вера
Ў вольны мой родны народ,
Што — у патрэбе — з сякерай
Выйдзе за волю ў паход!

Божа прамілы, прасветлы! Амаль тры чвэрці стагоддзя прайшло, як былі напісаны ўсе гэтыя вершы, а — нібыта ў нашы дні. Нават яшчэ больш сугучна да нашых дзён прыкладаюцца.

* * *

Можа быць, ніколі не было ў нас, ва ўсіх нас, такой пільнай патрэбы ў чытанні твораў Купалы, як сёння. На сённяшнім этапе гістарычнага развіцця Беларусі ніводзін яе сучасны паэт не скажа народу столькі неабходнай праўды, колькі сказаў Купала. І справа тут, вядома ж, не толькі ў несуразмернасці прыроднага дару, таленту, але і ў той глыбіні бачання, разумення і асэнсавання гістарычнага лёсу беларускага народа, у якой Купалу і дагэтуль ніхто не пераўзышоў, і ў той ступені самаадданага, самаахвярнага служэння ідэі, якая ўласціва толькі самым вялікім падзвіжнікам, героям і апосталам нацыі.

Я не схільны перабольшваць ролю паэзіі, мастацкага слова ў жыцці грамадства, у лёсе народа, і ўсё ж, і ўсё ж: калі б гэтае слова — патрыятычнае, чалавечнае, роднае-блізкае — кожны дзень гучала, слухалася і чыталася паўсюль і скрозь — напэўна зусім іншае было б сёння становішча ў нас ва ўсіх адносінах — і ў эканоміцы, і ў экалогіі, і ў культуры, — таму што быў бы іншы народ, быў бы народ нацыянальна свядомы і маральна выхаваны, ён не дазволіў бы распараджацца сваім лёсам і лёсам сваёй зямлі Іванам, што не помняць радні.

Сёння можна гаварыць з пэўнасцю: тая акалічнасць, што больш як на паўстагоддзе ад беларускага народа была наглуха

схавана п’еса «Тутэйшыя», дзесяткі выдатных вершаў і дзесяткі бліскучых публіцыстычных артыкулаў Янкі Купалы, — значна затармазіла развіццё нацыянальнай ідэі ў народзе, нацыянальнай самасвядомасці; гэта было адно з гнюсных злачынстваў, утвораных бальшавіцкай дыктатурай у дачыненні да Беларусі. Хаваць ад народа слова яго вялікага песняра і прарока, яго апостала, яго духоўнага настаўніка — гэта такая нялюдскасць, такая амаральнасць і цынізм, перад якімі нармальны здаровы чалавечы розум пачуваецца проста бездапаможным.

* * *

І ёсць яшчэ адна прычына, чаму нам трэба штодзённа чытаць або слухаць Янку Купалу. Усе мы ведаем, у якім становішчы апынулася на сваёй жа Радзіме беларуская мова і якая яна сёння ў нашым друку ды і ў нашых мастацкіх творах. Адраджэнне мовы, за якое мы змагаемся, — гэта не проста яе вяртанне ў шырокі грамадскі ўжытак, гэта і адраджэнне яе сапраўдных прыродных якасцяў, у значнай меры страчаных ёю за дзесяцігоддзі нашай няволі і нашага нядбальства. І ў гэтым сэнсе Купала нам — найпершы і найвялікшы прыклад. Ягоная вера ў роднае слова — невымерная, яго карыстанне магчымасцямі роднай мовы здзіўляе і будзе здзіўляць вечна. Купала валодаў непараўнаным у беларускай літаратуры бясстрашшам перад словам, непераўзыдзенай свабодай у абыходжанні са словам, і пры гэтым — найдакладным пачуццём меры і суразмернасці, што ўласціва толькі майстрам самым вялікім.

Колькі ні чытай Купалу — не толькі лірыку, але і яго неўміручыя паэмы, камедыі, драмы,— ніколі не перастаеш здзіўляцца, якая бязмежная і магутная стыхія жывой народнай мовы бурліць, і кіпіць, і бушуе, і ходарам ходзіць у прывідных берагах форм і жанраў. Яна нахлынае і абрушваецца на нас, як лівень, як вадаспад, як сонца, яна ахоплівае і зачароўвае тысячамі фарбаў і гукаў, тысячамі адценняў і пераліваў. Прыняўшы як святыню вялікі запавет Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!», Купала не толькі змагаўся адкрыта як рэвалюцыянер і грамадзянін за роднае слова, за яго правы і годнасць, але і ўсёй сваёй творчасцю паказваў і даказваў, чаго варта гэтае слова, якія глыбіні чалавечай думкі і пачуцця можна ім выявіць і перадаць! Да Купалы вучоныя-акадэмікі яшчэ маглі разважаць і спрачацца, суджана ці не суджана беларускай мове стаць літаратурнай, пасля Купалы, а больш правільна, пасля

Купалы, Коласа, Багдановіча і Гарэцкага падобныя прароцтвы ўжо былі б недарэчнымі і смешнымі: беларускай літаратурнай мове былі дадзены правы грамадзянства на вечныя векі.

Купала знаходзіў слова так, як яго знаходзіць народ, — яно як бы прыходзіць само, нечакана, раптам, і заўсёды — дарэчы, да месца, і заўсёды — трапнае, адзіна прыдатнае. І калі яго паэт паставіць у радок — яно засвеціцца нейкім новым адценнем сэнсу і пачуцця, павернецца нейкім новым бокам, новай гранню. Здаецца, самога паэта зусім не абыходзіць, ці гэтае слова ім дзе падслухана, ці прыдумана самім,— магло быць і тое і другое. А як лёгка прыбягаюць яму на дапамогу гэтыя суфіксы і прэфіксы, што абнаўляюць слова сэнсава і эмацыянальна, гэтыя непаўторна купалаўскія таўталагізмы, што робяць музыку. Нешта магічна-язычніцкае — ад замоў, ад заклінанняў, ад дзіцячых гукаперайманняў — чуецца ў захапленні паэта скарбамі роднай мовы. Такое абыходжанне з мовай — сведчанне надзвычайнай чуйнасці да слова, уласцівай толькі паэтычнаму генію самога народа, што засведчана ў казках і песнях, у загадках і прыказках. Ды і што за дзіва: хіба сам паэт не сказаў нам, адкуль гэта ў яго?

Мне мудрасці кніжнай не даў Бог пазнаці,
Мой бацька не мог даць раскошаў такіх —
Навучыўся я слоў беларускіх ад маці
І дум беларускіх без школы і кніг.

* * *

У гісторыі сусветнай літаратуры было нямала вялікіх трагедый, трагічных творчых лёсаў, трагічных асоб, невядома за што асуджаных Богам на самыя страшныя пакуты зямныя. Але больш трагічнай постаці, чым Янка Купала, бадай і сусветная літаратура не знае. Такіх душэўных пакут, якія зведаў-перажыў ён, нікому з роўных яму пабрацімаў на долю не выпала. Таму што яго трагедыяй, яго вечным, ніколі не заціхаючым болем была трагедыя яго народа, трагедыя Беларусі, яго выклятай Богам Бацькаўшчыны. А гэта непараўнана страшней, чым трагедыя некаторых яго вялікіх сучаснікаў, скажам, С. Ясеніна, або У. Маякоўскага, або геніяльнага балгарскага лірыка Пеё Яварава. Затраўленыя, панявечаныя, даведзеныя да чорнай роспачы, яны не змаглі жыць далей у гэтым подлым свеце і пакінулі яго. Але

і ў самы апошні міг развітання з жыццём яны ведалі: застаецца Расія, яе народ і яе мова, — застаецца Балгарыя, яе народ і яе мова, — і застаецца на векі вечныя. У Купалы праз дзесятак гадоў пасля Кастрычніка гэтакага ведання не стала. Змрочная ноч насунулася на душу паэта. Да Кастрычніка і ў першыя гады пасля яго паэт верыў, чакаў, спадзяваўся і таму — будзіў, клікаў, натхняў, пераконваў, — адным словам, жыў і змагаўся. У канцы 20-х здарылася непапраўнае: насунулася тая бяда, што горш за смерць. Для такіх людзей, для такіх паэтаў, як Купала. Яму — прароку-яснавідцу, трыбуну і сцяганосцу нацыянальнага адраджэння — з усёй забойчай відочнасцю стала бачна, што гісторыя і на гэты раз подла і бязлітасна жорстка наглумілася і з яго самых запаветных мараў, і са святая святых яго народа. Яму стала да пранізліва-ледзяной яснасці зразумела, што ажыццяўленне яго найдарагіх і найсветлых ідэалаў прынамсі на цэлыя дзесяцігоддзі аддаляецца, ва ўсякім разе, ён ужо сваім словам не дапаможа народу — яму не дадуць патрэбнае слова сказаць. Ні яму і нікому іншаму з тых, што ішлі побач і жылі адною з ім верай.

О, якая гэта страшная, цёмная, дзікая сіла — мяшчанства ў мундзіры, або за чыноўніцкім сталом, або з камісарскім мандатам! Страшная сваёй непрабуднай глухатой да крыўды і болю народа, сваёй пячорнай, жывёльнай нянавісцю да духоўнага пачатку ў чалавеку, сваёй здольнасцю па-ізуверску, па-садысцку здзекавацца з тых, у каго апрача дабрыні ў душы, любові ў сэрцы ды роднага неба ў вачах — нічога няма. І гэту глухату, і нянавісць, і ізуверства поўнаю мерай зведаў Янка Купала.

У здзеку і глумленні над вялікім паэтам улады дайшлі да таго, што восенню 1929 года «раскулачылі» ў Акопах яго сямідзесяцідвухгадовую маці Бянігну Іванаўну і сястру Леакадзію і адправілі на смерць-пагібель у Котлас. Коштам неймаверных прыніжэнняў Купала ўпрасіў начальства злітавацца над імі і забраў іх ужо з цягніка ў Барысаве. Матчыну хату ў Акопах — са здаровых смалістых бярвёнаў, якая магла б стаць і дагэтуль і быць галоўным музеем Паэта, — хату неўзабаве разбурылі і звезлі, усю дагледжаную, утульную сядзібку — зруйнавалі. Затое праз колькі гадоў яму збудуюць дачу ў Ляўках, на Аршаншчыне, за дзвесце вёрст ад роднай Лагойшчыны, і падораць легкавы аўтамабіль, і ўзнагародзяць ордэнам Леніна... Але гэта ўжо будзе пасля таго, як ад вялікага паэта амаль нічога не застанецца. А ў лістападзе 1930-га... Пасля штодзённага цягання ў ГПУ на допыт як «кіраўніка контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі», пасля нечуваных абраз і прыніжэнняў, Іван

Дамінікавіч не вытрымлівае: піша развітальны ліст ураду, у якім вітае поспехі сацыялістычнага будаўніцтва, і ўспорвае сабе жывот кухонным нажом. У прысутнасці прыйшоўшых арыштоўваць яго людзей ва уніформе.

Спроба самазабойства — яго апошні і самы страшны прысуд адвечным «ворагам Беларушчыны», яго апошні пратэст супроць гвалту, учыненага над Беларуссю і беларускім народам нібыта новымі, а на справе ўсё тымі ж турэмшчыкамі і жандарамі.

Шмат, незлічона шмат чорных, ганебных злачынстваў перад беларускай культурай на рахунку паліцэйскай дыктатуры, што панавала тут цягам доўгіх дзесяцігоддзяў. Але самае чорнае, самае подлае, самае ганебнае злачынства — гэта тое, што яна зрабіла з Янкам Купалам, тое, як яна забівала і ўрэшце забіла найвялікшага паэта народа. Растаптала і забіла найганаровы гонар народа, яго найпраўдзівую праўду, яго найслынную славу.

На пачатку вайны Германіі з Савецкім Саюзам Купала эвакуіраваўся на ўсход, нейкі час жыў у Маскве, а затым — у Пячышчах каля Казані. Пісаў антыфашысцкую публіцыстыку і вершы («Беларускім партызанам», «Грабежнік», «Дзевяць асінавых колляў»). У канцы чэрвеня 1942-га прыехаў у Маскву — нібыта для падрыхтоўкі да свайго юбілею: набліжалася 60-годдзе паэта. Але 28 чэрвеня яго жыццё трагічна абарвалася. У гасцініцы «Масква», пры нявыясненых акалічнасцях. Існуюць розныя версіі ягонае гвалтоўнае смерці. Найбольш верагодная з іх: тыя, што не паспелі здзейсніць чорную задуму ў 1930-м, здзейснілі цяпер. Ну а ўвогуле трэба чакаць пары, калі загавораць сакрэтныя аддзелы расійскіх дзяржаўных архіваў. Магчыма, што-небудзь пэўнае скажуць яны і пра трагедыю ў гасцініцы «Масква».

* * *

Пра што гаворыць нам феномен Купалы, яго творчы геній? Калі народ з глыбінь свайго творчага духу нарадзіў такога паэта, даў свету такой сілы і прыгажосці мастацкі дар, — то гэта народ у вышэйшай меры жыццяздольны, народ гістарычны, народ несмяротны. Ад кволых, нездалячых, хваравітых бацькоў гэтакія волаты не нараджаюцца. Значыць, і культуратворныя патэнцыі народа таксама невычэрпныя. Значыць, нарэшце, і мова народа, мова, у якой выявіўся і здзейсніўся такі паэт — мова дасканалая, магутная і неўміручая, прынамсі, роўная ў сваіх магчымасцях з тымі, на якіх узышлі і ўзраслі вялікія літаратуры свету.

Вось чаму ўсе размовы аб несамастойнасці беларускай мовы і самой беларускай нацыі, якімі ворагі беларушчыны хацелі паралізаваць творчы дух Купалы і яго адзінаверцаў і якія, на вялікі жаль, узнікаюць яшчэ і сёння, — гэта, канешне ж, размовы або жандараў, у тым ліку і жандараў ад асветы, навукі і культуры, або — людзей назаўсёды пакрыўджаных Богам і таму не падлеглых асуджэнню.

Тым жа, хто любіць свой народ і сваю зямлю і хоча шанаваць родную мову, але паддаецца нагаворам нядобразычліўцаў і дае волю сумненням, а можа, нават упадае ў роспач, — тым я хацеў бы сказаць так: дарагія і мілыя, не падайце духам і не трацьце веры. Ведайце і помніце: Купалу і яго паплечнікам было нашмат цяжэй. Адно і самае галоўнае, што ад нас сёння патрабуецца, гэта звяраць свой беларускі гадзіннік па Купалу. Там — самы верны адлік нашага беларускага часу і самы дакладны ход стрэлак. Таму што Купалаў гадзіннік — гэта сэрцабіццё самога народа.

## «ЧЫМ БОЛЕЙ СХОДЗІЦЬ ДЗЁН, НАЧЭЙ…»

9 снежня 1891 года ў старажытным Менску нарадзіўся чалавек незвычайнага таленту і незвычайнага лёсу. Таленту яму было дадзена ад прыроды столькі, што ён мог бы выкрасаць ім чарадзейны агонь паэзіі яшчэ і сёння. Але лёс яму выпаў больш чым жорсткі: ён згарэў ад сухотаў на дваццаць шостым годзе жыцця, усяго некалькі месяцаў не дажыўшы да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Ён памёр у поўнай адзіноце, і на яго ўбогай магіле невядомыя добрыя людзі паставілі звычайны драўляны крыж з надпісам: Максім Багдановіч, студэнт.

Гісторыя сусветнай паэзіі знае імёны многіх вялікіх, жыццёвы і творчы лёс якіх пазначаны трагічнай метай: занадта ранняім адыходам з жыцця. У дваццаць восем гадоў завяршыў свой зямны круг Хрыста Боцеў, у дваццаць сем — Міхаіл Лермантаў, у дваццаць шэсць — Шандар Пецёфі… У гэтым шэрагу і вялікі беларускі паэт Максім Багдановіч. У адрозненне ад названых (і многіх не названых), імя Багдановіча за межамі нашай краіны пакуль што, на вялікі жаль, мала вядома. Прыходзіцца гаварыць: на вялікі жаль, таму што ён — як адна з самых выдатных постацей не толькі ў беларускай, але і ў агульнаславянскай, а можа быць, і ў сусветнай культуры — заслугоўвае іншай вядомасці. І можна не сумнявацца, што міжнароднае прызнанне Багдановіча ў маштабах непараўнана большых, чым сёння, не за гарамі.

У сябе ж на радзіме, у Беларусі, Максім Багдановіч быў прызнаны і ўсенародна любімы заўсёды — нават і тады (у пачатку трыццатых), калі прымітыўныя вульгарызатары духоўнай спадчыны публічна аб'яўлялі яго творчасць «рэакцыйнай па самой сваёй сутнасці». Ужо для некалькіх пакаленняў беларускіх чытачоў ён — класік нацыянальнай літаратуры, заўсёды званы першым пасля Купалы і Коласа. Людзі ж больш глыбока дасведчаныя ў гісторыі беларускай культуры даўно і справядліва ставяць тры вялікія імені побач і называюць разам: Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч. У сэрцы народа ён жыве якойсьці асабліва пяшчотнай, светлай і разам з тым балючай любоўю. Яго незвычайны лёс накладвае на яго чалавечы і паэтычны воблік адбітак легендарнасці. І ён быў бы нашай самай прыгожай паэтычнай легендай, калі б яго творчасць не была такой жывой і канкрэтнай рэальнасцю, калі б яна не была і сёння, для нас, такой непрыдуманай праўдай часу і праўдай чалавека.

Багдановіч прыйшоў у беларускую літаратуру як дзіця рэвалюцыі 1905–1907 гадоў, адчуўшы, што «разбуджаны нарэшце дух народны». Не забудзем, што яго паэтычны дар ад самага пачатку развіваўся пад магутным уздзеяннем рускай рэалістычнай літаратуры, што як асоба і творца Багдановіч фарміраваўся ў асяроддзі, у якім рашуча адчувалася прысутнасць мяцежнага буравесніка рэвалюцыі, вялікага пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага. Па творчасці крыху раней заявіўшых аб сабе Купалы і Коласа Багдановіч бачыў, як моцна і пераканаўча беларуская паэзія можа выкрываць, пратэставаць і клікаць на змаганне — ад імя прыгнечанага народа, а дакладней — ад імя беларускага селяніна. Багдановіч таксама пачаў з «песень мужыка» — зусім у духу і стылі сваіх старэйшых паплечнікаў.

Ў гутарках-казках аб шчасці, аб згодзе
Сэрца навін не пачуе.
Сціснула гора дыханне ў народзе,
Гора усюды пануе.

Неўзабаве, аднак, Багдановіч пайшоў у сваёй паэтыцы далей: ён загаварыў непасрэдна ад свайго імя і пра сябе, пра свае асабістыя ўзаемадачыненні са светам, у якім жыў, і загаварыў некалькі іншай — гэтаксама больш «асабістай» — мовай, больш

рэалістычнай і псіхалагічна дакладнай. Гэта быў пэўны крок наперад у эстэтычным асваенні рэчаіснасці беларускай паэзіяй.

Хаця Багдановіч загаварыў пра сябе, але сам ён увесь належаў свайму часу і свайму народу, але як мастак ён жыў не вузка асабістымі клопатамі і інтарэсамі, а — вялікімі ідэямі эпохі, клопатамі і інтарэсамі працоўнага чалавека. З яго гарачага маладога сэрца, поўнага любові да жыцця і людзей, поўнага прагі свабоды, дабра і справядлівасці, вырываліся радкі, якія прымушалі прыслухацца, якія з незвычайнай сілай паэтычнага ўнушэння гаварылі ўсім і кожнаму: «Людзі! Вы толькі гляньце, колькі чароўнага хараства ў прыродзе, навокала нас, якое гэта шчасце — бачыць яго і зліватца з ім душою! Якое шчасце сярод гэтага хараства жыць і працаваць, кахаць і ўзвышацца духоўна! Гэта найкаштоўныя дары, якія дадзены нам, каб мы, па сваім чалавечым абавязку, даражылі імі і карысталіся мудра. Але вы — усясільныя гаспадары-ўладары жыцця і краіны, вы, панове, што хоць і пазіраеце далёка, а не здольны заглянуць у душы людскія — гэтыя поўныя слёз студні, вы, адукаваныя, асвечаныя, культурныя, — вы навошта драпежыце створаную працоўнымі рукамі красу, вы нашто панаставілі гэтыя платы і сцены, нашто нарабілі гэтых ірвоў і межаў? Каб адгарадзіць праўду ад няпраўды і крыўды?»

Пабач, што робіцца за гэтымі платамі!
Ў надмернай працы гіне тут
Галодны і абдзёрты люд,
Каторы моцнымі рукамі
Стварыў усе багацтвы на зямлі:
Правёў ён скібы на раллі,
Ён рэйкі пралажыў чыгунак,
Заводаў коміны падняў у выш нябёс,
А сам даўно сляпы ад слёз
І ўжо забыўся аб ратунак.

У 1915 годзе Багдановіч піша невялікі лірычны верш «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы…», на першы погляд — інтымнага, а на самай справе — глыбокага філасофскага зместу.

Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам зямля.

Хто мы такія?
Толькі падарожныя — папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?

Пытанне, як бачым, з той далёкай ужо даўнасці прарастае ў нашу сённяшнюю свядомасць сацыяльна-палітычным і філасофскім сэнсам глабальнай маштабнасці і вастрыні.

Паэтычны характар Багдановіча быў на рэдкасць цэласны і мэтанакіраваны. Яго ўсеахопнай жарсцю была любоў да роднай Беларусі і яе шматпакутнага народа, мове якога ён, з маленства жывучы ў глыбіні Расіі, на Волзе, навучыўся самастойна — у асноўным па зборніках беларускага фальклору і беларускіх старадруках. Яго жаданне перайначыць несправядлівы лёс Бацькаўшчыны было неадольным. Боль за яе бяспраўнае прыніжанае становішча быў пачаткам многіх творчых памкненняў яго душы.

Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі з ярма
І душу тваю абакралі, —
У ёй нават мовы няма.

Багдановіч няйначай узяў на сябе тое, што здольны ўзяць толькі вялікі паэт народа: віну ўсіх вінаватых дзяцей Бацькаўшчыны. Ён гатоў гэты непамерны цяжар — гэту спадчынную віну несці да канца і выкупіць уласнай смерцю.

Маці родная, Маці-Краіна!
Не ўсцішыцца гэтакі боль…
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..

Багдановіч вельмі драматычна адкрыў для сябе і ўспрыняў гістарычны лёс беларускага народа. Па яго разуменню і перакананню, без усведамлення свайго абавязку перад народам — паэту жыць ганебна. Ганебна не перажываць, не пакутаваць, не спачуваць ягонаму лёсу, а яшчэ больш ганебна — не змагацца за яго лепшую долю.

Пранiклiвасць i мудрасць Багдановiча-паэта i мыслiцеля заключалiся ў тым, што ён адчуў i зразумеў свой час як гiстарычна-паваротны момант у лёсе роднага краю, што ён змог дастаткова ясна ўбачыць тыя грамадскiя сiлы, якiя ажыццявяць — i вельмi скора! — адвечную мару працоўных Беларусi аб сацыяльным i нацыянальным разняволеннi, аб'ектыўна — быў з iмi i сваiм таленавiтым словам дапамагаў iм — падтрымлiваў iх вялiкую рэвалюцыйную справу. Iменна таму, пры ўсiм драматызме яго грамадзянскага самапачуцця, ён нiколi не траціў веры ў светлае заўтра сваёй Бацькаўшчыны i яе народа:

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацiстага, яснага дня.
Паглядзi, як усход разгараецца,
Колькi ў хмарках залётных агня!..

У творчым аблiччы Багдановiча было штосьцi ад выдатных дзеячаў культуры эпохi Адраджэння. У беларускай лiтаратуры ён сцвердзiў сябе як паэт-гуманiст у самым сапраўдным сэнсе гэтага слова. Услед за Купалам i Коласам ён бачыў у беларускiм селянiне чалавека багатай i прыгожай душы, адораную талентам, любоўю i дабрынёй асобу. Ён вызначаўся незвычайнай шырынёй духоўных даляглядаў. Яго веды ў розных галiнах культурнай гiсторыi беларускага i iншых народаў былi неверагемна грунтоўныя. Па глыбiнi пранiкнення ў духоўную спадчыну стагоддзяў з Багдановiчам у Беларусi маглi параўнацца нямногiя. Разам з Купалам i Коласам ён быў у лiку першых, хто зацiкавiўся эпiчнымi матывамi i вобразамi беларускага фальклору i творча пераўвасобiў iх у адпаведнасцi з актуальнымi задачамi часу. Ён быў адзiн з першых, хто ўчытаўся ў герачныя старонкi нацыянальнай гiсторыi i глянуў на свой народ як на народ з эпiчным мiнулым. Гэта быў прынцыпова важны крок наперад у развiццi нацыянальнай самасвядомасцi i гiстарычнай думкi на Беларусi. Нiхто да яго ў беларускай лiтаратуры з гэткай сiлай i пераканаўчасцю не сказаў аб тым, што Беларусь мела калiсьцi — якiх асветнiкаў, мыслiцеляў i вучоных, якую кнiжную культуру, мастацтва i дойлiдства, якiя самабытныя народныя промыслы i рамёствы! А сказаў ён гэта таму, што як адзiн з найбольш адукаваных i культурных людзей свайго часу кiраваўся разуменнем i перакананнем: немагчыма тварыць сёння ў адрыве ад таго, што было створана ўчора, не адчуваючы пад нагамi той духоўнай глебы, што складалася цягам папярэднiх эпох. Разумеючы,

што нельга ісці наперад, насустрач новаму жыццю, упоцемку, не бачачы дарогі, ён адкрыта прапаведаваў культ кнігі, навукі, ведаў, і не толькі ў артыкулах, але і ў цудоўных, сапраўды інтэлектуальных і ў той жа час глыбока эмацыянальных, па-чалавечы простых вершах.

Здзіўляе гармонія пачуцця, думкі, пластыкі і музыкі ў лірыцы Багдановіча, гэтак жа, як і культура яго верша. Звычайна да прафесіянальнага майстэрства ў літаратуры падымаюцца, растуць і дарастаюць пастунова — Багдановіч жа прафесіянальна пачаў, адразу ж заявіў пра сябе як спелы — і што да зместу, і што да мастацкай формы — паэт. Ён — бадай што ці не адзіны ў гісторыі нашай паэзіі, у каго — ад першых радкоў, напісаных у 17-гадовым узросце, і да апошняга перадсмяротнага чатырохрадкоўя — амаль усё ішло на хрэстаматыйна-класічным узроўні. У яго амаль немагчыма знайсці верш, які быў бы недасканалы ў кампазіцыі, у логіцы вобраза і асацыятыўных сувязей, у эўфаніі радка. У яго было дасканалае пачуццё меры і суразмернасці, і ў гэтых адносінах з усіх беларускіх паэтаў мінулага і сучаснага ён найбольш блізкі і роднасны Пушкіну.

Багдановіч быў не толькі надзелены рысамі геніяльнасці паэт — аўтар пейзажнай, любоўнай, сацыяльна-філасофскай лірыкі і вытрыманых у фальклорна-эпічным духу паэм. Ён быў, як вядома, і самабытны празаік — апавядальнік і эсэіст, і непераўзыдзены майстар паэтычнага перакладу, і тонкі, бліскучы літаратурны крытык, і глыбокі вучоны-даследчык — заснавальнік навуковай гісторыі беларускай літаратуры і мастацтва, і чуйны да пульсу часу, дасведчаны і перакананы публіцыст, і нарэшце — выдатны мысліцель рэвалюцыйна-дэмакратычнай школы. Ва ўсіх гэтых галінах творчай дзейнасці ён пакінуў спадчыну, якая працягвае жыць эстэтычна актыўным жыццём.

Багдановіч-мысліцель і публіцыст, гісторык літаратуры і крытык быў роўны, ці, дакладней сказаць, роўнавялікі Багдановічу-паэту. Яго разважанні і думкі па праблемах развіцця літаратуры і мастацтва, навукі і духоўнай культуры ў цэлым, яго панарамныя агляды гістарычнага шляху беларускай літаратуры, яго ацэнкі творчасці паэтаў і пісьменнікаў розных краін і народаў — і сёння чытаюцца з неаслабнай цікавасцю і ўспрымаюцца вельмі актуальна ў сучасным культурна-ідэалагічным кантэксце. Яны ўражваюць глыбінёй пранікнення ў сутнасць праблемы, смеласцю і самастойнасцю мыслення, трапнасцю і дакладнасцю характарыстык. На які б яго артыкул, рэцэнзію ці нататку мы

ні кінулі вокам — мы абавязкова адкрыем для сябе субяседніка, які гаворыць з намі на сучасным узроўні і сучаснай эстэтычнай мовай, падыход і крытэрыі якога нам вельмі імпануюць. Успомнім, з якой гордасцю падкрэсліваў ён сапраўды народны і глыбока дэмакратычны характар беларускай літаратуры: «Наша пісьменнасць неразвітая і каравая, — пісаў Багдановіч, — але вялікім пачуццём напоўнена ўсё яе цела, не на грашовых справах трымаецца яна і ніколі не пойдзе чысціць боты капіталу». Успомнім радкі з яго артыкула «Краса і сіла», прысвечанага разгляду паэтыкі вялікага Кабзара Украіны. «Есть звезды, которые так близки друг к другу и так ровно сливают свой свет, что кажутся нам одним неразрывным целым. “Двойными звездами” называются эти светила. Их судьба стала судьбой музы Шевченко и украинской народной поэзии: двойной звездой сияют они в мире искусств и красоты». Можна бясконца доўга гаварыць пра мастацкую прыроду паэзіі Кабзара, але самае істотнае і самым дакладным чынам вызначана ў гэтых пяці радках.

Як бы даючы водпаведзь тым, хто хацеў бы і яго — пры жыцці або пасля смерці — залічыць да мадэрнізму, да песняроў «чыстай красы», Багдановіч у рэцэнзіі на зборнік французскага паэта Тэафіля Гацье пісаў: «Разбираемая книга имеет один убийственный недостаток: то, что в ней искусно, в то же время и весьма искусственно. В ней очень много мастерства и очень мало поэзии… Его книга и есть жертва на алтарь этой бездушной красоты».

Аб творчасці рускіх паэтаў — ад Ламаносава да Брусава — ім напісаны артыкулы і рэцэнзіі на ўзроўні лепшых дасягненняў айчыннай філалагічнай школы. Яго заўвагі і накіды па тэорыі асобных паэтычных жанраў — у нашым дакастрычніцкім літаратуразнаўстве першыя і адзіныя ў сваім родзе. Сучасны фалькларыст у яго маленькай — на дзве старонкі — нататцы можа прачытаць тое, чаго хапіла б разгарнуць на цэлую дысертацыю. Выдаўцы, якія хочуць атрымаць каштоўную параду, як рыхтаваць да друку збор твораў, хай пачытаюць рэцэнзію Багдановіча на акадэмічнае выданне Баратынскага. Педагогі-настаўнікі могуць знайсці ў яго зусім не ўстарэлыя і слушныя думкі аб ролі выкладання роднай мовы ў вучэбным і выхаваўчым працэсе. А хіба не гонар нам ведаць, што ў дакастрычніцкай беларускай літаратуры быў паэт, які і пра самае перадавое вучэнне эпохі, а іменна — пра навуковыя ідэі сацыялізму — ведаў не па чутках? Вось яго ацэнка артыкулаў Г. В. Пляханава, змешчаных у «Дневнике социал-демократа» № 1 за 1916 год: «От-

метим, впрочем, что на социалистическую доктрину Плеханов в этих статьях старается опереться очень редко и собственно социал-демократического в них почти ничего нет. Это живо и доступно изложенные мысли умного и культурного человека, но и только».

Чытаць літаратурна-крытычныя працы Багдановіча — незвычайная асалода, якую прыносяць, па-першае, прафесіянальная дасведчанасць і пераканаўчасць аргументаў, а па-другое, бляск стылю: гранічная сцісласць пісьма і натуральнае прыгоства фразы.

Нарэшце належыць сказаць пра тое, што робіць і яго творчую спадчыну, і яго асобу асабліва прывабнай у наш час у вачах шматнацыянальнага савецкага чытача і нашых сяброў за межамі краіны: Максім Багдановіч быў перакананы і палымяны інтэрнацыяналіст. Сведчаннем гэтаму не толькі яго дасканала-майстэрскія пераклады паэзіі з розных моў свету (а перакладаў ён з арыгінала), але і яго выдатныя артыкулы пра паэтаў іншых народаў, асабліва ж — пра рускіх і ўкраінскіх, прасякнутыя шчырай братэрскай любоўю і павагай. Разам з Купалам, Коласам і Цёткай ён стаў заснавальнікам адной з самых выдатных і прыгожых традыцый беларускай літаратуры, — традыцыі інтэрнацыяналізму, традыцыі братэрскай дружбы, узаемапавагі і ўзаемасупрацоўніцтва, традыцыі, якою мы свята даражым, якую няспынна развіваем і якою нязменна і па праву ганарымся. Тое, што зрабіў Багдановіч у гэтым кірунку, як ён збліжаў і радніў народы праз літаратурную творчасць, — для нас не толькі запавет, але і мудры ўрок і высокі прыклад. «Мы зрабілі б цяжкую памылку, — пісаў ён у артыкуле «Забыты шлях», — калі б кінулі тую вывучку, што нам давала сусветная (найчасцей еўрапейская) паэзія. Гэта апошняя праца павінна ісці поўным ходам. Было б горш, чым нядбальствам, нічога не ўзяць з таго, што сотні народаў праз тысячы год сабіралі ў скарбніцу сусветнай культуры. Але занасіць толькі чужое, не развіваючы свайго, — гэта яшчэ горш: гэта значыць глуміць народную душу. Да таго ж адны жабракі могуць праз усё жыццё толькі браць. Трэба ж і нам, беручы чужое, калі-нікалі даць нешта сваё». А яго ацэнка вялікай рускай культуры як магутнага фактару, што «згуртоўвае разнародныя плямёны» дзяржавы? «Ее печать, — падкрэсліваў Багдановіч, — лежит на духовном творчестве любого народа России, она является для них общей почвой, сближая содержание их культур, их идейных и литературных течений». Калі б не дата 1916 — мы сказалі б, што гэтыя справядлівыя словы

пра агромністую ролю рускай мастацкай культуры ў духоўным жыцці нашай краіны напісаныя сёння.

Значэнне таго ці іншага пісьменніка ў гісторыі нацыянальнай літаратуры вызначаецца перш за ўсё маштабам і ступенню ўплыву яго творчасці на развіццё гэтай літаратуры, на духоўнае жыццё народа. Уплыў Багдановіча на беларускую паэзію і шырэй — на ўсю мастацкую культуру Беларусі — агромністы. І чым бліжэй да нашага часу — тым ён мацнейшы і больш відочны. Цікавасць да творчасці Багдановіча — і ў асяроддзі мастацкай інтэлігенцыі, і сярод шырокіх чытацкіх колаў — бесперапынна ўзрастае. Натуральна задаць пытанне: у чым жа сіла прывабнасці творчай спадчыны паэта — чаму яна і сёння гэтак жыва і глыбока намі ўспрымаецца? Адказаць на гэта пытанне не проста. Відаць, перш за ўсё таму, што гэта быў вялікі талент, талент самабытны і шматгранны, талент глыбокі і праніклівы, які бачыў не толькі свой час, але і будучыню, і сённяшніх сваіх чытачоў з іх сённяшнімі густам і патрабаваннямі. Так, усё гэта справядліва. Хацелася б усё ж сярод прычын нашай незвычайнай цягі да Багдановіча назваць і яшчэ адну: адзінства мастака і чалавека, мастака і грамадзяніна, адзінства, якое было ўвасоблена ў ім у найвышэйшай ступені. Багдановіч быў асобай легендарнай высакароднасці, чалавекам рэдкай душэўнай далікатнасці і прыроднай інтэлігентнасці, чалавекам з неймаверна развітым пачуццём маральнага абавязку і асабістай годнасці. І мы, яго сённяшнія чытачы, канечна ж, гэта адчуваем. Мы адчуваем: за кожным яго радком — крыштальная чысціня памыслаў і памкненняў, апантанае, самаахвярнае служэнне літаратуры, народу, радзіме — і нічога больш! Мы бачым тое, чаго не ўбачыць нельга: перад намі паэт, у якога — апрача таленту, апрача балючага сумлення і невымернай любові да людзей — нічога няма. Нічога ад той будзённай мітусні, якой служэнне муз, як ведама, не церпіць.

За свой кароткі век Багдановіч спазнаў нямала горычы і засмучэнняў, цяжкіх душэўных пакут. Найцяжэй яму было ведаць — і ведаць без ніякіх ілюзій! — што яго чакае. Калі столькі не зроблена, калі столькі яшчэ трэба здзейсніць! Ведаць — і ніколі не спалохацца, не змаладушнічаць, не азлобіцца і не глянуць на жыццё змрочна, а на людзей — з нянавісцю. Пра блізкую смерць ён гаворыць у вершах гэтак жа натуральна і проста, як і пра жыццё, і пра каханне — без роспачы і страху — з тою натуральнасцю і прастатой, з той мудрасцю, з якой гаварыў аб

гэтым жа вялікі Пушкін, з якою гаворыцца пра гэта ў творчасці народа, у фальклоры.

Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

Ён паміраў гэтак жа высакародна і мужна, як жыў, — без нараканняў і скарг. На яго стале засталося не адпраўленае бацьку пісьмо: «Добры дзень, стары верабей… Маладому вераб'ю блага…» Ён не адправіў яго, каб не прычыняць родным лішняга клопату. Такі ён быў чалавек, Максім Багдановіч, сын Адама Ягоравіча і Марыі Апанасаўны Багдановічаў, сын Беларусі.

Нярэдка даводзіцца чытаць і чуць такія прызнанні: у школьныя гады я любіў аднаго паэта, у студэнцкую пару — іншага, другога, а цяпер мае сімпатыі належаць вось гэтаму, трэцяму.

Максім Багдановіч — любоў непераходная.

Хто аднойчы адкрые для сябе Багдановіча — той адкрые яго назаўсёды. І назаўсёды зробіць сваёй любоўю. Той застанецца навек у палоне неразгаданых чараў яго паэзіі і будзе зноў і зноў вяртацца да яго радкоў і спыняцца перад імі, нямеючы, як перад цудам. Але сказаць пра любоў да Багдановіча толькі гэта — мала. Трэба сказаць больш, трэба сказаць усё: той, хто адкрые для сябе Багдановіча, — той ужо не зможа заставацца абыякавым да радзімы паэта. Таму што заставацца абыякавым будзе проста сорамна і ганебна — ведаючы, як любіў і што зрабіў для сваёй Бацькаўшчыны ён, як аддаваў ёй сябе — дарэшты, даастатку — ён. Таму што ўжо будзе нельга жыць, і любіць, і верыць так, як быццам на свеце не жыў, не любіў і не верыў Багдановіч. Нельга і немагчыма! Такая ўжо асаблівасць, ці, дакладней, уласцівасць, яго паэзіі. Не ведаю, як гэта ўласцівасць называецца. Думаю, што назвы, можа быць, для яе і няма, але адно несумненна: гэта самая істотная і самая каштоўная якасць паэзіі.

У адным з артыкулаў, радуючыся першым поспехам маладой беларускай літаратуры, Багдановіч пісаў, «што не толькі нашаму народу, але і ўсясветнай культуры нясе яна свой дар». Так, і свайму народу, і ўсяму чалавецтву — культуры свету. Гэты неацэнны дар, непараўнана памножаны і ўзбагачаны, нясе яна людзям і сёння. І адно з самых прыгожых і каштоўных складаемых гэтага дару — творчасць самога Максіма Багдановіча. Творчасць, якая чым далей адыходзіць ад журботнага крымскага мая, тым

больш маладзее. Творчасць, якая, ад нешырокага калісьці кола чытачоў на Бацькаўшчыне, няйначай як наважылася апаясаць сваім чароўным вянком увесь зямны шар — прарасці цвятком радзімы васілька на ўсіх яго паралелях і мерыдыянах. Творчасць, у якой вялікая будучыня.

Калі тую ліпу ў садзе Веранікі ўявіць дрэвам вечнасці, у якое ўрэзана яго несмяротнае імя, то сапраўды мы можам шчасліва і светла сказаць:

Чым болей сходзіць дзён, начэй,
Тым імя мілае вышэй.

*1981*

## СЛОВА ПРА ЯСЕНІНА

Но и тогда,
Когда во всей планете
Пройдет вражда племен,
Исчезнет ложь и грусть, —
Я буду воспевать
Всем существом в поэте
Шестую часть земли
С названьем кратким «Русь».

Для ўсіх, хто любіць паэзію, хто з дапамогаю яе чараў спрабуе спасцігнуць вялікі сэнс і цудоўнае хараство жыцця на зямлі, — сёлетняя залатая восень — ясенінская. Споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння гэтага вялікага савецкага паэта.

Сяргею Ясеніну было суджана пражыць усяго трыццаць гадоў, з якіх на творчае жыццё ў слове прыпадае крыху больш за дзесяць. Але яму пашанцавала ў часе: яму выпала жыць і тварыць у эпоху вялікіх сусветна-гістарычных падзей, грандыёзных рэвалюцыйных зрухаў і пераўтварэнняў. Праз яго свядомасць, праз яго душу і сэрца прайшлі тры рускія рэвалюцыі, у тым ліку — Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная, і некалькі войнаў, у тым ліку — сусветная імперыялістычная і грамадзянская. Ён быў сведкам і ўдзельнікам пачатку будаўніцтва новага, невядомага чалавецтву грамадства — будаўніцтва, якое праходзіла ва ўмовах неймаверна складаных і драматычных. Ён быў сучаснікам Леніна, да вобраза якога неаднойчы ў сваёй творчасці любоўна

звяртаўся, быў сучаснікам Горкага і Шаляпіна, Маякоўскага і Блока, Цыялкоўскага і Эйнштэйна. Адным словам, наўрад ці мы можам назваць нейкі іншы ў гісторыі цывілізацыі час, які мог бы гэтак шмат даць уражлівай душы паэта, мог бы так паспрыяць няспыннаму ўзбагачэнню і абнаўленню яго духоўнага свету, развіццю яго таленту, яго ліры. Трэба падкрэсліць з усёй упэўненасцю: Ясенін аказаўся адным з самых удзячных сыноў сваёй эпохі, свайго часу, ён адлюстраваў іх у творах незвычайнай мастацкай яркасці і сілы, у вершах і паэмах выключнай ідэйнай і эмацыянальнай змястоўнасці, у радках рэдкаснай чалавечай прывабнасці, чароўнасці, хараства. Ён аддаў свайму часу ўсяго сябе даастатку — і менавіта таму жыве ў будучыні, у часе, пра які марыў, у нашым часе. Так, сёння ён з намі, у нашых буднях і святах, у нашых вялікіх справах і вялікіх клопатах, і мы зноў і зноў звяртаемся да яго, зноў і зноў гаворым пра яго, як пра свайго сучасніка. Гаворым пра яго ролю ў гісторыі айчыннай паэзіі і пра яго месца ў сённяшнім, жывым літаратурным працэсе, пра яго заслугі і пра яго ўрокі, пра яго славу і пра яго трагічны лёс таксама. Не толькі гаворым, але і спрачаемся, і нават часам спрачаемся горача — таму што раўнадушных да яго як не было, так і няма. Пасмяротнае, але вялікае шчасце паэта!

Вядома, гаварыць і пра заслугі, і пра ўрокі, і пра месца ў нашым духоўным жыцці такога волата паэзіі — няпроста і нялёгка. Пра ягоны жыццёвы і творчы шлях — тым болей. Ясеніну і яго паэзіі прысвечаны ўжо многія дзесяткі кніг, у тым ліку і за межамі Радзімы, таму што ён з’ява, выдатная не толькі ў айчыннай мастацкай культуры, але і ў сусветнай.

Ясенін — паэт савецкі, хоць і пачаў да рэвалюцыі. Восем паслякастрычніцкіх гадоў — гэта зусім нямнога. А які агромністы шлях ён прайшоў, якім напружаным, інтэнсіўным, імклівым быў ідэйна-творчы рост паэта! Ясенін 1917–1918 і Ясенін 1924–1925 гадоў — неверагодная розніца! Розніца ў карысць Ясеніна апошняга перыяду, вядома, але ці быў бы ён, гэты позні, ясны, спакойны і мудры Ясенін, аўтар «Русі савецкай» і «Стансаў», «Персідскіх матываў» і «Анны Снегінай», калі б не было ўсяго, што гэтаму папярэднічала? Смеласць і рашучасць ідэйна-творчых пошукаў, наватарскіх падыходаў і рашэнняў характарызуюць нядоўгі шлях паэта. Шмат чаго было на гэтым шляху, — у тым ліку і празмернае заглыбленне ў гэтак званае «ізографства» — маляванне вобразамі, і наіўнае месіянства са слоўнай апраткай прарока ў ягоным «біблейскім» цыкле, і настроі часовай разгубленасці, прыгнечанасці і зняверанасці

ў сабе, а зрэшты, і не толькі ў сабе, і пэўнае захапленне роляй «скандальнага паэта», і многае іншае, праз што ён ішоў наперад. Але было і заставалася непахісным галоўнае: шчырая сыноўская любоў да роднай зямлі, да маці-Расіі, глыбокая вера ў свой народ і яго творчыя сілы, вернасць і адданасць рэвалюцыі.

Я о своем таланте
Много знаю.
Стихи — не очень трудные дела.
Но более всего
Любовь к родному краю
Меня томила,
Мучила и жгла.

Або — знакамітыя радкі пра будучыню Радзімы, пра Расію заўтрашнюю, новую, магутную:

Я не знаю, что будет со мною…
Может, в новую жизнь не гожусь,
Но и все же хочу я стальною
Видеть бедную, нищую Русь.

Урок патрыятызму ў паэзіі Ясеніна — адзін з самых моцных і дзейсных. Адзначаючы гэта, нельга не сказаць і пра іншае — пра тое, як глыбока і справядліва ацэньвае Ясенін хвалёны капіталістычны рай, перш за ўсё — заакіянскі. Вось што пісаў паэт у пісьмах са Злучаных Штатаў: «Што сказаць мне Вам пра гэта жахлівае царства мяшчанства, якое мяжуе з ідыятызмам? Апрача факстрота, тут амаль нічога няма, тут жаруць і п'юць, і зноў факстрот. Хай мы жабракі, хай у нас голад, холад… затое ў нас ёсць душа, якую тут здалі за непатрэбнасцю пад смердзякоўшчыну». У нарысе «Жалезны Міргарад» пра амерыканцаў чытаем: «Панаванне долара з'ела ў іх усе імкненні да якіх-небудзь складаных пытанняў. Амерыканец цалкам пагружаецца ў бізнес і больш нічога ведаць не хоча».

Вядома, што ні ў кога з сапраўдных, а тым больш вялікіх паэтаў жыццё не было лёгкім. І ўсё ж думаецца, што Ясеніну на долю дасталася праз меру. Сёння з асаблівым болем успрымаеш усё, што тварылася з ім, што выпала яму перажыць і зведаць. Не так даўно давялося прачытаць у кнізе аднаго вядомага літаратара ўспамін аб тым, як ён, малады, здаровы, баскетбаліст, за невялікі бытавы правінак збіў кволага, вузкаплечага, нездараўчанага Ясеніна да крыві і затым каціў яго сваімі

падкаванымі ботамі па каменнай лесвіцы — некалькі пралётаў аж да самага нізу. Ну, што ж, трэба было рускаму паэтычнаму генію прайсці і праз такое. А ўрок ясны: пакуль ёсць людзі, якія не толькі не згараюць ад сораму, прызнаючыся самому сабе ў гэткім, але нават і спакойна расказваюць пра гэта на цэлы свет, нават пахваляюцца гэтым, — можна не сумнявацца, што знойдуцца і тыя, хто гатоў на падобны подзвіг і сёння, хто ахвотна пакоціць паэта — ботамі пад рэбры — па лесвіцы. І неабавязкова ў прамым сэнсе. Не ў прамым — яшчэ больш балюча. Проста неверагодна, колькі злога, змрочнага, нядобрага, як бы нейчай воляй зведзенага ў адно, было паднята супраць гэтай невымерна пяшчотнай, бясконца ўлюбёнай у людзей, у жыццё і ва ўсё жывое душы! Цэлыя зграі няздараў-грамафанаў, дробных славалюбцаў, беспардонных цынікаў і раз'юшаных эгацэнтрыстаў атакоўвалі яго пастаянна, не давалі яму літаральна ніводнага кроку ступіць без сваёй настырнай увагі. Ён, напэўна, ведаў ім сапраўдную цану, ведаў, хто і што яны ёсць і чаго яны варты; але ён быў вялікі паэт, ён быў надта добры, у яго было столькі дабрыні, што яе хапала нават і на гэту шушару. Як часцей за ўсё і бывае з паэтамі сапраўднымі, выдатнымі, Ясенін па сваёй дабрыні і далікатнасці не мог ім сказаць: «Ідзіце прэч!» І яны гэта ведалі, і карысталіся гэтым. Вядома, ён не баяўся гэтага нікчэмнага атачэння, гэтых мітуслівых зайздроснікаў і зласліўцаў, што віліся наўкола; але іх вечнай здольнасці брудзіць і атручваць ён, на вялікі жаль, недаацэньваў. І трагічна паплаціўся за гэта. Паплацілася ўся айчынная паэзія. Яна страціла яго, страціла ў самым росквіце творчых сіл. «Казненный дегенератами» — сказана было адным з тых, хто ведаў пра ўсё не па чутках. Калі і не ўся праўда, то доля праўды ў гэтых словах, бясспрэчна, вялікая.

Труну паэта ў Маскве ў Доме друку сустракалі плакатам, на якім значылася, што не стала «вялікага рускага нацыянальнага паэта». У тыя ж дні А. Талстой у «Красной газете» напісаў: «Памёр вялікі нацыянальны паэт…» Крыху пазней М. Горкі ў роздуме аб гэтай незаменнай страце напісаў: «Прачытаў я першы том вершаў Ясеніна і чуць не ўзвыў ад гора, ад злосці. Які чысты і які рускі паэт!» Здавалася, лепшыя людзі Расіі сказалі сваё важкае слова. І тым не менш драма паэта прадаўжалася. Бадай ніхто з рускіх паэтаў не прайшоў праз тое, праз што прайшоў — і пры жыцці, і пасля смерці — Ясенін. Так, і пасля смерці. Няма ў рускай літаратуры паэта, лёс якога быў бы ў такой ступені драматычны і несправядлівы цягам цэлых дзесяцігоддзяў ужо тады, калі яго самога не было ў жывых. І нельга назваць іншае

паэтычнае імя, пра якое хадзіла б столькі быляў і небыліц, баек і легендаў, чыя б памяць так доўга абражалася пошласцю. Нічыя, бадай, творчасць так супярэчліва не ацэньвалася, так груба не скажалася і не перакручвалася ў даследаваннях, у артыкулах і нататках.

А колькі ідэйна-эстэтычных спекуляцый пладзілася наўкола яго паэзіі, колькі зроблена беспадстаўных спроб апраўдаць яго імем, яго аўтарствам уласную антыграмадскую пазіцыю, адарванасць ад вялікіх сацыяльных і палітычных праблем часу, адчужанасць ад ідэалаў рэвалюцыі і камунізму!

А здавалася б — усё так ясна, так адкрыта, так дакладна ў саміх радках яго вершаў і паэм. Бяры і чытай: вось я, вось мая пазіцыя, маё крэда, маё «Верую».

Несправядлівым быў не толькі суд абывацеляў, мяшчанства, але і многіх пабрацімаў-паэтаў, у тым ліку паэтаў добрых, нават выдатных і нават вялікіх. Горка, вядома, гэта ведаць і ўсведамляць, але гэта рэч непапраўная. Так было ў літаратуры і мастацтве спакон веку: вялікія да вялікіх ставіліся заўсёды раўніва. А чытачам, і асабліва чытачам-патрыётам, ад гэтага было заўсёды балюча.

Адна з самых жывучых і ходкіх легенд, якую можна пачуць сям-там яшчэ і сёння, — гэта легенда пра Ясеніна як пра паэта-самародка, паэта, што пяе проста і бяздумна, як салавей, паэта, далёкага ад усякіх навук, тэорый, філасофій, кніжнай культуры ўвогуле, паэта без апоры на грунт сусветнай цывілізацыі, на плён эстэтычнага развіцця чалавецтва. Легенда наколькі ходкая, настолькі і недарэчная, відаць, прыдуманая «лянівымі і недапытлівымі» сабе ў апраўданне. Ясенін — адна з вяршынных з'яў рускай духоўнай культуры, айчыннай мастацкай думкі. Яго ідэйна-філасофская падкаванасць і ўзброенасць былі абсалютна на ўзроўні часу. Яго канцэпцыя чалавека, яго разуменне такіх праблем, як чалавек і прырода, чалавек і гісторыя, чалавек і Радзіма, нарэшце, чалавек і паэзія, — мала сказаць не простыя: яны вельмі глыбокія і складаныя, павярхоўным наскокам іх не ўхопіш. Зрэшты, усё натуральна: не можа ж вялікі паэт быць плоскім і прымітыўным у сваім спасціжэнні жыцця, чалавека, часу.

У свой час за ім доўга трымалася слава «апошняга паэта вёскі», песняра «бярозавага паркалю» і «драўлянай Расіі». Сёння зусім відочна, што гэтым яго творчае аблічча моцна звужалася. Ясенін — не вясковы паэт, пры ўсім тым, што ён так многа абавязаны вёсцы. Ясенін — рускі нацыянальны паэт, вялікі

рускі паэт. Але справа ў тым, што для Расіі, яе гістарычнага лёсу вёска значыла і значыць надта-надта многа. Гэтак жа, як і для нас, беларусаў. Ясенін, будучы геніяльным паэтам, адчуваў гэта, гэта жыло ў яго калі не ў свядомасці, дык у падсвядомасці. Яго ўвага да вёскі, да селяніна-хлебароба, да яго душы і лёсу, да духоўных і маральных набыткаў вёскі — гэта нам яго і ўрок, і наказ-запавет. У яго гэты клопат быў надзвычай сур’ёзны, і час пацвердзіў, што гэта сапраўды клопат надзвычай сур’ёзны. І што з усім тым, што дала вёска нацыянальнай культуры, маральнасці народа, абыходзіцца трэба ў вышэйшай ступені асцярожна, беражліва, пашаноўна.

Дарэчы, гэтай сутнаснай якасцю яго паэзіі ў значнай меры тлумачыцца факт, чаму мы сёння так да яе цягнемся, чаму яна і сёння так чытаецца. Расце наша настальгія па сувязі з зямлёй, расце адчуванне, што ў звычаях і традыцыях, народжаных працай земляроба, шмат прыгожага, здаровага, расце ўсведамленне, што зямля і праца на зямлі — аснова асноў народнага жыцця-быцця. Разам з усім гэтым расце і наша прыхільнасць да яго паэзіі. І яшчэ адна немалаважная акалічнасць. Пры ўсёй віхурнасці, няўрымслівасці і нават буянстве, праз якія прайшла яго ліра, вядучы пачатак яго душы, яго паэтычнага характару — гармонія, мір, супакаенне, суладдзе. На гэты пачатак, паколькі ён вельмі моцны і ў кожным з нас, мы і адгукаемся душою. Пасля страшных душэўных бур і стрэсаў нам так хочацца ў свет яго высокай чысціні, супакою і гармоніі, у свет яго любові да жанчыны-маці і каханай, у свет чароўнай рускай прыроды, так хочацца разам з ім патужыць па хуткаплынным і падумаць пра вечнае, хаця, можа быць, мы не заўсёды сабе і прызнаёмся ў гэтым.

Ясенін і Беларусь, дакладней — Ясенін і беларуская паэзія, — гэта тэма заслугоўвае асобнага вялікага даследавання. І яно, несумненна, паявіцца. Справа ў тым, што па магутнасці і маштабах уплыву і ўздзеяння на беларускую паэзію ніхто з рускіх паэтаў XX стагоддзя побач з ім стаць не можа. Голас Ясеніна, яго матывы і вобразы, інтанацыі і настроі мы знаходзім амаль у кожнага маладога беларускага паэта 20-х гадоў. І зусім невыпадкова, што ў абарону імя і творчасці паэта ад безагляднай раз’юшанай траўлі, якая ўсчалася пасля яго смерці, выступіла група беларускіх паэтаў-маладнякоўцаў (Глебка, Лужанін, Дарожны, Бобрык, Туміловіч). У газету «Комсомольская правда» ў верасні 1926 года яны напісалі: «Нашто пляміць імя паэта спрытна замаскаваным паклёпам, ні ў якім выпадку ім не заслужаным?.. Можа быць, Ясенін нават праз меру горача

адносіўся да сваёй Русі, але іначай ён не быў бы нацыянальным паэтам. Ён прынёс новае, ён сапраўдны мастак, трэба толькі добрай крытыцы падрыхтаваць як след чытача да вывучэння Ясеніна, а не нападаць як папала, брэшучы на розныя галасы. Далёкія нацыянальнасці СССР выкажуцца пра Ясеніна, таму што ён вялікі паэт і мастак…» Бясспрэчна, і гэта разуменне велічы Ясеніна і абарона яго імя робіць гонар 17–20-гадовым беларускім хлопцам. Пазней, у наступныя дзесяцігоддзі, «праз Ясеніна» праходзілі і праходзяць у нас — многія, многія, многія. Адна з несумненных прычын гэтага — зямное і вясковае паходжанне яго творчасці, невыкаранімы, несмяротны дух і водар зямлі, што заўсёды было вызначальным і для беларускай паэзіі. Гэтаксама як і блізкасць да народна-фальклорных вытокаў, як і вернасць стыхіі жывой народнай мовы, як і дэмакратызм, даступнасць і гранічная шчырасць верша, як і многае іншае, што родніць з ім нашу паэзію.

Рэдкай высакароднасцю душы і дасканаласцю мастацкага густу Ясеніна тлумачыцца тое, што нават у самых шчырых, гранічна даверлівых, інтымных яго споведзях няма і ценю пошласці. Мы слухаем прызнанні такой ступені адкрытасці, шчырасці, на якую да Ясеніна не падымаўся, бадай, ніхто, — і, аднак жа, нас нічога ў гэтых яго прызнаннях, у гэтых яго споведзях не бянтэжыць, — наадварот, застаецца ў душы пачуццё невыказнай удзячнасці за такі незвычайны давер, за тое, што, адкрываючы насцеж сваю душу, ён дапамагае нам спасцігнуць, зразумець саміх сябе. Надзвычайная мужнасць споведзі — так хочацца называць гэту галоўную, вызначальную якасць яго лірыкі.

Ясенін павярнуў і паварочвае да паэзіі мільёны тых, што маглі б прайсці міма яе. Далучае іх да паэзіі самым непасрэдным чынам. Ён адкрывае для іх яе чароўную сілу і тым самым даводзіць да ўсведамлення, што ёсць такое прызванне — паэзія, ёсць такі талент — паэтычны, ёсць такія людзі — паэты… Ён папрацаваў і працуе на ўздым аўтарытэту паэзіі ў народзе як, бадай, ніхто іншы з яго сучаснікаў і наступнікаў. Яго творчасць найкрасамоўна пацвярджае і даказвае, што паэзія людзям патрэбна гэтак жа, як хлеб і вада, што ў жыцці без яе не абысціся, што паэтычнае слова валодае незвычайнай магічнай сілай, здольнай ачышчаць, узвышаць, пераўтвараць душу чалавека.

У самім феномене паэзіі загадак, сакрэтаў і таямніц было і застаецца шмат. У паэзіі Ясеніна — асабліва. Загадкай у значнай меры застаецца сама прырода яго мастацкага таленту, яго

паэтычнага бачання, структура, карані і вытокі яго паэтычнага вобраза. Зрэшты, у гэтым таксама асобая заслуга Ясеніна перад паэзіяй: наблізіўшы яе да сэрцаў мільёнаў, ён разам з тым — як гэта ні парадаксальна — зрабіў яе для іх больш таямнічай, больш загадкавай. Дзякуючы Ясеніну, паэзія стала для іх яшчэ большым цудам, які да канца ніколі не спасцігнуць і не растлумачыць, — цудам, ад сустрэчы з якім чалавек робіцца здольным заплакаць самымі шчырымі слязьмі невыказнага пачуцця радасці і шчасця, смутку і болю, чалавек праходзіць праз яе магічныя чары, праз узрушэнне і ачышчэнне — і яму гэтага дастаткова.

Душа Ясеніна, паэтычны свет Ясеніна, талент і ліра Ясеніна… Колькі пра іх сказана і напісана за сем дзесяткаў гадоў, колькі гаворыцца і пішацца сёння! Дзівосны, неспасціжна дзівосны феномен у гісторыі рускай паэзіі XX стагоддзя. Усякія ведала яна прыклады папулярнасці паэта, небывалай цікавасці і попыту на паэтычнае слова, — але такой, як яго, ясенінская, папулярнасць — такога маштабу і такой працягласці ў часе — бадай што пасля Пушкіна і Някрасава не знала ніколі. Напомнім вядомае: вершы Ясеніна і да гэтага часу перапісваюцца ў сшыткі і завучваюцца на памяць, можна сказаць, усенародна. Такая папулярнасць — гэта ўжо не папулярнасць: у яе ёсць азначэнне больш справядлівае і абсалютна дакладнае, — гэта любоў: вялікая ўсенародная любоў. Усенародная — у самым праўдзівым сэнсе слова, без выключэння, без агаворак наконт якіх-небудзь узроставых, сацыяльных або культурных сфер. Такой любоўю — што не ўбывае, не ўгасае, не слабее з гадамі і дзесяцігоддзямі — акружаны ў вечна жывым сэрцы народа нямногія: толькі самыя вялікія. Таму што ў народа — свае, выпрацаваныя ў вяках густам і сумленнем мільёнаў, крытэрыі, свае, у найвышэйшай ступені дасканалыя і справядлівыя меркі. Таму што народ у сваіх паэтах — не памыляецца.

*1985*

## ВЯЛІКІ НАРОДНЫ ПАЭТ

У прадмове да апошняга, шасцітомнага Збору твораў А. Твардоўскага Канстанцін Сіманаў піша: «І я думаю, што мы маем права ўжо сёння назваць гэтага… чалавека вялікім паэтам — настолькі неаспрэчныя маштабы зробленага ім і маштабы яго ўплыву на шматмільённага чытача, гэта значыць — у канечным выніку — на духоўнае жыццё грамадства». І далей

зазначае, што ўжо апублікаванне паэмы «Краіна Муравія» «стала пачаткам усё больш шырокага ўсведамлення таго, немалаважнага для нашай літаратуры факта, што ў ёй паявіўся паэт, які абяцае стаць сапраўды народным».

Так, сёння можна ўжо на ўвесь голас гаварыць тое, што мільёнам сумленных чытачоў было зразумела і пры жыцці паэта: ён — сапраўды вялікі і сапраўды народны. І, мераючы самай высокай меркай, у рускай савецкай паэзіі апошняга паўстагоддзя побач з Твардоўскім паставіць няма каго.

Немагчыма назваць другога сучаснага яму паэта, хто б гэтак глыбока і верна, як ён, адчуваў і разумеў рускі народны характар, усё лепшае ў гэтым характары, самае істотнае, вызначальнае, самае трывалае, непадлеглае эрозіі часу, хто б гэтак ясна бачыў хараство і багацце душы народа, высокасць і чысціню народнай маралі, у каго б было такое веданне народнага жыцця-быцця, народнага побыту, культуры, традыцый, звычаяў, фальклору, мовы. У Твардоўскага было незвычайнае чуццё на людзей з народа, людзей працы, якіх ён больш за ўсё паважаў і цаніў, з якімі любіў сустракацца і гутарыць і чый суд быў для яго і самы высокі, і самы справядлівы. Усе, без выключэння, яго героі, што ўвайшлі ў свядомасць, у памяць, у жыццё мільёнаў чытачоў як рэальныя жывыя асобы, — і Мікіта Маргунок, і Васіль Цёркін, і Ганна Сіўцова, і цётка Дар’я, і многія іншыя, — усё гэта яны, людзі мазольнай працы, на якіх трымаецца жыццё, лад, свет, гэта ў поўным сэнсе слова — народ, неад’емнай часцінкай якога быў і сам паэт.

Немагчыма назваць каго-небудзь іншага з сучаснікаў — пабрацімаў Твардоўскага, хто быў бы ў сваёй творчасці так цесна зніταваны з народам і яго лёсам, хто б гэтак блізка браў да сэрца трывогі і клопаты, боль і радасць людзей і хто быў бы такі паслядоўны ў гэтай сваёй вернасці народу і яго жыццёвым прынцыпам, яго маралі, яго этычным і эстэтычным ідэалам: ніякага адхілення ўбок, у дробнае, у другараднае, у позу і самалюбаванне, у літаратурныя забаўкі і хітрыкі, у тое, пра што можна было б сказаць «гэта — ад лукавага»!

Немагчыма назваць сучаснага яму ў рускай паэзіі майстра слова, у творчасці якога быў бы ў гэтакай ступені арганічны лад і склад народнай гаворкі, вуснай, жывой, гутарковай мовы, у каго было б такое багацце інтанацый і рытмаў, такая гнуткасць і натуральнасць радка, фразы, у каго б было гэтулькі сапраўды народнага гумару — змястоўнага, трапнага, дасціпнага, нязмушанага, іскрыстага смеху. Бунін, прачытаўшы — «з рэдкім

задавальненнем» — «Васіля Цёркіна», напісаў: «…Я ўвесь у захапленні ад яго таленту — гэта сапраўды рэдкая кніга: якая свабода, якая цудоўная ўдаласць, якая трапнасць, дакладнасць ва ўсім і якая незвычайная народная, салдацкая мова — ні сучка, ні задзірынкі, ні аднаго фальшывага, гатовага, гэта значыць літаратурна пошлага слова!» Мы часта, нават дзе і не трэба, карыстаемся ў ацэнках твораў выразам «высокая прастата». Да творчасці Твардоўскага гэтая характарыстыка падыходзіць найлепш. А дасягалася ім яна, гэтая прастата, гэтак жа, як і Пушкіным, як і Талстым — у дзесятым або нават у дваццатым варыянце, пасля дзесяткаў і нават соцень паправак, пасля катаржнай, хаця і радаснай, працы…

Скажам, пасля ўсяго сказанага, і астатняе: не было на працягу 40–70-х гадоў ва ўсёй савецкай літаратуры паэта, чыя б прысутнасць у духоўным жыцці грамадства была настолькі адчувальнай, чый творчы і грамадзянскі аўтарытэт быў бы гэтакім высокім, да чыйго голасу гэтак бы прыслухоўваліся паэты-сучаснікі, чыім судом, чыім словам гэтак бы даражылі. Не дзіўна, што рэдагаваны ім часопіс «Новый мир» стаў трыбунай небывалага грамадскага рэзанансу, а «твардоўскі» перыяд яго існавання ўвайшоў у гісторыю савецкай журналістыкі як адна з яе самых яркіх і слаўных старонак.

Вялікі рускі паэт. Вялікі паэт савецкі. Паэт усенароднага прызнання. Нам, яго беларускім чытачам, радасна ўсведамляць, што да яго творчага лёсу Беларусь мае самае непасрэднае дачыненне, што многае ў творчым абліччы паэта, у тым, што складае яго адметнасць, тлумачыцца яго беларускім паходжаннем. Можам і ганарыцца, як то кажуць! І чаму б сягоння не нагадаць самім сабе пра гэта?

Сваё першае выбранае (1947) Твардоўскі адкрыў аўтабіяграфіяй «О себе», якая пачынаецца наступным абзацам: «Мова, на якой я гаварыў у дзяцінстве, была блізкая да беларускай. Гэта тлумачылася не толькі блізкасцю этнаграфічнай мяжы, але і тым, што продкі мае былі родам з Мінскай губерні. Пасля, пазнаёміўшыся з узорамі беларускай літаратуры і фальклору і пачуўшы жывую гаворку Беларусі, я адчуў іх як нешта роднае мне. Сляды гэтай моўнай стыхіі няцяжка адкрыць ва ўсім, што напісана мной у вершах і прозе».

Сляды гэтай моўнай стыхіі… Ну, так, яны кідаюцца ў вочы нават пры павярхоўным азнаямленні з творчасцю паэта, асабліва — даваеннай і ваеннай пары. На пагляд непраніклівы, павярхоўны — яны праступаюць перш за ўсё ў лексіцы.

Сапраўды, беларускіх слоў у Твардоўскага вельмі многа: скібка, кужаль, посуд, ляды, сажалка, мітусіцца, галлё, кафля, кассё, жыллё, грунт, буйны (у значэнні — вялікі) і інш. Але калі б справа датычыла толькі лексікі, то пра «сляды моўнай стыхіі», мабыць, не было б патрэбы і гаварыць. Вунь і ў Распуціна трапляюцца беларускія словы — ад аселых у Сібіры перасяленцаў-беларусаў, і ў Астаф'ева, і ў многіх іншых сучасных рускіх паэтаў і пісьменнікаў. Але ні пра кога з іх не скажаш, што ў іх творах чуецца беларускамоўная стыхія. Як русізмы ў Коласа ці паланізмы ў Купалы ні ў якой меры не перайначваюць беларускую прыроду іх мовы, яе дух, яе гучанне.

На ўрачыстым вечары, прысвечаным 100-годдзю Янкі Купалы, які адбыўся ў Маскве ў Вялікім тэатры, народны паэт Татарыі Сібгат Хакім сказаў (цытую па памяці): «Не ведаю, чаму, але ў мяне заўсёды, яшчэ з маладых гадоў, было адчуванне і ўражанне, што Твардоўскі — паэт беларускі…» Вельмі цікавае прызнанне, ці не праўда? Прызнанне чытача «збоку» — які вывучаў рускую мову па кнігах, па творах рускіх пісьменнікаў. Для такога адчування і ўспрымання пранікліваму чытачу Сібгату Хакіму асобных беларускіх слоў — як бы многа іх ні было ў Твардоўскага — не хапіла б. Таму што не адметнасць лексікі перш за ўсё робіць пагоду: у лексіцы славянскіх народаў агульных слоў тысячы. Пагоду робіць сінтаксіс. Будова сказа. Цячэнне слоў. Музыка фразы. Тое, у чым дух мовы. Яе глыбінная сутнасць. Яе мысліцельная прырода. Тое, што ў генах і перадаецца з генамі. Тое, што сам паэт адчуў «як нешта мне роднае». Не можа быць сумнення, што ў гэта «нешта» ўваходзяць і асаблівасці светабачання і светаўспрымання, адметнасць погляду на жыццё і на людзей, і непаўторны характар гумару, смеху (а гэта вельмі істотны кампанент у тым, што мы называем «душой народа» — г. зн. у псіхічным складзе нацыі. Заўважым, як у гэтым сэнсе адрозніваецца Твардоўскі ад усіх рускіх паэтаў — і папярэднікаў, і сучаснікаў, яго стыль, яго почырк — ад іх стылю і почырку).

Радкі з нарыса Твардоўскага «Лявоніха», напісанага ў 1944 годзе, пацвярджаюць сказанае. «Ах, «Лявоніха»! Упершыню я пачуў твой слаўны, зухавата-гарэзлівы і разам тужліва-пяшчотны лад даўно-даўно, не толькі да вайны, задоўга да юнацтва, у дзяцінстве, недзе ў родных мясцінах, куды яго выпадкам занесла, можа быць, з якім-небудзь кірмашовым музыкам. *І,* бадай, ён і тады ўжо штосьці напамінаў мне, нібыта ён увайшоў у маю душу невядомым шляхам яшчэ раней» (падкрэслена мною. — *Н. Г.*). Бясспрэчна, — яшчэ раней. З на-

раджэння ўвайшоў. Ад беларусаў-бацькоў, ад беларускіх дзядоў і прадзедаў перадаўся.

Таму і цягнуўся ён праз усё жыццё душою да беларусаў, да беларускай літаратуры, да беларускіх пісьменнікаў. Успамінаючы гады вучобы ў Маскоўскім інстытуце філасофіі, літаратуры і гісторыі, паэт Леў Озераў піша, што заўсёды бачыў Твардоўскага ў кампаніі Алеся Жаўрука, Андрэя Ушакова і іншых студэнтаў з Беларусі: «Яны пастаянна гаварылі аб беларускіх справах… Гэта было своеасаблівае беларускае зямляцтва ў інстытуце». І далей: «Ён, высокі, стройны, з непаспешліва-раздумлівай паходкай, неназойлівы, горды, засяроджаны, са сваёй пастаяннай думай — выглядзеў ужо і ў тую пару важаком, гэтакім Кастусём Каліноўскім, сярод студэнтаў-іфлійцаў».

Ён да канца дзён сваіх моцна сябраваў з Куляшовым, неаднойчы і вельмі пахвальна пісаў аб яго паэзіі. З глыбокай пашанай ставіўся ён да Купалы і Коласа. Чытаючы на памяць па-беларуску вершы Купалы, з захапленнем усклікваў: «Ах, гэта быў вялікі стары, зусім няпросты стары!..» Па сведчанні А. Кандратовіча, Твардоўскі гаварыў: «Беларусы варты добразычлівай увагі, у тым ліку і празаікі. Пра паэтаў я ўжо не кажу, паэты ў іх першага класа». Ён быў рэдактарам першай анталогіі беларускай паэзіі на рускай мове і шмат душэўнага старання прыклаў, каб яна выйшла. А як ён любіў і ведаў беларускія народныя песні! Як натхнёна і хораша спяваў іх у сяброўскіх застоллях! «Перапёлачка», «А ў полі вярба», «Ой у полі ружа расцвіла», «А ў лузе касец косіць», «Лятуць, лятуць белы лебедзі цераз сад», «Хопіць піць, хопіць піць», «Бывайце здаровы»…— толькі частка з тых, што, па сведчанні яго сяброў і блізкіх, родных, былі яго любімымі. Некаторыя з іх, як вядома, паэт выкарыстаў у сваіх творах.

Нядаўна я перачытаў нарысы і нататкі А. Твардоўскага пра Беларусь і беларускі народ, пра нашу літаратуру, паэзію, песні. Вось некалькі радкоў з далёкага ліпеня 1944 года: «Адна гэта песня, якую балюча было пачуць у дні, калі ўся беларуская зямля ляжала за лініяй фронту, адна гэта простая, задушэўная і жартоўна-ласкавая песня — лепшае сведчанне прыгажосці зямлі і народа, які насяляе яе, народа са шчодрым, шчырым і вясёлым сэрцам». І яшчэ — там жа: «Прыйдзе час, горад ажыве, адбудуецца і ўстане, як і ўся Беларусь, у сваёй своеасаблівай красе, панявечанай, але не ўмярцвёнай. Нельга ў народа адняць яго творчы дар, яго невычэрпную стваральную сілу ў мірнай працы, яго непахіснасць у суровай барацьбе, яго здольнасць у

любых выпрабаваннях выяўляць па-свойму сваю неўміручую душу». Мала хто нават з саміх беларусаў так пранікнёна, з такім шчымлівым — да слёз — пачуццём пісаў пра наш родны край і яго людзей. І чым жа перш за ўсё гэта можна растлумачыць, як не яго падсвядомым адчуваннем сваёй kroўнай роднасці з гэтай зямлёй і яе народам?

Народ «шчодрага, шчырага і вясёлага сэрца» адчуў глыбокую пашану і гарачую любоў паэта і плоціць яму, яго памяці — чым далей, тым больш — удзячнасцю. Плоціць сваёй пашанай і любоўю. Ён — у сэрцы народа. Гэтак жа, як Пушкін, як Лермантаў, як Някрасаў. Гэтак жа, як Блок, як Ясенін. Вялікіх нават і ў вялікай рускай паэзіі — нямнога. Ён — адзін з іх, сапраўды вялікі і сапраўды народны.

*1985*

## СУМЛЕННАСЦЬ І МУЖНАСЦЬ ВОЛАТА

Перачытаў многія творы Івана Франка — і зноў, і зноў вяртаюся ў думках да яго імя, да яго асобы, да яго лёсу. І разумею чаму: ад пачуцця нейкай крыўды і нейкага пратэсту, народжанага ўсведамленнем, што гісторыя абышлася з «вялікім каменяром» несправядліва, што і да гэтага часу ён не адкрыты для ўсяго чытацкага свету ва ўсёй сваёй гіганцкай велічы.

У мяне няма ні кроплі сумнення, што Іван Франко — адна з найбуйнейшых постацей у гісторыі нацыянальнага адраджэння славянскіх народаў, у гісторыі літаратуры, культуры і грамадскай думкі славянства. Дый хіба толькі славянства? Такімі волатамі чалавечага духу можа пахваліцца далёка не кожная краіна Еўропы, Амерыкі, Азіі.

Грандыёзнасць створанага шматгранным талентам Івана Франка ўражвае надзвычайна. Ён пакінуў свайму народу і ўсяму чалавецтву пяцьдзесят тамоў твораў. Пяцьдзесят тамоў, у якіх мы не знойдзем, бадай, і адной старонкі баласту, не знойдзем нічога, што сёння было б чытаць нецікава, што не валодала б каштоўнасцю.

Пра Івана Франка можна безагаворачна сцвярджаць, што як творчая асоба ён быў вялікі ва ўсім. Перш за ўсё, вядома, быў вялікі яго мастацкі дар паэта, празаіка, драматурга. Роўнавялікі гэтаму дару быў яго талент публіцыста, мысліцеля, вучонага-гуманітарыя.

Ён быў вялікі і ў сваёй тытанічнай працавітасці: яго неаглядна-разнастайная творчая дзейнасць амаль незразумелым чынам спалучалася са штодзённай работай выдаўца, рэдактара, карэктара, не кажучы пра актыўны ўдзел у жыцці грамадска-палітычных арганізацый.

Ён быў вялікі ў сваёй празе пазнання жыцця і свету, мінулага і сучаснага стану чалавечай цывілізацыі. Літаратура, мастацтва, гісторыя, філасофія і Захаду, і Усходу былі ім засвоены з энцыклапедычнай паўнатой. Больш таго, у айчыннай літаратуры ён быў адным з першых мастакоў слова, хто яшчэ на мяжы 70–80-х гадоў не толькі зразумеў, але і стаў палымяным прапагандыстам ідэй сацыялізму, перакладаў на родную мову творы Маркса і Энгельса, хаця і не ўсё прымаў у іх рэвалюцыйным вучэнні. Яго публіцыстычныя і навуковыя працы аб нацыянальнай культуры, аб народным тэатры, аб фальклоры і мове ўражваюць глыбінёй зместу, разуменнем праблем і задач на ўзроўні поглядаў, якія і сёння ніяк не палічыш устарэлымі.

Ён быў вялікі ў патрабавальнасці да сябе. Яшчэ ў няпоўныя васемнаццаць гадоў у пісьме да аднаго з таварышаў ён пісаў: «Я патрабую ад Вас рэзкай і падрабязнай крытыкі ўсяго, што будзе мною напісана…» (Заўважым у дужках: нам бы сёння такіх самакрытычных адносін да сваіх пісанняў!) Ён быў вялікі ў сваёй чалавечай прастаце і сціпласці, але таксама і ў праведным гневе сваім, калі трэба было даць адпор ганьбавальнікам яго годнасці і гонару. Улічым пры гэтым, што забойчая іронія і сарказм былі яму ў вышэйшай ступені падуладныя. Успомнім, як ён адказаў прадстаўніку дэкадэнцкай буржуазнай моладзі, які высакамерна заявіў аб нібыта перабольшаным значэнні творчасці Франка ў духоўным жыцці народа:

Праўда, сынку, я не геній…
Быў бы геній — дык ураз
Ад істэрый, неўрастэній
Словам вылечыў бы вас…
…………………………….
Душы вывернуў бы я вам.
Я б вам выраўняў хрыбты,
З вас мужоў зрабіў бы — нават
З малпаў гэтакіх, як ты!*

* Вершы тут і далей падаюцца ў перакладзе аўтара эсэ.

Ён быў вялікі ў сваёй нянавісці да прыгнятальнікаў людзей працы — да тых, хто зневажаў і таптаў іх чалавечую годнасць, як роўна і да тых, хто насаджаў у народзе пакорлівасць, хлусню і невуцтва — да царкоўнікаў-клерыкалаў. Але і нянавісць ворагаў народа да яго таксама была і невымернай і страшнай. Яго біяграфію чытаць цяжка і балюча, — зрэшты, як і многіх іншых вялікіх яго пабрацімцаў. Колькі ён зведаў бядоты, праз якія мукі і пакуты прайшоў — тройчы асуджаны — у турмах, колькі перажыў прыніжэнняў і зняваг, нападак і даносаў! Здаецца, усё жыццё толькі адно і чуў: «Адхіліць! Не дапусціць! Звольніць! Задушыць!» Задушыць разам з яго часопісам! Зрабіць так, каб ён сам задушыўся ад крыўды і роспачы. Адно жорсткае ганенне змянялася яшчэ больш жорсткім другім. Як сведчыць біёграф, у час выбараў у парламент ворагі народа і паэта «збівалі і расстрэльвалі сялян, толькі б не дапусціць выбрання Франка, якога народ хацеў бачыць сваім дэпутатам».

Ён быў страшны не толькі для ўлад Аўстра-Венгрыі — дзяржавы, падданым якой з'яўляўся. Ён быў страшны і для ўлад царскай Расіі. І царская паліцыя прасіла аўстрыйскую — прыцягнуць яго да адказнасці. Нават з папрокам: куды вы, маўляў, гледзіце і чаму церпіце?! Як ні парадаксальна, але самую дакладную ацэнку творчасці Франка далі не тагачасныя крытыкі, а царскія цэнзары. Яны, аддадзім ім належнае, дробяззю не цікавіліся, яны ўнікалі ў сутнасць, спасцігалі галоўнае і судзілі па самым вялікім рахунку. Так, кіеўскі цэнзар Драздоў пісаў: ён, гэта значыць Франко, «запрашае іх», гэта значыць працоўных, «уступіць у барацьбу са сваімі прыгнятальнікамі… і выступае ярым абаронцам асоб, што імкнуцца шляхам гвалтоўнага перавароту змяніць існуючы грамадскі лад». Так, рэвалюцыйны дух яго творчасці царскія апрычнікі адчувалі беспамылкова.

Дадам да сказанага, што ганенні і цкаванні з боку аўстрыйскіх «дзяржыморд» і царскіх шпікоў, — гэта было далёка не ўсё, што гняло і драпежыла душу паэта. Не менш заўзята стараліся зрабіць яго жыццё горкім, а яшчэ лепш — невыносным, польскія шавіністы. Самі паднявольныя, яны тым не менш глядзелі звысоку на дзеячаў украінскай культуры і колькі змогі — перашкаджалі развіццю нацыянальнага ўкраінскага адраджэння на Галіччыне. А да ўсяго гэтага — нападкі «сваіх»: вузкалобыя нацыяналісты кідаюць яму абвінавачанне ў празмернай любові да рускай літаратуры, у недастатковасці ў ім украінскага патрыятызму. Падумаць толькі: Франко — слабы патрыёт сваёй Бацькаўшчыны!.. Адным словам — нянавісць з усіх бакоў,

адусюль. І не пра біблейскага прарока Майсея яго аднайменная выдатная паэма, а пра сябе, пра свае крыўды і душэўныя мукі нечуваныя:

Сорак год, як каваль, я кляпаў
Сэрцы іх і сумленне
І дайшоў да таго, што пайшоў
Ад іх кпін і камення.
.........................
Меў жаданне — братам памагчы
І іх слёзы абцерці, —
Вось той грэх, за які я стаў варт
І выгнання, і смерці.

Якімі жорсткімі і злоснымі ні былі на Франка ганенні, зламаць яго дух яны не змаглі, і збіць яго з абранага шляху не ўдалося — нават аб'яднанымі сіламі аўстра-венгерскай рэакцыі, тайнай царскай паліцыі, апантаных у сваёй нянавісці да яго польскіх шавіністаў, усіх масцей клерыкалаў і сваіх дамарошчаных дэкадэнтаў. Таму што вялікім быў не толькі яго талент, але вялікай была і яго мужнасць. Таму што ён быў у сапраўдным сэнсе слова змагар і ваяўнік. Таму што вернасць свайму народу была для яго даражэйшай за жыццё. Што значыць нянавісць ворагаў — супроць той любові, якая перапаўняла яго сэрца, свяціла яму, вяла яго! І супроць любові народа да яго, якая прыдавала яму сілы!

Палымяны патрыёт Украіны, роднай мовы і культуры, ён быў і палымяным інтэрнацыяналістам, які жыў ідэяй брацтва свабодных і раўнапраўных народаў. І ў гэтых адносінах ён быў верным паслядоўнікам свайго найпершага настаўніка — Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі. Яго павага да нацыянальнай самабытнасці іншых народаў, яго любоў да літаратуры і мастацтва іншых краін, асабліва ж да вялікай рускай літаратуры, поўныя нейкай асаблівай, што ідзе з глыбіні душы, высакароднасці, яны выклікаюць у душы ўдзячных чытачоў такое ж высокае ўзаемнае пачуццё.

Украіна канца XIX стагоддзя павінна была нарадзіць такога генія, таму што гэта быў яе гістарычны час. Ён прыйшоў у нацыянальную літаратуру і культуру іменна тады, калі больш за ўсё быў патрэбен. Яго творчасць магла ўзысці толькі на глебе магутнага рэвалюцыйна-дэмакратычнага і нацыянальна-вызваленчага руху. Сам ход гісторыі распарадзіўся, каб Украіна сказала ўсяму

свету сваё слова — вуснамі сына, які глыбей за ўсіх іншых пранікся яе болем і лепш за ўсіх іншых пачуў яе голас. Гэта яна патрабавала ад яго: бачыш — як уваскрасаюць да гістарычнага жыцця братнія славянскія народы? Бачыш, якія асілкі-волаты для такога ўваскрасення патрэбны? І ён зразумеў: гісторыя дае шанц, які нельга ўпусціць, — нашчадкі не даруюць. І ён мабілізаваў усе свае сілы на тое, каб дапамагчы свайму народу ўсвядоміць сябе, свой гістарычны лёс і становішча. І не было пытання ў тагачаснай гістарычнай сітуацыі яго народа, якое б ён не рашаў з усёй самаадданасцю. І не было, бадай, у літаратуры жанру, у якім бы ён сябе моцна і ярка не выявіў, і не было ў навуцы аб літаратуры прадмета, якім бы ён не займаўся ўсур'ёз. Энцыклапедыст па ведах і рэвалюцыянер па духу — не частае спалучэнне; у яго імені яно ўвасоблена найлепшым чынам.

Усе яго творы, здаецца, сатканы з болю народнага, з пачуццяў крыўды, пратэсту, гневу. Невыпадкова з безлічы мудрых народных прыказак яму асабліва дапала вось гэта: «Пажэнімся, будзем памагаць адно аднаму з голаду паміраць». Яго вершы і паэмы, апавяданні і аповесці — не для супакаення, не для ўцехі і радасці, і калі хто чакае ад літаратуры іменна гэтага — таму чытаць Франка няма сэнсу. Таму, хто баіцца і не жадае бачыць усю неўладкаванасць свету, усю недасканаласць арганізацыі чалавечага агульнажыцця на зямлі. У яго творах усё — для бунту, для абвастрэння думкі і пачуцця, для яшчэ большага ўспалымнення або любові, або нянавісці. Яго чытачы — тыя, што гатовы падзяліць боль і мукі паэта, — боль і мукі за няшчасных і абяздоленых, і што гатовы прайсці праз агонь-полымя яго любові і яго нянавісці…

Вялікі мастак-рэаліст, вялікі будзіцель і асветнік украінскага народа, ён у той жа час аказаў велізарны ўплыў на рост нацыянальнай самасвядомасці другіх, асабліва суседніх, народаў. Калі спрабуеш акінуць адным паглядам усю яго дзейнасць і ўсё створанае ім на ніве чалавечай культуры, — становіцца зусім відочна, што ў больш чым стогадовай гісторыі нацыянальнага адраджэння славянскіх народаў гіганцкая постаць Івана Франка з'яўляецца адной з самых выдатных, побач з якою могуць стаць зусім нямногія.

Беларускім чытачам імя вялікага Каменяра вядома даўно — яшчэ з дакастрычніцкіх гадоў. Не адчуваю, аднак, жадання падладжвацца пад агульнапрынятае ў нас для юбілейнай сітуацыі правіла — незалежна ад рэальнага стану рэчаў громагалосна і ўрачыста абвяшчаць: «Яго творчасць у нас у рэспубліцы

паўсюдна чытаюць, усенародна шануюць і любяць!» Перад вачыма стаяць тры-чатыры больш чым сціплыя кніжыцы яго твораў у перакладзе на беларускую, апошняя з якіх выдадзена амаль трыццаць гадоў назад, — яны і не дазваляюць мне зрабіць такую гучную святочную заяву. Паважаны чытач разумее, калі можна гаварыць, што іншамоўнага паэта або пісьменніка ў сваім народзе шырока чытаюць, шануюць і любяць. Але я не хацеў бы кончыць свае слова на гэтай самакрытычнай ноце, а хацеў бы сказаць, што час крута мяняе ўсе нашы справы, час наступіў такі, калі мы ўсе, думаючы і клапоцячыся пра будучыню, вымушаны больш уважліва паглядзець на духоўную спадчыну ўсіх народаў усіх папярэдніх эпох і ўзяць на ўзбраенне ўсё тое, што сёння нам вельмі і вельмі гадзіцца. Вось чаму я ўпэўнены, што шматгранная творчасць Івана Франка — аднаго з самых сумленных і мужных геніяў айчыннай літаратуры — будзе набываць чытачоў усё больш і больш, і іменна таму, што сучасныя чытачы вышэй за ўсё цэняць у пісьменніцкім таленце — сумленнасць і мужнасць.

*1987*

## ПАТРЫЯТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ — НАША НАЙВАЖНЕЙШАЯ ЗАДАЧА

*Выступленне на V з’ездзе пісьменнікаў Беларусі*

Агульнавядома, што праблема патрыятычнага выхавання моладзі — адна з самых складаных і вострых праблем часу, яна патрабуе пільнай увагі грамадскасці, патрабуе ўвесь час мабілізацыі дзейсных сродкаў і форм выхаваўчай работы, бо гаворка ідзе, як мы ўсе выдатна разумеем, пра будучыню Радзімы, пра яе заўтрашні дзень. Таму нас не можа не трывожыць, што пэўная частка моладзі жыве нездаровымі духоўнымі інтарэсамі і патрэбамі, нас не можа не трывожыць, што пошлая антымастацкая дрэнь, якая выдае безыдэйнасць і безгустоўнасць яе «творцаў», карыстаецца ў многіх маладых людзей папулярнасцю і ў нейкай меры з’яўляецца для іх мастацкім эталонам.

Што ж здарылася з нашым маладым чытачом, слухачом і гледачом? Якімі прычынамі абумоўлены такія непажаданыя з’явы? Асноўных прычын ёсць некалькі, яны рознага характару і патрабуюць спецыяльнага даследавання. Мне хацелася б спыніцца толькі на адной з іх. На мой погляд, таксама істотнай і сур’ёзнай. Я маю на ўвазе прыкметнае, відочнае аслабленне народнага пачатку ў свядомасці, у душы і сэрцы значнай часткі нашай моладзі, асабліва гарадской. Я маю на ўвазе пэўнае аслабленне і вытраўленне ў многіх маладых людзей народнай самасвядомасці, народнага светаўспрымання, народнага погляду на жыццё, на прыроду і на чалавека, народнага разумення дабра і зла, праўды і справядлівасці, народнага разумення прыгожага ў жыцці і ў мастацтве. Само сабой зразумела, калі мы гаворым пра аслабленне народнага пачатку — гэтым самым мы гаворым пра аслабленне нацыянальнага пачатку, бо народнае не мысліцца па-за нацыянальным.

У тых абставінах, якія склаліся ў нас не па віне моладзі, а па віне мужоў сталых і мнагавопытных, многія хлопцы і дзяўчаты беларускіх гарадоў і гарадскіх пасёлкаў пачалі адрывацца ад народнай, нацыянальнай глебы, пачалі траціць сувязь са здаровымі народнымі традыцыямі і ўстоямі, сувязь з нацыянальнай культурай, мастацтвам і літаратурай. Больш таго, пачалі забываць сваю родную мову, і не толькі забываць, але і пагарджаць ёю — мовай сваіх бацькоў, мовай сваёй зямлі. А мова ж ёсць душа народа, разумець і ведаць мову народа, — значыць разумець і ведаць душу народа. Адзін з самых культурных людзей і самых выдатных пісьменнікаў нашага часу, Канстанцін Паўстоўскі пісаў: «По отношению каждого человека к своему языку можно совершенно точно судить не только о его культурном уровне, но и о его гражданской ценности». І далей: «Истинная любовь к своей стране немыслима без любви к своему языку. Человек, равнодушный к родному языку, — дикарь. Он вредоносен па самой своей сути. Потому, что его безразличие к языку объясняется полнейшим безразличием к прошлому, настоящему и будущему своего народа».

Як шкада, што гэтыя словы не вывешаны на самым відным месцы ў кожнай школе нашай рэспублікі!

Што ж адбываецца? Малады чалавек адвыкае ад роднага слова, адвыкае ад роднай песні і музыкі, перастае цікавіцца гісторыяй свайго народа, яго культуры і мастацтва, і што ж урэшце застаецца ў душы гэтага чалавека? Прадстаўніком якой культуры ён становіцца? Прадстаўніком якой нацыі? Будзем шчырымі: у адных выпадках ён можа далучыцца да другой нацыянальнай культуры і ў нейкай меры прадстаўляць яе. А ў другіх выпадках? Гэтакі малады чалавек становіцца тым дзікуном, пра якога пісаў Паўстоўскі. Адарваўшыся ад роднай духоўнай і культурнай глебы, ён становіцца нярэдка ахвярай самай агіднай бездухоўнай пошасці. Гэтакі малады чалавек ужо і сам не ведае, хто ён такі і чаго ён хоча, і для яго душы ўжо можа быць усё роўна — што беларуская Прыпяць, што амерыканскі Гудзон.

Пісьменнікам, відавочна, трэба больш клапаціцца аб тым, каб іх творы выхоўвалі ў моладзі любоў да роднай зямлі, гонар за сваю Радзіму і свой народ і гонар за духоўныя здабыткі свайго народа. Мы чамусьці як бы не рашаемся гаварыць аб выхаванні пачуцця нацыянальнай годнасці. Іншы раз думаецца, што ў гэтым нас стрымлівае страх, як бы такім чынам не нашкодзіць задачы выхавання працоўных у духу інтэрнацыяналізму. Але ж агульнавядома, што інтэрнацыяналізм выхоўваецца не шляхам

атрафіравання пачуцця нацыянальнай годнасці. Любоў да роднай мовы і літаратуры не перашкаджае нам любіць і паважаць рускую мову і літаратуру, украінскую, літоўскую, латышскую — мову і літаратуру любога народа нашай шматнацыянальнай краіны. Сапраўдны інтэрнацыяналіст той, у чыім сэрцы любоўна суседнічаюць павага і пашана да культуры свайго народа з павагай і пашанай да культуры іншых народаў, але наўрад ці з'яўляецца інтэрнацыяналістам той, хто, пагардліва ставячыся да роднай культуры, стараецца ўнушыць камусьці, што паважае і шануе культуры іншых народаў.

На наш погляд, трэба звярнуць самую пільную ўвагу на гэты бок патрыятычнага выхавання. У рабоце з моладдзю канкрэтныя справы, якія б выхоўвалі любоў да роднай зямлі, да свайго народа і культуры, мы нярэдка падмяняем агульнымі размовамі аб патрыятызме. Яшчэ славуты Скарына пісаў, што «люди, игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имеють». Дык жа і трэба патрыятычнае выхаванне маладога чалавека пачынаць ад яго першых крокаў на зямлі з выхавання любові да таго кутка, дзе ён нарадзіўся, да той Бесядзі або Гайны, у якой першы раз пакупаўся, да той дубровы ці пушчы, куды першы раз хадзіў па грыбы, да той вуліцы, дзе жыве, да той школы, дзе вучыцца. Але хіба можна вучыць любові да роднага краю, не вучачы мовы гэтага краю, не вывучаючы песень, казак і легенд гэтага краю? Хіба можна палюбіць свой край і народ, не ведаючы яго шматпакутнай і гераічнай гісторыі, гісторыі яго культуры, яго мастацтва і літаратуры? Такое немагчыма.

Якія ж напрошваюцца высновы? Па-першае, трэба, відаць, у значнай меры перабудаваць выкладанне ў школах такіх прадметаў, як родная мова і літаратура, гісторыя і геаграфія. Выкладанне гэтых прадметаў павінна быць значна больш дзейсным сродкам патрыятычнага выхавання, чым гэта ёсць цяпер. Па-другое, трэба непараўнана шырэй разгарнуць у рэспубліцы краязнаўчую работу, прыцягнуўшы да яе як мага больш моладзі. Гэтая работа вядзецца ў нас і зараз, але непаўсюдна і недастаткова. Зусім відочна, што разгарненне краязнаўчай работы патрабуе свайго спецыяльнага друкаванага органа. І таму я хачу горача падтрымаць пісьмо групы дзеячаў мастацтва і літаратуры аб выданні ў рэспубліцы краязнаўчага часопіса, які стане незаменным і каштоўным дапаможнікам у справе патрыятычнага выхавання моладзі. Ён можа называцца «Наш край», або «Родныя прасторы», або яшчэ як-небудзь у гэтым плане. Такі часопіс у школе адыграў бы вельмі вялікую выхаваўчую ролю — пры ўмове, што ў школах Беларусі будуць у яго чытачы. Бо на

сённяшні дзень у нашых гарадскіх школах ужо малавата чытачоў беларускай літаратуры, беларускага друкаванага слова. І тут — хочаш не хочаш — а трэба гаварыць пра самае балючае.

Я мушу зноў гаварыць пра нашу мову, бо калі мы не будзем гаварыць аб мове — марнымі і непатрэбнымі будуць усе нашы размовы аб літаратуры. Таму што кожнаму — нават тым, што прыкідваюцца прастакамі, кожнаму ясна: лёс роднай літаратуры — гэта лёс роднай мовы, перспектыва развіцця літаратуры — гэта перспектыва існавання і развіцця мовы.

За апошнія гады мне не раз даводзілася чуць — і з высокіх і з не вельмі высокіх трыбун — нібыта некаторыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, у тым ліку і пісьменнікі, не могуць зразумець, што адбываецца аб'ектыўны і натуральны працэс збліжэння нацыянальных культур і што пратэставаць тут па меншай меры неразумна. Бачыце, усе чыста грамадзяне разумеюць, што гэта аб'ектыўны і натуральны працэс, а пісьменнікі — такія недарэкі і недацёпы, што не могуць гэтага зразумець. Ну, што на гэта можна адказаць? Крыўдна і горка слухаць такія папрокі. Я асабіста не ведаю беларускіх пісьменнікаў, якія б не разумелі аб'ектыўнага працэсу збліжэння нацыянальных культур, якія б не бачылі станоўчага сэнсу ў іх узаемаўзбагачэнні. Затое мне вядома іншае, а менавіта, што амаль усе нашы пісьменнікі, наколькі хапае ім сілы і таленту, працуюць на гэтае збліжэнне і ўзаемаўзбагачэнне, працуюць перш за ўсё як перакладчыкі твораў братніх літаратур, як арганізатары і ўдзельнікі інтэрнацыянальных вечароў, тыдняў і дэкад літаратуры. І працуюць вельмі самааддана, нават атрымліваюць урадавыя ўзнагароды з брацкіх рэспублік і краін замежжа.

Дык чаму ж пісьменнікам кідаецца гэты папрок? Ды таму, што гаворка ідзе, відавочна, пра розныя працэсы, якія не трэба зблытваць, аб'ядноўваць у адзін ці падменьваць адзін другім. Хай жыве працэс узаемнага збліжэння і ўзбагачэння нацыянальных культур! — гэта сапраўды працэс аб'ектыўны, натуральны і вельмі плённы, ён да душы кожнаму савецкаму чалавеку. Але што агульнага з гэтым працэсам мае працэс выцяснення беларускай мовы з беларускіх школ, працэс, па якому беларускія дзеці ў гарадах рэспублікі, а нават і ў многіх вёсках перасталі вывучаць родную мову? Заўважым, што гадоў 15–20 назад абавязковае вывучэнне беларускай мовы зусім не перашкаджала вывучэнню рускай мовы, і праблем уласна не было. Вось невялічкая даведка за 1964 год аб тым, якое месца займае родная мова і літаратура ў школах РСФСР і краін сацыялістычнага лагера. На тыдзень гэтаму прадмету адводзіцца гадзін:

| | V клас | VIII клас |
|---|---|---|
| РСФСР | 8 | 5 |
| Польшча | 7 | 5 |
| Чэхаславакія | 8 | 5 |
| Венгрыя | 8 | 4 |
| ГДР | 7 | 5 |

Больш чым на любы іншы прадмет адводзіцца гадзін на родную мову і літаратуру! А як жа ў школах Беларусі? У V класе — 3 гадзіны і ў VIII класе — 3 таксама. А ў пагалоўнай большасці гарадскіх школ і зусім няма такога прадмета, як родная мова. Дык скажыце, калі ласка, што гэта: аб'ектыўны і натуральны працэс? Цэлыя пакаленні вырастаюць на роднай зямлі і не ведаюць роднай мовы — гэта натуральны працэс? Ды гэта настолькі ненатуральна, што скажы дзе-небудзь у свеце — дык не павераць!

Можна ўзяць і іншыя факты. З адзінаццаці тэатраў рэспублікі толькі тры (тры!) працуюць на беларускай мове. Хіба гэта нармальнае становішча? Як жа ў такіх умовах развіваць нацыянальнае тэатральнае мастацтва, нацыянальную драматургію? Падобных фактаў, таварышы, можна прыводзіць шмат, кожны з беларускіх пісьменнікаў ведае іх не горш за мяне.

Ясна, што працэсам зблiжэння нацыянальных культур нельга апраўдваць тых упушчэнняў і памылак, у якіх трэба прызнацца і выпраўляць, пакуль не позна. Асабіста я думаю, што становішча з беларускай мовай у школах Беларусі ёсць у значнай меры вынік таго суб'ектывізму і валюнтарызму, які быў аднадушна асуджаны XXIII з'ездам КПСС. Калі валюнтарызм як метад непрыгодны ў эканамічнай і сацыяльнай палітыцы, то ён тым больш непрыгодны ў пытаннях культуры, у пытаннях мовы. Гаворачы пра зблiжэнне нацыянальных культур, звычайна гавораць — адным дыхам — і пра зблiжэнне нацыянальных моў. Прызнаюся, што я ніяк не магу ўявіць практычна гэтага зблiжэння моў. Можа б хто з мудрых растлумачыў, што гэта значыць? Як гэта будзе выглядзець? Можа быць, беларуская мова набудзе ў бліжэйшы час рускія суфіксы -ушч, -юшч, а руская мова набудзе беларускае дзеканне і цеканне? Можа, хто-небудзь сур'ёзна верыць, што такія дзівосы з нашымі мовамі могуць адбыцца? Звычайна хапаюцца за лексіку — маўляў, у беларускую мову прыходзіць шмат рускіх слоў. Але ж гэта настолькі наіўна, што і аспрэчваць не хочацца. Лексіка нічога не вызначае, яна падпарадкуецца асноўным унутраным законам мовы — фанетычным, марфалагічным, сінтаксічным. А калі мова страціць

свае асноўныя рысы, страціць свае асноўныя заканамернасці? Гэтага ніхто сказаць не можа.

Многія беларускія інтэлігенты, нават неаднойчы дыпламаваныя, з-за ўласнай нядбайнасці і абыякавасці не ведаюць дасканала ні беларускай мовы, ні рускай і карыстаюцца такім жахлівым валапюкам, што аднолькава прыкра слухаць і рускім, і беларусам. Можа, яны, грэшным чынам, лічаць, што гэты іх валапюк і ёсць вынік збліжэння розных нацыянальных моў? Калі гэта так, то ратуй, Божа, і нас, і нашых дзяцей ад такога збліжэння.

Пытанне аб мове — адно з самых складаных і тонкіх, з ім трэба абыходзіцца асцярожна, каб не наламаць дроў, тым больш што тэарэтычнай распрацоўкай гэтых праблем ніхто ў нас сур'ёзна не займаецца. Каля месяца назад у сваім дакладзе перад камуністамі ўніверсітэта П. М. Машэраў сказаў, што «у нас должно быть одинаково уважительное отношение к обоим языкам — и к русскому, и к белорусскому». Ён нават падкрэсліў двойчы гэта «одинаково уважительное». Шматпаважаны Пётр Міронавіч! Як кажуць у народзе: каб вашыя слоўцы ды Богу ў вушкі! Ну, а калі не Богу, дык хоць бы міністру асветы ды міністру культуры! Наколькі я ведаю, ніхто з беларускіх пісьменнікаў і не марыць пра іншае, як пра аднолькава пачцівыя адносіны ў нас і да беларускай, і да рускай мовы. І не трэба наводзіць цень на ясны дзень. Прыпісаць нейкую іншую пазіцыю няцяжка. Можна і ярлык павесіць, — але ж ад гэтага праблема не вырашыцца, праблема-то застанецца, і яе ўсё роўна прыйдзецца рашаць.

Калі я чытаю і перачытваю творы Янкі Брыля, Івана Мележа і іншых нашых выдатных пісьменнікаў, вершы Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Аркадзя Куляшова і іншых нашых выдатных паэтаў, плакаць хочацца ад шчасця, ад усведамлення таго, якім дзівосным скарбам мы валодаем, якая яна невычэрпна багатая, самабытная, сакавітая і мілагучная, наша родная беларуская мова! У ёй закладзена здароўя і жыццёвай сілы на многія тысячы гадоў, яна можа і павінна дарыць чалавецтву паэтычныя тварэнні, роўныя найвялікшым у свеце. Толькі трэба, каб гэта зразумела ўся беларуская інтэлігенцыя, уся грамадскасць Беларусі, а памагчы ёй зразумець гэта абавязаны мы — пісьменнікі.

Хацелася б, каб новае кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў было больш энергічным і спраўным, калі рашаюцца вельмі важныя для творчага жыцця нашай арганізацыі пытанні. Старое кіраўніцтва таксама троху варушылася, працавала і многае зрабіла, але зробленага магло б быць значна больш. Трэба смялей стукацца і дабівацца станоўчага рашэння там, дзе гэта

жыццёва неабходна. А то дзіўна бачыць, як нашых кіраўнікоў паралізуе «эдакая робость», калі трэба ісці ў родны ЦК, ці ў роднае міністэрства, ці ў родны камітэт. Калі б кіраўніцтва больш клапацілася, можа б, у нас было ўжо і выдавецтва «Савецкі пісьменнік», і былі б вырашаны пытанні тыражоў і ганарараў, і не была б у такім занядбанні справа мастацкага перакладу і, скажам, такое пытанне, як выданне літаратурна-крытычных артыкулаў М. Багдановіча. Народам сказана, што «пад ляжачы камень вада не бяжыць», а «на пахілую траўку і жук плюе». Будзем спадзявацца, што новае кіраўніцтва ўлічыць нашы добрыя пажаданні.

*Май 1966 г.*

## КАБ ЛЮДЗЬМІ МІЖ ЛЮДЗЕЙ ПАЧУВАЦЦА

Што мы пакінем у спадчыну нашчадкам — наступным пакаленням?

Як добра, што гэта пытанне стукаецца ў нашы сэрцы ўсё мацней, што размова пра гэта набывае востраактуальнае гучанне! А калі ж бы ды гадоў трыццаць назад яно было пастаўлена што называецца рубам і — усенародна, у агульнадзяржаўным маштабе? Які неацэнны быў бы выйгрыш для грамадства — сённяшняга і заўтрашняга! Наколькі больш матэрыяльных і духоўных багаццяў мы змаглі б захаваць, зберагчы, перадаць у спадчыну і наколькі б менш мы тымчасове гэтых багаццяў загубілі, зліквідавалі, знішчылі, наколькі б менш мы і нашы нашчадкі страцілі!

Пра спадчыну, якая дасталася і якую трэба перадаць наследнікам, чалавек думаў спакон веку. Апрацоўваў зямлю, даглядаў жывёлу, будаваўся, гадаваў і выхоўваў дзяцей, наладжваў узаемаадносіны з суседзямі і з усім навакольным светам, святкаваў святы, весяліўся або смуткаваў — і пастаянна думаў, турбаваўся: а што ад яго пяройдзе, перадасца ў спадчыну? Чалавек хацеў, каб яго дзеці былі шчаслівыя, шчаслівейшыя, чым ён сам, і ён стараўся пакінуць ім як мага больш і таго, што стварылі рукі, і таго, што напрацавала душа. Само сабой зразумела — і ўсё тое, што дала яму для карыстання і для душы прырода, зямля, на якой ён нарадзіўся і жыў.

Цягам стагоддзяў чалавек думаў і дбаў пра гэта галоўным чынам сам, хаця і раіўся, вядома, і дзяліўся сваімі клопатамі з людзьмі. Але жыццё развівалася так, што гэты клопат усё ў

большай меры рабіўся клопатам грамадскім. Рост сацыяльнай і нацыянальнай самасвядомасці пашыраў пагляд на праблему спадчыны як на дзяржаўна-народную. Сапраўды такою, сапраўды грамадскаю гэта праблема стала ў нас пасля перамогі Кастрычніка, з пераходам на новыя эканамічна-сацыяльныя і палітычныя асновы жыцця, з усталяваннем сацыялістычных прынцыпаў ва ўсіх сферах чалавечай жыццядзейнасці. Спадчына — вялікая, галоўная спадчына, — не перастаўшы быць «маёй, уласнай, асабістай», стала «нашай, агульнай, усіхнай». І наша адказнасць за яе, не перастаўшы быць асабістай адказнасцю кожнага, стала нашай адказнасцю агульнай, грамадскай. Вось чаму грамадскасць гэтак нераўнадушна ставіцца да лёсу матэрыяльнай і духоўнай спадчыны сваёй зямлі, сваёй Бацькаўшчыны, чаму яна гэтак зацікаўлена ў па-гаспадарску мудрым вырашэнні ўсіх датычных яе задач.

Каб адказаць на пытанне, што мы пакінем-перададзім наступнікам нашым, трэба, па-першае, добра ведаць, якая спадчына дасталася нам з мінулага, з вякоў, ад продкаў, а па-другое, трэба бачыць і цвяроза цаніць тое, чым мы гэту спадчыну ўзбагацілі самі (калі ўзбагацілі), што дадалі-дапрынеслі са свайго ўласнага працоўнага, сацыяльнага, маральнага і эстэтычнага вопыту. На мой погляд, наша бяда якраз і пачынаецца з таго, што мы ўсё яшчэ слаба ведаем свае мінулае, цьмяна і часам нават вельмі цьмяна ўяўляем, што за багацці маем у сваім распараджэнні, да чаго мы павінны прыкласці душу і рукі, каб творча развіць далей, узмацніць, узбагаціць, упрыгожыць. Чаму слаба і цьмяна — гэтаму ёсць свае вытлумачэнне. У свой час мы далі сябе здорава запалохаць мінулым — мінулым як сімвалам усяго цяжкога, змрочнага, нядобрага. Але ж у мінулым было не толькі зло. Мінулае — гэта наша гісторыя, а ў ёй было і шмат высокага, прыгожага, гераічнага, увогуле яе рухаючай, вядучай сілай была плынь прагрэсіўная, гуманная, гісторыя не спынілася, яна развівалася і развіваецца, — мы працягваем яе развіваць, мы — яе сённяшнія творцы. Як бы бедна, гаротна, цяжка ні жыў у мінулым народ — ён быў народ, ён быў вялікі веліччу творчага духу, высакароднасцю маралі, сілай і хараством таленту, дужасцю веры сваёй, крылатасцю мар і спадзяванняў. Як бы шмат у яго мінулым ні было забабонаў, прымхаў і ўсякага іншага дзікунства — непараўнана больш было мудрасці і святла, шчодрасці і дабрыні, — усяго таго, што склала змест несмяротнай, неўвядальнай і непераўзыдзенай у сваім хараstве народнай паэзіі — фальклору.

Запалохаўшы, — па наіўнасці, па недасведчанасці, каб не сказаць мацней, — саміх сябе, мы пачалі было і цурацца і пазбя-

гаць мінулага цалкам, без разбору, толькі таму, што яно мінулае; пачалі чужацца яго, ігнараваць і грэбаваць ім, адыходзіць ад разумення, што спадчынай — духоўным вопытам і культурным набыткам народа — трэба даражыць як самім жыццём. Расплата за такую бяздумнасць не магла быць лёгкай — мы гэта бачым і адчуваем ужо даўно. Як ні горка прызнавацца, але многія з нас урэшце зусім адарваліся ад духоўнай глебы стагоддзяў, ад народных традыцый і звычаяў, ад літаратурнай і мастацкай класікі, і поўнасцю перайшлі на спажыванне сучаснага культурнага шырспажыву, прывучылі сябе да эрзац-мастацтва, якое — падобна ўсякай бяздарнай пошасці — ідзе ў наступ на чалавека, страшна нахабна, ваяўніча, агрэсіўна. У роздумах і клопатах пра спадчыну, якую мы хочам пакінуць для душы патомкаў, трэба абавязкова помніць пра гэту злую небяспечную сілу, імя якой — антыкультура, — і няспынна, на кожным кроку, абвяшчаць ёй смяротны бой. Многія, — і гэта бачыць асабліва горка, — не падняліся да элементарнага разумення, што самым вялікім і неацэнна каштоўным скарбам у духоўнай спадчыне народа з’яўляецца яго мова, і ставяцца да гэтага скарбу абыякава, раўнадушна, а то і зусім нігілістычна. Гэта датычыць і тых, што прэтэндуюць, між іншым, на годнасць творцаў нацыянальнай культуры. Якая вартая жалю памылка! Удумацца толькі: таварышы хочуць тварыць нацыянальную культуру ў адрыве ад першаасновы гэтай культуры, ад яе першага і галоўнага элемента — мовы!

Вось і прыкінем цяпер: колькі ж работы чакае ўсіх і кожнага, хто сур’ёзна, не на словах, а на справе хоча клапаціцца пра вялікую і прыгожую спадчыну для нашчадкаў. Работы — непачаты край! Але гэта нікога з нас не павінна палохаць. Калі пра спадчыну думаў і пісаў — на заранку сацыялістычнай эры — Янка Купала, хіба гэтай работы было менш і хіба яна ўяўлялася яму і яго сучаснікам лягчэйшай? Вялікая работа ў імя вялікай мэты абуджае вялікае натхненне. Яно і дапаможа! Мы будзем рабіць гэту работу дзеля таго, каб спадкаемцы нашы, наследнікі нашы людзьмі між людзей пачуваліся, — гэтак жа, як пачуваемся сёння мы; каб радаваліся багаццям-скарбам роднай зямлі і думалі з удзячнасцю, што гэта іхнія продкі для іх зрабілі, зберaглі, захавалі, — гэтак жа, як радуемся і думаем пра сваіх папярэднікаў мы, каб ганарыліся тым, што яны не абы-чые наследнікі і належаць не да абы-якога прапашчага, безыменнага роду, — гэтак жа, як ганарымся за сваё імя і свой род мы.

*1986*

## АЛЕ НАШЧАДКІ НАМ ДЗЯКУЙ НЕ СКАЖУЦЬ

*Выступленне ў Вярхоўным Савеце БССР на пасяджэнні Камісіі па народнай адукацыі і культуры 25 мая 1987 года*

Я ўзяў слова, каб сказаць, што за праект Закона аб народнай адукацыі ў такой рэдакцыі, якая прапануецца, я галасаваць не буду, бо не магу, і хачу растлумачыць, чаму. Каб не было ніякіх палітычных спекуляцый, заяўляю, што мой клопат аб роднай мове ні ў якой меры не скіраваны супраць рускай мовы. Асабіста я рускую мову ведаю з дзіцячых гадоў, шаную і люблю. У маёй хатняй бібліятэцы, відаць, працэнтаў восемдзесят кніг на рускай мове. Яна далучае мяне, як і ўсіх беларусаў, да вялікай рускай і сусветнай мастацкай, духоўнай культуры. Ды і праблем з вывучэннем і веданнем рускай мовы няма. Праблема ёсць з вывучэннем нашай роднай беларускай мовы.

Я ўжо гаварыў тут нядаўна, на аб'яднаным пасяджэнні дзвюх Камісій — нашай і заканадаўчых меркаванняў, — у якім становішчы апынулася ў Беларусі наша родная беларуская мова, і апынулася перш за ўсё па той прычыне, што мы сталі на шлях ліквідацыі нацыянальнай школы, што беларуская мова фактычна перастае быць мовай дашкольнага і школьнага навучання і выхавання. Выснова ясная: калі не прыняць захадаў і будзе так працягвацца далей — мы, беларусы, страцім мову і перастанем быць нацыяй, народам, бо «мова і народ — сінонімы» (Дастаеўскі). Што прывяло нас да такога стану? У значнай меры і Закон аб адукацыі, які дзейнічаў і дзейнічае ў рэспубліцы. Цяпер збіраемся прыняць новы Закон. У чым яго навізна? Што мяняецца па сутнасці? Нічога! Паявіцца артыкул, які забяспечыць навучанне і выхаванне на беларускай мове? Не паявіцца. Няма такога ў праекце. Значыць, працэс заняпаду і выцяснення беларускай мовы будзе працягвацца — будзем каціцца ў гібельную прорву далей. Мы, беларусы, гэтага хочам? Мы хочам перастаць быць народам, нацыяй? Тады трэба правесці ўсенародны рэферэндум — ці хочам мы перастаць быць народам. Хаця такога ў гісторыі цывілізацыі яшчэ не было — каб у народа пыталіся: хочаш ці не хочаш ты быць самім сабой?

Калі не падвядзем пад выратаванне беларускай школы прававую аснову — будзе адкрыты прастор для самавольства, лёс беларускай школы, а г. зн. лёс нашай мовы будзе залежыць ад добрага ці дрэннага дзядзькі міністра. Але і самаму добраму бацькі скажуць: вызвалі нашых дзяцей ад беларускай мовы, маем на гэта права па закону!

На згаданым пасяджэнні камісій я прапанаваў увесці ў праект закона і адстойваў два, прынамсі, пункты: 1) беларускую мову абавязкова вывучаюць усе дзеці, пачынаючы з першага класа, ва ўсіх школах Беларусі; 2) бацькі не маюць юрыдычнага і маральнага права выбіраць для дзіцяці мову навучання. Дзяржава, неаднойчы гаварыў я, мудрэйшая за бацькоў — яна разумее, як лепш для народа, для яго культуры, а значыць, і для ўсіх сваіх грамадзян. У культурных народаў увогуле не ставіцца пытанне — трэба ці не трэба вывучаць родную мову. Усякае школьнае (і само сабой дашкольнае) навучанне і выхаванне ў любой краіне свету пачынаецца ў роднай мове. Гэта жыццёва неабходна гэтак жа, як і тое, што чалавек павінен дыхаць, есці, піць, апранацца.

Бачачы такое становішча з мовай народа, які мы тут прадстаўляем, мы абавязаны задумацца: ці ёсць у нас маральнае права даваць згоду на Закон, які прывядзе да яшчэ горшага становішча нашу мову і нашу нацыянальную культуру ў цэлым, паколькі мова — першаэлемент духоўнай культуры.

Нам даецца гістарычны шанс. Калі мы яго не скарыстаем — значыць, дрэнныя мы дзеці народа. Гісторыя некалі назаве нашы імёны сярод тых, хто неразумна, няўцямна, каб не сказаць мацней, садзейнічаў заняпаду роднай мовы і беларускай нацыянальнай культуры. Мова, канешне, выжыве і будзе жыць — насуперак гэтаму Закону. Народ апомніцца і заступіцца за сваю мову, за сваю ўласную душу. Нарастуць новыя пакаленні інтэлігенцыі, яны зразумеюць тое, чаго не разумеюць сягоння многія. Мова — выжыве і расправіць што называецца крылы. Але нашых з вамі заслуг у гэтым не будзе, і нашчадкі нашы, якія будуць гаварыць на роднай беларускай мове і радавацца гэтаму шчасцю, нам з вамі дзякуй не скажуць.

## ПАТРЭБНА НОВАЕ МЫСЛЕННЕ

У сваіх бязлітасна-варварскіх адносінах да прыроды людзі зайшлі так далёка, што сёння і самі, здаецца, мала вераць у магчымасць адваротнага працэсу — нейкага ўсеагульнага практычнага ходу назад. Ці хаця б у магчымасць супынення гэтага варварства, стабілізацыі «дасягнутага на шляхах поспеху і перамог» становішча, пры якім бы бяздумна-ваяўнічы наступ на прыроду не шырыўся далей. А між тым — без такой веры ў свой мудры розум, у сваю здольнасць стрымаць уласныя спажывецкія

апетыты, спыніцца ў гэтай сляпой, бескантрольнай прагавітасці хапаць, ірваць, браць яе «міласці» — без такой веры, паўтараю, ніякі паварот у нашых дачыненнях да матухны-прыроды не наступіць. Патрэбна вера, што мы, людзі, здольныя праявіць мудрасць і волю. Патрэбна перакананне, што іншага выйсця ў нас няма — апрача як толькі спыніць гэты глабальны варварскі разбой у прыродзе — на абшарах зямлі, у яе водная і паветранай прасторах. Патрэбна ўселюдское ўсведамленне, што мы дайшлі да крайняй мяжы, дзе павінны спыніцца, схамянуцца, агледзецца і ўбачыць, што наперадзе на гэтай дарозе, якой ідзём, — толькі гібель, самазабойства…

Іначай сказаць: патрэбна новае мысленне. І на яго аснове — новая гаспадарчая палітыка, новы стратэгічны курс у гаспадаранні. Сутнасць яго можна сфармуліраваць наступным чынам: будзем гаспадарыць на зямлі так, каб як мага больш скарбаў-багаццяў яе засталося наступным пакаленням, нашчадкам. Да гэтага часу ў гаспадарчых клопатах нашых цалкам панавала процілеглая дактрына: браць, выграбаць, выбіваць з прыроды як мага больш, не думаючы, колькі чаго застанецца ўнукам-праўнукам і ці застанецца ім наогул што-небудзь. Пераважалі і дыктавалі свае надзённыя, сённяшнія прагматычныя мэты. У заўтра — не глядзелі. І на душу чалавечую — а што тымчасове з ёю робіцца? — таксама стараліся не глядзець.

Спробы спісаць усё да асаблівасць міжнароднай сітуацыі пераканаць не могуць, крытыкі яны не вытрымліваюць. Бясспрэчна, рэальная пагроза тэрмаядзернай вайны, якая можа наогул ліквідаваць жыццё на планеце, згубным чынам уплывае на ўсе нашы зямныя справы і клопаты, вымушае думаць і дбаць пра хутчэйшае забеспячэнне росту эканамічнай магутнасці, вымушае многае рабіць спяшаючыся — абы лягчэй, прасцей і з большым карысным каэфіцыентам. І ўсё ж, паўтараю, як бы мы ні змушаны былі лічыцца з напружанасцю міжнароднага становішча, апраўдваць ім безгаспадарчасць, дзікунства і варварства ў адносінах да прыроды нельга. У гады Вялікай Айчыннай, у цяжкіх для нашага народа ўмовах, калі вырашаўся лёс Радзімы, таксама былі розныя погляды на стан рэчаў, на маральныя паводзіны чалавека ў час вайны і на тое, у якім маральным абліччы прыйдзе і паўстане перад усім светам наша Перамога. Былі і такія людзі, якія пра апошняе проста не думалі і спрабавалі спісаць на вайну тое, што хацелася скінуць з уласнага сумлення. Менавіта ў іх асяроддзі ўзнікла тады і на-

была пашырэнне вульгарна-пошлая, небяскрыўдная песенька з рэфрэнам: «Нажимай на все педали — все равно война». А глыбінная мараль і філасофія працоўнага народа дакладна выказана ў беларускай прыказцы: «Паміраць збірайся, а жыта сей». У амерыканцаў ёй адпавядае прыказка: «Мы павінны паміраць у чаравіках». Амерыканскі сацыёлаг прафесар Олвін Тофлер так патлумачыў, што гэта значыць: «Нават калі мы знаем, што павінны памерці, то ўсё адно будзем жыць так, як быццам нічога не здарыцца». Іншымі словамі — будзем жыць па-людску. Несумненна, што гэта адзіная дастойная чалавека пазіцыя. Мы павінны заставацца людзьмі — да канца, што б нам ні пагражала! У гэтым — найвялікшая мудрасць чалавечага розуму.

Жыць па-чалавечы, і ўсё рабіць па-чалавечы, і гаспадарыць на зямлі — па-чалавечы! На вялікі жаль, колькі мы бачым гаспадарнікаў рознага рангу — ад самага радавога да вельмі і вельмі высокага, з вялікімі паўнамоцтвамі, — якія дзейнічаюць не як мудрыя і добрыя гаспадары гэтай зямлі, а як, выбачайце, разбойнікі з вялікай дарогі, як нейкія рабаўнікі-прыблуды без роду і племені. Валянцін Распуцін у аповесці «Пажар» назваў такіх гаспадарнікаў архараўцамі. Гэта вельмі небяспечная для грамадства катэгорыя людзей — у іх няма за душой нічога святога. Апрача грубых матэрыяльных інтарэсаў і выгад — яны нічога ў жыцці не цэняць і нічога ведаць не хочуць. У сацыяльнай і маральнай сутнасці сваёй — гэта агрэсіўныя мяшчане-спажыўцы, дзікуны і цынікі. А калі і як ён пачынаецца — архаравец? Пра гэта трэба думаць, бо не перамогшы яго, не выкараніўшы ў нашым жыцці яго злачынную псіхалогію, — забяспечыць разумныя, беражліва-любоўныя адносіны да прыроды, да зямлі і яе багаццяў будзе немагчыма. Я не даю на пастаўленае пытанне адказу, хаця пэўныя меркаванні ў мяне, вядома, ёсць. Думаю, куды лепш, калі на ўсякае народжанае жыццём пытанне кожны з нас шукае і знаходзіць адказ сам. Ва ўсякім разе, час, у які мы жывём, гатовых рэцэптаў не дае, ён патрабуе вялікай сацыяльнай і духоўнай актыўнасці ад кожнага.

*1987*

## ХТО МАЕ ПРАВА СТАВІЦЬ КРЫЖ НА НАШЫМ ЛЁСЕ?

*З выступлення на сустрэчы членаў Бюро ЦК КПБ з беларускімі пісьменнікамі*

Напачатку я хачу сказаць пра тую трывогу, якую ўсё больш зазыўна б'юць дзеячы беларускай навукі і культуры — трывогу за лёс роднай мовы. Мы просім кіраўніцтва рэспублікі прыслухацца да голасу гэтай трывогі і паверыць, што яна — не прыхамаць нечая і не ад няма чаго рабіць. Гэта пытанне ў сто разоў больш сур'ёзнае, чым некаторым здаецца. На высокім кіраўнічым узроўні праблемай нацыянальных моў ніхто па-сапраўднаму не займаўся і не займаецца. У гэтай сферы дапушчаны валюнтарызм, у чым дагэтуль мы не хочам прызнацца. У іншых сферах грамадскага жыцця мы даўно асудзілі яго, а тут — як бы не бачым. Успомнім, напрыклад, вядомыя словы Мікіты Хрушчова, сказаныя ім кіраўніку ўрада Латвіі Вілісу Лацісу: «Вы, латышы, нацыяналісты, бярыце прыклад з беларусаў — яны першыя прыйдуць у камунізм». На такім тэарэтычным узроўні гаварыць ні пра мову, ні пра культуру, ні пра камунізм няма сэнсу.

У выніку розных прычын на сёння склалася сапраўды вельмі трывожнае становішча з беларускай мовай у Беларусі. Становішча, якое, калі яго не выправіць, можа мець самыя горшыя паследкі для нацыянальнай культуры беларусаў і для самога лёсу нацыі. Ці думаем мы пра гэта? Нашы людзі, у тым ліку моладзь, ездзяць у многія краіны, бачаць: нават у самых адсталых былых калоніях Афрыкі клопат пра развіццё нацыянальнай мовы, нацыянальнай школы, нацыянальнай культуры — у цэнтры ўвагі грамадскасці. А ў нас? Мы не цэнім свае духоўныя скарбы нават так, як іх, нашы скарбы, цэняць людзі. Вось здымак са Свята славянскага пісьменства ў Мурманску ў 1986 годзе. На шырыню ўсёй залы — транспарант: «Тысяча год беларускай літаратуры». Як бачым, тысячагадовая гісторыя беларускай літаратуры прызнана светам. Перш за ўсё — рускімі братамі. Як жа павінны пачувацца беларускія літаратары, ведаючы, што за імі — тысяча гадоў літаратуры, культуры? Не толькі — з якой гордасцю, а перш за ўсё — з якой адказнасцю? Тысячу гадоў збіраўся, развіваўся, нарастаў духоўны скарб народа — і цяпер нехта мае права ставіць на гэтым крыж? Хто мае такое права? Калі нават у яго на сем пядзяў лоб — хто можа прысвоіць сабе такое права?

Можна мне запярэчыць: ніхто не збіраецца ставіць крыж на беларускай літаратуры! І што за трывога?.. Так, ніхто з адказных

афіцыйных людзей такога не заяўляе. Але практычна ўсё ідзе к гэтаму. Калі мова не развіваецца, не функцыянуе нармальна ва ўсіх сферах грамадскага жыцця — то не можа развівацца і літаратура. Яе чакае тупік, пагасанне і смерць. І тут ніякіх ілюзій не павінна быць. Разам з літаратурай адамрэ беларускі тэатр, беларуская песня і наогул беларуская нацыянальная культура. Ці гэтага мы хочам? Ці маем мы маральнае права гэтага хацець — перад тварам тысячагадовай гісторыі? Калі не — то выйсце ёсць толькі адно: павярнуцца душой і сэрцам да сваёй роднай мовы на сваёй жа роднай зямлі. І перш за ўсё — у сістэме народнай адукацыі.

Такі паварот не адбудзецца без дзяржаўнай волі ўрада, а таксама без вялікай прапагандысцкай работы. Трэба на гэту тэму адкрыта гаварыць з людзьмі, а іменна — што сорамна не паважаць і не ведаць сваю родную мову. Што ў нас, у нашай трагічна абумоўленай двухмоўнай сітуацыі, павінны быць пашаноўныя адносіны і да беларускай мовы, і да рускай. Але ж давайце глядзець праўдзе ў вочы: абвешчанае ў нас двухмоўе на справе паўсюдна пераходзіць у рускае аднамоўе.

*1987*

## АДЧУЕМ СЯБЕ ГАСПАДАРАМІ СВАЁЙ ЗЯМЛІ

*Прамова на XIV сесіі Вярхоўнага Савета БССР*
*26 студзеня 1990 года*

Закон аб мовах, які, я веру, мы сёння прымем, абвесціць беларускую мову ў Беларусі дзяржаўнай. Што гэта значыць? Перш за ўсё гэта значыць тое, што дзяржава бярэ на сябе адказнасць за лёс мовы народа, за яе становішча ў грамадстве, за яе здароўе і жыццё. Народ сваёй дзяржаве — у асобе яе кіраўнічых органаў — даверыў усё: зямлю, прыроду, лясы і рэкі, сваё здароўе, свае духоўныя скарбы-багацці, і лёс сваёй роднай мовы таксама. Даверыў — і адначасова абавязаў яе клапаціцца пра ўсё гэта. І як жа дзяржава на працягу доўгіх дзесяцігоддзяў клапацілася? У якім, напрыклад, становішчы наша прырода, наша родная зямля, засыпаная смяротнымі нуклідамі чарнобыльскай катастрофы? А, мабыць, у такім жа, як і наша родная мова. І гэта зразумела. Калі дзяржава не магла разумна, мудра, па-гаспадарску распарадзіцца і адным, і другім, і трэцім, то ці магла яна іначай, разумней, мудрэй распарадзіцца чацвёртым і пятым?

Ні адну жыццёвую праблему ў сваёй рэспубліцы мы не зможам вырашыць паспяхова, калі не адчуем сябе сапраўднымі гаспадарамі гэтай зямлі, у поўнай меры адказнымі за яе лёс, за яе будучыню. Становішча беларускай мовы — мовы вялікага славянскага народа — сёння такое, што горшае і ўявіць цяжка. Але калі мы паклапоцімся толькі пра мову і культуру, а ў іншых сферах — у палітычнай, у эканамічнай, у сацыяльнай — перамен не адбудзецца, то раней ці пазней зноў пачнецца заняпад і мовы, і культуры. Каб гэтага не здарылася, Беларускай ССР як суверэннай дзяржаве патрэбны прававыя гарантыі яе палітычнай і эканамічнай самастойнасці, а ўсім нам, жыхарам рэспублікі, патрэбна дзяржаўная самасвядомасць, дзяржаўнае самапачуванне. Хто-небудзь запытае: а хіба яго ў нас няма? Адкажу: у адных ёсць, а ў другіх, на вялікі жаль, — няма. У тым ліку ў многіх мужоў дзяржаўных. А якое ж у іх, спытаеце, самапачуванне ёсць? А дакладна такое, як у дзяржаўна-адказных таварышаў з Разанскай або Кастрамской вобласці. Таму мы і прывыклі, што цэнтр і яго ведамствы адпаведным чынам з намі абыходзяцца. Час, аднак, патрабуе, каб гэтыя абласныя настроі, погляды і падыходы змяніліся на дзяржаўныя, прасякнуліся нацыянальнай самасвядомасцю, каб у іх аснову лёг клопат пра будучыню беларускай нацыі. Усе мы ўжо ведаем, што прынцыпы ўзаемаадносін паміж рэспублікамі нашай федэрацыі, паміж рэспублікамі і цэнтрам будуць у самы блізкі час істотна мяняцца ў бок значнага пашырэння правоў рэспублік. У кантэксце размовы хацеў бы толькі дадаць, што наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай якраз і дапаможа ўсяму нашаму народу развіць нацыянальную самасвядомасць і набыць самапачуванне народа дзяржаўнага.

Дарэчы, калі б наша нацыянальная самасвядомасць была на належным узроўні, мы не заяўлялі б так непрадумана з гэтай высокай трыбуны, што нібыта ў нас толькі ў адной Гродзенскай вобласці жыве ажно трыста тысяч палякаў. Як быццам мы не ведаем, калі і ў якіх умовах тысячы і тысячы беларусаў-католікаў былі запісаны палякамі. Веравызнанне і нацыянальнасць — рэчы розныя, зразумеем жа гэта нарэшце!..

Як чалавек, які ўсё сваё свядомае жыццё ў меру сіл служыў роднаму слову, і як член Камісіі па выпрацоўцы праекта Закона аб мовах, я ўважліва знаёміўся са шматлікімі матэрыяламі яго абмеркавання і хачу падзяліцца з вамі некаторымі думкамі.

Агулам кажучы і шчыра кажучы — закон наш, канешне ж, не зусім справядлівы ў дачыненні да беларускай мовы: мова наша ў яе сённяшнім становішчы заслугоўвае мацнейшага заступніцтва. Але ён, мабыць, справядлівы ў дачыненні да

рэальнай сітуацыі, якая склалася ў Беларусі, — да сітуацыі, як вядома, вельмі цяжкай, і закон вымушаны сёе-тое разумна прадугледзець, каб гэту сітуацыю яшчэ больш не абвастрыць. Змірымся з гэтым у спадзяванні, што закон прымаецца не навек і прыйдуць лепшыя часы, калі наша грамадства вызваліцца ад хлусні і ганебных страхаў канчаткова і ў закона не будзе такіх апанентаў, якія ёсць сёння.

Асобныя нашы грамадзяне лічаць, што наогул пытанне аб мове варушыць не трэба, маўляў: жывём мы ў Беларусі добра, спакойна, дружна, і навошта ж штучна ствараць праблему? Але ж хіба гэта добрае жыццё, калі адмірае, гіне мова цэлага народа? Хіба гэта нармальна, гуманна і хіба разумна? Таварышы заяўляюць, што беларуская мова патрэбна толькі творчай інтэлігенцыі ды часткова навукоўцам, якія і ствараюць праблему. Гэта глыбокая памылка. Па-першае, праблему стварыла не інтэлігенцыя, а само жыццё, невырашэнне нацыянальнага пытання ў краіне. Праблема, як тая хвароба, доўгі час заганялася ў нутро, што вельмі небяспечна для здароўя грамадства. Па-другое, няпраўда, што наш народ выракаецца сваёй мовы сам, а пытанне гэта хвалюе толькі нямногіх інтэлігентаў. Ісціна якраз у тым, што народ хоча застацца народам — са сваім непаўторным уласным аблiччам. А калі так, то ў дзяржаўна-палітычным, сацыяльным і культурным жыцці народа яго родная мова не можа быць нейкім экзатычным даважкам, месца якому дзесьці наўзбоч і які забяспечвае толькі нейкі адзін участак грамадскага жыцця, задавальненне патрэбы толькі адной невялікай часткі насельніцтва. Мова — гэта тое, што ахоплівае літаральна ўсе формы жыццядзейнасці грамадства як жывога арганізма і ў гэтай жыццядзейнасці аб’ядноўвае ўсіх нас, усё насельніцтва рэспублікі. Родная мова для народа — гэта штосьці непараўнана большае, чым сродак зносін. У мове народа — і яго памяць, і шматвяковы досвед яго гістарычнага жыцця-быцця, і асаблівасці яго светаўспрымання, і яго псіхічны склад, і многае іншае. Значыць, задача заключаецца ў тым, каб жыццё народа ў палітычнай, сацыяльна-эканамічнай і духоўнай сферах гарманізаваць як жыццё менавіта беларускае, прывесці яго ў адпаведнасць з інтарэсамі беларускай нацыі. Само сабой зразумела, што пры ўсім гэтым трэба разумна лічыцца з працэсамі эканамічнай і духоўнай інтэграцыі. Разумна — гэта значыць так, каб інтэграцыя не пагражала лёсу народа, яго сацыяльнаму быту, яго культуры, мове і г. д.

Больш чым дзіўна было чытаць у друку выступленні тых грамадзян — як правіла, навукова тытулаваных, якія не крытыкуюць

праект закона, а адмаўляюць яго цалкам, лічачы ўзвышэнне прэстыжу беларускай мовы справай не толькі марнай, але і шкоднай. На іх перакананне, ніякай беларускай мовы няма наогул, як няма і асобнага беларускага народа. А што ж ёсць? Ёсць беларускі дыялект рускай мовы, і ёсць беларускае племя рускага народа. І мову, і гісторыю нашага народа яны проста перакрэсліваюць. Як бачым, іх тэарэтычныя высновы караняцца ў тых поглядах на Беларусь і беларускі народ, якія прапаведаваліся яшчэ гадоў паўтараста назад ваяўнічымі ідэолагамі самадзяржаўя. Таму аспрэчваць гэтых грамадзян проста не мае сэнсу. Іх тэорыю даўным-даўно абвергла сама гісторыя.

Некаторыя таварышы катэгарычна настойваюць на тым, каб статус дзяржаўнай надаць у рэспубліцы не толькі беларускай, але і рускай мове. Іначай, маўляў, руская мова будзе пакрыўджана. На гэта можна сказаць толькі адно: няма такой мовы на свеце, якая магла б быць пагрозай для рускай мовы. І ўсе мы гэта выдатна ведаем. Тым больш нішто не пагражае ёй у нас, у Беларусі. Не пагражае і закон, які мы абмяркоўваем. Ні рускай, і ніякай іншай мове. Таму што кожная мова на сваёй зямлі, на этнічнай тэрыторыі свайго народа або з'яўляецца дзяржаўнай, або займае такое прыярытэтнае становішча, якое забяспечвае ёй калі не вечнасць, дык доўгае-доўгае жыццё. У нашай мовы іншай зямлі, іншай тэрыторыі няма — і забяспечыць ёй будучыню можна толькі тут, і зрабіць гэта можам толькі мы самі, устанавіўшы свае законы. Калі ж надаць і рускай мове статус дзяржаўнай, то становішча нашай мовы стане яшчэ горшым, чым ёсць. І не будучы ўзаконенай, руская мова практычна выцесніла ў нас нашу родную мову амаль адусюль, з усіх сфер грамадскага жыцця, а калі яе ўзаконіць у якасці дзяржаўнай, тады ўжо напэўна справа будзе даведзена да «пераможнага канца» і ў нашым разнамоўным свеце на адну цудоўную славянскую мову стане менш.

У сувязі з гэтым дарэчы падкрэсліць яшчэ і такі аспект праблемы: у зберажэнні і жыцці нашай мовы аб'ектыўна зацікаўлены і братні рускі народ, і іншыя народы-суседзі. Калі дапусціць такое жахлівае няшчасце, што наша беларуская мова знікла, то ад гэтага страцілі б усе іншыя славянскія мовы, а асабліва і ў першую чаргу — руская, бо менавіта ў кантактах, у сумежным супрацоўніцтве з іншымі роднаснымі мовамі кожная мова лепш пазнае сябе і набывае дадатковыя сілы і рэсурсы для самаразвіцця.

Не раз прагучала ў водгуках і такая думка, што больш ці менш працяглую будучыню беларускай мове можна забяспечыць толькі адным шляхам, а менавіта: трэба ствараць на ёй мастацкія

творы сусветнага значэння, трэба падняць да сусветнага ўзроўню беларускую нацыянальную культуру, і тады, маўляў, беларуская мова сама сабою зробіцца дзяржаўнай. Логікі ў гэтым, выбачайце, амаль ніякай. У тым жа і справа, што калі мова нацыі не жыве натуральным, паўнакроўным жыццём, актыўна і пастаянна не развіваецца, то ні пра які ўздым і росквіт нацыянальнай духоўнай культуры гаварыць не прыходзіцца. На мове, якая спыніла ў неспрыяльных умовах сваё развіццё, якая ўсё больш і больш траціць свае цудоўныя прыродныя якасці, сваю самабытную лексіку і фразеалогію, сваё непаўторна-каларытнае гучанне, — на такой музейна-закасцянелай і знявечанай мове ніякай вялікай літаратуры, вялікага тэатра, вялікай песеннай паэзіі не створыш. І будзем шчырымі: заняпад нацыянальнай мастацкай культуры па прычыне заняпаду мовы назіраецца ў рэспубліцы ўжо даўно, — проста яго не ўсе хочуць або не ўсе здатныя бачыць. Тым, хто не ведае ці дрэнна ведае мову, цяжка заўважыць, якая куцая калька з рускай забівае нашы беларускія газеты, нашы тэатры, нашы песні, ды і многія кнігі мастацкай літаратуры, таму што працістаяць у такіх умовах сілам нявечання беларускага слова неймаверна цяжка.

Асобных таварышаў хвалюе пытанне, у што нам абыдзецца наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай і выкліканыя гэтым пературбацыі. Ну, наогул, для пачатку добра было б усім нам помніць, што мова народа на грошы не ацэньваецца, ні мільёнамі, ні мільярдамі рублёў не вымяраецца. Як Радзіме, як Маці, так і Мове цаны няма. Гэта скарб неацэнны. Не трэба, аднак, перабольшваць і рэальныя выдаткі на прадвызначаную нашым законам перабудову. Скажам, навучанне беларускай мове дарослых людзей, напэўна, можа абысціся без дзяржаўных выдаткаў. Друкаванне беларускіх падручнікаў для школ таксама дадатковых грошай не патрабуе, бо тут проста зменяцца суадносіны рускага і беларускага тыражоў, а агульная колькасць падручнікаў будзе выпускацца тая ж самая. На пераклад і стварэнне падручнікаў для ВНУ, як і на паступовую замену шыльд, пячатак, шрыфтоў, на дадатковую падрыхтоўку кадраў і на многае іншае, грошы, вядома, спатрэбяцца, але, думаю, не столькі, каб гэтым палохаць грамадства.

Не трэба палохаць людзей і нейкімі непрадбачанымі вынікамі ўвядзення Закона аб мовах. Закон наш — вельмі дэмакратычны, прадуманы, неаднойчы ўзважаны на шалях сэрца і розуму, нічыю нацыянальную годнасць ён не прыніжае, нікога не крыўдзіць, — значыць, усё залежыць ад нас, ад усёй грамадскасці рэспублікі, ад таго, у якой меры ўсе мы — інтэрнацыяналісты, наколькі

шчыра ўсе мы хочам жыць у дружбе і брацтве. Асабіста я глыбока веру, што ў нас у Беларусі ёсць усе перадумовы, каб ажыццяўленне закона праходзіла міралюбна, спакойна і без прыніжэння чалавечае годнасці. Для гэтага ад усіх нас — і ад гарачых патрыётаў роднага слова, і ад тых, да каго гэта шчаслівае пачуццё яшчэ не прыйшло, — ад усіх нас, паўтараю, патрабуецца максімум цярплівасці, стрыманасці, узаемапавагі, добразычлівасці і жадання паразумецца. Гэтак жа моцна я веру ў падтрымку нашага закона людзьмі іншых нацыянальнасцей, нашымі іншамоўнымі братамі і сёстрамі, для якіх Беларусь стала другою Радзімай. Вера мая трымаецца на тым аўтарытэце, які наш народ здабыў, асабліва ў гады Вялікай Айчыннай вайны, і які мы, на шчасце, яшчэ да канца не растрацілі. У падмацаванне сказанага дазвольце зачытаць радкі з ваеннага дзённіка аднаго знакамітага рускага чалавека: «Я всегда восхищался национальной чертой белорусов, чутких на беду, верных в товарищеской дружбе, готовых к самопожертвованию, храбрых и отважных в схватке с врагом… Белорусский народ мужеством и героизмом в борьбе с немецко-фашистскими захватчиками по праву снискал себе славу легендарного народа…». Словы гэтыя, якія і сёння да многага нас, беларусаў, абавязваюць, належаць маршалу Жукаву, які, дарэчы, пры зручным выпадку падкрэсліваў, што добра ведае беларускую мову, і гэта сапраўды было так. Рускі па нацыянальнасці, Жукаў служыў у Беларусі і вывучыў мову беларускага народа, не ўстанаўліваючы ніякіх тэрмінаў. А сёння многія нашы цывільныя службоўцы, каб вывучыць сваю ж родную мову, патрабуюць ужо нават не тры, а шэсць гадоў. Прычым яшчэ і выстаўляюць гэта патрабаванне ад імя народа! Міжволі падумаеш: няўжо яны не бачаць, не чуюць, што народ падымае гэтыя іх тэрміны на смех? Няўжо ім не страх, што гэтак можна страціць у народзе і апошнія рэшткі даверу?..

Паважаныя таварышы дэпутаты!

Сённяшні дзень можа стаць без перабольшання гістарычным — так многа ён будзе значыць для лёсу Беларусі і беларускага народа. Гісторыя дала нам вялікі шанц, упусціць які мы не маем права. Калі, вядома, паважаем сябе. Калі паважаем і цэнім усіх, з кім побач жывём і працуем. Калі думаем пра нашу будучыню, пра жыццё і лёс сваіх дзяцей і ўнукаў. Калі не хочам, каб нашы нашчадкі ўспаміналі нас без павагі і ўдзячнасці, успаміналі ды ўсміхаліся, як пісаў паэт, «усмешкой горькою обманутого сына над промотавшимся отцом». Падумайма пра гэта яшчэ і яшчэ раз — дый блаславім наш закон у вялікае жыццё.

## ЯК НЕ СПЫНІЦЬ УЗЫХОДУ СОНЦА…

*Прадмова да анталогіі «Матчына слова» (Менск, 1991)*

Такой анталогіі, як гэта, мабыць, няма нідзе ў свеце… Чаму? — спытаеце з недаверам. Хіба ў літаратуры іншых народаў не пісаліся вершы, апавяданні, эсэ і артыкулы пра родную мову — ці дзеля яе ўслаўлення, ці ў яе абарону? Хіба паэты і пісьменнікі іншых краін не выказвалі сваёй пашаны і любасці, свайго замілавання і захаплення родным словам — яго чароўным хараством і яго магічнай сілай? Хіба ім не даводзілася заступацца за яго, адстойваць яго аўтарытэт і годнасць, бараніць — і ад незычліўцаў-чужакоў, і ад сваіх зняверцаў-адступнікаў — яго Богам дадзеныя правы? Бясспрэчна, выказвалі, бясспрэчна, даводзілася. І вядома ж, ёсць у многіх народаў анталагічныя зборнікі твораў, прысвечаныя роднай мове. Але такога, як гэты, паўтараю — няма, таму што ні ў аднае мовы на свеце няма такога праклятага лёсу, як у нашай.

Маю на ўвазе мовы народаў вялікіх і з вялікай палітычнай і культурнай гісторыяй, з тысячагадовым шляхам нацыянальнага развіцця. А беларускі народ належыць менавіта да гэтакіх. Згадаем агульнавядомае: паводле апошняга дарэвалюцыйнага перапісу, беларусаў у межах іх этнічнай тэрыторыі налічвалася чатырнаццаць мільёнаў, а кнігі на нашай зямлі пісаліся або перапісваліся яшчэ ў XI стагоддзі! Здавалася б, належачы такому шматлікаму народу і гэтак даўно пачаўшы яму служыць пісьмова, у тым ліку і яго краснаму пісьменству, наша мова павінна была б займаць сёння становішча ў свеце роўна такое, як мовы многіх іншых еўрапейскіх народаў, у прыватнасці славянскіх. Павінна была б!.. І займала б, вядома, калі б лёс самога народа нашага быў хоць трохі шчаслівейшы, калі б наша зямля з яе старажытнай культурай не была ўвесь час прадметам дзяльбы для дужэйшых суседзяў. Так, ужо з другой паловы XVI ст. у выніку ажыццяўлення польскімі феадаламі і клерыкаламі свядомай палітыкі акаталічвання і апалячвання нашых продкаў беларуская мова пачала выцясняцца з афіцыйнага ўжытку і з побыту маёмасных класаў Беларусі. Праз два стагоддзі гэты працэс гвалтоўнай паланізацыі наблізіўся да крытычнай мяжы: беларуская мова засталася мовай вёскі, дакладней сялянства, местачковай і гарадской беднаты, мовай іх штодзённага абыходку і іх фальклору — на шчасце, незвычайна багатага.

Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ў канцы XVIII ст. паланізацыя «тутэйшых» і іх растурзанага краю нейкі

час працягвалася яшчэ больш узмоцнена. Але гісторыяй ужо былі падрыхтаваны ўмовы для іншага ходу падзей і новага павароту ў поўным драматызму лёсе беларускага народа. Па-першае, барацьба царскіх улад супроць засілля «пальшчызны» і адкрыты курс на аднаўленне праваслаўнай, ці іначай «рускай», веры і «спаконвечнага рускага духу» пасеяла ў адукаваных жыхароў краю сумненні наконт іх безагаворачнай прыналежнасці да польскай культуры, наконт беспамылковасці выбару імі сваёй духоўнай сцяжыны. Па-другое, і гэта галоўнае, у Еўропе ўжо на поўную сілу ішло нацыянальнае адраджэнне заняволеных славянскіх народаў.

Прыклад Сербіі, Балгарыі, Чэхіі, Славакіі, Славеніі, як і найбольш блізкай нам братняй Украіны, гаварыў душы і сэрцу тутэйшага інтэлігента вельмі многа і прымушаў задумацца. Да Францішка Багушэвіча — амаль не ўсё стагоддзе — нашы папярэднікі яшчэ раздумвалі, а пасля яго закліку-запавету «не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» — ад думак-слоў перайшлі да справы, да дзеяння, да абуджэння і гуртавання нацыянальна свядомых сіл. Балазе, у Расіі нарастала рэвалюцыйная сітуацыя, набліжаўся 1905 год. Карусь Каганец і Цётка, Янка Купала і Якуб Колас, Максім Багдановіч і Алесь Гарун, Ядвігін Ш. і Максім Гарэцкі, Вацлаў Ластоўскі і Браніслаў Тарашкевіч, Змітрок Бядуля і Цішка Гартны — вось далёка не поўны пералік паэтаў і пісьменнікаў, якія на тым часе не толькі творчасцю, але і мужнай грамадскай чыннасцю аказаліся годнымі дзецьмі Бацькаўшчыны.

Пройдуць яшчэ стагоддзі, а памяць народная будзе зноў і зноў з удзячнасцю называць імёны гэтых вялікіх руплівцаў на ніве роднага слова. Сапраўдныя грамадзяне краю, яны не ўпусцілі дадзены гісторыяй шанц і зрабілі тое, што павінны былі зрабіць: ярка і галасна заявілі на ўвесь свет, што мова беларускага народа — законная гаспадыня ў сваім краі, што ёй няма чаго саромецца ані перад якою мовай у свеце, што яе жыццёвыя крыніцы і магчымасці невычэрпныя і таму ёй жыць вечна!..

Вечна — калі яе не выракуцца і не пакінуць родныя дзеці зямлі-матухны Беларусі. Не адракуцца самі і не дадуць загубіць яе тым, каму яна нямілая. Вось напісаў гэтыя словы і, можа, у тысячны раз задумаўся: а за што нямілая? Чаму яна павінна быць для кагосьці нялюбай-нямілай?.. Цяжка адказаць на гэтае пытанне, бо, здавалася б, каму на свеце можа яна замінаць — наша родная, наша бясконца дарагая нам матчына мова? А вось жа замінала і замінае! Колькі жыве наш народ на гэтай зямлі, столькі яна ўсё камусьці замінае! Ды так, што іншы аж ненавідзіць яе.

Аж хочацца міласэрна сказаць: «Чалавеча! Брат-славянін ты ці брат-неславянін, паслухай! Ну, чаго ты так хвалюешся, што мы, беларусы, хочам на сваёй роднай зямлі карыстацца сваёю роднай мовай і таму падымаем голас у абарону яе патаптаных правоў? Тваёй жа мове, мове твайго народа нішто не пагражае! Ты ведаеш, што там, дзе карані твайго роду, на Бацькаўшчыне, твая мова і культура жывуць і квітнеюць здаровенькія. Табе гэтага мала? Табе трэба, каб тым часам мая родная мова загінула? І што? Ты станеш ад гэтага разумнейшы, багацейшы і шчаслівейшы? Удумайся толькі, чалавеча!..»

Завяршаецца XX стагоддзе. На свеце па-ранейшаму неспакойна. Нібыта трохі адступіў далей жахлівы прывід тэрмаядзернай вайны. Але і ад звычайнай зброі льецца чалавечая кроў і гінуць нявінныя людзі. Абвастраюцца і міжнацыянальныя ўзаемаадносіны ў нашай разнамоўнай краіне, і ў немалой ступені з прычыны таго, што цягам доўгага часу ў грамадстве культываваліся неразумныя, нялюдскія адносіны да найдаражэйшага духоўнага скарбу кожнага народа — яго роднае мовы. Не разумеючы і не жадаючы зразумець, што мова — гэта жывая душа народа, якая патрабуе асаблівай увагі і клопату, цэнтралізаваная бюракратычная адміністрацыя, здаецца, рабіла ўсё, каб выхоўваць у людзей абыякавасць да лёсу нацыянальнай мовы, каб заглушыць і забіць у чалавеку пачуццё гордасці за сваю нацыянальную культуру, першаэлементам якой ёсць мова. Іначай сказаць, каб заглушыць і забіць у чалавеку яго душу… Але ж ніякая душа самахоць паміраць не хоча, яна супраціўляецца пагібелі, пратэстуе, сцвярджае сваё права на жыццё, яна абураецца і гневаецца, часам журыцца і плача або, адчуўшы прыліў новых сіл, то па-святочнаму ўрачыста, то інтымна ціха радуецца…

Чаго больш знойдзе чытач у гэтай кнізе: болю і пратэсту, ці журбы і скаргаў, ці замілавання і радасці? Вымераць гэта цяжка, бо ў большасці выпадкаў немагчыма размежаваць гэтыя пачуцці. Яны прамаўляюць да нас, зліўшыся ў адно цэлае — у тое, што і прымусіла паэта або пісьменніка ўзяцца за пяро, што і прадыктавала яму незаменныя словы.

Неспагадны, страшна неспагадны лёс выпаў нашай роднай беларускай мове! Ды якой мове! Непаўторна пявучай ад свайго раскошнага поўнагалосся, невычэрпна багатай лексічна і паслухмяна гнуткай у словазлучэннях, па-зямному, па-хатняму простай і, як свежы бохан, цёплай і духмянай, па-язычніцку першароднай і вобразнай! Мове, асвечанай духам высокай старажытнай кніжнасці і дасканала распрацаванай цудоўнымі

першакласнымі майстрамі. Мове, якая насуперак усім жорсткім выпрабаванням лёсу свабодна і лёгка дыхае нерастрачанай дзівоснай жыватворнай сілай!.. Дык хіба ж можа такая мова адысці ў небыццё, адмерці, згінуць праз наша нядбальства ці па чыёйсьці злой волі? Ніколі! Уласнае нядбальства мы, усаромеўшыся нарэшце да глыбіні душы нашай усенароднай, пераадолеем! А зласліўцам-нядобразычліўцам спакойна скажам: «Дарэмна стараецеся! Як не спыніць узыходу яснага сонца — так і не стрымаць адраджэння нашае мовы. На радасць усім добрым людзям у свеце — яна выжыве!»

## «КАБ НЕ ЎМЁРЛІ…»

*Слова на адкрыцці першага Міжнароднага кангрэса беларусістаў 25 мая 1991 года*

Мы, што сабраліся сёння ў гэтай зале, з'яўляемся сведкамі і ўдзельнікамі падзеі сапраўды незвычайнай у гісторыі беларускага народа. Упершыню, нарэшце, мы здзяйсняем намер зрабіць тое, што іншыя славянскія народы зрабілі даўно: мы ўтвараем міжнародную асацыяцыю беларусістаў, дзеля чаго і склікалі гэты ўстаноўчы кангрэс. Тое, што мы парупіліся пазней за іншых, у саміх нас, беларусаў, напэўна, выкліча, як і заўсёды, гаркавата-іранічную ўсмешку: маўляў, а калі і дзе мы паспяшаліся раней за іншых, хіба такое магчыма? Адкажу без іроніі: магчыма! І ў нашай адзінаццацівяковай гісторыі здаралася не раз. Прыгадайма навуковы і творчы подзвіг, здзейснены ўсходнеславянскім першадрукаром беларусам Францішкам Скарынай. Прыгадайма Статут Вялікага княства — гэты мудры звод законаў, роўнага якому ў сэнсе гуманнасці і справядлівасці, бадай, не знала ў тагачаснай Еўропе ніводная іншая дзяржава. Не сумняваюся, што з трыбуны кангрэса будзе нагадана і пра многія іншыя факты і падзеі, якія, стаўшы нашай гісторыяй, пацвярджаюць творчы геній беларускага народа, якія працавалі і працуюць на яго аўтарытэт у свеце, дапамагаючы набыць яму ўсё больш і больш сяброў. Мы шчыра радуемся і ганарымся, што колькасць прыхільнікаў беларускай мовы, літаратуры. культуры за межамі рэспублікі расце, што ў многіх і блізкіх і далёкіх краінах створаны або ствараюцца асацыяцыі беларусістаў, што ўклад Беларусі ў агульначалавечую духоўную скарбніцу будзе такім чынам прызнавацца на ўсё шырэйшых абсягах планеты.

Мы гэтак жа шчыра ўдзячныя нашым шчырым і верным сябрам за іх павагу і клопат — тым больш удзячныя, што яны добра ведаюць, гаворачы словамі Багушэвіча, «аб нашай долі-нядолі», аб няпростым, пакутлівым і трагічным лёсе народа, з якім звязалі свае навуковыя і творчыя інтарэсы. Мушу наўмысна падкрэсліць гэты момант — наконт нашай асаблівай удзячнасці — таму што прадмет іх даследчыцкай або іншай цікавасці — так бы мовіць, нявыйгрышны, нявыгадны. Трэба мець мужнасць, каб займацца народам і яго духоўнай культурай, яго мовай, калі гэтаму народу, пачаўшы колькі стагоддзяў назад і да гэтага часу, і сёння адмаўляюць у праве на самастойнае існаванне, прарочаць страту свайго ўласнага аблічча і не абяцаюць ніякай гістарычнай перспектывы пасля Чарнобыля. Кожны дзень нам вырысоўвае яе, гэту перспектыву, усё больш выразна. Можа, сённяшнія нашы дабрадзеі якраз гэта і маюць на ўвазе? Наўрад ці можна назваць яшчэ якую-небудзь цывілізаваную, з больш як тысячагадовай гісторыяй нацыю, якой бы столькі разоў прадказвалі гібель і зыход з гістарычнай арэны, як нам, беларусам. І не толькі зацятыя ворагі-асімілятары, але і тыя, якія былі настроены да беларускага народа зусім дружалюбна, глядзелі на нас са спагадай і спачуваннем. Нагадаю толькі адзін прыклад. Яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, калі царскі ўрад забараніў карыстацца беларускай мовай у касцёлах, вядомы беларуска-польскі навуковец і грамадскі дзеяч Адам Кіркор са шкадаваннем пісаў: «Беларускаму народу больш не зазвініць яго родная мова, і сам ён, як народ, прапаў». Гэта — роспачнае пачуццё сябра. А колькі прароцтваў зларадных! Нямала іх робіцца і сёння, нават з яшчэ большым раздражненнем і азлобленасцю ад таго, што прароцтвы ніяк не здзяйсняюцца. Нямудрыя, зусім нямудрыя гэтыя чорныя крумкачы-«прарокі»: маглі б ужо і зразумець, што іх прадказанні не здзейсняцца ніколі. Ніколі! З асаблівай упэўненасцю гэта хочацца падкрэсліць сёння, калі надзея на свой лёс, як бы цяжка яна ні ішла, акрыліла і падмацавала нашы адвечныя запаветныя спадзяванні, наш непазбыўны, наш найгарачы клопат. Міжволі ўспамінаюцца словы, якія, неўзабаве пасля першай рэвалюцыі ў Расіі, з адчуваннем вялікага абнаўлення, вялікага пералому ў гістарычным лесе беларусаў, сказаў наш выдатны этнограф Мікалай Нікіфароўскі: «Не з’елі нас раней, цяпер і падаўна не з’ядуць, калі мы дакрануліся да матухны-зямлі». Так, можам спакойна паўтарыць услед за гэтым слаўным сынам Бацькаўшчыны: цяпер, калі мы зноў дакрануліся да роднай матухны-зямлі, мы будзем жыць! І натуральна, што мы хочам, каб усе нашы сябры, беларусісты з іншых краін і зямель — і тыя, што прыехалі на

кангрэс, і тыя, каму не выпала прыехаць, — таксама пранікнуліся гэтым нашым настроем, гэтаю нашай верай, гэтым нашым энтузіязмам, — хочам, бо ўпэўнены, што гэта і ім надасць сілы і натхнення ў працы. Беларусь уступае ў новую паласу свайго гістарычнага развіцця, — гэта неадменны факт, усведамленне якога, не сумняваюся, хутка стане ўсенародным тут, у самой рэспубліцы, і ўсеагульным у свеце.

Аднак жа вернемся да пытання аб нашай удзячнасці тым, хто звязаў сябе, свой творчы лёс з Беларуссю. Паважаныя калегі, пытанне гэта зусім не другараднае, і я хацеў бы, каб мы, гаспадары сённяшняй сустрэчы, усёю душою яго адчулі і глыбока прадумалі. І каб яшчэ раз успалыхнулі ад сораму, што нас, надзеленых ад прыроды пачуццём удзячнасці, нярэдка прымушалі быць няўдзячнымі, апынацца ў становішчы людзей элементарна нявыхаваных і што мы мірыліся з гэтаю ганьбай і цярпелі яе. Адкуль ішоў гэты гвалт над нашымі прыроднымі чалавечымі пачуццямі, хто пазбаўляў нас нават права сказаць добрым людзям «дзякуй» — вядома: узаконеная і ўвасобленая ў дзяржаўных чынах нянавісць да беларускай мовы і культуры. Мы, старэйшыя з ліку нацыянальна свядомых працаўнікоў, усё жыццё пражылі ў акружэнні гэтай нянавісці, гэтай хамскай пагарды, гэтых цынічных насмешак і здзекаў. Незайздросная, прызнаемся, доля, нялюдскі і жорсткі час!

Якраз у тую пару Пімен Панчанка, паглядзеўшы і паслухаўшы аднойчы нашых высокачыноўных дзяржаўнікаў, сказаў прыкладна так: цяпер я ведаю, што трэба, каб стаць у Беларусі вялікім начальнікам, — апрача іншых спецыфічных якасцей, абавязкова трэба мець яшчэ і лютую нянавісць да беларускай мовы. Вядома, начальнікі мяняюцца, многія ўжо набываюць і павагу да роднага слова. Будзем спадзявацца, што само жыццё давядзе гэтыя прыемныя перамены да таго становішча, калі ўсе нашы дзяржаўныя асобы будуць адчуваць сябе адказнымі за лёс беларускай мовы і культуры як перад законам, так і перад уласным сумленнем. Але гэта здарыцца тады, калі Беларусь стане сапраўды суверэннай дзяржавай. Сёння яе суверэнітэт фіктыўны, папяровы, і яе ўрад таксама папяровы, пазбаўлены рэальнай самастойнай улады, і нават пры вялікім жаданні ён не можа стварыць умоў, якія б забяспечылі свабоднае развіццё беларускай мовы і культуры. Каб такія ўмовы сталі рэальнымі — трэба, каб стала рэальнай наша дзяржаўная самастойнасць.

Разам з тым, нават і ў сённяшніх умовах, ва ўмовах залежнасці, урад мог бы больш рашуча праводзіць моўную палітыку ў рэспубліцы ў інтарэсах народа, імем якога рэспубліка

названа. І калі гэтага не відна, то вінаваты не толькі ўрад, але і ўсе мы таксама, бо недарэмна ж было некім разумным сказана: кожны народ мае той урад, якога ён заслугоўвае.

Мы ўсё плачамся і плачамся на сваю горкую долю, а трэба не плакацца, а дзейнічаць, трэба змагацца, трэба актыўна ісці ў наступ, расшыраць заваёвы, замацоўваць і абараняць дасягнутыя рубяжы.

Мы марым і летуценім, што нешта зробіцца само сабой, пры дапамозе нейкай чароўнай палачкі, — а трэба не летуценіць, а дзейнічаць, трэба самааддана і самаахвярна, не шкадуючы сіл і часу, працаваць і выкладвацца ў гэтай працы даастатку.

Мы клюём на прынаду падкінутых нам хітрых, падступных ідэй і тэорый, а трэба перш за ўсё думаць самім, думаць цвяроза і глыбока аб тым, хто мы і што мы на гэтай планеце і якім павінен быць наш уласны шлях з увагай на асаблівасці нашай гісторыі, нашага нацыянальнага характару і менталітэту.

Мы займаемся ганебным самаедствам, мы прадаём — як гэта было ў час выбараў народных дэпутатаў — самых лепшых, свядомых сыноў і дачок нацыі, — замест таго, каб усяляк дапамагаць ім, падтрымліваць, гуртавацца вакол іх і ісці да аднае вялікае мэты побач, плячо да пляча, локаць да локця.

Мы нярэдка хвалімся нашай прыроднай беларускай талерантнасцю, дэмакратычнасцю, верацярпімасцю, але сённяшняя атмасфера нашага грамадска-палітычнага жыцця, на вялікі жаль, не сведчыць на карысць гэтага, — наадварот: і дэмакратычнасці, і цярпімасці нам не хапае, нават у дачыненні да патэнцыяльных спадарожнікаў і аднадумцаў. Мы не хочам лічыцца з тым, што ідзе нялёгкі і балючы працэс перавыхавання многіх і многіх, можа соцень тысяч і мільёнаў людзей, у тым ліку і нашай намінальна беларускай, а на самай справе толькі прапісанай у Беларусі, інтэлігенцыі. Ідзе працэс пакаяння, і гэта пакаянне адбываецца не абавязкова на людной плошчы і са стуканнем кулаком у грудзі, яно можа мець месца і ў начной цішыні, калі чалавек сам-насам думае пра свой лёс глыбока і шчыра. Трэба верыць у пакаянне чалавека і не адрынуць нікога, хто сёння хоча і здольны сумленна паслужыць беларускай навуцы і культуры.

Паважаныя калегі!

Наш абавязак — шанаваць, цаніць і падтрымліваць усіх сяброў Беларусі, беларускай мовы, літаратуры, мастацтва і культуры — дзе б яны ні былі, ведаць і не забываць кожнага з іх, памагаць ім у іх вялікай самаахвярнай рабоце па прапагандзе і папулярызацыі духоўных скарбаў нашага народа, помнячы, што і ад кожнага з іх залежыць, як паспяхова будзе адбывацца

наш выхад у вялікі свет, а значыць — і як паспяхова будзе ісці працэс нашага нацыянальнага адраджэння.

Пры гэтым будзем помніць, што самая лепшая наша дапамога замежным сябрам-беларусістам — гэта паспяховае вырашэнне нашых нацыянальна-культурных праблем тут, у Беларусі, гэта далейшае нарошчванне і яднанне нацыянальна-патрыятычных сіл у рэспубліцы, гэта наша плённая праца на ніве беларускай асветы і навукі, мастацтва і культуры. Ёсць пільная неабходнасць гаварыць пра павышэнне прафесійнага ўзроўню ўсёй гэтай нашай працы. Прафесійнага і, я дадаў бы, дзяржаўнага. Многае ў нас, будзем казаць шчыра, робіцца яшчэ на самадзейным узроўні, многае яшчэ гаворыць аб тым, што не пераадолена псіхалогія духоўнай правінцыі, культурна-мастацкай перыферыі. Шырокім колам нашай грамадскасці, у тым ліку і навуковай і творчай, яшчэ вельмі не хапае пачуцця нацыянальнай годнасці, усведамлення, што мы, беларусы, беларускі народ — гэта асобны духоўны свет і што цэнтр гэтага духоўнага свету — тут, на нашай роднай зямлі, а не дзе-небудзь на ўсход ці на захад, на поўдзень ці на поўнач ад яе. Трэба рашуча пазбаўляцца гібельнай для нас псіхалогіі жыхароў «Северо-Западного края», якая прышчэпліваецца нам вось ужо роўна два стагоддзі і з якою мы ніколі не здабудзем духоўнага, а значыць, і эканамічнага і палітычнага суверэнітэту. Між тым у нас ёсць такія высокія ўзоры свядомага служэння Бацькаўшчыне — служэння таму, «каб не ўмёрлі».

Янка Купала і Якуб Колас, Максім Багдановіч і Максім Гарэцкі — абмяжуюся толькі галіной літаратуры і толькі гэтымі чатырма вялікімі постацямі — нам, наследнікам сваім, далі прыклад, па-першае, сапраўды дзяржаўнага, па-другое — сапраўды культурнага, на сусветным узроўні, думання і разумення свайго народа, яго гістарычнага лёсу, яго шляху да лепшай будучыні. Можа быць, у гэтым і наша шчасце, і наш паратунак, што ў нас заўсёды былі людзі-маякі, людзі-светачы, людзі-волаты, на чыю дзяржаўную і чалавечую мудрасць, на чый творчы або навукова-даследчыцкі талент можна было арыентавацца і абаперціся. На вялікі жаль, не ўся іх творчая спадчына сабрана, выдадзена і належным чынам прапагандуецца, а ў дачыненні да многіх з іх трэба сказаць, што мудры плён іх творчасці яшчэ наогул не даступны шырокім колам насельніцтва, у тым ліку, вядома ж, і нашым сябрам — замежным беларусістам. О, колькі слаўных імён нам яшчэ трэба вярнуць з небыцця, узвысіць і паказаць свайму народу і свету ва ўсёй іх веліччы і бляску! Не стану тут гэтыя імёны называць, бо, на абсягу гісторыі ад Кірылы Тураўскага і да нашых дзён, іх вельмі-вельмі шмат, іх столькі, што нельга не

прасякнуцца радасным прадчуваннем, якая вялікая, прыемная, самаахвярная праца ўсіх нас чакае!

Вось і давайце ж браць прыклад з іх. Давайце следаваць іх мужнасці і мудрасці, іх нястомнасці і самаахвярнасці, іх чалавекалюбнасці і дэмакратызму. Хай нас ніколі не пакіне тая высокая вера, якая свяціла ім і вяла іх наперад. Найвялікшы і найслыннейшы сярод іх яшчэ ў 1914 годзе пісаў: «Будзіцца самапачуццё народнае, падымае старонка наша вочы к сонцу і распрастоўвае свае магучыя плечы. Мілаванне свайго роднага слова, сваёй адзінай Бацькаўшчыны Беларусі бярэ верх над адступніцтвам і прадажніцтвам сябе ў чужую няволю. Калі зірнём мы на тое, што за некалькі год зроблена намі, беларусамі, над падняццем свайго нацыянальнага багацтва, то адно толькі душа можа радавацца. І ўсё гэта робіць сам народ — ці сваёй шчырай працай для Бацькаўшчыны, ці сваімі запрацаванымі капейкамі… <…> Мы не знаем ні казённых падачак, ні купленых працаўнікоў. Працуем для ідэі і будуем самі сабе новае, лепшае жыццё.

Дык працуйма ж і далей! Сейма на роднай зямельцы здаровыя зярняты праўды, брацтва і свабоды, будзіма жывога народнага духа з магутным клікам: к сонцу і праўдзе! Будзем мець буйны ўраджай і багатае жніво!».

Даўно гэта было сказана, а гучыць так, як бы вырвалася з душы паэта толькі што, сёння, і адрасавана нам з вамі. Прымем жа гэты купалаўскі запавет да сэрца і — у добры час за работу!

## ПРА НАЗВУ, СЦЯГ І ГЕРБ НАШАЙ ДЗЯРЖАВЫ

*Даклад на шостай нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 19 верасня 1991 года*

Шаноўны старшыня!

Паважаныя калегі народныя дэпутаты!

Я хачу пачаць з таго, што пытанні, якія мы пачынаем абмяркоўваць, далёка не ўсімі ў нашай рэспубліцы разумеюцца як жыццёва важныя, актуальныя, а ўспрымаюцца як нешта такое, на што не варта сёння траціць ні час, ні сілы, ні сродкі. Асабіста я амаль усё свядомае жыццё, ужо колькі дзесяцігоддзяў адчуваю, наколькі гэтыя пытанні непапулярныя і нявыгадныя для тых, хто імі жыве, наколькі гэта няўдзячная тэма. Тэма, якую многія або зусім не ўспрымаюць, або ўспрымаюць з глухім ці адкрытым

раздражненнем, з нейкай прыкрасцю або ў лепшым выпадку — з недаўменнем: маўляў, што гэта, для чаго і каму патрэбна? Самае сумнае, што сказанае датычыць і людзей, якія не сумняваюцца ў сваёй інтэлігентнасці, людзей з дыпломам у кішэні. Куды выгадней ставіць пытанні эканамічныя, экалагічныя, сацыяльныя, гаварыць пра хлеб надзённы, пра ўсё, што на патрэбу жывата нашага, але не душы, не духа. Мы дзіўныя ў гэтым сэнсе людзі: да святынь у нас вульгарна-спажывецкі падыход. Нідзе ў свеце і ў галаву нікому не прыйдзе разважаць так: спачатку — каўбаса, а потым — культура, або — спачатку цукар, цыгарэты, панчохі, а потым — нацыянальны сцяг, герб, гімн і г. д. Нідзе ў свеце проста не дапусцяць такога — з павагі да сябе, да сваёй чалавечай і нацыянальнай годнасці. А ў нас — мы галасуем нават супраць уключэння ў парадак дня пытанняў культуры, не кажучы пра тое, каб іх спакойна і, канешне ж, станоўча вырашыць. Мы ствараем праблемы там, дзе ў добрых людзей на свеце іх няма і не можа быць.

Асаблівасць сённяшняй палітычнай сітуацыі на Беларусі ў тым, што працэс арганізацыі незалежнай дзяржавы супадае з працэсам нацыянальнага адраджэння беларускага народа, адраджэння яго духоўнасці, яго мовы, культуры і яго гісторыі — Гісторыі з вялікай літары і ў самым дакладным значэнні гэтага слова. Чаму — іменна адраджэння? Чаму іменна гэтым словам, гэтым тэрмінам мы карыстаемся? Таму што на працягу стагоддзяў пад сцягам імперыі і пад лозунгам росквіту нацый уся гэта наша нацыянальная духоўнасць, наша гісторыя, мова, культура забіваліся, тапталіся, падвяргаліся планамернаму вынішчэнню і генацыду. Цяпер нам патрэбна ўсё гэта адраджаць, аднаўляць, падымаць з руін, вяртаць да жыцця, вяртаць у нармальнае, натуральнае становішча. Рабіць гэта няпроста, але рабіць трэба — для таго, каб лягчэй вывесці наша грамадства з агульнага крызісу.

Мы аб'явілі незалежнасць сваёй Беларускай дзяржавы — з упэўненасцю, што гэта самы верны шлях, каб нарэшце зажыць па-чалавечы, па-людску. Але ж гэту дзяржаўнасць трэба арганізаваць, усталяваць, а перш за ўсё — абазначыць яе абсалютна неабходнымі атрыбутамі. Дзяржаве трэба мець сваё імя, свой Сцяг, свой Герб, свой Гімн. Што трэба мець — не прадмет для дыскусій. Дыскусіі могуць узнікнуць з разыходжанняў у поглядах, якімі павінны быць назва і сімвалічныя атрыбуты нашай дзяржавы. У вас на руках, шаноўныя дэпутаты, праекты законаў аб назве, Сцягу і Гербе рэспублікі. Аб Гімне мы будзем тут гаварыць пазней — калі пройдзе конкурс на яго новы тэкст і му-

зыку. такое рашэнне Прэзідыума. Разам з праектамі законаў вы маеце і навуковыя абаснаванні — высновы вучоных-гісторыкаў, якія пацвярджаюць прадуманасць, узважанасць, навуковую і палітычную абгрунтаванасць прапанаваных праектаў назвы дзяржавы, яе Сцяга і Герба. Да вашых паслуг — змястоўная выстава ў фае, экспазіцыя малюнкаў і фотаматэрыялаў — яны дапамагаюць наглядна ўявіць прадметы, якія мы разглядаем. Абмеркаванне законапраектаў прайшло ў камісіях, прынцыповых пярэчанняў не паступіла, апрача як з Камісіі па таварах народнага спажывання, гандлю і паслугах насельніцтву, якая прапануе пытанне аб назве, Сцягу і Гербе рэспублікі разглядаць адначасова з праектам новай Канстытуцыі Беларусі. Нашай камісіі гэтая прапанова не здаецца слушнай, яна мае хутчэй фармальны характар. У новую Канстытуцыю якраз і павінны ўвайсці прынятыя ўжо Вярхоўным Саветам палажэнні аб атрыбутах дзяржавы. Камісія па заканадаўству прапанавала абазначыць тэрміны, калі законы павінны ўступаць у сілу, — гэта заўвага нашай камісіяй улічана.

Зазначу таксама, што пытанні аб назве, Сцягу, Гербе і Гімне Беларусі шырока абмяркоўваліся на старонках рэспубліканскага друку, і думка грамадзян, якія выказаліся, у большасці выпадкаў рашуча на баку менавіта тых узораў Сцяга і Герба, якія прапануюцца ў законапраектах.

Шаноўныя дэпутаты, вельмі не хацелася б, каб мы тут з якіх-небудзь, можа і самых лепшых, меркаванняў ускладнілі і зацягнулі прыняцце законаў пра назву, Сцяг і Герб рэспублікі. У мяне асабіста, не буду ўтойваць, ёсць наконт гэтага пэўная трывога, і яна ўзнікла пасля таго, калі не было падтрымана і не стала ў парадак дня сесіі пытанне аб назве сталіцы Беларусі — Менску. Гэта мяне, вядома, засмуціла. Але я мушу засмуціць і вас — тых народных дэпутатаў, якія галасавалі супраць таго, каб паставіць пытанне аб адмене рэпрэсіўнага рашэння Вярхоўнага Савета БССР ад 29 ліпеня 1939 года ў дачыненні да сталіцы нашай рэспублікі, у якой адабралі яе гістарычную назву — Менск. Не думайце, што пастаўленае пытанне не прайшло. Яно прайшло, дарагія таварышы, прайшло! Як і многае іншае, яно прайшло і праходзіць у самім жыцці, і нам з вамі застаецца толькі выступіць у ролі нямудрых рэгістратараў. Ужо даўно многія людзі, асабліва маладыя, і ў пісьмовай і ў вуснай практыцы карыстаюцца назвай Менск — карыстаюцца таму, што не могуць мірыцца з гвалтам, які быў учынены невукамі і вандаламі над старажытнай назвай нашай сталіцы ў 1939 годзе. І вось аб чым варта помніць: на баку тых, хто за назву Менск,

мільёны людзей многіх-многіх пакаленняў, пачынаючы з часоў заснавання горада, з X стагоддзя, калі ён яшчэ быў Менеск, і аж да XVII стагоддзя, калі польскія феадалы, тагачасныя душыцелі беларускай незалежнасці,ператварылі яго ў Міньск-Літэвскі, а ў XIX стагоддзі расійскія картографы гэту назву, як і многія іншыя перакручаныя на польскі лад назвы нашых паселішчаў, перанеслі на геаграфічныя і палітычныя карты Расіі. На іх баку і сотні тысяч тых, што леглі ў Курапатах і іншых брацкіх магілах, якія жылі ў Менску і за межамі Менска і не збіраліся мяняць старажытную назву сваёй сталіцы. Назву Мінск нам навязалі гвалтам. Наогул, уся наша гісторыя — гэта, можна сказаць, гісторыя рэпрэсій; рэпрэсій супроць народа і яго творчага духу, яго мовы і культуры, яго нацыянальных інтарэсаў. Прыкладаў можна прыводзіць безліч, але за недахопам часу нагадаю толькі два: год 1697-мы — калі Сойм Рэчы Паспалітай забараніў беларускую мову як дзяржаўную, і год 1840-вы — калі царскі ўрад забараніў саму назву Беларусь і нашу краіну пачалі называць «Северо-Западным краем». Элементарнае пачуццё годнасці павінна падказаць нам: нельга сёння дзейнічаць так, каб нашы нашчадкі, дзеці і ўнукі нашы горка пасмяяліся з нас, абвінавацілі нас у бескультур'і і амаральнасці, паколькі непавага да гісторыі свайго народа, сваёй дзяржавы ёсць несумненная адзнака бескультур'я і амаральнасці. Нельга ісці на павадку ў тых, хто займаецца свядомай палітычнай спекуляцыяй на неразуменні пэўнай часткай насельніцтва важнасці пазначаных праблем. Пара зразумець, што прабіў час здзейсніць гэту важную гістарычную акцыю, што іншага выйсця ў нас проста няма.

Шаноўныя дэпутаты!

Наконт новай назвы нашай суверэннай дзяржавы — Рэспубліка Беларусь — ніякіх пярэчанняў не паступіла. У друку была прапанова прыняць назву Беларуская Народная Рэспубліка, але камісія лічыць яе менш дакладнай, бо, па-першае, у слове «рэспубліка» этымалагічна заключана паняцце «народ». а падругое, лепш, каб у назве дзяржавы галоўнае слова мела форму назоўніка, а не прыметніка, а іменна: Беларусь, а не Беларуская, не Беларуская Рэспубліка, а Рэспубліка Беларусь.

Што датычыць законапраектаў аб Сцягу і Гербе, якія маюць стаць дзяржаўнымі, то ў друку, а таксама ў некаторых выступленнях тут па іншых пытаннях парадку дня крытычныя заўвагі былі выказаны. На некаторых я коратка спынюся.

Спачатку — наконт бел-чырвона-белага сцяга. Самую ўразлівую заўвагу зрабіў, выступаючы па пытанню аб выбарах Старшыні Вярхоўнага Савета, дэпутат Мікалай Іванавіч

Дзямянцей, які назваў усе клопаты аб атрыбутыцы нашай дзяржавы гульнёй у сімволіку і флажкі і патрабаваў, каб гэтыя пытанні рашыў сам народ, усе жыхары рэспублікі рэферэндумам. Асабліва ўразіла таму, што хто-хто, а чалавек, які займаў вышэйшыя партыйна-дзяржаўныя пасады ў рэспубліцы, павінен ведаць, што Дзяржаўны сцяг — гэта не флажок, флажкамі абкладаюць ваўка на паляванні, а Дзяржаўны сцяг — гэта тое, без чаго ты не можаш сесці за стол перамоў з іншымі дзяржавамі, бо з табой не стануць гаварыць.

Хто-небудзь спытае: а чым вам не падабаюцца Сцяг і Герб, якія былі дагэтуль? Справа не ў тым, падабаюцца ці не падабаюцца, хаця, на мой погляд, новыя сімвалы дзяржавы з эстэтычнага боку значна выйграюць. Справа ў тым, што цяперашнія Сцяг і Герб Беларусі не адпавядаюць новай гістарычнай рэальнасці, яны былі зроблены па адным стандарце з усімі іншымі сцягамі і гербамі рэспублік — так, як гэта вымагалася імперскай дактрынай зліцця ўсіх народаў і нацый у адно аморфнае цэлае. Гэтая дактрына, бадай, нідзе не мела такой сілы, як на Беларусі, якую, пад апекай партыйнага кіраўніцтва і КДБ, пераўтварылі ў палігон гэтага пачварнага нялюдскага эксперымента. Сённяшні Сцяг і Герб не маюць свайго ўласнага аблічча і ніяк не звязаны з нацыянальнымі традыцыямі, з гісторыяй Беларусі. Пагадзіцеся: не вялікі гонар, калі твой Дзяржаўны сцяг і твой Герб — амаль дакладна такія ж, як яшчэ цэлых пятнаццаць.

Наконт старажытнага беларускага герба «Пагоня», які прапануецца зацвердзіць у якасці дзяржаўнага, — галоўная, бадай, заўвага зводзіцца к наступнаму: навошта ў руцэ конніка меч? На каго ён падняты? З кім збіраецца ваяваць наша Беларусь? Чаму не даць гэтаму конніку ў руку ну, скажам, паходню ці вярбовую галінку? Будзе, маўляў, больш адпавядаць мяккаму, добраму характару народа і яго міралюбівай сучаснай палітыцы. Што можна адказаць на гэта? Тое, што контраргумент крытыкі не вытрымлівае. Па такой логіцы можна паставіць пытанне перад многімі народамі свету, якія таксама не вызначаюцца ваяўнічасцю, але дзяржаўныя гербы якіх зусім не з анёльскімі выявамі. Так, многія краіны маюць на сваім гербе выяву страшнага драпежнага звера льва. Чаму — леў, а не, скажам, рахманая бязрогая авечка? У некаторых дзяржавах, у тым ліку і ў нашых суседзяў, на гербе — драпежны крывадзюбы арол. Зноў жа — чаму арол, а не той жа міраносец голуб ці, скажам, бяскрыўдны бусел? А таму, што і адзін і другі вобраз увасабляюць дзяржаўную сілу-моц і дзяржаўную мудрасць, яны сталі выявамі на гербах менавіта тады, калі трэба было падкрэсліць

і сваю моц, і сваю мудрасць, і з таго часу народы не ўсумніліся ў правільнасці выбару гэтых вобразаў, — з павагі да сваёй гісторыі, а гэта значыць да саміх сябе. Не ўсумніліся — і не сталі ў іншым гістарычным часе абнаўляць, перарабляць, мяняць свае дзяржаўныя атрыбуты на іншыя.

Яшчэ адна заўвага па законапраектах у тым, што гэта замена дзяржаўнай атрыбутыкі будзе вельмі дорага каштаваць рэспубліцы. У каторы раз на сесіях гэтага склікання, як і дзесяць, і дваццаць гадоў назад, калі толькі заходзіць гаворка пра пытанні, што датычаць нацыянальнай культуры, нацыянальнай самабытнасці, нашай гістарычнай памяці, — пачынае гучаць занепакоенасць: а ў што гэта, у якую капейку, нам абыдзецца? Дзесяткі, сотні мільёнаў рублёў — з-за халатнасці, з-за жахлівай безгаспадарчасці — вылятаюць у трубу, на вецер, і нікому не баліць, ніхто не пакутуе ад страт. А тут — адразу ж пачынаем хапацца за кішэнь. Між іншым, цікава было б ведаць, як дорага нашы фінансісты цэняць нацыянальны гонар Беларускай дзяржавы, за якую суму яны будуць таргавацца? Ці трэба тлумачыць — адкуль гэта, адкуль такі меркантылізм там, дзе гаворка ідзе менавіта пра гонар нацыі? Ды ўсё адтуль — ад недаацэнкі нацыянальнага моманту і, скажам мацней, ад нацыянальнага нігілізму, ад глыбокай раўнадушнасці да лёсу нацыі. Калі гаварыць зусім проста, дык гэта пазіцыя зводзіцца да прымітыўнага махання рукой: маўляў, ды кіньце вы гэту сваю беларускасць і беларушчыну, жылі мы без усяго гэтага і будзем жыць далей! Ва ўсякім разе, нам гэта вельмі мала абыходзіць — ёсць у нас сваё нацыянальнае аблічча ці няма, ёсць свой уласны, адметны, непадобны на іншыя сцяг, герб, гімн ці няма, маюць нашы гарады і вёскі свае, адвеку родныя імёны ці — чужыя, накінутыя заваёўнікамі.

Шаноўныя народныя дэпутаты, я свой невялікі даклад заканчваю. Я выходзіў на гэту трыбуну з ясным разуменнем, што ў нас такія пытанні вырашаюцца неймаверна цяжка: занадта багатыя традыцыі нацыянальнага самаедства, занадта вялікая практыка барацьбы з нацыянальнымі беларускімі сімваламі і клейнотамі. Успомніце: нават за бяскрыўдныя малюнкі-вобразы роднай прыроды і стужкі-пасачкі з беларускім арнаментам, у дзень загукання вясны, у Траецкім прадмесці Менска тагачасныя амонаўцы збівалі дзяцей. І гэта было не так даўно — ужо ішла перабудова… Да таго ж вырашаць падобныя пытанні нам замінае ўсё яшчэ непераадолены страх: а ці не запрацуе зноў машына па фабрыкацыі «ворагаў народа», яна ж яшчэ дарэшты не зламана?!

Прымаць станоўчае рашэнне па такіх пытаннях цяжка і таму, што нам не хапае гістарычнай самасвядомасці і дзяржаўнага мыслення, дзяржаўнага самапачування. Наколькі мы ведаем і шануем сваю гісторыю, наколькі мы дзяржаўныя людзі — красамоўна сведчыць адзін факт. Мы адкрылі сваю нечарговую сесію ў дзень вялікага свята беларускага народа — і ніхто з нас, ні адна душа нават не ўспомніла пра гэта, і мы не павіншавалі ні саміх сабе, ні ўсіх грамадзян рэспублікі. Пра якое свята ідзе гаворка? Пра Свята ўз'яднання Беларусі і беларускага народа, сэрца якога на доўгі час было па-жывому разрэзана ўдзельнікамі бандыцкага Рыжскага дагавору.

Пакідаю трыбуну са спадзяваннем, што законапраект аб назве, Сцягу і Гербе Беларусі сёння стане Законам.

## НОВАЯ СІТУАЦЫЯ КАТЭГАРЫЧНА ПАТРАБУЕ

*Выступленне на Сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 17 снежня 1991 года*

Шаноўныя калегі-дэпутаты!

Наша нечарговая сесія пачынае працаваць у прынцыпова іншых палітычных умовах, чымся раней, — ва ўмовах дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Новая сітуацыя катэгарычна патрабуе ад кожнага з нас зверкі сваіх пазіцый і падыходаў да вырашэння тых ці іншых праблем з вымогамі часу. У прыватнасці, да вырашэння пытання аб рабочай мове Вярхоўнага Савета Рэспублікі.

Мы яшчэ далёка не ўсе зразумелі галоўнае, а іменна: мы не здзейснім, мы не зробім рэальным ніякі суверэнітэт, калі ўсе разам, незалежна ад нацыянальнага паходжання, не пачуемся беларусамі, патрыётамі гэтай зямлі, якім усё тут да святасці дарагое — і лясы-бары, і лугі-сенажаці, і нівы-палеткі, і рэкі-азёры, і нашы гарады і вёскі, а найперш і найбольш дарагое — душа гэтай зямлі — яе мова.

Гісторыя сведчыць пра адно жалезнае правіла, ад якога не было ніводнага адступлення: кожны народ, які хацеў дабіцца палітычнай і эканамічнай самастойнасці, дзяржаўнай незалежнасці — пачынаў з суверэнітэту духу, з усведамлення сваёй нацыянальнай непаўторнасці, са сцвярджэння ў самім сабе пачуцця нацыянальнай годнасці. Пачынаў з таго, што падымаў як сцяг, як светач, сваю родную мову, адкрываў на роднай мове школу, друкаваў кнігі, часопісы і газеты, пераводзіў справа-

водства, усталёўваў яе ў гандлі, у транспарце, у гаспадарцы, рабіў усё, каб яна гучала на кожным кроку, усюды і скрозь, каб кожны разумеў, што гэта і ёсць натуральнае становішча, што гэта ёсць галоўная перадумова эканамічнага і духоўнага адраджэння нацыі. Так у свой час пачыналі, становячыся на шлях дзяржаўнай незалежнасці, балгары, сербы, чэхі, славакі, фіны і многія-многія іншыя.

У такой гістарычнай сітуацыі вельмі многае залежыць ад таго, які прыклад паказваюць кіраўнікі дзяржавы, яе вярхоўныя ўлады. Вось чаму я заклікаю ўсіх вас, усіх, хто можа, хто дасканала ці не зусім дасканала, упэўнена ці не зусім упэўнена валодае беларускай мовай, перайсці ў сваёй рабоце тут на гэтую мову. Я разумею, што многіх стрымлівае ад такога кроку — пачуццё самазасцярогі, як бы не засведчыць свайго няўмення лёгка і складна гаварыць па-беларуску. Але ж я ведаю і тое, што многія дэпутаты зусім нядрэнна, нават вельмі добра валодаюць нашай дзяржаўнай мовай, аднак карыстацца ёю ў гэтай зале чамусьці не хочуць. Дазвольце ў такім разе напомніць і пра абавязак. Закон аб мовах у БССР, паводле якога беларуская мова абвешчана ў рэспубліцы дзяржаўнай, быў прыняты тут, на Сесіі Вярхоўнага Савета. Дык хто ж, калі не самі заканадаўцы, павінны даваць прыклад у выкананні законаў сваёй жа дзяржавы? Дарэчы, нашы выбаршчыкі гэта выдатна разумеюць, і ў друку, а таксама ў пісьмах, якімі літаральна закідваюць нашу Камісію, яны патрабуюць, каб беларускі парламент працаваў на беларускай мове. І так, няхай з сённяшняга дня шырэй і смялей гучыць у гэтай зале дзяржаўная мова суверэннай, незалежнай Беларусі!

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА І НАЦЫЯНАЛЬНА-ДЗЯРЖАЎНЫ СУВЕРЭНІТЭТ

*Выступленне на Рэспубліканскай канферэнцыі*
*19 мая 1992 года*

Шаноўная грамада!

На парадак дня канферэнцыі мы вынеслі пытанне, важнасць і актуальнасць якога не выклікаюць у нас сумнення. Мы глыбока перакананыя, што станаўленне і ўмацаванне Рэспублікі Беларусь як незалежнай дзяржавы немагчымыя без паспяховага вырашэння моўнай праблемы, іначай сказаць — без актыўнага ажыццяўлення прынятага два з гакам гады назад Закона аб мовах.

Для таго каб забяспечыць сабе дзяржаўнае самасцвярджэнне ў гэтым разнастайным свеце, народу неабходна мець адпаведнае самапачуванне, а менавіта — адчуванне сябе адзіным і поўным гаспадаром на сваёй зямлі, у сваёй уласнай краіне, неабходна мець — ні многа ні мала — зусім ясную і непахісна трывалую нацыянальную самасвядомасць. Некалі вялікі Янка Купала, чалавечна даверлівы, як і ўсе паэты, нават і вялікія, паспешліва абвясціў: «А мы самі сабе, самі ўжо гаспадары». Каб стаць сапраўднымі гаспадарамі і забяспечыць сабе нармальнае чалавечае жыццё, патрэбна перш за ўсё глыбока ўсвядоміць, што мы — гэта мы — народ са сваім уласным абліччам і ўласнай, жывой і несмяротнай, душою, і таму ў нас ёсць прыроднае, Богам дадзенае права на ўласны лёс, на незалежнае дзяржаўнае існаванне. Ідэя ўласнай дзяржаўнасці з векавечнай мары нашай павінна ператварыцца, нарэшце, у гістарычную рэальнасць, і дасягнём мы гэтага толькі пры адной умове — калі на нашай зямлі запануе яе ўласны прыродны голас, калі ва ўсім, што ёсць наша жыццё, наш грамадскі і сямейны быт, будзе праступаць, выяўляцца і свяціцца сваім непаўторным святлом Беларусь.

Беларусь, Беларусь! Калі ж мы ўсе, хто жыве пад яе высокім небам, зразумеем: без беларускага слова Беларусі няма і не можа быць. Без беларускага — удакладняю і падкрэсліваю — дзяржаўнага слова. Дзяржаўнага і яшчэ раз дзяржаўнага!.. За доўгія стагоддзі мы прывыклі, што нашай мове адводзілася зусім іншая роля — роля, якая асуджала яе на паступовае адміранне і пагібель. Небяспека гэтай яе смерці, а значыць, і смерці самой беларускай нацыі не адпадзе ні сёння, ні заўтра, калі яна, наша мова, не стане ў поўным сэнсе слова дзяржаўнай, такой, як руская ў Расіі, польская ў Польшчы, французская ў Францыі, балгарская ў Балгарыі і г. д.— аж да апошняй прызнанай светам дзяржавы: калі яна не запануе літаральна ва ўсіх сферах жыцця нашага народа, не будзе — свабодна і натуральна — гучаць паўсюдна і скрозь.

На вялікі жаль, я нават сказаў бы — на вельмі вялікі жаль, гэтай ісціны ніяк не хочуць зразумець многія і многія дзяржаўныя мужы нашы — і ў Вярхоўным Савеце Беларусі, у тым ліку ў яго прэзідыуме, і ва ўрадзе рэспублікі, і ў абласных, гарадскіх і раённых органах дзяржаўнага кіравання. Разумення, спрыяння і садзейнічання беларусізацыі Беларусі мала, а неразумення, пярэчання і перашкод, каб не сказаць адкрытага сабатажу, многа. Вельмі многа! На кожным кроку бачым і сутыкаемся з гэтым. Таксама, як і дзяржаўнікі, не пранікліся ідэяй адраджэння беларускай мовы, разуменнем яе ролі на сучасным этапе дзяржаўнага

будавання Беларусі і многія грамадскія дзеячы, прадстаўнікі палітычных арганізацый і партый, гэтаксама як і існуючых на Беларусі рэлігійных канфесій.

Але што хацець ад дзяржаўнікаў і палітыкаў, калі нават многія людзі з ліку творчай, мастацкай інтэлігенцыі, нават тыя, што з беларускага слова хлеб ядуць, не спяшаюцца павярнуцца душой і сэрцам да гэтага слова, паказаць прыклад карыстання ім, павагі да яго.

Усё гэта вельмі сумна і горка ўсведамляць, але хацеў бы спадзявацца, што ўсе гэтыя процістаянні справядлівасці будуць пераадолены. Як пісаў некалі У. Дубоўка: «У перашкодах дух расце!»

Ці ажыццяўляецца наш, прыняты з такімі цяжкасцямі Закон аб мовах — хоць трохі? Менавіта — толькі хоць трохі, і толькі ў пэўных сферах. Дзякуючы падтрымцы асобных патрыятычна настроеных мужоў дзяржаўных і дзейнасці пэўных грамадскіх арганізацый, у тым ліку, а можа быць і перш за ўсё, нашага Таварыства, яго найбольш самаахвярных сяброў, якіх нямала.

Такім чынам, задача задач — забяспечыць беларускай мове ў Беларусі сапраўднае дзяржаўнае становішча. Як, якім чынам гэта зрабіць хутчэй і лепш — давайце вось і пагаворым, давайце і выкажам свае меркаванні, прапановы, крытычныя і самакрытычныя заўвагі. І не трэба бянтэжыцца, што мы сабраліся ў такі незвычайны час, што мы будзем гаварыць пра мову — пра вечны хлеб для душы тады, калі ўсе сумленныя людзі страшэнна заклапочаны тым, ці будзе ў іх ужо літаральна заўтра хлеб надзённы, ці будзе чым пакарміць і ў што адзець дзяцей і сябе. Можа, якраз у гэтым і ёсць сіла і веліч духу народнага і вымовістае сведчанне нашай прыроднай жыццяздольнасці. Будзем верыць, што менавіта так і ёсць.

## КАЛІ БОЖЫ ХРАМ І НАРОД ЗАГАВОРАЦЬ АДНОЙ МОВАЙ

*Слова на адкрыцці навуковай акадэмічнай канферэнцыі, прысвечанай 1000-годдзю ўтварэння Полацкай епархіі 25 верасня 1992 года*

Тысячагадовы шлях, які прайшла Беларусь пад блаславенным сяйвом хрысціянскай веры, мы азіраем, вядома ж, не толькі для таго, каб паганарыцца мінулым або настальгічна

паўздыхаць па незваротна страчаным, а ў першую чаргу для таго, каб, дакрануўшыся душой да вытокаў, лепш зразумець сябе сённяшніх і лепш, ясней убачыць свой заўтрашні дзень — будучыню краіны, якой належым. Зрэшты, усе вялікія даўнія даты для таго і напамінаюць пра сябе, каб людзі і народы не забывалі пра свой абавязак — пройдзенае, пражытае, зробленае асэнсоўваць у гістарычнай перспектыве, з мэтанакіраваным паглядам у будучыню, з усведамленнем урокаў сваёй гістарычнай жыццядзейнасці. Тысячагоддзе праваслаўнай епархіі на землях Беларусі бясспрэчна такою вяхою для нас і з'яўляецца. Мы ўшаноўваем гэту дату з разуменнем той велізарнай ролі, якую адыграла праваслаўная царква, па-першае, у духоўным і культурным развіцці беларускага народа на пачатку крышталізацыі яго этнапсіхалогіі, нацыянальнай самасвядомасці, свайго ўласнага менталітэту, а па-другое — у станаўленні і ўмацаванні беларускай дзяржаўнасці — спярша ў абліччы Полацкага княства, а затым — у абліччы Вялікага княства Літоўскага.

На грунце высакароднай чалавекалюбнай хрысціянскай маралі ішло, з аднаго боку, пашырэнне пісьменства, кніжніцтва, школьнай асветы, прафесіянальнай мастацкай культуры на Беларусі, а з другога боку — адбывалася натуральнае фарміраванне дзяржаўна-патрыятычных поглядаў, боскае асвячэнне права на свой уласны дзяржаўны пасад між дзяржавамі. Ажыццяўленне гэтых дзвюх місій у іх непарыўнай спалучанасці было плённым і перспектыўным, аднак, толькі да таго часу, пакуль царква абапіралася на прыродныя духоўныя апоры народнага быцця — на адвечныя звычаі і традыцыі народа, на яго бытавую абраднасць, на яго незвычайна багаты фальклор, а ў першую чаргу — на мову гэтай зямлі, на жывую моўную стыхію, у якой усебакова выяўлялася душа народа. Калі ж гэтыя прыродныя апоры пачалі ігнаравацца і падменьвацца іншымі — тады і пачаліся нелады ў духоўным жыцці грамадства, і нарэшце наступіў той поўны драматызму разлад, вынікі якога з'яўляюцца для сённяшняй Беларускай праваслаўнай царквы цяжкай спадчынай. Я кажу аб праваслаўнай царкве, але сказанае цалкам стасуецца і да хрысціянскай царквы заходняй, каталіцкай.

Трагічны парадокс нашай гісторыі. Заклапочаная маральным станам і духоўным развіццём народа, царква намагалася палепшыць гэты стан і паспрыяць гэтаму развіццю, заняўшы пазіцыю адчужэння ад этнічных беларускіх асноў, ад першаэлементу нацыянальнай культуры — мовы беларускага народа, пайшоўшы на падтрымку імперскай палітыкі асіміляцыі, — будзем сёння гаварыць пра гэта шчыра, як ёсць.

Адсюль і тая ненармальная адсутнасць належнага духоўнага супрацоўніцтва творчай і навуковай беларускай інтэлігенцыі з царквою — з'ява, як вы разумееце, вельмі і вельмі непажаданая, бо ад гэтага церпіць агульная справа духоўнага адраджэння нацыі, маральная і палітычная стабільнасць нашага грамадства. Гэта ва ўсіх адносінах вельмі кепска, калі храм Божы і нацыянальна-патрыятычная інтэлігенцыя раз'яднаны. І асабліва кепска ва ўмовах станаўлення нашай Беларускай дзяржавы, якое рашуча вымагае кансалідацыі ўсіх грамадскіх сіл. Прыгадаем для прыкладу, якую незаменную ролю ў перыяд нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Балгарыі адыграла Балгарская праваслаўная царква: усе яе храмы і манастыры былі не толькі магутнымі асяродкамі захавання нацыянальнага духу, вогнішчамі балгарскай веры, але і асяродкамі барацьбы за нацыянальнае вызваленне. З ліку святароў выйшлі многія выдатныя дзеячы балгарскай літаратуры і мастацтва, і нават асобы, якія з'яўляюцца нацыянальнымі героямі Балгарыі.

Зразумела, што мы глядзім наперад і верым у скоры надыход часу, калі Божы храм і народ на Беларусі будуць гаварыць не рознымі мовамі, а адною — моваю гэтай зямлі, калі адраджэнне веры Хрыстовай у душах чалавечых у поўнай меры будзе супадаць з адраджэннем беларускай нацыянальнай і дзяржаўнай самастойнасці, беларускай мовы і культуры.

## З ГЭТЫМ І ПРАПАНУЕЦЦА ЎВАЙСЦІ Ў ГІСТОРЫЮ…

*Выступленне на Х сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 27 кастрычніка 1992 года*

І з гэтай трыбуны, і ў друку шмат разоў гучалі прапановы зрабіць дзяржаўнымі ў Рэспубліцы Беларусь дзве мовы — апрача беларускай яшчэ і рускую — і замацаваць гэта ў нашым Асноўным Законе — у Канстытуцыі. Дазвольце выказацца па гэтым пытанні і мне. Напачатку я хацеў бы нагадаць, якое значэнне надавалі мове тыя, хто вызначаў і ажыццяўляў на нашай беларускай зямлі дзяржаўную палітыку.

Сто з чвэрцю гадоў назад духоўны паплечнік Мураўёва-вешальніка, папячыцель Віленскай вучэбнай акругі Карнілаў пісаў, што ў справе абрусення, ці русіфікацыі, Паўночна-Заходняга краю (г. зн. Беларусі) сто тысяч рускіх штыкоў не зробяць таго, што зробіць адна руская школа. Геніяльна сказана! Лепш выказаць гэту жахлівую ісціну, бадай, немагчыма. Так:

ні сто тысяч штыкоў, ні сто тысяч бізуноў ці нагаек, ні сто тысяч кайданоў ці наручнікаў не зробяць таго, што зробіць адна школа!

Дарэчы, гэтую ісціну выдатна засвоіў і прымяніў на практыцы вядомы кіраўнік Польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі. Калі палавіна нашай краіны ў выніку палітычных махінацый дужэйшых суседзяў адышла паводле ганебнай Рыжскай умовы пад Польшчу, з чаго пачаў на акупаваных беларускіх землях Пілсудскі? З ліквідацыі беларускіх школ. За паўтара дзесятка гадоў ад многіх соцень беларускіх школ на ўсёй вялізнай тэрыторыі Заходняй Беларусі не засталося аніводнай! Паўтараю і падкрэсліваю — аніводнай. Падчыстую ўсе былі пераведзены на польскую мову, каб і напаміну пра Беларусь не было! Дзеля чаго ён гэта зрабіў? Дзеля таго, каб усіх дзетак беларусаў ператварыць у палякаў. Выхаваць чалавека з маленства ў польскай мове, у польскім духу, ды яшчэ абярнуць у каталіцкую веру, ды пераканаць, што польскасць вышэй за беларускасць, і ўсё гатова: застаецца перапісаць у пашпарце нацыянальнасць. І толькі. Так і рабілася…

У 30–60-я гады зачыняць беларускія школы ў Беларусі, а дакладней перарабляць іх на рускія, узяліся новыя гаспадары нашага лёсу — валадары Крамля і іх мясцовыя, тутэйшыя апрычнікі. Узяліся так самааддана, што калі б не вядомыя перамены ў жыцці, то прайшло б яшчэ гадоў 20–30 і апошняя з многіх тысяч беларускіх школ у Беларусі знікла б. Да гэтага ішло — няўхільна і поўным ходам, і ўсе мы з вамі з’яўляемся сведкамі нялюдскага працэсу. А ў імя чаго праводзілася ліквідацыя беларускіх школ на гэты раз? А ў імя ўсё той жа мэты: асіміляваць беларускі народ, для чаго напачатку трэба пазбавіць яго ўласнай мовы, а значыць — уласнага аблічча, вытравіць дарэшты нацыянальную самасвядомасць, і ён трохі-патрохі сыдзе з гістарычнай арэны ў небыццё.

Шаноўныя дэпутаты! Статус адзінай дзяржаўнай надаў беларускай мове Вярхоўны Савет папярэдняга склікання — гэтым ён і ўвойдзе ў гісторыю, хоць на мітынгах дэмакратаў яго называлі кансерватыўным. партыйна-наменклатурным і г. д. Цяпер у гэтай зале выспела іншая ідэя, з якою нашаму Вярхоўнаму Савету прапануецца ўвайсці ў гісторыю, а іменна — адабраць у беларускай мовы статус адзінай дзяржаўнай мовы і тым самым асудзіць яе на далейшы заняпад і прыгнечанне. Нам прапануецца зрабіць гэты замах на родную мову дэмакратычна — прыдушыць яе сваімі рукамі.

Кажуць, дзяржаўнае двухмоўе трэба ўвесці ў нас для таго, каб не пакрыўдзіць рускамоўнае насельніцтва. Але пра якую крыўду можа ісці гаворка? Давайце заглянем у дзейсны Закон аб мовах. Чытаю абзацы арт. 2-га: Рэспубліка Беларусь «забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін»; «рэспубліканскія і мясцовыя дзяржаўныя органы, прадпрыемствы, установы і грамадскія арганізацыі ствараюць грамадзянам Рэспублікі Беларусь неабходныя ўмовы для вывучэння беларускай і рускай моў і дасканалага валодання імі».

Кажуць, гэта трэба зрабіць, каб у нас, на Беларусі, не сталася так, як у Прыбалтыцы або ў Малдове, каб не давялося рускамоўным людзям уцякаць з Беларусі з прычыны няведання імі беларускай мовы. Шаноўныя дэпутаты і ўсе шаноўныя грамадзяне рэспублікі! Пакладзіце кожны руку на сэрца і скажыце: няўжо вы верыце ў гэтыя недарэчныя страхі? Ды не верыце вы ў гэта, і не верыце таму, што выдатна ведаеце: у нас на Беларусі на моўнай глебе не павінна дайсці да канфліктаў ужо хаця б таму, што мовы беларуская і руская — вельмі блізкія між сабой, практычна перакладчык — асабліва на бытавым узроўні — не патрабуецца, а хутка вывучыць ці хоць бы падвучыць беларускую мову для практычнага карыстання не здолее хіба чалавек разумова хворы. Навошта ж пераносіць і накладаць на Беларусь тое, што адбываецца там, дзе і моўная сітуацыя зусім іншая?

Кажуць, гэта трэба зрабіць, каб не пазбавіць беларусаў ведання рускай мовы і такім чынам не адарваць іх ад вялікай рускай культуры. Наконт абавязковага ведання рускай мовы мы ўжо гаварылі — яно гарантавана законамі. Што ж датычыць вялікай рускай культуры, то… навошта ж гэтак кепска думаць пра беларусаў? Хто-небудзь сур’ёзна дапускае, што мы адмовімся ад засваення культуры Пушкіна, Талстога, Дастаеўскага, Чэхава, Буніна? Як то кажуць: ну што ж — шчыра дзякуем у такім разе!..

Кажуць, на Беларусі двухмоўе натуральнае, прыроднае, і таму яго трэба падтрымаць заканадаўча. Але ж рэч у тым, што ніякага раўнапраўнага двухмоўя няма. Усё гэтак званае двухмоўе з кожным днём — на нашых вачах і з нашай дапамогай — пераходзіць у рускае аднамоўе. Ці, можа, хто-небудзь стане адмаўляць гэты відочны факт? І гэта пры тым, што руская мова не мела статуса дзяржаўнай. А калі ёй гэты статус надаць — адміранне беларускай мовы пойдзе яшчэ хутчэй. І не трэба жывіць ілюзій. І не трэба хітрыць. Беларуская мова даведзена да такога становішча,

што канкурэнцыі з другою дзяржаўнай мовай яна проста не вытрымае. У надта нераўнапраўных умовах яны сёння знаходзяцца. Спачатку трэба вярнуць правы мове гэтай зямлі, трэба, каб яна стала тут гаспадыняй, каб яна запанавала на Радзіме, загучала ўсюды і скрозь гэтак жа натуральна, як руская ў Расіі або польская ў Польшчы, — і тады я першы прагаласую за дзве і нават за тры і за чатыры дзяржаўныя мовы.

Нам трэба канчаткова пераадолець жалезную логіку той партыйна-наменклатурнай дамы, якая гаварыла: «Ну і што, што няма беларускіх школ і беларускай мовы, затое трактар «Беларусь» мы вывозім у 33 краіны». Лепш болей думаць пра такую логіку: калі б не было беларускай мовы — не ўзнікла б у 1918 г. БНР, а значыць — не было б БССР, не было б нашай Рэспублікі Беларусь, не было б, натуральна, і гэтага Вярхоўнага Савета, і мы з вамі не сядзелі б тут і не вялі б гэтых дыскусій.

Прапаную пытанне аб дзвюх дзяржаўных мовах вынесці на ўсенародны рэферэндум. Шаноўныя калегі! Уявім сабе, што наш нацыянальна недастаткова свядомы народ — у чым ён не вінаваты і ў чым яго папракаць няможна, — уявім, што ён прагаласуе за дзяржаўны статус рускай мовы, а гэта значыць — за няшчасную долю сваёй мовы роднай. Гэта будзе нешта такое, што самы раз памерці ад сораму. Гэта будзе ні на што ў свеце не падобнае. Гэта застанецца прыкладам усяленскай ганьбы на ўсю далейшую гісторыю чалавецтва. Ну што ж! Беларуская мова перажыла за тысячу гадоў тры уніі, забарону 1696 г., рэпрэсіўныя ўказы і пастановы пятроўскія, кацярынінскія, мікалаеўскія, валуеўскія, мураўёўскія, аляксандраўскія, забойчыя пастановы польскага сейма, з якімі змагаўся вялікі беларус Браніслаў Тарашкевіч, затым — удары ягодаўскія, яжоўскія, берыеўскія, сталінскія і г. д. І ўсё-такі яна выжывала. Вось я і думаю: калі наша мова перажыла такія жахлівыя рэпрэсіі — пераживе яна — калі ўжо да гэтага дойдзе — і рэферэндум. Але ўсё-такі будзе лепш, калі мы абыдземся без ганьбы. Дарэчы, аб гэтым просяць і сотні выбаршчыкаў у пісьмах, тэлеграмах і зваротах, якія паступаюць у нашу камісію. Толькі сёння прыйшлі такія звароты адразу ад некалькіх інстытутаў Акадэміі навук Беларусі.

Мае канкрэтныя прапановы, такім чынам, вынікаюць са сказанага: першая — не трэба ўводзіць у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь артыкул аб тым, што і руская мова ў Беларусі з'яўляецца дзяржаўнай, другая — з пачуцця элементарнай павагі да сябе не выносіць на ўсенародны рэферэндум пытанне аб наданні рускай мове на Беларусі статуса дзяржаўнай.

## УДУМЛІВА І АСЦЯРОЖНА: ГЭТА Ж — МОВА!..

*Слова на адкрыцці Рэспубліканскай канферэнцыі па пытаннях правапісу беларускай мовы*

Роўна два гады назад на адной рабочай нарадзе ў Савеце Міністраў рэспублікі нашай Акадэміі навук было даручана ўзяцца за падрыхтоўку рэспубліканскай навуковай канферэнцыі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы. Што прымусіла паставіць на парадак дня гэтае пытанне? Канешне ж, незадавальненне тым, што наша родная мова з кожным годам усё больш траціць сваё ўласнае, прыроднае — дадам: вельмі пекнае, чароўнае — аблічча. Усё часцей падступае ўражанне, як быццам на жывы, родны і мілы твар пачалі нацягваць чужую мёртвую маску. Для ўсіх, хто раней ці пазней прыняў да сэрца вялікі запавет Багушэвіча: «Не пакідайце ж… каб не ўмёрлі!», мірыцца з такімі стратамі далей стала немагчыма.

Адну з галоўных прычын гэтай бяды справядліва ўбачылі ў недасканаласці дзеючага правапісу, у яго няпоўнай адпаведнасці жывому гучанню мовы. Сапраўды, адна з галоўных прычын — у гэтым. Адна, але не ўсе. Што наша мова набыла і працягвае набываць аблічча, якое нас крыўдзіць, вінаваты не толькі правапіс. Вінаваты і лексіка, у якую без патрэбы хлынула безліч слоў з рускай мовы; і сінтаксіс — гэтая сапраўдная душа мовы, якую пачалі нявечыць не ўласцівымі ёй прыёмамі счаплення слоў і арганізацыі сказа; і фразеалогія — альбо проста жыўцом перанесеная з іншай моўнай стыхіі, альбо ў значнай меры падагнаная пад іншамоўную мадэль. Кожны з гэтых накірункаў — асобная праблема, і ўсе яны, як і некаторыя іншыя, таксама патрабуюць вырашэння, якое не будзе, вядома ж, ані хуткім, ані лёгкім. Таму спадзяюся, што наша сённяшняя канферэнцыя па адраджэнні беларускай мовы — першая, але не апошняя: давядзецца сыходзіцца яшчэ неаднойчы. На гэты ж раз мы заклапочаны станам нашага правапісу.

На акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі ў лістападзе 1926 г. Язэп Лёсік слушна, на мой погляд, гаварыў: «Правапіс — гэта законы, дысцыпліна, і, як кожны закон, правапіс што-небудзь абмяжоўвае, чаго-небудзь не дазваляе. Словам, правапіс — гэта тое самае, што парадак, законнасць і дысцыпліна ў грамадскім жыцці».

Літаратурная мова нацыі павінна быць забяспечана правапісам — гэта адназначна. Пытанне гэта намнога больш важнае, чым можа каму-небудзь здавацца, ды і здаецца.

Мы — за нацыянальную незалежнасць Беларусі, за яе дзяржаўную самастойнасць. У маім разуменні, адзін з самых дзейсных сродкаў у станаўленні дзяржаўнасці — дасканалая літаратурная мова, нармаваная, узаконеная, да таго ж — дзяржаўная, высокааўтарытэтная ў грамадстве. На вялікі жаль, тое, што сёння робіцца ў нас з нашай нармаванай літаратурнай мовай, іначай як безадказнасцю не назавеш. Ні пра якую павагу да яе гаварыць не даводзіцца. Больш чым наіўна думаць, што пры такім разнабоі ў правапісе, які сёння назіраецца ў беларускай прэсе, наша мова служыць станаўленню дзяржавы, умацаванню яе аўтарытэту ў вачах грамадскасці. На фоне небывалага развалу ў эканоміцы, у гаспадарцы, у сацыяльнай сферы развал у літаратурнай мове, можа быць, найбольш небяспечны. Па зразумелых прычынах ворагам беларушчыны, праціўнікам нашай незалежнасці даюцца падстава і правы гаварыць: калі вы, беларусы, нават самі не разберацеся, якая ваша мова, дык, можа, яе ў вас зусім няма, а значыць — няма і такой нацыі, такога асобнага славянскага народа? Пра якую ў такім разе незалежную Беларусь можа ісці гаворка?

Такога, што дазволілі мы, прычым у самы цяжкі перыяд станаўлення нашай незалежнасці, не дазволіла б сабе ні адна дзяржава ў свеце, нават з тых магутных, існаванню якіх нішто не пагражае. Гэта — адзін аспект праблемы — з пункту гледжання агульнапалітычнага.

Цяпер паглядзім на свавольнае абыходжанне з беларускім правапісам у прэсе з іншага боку. У Беларусі некалькі тысяч школ, сотні тэхнікумаў і вучылішчаў, дзесяткі ВНУ — і на кожным узроўні вывучаецца (ці пачынае вывучацца) беларуская мова. Апрача таго, створаны сотні гурткоў і курсаў па яе вывучэнні, што прадыктавана ўсё тымі ж дзяржаўнымі задачамі. Як быць усяму гэтаму народу, гэтым сотням тысяч людзей, якія жадаюць авалодаць беларускай літаратурнай мовай, — як ім быць, калі беларускія перыядычныя выданні, да якіх яны, натуральна, звяртаюцца, не могуць служыць ім дапаможнікамі? Адны пішуць так, другія сяк, трэція гэтак, чацвёртыя гэнак, пятыя — яшчэ як-небудзь. Якому беларускаму пісьму будзем вучыць дзяцей і дарослых, сваіх суайчыннікаў і тых замежнікаў, што цікавяцца беларускай мовай і культурай? Як засцерагчыся ад таго «школьнага хаосу», аб якім у прадмове да сваёй «Граматыкі» выдання 1929 г. папярэджваў слынны Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч?

Са зразумелых пазалінгвістычных меркаванняў некаторыя грамадзяне кіруюцца прынцыпам: абы як мага далей ад рускай

мовы, ад яе лексікі, марфалогіі і фанетыкі. Аддаленне як самамэта незалежна ад таго, на карысць гэта нашай літаратурнай мове ці не, паспрыяе гэта паляпшэнню яе функцыянавання ці не, паслужыць павышэнню яе эстэтычных вартасцей ці не. Карацей кажучы — паварот да процілеглай крайнасці ў дачыненні да таго, што рабілася ў 30-х гадах і пазней. Тады ў аснову работы над «удасканаленнем» правапісу нашай літаратурнай мовы клаліся ідэйна-палітычны і сацыяльна-класавы прынцыпы — мова павінна служыць, па-першае, збліжэнню і зліццю народаў і, па-другое, дыктатуры пралетарыяту; ну, а цяпер — ідэйна-палітычны прынцып застаецца, толькі з адваротным матэматычным знакам, ці што? Няўжо нас і мова не аб'яднае — без палітыкі і чыйго б там ні было дыктату?

Адна з найбольш радыкальных прапаноў, якая мае досыць шырокую падтрымку, асабліва сярод творчай інтэлігенцыі, — вярнуцца на 60 год назад і цалкам аднавіць правапіс Тарашкевіча, які дзейнічаў да нядобрай памяці 1933 г. Вядома, сёння мы вяртаем да жыцця многае — несправядліва ў свой час забытае, занядбанае, адрынутае. Вяртаем з мінулага, але самі ў мінулае не вяртаемся, ці, дакладней, самі мінулымі, колішнімі не становімся, бо гэта немагчыма, бо мы, хоць і вяртаем у душы сваё даўняе, адабранае, вытраўленае, усё ж застаёмся сённяшнімі і больш таго — імпэтна імкнёмся ў заўтра і глядзім далёка наперад. Таму хацелася б запрасіць да роздуму наконт некаторых, на мой погляд, відавочных ісцін.

Ад той пары, калі Б. Тарашкевіч складаў сваю знакамітую граматыку беларускай мовы, прайшло тры чвэрці стагоддзя. За гэты час шмат што моцна перамянілася ў нашым жыцці. Змяніліся і людзі, іх духоўны і маральны свет. А ці адбываліся змены ў мове — у самой жывой мове народа? Ці развівалася на працягу гэтых 75 гадоў мова? Думаю, адказ можа быць адназначны: бясспрэчна, развівалася. Вядома, мова належыць да катэгорый вечных, і адрэзак часу даўжынёй у тры чвэрці стагоддзя ўвогуле для яе гістарычнага жыцця невялікі. Гэта ўвогуле, але што датычыць беларускай сітуацыі, то тут трэба мець на ўвазе некаторыя асаблівыя акалічнасці.

Успомнім стан нашай агульнанацыянальнай літаратурнай мовы на пачатку XX стагоддзя. Па сутнасці, нядаўна пачаўшыся, адбываўся інтэнсіўны працэс яе фарміравання, з вядомых прычынаў моцна запознены ў параўнанні з мовамі іншых славянскіх народаў. Толькі-толькі пачалі выходзіць першыя беларускія газеты і іншыя выданні, адкрываліся першыя

беларускія школы. Пісалі тагачасныя аўтары — як хто ўмеў і як хто хацеў, звычайна — на сваім мясцовым дыялекце. Вядома, існавалі ўжо навуковыя працы Яўхіма Карскага і іншых рускіх і замежных даследчыкаў беларускай мовы; тым не менш той, хто браўся тады за складанне беларускай граматыкі, знаходзіўся ў вельмі цяжкіх умовах. Некаторыя моманты правапісу — скажам, напісанне слоў іншамоўных, слоў неславянскага паходжання — не закраналіся ў мовазнаўчых працах ніяк. Подзвіг Тарашкевіча — і навуковы, і грамадзянска-патрыятычны — бясспрэчны. Але ці значыць гэта, што аформлены ім правапіс, на які сам аўтар глядзеў самакрытычна, сёння трэба аднаўляць цалкам? Усе ж такі прайшло 75 гадоў, на працягу якіх над праблемамі правапісу думалі многія сумленныя і сур'ёзныя навукоўцы, а над самой літаратурнай мовай працавалі цэлыя пакаленні дасканалых майстроў слова — прызнаныя светам паэты і пісьменнікі.

Успомнім, што і паміж Традзьякоўскім і Пушкіным, часам, калі тварыў першы і калі тварыў другі, прайшло не больш за 75 гадоў, а якія вялізныя змены ў рускай літаратурнай мове адбыліся за гэты час! Проста дзве розныя эпохі ў гісторыі рускай мовы і літаратуры. Вядома, у дачыненні да беларускай літаратурнай мовы XX ст. пра дзве розныя эпохі не скажаш, аднак жа не бачыць ніякай розніцы паміж мовай эпохі Тарашкевіча і сучаснай нельга. Ці трэба нам закрэсліваць сучасны правапіс беларускай мовы як цалкам нягодны? Упэўнены, што ні ў якім разе гэтага рабіць нельга. Бо калі правапіс ёсць узаконеная норма літаратурнай мовы, дык тады трэба закрэсліць як нягодную і саму літаратурную мову. А яна ж служыла літаратуры, тэатру, і насуперак усяму і ўсякаму гвалтаванню служыла някепска. Дай Божа, каб у наступныя пяцьдзесят гадоў з'явіліся такія майстры слова, якіх аб'яднала яна ў папярэднім паўстагоддзі — у 30–80-я гады XX ст.: Чорны, Крапіва, Танк, Панчанка — з Міншчыны, Мележ — з Гомельшчыны, Куляшоў і Пысін — з Магілёўшчыны, Брыль — з Гродзеншчыны, Лынькоў, Караткевіч, Быкаў — з Віцебшчыны, Пестрак і Янішчыц — з Брэстчыны. І ўсім ім літаратурная мова служыла, а каму і сёння служыць як паслухмяны інструмент, і прэтэнзій ад іх на тое, каб радыкальна перайначыць, рэфармаваць правапіс, здаецца, не было. А ўжо ж каму, як не ім, было дадзена адчуць — ці добра, ці мілагучна, ці натуральна гучыць слова, фраза, сказ, ці дакладна і выразна выказваецца думка. Значыць, у аснове выбар быў зроблены

ўдала — выбар тых прынцыпаў правапісу, якія пакладзены ў яго аснову. Відочна, яны адлюстравалі тое самае галоўнае, сутнаснае ў нашай align рознадыялектнай жывой мове, што аказалася прымальным для ўсіх.

Ці азначае гэта, што наш правапіс зусім дасканалы і няма патрэбы яго варушыць? Не, вядома, не азначае. Але да справы ўдакладнення правапісу мы абавязаны падыходзіць вельмі асцярожна і ўдумліва, каб, жадаючы зрабіць лепш, не зрабіць горш. Трэба выправіць тое, самае галоўнае, што асабліва адмоўна адбілася на прыгожым натуральным гучанні нашай мовы, што прывяло да прыкрага спанявечання яе гучання.

А такія моманты ёсць. Пра адзін з іх гаварыў яшчэ на канферэнцыі 1926 г. праф. Растаргуеў: «Напісанне *звер, свет, цвет* і г. д. без «ь» будзе мець вынікам усваенне няправільнага вымаўлення падобных слоў». Так і сталася! Выбачайце, але нават некаторыя паэты і пісьменнікі — майстры слова — вымаўляюць *снег, свет, звер, цвет* замест *сьнег, сьвет, зьвер, цьвет*.

На той жа канферэнцыі многія гаварылі пра «эстэтычны бок нашае мовы, яе меладычнасць, эластычнасць», засцерагалі ад такіх правілаў, паводле якіх «будзе даволі брыдкая вымова, будзе аддаваць якімсьці дысанансам, чаго, фактычна кажучы, няма ў жывой беларускай народнай мове». Мне асабіста імпануе менавіта такі падыход да справы ўдакладнення нашага правапісу.

Дарагія сябры!

Нам, беларусам, як народу вялікаму самім Богам дадзена і вялікае багацце — наша цудоўная мова. Будзем жа помніць аб гэтым! І будзем клапаціцца, каб гэтае багацце, гэты неацэнны скарб не пускаць па ветры, а зберагаць і памнажаць усямерна.

Усведамленне гэтага патрабуе ад нас з павагай ставіцца да думкі кожнага, хто зацікаўлены ў лёсе нашай мовы, калі нават гэтая думка і палярна процілеглая нейкай іншай. Будзем помніць, што небяспека для мовы зыходзіць не ад тых, хто шчыра аб ёй клапоціцца, а ад тых, хто да яе лёсу раўнадушны ці горш таго — хто ёй адмаўляе ў праве на жыццё наогул.

*Снежань 1992 г.*

## ІДЭЯ СПРАВЯДЛІВАЯ І НЕСМЯРОТНАЯ
*Слова на адкрыцці ўрачыстага сходу ў гонар 75-й гадавіны абвяшчэння БНР 25 сакавіка 1993 года*

Шаноўная грамада!

Мы сабраліся, каб адзначыць 75-ю гадавіну абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. І дазвольце мне перш за ўсё сказаць вам: «Са святам, дарагія людзі! З вялікім нацыянальным святам!..» На працягу многіх дзесяцігоддзяў гэта несумненна выдатная ў гісторыі нашага народа падзея падвяргалася безагаворачна негатыўнай ацэнцы, па сутнасці, рэзка і груба адмаўлялася як нібыта антынародная, варожая карэнным інтарэсам працоўных Беларусі. Адмаўленне гэтае тлумачылася ў першую чаргу артадаксальна класавай і вялікадзяржаўнай імперскай пазіцыяй крамлёўскага ўрада, які навязваў свой погляд і гуманітарыям-навукоўцам, і шырокім колам грамадскасці ў якасці абавязковага. Якое б то ні было адступленне ад афіцыйнага погляду не дапускалася, фактычна, пытанне лічылася недыскусійным. У выніку — грамадская думка знаходзілася ў аблудзе, праўдзівая гісторыя БНР ад народа хавалася. Шкода ад гэтага грамадству чынілася вялікая, як і заўсёды, калі праўда топчацца, а хлусня перамагае. Што ж, нашы адносіны да сваёй уласнай гісторыі, наша здольнасць чарніць і закрэсліваць яе — ужо даўно набылі ў свеце сумную, ганебную для нас, вядомасць. Тое, чым трэба ганарыцца, — мы прыніжаем і аплёўваем. Тое, што павінна аб'ядноўваць і гуртаваць нацыю, — у нас працуе на адчужэнне і канфрантацыю. Нават такія трагедыі, як Хатынь. Нават такія векапомныя даты, як дзень абвяшчэння БНР.

І ўсё ж — час ідзе наперад і робіць сваю справу. Беларусь стала незалежнай дзяржавай і ў якасці такой прызнана амаль усім светам. Паявілася магчымасць глянуць на Акт 25-га сакавіка 1918 года непрадузята, аб'ектыўна, вачыма людзей, якім дарагая праўда аб станаўленні сваёй уласнай дзяржавы, якой бы складанай і заблытанай, якой бы горкай і драматычнай гэтая праўда ні была. Сёння трэба надта ж не хацець прызнаць гэту праўду, а галоўнае — надта ж не хацець прызнаць новую гістарычную рэальнасць, новую незалежную дзяржаву на палітычнай карце Еўропы, — каб не бачыць бясспрэчна прагрэсіўны сэнс таго, што было здзейснена ў сакавіку 1918-га на Беларусі.

Утварэнне БНР было лёсавызначальным момантам у адраджэнні беларускай нацыянальнай ідэі, у станаўленні беларускай дзяржаўнасці. І калі мы, грамадзяне Беларусі, з пачуццём

годнасці і гордасці вітаем сёння сваю вольную незалежную Дзяржаву, дык жа мусім разумець і помніць, што гэтае радасці, напэўна, не прыйшлося б нам зведаць, калі б не той далёкі пачатак, калі б не тая першая вяха на доўгім і пакутным шляху да перамогі справядлівасці. Ясней чым ясна, што без абвяшчэння незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі не магла б узнікнуць БССР. Ведаючы, якія былі адносіны да беларускай ідэі з боку Мяснікова, Кнорына, Ландэра і іншых кіраўнікоў бальшавіцкай дыктатуры на Беларусі, можна быць пэўнымі, што пра самастойную Беларускую Дзяржаву — хай сабе і савецкую і сацыялістычную — і гаворкі б у Крамлі не было. У сітуацыі ж, калі паявілася і была прызнана некаторымі дзяржавамі БНР, не даць вышэйшага дазволу на ўтварэнне БССР было немагчыма.

Хоць БССР як дзяржава і была моцна абмежаваная ў паўнамоцтвах, тым не менш — ідэя дзяржаўнасці, так бы мовіць, цеплілася і трымалася як душа ў целе, і рэспубліка нават была прынята ў ААН, нават стала членам-заснавальнікам гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі. Што і казаць: гэтая акалічнасць нам добра памагла цяпер, на новым этапе нашага адраджэння, калі яе вялікасць гісторыя яшчэ раз дала нам шанц — канешне ж, апошні раз, апошні шанц — уваскрэснуць і навекі заняць «свой пачэсны пасад між народамі». Будзем жа паслядоўнымі: калі мы вітаем сённяшнюю Рэспубліку Беларусь — дык аддадзім належнае БНР і тым людзям, якія ў неверагодна складаных умовах яе ўтварылі, аддадзім належнае іх палітычнай і дзяржаўнай мудрасці, іх геніяльнаму адчуванню гістарычнага моманту і прарочай празорлівасці. На жаль, быць удзячнымі сваім вялікім папярэднікам мы не ўмеем, усё яшчэ не навучыліся. Да гэтага часу, да сённяшняга дня паўтараюцца старыя і плятуцца новыя брудныя плёткі і пра БНР і пра яе творцаў. Пры гэтым даходзіць да нечуванага цынізму, калі ў гэту марную і звышняўдзячную справу ўцягваецца імя Янкі Купалы, калі пад брутальную паклёпніцкую пісаніну падвёрстваюцца чыстыя і светлыя радкі вялікага паэта. Удумацца толькі: Янку Купалу, буйнейшага ідэолага і сцяганосца беларускага нацыянальнага адраджэння, Купалу, які будзіў і клікаў усю Беларусь «на вялікі сход» і дарыў першым беларускім жаўнерам свае натхнёныя «ваяцкія» песні, сённяшнія мяснікоўцы і кнорынцы цытуюць у сваіх чорных падваротных лістках як свайго паплечніка ў барацьбе супроць незалежнай Беларусі! Як быццам у іх шэрагах не хапае вартых гэтай «высакароднай» справы сучасных «талентаў»!

Стваральнікі БНР не былі выразнікамі класавых інтарэсаў беларускай буржуазіі, памешчыкаў і капіталістаў. Бо і самі яны, за нязначным выняткам, былі дзецьмі мужыцкай вёскі, дробнай шляхты, рабочых ускраін горада, рамеснікаў і чыгуначнікаў, прыгнечанай нацыянальнай інтэлігенцыі. Лёс амаль кожнага з іх склаўся далей трагічна — і тых, хто ў сярэдзіне 20-х паверыў у БССР як у здабытую нарэшце Бацькаўшчыну, і тых, хто такога даверу да сталінскіх апрычнікаў на Беларусі не выказаў. Лёсы іх, паўтараю, — адна з самых трагічных старонак нашай гісторыі. Старонак, аб'ектыўнае даследаванне якіх яшчэ толькі пачынаецца.

Галоўнае пытанне, якое стала водападзелам у беларускай гістарыяграфіі XX стагоддзя, — было ці не было ўтварэнне БНР выяўленнем волі беларускага народа? Сёння на гэта пытанне можна адказаць зусім адназначна: было! Бясспрэчна, было! БНР, яе праграма і яе ўрад зарадзіліся ў нетрах Усебеларускага з'езда, на які сабраліся звыш 1800 дэлегатаў з усіх этнічных куточкаў Беларусі. Не купка адшчапенцаў і здраднікаў беларускага народа, як дагэтуль лямантуюць нашы «добразычліўцы», а без мала 2000 сыноў і дачок Бацькаўшчыны, пераважна ў салдацкіх шынялях і сялянскіх світках, шчырыя ў сваёй любові да Беларусі і самаахвярныя, — з адзіным наказам: ажыццявіць нарэшце адвечную запаветную мару беларускага народа — стварыць сваю дзяржаву, каб «людзьмі звацца». Гэта быў незвычайны парыў разбуджанага народнага духу, — такі парыў, якога пасля ўжо не было ніколі. Знаць, багаславёная зямля наша, калі так хутка, амаль імгненна, азваліся на покліч жыцця і часу тысячы яе шчырых руплiўцаў, заступнікаў і абаронцаў. Амаль усе яны пазней былі пакараны, загублены ці асуджаны на пакуты, а ўся «віна» іх перад гісторыяй Беларусі ў тым, што яны мацней чым іншыя любілі Бацькаўшчыну, глыбей разумелі яе трагічны лёс, ясней і лепш бачылі яе шляхі да запаветнай будучыні. Гэта былі людзі, якія і пасля, пазней, і на страшнай галгофе душы, услед за сваім паэтам, маглі горка выдыхнуць: «Мне сняцца сны аб Беларусі». Тое, чаго ніколі не маглі і не могуць сказаць мяснікоўцы і кнорынцы.

Адсюль і розніца ў падыходах да ўзнікнення Беларускай дзяржавы. Ці мы яе створым самі і так, як хочам, адпаведна нашым уласным ідэалам, ці атрымаем яе з нейчых рук гатовую і такую, з такою доляй свабоды і незалежнасці, наколькі хопіць спагады і шчодрасці панам-дабрадзеям. Ідэя БНР не была навязана зверху або інспірыравана аднекуль збоку, з пазамежжа. Яна была прадыктавана самім ходам народнага жыцця-быцця як гістарычная

непазбежнасць. І яна вынікла, яна паўстала, яна, калі хочаце, выбухнула з той магмы гневу і крыўды, якая з цягам стагоддзяў збіралася, і кіпела, і бурна клекатала ў неабсяжнай і бяздоннай душы народнай. Яна, гэтая ідэя, адбылася, здзейснілася як неадменны гістарычны факт. Таму адмаўляць яе або перакрэсліваць яе значэнне — проста неразумна, відочная недарэчнасць. Так, ідэя БНР рэалізавалася ў прасторы гістарычнага часу не поўнасцю, у тых варунках яна і не магла рэалізавацца ва ўсёй сваёй велічнай задуме. І аднак жа значэнне яе ў жыццёвым лёсе беларускага народа — велізарнейшае і непераходнае, урокі яе і сягоння, я сказаў бы — асабліва сягоння, і жыватворныя і дарагія. Дарагія і ў самым простым сэнсе слова — яны надта дорага каштавалі нашаму народу, яны аплачаны пакутамі і жыццём тысяч і тысяч лепшых грамадзян Айчыны. Пры гэтым хацеў бы падкрэсліць наступнае. Калі людзі за ідэю ідуць на вялікія пакуты, на катаргу, у канцлагер і на расстрэл, на смерць — дык мусіць жа, гэта ідэя нечага варта! І калі гэту ідэю так стараліся, а яшчэ і сёння стараюцца задушыць — значыць, яе баяцца, значыць, яна для «ворагаў беларушчыны» страшная! І калі гэту ідэю столькі кляймілі, абражалі, заганялі ў падполле — а сэрцы людскія цягнуцца да яе ўсё больш і больш, і пры гэтым усё больш распрастваюцца, і дужэюць, і акрыляюцца, — значыць, яна і добрая, і справядлівая, і несмяротная. А ўкладваецца ўсяго ў два звычайныя словы: жыве Беларусь!

## ПАЧАТАК ВЯЛІКАГА ПАЧАТКУ

*Слова на Першым з’ездзе беларусаў свету 8 ліпеня 1993 года*

Паважаныя дэлегаты і госці з’езда! Мне выпаў гонар ад імя сяброў Таварыства беларускай мовы вітаць вас і віншаваць з вялікай падзеяй у гісторыі нашага народа — Першым сусветным з’ездам беларусаў.

Хаця маё слова і прывітальнае, але наш з’езд — гэта не толькі свята, а перш за ўсё — работа, і таму дазвольце мне выказаць некалькі думак не зусім святочных.

Галоўная ідэя з’езда — аб’яднаўчая. Гэта наша першая спроба сабрацца разам, з усяе зямное кулі, каб пагаварыць пра тыя супольныя задачы, што выніклі перад усімі намі ў лёсавызначальны для нашай Бацькаўшчыны час. Сэнс іх, гэтых задач, зводзіцца да аднаго: практычна забяспечыць тое, што абвешчана дэкларатыўна, — пабудаваць свабодную, дэмакра-

тычную, суверэнную дзяржаву Беларусь. Значыць, нам ёсць у імя чаго аб'ядноўвацца, ёсць той найсвяцейшы алтар, каб на яго пакласці свае найдарагія ахвяраванні: лепшыя сілы душы і сэрца, а калі трэба, і само жыццё. Не будзем утойваць: згуртаванню нашых сіл перашкаджаюць не толькі аб'ектыўныя ўмовы, але і пэўныя прычыны суб'ектыўнага парадку. Перашкаджае наша негатоўнасць да гэтага на ўзроўні свядомасці, псіхалогіі, палітычнай і агульнай культуры.

Ідэя нацыянальнага адраджэння Беларусі — ідэя перш за ўсё патрыятычная, родалюбная і, вядома ж, усенародная.

Ніхто ў паасобку не мае манапольнага права на беларускі патрыятызм. Між тым, ёсць, я сказаў бы, сектанты, якія хацелі б адлучыць некаторых грамадзян ад права клапаціцца пра наша нацыянальнае Адраджэнне. Маўляў — вы трымаліся асуджаных часам перакананняў і поглядаў, і таму цяпер мы абыдземся без вас. Цяжка прыдумаць нешта больш неразумнае, чым такая пазіцыя.

У пошуках шляхоў станаўлення нашай незалежнай дзяржавы трэба помніць, што цяпер кожны памылковы крок можа вельмі дорага нам абысціся, іншы крок можа аказацца катастрафічна непапраўным. Для Беларусі, для беларусаў наступіў самім Богам наканаваны час збіраць камяні… Дагэтуль не толькі нашы нядобразычліўцы, але, здаецца, і мы самі ж рабілі ўсё магчымае, а нават і немагчымае, каб разрозніць беларусаў між сабой, каб адчужыць і аддаліць беларуса ад Беларусі. Хочацца верыць, што нарэшце з гэтым нашым самаедствам мы канчаем назаўсёды.

Клопат пра беларускае нацыянальнае адраджэнне доўгі час бралі на сябе пераважна прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі. Сёння сітуацыя істотна мяняецца — да ідэі адраджэння далучаюцца людзі з усіх іншых сфер грамадскага жыцця. І аднак жа — задачай задач застаецца: абудзіць, разбудзіць ад нацыянальнай спячкі ўвесь беларускі народ — павярнуць усіх грамадзян нашых да вялікай ідэі адраджэння Беларусі. Зрабіць так, каб літаральна кожны беларус усвядоміў, што і ад яго залежыць будучыня Бацькаўшчыны, і гэта ўсведамленне зрабіў сваім найпершым, сваім святым абавязкам. Каб кожны як малітву штодня сабе паўтараў: я павінен жыць і працаваць так, каб маёй Беларусі было лепш, каб яна багацела і дужэла, расла духоўна і набывала ўсё больш высокі аўтарытэт у свеце.

На вялікі жаль, і ў нашым парламенце, і ва ўрадзе, і ў іншых дзяржаўных і недзяржаўных структурах супроць лініі на станаўленне суверэннай, незалежнай, нейтральнай, бяз'ядзернай Беларускай Дзяржавы выступаюць не толькі даўнія, загартава-

ныя і асатанелыя «ворагі беларушчыны» (Купала), але і некаторыя дэмакраты, прыхільнікі і абаронцы эканамічных рэформ. Што гэта значыць? Гэта значыць, што па-ранейшаму Беларуская ідэя яшчэ не стала галоўнай аб'ядноўчай сілай — і ў гэтым найвялікшая наша бяда. Гаварыў неаднойчы і скажу яшчэ раз з гэтай высокай трыбуны: наша дзяржава яшчэ далёка не стала ў поўным сэнсе слова беларускай дзяржавай. Нам гэта яшчэ належыць зрабіць. І гэта стане тады, калі беларускімі пачуюцца нашы парламент і ўрад. Вядома, рэч не толькі ў мове, і аднак жа — перш за ўсё і сто разоў перш за ўсё — у мове! Толькі тады, калі ўсе да адной паперы і паперкі з Вярхоўнай Рады і з Рады Міністраў пойдуць на беларускай мове, — толькі тады мы зможам нарэшце шчасліва ўздыхнуць і сказаць: Пачалося! Авэ Беларусь!.. Просіцца на абвяшчэнне адно параўнанне. Ніколі гэты дом, наш Вялікі тэатр, так не поўніўся роднымі гукамі, роднымі словамі, роднымі галасамі, як сёння. Дык вось, не ведаю, ці судзіць мне доля дажыць, але быў бы бязмежна шчаслівы пачуць аднойчы, што ўся Беларусь, уся зямля наша, як гэты дом сёння, поўніцца роднымі гукамі, словамі, галасамі! Што для гэтага мы павінны рабіць і зрабіць? Усё, каб яўныя і замаскаваныя антыбеларускія сілы ў Беларусі пацярпелі поўны крах. Упэўнены, што гэта пытанне часу. Мы не дазволім ужо, каб наш народ і краіна зноў былі адкінуты далёка назад!..

Вядома, ад многіх дзяржаўных людзей у нас наўрад ці можна чакаць, што яны аднойчы зразумеюць трагічны лёс беларускага народа і павернуцца душой да нашых жыццёвых клопатаў. Але не яны надалей будуць задаваць тон і прадвызначаць магістральны кірунак развіцця нашай дзяржавы. Хоць сітуацыя і застаецца складанай, нават вельмі складанай, адбываецца мабілізацыя здаровых грамадскіх сіл — як у Беларусі, так і за яе межамі, там, дзе жывуць беларусы. Нарастае палітычная, маральная і матэрыяльная падтрымка ў справе нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Нарастае і дужэе наша вера ў тое, што на гэты раз ашукаць нас нікому не ўдасца, і мы ўжо не выпусцім з рук сваю ўласную долю.

Карыстаюся выпадкам і выказваю шчырую падзяку ўсім грамадзянам Беларусі і ўсім нашым замежным суайчыннікам, якія падтрымліваюць Таварыства беларускай мовы і супрацоўнічаюць з намі.

Дарагія людзі, яшчэ раз віншую вас з пачаткам вялікага Пачатку і ад усяго сэрца зычу вам поспехаў у працы.

Жыве Беларусь!

# КУРС НА СТРАТУ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

*Выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 18 лістапада 1993 года*

Тут была заява, што гэта пытанне хочуць абмяркоўваць адно дэпутаты з апазіцыі — члены БНФ ды Грамады. Я не належу ні да БНФ, ні да Грамады, ні да якой-небудзь іншай партыі. Не належу і не збіраюся належаць. Але я належу да народа, які тут жыў, жыве і будзе жыць і які заслугоўвае іншай долі, чым тая, якую меў у стагоддзях, калі з яго воляй ніхто не лічыўся, да народа, які мае права, Богам данае права, быць і пачувацца гаспадаром на гэтай зямлі, на сваёй роднай зямлі — іншай у яго няма. І таму зразумець маю трывогу ў гэту хвіліну, думаю, няцяжка.

Нельга недаацэньваць момант, які мы зараз перажываем — бо ён можа аказацца лёсавызначальным, ён можа стаць пачаткам канца — канца таго, да чаго мы так доўга ішлі — да суверэннасці, да незалежнасці. І што ж прымушае многіх з нас, сыны і дочкі Беларусі, так легкадумна ставіцца да лёсу сваёй Бацькаўшчыны? Аналітычныя разборы сітуацыі — не рытарычныя пытанні, што тут прагучалі, — а аналітычныя разборы, зробленыя людзьмі, дасведчанымі ў эканоміцы, у фінансава-грашовых справах, пацвярджаюць, што сама па сабе ратыфікацыя гэтага пагаднення нам нічога не дасць — ніякіх канкрэтных эканамічных выгад. Што нам замінае гандляваць з Расіяй, з іншымі краінамі, супрацоўнічаць, устанаўліваць і развіваць эканамічныя сувязі? Нішто не замінае. Калі ласка! Давайце дамаўляцца — і аб рэсурсах, і аб цэнах, і аб мытні, і аб усім іншым. Я не веру, што няма іншага выйсця апрача як ратыфікаваць сёння ж гэтае пагадненне. На што нам гэта аб’яднанне грашовых сістэм? І не трэба галасаваць за яго. Не трэба. Устрымайцеся сёння, шаноўныя дэпутаты. Калі мы толькі ступім на гэты шлях, час пакажа і пераканае, што гэта шлях да здрады нацыянальных інтарэсаў, да страты эканамічнай суверэннасці і дзяржаўнай незалежнасці.

І што ж гэта, скажыце, за доля такая, што мы самі, самі паступаемся здабытым правам? Усе людзі ў свеце ва ўсіх краінах радуюцца здабытаму праву самастойна вырашаць свой лёс, ганарацца гэтым правам, змагаюцца за ўмацаванне суверэнітэту. А мы? А мы, як апошнія недарэкі, хочам бяздумна пазбавіцца суверэннасці, хочам добраахвотна стаць дамініёнам магутнай суседняй дзяржавы! І гэта тады, калі ўвесь свет прызнаў Рэспубліку Беларусь як незалежную дзяржаву!

Я пакідаю трыбуну з надзеяй, што ў вашых сэрцах у гэты момант пераможа пачуццё клопату за лёс Беларусі і пачуццё нацыянальнай годнасці.

## ПРА НАШУ ЧАЛАВЕЧУЮ І НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ГОДНАСЦЬ

*Выступленне на XI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі*
*27 красавіка 1994 года*

Паважаныя калегі!

Мы зноў, як і мінулы раз, сабраліся ў жалобныя дні ўгодкаў чарнобыльскай трагедыі. Думаю, што гэты наш незагойны боль дадаткова абавязвае нас весці размову пра рэчы першаступеннай важнасці. Вядома, на з'ездзе пісьменнікаў трэба гаварыць пра літаратуру, пра творчыя набыткі апошняга часу, пра новыя цікавыя кнігі, новыя імёны. Гэта натуральна. Літаратура — наша жыццё, наш прафесійны клопат, наш адметны ад іншых спосаб рэалізацыі сваіх прыродных, з Божай ласкі, магчымасцей, кажучы высокім стылем — наш спосаб служэння Бацькаўшчыне. І калі нешта характэрнае пра сённяшні дзень нашай літаратуры будзе з трыбуны з'езда сказана — то дай Божа! Гэта будзе вельмі добра.

Асабіста я мушу некалькі слоў сказаць пра нашу чалавечую і нацыянальную годнасць. Увогуле пра гэта мы гаворым шмат — і ў прэсе, і па радыё, і з блакітнага экрана. Вядома ж, і ў мастацкіх рэчах таксама. Але нярэдка гаворым з нейкім перакосам, змяшчаючы акцэнты з момантаў прыватных на агульнае, на ўсё супольнае мноства.

Іншы раз мы так абагульняем, як быццам нацыянальнай годнасці ў нас, беларусаў, няма наогул, у тым ліку — і ў нашым пісьменніцкім асяроддзі. Але ж гэта няпраўда! Ёсць яно ў нас, пачуццё ўласнай годнасці, ёсць — і самапрыніжэннем, ці, прабачце, самааплёўваннем, займацца не трэба. Ва ўсякім разе, у народзе, у бальшыні нашых простых людзей, гэтага пачуцця дастаткова, — намнога больш, чым некаторыя думаюць.

Годнасці — і чалавечай, і нацыянальнай — бракуе не народу, а тым, хто яго ашуквае, хто яго абдзірае да апошняй ніткі, хто на яго страшным збядненні, на нястачах і паўгалодным існаванні, на знясіленні і хваробах ладзіць сабе раскошнае жыццё, будуе сабе белакаменныя палацы, скупляе дзяржаўную, г. зн. народную, маёмасць.

Годнасці бракуе тым, хто, узурпіраваўшы ўладу, прыкладае сёння намаганні, каб пазбавіць наш народ права самастойна распараджацца сваім жыццём, сваім лёсам.

У сувязі са сказаным вельмі хацелася б, каб у гэтай зале нічый голас не сарваўся на ўзровень, што ніжэй пісьменніцкай і чалавечай годнасці, на тое прыватна-дробязнае, што нашага брата, проста кажучы, не ўпрыгожвае. Давайце пазбегнем гэтага — хоць бы перад тварам той небяспекі, аб якой я толькі што гаварыў. Той вялікай небяспекі, якая можа стаць для нашага народа вялікай бядой, — калі яе не адолець, не адхіліць агульнымі сіламі.

Сёння ўжо можна з усёй пэўнасцю сказаць, што мы паспяшаліся парадавацца таму, як лёгка нам дастаўся дзяржаўны суверэнітэт. Так бы мовіць: перамога без бою. Па-першае, няпраўда, што лёгка. Да гэтай гістарычнай падзеі — абвяшчэння Беларусі незалежнай дзяржавай — наш народ ішоў стагоддзі, і ішоў праз незлічоныя выпрабаванні, пакуты і ахвяры, і праз бітвы таксама. Па-другое, палітычная сітуацыя складваецца ў краіне такая, што ўсе цяжкасці і выпрабаванні, без якіх не здабываецца свабода, могуць нас чакаць наперадзе і ў самы блізкі час, таму што сілы супраціўлення незалежнаму становішчу Беларусі не змірыліся і прымаюць рашучыя дзеянні, каб павярнуць кола гісторыі назад. Пры гэтым дэманструецца нейкая, я сказаў бы, цынічная клаунада, калі ўсю грамаду народу прымаюць за малых някемных дзяцей.

Ну сапраўды: перадаць пад верхавенства іншай дзяржавы сваю ўласную грашовую сістэму, свой нацыянальны бюджэт, мытную сістэму, адмовіцца ад сваёй уласнай валюты, зрабіць свой Нацыянальны банк філіялам Нацыянальнага банка гэтай іншай дзяржавы — і пасля гэтага з усіх трыбун заяўляць, што суверэнітэт нашай рэспублікі ні трохі ад гэтых антыдзяржаўных акцый не пацерпіць і што ўсё гэта ў нацыянальных інтарэсах Беларусі!

Іншымі словамі: ідзіце добраахвотна ў няволю — там вам будзе лепш. Пры гэтым — растапчыце ўласную, толькі што прынятую Канстытуцыю. І гэта пасля таго, як нашу незалежную суверэнную дзяржаву прызнаў і прывітаў амаль увесь свет!..

Ні ў кога не павінна заставацца сумненняў, што задумана інкарпарацыя Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі. Калі нашы дзяржаўныя мужы адкрыта не гавораць пра гэта — пра палітычны вынік падпісання маскоўскага дагавору, — то многія расійскія палітыкі і журналісты ніякага сакрэту з гэтага не робяць і пляскаюць у ладкі, што Расія і Беларусь аб'ядноўваюцца

ў адну дзяржаву — як некалі Вялікае княства і Польшча ў Рэч Паспалітую.

Ведаю, што публічныя звароты інтэлігенцыі да нашага беднага народа, у якога выматалі ўсю душу, сёння ім ужо не ўспрымаюцца, людзі страцілі да іх чуйнасць. І тым не менш, лічу, што наш з'езд павінен у гэтай палітычнай сітуацыі зрабіць адпаведны зварот да ўсёй грамадскасці рэспублікі.

Мы павінны звярнуцца да народа з заклікам, каб ён пастаяў за сваю нацыянальную годнасць, не даў растаптаць яе. У гэтым жа звароце адрасавацца і да грамадзян Расіі, да рускай інтэлігенцыі ў першую чаргу — са спадзяваннем, што нашы рускія браты зразумеюць і падтрымаюць нас. Падтрымаюць і тым самым засведчаць сваю добрую волю, сваю шляхетнасць і сваю братнюю павагу да Беларусі.

На гэтым я і канчаю сваё слова. Калі хто паспеў падумаць: «а што ж ён на гэты раз нічога пра нашу родную мову не сказаў», то паспяшаўся. Скажу і пра мову. Праўда, толькі адну фразу. Дакладней — адно да вас усіх пытанне: ці чулі вы, каб дзе-небудзь у свеце прэзідэнт незалежнай дзяржавы не валодаў дзяржаўнай мовай гэтай сваёй дзяржавы — мовай народа, якому ён бацька і правадыр? Калі нам, беларусам, не хапіла зведанай за стагоддзі ганьбы — то мы можам зведаць яшчэ і гэткую.

## З МАНКУРЦТВАМ — У ЦЫВІЛІЗАВАНЫ СВЕТ?

*Слова на адкрыцці нацыянальнай навуковай канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты»*

Шаноўныя калегі!

Мы сабраліся з вамі ў гэтай утульнай зале, каб разам, агульнымі намаганнямі даць навуковае асвятленне таго, што вынесена ў назву канферэнцыі. Пытанне гэта, як бачна з раздадзенай вам праграмы, будзе разглядацца ў трох аспектах: гістарычным, палітычным і лінгвістычным. Такі падыход дазволіць паўней ахапіць агульную моўную сітуацыю ў Беларусі і глыбей пранікнуць у сутнасць справы.

Даўным-даўно, можа, і каля тысячы гадоў назад, па мудрай волі Усявышняга, на ладным кавалку еўрапейскай тэрыторыі, на аснове блізкародных племянных аб'яднанняў крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, пачала складацца і фарміравацца як

адно этнічнае цэлае беларуская народнасць. Беларускай, вядома, яна будзе названа значна пазней, але гэта акалічнасць ні ў якой меры не адмяняе самога гістарычнага факта.

З фарміраваннем беларускай народнасці фарміравалася як адзінае цэлае і аснова беларускай мовы: складваліся і замацоўваліся тыя яе якасці, якія ўрэшце сталі вызначальнымі і канчаткова адасобілі нашу мову ад расейскай і ўкраінскай. Паўтараю, працэс гэты адбываўся па волі Божай, у пэўных гістарычных умовах, арганічна і натуральна, як і пры этнічна-нацыянальным станаўленні любога іншага народа. Вядома, якім драматычным, а дакладней — трагічным аказаўся ў далейшым лёс і нашай дзяржавы, і нашага народа, і нашай мовы. Мовы, якая, прынамсі, тры стагоддзі была дзяржаўнай і літаратурнай — зразумела, у сваіх старабеларускіх лексічных і граматычных формах. Дастаткова прыгадаць кнігі Скарыны, Буднага, Цяпінскага, тры выданні Статута ВКЛ і многія іншыя помнікі беларускага пісьменства XV–XVII стагоддзяў.

На бяду-няшчасце наша, вымушаная унія Вялікага княства з каралеўствам Польскім прывяла паступова нашу суверэнную дзяржаву да поўнага заняпаду, да ліквідацыі яе суверэннасці, да гвалтоўнай паланізацыі насельніцтва Вялікага княства, а ўрэшце — да амаль поўнага выцяснення беларускай мовы з афіцыйнага і літаратурнага ўжытку. Гэтым тлумачыцца тое, чаму, у параўнанні з большасцю паднявольных славянскіх краін, нацыянальнае адраджэнне Беларусі пачалося вельмі няўпэўнена і амаль на цэлае стагоддзе пазней. Аднак жа яно пачалося і асновай адраджэння стала існаванне жывой беларускай мовы. Іменна гэтая акалічнасць, што яна не знікла, што ў вуснах мільёнаў простых людзей беларуская мова жыла, і жыла ў дасканала развітых формах, — падказала прадстаўнікам мясцовай інтэлігенцыі, адукаванай ліцвінскай шляхты на магчымасць выкарыстання гэтае мовы ў якасці літаратурнай. Хацелася б падкрэсліць, што к таму часу (канец XVIII ст.), калі тэрыторыя Вялікага княства ўжо была далучана да Расійскай імперыі, жывая беларуская мова існавала ў тых жа граматычна і эўфанічна завершаных формах, у якіх яна існуе і сёння. Вось радкі вясельных песень, запісаных на Лагойшчыне амаль 200 гадоў назад — у 1800–1802 гг.

Да прапою, прапою
Да Тацянкін татулька,
Да прапіў сваё дзіця
Да на новым ганачку,
Да за мёду шкляначку,

За гарэлкі чарачку.
Добра ж было прапіваці —
А кім будзеш пасылаці
У крыніцу па вадзіцу,
У шэры бор па брусніцу.

Або:

Звінела камора, звінела,
Дзе наша Тацянка сядзела,
Тонкія абрусы заткала,
Мыслямі ўзоры паклала.

Калі такая чыстая і цудоўная была наша жывая мова ў канцы XVIII стагоддзя, то можна не сумнявацца, што гэтак жа чыста і цудоўна яна гучала і на 100, і на 200 гадоў раней, г. зн. і ў канцы XVII, і ў канцы XVI ст., а можа, і яшчэ раней, бо істотныя змены ў мове, у яе лексіцы, марфалогіі, сінтаксісе, а тым больш у фанетыцы, хутка не адбываюцца. На гэта хацелася б звярнуць увагу тых гора-навукоўцаў, якія сцвярджаюць, што ніякай спрадвечнай беларускай мовы не было і няма, што яе штучна пачалі ствараць у XIX ст. тагачасныя «беларускія нацыяналісты», і асабліва «нацыяналісты» пачатку XX ст.— такія, як Я. Купала, Я. Колас, Цётка, А. Гарун, М. Багдановіч, М. Гарэцкі і дзесяткі іншых, менш вядомых. На працягу ўсяго XIX ст. беларускай мове ходу за парог вясковай хаты не давалі — асобныя прарывы ў кніжнае пісьменства (Я. Чачот, В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Я. Лучына і інш.) толькі падкрэслівалі поўную і глухую дыскрымінацыю правоў 10-мільённага народа на карыстанне сваёю мовай, на стварэнне сваёй уласнай прафесійнай культуры. XX ст. тройчы давала нашай мове аддушыну — у самым пачатку веку, у 20-я гады і, нарэшце, зусім нядаўна — у першай палавіне 90-х. Але ў цэлым і XX ст. — гэта працяг усё той жа асіміляцыі, усё той жа нялюдскай палітыкі паступовага задушэння беларускай мовы, звядзення яе месца і ролі ў жыцці грамадства на нішто. У суме ж выходзіць, што ўжо колькі сот гадоў нашу родную мову і душаць, і душаць, і душаць, і, напэўна, самі дзівяцца, што ніяк не задушаць, і ўсё не могуць зразумець простай ісціны: ну калі за некалькі стагоддзяў задушыць не змаглі — значыць, яе ўвогуле задушыць нельга, значыць, яна — вечна жывая, несмяротная, і таму — спыніцеся, панове!

На вялікі жаль, панове не спыняюцца. Наадварот, у самы апошні час павялі нечуваны наступ і на правы мовы, дзяржаўны

статус якое ніхто не адмяняў, і на пазіцыю тых, хто яе бароніць, хто адваёўвае для яе права жыць, развівацца і служыць людзям, служыць гуманізму і культуры. Проста як нейкае ачмурэнне найшло на імпершавіністаў, усякую элементарную чалавечую логіку пераварочваюць дагары нагамі, ставяць з ног на галаву. Гаворыш ім: «Беларускую мову трэба ратаваць, трэба ёй дапамагчы выжыць, вы ж бачыце, у якім яна становішчы!» — а яны ў адказ: «Не бярыце за горла са сваёй беларушчынай і дайце рускай мове аднолькавы статус з беларускай!» Гаворыш ім: «Мы любім і шануем родную мову і хочам гэтыя пачуцці прышчапіць дзецям, каб яны не выраслі дзікунамі» — а нам у адказ: «Вы ненавідзіце рускую мову, адрываеце моладзь ад рускай культуры і распальваеце русафобію!» Трое няўдзячных, якія, відочна, прыехалі сюды, кажучы словамі паэта, «на ловлю счастья и чинов», займаюць увесь тэлеэкран і абзываюць лепшых людзей беларускай нацыянальнай культуры антыпатрыётамі, ды яшчэ і пагражаюць, што «этим националистам не место на нашай белорусской земле». Здарава, ці не праўда? Тыя, хто не можа звязаць на мове гэтай зямлі нават трох слоў, — патрыёты, а тыя, каму родная мова бясконца любая і каму неймаверна баліць за яе лёс, — тыя, аказваецца, антыпатрыёты. Сапраўды, ачмурэнне нейкае!

Праявы і факты дыскрымінацыі беларускай мовы ў Беларусі на сучасным этапе выступаюць — хачу гэта падкрэсліць — у асабліва здзеклівых формах. З нашае мовы сёння здзекуюцца ўсе і ўсюды — на ўсіх узроўнях: ад прэзідэнта на тэлеэкране да апошняга п’янага бомжа на вуліцы ці ў гарадскім транспарце. З мовы — і з тых, хто выступае ў яе абарону. І заступніцтва з боку дзяржавы — аніякага. І гэта зразумела: хто ж заступіцца, калі прыклад ігнаравання і здзеку падаецца з самага верху?

А было ж ужо, было — на самым пачатку 90-х намецілася радаснае ажыўленне адраджэнскіх настрояў у гушчах народа, людзі пачалі ўсведамляць неабходнасць перамен у стаўленні да беларускай мовы, і наданне ёй статуса адзінай дзяржаўнай па Законе аб мовах успрынялі ў цэлым спакойна, з разуменнем. Гэтак жа, як і замацаванне яе дзяржаўнага статуса ў Канстытуцыі Беларусі. І былі дасягнуты першыя поспехі ў пашырэнні беларускай мовы ў грамадскім ужытку. І ішоў бы гэты працэс далей — спакойна і без эксцэсаў, як натуральны і зразумелы ўсім, хто не вораг сваёй Бацькаўшчыне. Ішоў бы — калі б не хітраподлая задума з рэферэндумам. Арганізаваны на сацыяльна-палітычнай дэмагогіі рэферэндум узарваў і разваліў працэс нацыянальнага адраджэння Беларусі. Пад націскам апантанай

ідэалагічнай апрацоўкі многіх людзей, у тым ліку маладых, ахапілі сумненні, многія пахіснуліся. Асабліва адчувальныя ўдары па беларускай мове пачалі наносіць у сферы адукацыі. У цэлым жа можна сказаць, што рэферэндум паклаў пачатак курсу на небывалую палітычную канфрантацыю ў грамадстве, што мы і бачым сёння. Цынізм кіраўніцтва дзяржавы ў тым, што вінаватымі ў канфрантацыі аб'яўляюцца зусім невінаватыя, што з хворай галавы ўсё перакладваецца на здаровую.

У такім становішчы натуральна ўзнікла пытанне: як быць і што рабіць? На аргкамітэце Канферэнцыі гаварылася: нам нічога не застаецца, апрача як звярнуцца да сусветнай грамадскасці з просьбай, каб яна аказала нам маральную падтрымку ў змаганні за правы нашай роднай беларускай мовы на нашай роднай беларускай зямлі. Маўляў, грамадскасць свету не можа даваць рэкамендацыі наконт моўнай палітыкі ў нашай суверэннай дзяржаве, але можа даць маральную ацэнку самому факту дыскрымінацыі беларускай мовы ў Беларусі. Можа выказаць абурэнне гэтай нялюдскай, ганебнай моўнай палітыкай, якая праводзіцца асімілятарамі і іх прыслужнікамі ў Беларусі. Зрабіць гэта трэба для таго, каб у кожнай краіне свету дзяржаўныя і палітычныя лідэры ведалі, з якімі людзьмі ім даводзіцца мець справу, калі яны сустракаюцца з дзяржаўнымі кіраўнікамі Беларусі. Аднак самае страшнае тое, што нашым дзяржаўным мужам ніякі маральны суд не страшны, іх нічым не спалохаеш. Яны валодаюць, выбачайце, надзвычайным маральным «бясстрашшам». Колькі было ўжо выпадкаў, калі тут, у Мінску, на пэўнай урачыстасці, прадстаўнік замежнага пасольства гаворыць на беларускай (хай сабе і з цяжкасцю), а прадстаўнік нашага ўрада ці міністэрства — на мове суседняй дзяржавы. І нічога! Ані сораму, ані канфузу. Маральнае «бясстрашша»! У псіхалогіі гэту з'яву яшчэ называюць цынізмам, у народзе — проста дзікунствам. Хоць і вельмі непрыемна гэта гаварыць, але так яно і ёсць: дзяржаўная палітыка, скіраваная на вынішчэнне мовы, а г. зн. і духоўнай культуры свайго народа, — гэта дзікунства. Толькі дзікуны і манкурты не здольныя думаць і клапаціцца пра духоўнае аблічча нацыі, да якое яны самі належаць, пра заўтрашні дзень нацыі, якога ў яе проста не будзе, калі народ пазбавіць яго ўласнай мовы, калі ў душы народа знішчыць жывыя карані і карэньчыкі сваёй уласнай, прыродна-самабытнай духоўнай творчасці.

І рэч не толькі ў тым, што гэтыя нашы дзяржаўныя дзеячы, распарадчыкі жыцця і лёсу народа не ведаюць і таму не карыстаюцца мовай народа; многія з іх якраз ведаюць, і нават

няблага ведаюць мову роднай зямлі, некалі гаварылі ёю і ў школах вучыліся на ёй. Рэч у тым, што гэтыя дзяржаўныя мужы, адміністратары і палітыкі свядома і наўмысна грэбуюць беларускай мовай, свядома ігнаруюць патрабаванні прынятых у свеце, на міжнародным узроўні, законаў, патрабаванні агульналюдскай маралі і культуры; рэч у тым, што яны свядома праводзяць антыбеларускую нацыянальную палітыку, што ідэю нацыянальнага беларускага Адраджэння яны адвяргаюць у прынцыпе, што свой уласны дзяржаўны дом, пабудаваны і абстаўлены на беларускі лад, ім наогул непатрэбны: ім дастаткова і таго, што яны будуць жыць у прыбудаваным флігелі ці дзе-небудзь у прызначанай для чэлядзі бакавушцы.

Але беларускі народ не можа на сваёй зямлі жыць у нейкай прыбудове ці бакавушцы, ён павінен быць гаспадаром у сваім доме, для чаго сам дом павінен быць беларускім: не можа ж ён гаспадарыць у доме чужым, у доме, дзе беларускага ўжо амаль нічога няма. Значыць, задача задач для ўсіх нас і для ўсяго беларускага народа — дабіцца таго, каб Беларусь як краіна і дзяржава стала ў поўным сэнсе слова Беларуссю, каб наш беларускі дом быў іменна беларускім домам. Само сабой зразумела, што такім ён можа стаць толькі тады, калі ў ім будзе панаваць беларускі дух, беларуская памяць і беларуская культура, а найперш — беларуская мова: самабытная і цудоўная ў сям'і славянскіх моў беларуская мова! Тыя, каго Янка Купала назваў «ворагамі беларушчыны», гэта выдатна разумеюць: разумеюць, што калі ў Беларусі ў грамадскім і бытавым ужытку будзе пашырацца беларуская мова, то будзе пашырацца і паглыбляцца і гістарычна-нацыянальная самасвядомасць народа, будзе расці колькасць нацыянальна свядомых беларусаў, якія канешне ж зробяць свой дзяржаўны дом беларускім і незалежным. Не дапусціць да гэтага ёсць у сваю чаргу задача задач і галоўная мэта асімілятараў Беларусі. Любой цаной не дапусціць, каб беларускі дзяржаўны дом стаў незалежным! Чаму? Таму што суверэнная і незалежная Беларусь можа стаць ім перашкодай у ажыццяўленні вялікай геапалітыкі. І ў гэтым — уся справа. І ўся наша бяда. Гэта — галоўная прычына нашай глабальнай і нескончонай нацыянальнай трагедыі.

Вядома, нацыянальныя інтарэсы нашай усходняй суседкі, як і ўсіх іншых суседзяў, маглі б быць задаволенымі і пры існаванні суверэннай і незалежнай Рэспублікі Беларусь. Безумоўна, маглі б! Але для гэтага трэба, каб сёе-тое архіважнае, архіістотнае адбывалася ў галовах, у розумах, у менталітэце тых, хто фарміруе, прапагандуе і насаджае праімперскую ідэалогію. Ці можам мы

разлічваць, што такія перамены ў галовах імпершавіністаў у блізкім часе і самі па сабе адбудуцца? Думаю, што разлічваць на гэта было б недаравальнай наіўнасцю. Самі па сабе ды яшчэ ў блізкім часе яны не адбудуцца. На прыбліжэнне гэтых перамен трэба напорна і актыўна працаваць. Іншага нічога не застаецца. Ну, а сам час, само жыццё будзе спрыяць гэтаму. Павінна спрыяць! Ёсць жа нейкая найвышэйшая мудрасць у асновах самога светаўладкавання — мудрасць, якая заўсёды давала людзям надзею і веру ў перамогу справядлівасці.

*Красавік 1996 г.*

## НА СВЯТЛО ПРАЎДЫ, НА ПОДЫХ СВАБОДЫ

*Слова на Другім з’ездзе беларусаў свету 20 ліпеня 1997 года*

Усім, хто ахвяруе свае сілы на справу нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі, сёння вельмі і вельмі нялёгка, а заўтра, напэўна, будзе і яшчэ цяжэй. Чаму — зразумела: таму што імпершавіністы і запраданцы авалодалі палітычнай сітуацыяй у краіне і разгарнулі шалёна-апантаную дзейнасць, скіраваную на ліквідацыю суверэннай, незалежнай дзяржавы Беларусь. Галоўная прычына, чаму так здарылася, — адсутнасць згуртаванасці ўсіх дэмакратычна настроеных грамадзян пад сцягам беларускай нацыянальнай ідэі. І гістарычны вопыт, і наша сучаснасць пераканаўча сведчаць: толькі гэта ідэя можа аб’яднаць народ, можа мабілізаваць фізічныя, маральныя і духоўныя людскія рэсурсы, каб вывесці краіну з палітычнага крызісу, а затым і з эканамічна-сацыяльнага заняпаду, каб дасягнуць жаданага дабрабыту. Усе былыя рэспублікі СССР, як і стаўшыя незалежнымі Славенія, Харватыя, Македонія, Славакія, менавіта гэту ідэю паклалі ў аснову сваёй дзяржаўнай жыццядзейнасці, сваёй унутранай і вонкавай палітыкі. І можна не сумнявацца, што яны распарадзяцца сваім лёсам найлепшым чынам. Славенія, напрыклад, ужо дасягнула незвычайных поспехаў у развіцці эканомікі і сацыяльнай сферы.

А мы, у адрозненне ад усіх гэтых народаў, добраахвотна адмаўляемся ад вернага шляху да шчасця і дабрабыту, адмаўляемся ад беларускай ідэі як асновы асноў эканамічнага і духоўнага развіцця нацыі. Я сказаў «мы», маючы на ўвазе ўсіх беларусаў агулам, паколькі свет глядзіць на Беларусь як на адно агульнае цэлае, як на адзіны нацыянальны арганізм. Свет

не вельмі ўнікае ў сутнасць і прычыны нашай нацыянальнай трагедыі, а тым больш не надта бярэ да сэрца наш боль, ведаючы, што за гісторыю чалавецтва падобных трагедый было ўжо нямала. Пра гэта трэба помніць, каб не ўскладаць спадзяванняў на некага, а самім ратаваць сябе ад заўчаснага зыходу ў небыццё.

Ужо колькі гадоў я прыглядаюся да ўсяго таго нядобрага і нават ганебнага, што адбываецца ў Беларусі і з Беларуссю. Ідзе нечуванае прадажніцтва нацыянальных інтарэсаў народа, а разам з гэтым і ў сувязі з гэтым ідзе жахлівая маральна-духоўная дэградацыя грамадства, падзенне нораваў, разбэшчванне чалавека як асобы. З мінулага, з эпохі сталінізму і наступных эпох, бярэцца, насаджаецца і культывуецца ў нашым жыцці і побыце ўсё самае горшае, самае амаральнае, бессаромнае, цынічнае. І раней, пры генсеках, усё ў дзяржаве трымалася на хлусні і абмане — цяпер хлусні і абману стала непараўнана больш. І раней у жыцці грамадства было дзве праўды: адна — для начальства, другая — для гэтак званых працоўных мас, хоць партыйная прапаганда і даводзіла масам, што праўда ў нас для ўсіх адна. Цяпер яшчэ ў большай меры ідзе прапагандысцкае ачмурэнне людзей хлуснёю, каб яны паверылі, што ў іх і ў начальства праўда адна, і клопат адзін і той жа, і адны і тыя ж пакуты. І раней беспакарана, пад заслонай дзяржаўнай улады працвітала ўсякае хапужніцтва, зладзюганства, казнакрадства — цяпер яно працвітае яшчэ больш пышна, у памерах і маштабах дзесяцікратных, стакратных, а можа, і тысячакратных.

Паратунак ад усяго гэтага — толькі на шляхах дэмакратызацыі грамадства, развіцця галоснасці, усталявання законаў і законнасці, роўна абавязковай для ўсіх, на шляхах развіцця нацыянальна-гістарычнай самасвядомасці, развіцця вялікай гуманістычнай культуры, сапраўднай духоўнай і мастацкай творчасці.

Многія з сённяшніх дзяржаўных дзеячаў Беларусі робяць выгляд, што служаць нацыянальным інтарэсам беларускага народа, спадзеючыся, што наіўны, даверлівы «электарат» нічога не бачыць і не разумее. Дарэмна спадзяюцца! Нават і «электарат» пачынае ўсё больш бачыць і ўсё больш разумець. У тым ліку разумець, што ёсць годнасць і гонар нацыі. Зноў і зноў думаю пра гэтых самых дзяржаўных дзеячаў. Нішто, апрача баязлівасці або шкурніцтва, не перашкаджае ім апомніцца і адмовіцца ад услугавання ворагам беларушчыны, нішто не адымае ў іх права сказаць: я — сын або я — дачка гэтай зямлі, і я не магу падтрымліваць намаганні антыбеларускіх сіл ліквідаваць свабоду і незалежнасць маёй Бацькаўшчыны. Але, каб так сказаць,

патрэбна мужнасць, патрэбна сумленне, патрэбна нацыянальная і проста чалавечая годнасць, патрэбен пэўны культурны ўзровень, патрэбна веданне гісторыі як свайго народа, так і народаў свету, асабліва суседніх. А перш-наперш — патрэбна шчырая, гарачая любоў да роднай зямлі, да роднай мовы і да ўсяго таго, што з’яўляецца душой Беларусі.

Шаноўныя суайчыннікі, браты і сёстры, паплечнікі ў змаганні за Беларусь, за яе прысутнасць у свеце! За чатыры гады, што прайшлі пасля I з’езда, многае з заваяванага намі, беларусамі, на вялікі жаль, страчана, многае адкруцілася і працягвае адкручвацца назад. Горка, трывожна, балюча бачыць і ўсведамляць гэта. Але не будзем траціць надзей і веры. Тым больш што ў падмогу старэйшым з нас ідзе выдатная, слаўная моладзь, яна не дазволіць атруціць сябе пагібельнай хлуснёй, яна не пабаіцца цяжкасцяў і пакут — у імя сваёй будучыні. На мяжы 80–90-х такой беларускай моладзі не было. Дакладней — былі адзінкі і дзесяткі, а цяпер — тысячы і дзесяткі тысяч! А спатрэбілася дзеля гэтага, каб яна так хораша ўзрасла, зусім мала: глыток свабоды ды трохі праўды. Праўды пра наш гістарычны лёс, пра наша далёкае і недалёкае мінулае. Свабода і праўда за мінімальна кароткі час — за тры-чатыры гады — зрабілі неверагоднае: паклікалі да грамадскага жыцця пакаленне зусім новых маладых людзей, якія складуць касцяк заўтрашняй беларускай інтэлігенцыі. І гэта будзе інтэлігенцыя без ганебных сіндромаў, інтэлігенцыя таго кшталту, якім пазначаны нашы папярэднікі і настаўнікі пачатку стагоддзя, эпохі стварэння БНР, эпохі, калі сцяг нацыянальнага адраджэння ўздымалі Купала, Колас, Цётка, Багдановіч, Гарэцкі, Гарун, Ластоўскі, Смоліч, Некрашэвіч, браты Луцкевічы і многія іншыя вялікія, слаўныя сыны і дочкі нацыі.

Сёння ў афіцыйным друку нямала пішацца аб тым, нібыта ў 90–94-м гадах у нас праводзілася гвалтоўная беларусізацыя. Хачу рашуча запярэчыць, што гэта няпраўда. Не было ніякай патрэбы ў прымусовасці і гвалце. Як толькі людзі адчулі свабоду і атрымалі Закон аб мове — яны самі адразу ж павярнуліся душой і сэрцам да роднага слова, да сваёй нацыянальнай культуры, да вытокаў і каранёў свайго гістарычнага быцця. Далі б і цяпер магчымасць на ўвесь голас гаварыць праўду — у друку, па радыё, на тэлебачанні, — і мы б убачылі, як хутка людзі пачалі б вызваляцца ад дурману хлусні і дэмагогіі. Такая ўжо прырода чалавека — цягнуцца на святло праўды, на подых свабоды.

Хоць магчымасці гаварыць праўду вельмі звузіліся — усё ж яе трэба гаварыць. Абавязкова! І не палавіну ці чвэрць праўды, а ўсю праўду. Трэба паўсюдна і нястомна гаварыць — як свайму

народу, так і ўсім добрым людзям планеты — пра рэальную палітычную сітуацыю на Беларусі, пра курс узурпатараў улады на ліквідацыю беларускай дзяржавы, пра цынічную спекуляцыю на братэрскіх пачуццях беларусаў і неймаверную дэмагогію, з якімі гэты курс праводзіцца, гаварыць пра сапраўднае становішча беларускай мовы, беларускай культуры і беларускай школы ўсіх рангаў у Беларусі, пра задушэнне дэмакратычных свабод і пра многае іншае, ад чаго нам сёння сорамна перад цэлым светам. Ганебнаму курсу на дзяржаўнае і нацыянальнае самазабойства мы абавязаны проціпаставіць курс на дзяржаўнае і нацыянальнае самасцвярджэнне. Іншай дарогі ў будучыню ў нас няма. Жыве Беларусь!

*Ліпень 1997 г.*

## І ЯШЧЭ РАЗ АБ НАШАЙ МОВЕ

### Цынізм маніпулятараў

У адказ на трывожна-гнеўныя галасы патрыётаў роднага слова, актывістаў Таварыства беларускай мовы, газеты зноў апублікавалі афіцыйныя «статыстычныя даныя»: у краіне беларускіх школ нашмат больш, чым рускіх. Дык чаго вы, спадары нацыяналісты, падымаеце крык-лямант? Што вам яшчэ трэба? Нам бы хоць выраўняць сітуацыю, каб у адпаведнасці з рэферэндумам і рускіх школ у рэспубліцы стала столькі ж, колькі беларускіх! У імя Канстытуцыі і Закона! У імя раўнапраўя! Раз дзве мовы прызнаны дзяржаўна-раўнапраўнымі, дык хай і школ будзе роўная колькасць — і тых і другіх, і беларускіх і рускіх.

У які ўжо раз чытаю ў друку гэтую разлічаную на недасведчаных грамадзян крутню, — і ў які раз думаю: да якой жа ступені трэба страціць сваю чалавечую годнасць, каб так цынічна маніпуляваць лічбамі? Аніякай няёмкасці — ні перад Богам, ні перад людзьмі, ні перад дзецьмі і ўнукамі, — ні перад кім! Поўнае атрафіраванне пачуцця сораму. Поўнае вызваленне сябе ад такой хімеры, як сумленне.

Паслухайце, таварышы начальнікі! Ну вы ж добра ведаеце, што на беларускай мове працуюць у Беларусі, за нязначным выняткам, маленькія вясковыя школкі. Вы добра ведаеце, колькі ў сярэднім вучняў у адной рускай школе і колькі ў беларускай. Калі ў рускай, скажам, тысяча, то ў беларускай — пяцьдзесят. У дваццаць разоў менш! У выніку: у Беларусі на дваццаць дзя-

цей, якія вучацца на рускай мове, прыпадае адно дзіцятка, якое вучыцца на беларускай мове. Дык чаму вы, шаноўныя, хоць бы ад страху перад Богам, перад сваім народам, перад нашчадкамі, не называеце гэтыя лічбы? Лічбы — у якіх уся праўда пра становішча беларускай школы, пра раўнапраўе моў наогул? Чаму вы не крычыце, не б'яце ў званы, што беларуская школа знікае, гіне, што добрых, паўнавартасных беларускіх школ у Беларусі зусім-зусім мала? Што пераважаюць, раскінутыя па перыферыйнай глухамані, дробныя бесперспектыўныя школкі, вучні якіх асуджаны на пажыццёвае капанне ў зямлі і гноі, а таму няхай сабе вучацца і па-беларуску. З каровамі і коньмі, з трактарам і плугам не абавязкова гаварыць на мове культуры і навукі, на мове камп'ютэра і радыётэхнікі, а галоўнае — на мове начальства. Такая — сацыяльная механіка праблемы, шаноўныя, калі ўжо вы любіце на першы план ставіць сацыяльнае.

Вось і ўсё! На завяршэнне магу дадаць толькі наступнае, — паколькі павагу ў свеце, як бачу, вам усё-такі хочацца мець. Пакуль у вас, панове, будуць такія нялюдскія, такія пахабныя, такія цынічныя адносіны да мовы свайго народа — ніколі і нідзе на гэтай планеце не будуць вас паважаць і з вамі лічыцца, бо будуць на вас глядзець як на дзікуноў і манкуртаў, як на нікчэмных халуёў і запраданцаў, у якіх няма элементарнага ўяўлення пра інтэлігентнасць і культуру, няма ні каплі пачуцця нацыянальнай годнасці. І можаце сабе і надалей, колькі ўлезе, крычаць пра суверэнітэт «нашай дзяржавы», можаце і далей надзяваць прыгожа размаляваныя маскі законаабаронцаў і праваахоўнікаў, — усё гэта будзе ўспрымацца ў цэлым свеце як непрыстойная цынічная балбатня і разлічанае на прастакоў вульгарнае сцэнічнае «дзейства».

Ах, панове, панове! Таварышы, таварышы! Столькі ездзіць па свеце, у тым ліку па славянскім, і так і не бачыць, як жывуць і пачуваюцца на сваёй зямлі людзі, і такімі сляпымі вяртацца дадому!..

## «Не лічыцца з воляй бацькоў мы не можам…»

Так гучыць адказ высокага начальства на пытанне радавых грамадзян, чаму ў Беларусі за апошнія тры гады рэзка скараціліся беларускія школы і беларускія першыя класы. «Бацькі не хочуць! Бацькі выбіраюць школы з рускай мовай навучання, а гэта — іх законнае права, іх воля. Не прымушаць жа іх рабіць насуперак сваёй волі, сваім жаданням! У нас жа —

дэмакратыя, жывём паводле законаў, паводле канстытуцыі. Ці вы хочаце, каб мы насаджалі беларускую мову гвалтам, «как это уже было недавно»? Дык не дачакаецеся, спадары нацыяналісты, і не спадзявайцеся!..»

Тое, што беларускае начальства ў сваёй моўнай палітыцы даходзіць да крайніх межаў цынізму, у свеце ўжо нікога не здзіўляе. Не здзіўляемся і мы, ведаючы, адкуль ён, гэты цынізм, ідзе, чым жывіцца і чаму так пачварна разрастаецца. Час здзіўленняў мінуў. Але ўвесь народ, усе дзесяць мільёнаў жыхароў Беларусі цынікамі стаць не могуць. У большыні сваёй людзі хочуць жыць сумленна. Для іх і трэба гаварыць праўду.

Дык чаму ў нас, у Беларусі, бацькі школьнікаў мовай навучання сваіх дзяцей выбіраюць рускую? Відавочна, таму, што для беларускай мовы не бачаць у жыцці перспектывы, што іх дзецям яна практычна нідзе не спатрэбіцца. Таму, што сама жыццёвая рэальнасць, усё тое, што ў дзяржаве і з дзяржавай адбываецца, дае ім зразумець: Беларусі як незалежнай дзяржавы не будзе, замест яе будзе «северо-западный край» ці шэсць новых губерняў Расіі. А гэта значыць, што беларуская мова ніколі па сутнасці дзяржаўнай не стане, ніколі не прыйдзе на завод, ва ўстанову, у навуку і г. д. Для чаго ж яе вывучаць, дзеля чаго ведаць? Калі б было не так, калі б кіраўніцтва рэспублікі было насамрэч зацікаўлена ў развіцці і ўмацаванні суверэнітэту Беларусі, яно б у першую чаргу клапацілася пра стан беларускай мовы ў сваім уласным доме, пра яе інтэнсіўнае пашырэнне ў грамадскім ужытку, — як гэта было ў свой час ва ўсіх краінах свету, што вызваляліся ад чужой апекі і станавіліся незалежнымі, як гэта ёсць сёння ў дзяржавах Балтыі і Закаўказзя, на Украіне і ў Казахстане. Калі б было не так — людзям бы кожны дзень гаварылася зверху: вучыце сваіх дзяцей беларускай мове, бо як жа яны без яе будуць тут жыць і працаваць? Ды і прыклад бы ўсяму народу падаваўся зверху.

Вось з такіх меркаванняў бацькі, няйнакш як змірыўшыся з праклятай доляй, і пасылаюць сваіх малых у рускія школы.

Не бацькі — дзяржава павінна вырашаць такія пытанні, як мова навучання і выхавання ў школах. Дзяржава і толькі дзяржава! Калі, зразумела, яна ёсць і намерана заставацца дзяржавай надалей… Дзяржава павінна думаць і клапаціцца аб тым, каб яе грамадзяне маглі свабодна спраўляцца з вытворчымі і іншымі грамадскімі абавязкамі, каб няведанне мовы не стала перашкодай для гэтага. І ў гэтым сэнсе дзяржава мусіць быць

паслядоўнай і, калі хочаце, строгай. Пры ўмове, паўтараю, што яна сапраўды — дзяржава. Не ліпавая, не папяровая, не прывідная, а самая што ні на ёсць сапраўдная, суверэнная, незалежная дзяржава, у якой усё вырашаецца па-дзяржаўнаму самастойна і з пачуццём нацыянальнай годнасці.

*Кастрычнік 1998 г.*

## КОЖНЫ НАРОД ПАЧЫНАЎ З ГЭТАГА

У афіцыйным друку, па беларускім тэлебачанні і радыё нярэдка гучаць галасы ў абарону кансалідацыі грамадства ў нашай краіне, — не без злосці і абурэння ў адрас нейкіх нядобрых грамадзян, якія гэтай жаданай кансалідацыі перашкаджаюць. Асабліва дастаецца гэтак званым «нацыяналістам» — партыйным і беспартыйным, арганізаваным і індывідуальным, старым ці сталым і маладым-зялёным. Хто ж распальвае ў сапраўднасці канфрантацыю, раздзьмухвае полымя нязгоды, разладу, варажнечы ў нашым грамадстве? Думаю, гэта робяць перш за ўсё тыя палітычныя і грамадскія сілы, якія ваяўніча праводзяць курс на ліквідацыю нашай суверэннай, незалежнай дзяржавы. Гэта яны, вусна і ў друку, учыняюць ганенні на абаронцаў незалежнасці, абзываюць іх нацыяналістамі і русафобамі і выдаюць іх за ворагаў грамадскай стабільнасці, спакою і парадку ў краіне. Па іх сцверджанні, усё ў нас ідзе добра, мірна, спакойна, усе думаюць, як зрабіць лепшым жыццё, падняць эканоміку, а вось яны, тыя, што ў апазіцыі да рэжыму, ідуць супроць гэтага, бо яны — супроць аб'яднання з Расіяй, з рускім народам-братам, яны, свядома ці несвядома, праводзяць варожую нам празаходнюю палітыку, скачуць пад чужую дудку.

Ах, панове-панове, панове-таварышы!..

Вы сур'ёзна хочаце дасягнуць нацыянальнай згоды ў краіне? Хочаце, каб усе яе грамадзяне згуртаваліся на вырашэнні эканамічных і сацыяльных праблем, на тым, каб зрабіць паслядоўным і плённым працэс рэфармавання гаспадарчага ўкладу ў Беларусі? Каб хутчэй дасягнуць належнага — на еўрапейскім узроўні — дабрабыту? Хутчэй пабудаваць трывалы і прыгожы ўласны дом? Цудоўна! Але — з чаго хочаце пачаць будаўніцтва? Кажаце, з фундамента трэба пачынаць, з падмурка? Маўляў, а з чаго ж яшчэ? Не са страхі ж дом будуецца!.. Ды не, шаноўныя, вы памыляецеся. Раней, чым закладаць фунда-

мент і выводзіць сцены, у дойлідаў павінен быць план-праект будоўлі. Павінна быць ідэя дома! Які дом мы хочам пабудаваць? Суверэнную, незалежную дзяржаву Беларусь — ці «паўночна-заходні край»? З гэтага трэба пачынаць, панове-таварышы, з гэтага! Усе народы Еўропы, якія сёння радуюцца і ганарацца сваім дабрабытам, пачыналі з гэтага — з ідэі дзяржаўнага самасцвярджэння, з узыходжання на «свой пачэсны пасад між народамі». Дэкансалідацыя, разлад і распыленне сіл у грамадстве спыняцца толькі тады, як усе мы зразумеем, што мы асуджаны на адну гістарычную непазбежнасць, а іменна: усім нам, усяму беларускаму народу трэба аб'яднацца на грунце ідэі нацыянальнага адраджэння, ідэі станаўлення, развіцця і ўмацавання незалежнай дзяржаўнай Беларусі. Ва ўсім — у кожным кроку вонкавай і ўнутранай палітыкі — кіравацца гэтай ідэяй. Вось і ўсё. Падпарадкуем гэтай стратэгічнай ідэі ўсе свае думкі, памкненні, парывы душы і сэрца, усе свае перспектыўныя і надзённыя планы, аб'яднаем усе свае сілы і намаганні і — за працу! Кожны на сваім месцы, кожны паводле сваіх здольнасцяў і магчымасцяў — але абавязкова з гэтай ідэяй у сэрцы. І тады ў грамадстве не стане небяспечнай канфрантацыі, разладу і варажнечы. Будуць жа мець месца тыя звычайныя жыццёвыя праблемы, якія ў людзей разумных вырашаюцца мірна, спакойна, як, напрыклад, у калісьці паўсталай з нацыянальнай ідэі незалежнай, свабоднай, дэмакратычнай Фінляндыі.

*1999*

## А МОВА — БУДЗЕ ЖЫЦЬ І ДУЖЭЦЬ

*Слова на канферэнцыі «Закон аб мовах — вынікі і перспектывы» 26 лютага 2000 года*

Дзесяць гадоў назад, напачатку 1990 года, у гісторыі нашай краіны адбылося штось амаль неверагоднае: беларуская мова стала ў Беларусі дзяржаўнай і больш таго — адзінай дзяржаўнай мовай. Гэта адбылося не само сабой, вядома, гэта было заваявана ў нялёгкім змаганні з крамлёўскім курсам на зліццё ўсіх моў і нацый у адзін кацёл, на стварэнне «новай гістарычнай супольнасці людзей — савецкага народа». Заваявана, хачу падкрэсліць, агульнымі намаганнямі нацыянальна свядомай інтэлігенцыі ўсіх рэспублік былога СССР, у якіх таксама былі прыняты аналагічныя законы аб мовах.

Як і трэба было чакаць — неўзабаве за гэтым распаўся «Саюз непарушны». У выніку і Беларусь атрымала незалежнасць, стала суверэннай дзяржавай. Царадворцы і іх апрычнікі хутка апомніліся, спахапіліся і прынялі рашэнне павярнуць ход падзей назад — хоць на колькі можна. Аднавіць увесь Саюз наўрад ці магчыма, а вось не дапусціць, каб Беларусь адарвалася ад імперыі, — справа рэальная. Толькі трэба добра ўзяцца за работу. І пачаць — з рашучага франтальнага наступу на беларускую мову, з бязлітаснага выцяснення яе з грамадскага ўжытку і задушэння яе. Чаму — з мовы? А таму што выдатна разумелі: пераможа і запануе беларуская мова — значыць, пераможа беларуская ідэя, пераможа і замацуецца навек беларуская дзяржаўнасць. А вось гэтага, сказалі нашы апекуны, мы не павінны дапусціць, дзяржава павінна быць адна. Пачнём з Беларусі. А надалей — пабачым. Вось — наша мэта на гэтым этапе рэстаўрацыі, вось альфа і амега нашай палітычнай стратэгіі на беларускім напрамку. І дзеля дасягнення мэты мы не спынімся. І скарыстаем тыя спосабы і метады, якія ўжо не раз былі правераныя як надзейныя. У Беларусі правераны. Не адмяніўшы Закон аб мовах, не ліквідаваўшы статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, — поспеху не дабіцца. І адмянілі. Прынялі новы закон — ганебна-здрадніцкі. Дзяржаўнай зрабілі і рускую мову, добра ведаючы, што ў нашай сітуацыі для беларускай мовы — гэта смерць. Чаму ўдалося так лёгка ліквідаваць прыняты з неймавернай цяжкасцю ў 1990 годзе Закон аб мовах? На маё разуменне, тлумачыцца гэта перш за ўсё тым, што беларускай нацыянальнай ідэі, беларускай нацыянальнай дзяржаве, беларускаму гербу і сцягу, і, вядома ж, беларускай мове здрадзілі гэтак званыя сацыяльныя вярхі, паны начальнікі, чыноўнікі і камандзёры ўсіх рангаў. І не толькі камандзёры ад эканомікі і войска, але і ад навукі, і адукацыі. Не народ здрадзіў сам сабе, адрокся ад сваіх нацыянальных ідэалаў, як гэта выходзіць па логіцы паслужлівых тэлекаментатараў, а паны начальнікі. Як і неаднойчы раней іх папярэднікі, яны прадаліся і прадаюцца, кажучы словамі Купалы, за міску чужое поліўкі, за выгады і льготы. Чаму іх спасцігла такая ганебная доля — на гэта пытанне адказы могуць быць, напэўна, розныя. Мне бачыцца галоўнымі тры прычыны: невуцтва, нізкая агульная культура і амаральнасць.

Гісторыя ўсіх цывілізаваных народаў і краін сведчыць: на здраду нацыянальным ідэалам, сваёй мове і веры лягчэй за ўсё ідуць паны начальнікі малаадукаваныя, якія не разумеюць, што

такое нацыянальная мова ў жыцці і ў гістарычным лёсе народа. Так і ў нас, у Беларусі: многія з тых, што засядалі або засядаюць у высокіх кабінетах, проста не разумеюць, як гэта хораша, як здорава і як выйгрышна для чалавецтва, калі сярод славянскіх народаў-братоў будзе яшчэ адзін народ са сваёй цудоўнай мовай, сваёй самабытнай культурай і мастацтвам, сваім адметным бытавым і гаспадарчым укладам. Паны начальнікі малакультурныя, з недаразвітымі пачаткамі духоўнасці, не здатныя адчуць красу і сілу роднага слова, роднай песні, нацыянальнай літаратуры, нацыянальнага тэатральнага мастацтва. Паны начальнікі, можа і шыбка адукаваныя, але амаральныя ў сваёй чалавечай істоце, без маральных прынцыпаў і апораў, людзі, якія не адчуваюць, што выракацца сваёй Бацькаўшчыны, сваёй гісторыі, сваёй культуры, а найперш — сваёй роднай мовы, — гэта непрыгожа, гэта нізка, гэта подла, маральна выхаваныя, шляхетныя людзі на такое не ідуць, а ідуць толькі нікчэмнікі, басякі, апушчэнцы…

Увогуле праблема мовы, яе жыцця і лёсу — адна з самых вялікіх маральных праблем любога грамадства. А недаацэньваць, тым больш ігнараваць значэнне грамадскай маралі, узровень маральнасці і сумленнасці — значыць асуджаць усе іншыя жыццёвыя клопаты народа на гібенне. Гэта шлях — няплённы і неперспектыўны, таму што звыродлівы, таму што — без жыццёвай сілы і моцы ў вытоках. З пункту гледжання агульначалавечай маралі — нянавісць да мовы народа, а тым больш да мовы твайго ўласнага народа, — гэта нешта такое, што нармальны, здаровы чалавечы розум успрыняць не можа, гэта нейкая крайняя мяжа маральнай неразвітасці або выраджэння.

Шаноўная грамада! Сёння многія са шчырых сыноў і дочак Бацькаўшчыны паніклі духам, бачачы, як пакацілася назад хваля адраджэння беларушчыны, як адкрыта-нахабна паны начальнікі вядуць супроць мовы народа вайну і з якім цынізмам чыняць над ёю здзек. Так, што датычыць ганебнай чыннасці ворагаў беларушчыны, — усё правільна. Душаць нашу мову так нахабна і цынічна, як ніколі. Але падаць духам і апускаць крылы ні ў якім разе нельга. Намаганні чорных здрадных сіл — марныя. Бо ўсё тое, што прыйшло ў наша жыццё з прыняццем і рэалізацыяй Закона аб мовах і затым з абвяшчэннем дзяржаўнай незалежнасці Беларусі — усё тое ўвайшло ў сэрцы і душы людзей адразу некалькіх пакаленняў, асабліва — людзей маладых, і там, у іх сэрцах і душах тое пачуццё радасці і гонару, памножанае пазней, за апошнія пяць гадоў, на пачуццё гневу і пагарды да далакопаў Беларусі, — тое пачуццё жыве, для яго адкаткі назад няма і не

будзе, гэта немагчыма. Мы на свае вочы ўбачылі і пераканаліся, што беларускі народ у пагалоўнай большыні сваёй не проста з разуменнем, а з вялікай адухоўленасцю ўспрыняў тады наданне ягонай мове статусу адзінай дзяржаўнай у краіне, — успрыняў як доўгачаканае свята. Успомніце, як за два-тры гады колькасць першых беларускіх класаў вырасла ў гарадах краіны да 50–60 і нават 70 працэнтаў.

Галоўная заваёва гэтага дзесяцігоддзя — абуджэнне і рост нацыянальна-дзяржаўнай самасвядомасці ў шырокіх колах нашай моладзі, перш за ўсё — студэнтаў, навучэнцаў каледжаў і ліцэяў, гімназістаў, ды і сярод маладых рабочых і маладых дзелавых людзей, сярод маладой інтэлігенцыі. Наша заданне сёння палягае ў тым, каб усё больш і больш моладзі далучаць да ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння, да ліку сяброў, заступнікаў і абаронцаў беларускай мовы, беларускай дзяржаўнай незалежнасці. Мы ўсе бачым, з якой д’ябальскай энергіяй узяліся за апрацоўку юных душ ганіцелі і душыцелі беларушчыны. І зразумела чаму: за моладдзю будучыня. Значыць: або — або. Або нарастуць пакаленні нацыянальных нігілістаў і запраданцаў, або — пакаленні свядомых, перакананых, мужных і моцных духам змагароў за вольную, незалежную, дэмакратычную Беларусь, пакаленні верных, гордых і годных паслядоўнікаў Каліноўскага і Багушэвіча, Ластоўскага і братоў Луцкевічаў, Купалы і Коласа, Багдановіча і Гарэцкага. Будзем жа прыкладаць усе намаганні, ахвяраваць усе сілы душы і сэрца на тое, каб маладыя пакаленні грамадзян падрасталі і ўступалі ў жыццё непахіснымі змагарамі за шчасце Бацькаўшчыны. Будзем верыць у свае сілы і не баяцца тых, што злосна шыпяць, і сыкаюць, і раз’ятрана джаляць наша роднае Слова. Прыйдзе час, ён ужо не за гарамі, і апошні чорны гадзюк, што так ненавідзіць нашу мову, захлынецца ядам гэтае сваёй нянавісці, а Мова — дзіця вялікай і несмяротнай любові — будзе жыць і дужэць на радасць Маці-Беларусі і ўсім добрым людзям у свеце.

# КАМЕНТАР

## ПАЭЗІЯ

### ВЕРШЫ

Вершы, датаваныя гадамі 1947–1976, друкуюцца паводле выд.: Гілевіч Н. Збор твораў: у 6 т. Мінск: Мастацкая літаратура, 1996. Т. 1. За выняткам: верш «Самотны зяблік у тузе-журбе…» друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Выбраныя творы: у 2 т. Мінск, 1991. Т. 1; верш «Знаю: мне не вяртацца гэтым шляхам ніколі…» — паводле выд.: Гілевіч Н. Актавы. Мінск, 1976; верш «У чаканні крыгалому» — паводле выд.: Гілевіч Н. Паланэз Агінскага. Маладзечна, 2002.

Вершы, датаваныя гадамі 1977–1992, друкуюцца паводле выд.: Гілевіч Н. Збор твораў: у 6 т. Мінск: Мастацкая літаратура, 1996. Т. 2. За выняткам: вершы «Урок сучаснага танца», «Ой, Іван, ты, Іван» і «Водпаведзь “гнілому інтэлігенту”» друкуюцца паводле выд.: Гілевіч Н. Збор твораў: у 6 т. Мінск: Мастацкая літаратура, 2003. Т. 4.

Вершы, датаваныя гадамі 1992–1999, друкуюцца паводле выд.: Гілевіч Н. Збор твораў: у 6 т. Мінск, Мастацкая літаратура, 2001. Т. 3. За выняткам: вершы «Мы з табою — дэмакраты», «Ах, сонны кот» і «Чыннік прагрэсу» друкуюцца паводле выд.: Гілевіч Н. Збор твораў: у 6 т. Мінск: Мастацкая літаратура, 2003. Т. 4.

Сямірадкоўі «Людзі спяшаюцца жыць, гэта значыць…», «На мяжы, дзе буяе сівец», «Дзякую табе, што падарыла», «Страшэнныя чорныя хмары», «І жыхне, і жыхне маланка раз-пораз», «Вы заўважылі, напэўна: птушак пеўчых…» друкуюцца паводле газ. «Літаратура і мастацтва», 24 жніўня 2001 г. Верш «Мой гнеў прарос са слёз майго дзіцяці» ў ранейшых выданнях, у тым ліку ў т. 3 Збору твораў у 6 т., мае назву «Хвала харобрым».

Вершы «Умяшанне ў чужую размову» (1997), «Зусім прыватнае» (2000), «Можа стацца» (2000), «Вы, пэўна, лічыце» (2000), «Вось і яшчэ адно імя» (2000–2002), «Паэзію аспрэчыць немагчыма» (2001) друкуюцца паводле выд.: Гілевіч Н. Паланэз Агінскага. Маладзечна, 2002.

Вершы «Кліч да беларускай моладзі» (2001), «Пачуйце» (2002), «Як жа сталася» (2002), «А павінны, а мусім» (2002), «Дух Бацькаўшчыны» (2002–2003), «Балада пра Мікалая і Кацярыну» (2003), «Запозна, па-

нове» (2003), «Ведаў: будзеце зноў і хлусіць…» (2003–2004), «Сказ пра залатое пёрка» (2003–2004), «Балада пра Ваньку і Маньку» (2004), «Пытанне» (2004), «Госпадзе Божа…» (2004) друкуюцца паводле выд.: Гілевіч Н. Сказ пра залатое пёрка. Маладзечна, 2005.

Цыкл «Пяцірадкоўі» друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. На флейце самоты. Мінск, 2004.

Верш «І стала ім…» друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Бунт непрыкаянай музы. Санкт-Петербург: Невский проспект, 2007.

Вершы, датаваныя гадамі 2006–2008, друкуюцца паводле выд.: Гілевіч Н. У ноч на Пакровы. Мінск, 2008.

### ПАЭМЫ

*Заручыны (с. 225)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1979, № 1, с. 7.

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Збор твораў: у 23 т. Мінск, 2009. Т. 3.

*Лодачкі (с. 233)*

Упершыню — час. «Полымя», 1998, № 9.

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Збор твораў: у 23 т. Мінск, 2009. Т. 3.

### РАМАН У ВЕРШАХ

*Родныя дзеці (с. 255)*

Урыўкі друкаваліся: час. «Маладосць», 1981, № 9; «ЛіМ», 1981, 28 жн.; зб. «Дзень паэзіі – 82»; час. «Беларусь», 1983, № 11; час. «Вожык», 1984, № 2; «Маладосць», 1984, № 4; «Полымя», 1984, № 11; «Работніца і сялянка», 1984, № 10; «ЛіМ», 1984, 22 чэрв.; «Вожык», 1985, № 2; «Родная прырода», 1985, № 6. Цалкам упершыню ў кн. «Родныя дзеці». Мінск, 1985.

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Збор твораў: у 23 т. Мінск, 2009. Т. 3.

## ПРОЗА

### ПЕРАЖЫЎШЫ ВАЙНУ

*І доўга глядзела на сваю руку (с. 417)*

Друкуецца паводле час. «Дзеяслоў», 2008, № 4, дзе апублікавана ўпершыню.

Наступныя чатыры апавяданні ўпершыню — Гілевіч Н. Пераважыўшы вайну. Аповесць у абразках памяці. Мінск, 1988.

Друкуюцца паводле выд.: Гілевіч Н. Выбраныя творы: у 2 т. Мінск, 1991. Т. 2.

### ЭСЭ

*Долю каб бачыў у родным народзе... (с. 457)*

Друкуецца паводле выд.: Купала Я. Выбраныя творы. Мінск, 2002, дзе апублікавана ўпершыню.

*«Чым болей сходзіць дзён, начэй...» (с. 479)*

Упершыню — час. «Полымя», 1982, № 3, пад назвай «Слова пра Максіма Багдановіча».

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Выбраныя творы: у 2 т. Мінск, 1991. Т. 2.

*Слова пра Ясеніна (с. 489)*

Упершыню — газ. «Звязда», 13 кастр. 1985 г.

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Выбраныя творы: у 2 т. Мінск, 1991. Т. 2.

*Вялікі народны паэт (с. 496)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 21 чэрв. 1985 г.

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Выбраныя творы: у 2 т. Мінск, 1991. Т. 2.

*Сумленнасць і мужнасць волата (с. 501)*

Упершыню — Гілевіч Н. Годнасць, сумленнасць, мужнасць. Мінск, 1988.

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Выбраныя творы: у 2 т. Мінск, 1991. Т. 2.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

*Патрыятычнае выхаванне — наша найважнейшая задача (с. 509)*

Упершыню ў скароце — Гілевіч Н. У гэта веру. Мінск, 1978.

Друкуецца паводле рукапісу.

*Каб людзьмі між людзей пачувацца (с. 515)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1986, № 7.

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Годнасць, сумленнасць, мужнасць. Мінск, 1988.

*Але нашчадкі нам дзякуй не скажуць (с. 518)*

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Любоў прасветлая. Мінск, 1996.

*Патрэбна новае мысленне (с. 519)*

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Годнасць, сумленнасць, мужнасць. Мінск, 1988.

*Хто мае права ставіць крыж на нашым лёсе? (с. 522)*

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Любоў прасветлая. Мінск, 1996.

*Адчуем сябе гаспадарамі сваёй зямлі (с. 523)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 2 лют. 1990 г.
Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Выбар. Мінск, 1993.

*Як не спыніць узыходу сонца... (с. 529)*

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Любоў прасветлая. Мінск, 1996.

*«Каб не ўмёрлі...» (с. 532)*

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Выбар. Мінск, 1993.

*Пра назву, Сцяг і Герб нашай дзяржавы (с. 537)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 3 кастр. 1996 г., пад назвай «Каб жыць па-людску».
Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Выбар. Мінск, 1993.

*Новая сітуацыя катэгарычна патрабуе (с. 543)*

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Любоў прасветлая. Мінск, 1996.

*Калі Божы храм і народ загавораць адной мовай (с. 546)*

Упершыню — газ. «Наша слова», 21 кастр. 1992 г.
Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Любоў прасветлая. Мінск, 1996.

*З гэтым і прапануецца ўвайсці ў гісторыю... (с. 548)*

Упершыню — газ. «Во славу Родины», 4 лістап. 1992 г.
Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Любоў прасветлая. Мінск, 1996.

### *Удумліва і асцярожна: гэта ж — мова!.. (с. 552)*

Упершыню — газ. «Народная газета», 9 сн. 1992 г.
Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Любоў прасветлая. Мінск, 1996.

### *Ідэя справядлівая і несмяротная (с. 557)*

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Талісман. Мінск, 1994.

### *Пачатак вялікага пачатку (с. 560)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 10–16 ліп. 1993 г.
Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Любоў прасветлая. Мінск, 1996.

### *Курс на страту незалежнасці (с. 563)*

Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Талісман. Мінск, 1994.

### *Пра нашу чалавечую і нацыянальную годнасць (с. 564)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 13 мая 1994 г.
Друкуецца паводле выд.: Гілевіч Н. Талісман. Мінск, 1994.

### *З манкуртвам — у цывілізаваны свет? (с. 566)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 12 красавіка 1996 г.

### *На святло праўды, на подых свабоды (с. 572)*

Упершыню — газ. «Народная воля», 5 жн. 1997 г.

### *І яшчэ раз аб нашай мове (с. 575)*

Упершыню — газ. «Народная воля», 31 кастр. 1998 г.

### *Кожны народ пачынаў з гэтага (с. 578)*

Упершыню — газ. «Народная воля», 13 мая 2000 г.

### *А мова — будзе жыць і дужэць (с. 579)*

Упершыню — газ. «Наша слова», 15 сак. 2000 г.

